# Летапіс
# беларускай шляхты

*Святую веру продкаў,*
*свой род,*
*культуру і Айчыну*
*шануй і беражы*

А. Статкевіч-Чабаганаў

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў

# Я – сын Ваш

Мінск
«Роднае слова»

УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)
С78

*Серыя заснавана ў 2011 годзе*
Заснавальнік серыі *А. В. Статкевіч-Чабаганаў*

Рэцэнзент
доктар гістарычных навук *Г. Я. Галенчанка*

Аўтар выказвае падзяку за практычную дапамогу ў падрыхтоўцы выдання дырэктару Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі *А. К. Галубовіч*, супрацоўнікам архіва – *Н. А. Барсуковай, Г. М. Брэгеру, Д. В. Лісейчыкаву, С. А. Рыбчонку*, а таксама *У. Вяроўкіну-Шалюце, А. І. Дзярновічу, А. С. Заліваку, І. В. Сурмачэўскаму, Ф. В. Чарняўскаму, А. А. Шумкову* (Санкт-Пецярбург).

**Статкевіч-Чабаганаў, А. В.**
С78 Я – сын Ваш : Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша». Карафа-Корбуты герба «Корчак» / Анатоль Статкевіч-Чабаганаў. – Мінск : Роднае слова, 2011. – 592 с. : іл. – (Летапіс беларускай шляхты).
ISBN 978-985-90254-1-9

Выданне серыі «Летапіс беларускай шляхты» (знак серыі – «Страла выратавання») прысвечаны гісторыі беларускіх родаў ад найстаражытнейшых часоў да нашых дзён. Кнігі змяшчаюць кароткае апісанне і радаводныя роспісы, а таксама цікавыя факты і займальныя сюжэты з жыцця прадстаўнікоў беларускай шляхты, копіі гістарычных дакументаў і фотаздымкаў. У радаводных роспісах першы лік абазначае парадкавы нумар прадстаўніка роду, другі – ад якога продка ён паходзіць. Такая форма дае магчымасць лёгка ўбачыць і прасачыць роднасныя сувязі і ступень роднасці. Чырвоным колерам вылучаны імёны прамых продкаў і нашчадкаў аўтара.

Першая кніга «Я – сын Ваш: Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба "Касцеша". Карафа-Корбуты герба "Корчак"» змяшчае апісанне і радаводныя роспісы прамых продкаў і родзічаў аўтара. У наступных выданнях будуць даследаваны роды: Рудзінскія, Тычыны, Забэлы, Татуры, Ждановічы-Гурыновічы, Сыцько, Кернажыцкія, Маствіловічы, Сеўрукі, Некрашэвічы, Ліпскія, Кавецкія, Бербашы (Юхновічы-Бербашы, Юхновічы), Глінскія, Глінскія-Ліхадзіеўскія (Ліхадзіеўскія), Астрэйкі, Геталты (Мішкавічы, Каленікавічы), Рэуты, Макавецкія, Францкевічы-Радзімінскія, Ушынскія, Корзуны, Галінскія, Карыбуты-Дашкевічы, Іваноўскія, Пількевічы, Смольскія, Забродскія, Крукоўскія, Слонскія, Жаўрыды, Касынскія, Врочынскія, Бучынскія, Тарасевічы, Казановічы, Астроўскія, Скарыны і інш.

Кніга выдаецца на рускай і беларускай мовах і будзе цікавая не толькі вучоным-гісторыкам, архівістам, архіварыусам, але і шырокаму колу чытачоў.

Сайт аўтара: www.yasynvash.by.

**УДК 94(476)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-90254-1-9**

Па благаславенні Высокапраасвяшчэннейшага
Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага,
Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі
ФІЛАРЭТА

Белорусская Православная Церковь
Митрополит Минский и Слуцкий,
Патриарший Экзарх всея Беларуси

Беларуская Праваслаўная Царква
Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,
Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі

*«...ибо, где сокровище ваше, там будет и сердце ваше» (Мф. 6, 21)*

В Белорусской Православной Церкви знают Анатолия Васильевича Стецкевича-Чебоганова как одного из бескорыстных жертвователей, принимающих посильное участие в восстановлении храмов и монастырей, порушенных в периоды лихолетий. Его тщанием был сооружен скульптурный образ святой праведной Софии, княгини Слуцкой в городе Слуцке.

Обычно на вопрос, почему личные время и средства он направляет на эти цели, Анатолий Васильевич скромно, но с достоинством отвечает: «Я думаю, это от моих предков». И это не дежурный ответ, ибо его деятельность имеет еще одно благочестивое направление, которое заключается в собирании сведений о своих близких и далеких предках, в построении родового древа как по отцовской, так и по материнской линиям.

Любовь к предкам изначально свойственна всем людям, но не каждый умеет различить ее в суете взрослого сердца, когда жизнь погружает его в свои стремнины и водовороты. Но она оживает, когда пробуждается в душе желание окинуть мысленным

взором историю своего рода, составить его летописание. Она оживает, когда приходит помысел тихой молитвы о бабушке и дедушке и о всех сродниках наших, как ныне живущих, так и отошедших в Вечность. Иногда эти воспоминания теплы и величественны, иногда горьки и печальны, но они всегда нам дороги. Мы ответственны не только за себя и за свое ближайшее потомство. Ответственность наша должна простираться и в глубину всего рода, дабы научаться у предков подвигу любви и веры и своими поступками не посрамить их честь; дабы нашим активным деланием исправлять имевшую иногда место бездеятельность наших прародителей, а порою – и их отступничество от праотеческой веры, от вековых обычаев и наставлений.

У Бога нет мертвых: у Него все живы! А значит, мы все – одна семья, одна земля, один народ, одна вера, один крестный жизненный путь по образу Христа Спасителя. И воскресение наше будет всеобщим. Оно уже началось, если в сердце человека луч Божественной любви не заглушается стихиями мира сего, но становится негасимым пламенем.

Мы приветствуем благочестивые намерения, воплотить которые взял на себя труд Анатолий Васильевич в данном исследовании, и надеемся, что о научных достоинствах проделанного им труда, а также о фактологической его точности сделают свои благожелательные и объективные отзывы и суждения представители научного сообщества – специалисты в этой области.

Желаю автору помощи Божией на избранном им, по зову его благочестивых предков, поприще.

С благословением

Митрополит Минский и Слуцкий,
Патриарший Экзарх всея Беларуси

30.03.2011 г.

# З ПАКЛОНАМ ДА ПРОДКАЎ І ВЕРАЙ У НАШЧАДКАЎ

*Радня. Род. Родны. Радзіма...*
*З аднаго кораня гэтае цудоўнае багацце.*
*З адной прыроднай крыніцы.*
*З Божага блаславення – нараджаць, прадаўжаць род.*

Хто дзе нарадзіўся, там і згадзіўся. Трэба толькі зразумець і ўсвядоміць, што кожны Чалавек – гэта кніга, асобная планета. І вельмі шкада, што большасць чалавечых лёсаў так і застаюцца для нас глыбокай тайнай, што многія планеты людзей, пагасцяваўшы на зямлі, адлятаюць у Царства Нябеснае неразгаданымі, неадкрытымі...

Пра ўсё гэта я разважаў, калі пачаў, хутчэй, асмеліўся, пісаць кнігу «Я. Праўдзівы аповяд пра твой і мой радавод». Гадамі збіраў па макавым зярнятку звесткі пра носьбітаў прозвішча Ліпскіх не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Пасля выхаду кнігі ў свет у грамадстве ўзмацнілася цікавасць да вывучэння свайго мінулага, сваіх каранёў. Аднойчы да мяне зайшоў аўтар выдання, якое вы трымаеце ў руках, – Анатоль Васільевіч Статкевіч-Чабаганаў. Пошукі сваіх вытокаў даўно і глыбока хвалявалі яго. За дваццаць гадоў бесперапыннай карпатлівай працы было напісана шматтомнае найкаштоўнейшае даследаванне – летапіс беларускай шляхты, а мая кніга «Я» канчаткова пераканала аўтара ў думцы пра неабходнасць найхутчэйшага апублікавання матэрыялу.

Усхвалявала мяне і нечаканае адкрыццё Анатоля Статкевіча-Чабаганава: мы з ім радня! У сёмым калене ў нас быў агульны прадзед Іван Ліпскі. З жонкай Анастасіяй Насканавай у XVIII ст. ён меў сыноў Івана (Яна) і Іосіфа. Ад Івана Ліпскага пайшоў мой род, а ад дачкі Іосіфа Ліпскага Кацярыны – род Анатоля Васільевіча Статкевіча-Чабаганава. Вось як бывае ў жыцці!

І зараз я, родзіч аўтара кнігі «Я – сын Ваш», з душэўным клопатам прашу вас, чытачоў, не прапусціць гэтага ўнікальнага даследавання. У ім – захапляльныя сюжэты, рэдкія гістарычныя факты, цікавыя старажытныя дакументы, гербы, фотаздымкі. Усё гэта, веру, можа натхніць і вас на пошукі продкаў у туманнай глыбіні стагоддзяў, у пажаўцелых архіўных паперах, у бясцэнных аповедах вашых родзічаў. Толькі, сябры мае, не расчароўвайцеся на першых кроках. Варта пачаць дзьмуць на попел згарэлага дрэва, і з-пад яго адкрыецца гарачае, зыркае вуголле, якое распаліць жаданы касцёр гістарычнай памяці.

Старонкі кнігі Анатоля Статкевіча-Чабаганава прымушаюць задумацца пра сябе, сваю сям'ю, свой радавод. Яны клічуць выправіцца ў таямнічую вандроўку. Так будзе, спадзяюся, з многімі чытачамі гэтай працы. А пакуль давайце парадуемся, што сярод нас знайшоўся такі неабыякавы чалавек, прадстаўнік старажытнага шляхецкага роду, фундатар, а ў душы – пісьменнік і даследчык, які, зберагаючы і вывучаючы мінулае, дапамагае нам лепш разумець сучаснае і дбаць пра будучыню.

Аўтар даследаваў радаводы сваіх прамых продкаў: Сацкевічаў-Статкевічаў, Карафа-Корбутаў, Тычынаў, Ждановічаў-Гурыновічаў, Некрашэвічаў, Глінскіх-Ліхадзіеўскіх, Рэутаў, Забэлаў, Татураў, Ліпскіх – і ўстанавіў родныя сувязі з дзясяткам шляхецкіх родаў. Гэтая тытанічная праца стала сапраўдным духоўным подзвігам Анатоля Васільевіча, якому ўдалося вывучыць старажытныя матэрыялы архіваў Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Украіны.

Перад вамі, шаноўныя чытачы, фундаментальнае выданне, у якім змешчаны дакументы і факты за пяць апошніх стагоддзяў. Ужо толькі гэта вымушае нас з павагай і пачуццём чаканых адкрыццяў узяць у рукі найцікавейшую кнігу. Хай жа яе старонкі натхняць і вас з вялікай сілай сыноўняй любові паставіцца да продкаў, стануць магутным стымулам у вывучэнні гісторыі сваіх радаводаў.

А пакуль што, сябры, запомніце новае імя ў беларускай культуры – Анатоля Статкевіча-Чабаганава – і не прапусціце яго шматтомнае даследаванне – летапіс беларускай шляхты «Я – сын Ваш».

**Уладзімір Ліпскі,**
пісьменнік,
лаўрэат Дзяржаўнай літаратурнай
прэміі Беларусі.

Мікола Мятліцкі

## РАДАВОД

*А. В. Статкевічу-Чабаганаву*

Мой край, у сечах зруйнаваны,
Адну святую са шчадрот,
Хавае скарб свой нечуваны –
Наш беларускі радавод.

Ляжаць у марыве стагоддзяў
Жыцця збуцвелыя глыжы.
З тугою спадчыннік знаходзіць
Забытых прадзедаў крыжы.

Капае дол магільны сцёрты.
Святых імён іканастас.
І подых роднасці – не мёртвы,
І не глухі на памяць час.

На славу бацькаваму краю
Нястомна, рупна, з году ў год,
Паўсюд па зернейку збірае
Свой скарб – уласны радавод.

Душа не ўчуе чэзлай стомы,
Бо скарб не мае той цаны.
Нашчадкам скажа годна, хто мы,
Пергамент скутай даўніны.

Адтуль, дзе досвітак славянаў,
Дзе гул эпох, як гул грымот,
Вядзе Статкевіч-Чабаганаў
Маёй Айчыны радавод.

***Рака мая, радавод мой!***
***Вы не канулі ў Лету!***
***Лёсу было неабходна, каб я стаў летапісцам вашым.***
***І няма высакародней працы,***
***Бо я – часцінка ваша, ваш прыток.***
***Я – сын Ваш.***

Пачну з таго, што бясспрэчнае, што вядомае, што яшчэ свежае ў памяці і чаму сам быў сведкам. Спачатку пра тых, хто натхніў мяне на пошук, хто прывёў да паўнаводнай ракі майго радаводу.

Столькі гадоў прайшло, але той дзень не забываецца... Ён стаў для мяне знакавым і даў штуршок да пошуку, якім займаюся і да гэтага часу.

У дзяцінстве я жыў у бабулі ў вёсцы Засмужжа, на Любаншчыне. Да 1893 г. маёнтак Засмужжа належаў князям Вітгенштэйнам, а пасля перайшоў у карыстанне да майго прадзеда Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча і да маіх найбліжэйшых родзічаў – Карафа-Корбутаў, Рудзінскіх, Тычынаў і інш. Але пра гэта я даведаўся значна пазней.

Дзяцінства было бесклапотным, як і ў многіх іншых дзяцей. Мама працавала ў райцэнтры, таму да дзесяці гадоў мяне выхоўвала бабуля Марыя Аляксандраўна, была яна з роду Карафа-Корбутаў.

Як цяпер памятаю: пачатак восені, 1952 год. На двары холадна, мокра, а ў нашай хаце светла і святочна: вярнуліся з арміі мае

дзядзькі – Віктар і Мікалай. У час вайны яны падлеткамі пайшлі ў партызаны. Пасля роўна па сем гадоў праслужылі ў Савецкай Арміі. Вярнуліся пасталелыя, узмужнелыя. Да вялікіх чыноў не даслужыліся, але кожны меў на пагонах лычкі.

Асабліва вылучаўся Віктар. Ён і росту высокага, і з твару прыгожы – цемнавалосы, смуглы. Магчыма, паўплывалі італьянскія гены роду Карафа-Корбутаў. Нездарма на майго дзядзьку заглядаліся дзяўчаты. А ў Мікалая была іншая пастава, прыгожыя блакітныя вочы...



Мікалай Міхайлавіч Статкевіч (Сацкевіч-Статкевіч) у час службы ў Савецкай Арміі. Ленінакан, Арменія. 1950 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 635/483).

Пад вечар салдаты селі за стол. Як і належыць, выпілі па чарцы. Пачаліся цікавыя размовы, гарачыя спрэчкі. Я ляжаў на печы (падлеткаў у нас не запрашалі за стол) і ўважліва слухаў, пра што гавораць дарослыя. Многае з размовы было не зразумела, але некаторыя рэчы я ўсвядоміў і запомніў на ўсё жыццё. Мяне хвалявала тое, што дзядзькі, будучы яшчэ малымі, пабывалі дзесьці ў далёкай ссылцы, была з імі і мая шасцігадовая на той час мама. Здарылася гэта ў 30-я гг. XX ст. Мікалай і Віктар гаварылі, як было цяжка, колькі ім давялося перажыць. Не паспела адна бяда скончыцца – грымнула вайна. Яны шмат разоў і потым вярталіся да гэтай тэмы. Мінулае моцна трывожыла іх душы. У той вечар зайшла размова і пра калгасы. Вось тут і загарачыўся дзядзька Віктар. Ён быў старэйшы, і яго меркаванне было важкае.

– Няхай хоць на вяроўцы цягнуць, а я ў гэты калгас не пайду! – ужо не гаварыў, а крычаў ён. – Гэта была наша зямля, і мы павінны цяпер працаваць на ёй на ўладу, якая паставіла да сценкі маіх родзічаў? Ды я ніколі не стану там працаваць.

Ён так і не пайшоў у калгас, вучыўся ў тэхнікуме, а затым працаваў старшынёй сельскага спажывецкага таварыства. Дзядзька Мі-



Віктар Міхайлавіч Статкевіч (Сацкевіч-Статкевіч). 29.09.1950 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 634/483).

Баявыя ўзнагароды 15-гадовага партызана Віктара Статкевіча



Медаль «За Перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 гг.».



Медаль «Партызану Айчыннай вайны» II ступені.

калай усё-такі стаў хлебаробам, працаваў шафёрам, трактарыстам.

Тая іх размова глыбока запала мне ў душу. Дзядзькі далі мне першы ў жыцці ўрок крытычнага погляду на рэчы і падзеі тых гадоў. Запомнілася і ўрэзалася ў памяць, што род наш быў калісьці знатны, меў свае землі, што сям'я перажыла жудасную трагедыю. І хоць гэта былі невялічкія звесткі, але яны ўзрушылі мяне. Я вырашыў даведацца пра ўсё.

Прайшлі гады. Стаў студэнтам аднаго з ленінградскіх інстытутаў. Пасля «хрушчоўскай адлігі» студэнцкая моладзь была сур'ёзна занепакоена новымі ганеннямі на культуру. У той час выйшла аповесць Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», якая многім адкрыла вочы на нядаўняе мінулае. Для мяне гэта стала




Вёска Забалаць Любанскага раёна. Помнік на магіле Аляксандра Платонавіча Карафа-Корбута (гл. «Карафа-Корбуты I» 179/94).




Вёска Забалаць Любанскага раёна. Помнік на магіле Марыі Феафілаўны (Неафітаўны) Карафа-Корбут (Рудзінскай) (гл. «Рудзінскія» 73/40).

штуршком, своеасаблівым наказам дазнацца праўду. Але які ж быў доўгі шлях да яе! І сёння гэтая дарога вядзе мяне ў глыб стагоддзяў.

У дзяцінстве я часта распытваў сваю бабулю Марыю Аляксандраўну пра мінулае. І з адной гутаркі даведаўся, што яна вянчалася ў вёсцы Забалаць, недалёка ад Засмужжа, царква ў якой стаяла на высокім прыгожым месцы. Побач – могілкі, дзе пахаваны бабуліны бацькі. Яна расказвала, што іх забіла маланкаю, таму давялося расці сіратою пры браце Георгію, якога дома звалі Ягорам. Сям'я яго пасля раскулачвання засталася ў Комі-Пярмяцкай акрузе.

Што да помнікаў на магілах родных, пра якія згадвала бабуля, то яны ў Забалаці ёсць, але пасля вайны мае родзічы іх не маглі знайсці, бо царкву ў час жорсткіх ганенняў на




Вёска Кутнева Слуцкага раёна. Помнік на магіле Платона Самуілавіча Карафа-Корбута (гл. «Карафа-Корбуты I» 94/50).




Вёска Кутнева Слуцкага раёна. Помнік на магіле Аляксандры Якаўлеўны Карафа-Корбут (Тычыны) (гл. «Тычыны» 124/81).

веру разбурылі. Затым пранеслася ваеннае ліхалецце. Мясцовую школу спалілі немцы, а пасля вайны на будаўніцтва новай жыхары пачалі збіраць камяні, што засталіся ад царквы. Разам з імі звезлі і некаторыя помнікі.

Гаварыла бабуля і пра помнікі дзядам у Кутневе, што пад Слуцкам.

І вось пасля стольkіх гадоў, рупліва вывучаючы гісторыю свайго роду, я вырашыў заняцца таксама вывучэннем могільнікаў – своеасаблівага летапісу ў выглядзе камянёў. Я пераканаўся ў гэтым, калі даследаваў могілкі, дзе пахаваныя мае родзічы.

Выбраўшыся аднойчы ў Забалаць разам з братамі Віктарам і Іванам, сястрой Інай, пляменнікам Васілём і ўзяўшы з сабою рознае начынне ад лапатак да вёдраў з анучкамі, мы паехалі на мясцовыя могілкі. Тым больш што даўно хваля-

вала тая сямейная гісторыя пра забітых маланкаю сваякоў.

Стаяў цудоўны сонечны дзень. Мы паднялі шмат помнікаў, папраўілі, адчысцілі іх. А надмагільных камянёў сваіх продкаў ніяк не маглі знайсці. Увесь пагост пераглядзелі тры разы.

Працавалі ўвесь дзень. І вось калі ўжо сабраліся сыходзіць, мне чамусьці стала вельмі сумна. Я сказаў сваім:

– Пачакайце, я яшчэ прайду на той схіл, нешта мяне туды цягне.

А з галавы не выходзілі радкі Марыны Цвятаевай пра суніцы, якія растуць на могілках: «Я тоже была, прохожий, прохожий, остановись!» І вось я іду і спыняюся якраз у тым месцы, дзе трэба было спыніцца. Бачу верх двух помнікаў, якія відаць з зямлі сантыметраў на пятнаццаць. Крычу брату:

– Давай тут будзем капаць!

Адкопваем першы. Бачым доўгае імя. Пачалі адчышчаць металічнымі шчоткамі: *Александръ.*




Вёска Кутнева Слуцкага раёна.
Помнік на магіле Самуіла Якаўлевіча Карафа-Корбута (гл. «Карафа-Корбуты І» 50/32).

– Усё! – кажу. – Будзе Платонаў.

Сапраўды: *Александръ Платоновъ* (раней не пісалі *Платонавіч*) *Корбутъ*. Памёр у 1904 годзе. Пачынаем адкопваць другі помнік. І бачым: *Марья Феофиловна Корбутъ*. Дата смерці – 1900 год. Гісторыя, што бацькоў бабулі забіла маланкаю, не пацвердзілася. Магчыма, такое сталася толькі з Марыяй Феафілаўнай (у метрычнай кнізе – *Марыя Неафітаўна*).

Поспех гэты мяне акрыліў, пачаліся новыя пошукі. Аднак надмагільнага каменя Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча так і не адшукалі. Магчыма, сапраўды помнік майму прадзеду забралі для будаўніцтва школы.

Праз некаторы час я вырашыў з'ездзіць на могільнік у вёсцы Кутнева, дзе жылі мае прапрадзеды. Паехалі з бра-

там. Надвор'е было добрае, але раптам, як толькі мінавалі Валяр'яны, пайшоў нудны халодны дождж. Вырашылі не адступаць, хоць і лёгка апрануты. Прыехалі ў Кутнева, адшукалі занядбаныя могілкі. Абышлі ўсё, але помнікаў, пра якія расказвала бабуля, не знайшлі. Брат Віктар прапанаваў ад'язджаць, але я вырашыў яшчэ раз паглядзець. Нейкае пачуццё прывяло мяне да двух амаль нябачных помнікаў, якія раней мы не заўважылі.

Адкапаўшы і адчысціўшы помнік ад зямлі, убачылі надпіс: *Александра Якова Корбутова.* Без прыстаўкі Карафа. Адкапалі другі помнік. Чытаем на ім: *Платонъ Самуиловъ Корбутъ.* Што здзівіла, памерлі яны ў адзін і той жа год – 1884. Нечакана мільганула думка: магчыма, пра іх існавала сямейная легенда і гэта яны загінулі ад маланкі? Але калі раскапалі далей, убачылі розныя даты смерці: 25 сакавіка і 7 красавіка. Пасля, працуючы ў архівах, мне ўдалося знайсці царкоўныя кнігі, з якіх даведаўся, што родзічы памерлі ад лёгачных захворванняў.

У той дзень была яшчэ адна знаходка. Гляджу – за помнікам Платону Самуілавічу ляжыць вялікі камень. Перавярнулі, адчысцілі, чытаем: *Самусъ Корбутъ*. Пахаваны ў 1860 годзе. Прадзед маёй бабулі Марыі Аляксандраўны.

...Якія ж праўдзівыя словы некалі сказаў Аляксандр Сяргеевіч Пушкін:

*Два чувства дивно близки нам –*
*В них обретает сердце пищу –*
*Любовь к родному пепелищу,*
*Любовь к отеческим гробам.*

Падумалася: каб жа камяні маглі гаварыць! А яны могуць распавядаць пра многае. Трэба толькі паслухаць, пагаварыць з імі, як з жывымі...

***Мая мама Аляксандра Міхайлаўна паходзіць са старажытнага беларускага шляхецкага роду Сацкевічаў-Статкевічаў.***

*Два сердца ся споили, меч их розрывает,*
*Моц старожитных домов през то осведчает,*
*Которым варварскіи гуфы не зровнали.*
*Пойзри на гелм, обачиш як ся потыкали*
*Котвицы – теж веры статечной знаком,*
*Як кгды окрут на ветры умоцнен троигаком,*
*А крест – церкви похвала, крест – верным оброна,*
*И тот есть Стеткевичов клейнот и корона.*
*Прето ж их слава в небо, як стрела, взносити*
*И на веки ся будет в людех голосити*.*

* Антология древней белорусской литературы. – Минск: Белорусская наука, 2005. – С. 691.



Герб «Касцеша» роду Статкевічаў.

Гэтыя вершаваныя радкі належаць вядомаму кнігавыдаўцу, аўтару папулярнага ў XVII ст. буквара Спірыдону Собалю. Складаў ён вершы, калі была нагода, падзея, знакавая дата. І, канечне ж, невыпадкова стварыў оду «На герб их милостей панов Стеткевичов». Напісаны гэты верш на старабеларускай мове, а сэнс яго такі: герб гаворыць пра старажытнасць роду, які не знішчылі варожыя сілы, які непахісны ў веры, як карабель, супраць ветру ўзмоцнены якарам, а слава Статкевічаў, быццам страла, узнеслася ў неба, і будзе яна вечна жыць у памяці людзей...

Назва герба «Касцеша», паводле легенды, звязана з гісторыяй пра рыцара Касцешу. Гэты бясстрашны воін, мужнасць якога адзначыў сам кароль Баляслаў I Храбры, прымаў удзел у бітве пад Сноўскам у 1072 г. Рыцар змагаўся ў глыбіні варожага стану, не зважаючы на зламаны меч, шматлікія крывавыя раны на целе, рас-



шчэпленую на дзве часткі стралу, што засела ў плячы. Калі закончылася бітва і войска пачало збіраць здабычу, тады і з'явіўся перад каралём Касцеша. Ён стомлена зняў змяты і парыжэлы ад крыві баявы шлем і, паказваючы на сваё зраненае цела, сказаў: «Гэта і ёсць уся мая здабыча!»

На памяць пра такую адвагу кароль дазволіў рыцару змясціць у свой герб перакрыжаваныя стралу і меч. На чырвоным фоне – выява раздвоенай стралы, скіраваная ўгору; у кляйнодзе – над прылбіцай – шляхецкая карона з трыма страусавымі пёрамі. Пазней гэты знак пачалі называць «Страла выратавання».

Трэба адзначыць, што герб «Касцеша» быў вельмі папулярны і ў XIX ст. Яго мела нават адна з яхтаў расійскіх імператараў.

Як сведчаць архіўныя дакументы, «фамилия Стецкевич, употребляющая сей герб, была знатной с древних времен польских и удостоена шляхетского звания и привилегиями тому положению присвоенными продолжает пользоваться до нынешнего времени».

Пацвярджае гэта і сучасная энцыклапедыя гісторыі Беларусі: «Статкевічы, Сцяцкевічы... Шляхецкі род у Вялікім Княстве Літоўскім. Родапачынальнік – Сцецка Пятровіч, гаспадарскі дваранін, войт магілёўскі і слуцкі ў XV ст. Меў сына Ждана, які валодаў Любанічамі, Чаркасавам і Расасною, унукаў Хаму, Яўмена і Андрэя, ротмістра і двараніна вялікага князя ВКЛ Казіміра».

Сын Андрэя Жданавіча – Іван Андрэевіч, падскарбі ВКЛ, быў жанаты з Марыяй Сачкоўнай. Гэта вынікае з пацвярджэння ад 1 студзеня 1588 г. на сяло Рагозінскае ў Аршанскім павеце яе сыну Багдану Статкевічу каралём польскім Жыгімонтам II Аўгустам («...то сельцо... матъце его Марьи Сачковне...

Радаводнае дрэва Сацкевічаў-Статкевічаў. 1835 г.
*НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091.*

записал... на вечность подтвердил»). Гэты маёнтак дастаўся Марыі ад першага мужа Івашкі Чаркаса, а яму, у сваю чаргу, перайшоў ад Сцяпана Рагозы, які збег у Маскву.

Магчыма, Марыя Сачкевіч з нашага роду Сачкевічаў.

Ад Багдана, сына Івана Статкевіча і Марыі Сачкоўны, бярэ пачатак знакаміты род Статкевічаў-Заверскіх. Адзначым найбольш вядомых гістарычных асоб гэтага роду.

Багдан-Мікалай Статкевіч-Заверскі (1510–1586), падчашы ВКЛ, маршалак браслаўскі, маршалак надворны па прывілеі караля польскага Жыгімонта II Аўгуста ад 19 чэрвеня 1572 г. Валодаў многімі маёнткамі, у тым ліку маёнткам Заверцы Браслаўскага павета, ад назвы якога бярэ пачатак геаграфічны прыдомак да іх прозвішча. Жонка – княжна Горская.

Багдан Статкевіч-Заверскі, сын Вільгельма. *Гравюра XIX ст.*




Унук Багдана-Мікалая Багдан, дзяржавец паланіцкі, кашталян навагрудскі, актыўна выступаў у абарону праваслаўя. Разам з жонкай княгіняй Аленай Багданаўнай Саламярэцкай заснаваў манастыры: Баркулабаўскі Узнясенскі жаночы, Буйніцкі Свята-Духавы, Куцеінскі Богаяўленскі, Куцеінскі Успенскі, фінансаваў дзейнасць Куцеінскай друкарні. Багдан валодаў таксама ў сярэдзіне XVII ст. маёнткам Сёмкава і тут пабудаваў драўляны палац. Захавалася нават яго апісанне 1646 г. Гэта быў вялікі прамавугольны будынак з размешчанай у цэнтры высокай двухпавярховай вежай пад шатровым дахам, якая служыла галоўным абарончым збудаваннем. У далейшым Багдан Статкевіч прадаў сваю сядзібу Сёмкава князю Сапегу.

Але вернемся да нашай радаводнай галіны.

У XV ст. у Навагрудскім ваяводстве Сачко, маршалак гаспадарскі, валодаў

маёнткам Сачкевічы на Ліпах. У Сачко было два сыны – Мікіта, ад якога бярэ пачатак наш род, і Багдан – родапачынальнік Сачкевічаў-Ліпніцкіх.

Пра заможнасць Сачкевічаў сведчаць звесткі з перапісу войска Вялікага Княства Літоўскага ад 1528 г., па якіх нашы родзічы ў ліку іншых баяр ад замка гаспадарскага Навагрудскага ставілі ў войска восем коней.

Мікіта Сачкевіч меў сем сыноў, аднаго з якіх звалі Сцецка. У Сцецкі былі дочкі – Ганна, якая выйшла замуж за Канстанціна Заліваку, і Міласлава, якая стала жонкаю Фёдара Гарабурды, пісара каралевы Боны. Адзін з іх сыноў, Міхаіл Гарабурда, быў знакамітым дыпламатам XVI ст. Акрамя дачок у Сцецкі было чацвёра сыноў – Федка, Лявон, Сапоцька і малодшы Іван. З Івана наша родавая галіна стала называцца Сацкевічы-Статкевічы. Відавочна, што ад імя яго бацькі Сцецкі бярэ пачатак прозвішча Статкевіч, а ад назвы вотчыннага маёнтка Сачкевічы на Ліпах далучыўся да прозвішча прыдомак *Сачкевіч*, які ў далейшым пачалі пісаць *Сацкевіч*.

Дарэчы, гэты маёнтак з паэтычнай назвай таксама перайшоў Івану ў спадчыну ад бацькі. Здаецца, так і бачыш гэтыя высокія ліпы ў пару цвіцення, чуеш гул пчол і ўдыхаеш паветра, напоўненае непаўторным пахам мёду...

Як адзначана ў кантракце паміж Іванам Сцецкавічам Сачкевічам і Мікалаем Радзівілам Чорным, нашы землі «ўпіраліся ў сцены палаца Нясвіжскага». Суседзі вырашылі ўпарадкаваць свае «грунты». Перамовы вяліся доўга і складана. Яно і зразумела: нашы продкі заўсёды цяжка развітваліся з родавымі гнёздамі, якія былі такія дарагія душы і сэрцу. І давялося Радзівілу аддаць узамен два маёнткі, а ў дадатак і вялікую суму грошай. Але давайце звернемся да кантракта-прывілея, да якога «прывешана пячатка

Кубак з сервіза яхты «Страла выратавання». Імператарскі фарфоравы завод. Санкт-Пецярбург. XIX ст. *З калекцыі А. Статкевіча-Чабаганава.*





Wypis z Xiąg Ziemskich Powiatowych Słuckich

Roku Tysiąc Ośmset Jedenastego Miesiąca Julii Dwudziestego Siódmego Dnia

Выпіс з актавай кнігі Слуцкага земскага суда ад 27.07.1811 г. пастановы Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу аб прызнанні ў дваранстве роду Статкевічаў ад 21.06.1802 г. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091.*



Мікалай Радзівіл Чорны.
*Гравюра з альбома «Выявы роду князёў Радзівілаўскіх». Нясвіж. 1758 г.*

[віслая] Вялікага Княства Літоўскага і подпіс рукі найяснейшага караля Яго Міласці Жыгімонта Аўгуста». Як відаць з дакумента, сам «Жыгімонт Аўгуст, Божаю міласцю кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, прускі, жамойцкі, мазавецкі, інфлянцкі» блаславіў здзелку і зацвердзіў яе 22 кастрычніка 1562 г. А паведаміў каралю пра абмен маёнткамі асабіста «ваявода віленскі, маршалак земскі, канцлер наш Вялікага Княства Літоўскага, староста берасцейскі і ковенскі, дзяржаўца шавельскі, пан Мікалай Радзівіл, што Яго Міласць уладкаваў замену вячыстую з зямянінам нашага ваяводства Новагародскага панам Янам Сцецкавічам Сачкевічам, ад якога выменяў Яго Міласць да палаца свайго Нясвіжскага маёнтак яго і душное, усё, што ён меў на Сачкевічах Ліпах побач з Нясвіжам, а Яго Міласці ў адмену даў і на вечныя часы саступіў сёлы свае нясвіжскія Валожычы і Юраўшчызну ў Куковічах ва ўсім, яко ж тыя сёлы ў сабе маюць з людзьмі, і землямі, і дрэвам бортным, з сенажацямі, рэчкамі, і з ловамі звярынымі, і птушынымі, і рысінымі, і баб-



Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт ІІ Аўгуст.



Пячатка Жыгімонта ІІ Аўгуста.

ровымі гонамі... і яшчэ да таго прыдаў Яго Міласць сумаю пенязямі трыста восемдзясят коп грошай... і па жаданні нашым пячаткі свае да сяго нашага ліста прылажыці загадалі.

*Пан Скумін Львовіч Тышкевіч, маршалак яго каралеўскай міласці, дзяржаўца чарнобыльскі; князь Іван Крошынскі, дзяржаўца упіцкі; князь Багдан Цімафеевіч Пузына.*

Пісан у Вільні. Года ад нараджэння Сына Божага 1562 месяца кастрычніка 9 дня».

З таго часу ўладальнікам маёнткаў Валожыцы і Куковічы стаў Іван Сцецкавіч Сачкевіч. У далейшым гэтыя маёнткі былі падзелены паміж яго сынамі. Чытаем архіўны дакумент: «Я, Ян Іванавіч Статкевіч, зацвярджаю сім маім лістом, каму пра гэта ведаць патрэбна... што каторыя маёнткі пасля смерці бацькі нашага, нябожчыка пана Івана Статкевіча, гэта значыць Валожыцы і Куковічы ў павеце Новагародскім, адпісаныя на нас чатырох братоў, засталіся, і мы, жадаючы раздзел вячысты паміж сабою, застанавілі і раздзялілі есма тыя маёнткі на чатыры часткі адпаведна праву спадчыннага раздзелу». Дарэчы, чатырох згаданых у дакуменце братоў звалі Валенцій, Ян (Іван), Якаў і Аляксандр, і ад першага з іх прадоўжыўся мой род.

Зазначу, што Статкевічы заўсёды падтрымлівалі як родзічаў, так і сяброў. Калі трэба, не шкадавалі грошай. Але калі тварылася зло, то дзейнічалі строга па законе. Красамоўна сведчыць



Пячатка Івана Статкевіча Сачкевіча. 1562 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 21/15). *Дзяржаўны архіў старажытных актаў, Варшава (AGAD), AR, dz. XV, teka 14, plik 3, s. 37–38 (арыгінал).*





Пячатка і подпіс Валенція Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. 1587 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 30/21).





Пячатка і подпіс Яна Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. 1587 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 29/21).

пра гэта справа, або, як напісана, «судовы вырак па скарзе зямяніна Новагародскага павета пана Яна Сацкевіча-Статкевіча і яго брата Аляксандра на зямяніна Савіча Заляцелага за забойства яго слугою Аляксеем Зарэцкім зямяніна пана Івана Альшэўскага ў горадзе Слоніме». Актыкаваны дакумент 21 студзеня 1591 г.

Як відаць з гэтага дакумента, браты нашага Валенція Ян і Аляксандр былі вельмі паважанымі людзьмі ў той час. Гэта пацвярджае і тастамент іх дваюраднага брата Юрыя Залівакі ад 5 мая 1602 г., па якім ён даручае Яну Сацкевічу-Статкевічу быць апекуном яго дзяцей і справядліва распарадзіцца маёмасцю пасля яго смерці. Пры ўдзеле Яна складзены інвентар маёнтка памерлага Юрыя Канстанцінавіча. На дзесяці лістах распісана ўсё, у тым ліку землі і іх межы. Асаблівую цікавасць, на мой погляд, уяўляе тая частка дакумента, дзе гаворыцца пра падворак Залівакі. Вось падрабязнае апісанне яго.

«Двор з пабеленымі будынкамі, двор з варотамі ўязнымі, дом для пражывання з чатырма святліцамі, з іх дзве з каморамі, дзве без камор, з печамі і з камінамі, на вокнах завесы. Дом другі, дранкаю пакрыты, у ім святліца з каморай, пякарня з каморай, кухня пасярэдзіне з каморай і сталом. У браварні лазня з печамі простымі і паліцамі, рэчы для захоўвання

піва. Тры свірны, адзін з двайным дном і засекамі для захавання жыта, ліпаўкі для засыпкі жыта і бочка для яго змешвання. І яшчэ два свірны для агульнага захоўвання. Направа – святліца старая з печамі, з вокнамі і завесамі.

Піўніца з каменнай кладкай. У піўніцы – піўная бочка.

У двары ставок, каля стаўка – сажалка і пабелены “палац”, у ім пякарня, дзве клеткі для захоўвання, сырніца з двума гумнамі. Ёсць і аборы каля гумна, у якіх быдла рагатае: 14 кароў, 10 валоў старых з маладымі, два быкі; іншага пагалоўя – 26, 43 авечкі, 16 свіней, апрача таго – гусі, паўліны, індыкі, каплуны, осмы, куры. У другой аборы – кацёл піўны, кацёл гарэлачны, кацёл кухонны, бочкі гандлёвыя “меры сто менскай”, тры бочкі пшаніцы, дзесяць бочак ячменю, ярыцы дзве бочкі, дванаццаць бочак аўса, гароху адна бочка, грэчкі чатыры бочкі...»



Пячатка гродскага суда Ашмянскага павета на закладной здзелцы паміж Гаўрыілам Крыштафавічам Сацкевічам-Статкевічам і Янам Маневічам ад 15.07.1654 г. на частку маёнтка Валожыцы.

Пад інвентаром «подпись рукою власною с печатями пана Беняша Подбийпеты и пана Яна Стецькевичъ-Сачкевича. Писан в Исаевичах 22 августа 1611 года».

Мяркуйце самі, як выглядала падвор’е шляхты таго часу.

Але вернемся ў наш маёнтак, у родныя Валожыцы. Жыццё там ішло сваім парадкам. У Валенція, пра якога мы ўжо згадвалі, нарадзіліся пяць сыноў. Адзін з іх, Крыштаф, быў жанаты з Бербашоўнай з роду Юхновічаў-Бербашоў. Яе продак князь нагайскі Бер-Баша прыбыў у XIV ст. з Прычарнаморскіх стэпаў, прыняў хрысціянства пад іменем Юхна і стаў служыць вялікаму князю Вітаўту.

У час «маскоўскай вайны» Крыштаф разам з жонкай і сынам Дземетрыянам (ён не меў нашчадкаў) быў закатаваны.

Прапалі і ўсе дакументы, акрамя старажытных, запісы, раздзелы, тастаментавыя распараджэнні.

З закладной ад 15 ліпеня 1654 г. мы даведваемся, што Гаўрыіл, сын Крыштафа Сацкевіча-Статкевіча, і яго жонка Кацярына Галінская перадалі ў шасцігадовае карыстанне Яну Маневічу частку маёнтка Валожыцы з сялянамі і ручаліся пры гэтым за сына Іаахіма (Яфіма).

Многія з Сацкевічаў-Статкевічаў жылі каля Нясвіжа ў сваіх родавых маёнтках Валожыцы і Куковічы ажно да 30-х гг. XX ст. Аднак прадстаўнікі нашай галіны Яфім Статкевіч і яго сын Сямён у першай палове XVIII ст. перабраліся ў бойкае купецкае мястэчка Пясечнае* (Капыльскае княства).

Пераехаўшы ў Пясечнае, Сямён Яфімаў Статкевіч, як і раней, валодаў часткаю маёнтка Валожыцы амаль да канца XVIII ст. Пра гэта сведчыць купчая крэпасць ад 17 жніўня 1725 г., паводле якой ён набыў за 3500 польскіх злотых частку маёнтка Валожыцы, які называлі Дамброўкай, з сялянамі ў сваіх родзічаў Стэфана і Грыгорыя Сацкевічаў-Статкевічаў. У маі 1794 г. Сямён Яфімаў Статкевіч з паручыцельствам за сыноў сваіх Грыгорыя, Гераніма, Мацвея-Максіма і Якава прадаў Дамброўку Казіміру Ахрымовічу.

Адгортваем інвентар Капыльскага княства Навагрудскага ваяводства за 1734 г. У пераліку ўладальнікаў зямлі значыцца Сіміяон Статкевіч з мястэчка Пясечнае, які жыў па вуліцы Чырвонай, у доме нумар 41, меў зямельныя надзелы ў Хіначове, моргі сенажатныя ў Ямішчах і яшчэ два



Інвентар Капыльскага княства Навагрудскага ваяводства. XVII ст. (польская мова). *НГАБ, ф. 27, воп. 6, спр. 1.*

*Цяпер – Пясочнае.



Юрый Алелькавіч, князь слуцкі.

надзелы (8 і 29 валок). У тым жа мястэчку па вуліцы Грывецкай, у доме нумар 100 быў запісаны Кандрат Астрэйка. Яго дачка Параскевія стала жонкай Якава, сына Сімяона Статкевіча. Вянчанне адбылося 16 мая 1798 г. у Пясечанскай* Пакроўскай царкве.

З інвентароў Капыльскага княства за 1669 і 1693 гг. вядома, што род Астрэйкаў жыў у Пясечным з XVII ст. Так, па вуліцы Філіпаўскай значацца Грыгорый і Сімяон Астрэйкі – прадзед і дзед нашай Параскевы.

Гэтыя нёманскія мясціны былі роднымі і для яшчэ аднаго прадстаўніка нашага роду – беларускага паэта Анатоля Астрэйкі:

*Быў рум калісьці ля ракі,*
*І ўдзень, і ўночы плытагоны*
*Сасны стрыжнёвай камлюкі*
*Ля берага вязалі ў згоны.*

---

* Цяпер – Пясочанская.



Паэт Анатоль Астрэйка. 1933 г. *Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва. Мінск.*

Пра нешматлікія гарады, а тым больш мястэчкі, можна сказаць, што вядома дата іх узнікнення. Па просьбе князя слуцкага Юрыя Алелькавіча 12 лютага 1568 г. кароль польскі і вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст ІІ выдаў прывілей, па якім ён – князь слуцкі – меў права засяліць урочышча Пясечнае над Нёманам як сваімі людзьмі, так і вольнымі. Юрый Алелькавіч лічыў, што гэта будзе прыбытковае гандлёвае і купецкае мястэчка перш за ўсё з-за яго ўдалага месцазнаходжання.

Так і здарылася. Дрымучыя лясы навокал (Пясечанская* пушча) – гэта тавар, Нёман – гандлёвы шлях і прыстань для лесасплаву. А ў ваколіцах – урадлівыя землі і багатыя сенажаці.

Перш за ўсё пабудавалі прыстань. З'явіўся млын, для якога быў праведзены спецыяльны канал. Узніклі ганчарныя, кавальскія і іншыя майстэрні рамеснікаў. У нядзелю ладзіліся шумныя кірмашы.

* Цяпер – Пясочанская.

Ну, а дзе карчма? Будзе і карчма. У 1593 г. княгіня Сафія за 20 коп грошаў у год дазволіла адкрыць карчму яўрэю Пейсаху Эльяшавічу.

І Пясечнае расквітнела. З'явіліся вуліцы – Слуцкая, Старыцкая, Чырвоная, Грывецкая, Філіпаўская... Жыхары плацілі падаткі як грашыма, так і натуральнымі прадуктамі – аўсом, птушкай і нават імхом з суседніх лясоў.

Жылі заможна. Войны сярэдзіны XVII ст. паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай, нягледзячы на цяжкасці і разруху, ненадоўга прыпынялі актыўнае жыццё мястэчка. У пачатку XVIII ст. тут была пабудавана Пакроўская царква. Пясечнае прыцягвала народ. Сярод маіх родзічаў з'явіліся людзі з рэдкімі для гэтага краю прозвішчамі – Бэндзі, Шаблюкі і інш. Вакольныя землі былі ў цане. Узніклі шляхецкія фальваркі і засценкі – Рулёва, Астрэйкі, Брады, Шамаў...

Дарэчы, засценак Рулёва шляхціч Якаў Статкевіч атрымаў у арэнду ад Нясвіжскага кляштара бернардзінцаў. Гэта вынікае з завяральнага дакумента Елізаветы Цвіркоўны і Апалінарыі Гарбатоўскай – ігуменняў манастыра. Там сказана: «Дзейнічаючы ад імя свайго і ўсяго брацтва, запэўніваем сім дакументам спадара Якава Статкевіча, што манастыр наш, які мае доўг перад ім па дзвюх аблігах, першай ад 1824 года на 420 рублёў серабром і другой ад 1830 года на 210 рублёў серабром, калі цяпер такой сумы ні поўнасцю, ні часткамі не можам заплаціць спадару Якаву Статкевічу, а таму толькі за адзін працэнт аддаём яму ў карыстанне засценак Рулёва, які належыць маёнтку Валешына, на ўмовах арэнднага права».

Якаў быў шчырым вернікам. Пры неабходнасці аказваў храму дапамогу. Як сведчаць дакументы Мінскай духоўнай кансісторыі ад 1836 г., на перабудаванне царквы ў Пясечным мой продак ахвяраваў 50 рублёў серабром, за што і атрымаў падзяку ад архіепіскапа Мінскага і Гродзенскага Ніканора.

Георгій Пераможца. Нясвіж. 1759 г.
*Ікона з калекцыі А. Статкевіча-Чабаганава.*



Свидѣтельство

По прошенію въ Минскую Грекороссійскую Духовную Консисторію Шляхтича Слуцкаго Уѣзда [illegible] Іакова Статкевича о выдачѣ Ему Метрическаго Свидѣтельства о рожденіи и крещеніи сына Его Василія родившагося въ 1812мъ году и крещеннаго [illegible] Священникомъ [illegible] — Свѣряна была съ Метрическими Книгами Слуцкаго Уѣзда [illegible] Покровской церкви справка и оказалось что въ оной 1812го года Апрѣля 12го подъ №11мъ записано такъ: „Мѣсяца [illegible] Покровской Церкви прихожанина Якова [illegible] Статкевича и Его



Май 16. Шляхтичу Якову Стацкевичу за пожертвование 50 р. сер. на исправление церковной крыши объявить Его Высокопреосвященства признательность.

Высокопреосвященнейшему Никанору, Архиепископу Минскому и Гродненскому, Слуцкаго Троицкаго Монастыря Священно Архимандриту и Ордена Св. Анны 1го класса Кавалеру

Погрошевскаго благочиннаго Священника Стефана Страховича

Рапортъ

Въ ведомстве моего благочиния, села Плесчиц прихожанинъ Шляхтичь Яковъ Стацкевичь, пожертвовалъ на исправленiе въ ономъ селе церковной крыши 50 руб. серебромъ денегъ; каковыя отъ него и приняты Плесчицкимъ Священникомъ Соловьевичемъ, и записаны приходомъ въ книгу; — О каковомъ благотворительномъ пожертвованiи въ пользу церкви, почтеннейше имею честь донести Вашему Высокопреосвященству.

Благочинный

№ 56
мая 13 дня
1836 года.

Погрошевскiй благочинный Священникъ Стефанъ Страховичъ.

доложено 16 мая

Што мяне больш за ўсё здзівіла, дык гэта неўвядальная маладосць продка.

У 1827 г., калі Якаву было ўжо за 50 гадоў, памерла яго жонка Параскева Кандратаўна Астрэйка. Мой родзіч ажаніўся другі раз з Ганнай Ільінічнай з Гарэлікаў, якая праз год нарадзіла яму сына. Назвалі яго Сільвестрам. Затым у сям'і з розніцай у два гады з'явіліся яшчэ два сыны, прычым абодва 8 лістапада – у дзень святога архангела Міхаіла. Вось такое супадзенне! І назвалі братоў Міхаіламі. Пасля іх называлі Міхаілам першым і Міхаілам другім.

Але і ад першай жонкі Параскевы ў Якава Сямёнавіча было два сыны – мой прапрадзед Вікенцій і яго брат Васіль. У архівах захавалася вялікая колькасць дакументаў, у якіх згадваецца Вікенцій. Дакладна вядома з метрычнай кнігі Цялядавіцкай царквы, што ён нарадзіўся 25 сакавіка 1816 г., але вось загадка: чаму яго бацькі некалькі гадоў жылі не ў засценку Рулёва, а ў Старой Гуце, дзе з'явіўся на свет Вікенцій? Вядома нам і дата вянчання Вікенція з 18-гадовай шляхцянкай Марыяй Забэлай, рымскага веравызнання. Адбылося вянчанне 15 кастрычніка 1839 г. у Пясечанскай Па-



Метрычная кніга Цялядавіцкай царквы Слуцкага павета за 1816 г. *НГАБ, ф. 136, воп. 13, спр. 1500.*

*Са с. 36–37.* Пасведчанне, выдадзенае Мінскай духоўнай кансісторыяй шляхцічу Слуцкага павета засценка Рулёва Якаву Статкевічу ў тым, што ў метрычнай кнізе Пясечанскай Пакроўскай царквы ёсць запіс ад 12.04.1812 г. аб нараджэнні яго сына Васіля. Васіль Якаўлевіч – брат Вікенція Якаўлевіча Сацкевіча-Статкевіча, прапрадзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 116/87). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3080, арк.119–119 адв.*

*Са с. 38.* Падзяка Высокапраасвяшчэннейшага архіепіскапа Мінскага і Гродзенскага, архімандрыта Слуцкага Троіцкага манастыра Ніканора шляхцічу Якаву Сямёнавічу Статкевічу за ахвяраванне ім грошай на рамонт Пакроўскай царквы ў мястэчку Пясечнае Ігуменскага павета. 16.05.1836 г. *НГАБ, архіў Мінскай духоўнай кансісторыі, ф. 136, воп. 1, спр. 11681.*




Помнік на магіле Вікенція Якаўлевіча Сацкевіча-Статкевіча, прапрадзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава. XIX ст. Вёска Клетнае Глускага раёна (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 182/116).

кроўскай царкве. Дарэчы, маці Марыі Ганна – са старажытнага роду Татураў. Цікава, што сярод продкаў Марыі Забэлы – Марыяна, дачка князя Мікалая Глінскага-Ліхадзіеўскага.

Калі не стала бацькі, сыны Якава Сямёнавіча купілі зямлю ў Малінаве пад Глускам. Даведаўшыся, што памешчык Маліноўскі прадае там маёнтак, вырашылі разам са сваімі родзічамі Забэламі, Карафа-Корбутамі, Сыцько набыць яго. У выпісе з кніг Бабруйскага павятовага суда ад 20 чэрвеня 1847 г. купчай крэпасці памешчыка Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні Маліноўскага двараніну Івану Васільевічу Корбуту на зямлю ў абрубах Малінава і Яменец сярод пакупнікоў значыцца Вікенцій Статкевіч.

Адзначу і такую важную дэталь. Яшчэ да пераезду з маёнтка Рулёва ў Малінаве ў Вікенція Якаўлевіча і Марыі Андрэеўны Статкевічаў нарадзіўся сын Іван. Хрысцілі яго 23 лістапада 1847 г. у той жа, дзе і яго бацьку, Пясечанскай Пакроўскай царкве, але рос і выхоўваўся мой прадзед Іван пад Глускам. Там, у Малінаве, ён сустрэў будучую жонку Наталлю. Дзед яе Іван Карафа-Корбут, як ужо адзначалася, купіў гэтыя землі разам з Вікенціем Статкевічам.

# МОЙ ДЗЕД – МІХАІЛ ІВАНАВІЧ САЦКЕВІЧ-СТАТКЕВІЧ

Часта гляджу на фотаздымак свайго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча, з якім лёс не дазволіў сустрэцца, і ўсё больш яскрава адчуваю несправядлівасць тых гадоў. Нішчылася хрысціянская вера, тысячагадовая культура, векавыя традыцыі грамадства, права на ўласнасць і свабоду думкі. Мільёны людзей аказаліся непатрэбнымі... І ўсё ў імя сусветнага шчасця. А ці можа яно быць для адных, калі пабудавана на горы і няшчасці іншых? Ды і што гэта за мэта такая, калі яна вышэйшая за каштоўнасць чалавечага жыцця? «Ворагам народа» палічылі і майго дзеда Міхаіла Сацкевіча-Статкевіча, які аказаўся непатрэбным для «светлага камуністычнага заўтра». Уся яго віна ў тым, што ён з «чужога» класа, з дваран...

У матэрыялах гістарычнага архіва захавалася прашэнне двараніна Бабруйскага павета Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход, пададзенае 26 лютага 1896 г. У ім гаворыцца: «Гонар маю прасіць прылічыць да дваранскага роду сына майго Міхаіла Іванавіча і справу аб сім прадставіць у Сенат на зацвярджэнне». Просьба гэтая Сенатам была задаволена.

Клопат бацькі пра нашчадка зразумелы: ён быў адзіным сынам і з'явіўся на свет не першым. Да яго нараджаліся толькі дзяўчаткі – іх у сям'і было восем.



Стаяць (злева направа): Аляксандр Іванавіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 334/207), Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч, сядзіць: пісар маёнтка Засмужжа. 1919 г.



Дзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч. 1920 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 483/321).



Еўфрасіння Іванаўна Карафа-Корбут (Сацкевіч-Статкевіч), сястра дзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава. 1918 г. У 1930-я гг. выслана ў Іркуцкую вобласць на залатыя прыіскі, дзе і памерла (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 491/321).

Але ў справу аб дваранскім паходжанні запісвалі толькі мужчын, таму патрэбен быў прадаўжальнік роду.

Нараджэнне хлопчыка ў сям'і стала надзвычайна радаснай падзеяй. Час ішоў, сын падрастаў, сталеў. Бацька разумеў, што ў Малінаве спадчынніку будзе цесна: мала зямлі, развярнуцца няма дзе. Даведаўшыся, што на Любаншчыне прадаецца маёнтак Засмужжа, Іван Вікенцьевіч вырашыў яго купіць. Уладальнікам маёнтка быў князь Вітгенштэйн.

У Засмужжы ў князя было больш за чатыры тысячы дзесяцін, а гэта каля чатырох з паловай тысяч гектараўворыўнай зямлі, лугоў і лесу. Вітгенштэйн прасіў за маёнтак 30 тысяч рублёў серабром. Па тых часах – вялікія грошы. Іван Вікенцьевіч такой сумы не меў. І тады ён прапанаваў блізкім родзічам – Карафа-Корбутам, Рудзінскім, Тычынам – набыць маёнтак сумесна. Але перамовы пра набыццё зямлі ішлі вельмі цяжка, амаль два гады. За гэты час Засмужжа перайшло ад князя Вітгенштэйна да яго блізкай сваячкі княгіні Марыі Львоўны Гагенлое. Сярод пакупнікоў таксама не ўсё ладзілася. Не ў кожнага хапала грошай. Таму адначасова ішлі перамовы з Віленскім зямельным банкам пра крэдыт. Акрамя таго, за гэты час неаднойчы здаралася, што нехта адмаўляўся ад здзелкі. Прычыны былі розныя: то не падабаўся сенакос у надзеле зямлі, то месца нізкае – жыта магло вымакнуць, то трэба карчаваць векавыя дубы. Таму адбываўся чарговы перамер зямлі. У каторы раз запрашаліся землямеры. Зноў усе пакупнікі ў прызначаны час збіраліся ў маёнтку Засмужжа, бо любыя змены ў папярэдняй дамоўленасці пра межы маглі выклікаць спрэчкі.

Калі, здавалася, усе пытанні былі нарэшце вырашаны, зноў знайшоўся адзін з пакупнікоў, які ў апошні момант адмовіўся ад свайго надзелу. Паў-


№ 211/708 Сацкевича Статкевича

2 февраля 1896 г.

Въ Минское Дворянское Депутатское Собраніе

Дворянина [illegible] Ивана, сына Викентія Яковлева, Сацкевича Статкевича

Прошеніе

Опредѣленіемъ Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія 16 Апрѣля 1873 года состоявшимся, я проситель Иванъ Викентьевъ Сацкевичъ-Статкевичъ, въ числѣ прочихъ лицъ рода Сацкевичей-Статкевичей, сопричисленъ къ роду, а указомъ Правительствующаго Сената, по Департаменту Герольдіи, отъ 5 Октября 1873 года за № 3595 утвержденъ въ потомственномъ дворянствѣ. Нынѣ, имѣя необходимость сопричислить къ дворянскому роду нашему Сацкевичей-Статкевичей сына своего Михаила Иванова Сацкевича-Статкевича, для чего представляю: а, Метрическое свидѣтельство, выданное Минскою Духовною Консисторіею, отъ 1 февраля 1892 года, за № 1211, о рожденіи и крещеніи сына моего Михаила; б, Свидѣтельство о [illegible], выданное Минскимъ Губернским



Предводителя Дворянства и Губернатора, от 2 Сентября и 20 Октября 1893 года, за № 184/1191 и 6, квитанцию Минского Губернского Казначейства от 23 Мая 1892 года, за № 1373, на пять руб. пошлин, с копиями означенных документов, имею честь просить Депутатское Собрание сопричислить к [illegible] сына моего Михаила Иванова Сацкевича-Стацкевича роду и дело о семь представить в Правительствующий Сенат, по Департаменту Герольдии, на утверждение. —

Иван Викентьев Сацкевич Стацкевич

Жительство мое:
Бобруйского уезда,
Глусского стана,
в [illegible] Мишинове.

Прашэнне двараніна Бабруйскага павета Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход ад 26.02.1896 г. аб далучэнні да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў сына Міхаіла. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 297–297 адв.*



Прабабуля Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталля Васільеўна Сацкевіч-Статкевіч (да замужжа Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 144/70) з унучкай Зояй Міхайлаўнай, цёткай аўтара. 1926 г.



Алена Іванаўна Понтус (Сацкевіч-Статкевіч; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 484/321), сястра дзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава, і яе муж Іван Іванавіч Понтус – старшы унтэр-афіцэр 312-га стралковага палка царскага войска. У 1929 г. пастановай тройкі АДПУ па БВА заключаны ў лагер на Салаўках тэрмінам на 3 гады. У 1990-я гг. рэабілітаваны. Слуцк. 1920 г.



Георгіеўскі Крыж IV ступені – ордэн Івана Іванавіча Понтуса за подзвіг у Першую сусветную вайну.

стала пытанне: або пачынаць новы перамер, або гэты ўчастак прапанаваць сялянам, якія хочуць яго купіць. Але ў такім выпадку давядзецца жыць у суседстве з людзьмі іншага саслоўя і, магчыма, парадніцца з імі. Гэтага шляхта баялася больш за ўсё. Як расказвала мне цётка Зоя, такія абставіны выклікалі не меншыя спрэчкі, чым падзел зямлі. Тады пакупнікі вырашылі ўзяць у сваю кампанію шляхту, не зацверджаную ў дваранстве, і тых сялян, што лічыліся моцнымі гаспадарамі. Так да дваран, якія выкуплялі маёнтак Засмужжа, – Сацкевічаў-Статкевічаў, Карафа-Корбутаў, Тычынаў, Рудзінскіх, Кунцэвічаў і Бараноўскіх – далучыліся Шуневічы, Міхневічы, Зубовічы, Марціновічы, Ляпкі і Басякі.

Хутка Іван Вікенцьевіч разам з сям'ёй і сынам Міхаілам перабраліся на новае месца. Як адзначана ў дакументах Мінскага натарыяльнага архіва, «набыўшы праз пакупку маёнтак Засмужжа па купчай крэпасці, заключанай у мінскага натарыуса Галіневіча 25 верасня 1893 года».

Міхаіл Статкевіч адразу стаў лідарам сярод сваякоў – саўладальнікаў маёнтка Засмужжа, якія выбралі яго старастам. Вылучаўся малады гас-



Копія.

Свидѣтельство. По указу Его Императорскаго Величества, Минская Духовная Консисторія за надлежащимъ подписомъ и приложеніемъ казенной печати, удостовѣряетъ, что въ метрической книгѣ [illegible] Воскресенской церкви Бобруйскаго уѣзда, за 1882 годъ, подъ № 44, имѣется статья такого содержанія: тысяча восемьсотъ восемьдесятъ втораго года двадцать третьяго Октября родился, и того же числа крещенъ Михаилъ, сынъ дворянина застѣнка Малинова Ивана Викентьева Сацкевича-Стацкевича и законной жены его Наталіи Васильевой, обоихъ православныхъ; воспріемниками были того же застѣнка: Бобруйскій мѣщанинъ Михаилъ Семеновъ Зубко и дворянка Софія Викентьева Стацкевичъ, дѣвица; крестилъ священникъ Іоаннъ [illegible] съ и. д. псаломщика [illegible] Гошкевичемъ. Причитающійся гербовый сборъ уплаченъ. Г. Минскъ Февраля 7 дня 1892 года. – Членъ Консисторіи, священникъ А. Юрашкевичъ, Секретарь М. Лебедевъ, Столоначальникъ [illegible] (м. п.)

С подлиннымъ вѣрно: Ид. секретаря [illegible]

Копія

Свидѣтельство. Дано сіе отъ Минскаго Губернскаго Предводителя Дворянства, за подписью и приложеніемъ казенной печати въ томъ, что Иванъ Викентіевъ и сынъ его Михаилъ Сацкевичи-Стацкевичи дознано не лишены правъ состоянія силою закона за уголовныя и политическія преступленія и не находятся за таковые подъ судомъ и слѣдствіемъ. Г. Минскъ. Сентября 2 дня 1895 года. Гербовый сборъ оплаченъ. Минскій Губернскій Предводитель Дворянства, Дѣйствительный Статскій



Сотникъ и Кавалеръ В. Павловъ. (м. п.)
Что означенные въ семъ свидѣтельствѣ Иванъ Викентьевъ и сынъ его Михаилъ Сацкевичи-Статкевичи не лишены правъ состоянія силою Закона за уголовныя и политическія преступленія, подъ судомъ и слѣдствіемъ не состояли и нынѣ не состоятъ, въ томъ подписью, съ приложеніемъ Казенной печати, удостовѣряю. Губ. г. Минскъ Октября 20 дня 1895 года. Минскій Губернаторъ, Генералъ-Лейтенантъ Князь Трубецкой, Правитель Канцеляріи Н. Ковалевскій (м. п.).
Съ подлиннымъ вѣрно: За Секретаря Г. Шуринъ

Пасведчанне Мінскай духоўнай кансісторыі ад 07.02.1892 г. аб нараджэнні і хрышчэнні 23.10.1882 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета Міхаіла, сына дваран засценка Малінава Івана Вікенцьевіча і Наталлі Васільеўны Сацкевічаў-Статкевічаў. Дакумент засведчыў мінскі губернатар, генерал-лейтэнант князь Трубяцкой. *Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА), ф. 1343, воп. 36, спр. 22294, арк. 5–5 адв.*


М. В. Д. № 3087

МИНСКАГО ДВОРЯНСКАГО ДЕПУТАТСКАГО СОБРАНІЯ.

21 Іюля дня 1897 г.

№ 1100

г. Минскъ.

Г. Приставу 2 стана Бобруйскаго уѣзда

Правительствующій Сенатъ по Департаменту Герольдіи указомъ своимъ отъ « 19 » Іюня 1897 года за № 2278, далъ знать Минскому Дворянскому Депутатскому Собранію объ утвержденіи въ дворянствѣ Михаила, сына Ивана Викентьева, Сацкевича-Статкевича. Почему сказанное Собраніе проситъ ~~Полицейское Управленіе~~ объявить о семъ просителю Ивану Викентьеву Сацкевичу-Статкевичу и вручить ему приложенные при семъ документы подъ росписку, на семъ-же, каковую и возвратить для пріобщенія къ дѣлу.

Мѣстожительство просителя: в имении Малиново 2 стана Бобруйскаго уѣзда

Указ Урадавага сената ад 19.06.1897 г. аб зацвярджэнні ў дваранстве Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 304.*



9712. 29 Іюля 1897 года

Въ Правительствующій Сенатъ по Департаменту Герольдіи.

Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія

Рапортъ.

Депутатское Собраніе имѣетъ честь донести Правительствующему Сенату, что указъ Департамента Герольдіи отъ 19-го Іюня 1897 г. за № [illegible] объ утвержденіи въ дворянствѣ Михаила, сына Ивана Викентьева Сацкевича-Стецкевича съ приложенными при немъ документами полученъ въ семъ собраніи 14 Іюля 1897 года.

Минскій Губернскій Предводитель Дворянства [illegible]

№ 1098

Іюля 21 дня 1897 года.

Ид. Секретаря [illegible]

Рапарт Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ва Урадавы сенат аб атрыманні ўказа ад 19.06.1897 г. аб зацвярджэнні ў дваранстве Міхаіла, сына Івана Вікенцьева Сацкевіча-Статкевіча. *РДГА, ф. 1343, воп. 29, спр. 1347, арк. 9.*


АНКЕТА

арестованных, числящихся за Бобруйским Окр. Отделом ГПУ БССР.

Фамилия, имя и отчество Стацкевич Михаил Иванович

Гр-н какого государства БССР

Национальность Белорус

Возраст 47 лет, родился в 1882 году.

Место рождения Бобруйского округа Любанского р-на Рожецкого с/совета Малиново деревни.

Место жительства перед арестом дер. Заелье, Рожецкого с/с.

Место службы и должность Не служил.

Основная профессия Хлебопашец.

Бывшее сословие Крестьянин (из дворян)

Анкета допыту арыштаванага аддзелам ДПУ БССР Міхаіла Іванавіча Статкевіча. Бабруйскі выпраўленчы дом. 1930 г. *Архіў КДБ Рэспублікі Беларусь, спр. 29270-с.*


14. Состав семьи, место жительства и место работы каждого члена (отца, матери детей, мужа, жены, братьев, сестер)

| | Степень родства | Фамилия, имя и отчество | Возраст | Место работы, профессия и должность | Место жительства (адрес) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Мать | Стацкевич Марина Васил. | 78 | дом.-хоз. | дер. Заелье |
| 2 | Жена | --- Мария Алекс. | 42 | -"- | -"- |
| 3 | Сын | --- Иван Михайлов. | 20 | Учится | Бобруйск |
| 4 | Дочь | --- Зоя --- | 18 | сел.-хоз. | дер. Заелье |
| 5 | --- | --- Александра --- | 6 | при матери | -"- |
| 6 | Сын | --- Виктор --- | 3 | -"- | -"- |
| 7 | --- | --- Николай --- | 3 м. | -"- | -"- |
| 8 | | | | | |
| 9 | | | | | |
| 10 | | | | | |

15. Количество членов семьи: трудоспособных 4 чел., нетрудоспособных, состоящих на Вашем иждивении 4 человек.

Анкета допыту (2-я старонка) арыштаванага аддзелам ДПУ БССР Міхаіла Іванавіча Статкевіча. Бабруйскі выпраўленчы дом. 1930 г. *Архіў КДБ Рэспублікі Беларусь.*


32. Когда арестован 13 Февраля 1930 г.

33. Кем арестован с/с.

34. Примечание арестованного Нет.

Подпись арестованного Статкевич

Подпись должностного лица заполнившего анкету

Подпіс у анкеце допыту арыштаванага аддзелам ДПУ БССР Міхаіла Іванавіча Статкевіча. Бабруйскі выпраўленчы дом. 1930 г. *Архіў КДБ Рэспублікі Беларусь.*

падар разважлівасцю, умелым вядзеннем спраў. Да яго ішлі па дапамогу і параду. Ён стаў пастаянным удзельнікам многіх нарад па зямельных пытаннях, быў у воласці паважаным чалавекам. Калі прыязджала губернскае начальства, то абавязкова бывала ў яго ў гасцях. Упрыгожваў маёнтак Засмужжа вядомы на ўсю ваколіцу сад, але вымерз марознай зімой у час фінскай вайны.

...Грымнуў 1917 год. Да ўлады прыйшлі новыя людзі, чужыя і па натуры, і па духу Міхаілу Іванавічу. Ён не ўспрымаў іх, і яны адчувалі гэта. У Статкевіча і яго родзічаў абрэзалі землі, пакінуўшы толькі невялікі надзел. З іх здзекаваліся, пазбавілі выбарчых правоў. Міхаіл Іванавіч стаў замкнёны, апатычны да жыцця. Ён пачаў ездзіць да сяброў па няшчасці, былой шляхты, і да раніцы гуляў у карты. Бывала, прагульваў коней, а на другі дзень вяртаўся на іх дадому. Казаў: карта лягла. Жонка хоць і дакарала, але разумела яго, бо неяк трэба было супакоіць душу. «Гульцы», відаць, увесь час шапталіся: што рабіць, як выжыць, бо пагрозы ўсё ўзмацняліся. Прапаганда супраць класавых ворагаў вялася пастаянна. Вось і раілася былое панства. Можа, таму пры арышце і прыпісвалі Статкевіча да «банды» Булата.

У кастрычніку 1929 г. у сям'і Міхаіла і Марыі, дзе падрасталі дачка Шура і сын Віктар, а таксама Іван і Зоя ад першага шлюбу Міхаіла Статкевіча, нарадзіўся сын Мікалай, на дзіва спакойны, усмешлівы, блакітнавокі хлопчык. Бацька не мог наглядзецца на яго. Знік сум, з'явілася мэта ў жыцці. Але шчасце было нядоўгае. Бяда пастукалася ў дзверы ў лютым 1930 г. Калі Міхаіла Іванавіча арыштавалі, ён сказаў жонцы:

– Беражы дзяцей, я хутка вярнуся.

Хоць Статкевіч і не верыў новай уладзе, але думаў, што злітуюцца, бо нікога не забіваў, не рабаваў, не ваяваў супраць бальшавікоў. За што яго судзіць? Але ў бабруйскім выпраўдоме, куды даставілі яго разам з дваюрадным братам Васілём Пятровічам Карафа-Корбутам, на былых дваран глядзелі інакш. Абвінавачванні былі стандартныя: супраціўляліся стварэнню калгасаў, агітавалі супраць улады бальшавікоў, члены антысавецкай банды...

У анкеце допыту, дзе Міхаіл Іванавіч у графе пра былое саслоўе пазначыў «селянін», яго прымусілі ўласнаручна выправіць – «з дваран».

Цяпер цяжка сказаць, катавалі яго ці не, але па тых звестках, якія засталіся, зразумела: віну сваю ён не прызнаў. Ды і ў чым прызнавацца? Аднак рашэнне тройкі АДПУ было адназначнае – вышэйшая мера пакарання.

Расстралялі іх разам з дваюрадным братам раніцай 6 красавіка 1930 г. ва ўстанове са здзеклівай назвай «Выпраўдом». Па сутнасці, без суда і следства.

Матэрыялаў па гэтай справе мала. У 1952 г. быў выдадзены загад па Камітэце дзяржаўнай бяспекі аб чыстцы ўсіх спраў, якія кампраметавалі органы. Многія пачыналі разумець, што рэпрэсіі былі неабгрунтаваныя і ў будучым хтосьці можа панесці адказнасць за масавыя расстрэлы. Вось і вырашылі схаваць канцы ў ваду і частку матэрыялаў таго часу знішчылі.

Так зрабілі і са справаю Міхаіла Статкевіча. Пакінулі толькі некалькі нязначных старонак пратакола допыту, дзе ёсць агульныя звесткі. Але і да гэтых дакументаў маіх родзічаў дапусцілі не адразу. На першы запыт схлусілі: матэрыялаў няма. Мы не супакоіліся. І праз некаторы час улады здаліся...

Лёс Міхаіла Іванавіча трагічны, але вобраз яго светлы. Усё жыццё гэтага чалавека – праца на зямлі, служэнне грамадству – прыклад для сучаснага пакалення Статкевічаў. Мне здаецца, дзед насуперак жыццёвым абставінам ніколі не пакідаў родныя мясціны, бацькоўскі дом і заўсёды жыў і будзе жыць у сэрцах нашчадкаў.

# МАЯ БАБУЛЯ – МАРЫЯ АЛЯКСАНДРАЎНА КАРАФА-КОРБУТ

*Калі толькі на хвіліну ўяўляю, што выпала на долю маёй шматпакутнай бабулі, слёзы набягаюць на вочы, перахоплівае дыханне. Хочацца кінуцца праз гады, абараніць і сагрэць яе.*

«Раскулачвалі на Усердным тыдні, у сераду 12 лютага 1930 г. Была мяцеліца. У чацвер забралі бацьку, у пятніцу – брата Івана.

Высылалі на першым тыдні Вялікага посту, у суботу 8 сакавіка. З заходам сонца пагрузілі ў таварныя вагоны і прыцемкамі павезлі. 16 сакавіка прывезлі на станцыю Мендзялеева, што ў Комі-Пярмяцкай акрузе. Тыдзень дабіраліся да сяла Вялікі Пальнік. Гэта 110 кіламетраў. Было ўсяго некалькі падвод. Таму і жанчыны з груднымі дзецьмі, і старыя ішлі пешшу. Яшчэ ляжаў снег. Было вельмі холадна». *З успамінаў Зоі Міхайлаўны Статкевіч – цёткі Анатоля Статкевіча-Чабаганава.*

...Цягнік імчаў на ўсход. У халодных вагонах – людзі, якіх савецкая ўлада назвала кулакамі, крывапіўцамі, эксплуататарамі працоўнага народа. У кутку, накрываючы малых дзяцей, сядзела маладая жанчына. Здагадвалася яна, што Міхаіла Іванавіча ўжо няма, і з трывогай думала, што чакае



Бабуля Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Марыя Аляксандраўна Статкевіч (Карафа-Корбут). Вёска Засмужжа. 30.05.1965 г.

іх наперадзе. Не за сябе турбавалася, а за дзяцей, асабліва за Колечку, якому было ўсяго некалькі месяцаў.

Яна магла б пакінуць дзяцей дома, у сваёй вёсцы, як зрабілі некаторыя. Навошта везці ў невядомасць, магчыма, на верную смерць? Але хто будзе іх даглядаць? У вёсцы амаль не засталося сваякоў. Мужчын арыштавалі, і нічога пра іх не чуваць, а жанчын пагрузілі на падводы разам з дзецьмі і адправілі на бліжэйшую станцыю. Колькі плачу і крыку было, колькі праклёнаў! Але толькі сакавіцкае неба чула іх. Вясковая бедната, не дачакаўшыся нават, калі кранецца абоз, кінулася ў дамы высланых, забіраючы і выносячы ўсё, што там засталося.

Тое відовішча і цяпер стаяла перад вачыма жанчыны. Часам яно здавалася страшным сном, як і ўсё, што адбылося ў тым трагічным 1930 г. Яна расплюшчвала вочы, і перад ёю быў вагон, перапоўнены змучанымі людзьмі, перапужаныя дзеці – Шура, Віктар, Колечка.



Марыя Аляксандраўна Статкевіч (гл. «Карафа-Корбуты I» 279/179) з дзецьмі (злева направа) Віктарам, Мікалаем і Аляксандрай у ссылцы. Комі-Пярмяцкая акруга. 1931 г.

Жанчына хрысцілася і думала: за што ёй такая навала, чым угнявіла нябёсы? Нават у дзяцінстве лёс быў нялітасцівы да яе. Рана памерлі бацькі. Дзяўчынка засталася сіратою. Жыла ў сям'і брата, дзе да яе ставіліся добра, шкадавалі, стараліся замяніць бацькоў. Прыйшоў час – адправілі ў царкоўнапрыходскую школу, дзе яна вучылася з ахвотаю. Навука давалася ёй лёгка, але калі Саветы пачалі вайну супраць «эксплуататарскіх класаў», стала гаварыць, што яна непісьменная. Думала, гэта нейкім чынам уратуе яе, бяда абыдзе. Не дапамагло. Яе прылічылі да ізгояў, хоць зямлі ў сям'і было ўсяго некалькі дзесяцін: амаль усю абрэзалі адразу пасля рэвалюцыі. Працавалі на ёй, як і ўсе сяляне, але бальшавікі не забыліся на мінулае. І цяпер цягнік ужо каторыя суткі вязе «ворагаў народа» на ўсход. Але вось, рэзка затармазіўшы, спыніўся на станцыі Мендзялеева. Зноў крыкі, плач, падводы. Там, на Любаншчыне, калі ад'язджалі, пахла ўжо вясной, а тут лютавала зіма.



Пляменнік бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Мікалай Міхайлавіч Лазоўскі і яго жонка Кацярына Віктараўна. 1933 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 283/179).



Подпись анкетируемого

ПРИМЕЧАНИЕ: (В примечании представитель сельсовета и лицо ответ-ление анкеты отмечает исправильности сведений указанных анкетируемым. быть продлено на отдельном листе с приложением документальных обоснова карточки посемейных списков).

Марыя Аляксандраўна Статкевіч, спаслаўшыся на непісьменнасць, у анкеце допыту АДПУ БССР замест подпісу паставіла адбітак пальца. 1930 г.
*Архіў КДБ Рэспублікі Беларусь.*

Комі-Пярмяцкая акруга, куды іх прывезлі, заўсёды вылучалася суровым кліматам. Асабліва яго сцюдзёнае дыханне адчувалася ў тайзе, дзе беларускім кулакам загадалі выгружацца. Ні жылля, ні часовых пабудоў. Суцэльны лес ды глыбокі снег. І толькі недзе ўдалечыні былі відаць дамы вёскі Вялікі Пальнік. Нехта з жаласлівых ахоўнікаў параіў жанчыне:

– Сходзіце туды, можа, дадуць прытулак на некаторы час, у вас жа на руках немаўля.

Яна пайшла спачатку наўздагад, пасля заўважыла дом і рушыла да яго. Нешта падказвала ёй: тут абагрэюць. Так і здарылася. У хаце жыла сям'я, у якой не было сваіх дзяцей. Будыніна аказалася прасторнай, знайшлося месца і для прыезджых. І галоўнае, што гаспадары не касіліся на іх, былі добрымі людзьмі. Жонка гаспадара дома доўга ўгаворвала беларуску:

– Пакінь, Марыя, мне блакітнавокага Колечку. Не выжыве ён там, у лесе.

Але Марыя глядзела на свайго спакойнага, усмешлівага сыночка і ўпарта сцвярджала:

– Выжывем, гаспадынечка, выжывем. А за прытулак дзякуй. Ваша цяпло і ваш дом век не забуду.

Марыя Аляксандраўна і яе дзеці перажылі тую цяжкую зіму, вытрымалі. А пасля прыйшла радасная навіна: адшукаў іх пляменнік з-пад Слуцка Мікалай Лазоўскі, які дапамог грашыма на дарогу. І жанчына вырашыла выпрабаваць лёс. Аховы на пасяленні ніякай не было. Можа, і не заўважаць знікнення? Ды і не ў роднае Засмужжа паедуць, а ў Млынку пад Слуцкам, дзе жывуць сёстры. Хто яе там знойдзе?

І вось яны зноў у Беларусі, сярод сваіх. Першае пытанне: ці няма якіх-небудзь навін пра мужа? Але родзічы толькі


9. Кем выдан паспорт
10. На основании каких документов выдан паспорт
Начальник Р.-К. милиции
Нач. паспортного стола
Дата выдачи
ГМ № 637058

Пашпарт Марыі Аляксандраўны Статкевіч, выдадзены па даведцы ГУЛАГа. 1940 г.



Анатоль Статкевіч-Чабаганаў на выхаванні ў бабулі Марыі Аляксандраўны. Вёска Засмужжа. 1953 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 633/483).

адводзілі вочы, казалі, што Міхаіла няма ўжо ў бабруйскім выпраўдоме, можа, выслалі...

Распытванні, слёзы, трывога за дзяцей і заўтрашні дзень... Была яна недарэмнай: усё бачыла вока тых, хто шукаў «ворагаў народа», вёў знішчальную барацьбу з кулакамі і паўпамешчыкамі. Праз некалькі дзён хтосьці паведаміў у органы пра падазроную жанчыну з дзецьмі, якія з'явіліся ў вёсцы: «По нашим сведениям это недобитый кулацкий выводок, который бежал из спецпоселения».

І Марыю Аляксандраўну зноў адправілі этапам у Комі-Пярмяцкую акругу. Але яна ненадоўга затрымалася там, зноў рашылася на пабег. На гэты раз паехала не да родзічаў, а надзвычай смела – у роднае Засмужжа. На дзіва, яе і дзяцей пэўны час ніхто не чапаў.

Калі зноў пачалося паляванне на «ворагаў народа», дабраліся і да Марыі Аляксандраўны. У 1937 г. яе арыштавалі. Віна жанчыны была ў тым, што ў яе не аказалася пашпарта і што жонка ворага народа. А пашпарта няма – пяць гадоў лагераў. Вось тады яна білася ў адчаі:

– Хто паглядзіць вас, мае сірацінкі? Што за ўлада такая, якая не шкадуе дзяцей?

...Спецвагон зноў узяў курс на ўсход. Аднак ужо не на Урал, а бліжэй, у Ніжні Ноўгарад. Прабыла там Марыя Аляксандраўна да пачатку 1941 г. Можа, за прыкладныя паводзіны і сумленную працу ёй зменшылі тэрмін. Выдалі нават па даведцы ГУЛАГа новы пашпарт, які сёння як рэліквію захоўваем у сям'і.

Я лічу, што мая бабуля здзейсніла сапраўдны подзвіг. Подзвіг мацярынства і чалавечай годнасці. Столькі пакут




Анатоль Статкевіч-Чабаганаў.
Ленінград. 1965 г.

выпала на яе долю, а яна не скарылася, не ачарсцвела, не замкнулася ў сваім горы, а стала яшчэ высакародней. Памятаю яе толькі жыццярадаснай. Яна ніколі ні на што не скардзілася, заўсёды была прыветлівая. Незабыўная карціна: бабуля сядзіць на лаўцы каля свайго дома, а ўсе, хто ні праходзіць, спыняюцца, сядаюць побач з ёй, каб пагаварыць. Яна была абаяльным, спагадлівым, добразычлівым чалавекам, усім старалася дапамагчы, параіць, падказаць. А нас, унукаў, прымушала вучыцца:

– Толя, навука не торба, за плячыма насіць не трэба.

А калі-небудзь і жартавала:

– Толя, пагуляй – яшчэ наробішся.

Дарэчы, задоўга да школы яна навучыла мяне чытаць і пісаць. Заўсёды радавалася і вельмі ганарылася маімі поспехамі.

Хоць Марыя Аляксандраўна і скончыла толькі царкоўнапрыходскую школу, яна была ўдумлівым чалавекам, ведала пра ўсе падзеі, разумела тое, што адбываецца. Любіла размаўляць са мною, але час быў няпросты, яшчэ не знікла пачуццё страху пасля ўсіх выпрабаванняў, таму бабуля мала расказвала пра мінулае. Не хацела, баялася, што мы, дзеці, пачнём гаварыць нешта на вуліцы, абмяркоўваць. Карацей, асцярожнічала – і правільна рабіла.

...Студэнтам я працаваў у будаўнічым атрадзе. Атрымаўшы першы ў сваім жыцці заробак, я захацеў зрабіць бабулі прыемнае і купіў ёй прыгожую хустку. Такія хусткі ў той час чамусьці называліся тараноўкамі. Бабуля, памятаю, моцна расчулілася і, заплакаўшы, сказала, што тую хустку будзе ўсё жыццё берагчы і каб яе ў ёй пахавалі. Бабуліны пачуцці перадаліся і мне, з сумам падумалася, што, магчыма, яна атрымала першы ў жыцці падарунак. У адно імгненне я быццам адчуў на сабе ўсю яе нялёгкую долю. І калі мне бывае асабліва цяжка, я ўспамінаю бабулю: яна вытрывала. Вытрываю і я.



Дубілаўскія могілкі за два кіламетры ад вёскі Засмужжа Любанскага раёна. Тут пахаваны бабуля Марыя Аляксандраўна, цётка Зоя, дзядзька Мікола і іншыя родзічы Анатоля Статкевіча-Чабаганава.

# МАЯ МАМА – АЛЯКСАНДРА МІХАЙЛАЎНА САЦКЕВІЧ-СТАТКЕВІЧ

Успамінаючы маму, заўсёды думаю, колькі выпрабаванняў выпала на яе долю. У шэсць гадоў апынулася ў ссылцы ў невядомым глухім краі, дзе ў люты мароз сярод бясконцых снягоў трэба было выжыць. Холад, голад, безнадзейнасць. Але ўсё стрывала, вынесла гэтая кволая дзяўчынка. А потым зноў паласа няўдач. Не паспелі вярнуцца ў Засмужжа з далёкай Комі-Пярмяцкай акругі, як бабулю ў 1937 г. паўторна арыштавалі і адправілі этапам на Волгу. Мая мама і двое яе брацікаў засталіся адны. У іх і даху над галавою не было. Бацькоўскі дом за час ссылкі засялілі, там гаспадарылі іншыя людзі. Давялося зноў гараваць, спаць у кузні, бо там было цёпла і каваль аказаўся добрым чалавекам. А вось каб пракарміцца, прыйшлося жабраваць, самага малодшага Колечку пасылаць у іншую вёску хадзіць з працягнутай рукой. Ён увесь час капрызіў, не хацеў туды ісці. Яно і зразумела: вясковыя хлапчукі абражалі, кідалі ў яго камяні, дражнілі «кулаком». Але хлопчыку вешалі торбу на шыю і зноў выпраўлялі ў Абчын. Добра, што старшыня мясцовага калгаса Аляксандр Іванавіч Свінко пашкадаваў сірот: замацаваў за імі жанчыну, якая гатавала для дзяцей абеды. Учынак кіраўніка



Аляксандра Міхайлаўна Статкевіч (Сацкевіч-Статкевіч), студэнтка Слуцкага педагагічнага вучылішча. 1939 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 633/483).



Бацькі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Аляксандра Міхайлаўна Статкевіч і Васіль Аляксандравіч Чабаганаў. Любань. 1946 г.

быў вельмі смелы для таго часу. Да сённяшняга дня мы ўдзячныя гэтаму чалавеку за яго дабрыню.

У 1939 г. маме было ўжо 15 гадоў, але яе не прымалі ў камсамол, не пускалі на танцы, усяляк прыніжалі. Не вытрымаўшы здзекаў, мама паехала з Засмужжа да цёткі ў Млынку. Там яна прыняла рашэнне паступаць у Слуцкае педвучылішча. Нейкая перспектыва з'явілася толькі пасля паспяховага заканчэння яго ў 1941 г. – адкрывалася дарога ў самастойнае жыццё. Але пачалася вайна, што стала для мамы новым цяжкім выпрабаваннем.

Адзначу, што яе браты, мае дзядзькі, зведаўшы столькі пакут, не затаілі злосці на ўладу. Наадварот, падлеткамі пайшлі ў партызаны і мужна змагаліся з агульным ворагам. У канцы 1943 г. немцы пачалі наладжваць аблавы і хапаць моладзь для работы ў Германіі. У першую чаргу па даносах паліцэйскіх адпраўлялі тых, хто быў нядобранадзейны, меў сувязь з партызанамі. Фашысты схапілі і маю маму. Прыгадваючы, яна горка жартавала:

– Да гэтага перасьледавалі за тое, што мы быццам супраць бальшавікоў, а пасля – за тое, што з бальшавікамі...

Маму прывезлі на станцыю Урэчча, дзе беларускую моладзь рыхтавалі да адпраўкі ў Германію, але ў тыя дні лютаваў тыф. Захварэла на яго і мама. Фашысты вельмі баяліся гэтай хваробы. Дзяўчыну з высокай тэмпературай тэрмінова завезлі ў любанскую бальніцу. Немец-урач, агледзеўшы яе, махнуў рукой: капут, не жылец на гэтым свеце. Мама сапраўды была пры смерці.

Так здарылася, што ў бальніцу прыехала жанчына з суседняй вёскі за паміраючым мужам. Нямецкі ўрач, даведаўшыся пра гэта, праявіў незвычайную міласэрнасць. Ён пашкадаваў дзяўчыну, не выкінуў у барак для тыфозных, дзе ніхто не даглядаў хворых, а папрасіў тую жанчыну забраць маю маму з сабой і завезці дадому: можа, родныя сцены вылечаць, свежае паветра паставіць на ногі.

У дарозе таксама здарылася нешта незвычайнае, быццам анёл-ахоўнік аберагаў няшчасную. Падвода рухалася павольна, і яе абагнала павозка, на якой ехалі жыхары Засмужжа. Толькі яна схавалася за паваротам, як прагрымеў выбух. Аказалася, дарога была замініравана. Усе людзі загінулі, а вось кабыла ўцалела, ёй толькі выбіла вока. Пасля вайны яна яшчэ доўга служыла людзям у мясцовым калгасе, у яе была мянушка Сляпая.

Пасведчанне Аляксандры Міхайлаўны Статкевіч аб заканчэнні курсаў павышэння кваліфікацыі бухгалтараў. Мінск. 1954 г.


Белорусский потребсоюз

УДОСТОВЕРЕНИЕ № 7559

Настоящее удостоверение выдано гр. Статкевич Александре Михайловне рождения 1924 г. в том, что она окончила курсы повышения квалификации бухгалтеров сельпо и предприятий райпотребсоюзов.

За время обучения на курсах с 12 Августа 1954 г. по 17 Ноября 1954 г. гр. Статкевич А. М. выполнила учебный план, утвержденный Министерством высшего образования СССР за № 84/вз от 14 июля 1952 г., и сдала испытания по следующим дисциплинам:

I. КУРСОВЫЕ ЭКЗАМЕНЫ И ЗАЧЕТЫ

| №№ п/п | Наименование дисциплин | Количество часов по учебному плану | Оценка успеваемости |
|---|---|---|---|
| 1 | История КПСС. | 118. | 5 (Отлично) |
| 2 | Бухгалтерский учет | 200. | 5. (Отлично) |
| 3 | Финансирование и кредитование. | 50. | 4. (Хорошо) |
| 4 | Экономика и планирование | 60. | 5. (Отлично) |
| 5 | Основы [illegible] | 30. | 5 (Отлично) |
| 6 | Основы советского права. | 30. | 5 (Отлично) |

II. ВЫПУСКНЫЕ ЭКЗАМЕНЫ

1. История КПСС. 5. (Отлично)
2. Бухгалтерский учет. 5. (Отлично)
3.

Директор курсов

Секретарь

16 Ноября 1954 г.


Аляксандра Міхайлаўна Статкевіч. 1944 г.

Мама часта ўзгадвала той выпадак і лічыла, што Бог выратаваў яе ад непазбежнай смерці. Ён і тыф дапамог пераадолець. Дома яе адпаілі малаком, сагрэлі клопатам і ўвагай. Дзяўчына паправілася, расквітнела, стала вельмі прывабнай. Невыпадкова яе ў 1944 г. заўважыў былы партызанскі камандзір Васіль Чабаганаў. Ён ваяваў у пухавіцкіх лясах, а калі прыйшла Савецкая Армія, быў адпраўлены ў Маскву на вучобу, пасля чаго прыехаў у любанскі край упаўнаважаным па нарыхтоўках. А мама там жа, у Любані, працавала бухгалтарам.

Адным з галоўных лозунгаў Савецкай улады ў той час быў наступны: «Сацыялізм – гэта ўлік». Маме давялося перакваліфікавацца з настаўніка ў бухгалтара. Скончыла курсы, атрымала пасведчанне. Працавала на базе ў райспажыўсаюзе, яе паважалі, прыводзілі ў прыклад. Даслужылася да галоўнага бухгалтара. За ўсё сваё працоўнае жыццё мама так і не пабывала ў адпачынку. Не памятаю, каб калі-небудзь сядзела склаўшы рукі. Маці-гераіня, яна нарадзіла і выхавала пяцярых дзяцей. Марыла, каб кожнае яе дзіця атрымала вышэйшую адукацыю. І дамаглася свайго: усе мы скончылі прэстыжныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, нехта нават з адзнакай. Мама вельмі ганарылася гэтым, часта гаварыла суседзям: «Якія ў мяне харошыя дзеці».

Аднавяскоўцы паважалі маму і за яе жыццёвую мудрасць. Прыходзілі параіцца па самых розных пытаннях. Нават калі мама была на заслужаным адпачынку, да яе часта звярталіся з просьбаю пераправерыць разлік пенсій. І яна дапамагала. Добра ведала заканадаўства, заўсёды чытала газеты. У райфінаддзеле гаварылі: калі Аляксандра Міхайлаўна пералічыла каму-небудзь пенсію, то можна і не спрачацца, бессэнсоўна. Яна і мне казала: «А ты, Толя, чытаў, бачыў новыя дапаўненні да закона?» Пастаянна хвалявалася за мяне і мае справы. Клапацілася, каб не дапусціў памылкі, пры гэтым заўсёды папярэджвала:

Узнагароды маці Анатоля Статкевіча-Чабаганава



«Медаль Мацярынства» II ступені.




Медаль «За доблесную працу ў азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння В. І. Леніна».



Медаль «Ветэран Працы».

– Толя, помні, вялікая лыжка рот дзярэ.

Памерла мама на 80-м годзе жыцця. Яна не хацела, каб яе пахавалі ў Засмужжы, дзе столькі ўсяго прыйшлося перажыць. Знайшла апошні спачын на Паўночных могілках у Мінску. Там усталяваны помнік і адначасова мемарыял усім маім рэпрэсіраваным у 1930-я гг. родзічам: мама ў тужлівай паставе абапіраецца на старажытную амфару з дваранскімі гербамі яе бацькоў – Статкевічаў і Карафа-Корбутаў. Каля ног мамы – крыж, на якім увекавечаны прозвішчы тых яе блізкіх, чые магілы невядомы:

бацькі *Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча* (расстраляны 06.03.1930 г.);

брата *Івана Міхайлавіча Сацкевіча-Статкевіча* (загінуў у ссылцы ў 1930 г.);

дзядзькі *Васіля Пятровіча Карафа-Корбута* (расстраляны 06.03.1930 г.);

дзядзькі *Георгія Аляксандравіча Карафа-Корбута* (26.11.1885–1930).

Жыццё мамінага дзядзькі Георгія таксама склалася трагічна. Па дарозе ў ссылку на станцыі Урэчча Любанскага раёна, чакаючы цягнік, яму давялося спаць на сырой зямлі. Моцна прастуджанага, хворага, яго разлучылі з сям'ёй, і да гэтага часу лёс дзядзькі невядомы. Сям'я Георгія Аляксандравіча так і засталася назаўсёды ў Комі-Пярмяцкім краі. Яго старэйшыя сыны Сцяпан, Мікалай і Іван былі высланы ў Сібір...




Помнік-мемарыял родзічам Анатоля Статкевіча-Чабаганава. Паўночныя могілкі. Мінск. *Скульптар Сяргей Бандарэнка.*

# МОЙ ДЗЯДЗЬКА – ІВАН САЦКЕВІЧ-СТАТКЕВІЧ



Іван Міхайлавіч Сацкевіч-Статкевіч. 1916 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 629/483).

Лёс дзядзькі Івана займае асаблівае месца ў памяці нашай сям'і.

Гэта быў адораны і вельмі працавіты чалавек. Пасля Слуцкай гімназіі, якую закончыў з адзнакай, у інстытут яго не прынялі, бо паходзіў з дваранскага роду. Нават дакументы адмовіліся браць, таму давялося вярнуцца ў вёску Засмужжа, дзе ён доўга не затрымаўся. Паступіў у Слуцк на фізіка-матэматычныя курсы, паспяхова закончыў іх. Здавалася б, працуй, прымяняй на практыцы свае веды. Але ўжо ішоў трагічны 1930 год, і лёс Івана, якому толькі споўнілася 22 гады, быў прадвызначаны.

Івана з Мікалаем, сынам нашага блізкага родзіча Васіля Пятровіча Карафа-Корбута, якога расстралялі разам з маім дзедам у Бабруйску, выслалі ва Уральскую вобласць на лесапавал…

Думка пра ўцёкі, відаць, прыйшла да іх адразу. Мабыць, седзячы ў час кароткіх адпачынкаў каля імклівай горнай ракі, яны не раз абмяркоўвалі дэталі рызыкоўнай справы. Радавала, што аховы амаль няма. Уцячы не будзе праблем: пакуль схопяцца, то яны апынуцца далёка.

Галоўнае – сесці незаўважанымі на цягнік і дабрацца да Любаншчыны, а там – сваякі…

«Перабудзем дзень-два і – за кардон», – суцяшаў Іван. Мікалай слухаў, пагаджаўся, але і сумняваўся:

– Каб перайсці на польскі бок, трэба добра ведаць, дзе мяжа, пасты, калі абходы.

– Ёсць у нас на Любаншчыне маладыя родзічы, не ўсіх забралі. Думаю, ім усё вядома. Можа, яшчэ і разам з намі пойдуць.

Але Мікалай не супакойваўся, патрабаваў удакладненняў:

– Добра, нам пашанцавала, мы на тым баку. Але хто паверыць, што мы не лазутчыкі, не бальшавіцкія шпіёны?

– І тут я ўсё прадумаў, брат. Там жыве наш сваяк Іван Тычына – польскі афіцэр. Ды ты яго, напэўна, ведаеш. Я думаю, ён за нас паручыцца.



Іван Сацкевіч-Статкевіч (стаіць). Слуцкая гімназія. 1920 г.

У канцы жніўня змоўшчыкі рушылі ў дарогу. Ім шанцавала: без усякіх перашкод дабраліся да родных мясцін. Спачатку спыніліся ў Мікалаевага брата – Віктара, які працаваў рахункаводам у калгасе «Чырвоны штурмавік», на Старобіншчыне. Віктар дапамог дакументамі, якія пацвярджалі, што хлопцы – работнікі мясцовага калгаса. Затым уцекачы накіраваліся ў Засмужжа і аблюбавалі для часовага пражывання хлеў цёткі Зоі, яна нават і не заўважыла іх прысутнасці. Толькі праз некаторы час убачыла надпіс на старым драўляным ложку, выразаны нажом: «Тут былі Іван Статкевіч і Мікалай Корбут».

Праваднiка яны адшукалі адразу. Ім згадзіўся быць малодшы брат Мікалая Васіль. Ён збіраўся таксама застацца на польскім баку. Дамовіліся, што пераходзіць мяжу будуць раніцай, калі ўсе спяць, а ўвага вартаўнікоў прытупляецца. У пачатку верасня, на зыходзе дажджлівай ночы, выправіліся ў дарогу. І зноў ім шанцавала, усё было ціха і спакойна. Уцекачы ўжо думалі, што яны на польскім баку і, радас-

ныя, вырашылі раскласці вогнішча, каб хоць трошкі сагрэцца.

Трое маладых людзей схіліліся над агеньчыкам, калі раптам пачуўся вокрык:

– Стаяць! Рукі ўверх!

Уцекачы азірнуліся: чырвонаармейцы! Хлопцы кінуліся ў розныя бакі. Загрымелі стрэлы. Мікалая паранілі ў жывот. Івана схапілі пагранічнікі. А чатырнаццацігадовы Васіль знік, засталася толькі шапка. Затрыманыя толькі пазней даведаліся, што да польскай мяжы было не больш як сто метраў...

Як жа склаўся лёс уцекачоў? Пра малодшага Васіля хадзілі чуткі, што да 1941 г. ён працаваў у Гомелі на лесапільным заводзе. У час вайны прапаў без вестак. Мікалай Васільевіч Корбут пасля ссылкі не вярнуўся на радзіму. Толькі праз 25 гадоў, у канцы 1950-х, наведаў Засмужжа. Тады і расказаў пра ўцёкі і трагічны лёс Івана.



Іван Міхайлавіч Сацкевіч-Статкевіч. 1929 г.

Братоў паўторна судзілі. На пытанне следчага пра мэту ўцёкаў, як стала вядома з дакументаў АДПУ, дзядзька Іван шчыра адказаў: «Не мелі ў СССР чалавечых правоў». Ім далі па пяць гадоў строгага рэжыму і адправілі ў горны Казахстан. Зноў глухія мясціны, лесасплаў. Іван быў пісьменным чалавекам. Яго прызначылі рахункаводам, і гэта давала шанс выжыць. Але аднойчы здарыўся аўрал: не выконваўся план. Усё рабілася ў спешцы, а дзе спешка, там бяда. Адзін плыт дрэнна прымацавалі, і калі Іван з Мікалаем узышлі на яго, плыт перакуліўся. Абодва апынуліся ў ледзяной вадзе і, пакуль выбіраліся, моцна прамерзлі. Каб неяк са-

грэцца, кінуліся бегчы да самых баракаў. У хуткім часе ў абодвух пачаўся жар, а доктара і лекаў не было. Мікалай выжыў, а Івана пахавалі...

Расказаў Мікалай і пра сябе. У 1933 г. ён па падробленых дакументах на прозвішча ссыльнага Шабанава зноў спрабаваў уцячы ў Польшчу. Не ўдалося. Затрымалі ўжо не пагранічнікі, а пільныя калгаснікі, якія заўважылі незнаёмага чалавека. Зноў ссылка. На гэты раз Карэлія, дзе вялося адно з галоўных будаўніцтваў сталінскага сацыялізму – Беламорска-Балтыйскі канал.



Браты Мікалай (сядзіць), Васіль (злева) і Віктар Карафа-Корбуты. 1929 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 343/227, 344/227, 345/227).

Там, у Сягежы, ён пазнаёміўся і пасябраваў са зняволеным, які меў знакамітае прозвішча Пушкін. Калі ў 1936 г. Мікалая вызвалілі і накіравалі на месца жыхарства ў Андзіжан, яго сябар Іван Пушкін напісаў на памяць развітальны верш, які нават змог надрукаваць на лагернай машынцы. Гэты верш Мікалаю ўдалося захаваць.

Пасля ссылкі Мікалай Васільевіч застаўся жыць у Сярэдняй Азіі. Пахаваны ў Алматы. У няскоранага ўцекача ёсць сын Анатоль, які асталяваўся ў Калінінградзе.

Віктар, які дапамагаў сваім братам-уцекачам, у 1944 г. пайшоў на фронт і, як значыцца ў пахавальным лісце, «загінуў смерцю храбрых за нашу Савецкую Радзіму».

Вось так склаліся пакутныя лёсы маіх дзядзькоў, на прыкладзе якіх можна прасачыць лёс краіны ў тыя далёкія і няпростыя гады.



1.

В ДОБРЫЙ ПУТЬ!

/ Стихотворение/.

Посвящаю товарищу по работе
КОЛЕ КОРБУТ.

Ветр северный пронзительно-морозный
Будет провожать тебя в веселый дальний путь,
Не забудь же друг мой на прощанье
По Карелии немножечко всплакнуть.
Хоть тебе здесь и изрядно надоело
Прозябать в лесных карельских пустырях,
Но до этого какое зайцам дело,
Или белкам на заиневших соснах.
Здесь свои красоты лес имеет,
Но я знаю не прельстит тебя капкан!
Ты уедешь в край где солнце лаской греет
В знойный и далекий АНДИЖАН.
И, в догонку, лишь холодною поземкой
Поезд след свой снежный заметет,
И разноголосо, шумно, звонко
Мимо Ленинграда пронесет.
Там под знойным небом Андижана
Может вспомнится тебе Карельский край,
Так когда пойдут там караваны
Ты друзьям письмишко присылай.
Пусть в лесах карельских и болотах
Хоть повеет радостным теплом,
Правда расставаться нет охоты,
Но грустить ведь тоже не о чем.
Посему жму руку крепко, крепко
На прощанье. И желаю добрый путь!
Не забудь же в знойном АНДИЖАНЕ
По Карелии немножечко всплакнуть.

ИВ. ПУШКИН.

СЕГЕЖА,
1936г. 21 ЯНВАРЯ.

Верш Івана Пушкіна, прысвечаны сябру Мікалаю Васільевічу Карафа-Корбуту. Сягежа, лагер. 21.01.1936 г.

# З СЯМЕЙНЫХ ГІСТОРЫЙ

### Наша Ганна выходзіць замуж

Сястра майго дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча Ганна збіралася замуж, але жаніхі ёй усё не падабаліся. Сорак два разы сваталі яе, а яна ўсім адмаўляла. І нарэшце ўсё-такі спадабаўся дзяўчыне пан Забродскі, які прывабіў яе тым, што прыехаў на шыкоўнай павозцы з фурманам, у белых пальчатках. Ды і з твару ён быў прыгожы. Карацей, пагадзілася Ганна на вяселле.

Гулянне было пышнае: з'ехалася каля сотні гасцей, сталы ад пачастункаў прагіналіся. І тут нечакана высветлілася, што маладая на шэсць гадоў старэйшая за жаніха. Узняўся шум, асабліва абураліся сваякі пана Забродскага:

– Маладая ва ўзросце! Нам схлусілі! Мы супраць такога шлюбу!

Збіраліся пакінуць вяселле. Выратаваў сітуацыю знаходлівы сват – Іван Віктаравіч Карафа-Корбут. Ён даў каманду ўсіх коней, на якіх прыехалі Забродскія, зачыніць у хляве пад ключ. Гасцям сказаў:

– Дарагія госцейкі! Паглядзіце на сталы, чаго на іх толькі няма, столькі страў і пачастункаў! Усё гэта каштуе нямала. Грошы на стол – і разыходзімся.

Госці пачухалі патыліцы:

– Добра, давайце вып'ем па адной і падумаем...

Выпілі па адной чарцы, затым па другой, развесяліліся, загаманілі і забылі пра ўзрост маладой. Адгулялі вяселле як мае быць.



Ганна Іванаўна Забродская (Сацкевіч-Статкевіч). Слуцк. 1920 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 488/321).

І самае цікавае – маладыя жылі дружна. Нават у нялёгкі час ссылкі сям'я не распалася. Ганна перажыла свайго пана Забродскага на некалькі гадоў.

У Гомелі працавала настаўніцай іх дачка Зоя. Як і многія ў нашым родзе, была набожным чалавекам. Яе часта бачылі за малітваю ў адной з гарадскіх цэркваў...

## Марыя Вечар

Другая сястра майго дзеда Марыя сабралася выйсці замуж за беднага шляхціча па прозвішчы Вечар. Давялося аддаць: яна была ўжо цяжарная. Мой дзед стаў клапаціцца пра новую сям'ю. Калі жаніх бедны, няма ў яго зямлі, то трэба даць яму хутар – няхай у маладых усё ладзіцца і дабро нажываюць. Міхаіл Іванавіч сказаў швагру: «Вось табе зямля, бяры, гаспадарнічай!» Аднак сваяк заўпарціўся. Маўляў, не пайду я туды, душа не ляжыць.



Марыя Вечар (Сацкевіч-Статкевіч) разам з унукамі Алікам, Мішам, Жэнем і Ванем.
Вёска Засмужжа. 1956 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 485/321).

– Добра, – кажа дзед. – Тады я даю табе іншы хутар.

Швагер зноў адмовіўся. Доўга яны так спрачаліся. Міхаіл Іванавіч угаворваў, а муж Марыі толькі губы надзімаў. На другі дзень – тая ж песня: зноў паспрачаюцца, затым паміраюцца. Урэшце мой дзед не вытрымаў і рэзка сказаў:

– Апошні раз прапаноўваю: бяры хутар!

– Не вазьму, – зноў упарціцца ён.

– Усё! Будзеш на каленях прасіць – не дам, – адрэзаў Міхаіл Іванавіч.

Прайшоў час, наш швагер адумаўся. Пасля некалькі разоў прасіў зямлі, але дзед не даў. Чалавек ён быў строгі і заўсёды трымаў слова, якое ў яго ніколі не разыходзілася са справаю.

### Мой сябра вяз

Адны з самых яскравых успамінаў дзіцячай пары: на нашым былым надзеле, які адышоў ужо да калгаса, рос велічэзны, у некалькі абхватаў вяз, пасаджаны маімі продкамі ў XIX ст. Дрэва стала маім любімым, пад ім я і правёў дзіцячыя гады. Там я марыў пра будучыню, планаваў нешта, але часцей за ўсё пад гэтым вязам мы гулялі з вясковымі хлапчукамі. Дарэчы, на нашым вязе гняздзіліся буслы, і мы любілі назіраць, як птушаняткі мацуюць крылы, а над кронай велікана праплываюць караваны белых аблокаў.

У 1960-я гг. вяз хацелі выкарчаваць: вельмі ганарліва стаяў ён пасярод калгаснага поля і перашкаджаў сеяць кукурузу квадратна-гнездавым спосабам. Зачапілі яго двума магутнымі трактарамі-«сталінцамі», пацягнулі, але тросы лопнулі – вяз выстаяў.

І вось аднойчы, прыехаўшы ў вёску, я ўбачыў, што вяза няма. Зваліўся ад старасці. Стала вельмі балюча на душы, бо для мяне гэта было знакавае дрэва, якое звязвала з мінулым, з любімымі мясцінамі. Я прыязджаў, ішоў да яго, слухаў шэпт лістоты, як далёкую песню, дакранаўся да кары, згадваў мінулае... І вось вяза не стала, а з ім адышло нешта важнае, што так вабіла мяне ў Засмужжа, – я пачаў рэдка ездзіць у родную вёску, а зялёны сябра заўсёды стаяў перад вачыма.

Прайшоў час. І я захацеў пасадзіць вяз каля свайго дома. Якраз на Любаншчыну збіраўся мой сябар, і я папрасіў яго знайсці добрае



Анатоль Статкевіч-Чабаганаў з унукамі Серафімам
і Маркам каля ніцага вяза. 03.07.2011 г.

дрэўца. Ён выканаў маю просьбу. Палюбаваўшыся на палескага прыгажуна, мы адразу пачалі пасадку. Я ўзяў рыдлёўку, пачаў капаць, і раптам здарылася загадкавае. У мяне ніколі раней не ішла кроў з носа, а тут проста хлынула. Думаю, гэта здарылася ад моцнага перажывання, навеянага ўспамінамі. Прыяцель спалохаўся, прыбегла ўсхваляваная жонка…

На жаль, вяз не прыняўся: зайцы зімой аб'елі кару. Звычайна яны ласуюцца карой садовых дрэў, а тут чамусьці на вяз напалі. Пасля, у мой юбілей, сябры на гэтым месцы пасадзілі дуб, які выкапалі ў лесе. І дуб прыжыўся.

Але пра вяз я не забыў. Мне падказалі, што ў адным зелянгасе ёсць рэдкае дрэва – вяз ніцы. Хоць і з цяжкасцю, але ўдалося яго набыць.

Цяпер недалёка ад пасаджанага раней дуба расце ніцы вяз як памяць пра майго расстралянага дзеда, пра ўсіх родзічаў, якім многае давялося перажыць у далёкія 1930-я гады. Галінкі вяза звісаюць да зямлі і сцелюцца па ёй. Расце ён і быццам плача пра страчанае і «знесенае ветрам» пакаленне беларускай шляхты…

Яўген Казюкін

*Анатолю Статкевічу-Чабаганаву – з удзячнасцю за вялікую справу вяртання да родных вытокаў.*

* * *

*Думаў я і часінаю летняй,*
*Думаў я і у люты мароз:*
*Што за вецер знёс род мой шляхетны,*
*Што за вораг іх помнікі знёс?*

*Я ішоў да магутнага вяза...*
*Сумаваў ля Арэсы-ракі.*
*Хто зламаў столькі лёсаў адразу?*
*Хто сказаў, што мой род – кулакі?*

*Ні крыжоў, ні маёнткаў, ні здымкаў –*
*Толькі подпісы долу лятуць.*
*Прыхінуся да вяза хаця б на хвілінку –*
*Запаветнае нешта пачуць.*

*І шапоча лістота нястомна:*
*Ты мінулае лепш не кляні.*
*Памаліся за продкаў, і помні,*
*І заўсёды шануй карані.*

# РАДАВОДНЫЯ РОСПІСЫ

*Род Сацкевічаў-Статкевічаў герба «Касцеша» прызнаны ў дваранстве пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.06.1802 г. і 13.07.1816 г., зацверджаны ўказамі Сената № 3776 ад 11.06.1856 г. і № 4458 ад 15.05.1862 г.*

### I КАЛЕНА

1/1 **Пётр,** *1320 г. н., баярын. Валодаў землямі ў Аршанскай воласці.

### II КАЛЕНА

2/1 **Сцецка,** *1360 г. н., дваранін ВКЛ, войт магілёўскі і слуцкі. Валодаў землямі ў Аршанскай воласці. Ад яго імя і паходзіць прозвішча Статкевіч.

### III КАЛЕНА

3/2 **Ждан Статкевіч,** *1400 г. н., каралеўскі дваранін. Валодаў маёнткамі Любанічы, Чаркасава, Расасна Аршанскага павета. «Валодаў вышэйназванай зямельнай маёмасцю па дзедзічным праве».

4 **[Сачко],** *1420 г. н., маршалак гаспадарскі. Валодаў маёнткам Сачкевічы на Ліпах. Падпісваў у 1447–1455 гг. прывілеі велікакняжацкай канцылярыі.

*Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. СПб., 1910. С. 6, 9, 22, 25, 30, 33, 89, 91, 104, 116, 121.*

### IV КАЛЕНА

5/3 **Андрэй,** *1430 г. н., ротмістр і каралеўскі дваранін. Жыў у часы Казіміра IV Ягелончыка, вялікага князя літоўскага [1440–1492] і караля польскага [1447–1492]. Валодаў маёнткамі Любанічы, Чаркасава, Расасна.

6/3 **Яўмен,** *1435 г. н., баярын.

7/3 **Фама (Тамаш),** *1440 г. н., баярын.

8/4 **Мікіта Сачкевіч,** *1460 г. н. Памёр да 1528 г.

9/4 **Багдан Сачкевіч.** Згадваецца ў адправе ад 18.02.1509 г. маршалка і сакратара пана Івана Сапегі: «Богдану Сачковичу 12 копъ з в[и]н там [Бельских]».

*Литовская метрика (1499–1514). Книга записей № 8. Вильнюс, 1955. Документ № 558.*

Згадваецца ў справе свержанскага святара Ляўшы з людзьмі навагрудскага баярына Багдана Сачковіча аб украдзеных конях, *1515 г.

*Метрика ВКЛ. Книга судных дел (1506–1523), кн. 1 (221). СПб., 1903. Документ № 185. С. 244.*

Таксама згадваецца ў перапісе войска ВКЛ ад замка гаспадарскага Навагрудскага, 1528 г.: «Богдан Сачковичъ конь».

*Метрыка ВКЛ. Кніга 523 публічных спраў. Мн., 2003. С. 64, [37 адв.].*

Прадаў 16.05.1528 г. пані троцкай Ганне Янавай Мікалаевіча «дуброўку Пятроўшчыну» за 6 коп грошаў[1].



По описи утвержденныхъ дѣлъ № 159

томъ II

ДѢЛО

Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія

о дворянскомъ происхожденіи

рода Сацкевичей-Стецкевичей

Первоначальныя опредѣленія Депут. Собранія

21 июня 1802 года

Указъ Правительствующаго Сената объ утвержденіи

отъ 11 июня 185[illegible] года, за № 3776

Справа Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу аб дваранскім паходжанні роду Сацкевічаў-Статкевічаў. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091.*

9а/4 **Фёдар.** Згадваецца ў перапісе войска ВКЛ ад замка гаспадарскага Навагрудскага, 1528 г.: «Федоровая Сачковича кон[ь]».

*Метрыка ВКЛ. Кніга 523 публічных спраў. Мн., 2003. С. 64, [37 адв.].*

## V КАЛЕНА

10/5 **Іван (Івашка),** *1470–1554 гг., дваранін гаспадарскі. Валодаў разам з братам Пятром 4 службамі людзей: Гадаева, Хомінскае, Жалезнае, Панкратаўшчына Любавецкай воласці па прывілеі Аляксандра, вялікага князя літоўскага [1492–1506] і караля польскага [1501–1506], па пацвярджальным прывілеі ад 05.03.1509 г. Жыгімонта I Старога, вялікага князя літоўскага і караля польскага [1506–1548][2], 1 службай людзей Шылава Любавецкай воласці па прывілеі Жыгімонта I Старога (тэкст прывілея не знойдзены). Акрамя таго, валодаў сялом Рагозінскім Расасенскай воласці Аршанскага павета (гэтым сялом валодаў Сцяпан Рагоза, баярын князя Ашамячына, па прывілеі караля Аляксандра; пасля ўцёкаў Сцяпана ў Маскву сяло перайшло ў рукі Івашкі Чаркаса, першага мужа Марыі Сачкоўны, а ад Марыі – яе сыну Багдану ад другога мужа Івана Статкевіча). Валодаў землямі ў Смаленскай воласці, плаціў 18.02.1500 г. падатак «с вин Троцких» у памеры 8 коп грошаў літоўскіх, плаціў 18.02.1509 г. «отправу денег боярам»[3], плаціў 25.02 і 26.02.1509 г. падатак «с вин Бельских» у памеры 8 коп грошаў літоўскіх[4], плаціў 08.02.1510 г. «отправу смолянам» у памеры 10 коп грошаў літоўскіх[5].

Жонкі: 1. (?) князёўна Чацвярцінская, як памылкова лічыў польскі даследчык XVIII ст. Нясецкі. 2. (?) Марыя Сачкоўна (у першым шлюбе за Івашкам Чаркасам). Згадваецца як Марыя Маскоўна ў Літоўскай метрыцы, кн. 20 (КМФ), дакумент ад 29.06.1537 г., с. 61 адв. – 62. Згадваецца як Марыя Сачкоўна ў Літоўскай метрыцы, кн. 51 (Вільнюс, 2000), дакумент № 234 ад 01.01.1558 г.

11/5 **Пётр,** *1475–1559 гг., дваранін гаспадарскі. Валодаў тымі ж маёнткамі і службамі, што і яго родны брат Іван. Згадваўся ў дакуменце 05.03.1509 г.[6]

12/8 **Ждан Сачкевіч.** Разам з роднымі братамі Матфеем, Лявонам Мікіцічавымі Сачковічамі і братанічамі (пляменнікамі) Федкам і Лёнькам Сцецкавічавымі прадалі 16.05.1528 г. пані троцкай Ганне Янавай Мікалаевіча 4 часткі двара іх спадчыннага старога на Ліпах на рацэ Бролніца за 100 коп грошаў літоўскай манетай[7].

Прадалі (пацвярджэнне Жыгімонта пані троцкай Янавай Мікалаевіча Ганне Станіславаўне ад 05.09.1526) «Ждан, а Левон, а Тишка, а Ивашка, братья родные Микитичи Сачкевичи, часть именья ихъ близько Несвижа, которое есть у границах ее ж на двухъ местъцохъ, первое у Когоновичох, ч(о)л(о)века их отчизного непохожого на имя Ходорца Олексича зь его трыма сынъми, Хролцомъ, а Бурисцомъ, а Степанцомъ, и со всею их землею, а у Воиниловичохъ тры следы на имя Кунашовщину, Кузмновъщину а Левоновщину, со всимъ обель вечно, за шестьдесять копъ грошеи литовское монеты».

*Литовская метрика. Книга № 12 (1522–1529). Вильнюс, 2001. Документ 599. С. 460.*

Згадваецца ў перапісе войска ВКЛ ад замка гаспадарскага Навагрудскага, 1528 г.: «Ждан Сачковичъ кон[ь]».

*Метрыка ВКЛ. Кніга 523 публічных спраў. Мн., 2003. С. 64, [37 адв.].*

13/8 **Матфей Сачкевіч.**

14/8 **Лявон Сачкевіч.** Згадваецца ў перапісе войска ВКЛ ад замка гаспадарскага Навагрудскага, 1528 г.: «Левон Сачковичъ кон[ь]».

*Метрыка ВКЛ. Кніга 523 публічных спраў. Мн., 2003. С. 64, [37 адв.].*

Баярын Навагрудскага павета Лявон Мікіціч Сачкевіч з жонкай Хведкай прадаў 25.07.1526 г. 6 службаў людзей ваяводу віленскаму і канцлеру Ольбрахту Марцінавічу Кгаштолту[8].

Прадалі (пацвярджэнне Жыгімонта пані троцкай Янавай Мікалаевіча Ганне Станіславаўне ад 05.09.1526) «Ждан, а Левон, а Тишка, а Ивашка, братья родные Микитичи Сачкевичи, часть именья ихъ близько Несвижа, которое есть у границах ее ж на двухъ местъцохъ, первое у Когоновичох, ч(о)л(о)века их отчизного непохожого на имя Ходорца Олексича зь его трыма сынъми, Хролцомъ, а Бурисцомъ, а Степанцомъ, и со всею их землею, а у Воиниловичохъ тры следы на имя Кунашовщину, Кузмновъщину а Левоновщину, со всимъ обель вечно, за шестьдесять копъ грошеи литовское монеты».

*Литовская метрика. Книга № 12 (1522–1529). Вильнюс, 2001. Документ 599. С. 460.*

15/8 **Сцецка Сачкевіч,** *1485 г. н. Згадваецца ў перапісе войска ВКЛ ад замка гаспадарскага Навагрудскага, 1528 г.: «Стецко Сачкович 2 кони».

*Метрыка ВКЛ. Кніга 523 публічных спраў. Мн., 2003. С. 64, [37 адв.].*

Валодаў разам з родзічамі спадчынным маёнткам Сачкевічы на Ліпах. Памёр у 1528 г.

15а/8 (?) **Міласлава Сачкоўна Федзькавая Грыгоравіча Гарабурдзіная,** баярыня, зямянка Навагрудскага павета. Скардзілася 14.08.1550 г. на полацкага ваяводзіча Мікалая Станіслававіча Глебавіча за збіццё і крадзеж каня са стойла: «Передъ паны радами их м(и)л(о)стью, передъ его м(и)л(о)стью паномъ Миколаемъ Юрьевичомъ Радивиломъ подъчашимъ г(о)с(по)д(а)ръскимъ державъцою лидъским, василишъскимъ и белицъкимъ а паномъ Иваномъ Горъностаемъ маръшалъ дворънымъ подъскаръбимъ земъскимъ Великого князства Литовъского становилъся и оповедалъ передъ ихъ м(и)л(о)стью воеводичъ полоцъкии панъ Миколаи Станиславовичъ Глебовича за позъвы ихъ м(и)л(о)сти которыми позъвы позвала его бояриня повету Новъгородъскаго Федьковая Григоръевая из детьми своими обои свои и о взятье коня серого не резаного зъ стаини ее и о иньшие речи, о чомъ ширеи и меновите жалоба ее естъ на позве описана. И поведилъ панъ Миколаи ижъ деи рокъ за тыми позвы зложоныи припалъ в тотъ овъторакъ минулыи, на которыи же рокъ его м(и)л(о)сть становилъся и пилность чинилъ ажъ до нинешънего дня третего, а Федьковая не стала и никого з моцъю отъ себе его правомъ уживаючи не прислала. А такъ панъ Миколаи пильность свою далъ собе до книг ихъ м(и)л(о)сти записати».

*НГАБ, КМФ-18, воп. 1, спр. 237, арк. 394.*

Полацкі ваяводзіч Мікалай Станіслававіч Глебавіч 03.10.1550 г. скардзіўся на навагрудскага намесніка Івана Багушэвіча за «невчиненье справедъливости» па трэцяй позве «земянъку повету Новъгородъского Федьковую Григоревича Гарабуръдиную Милославу Сачъковъну о загамованье, а гвалътовное позвовоз и тежъ о два кони бурого а рыжаго, которые мужъ ее в него Федько Гарабуръда взялъ в отъданье и мелъ ся его м(и)л(о)сти за нихъ отъдаровати и не отъдаровалъся».

*НГАБ, КМФ-18, воп. 1, спр. 237, арк. 359 адв. – 360.*

Мела 5 сыноў: 1. Сямён.

2. Лукаш Гарабурда, выдаў замуж сваю дачку Тэадору за полацкага кашталяна Іосіфа Корсака.

3. Міхаіл Гарабурда, выдатны дыпламат, пісар каралеўскі (1560), у 1559 г. пасол да крымскага хана, у 1561–1584 гг. шматразова накіроўваўся паслом у Маскву. У бескаралеўе, у лютым – сакавіку 1573 г., вёў перамовы ў г. Маскве аб умовах выбрання Івана IV на польскі трон. Кашталян мінскі (1585). Памёр у 1586 г. Яго жонка – Даміністра

час з навеженья Божого будучы на теле хора, але на умысле на памети моей добра здрова и ничим ни от кого не примушона, а ни жадными намовами намовлена изведена, леч сама по своей доброй воли и статечным розмышленем чыню тот мой тестамент остатнее воли моее ознаймуючы в нем волю свою, кгды пан Бог по замероном ч[а]се мне на том свете мешканя и мене с того света до хвалы Бозства своего пере[ ] насвеншый поволать, а душу мою з грешным телом моим розделити рачыт, тогды поручаю душу мою п[а]ну Богу, сотворителюви моему в Тройцы единому, от которого ее взяла тому за се в опеку поручаю я тело мое грешное земли, кгды ж земли ест сотвороно, мает малжонок мой пан Иван Стецкевич тело мое грешное у церкви русской Заложенства Светое Пречистое у Скрендивичах поды родичов своих звычаем хрестиянским погрести [водлуг стана] нашого шляхетского, а о том погребе тела моего маетсе малжонок мой старат, абы учтивее было погребено водлуг можности нашое, а штося дотычет маетности моей рухомое, што есми идучы в стан светый малженский за пана Ивана Стецкевича в дом его унесла, то есть гроши готовые, золото и серебро, шаты, перла, цын, медь, кони, быдло, так теж отомаю от малжонка моего милого от Ивана Стецкевича половицу именя его Роготенского дворца, лежачого в повете Слонимском, за правом моим от него мне данным обычаем заставным у двухсот копах грошей личбы литовское, на што и лист его заставный есть тыми всими речми моими рухомыми, штой одно колвек в дом его милости пана малжонка своего внесла, так и теж о тыми двемасты копами грошей, што на половицы именя Роготенского дворца Млекусовского маю тым всим оного малжонка моего пана Ивана Стецкевича по животе своем дарую и ему отдаю и сим тестаментом моим ему отписую [вечными] часы отдалившы от всих приятелей своих, то ест от пани матки моее, так те ж от братии и сестр рожоных и вси кревны повинны своих вечными часы и вже по животе моем волен будет малжонок мой пан Иван Стецкевич тыми всими речми моими рухомыми и тою половицою именя своего Роготенского дворца Млекусовского, которую мне был перво сего обычаем заставным у двухсот копах грошей литовских пустил шафовал, яко своим власным вечными часы, а пани матка моя, так теж братии и сестри рожоные, а нихто с повинных моих, а ни те ж в то ся ничим уступовати не мают и моцы жадное мети не будут вечными часы, а што те ж первое тот же малжонок мой пан Иван Стецкевич дал мне был два мамрама свои под печатю своею и с подписом руки свое [и те ж] тод печатьми людей добрых на листы отвороные водлуг [бегу] справного зготованые для некоторых потреб своих, а ку тому те ж зоставил мне был тое ж имене Роготенское свое дворец Млекусовский все огулом у двухсот копах грошей литовских личбы, што и на вряде кгродском Волковыском вызнал, на што и лист свой вызнанный и выпис волковыский мне те ж дал, которые я тые два мамрамы его так те ж и лист его на двесте коп грошей на заставу всего именья его Роготенского дворца Млекусовского и выпис кгродский Волковыский до схованя пане матце своей дала, которые тые два мамрамы и лист первый, што у Волковыску у кгроде есть сознан на двесте коп грошей на заставу усего именя Роготенского дворца Млекусовского, так те ж другий лист на двесте коп грошей на заставу половицы того ж именя Роготенского дворца Млекусовского мне належачые мает пани матка моя вернуть и отдать по смерти моей до рук малжонку моему милому п[а]ну Ивану Стецкевичу, а где бы их отдать не хотели, тогды тые мамрамы и тые листы

так первей на все имене Роготенского дворец Млекусовский, который у Волковыску у кгроде есть сознан, так те ж и [ ] по смерти, который у Слониме у кгроде те ж есть сознан по смерти никоторое моцы, яко спустошилые и умароные никоторое моцы и месца мети не маю [ ]рымованы быть не могут и на том малжонку моему п[а]ну Ивану Стецкевичу дала сес мой тестамент остатнее воли моее учыненый под печатю моею и при том были и того добре суть ведоми люди зацные земяне г[оспо]дарские повету Слонимского их м[и]л[о]сть пан Андрей Михайлович Зеньковича, а пан Михайло Богданович Стойдерево, а пан Александер Стецкевич, которые их м[и]л[о]сть панове звыш помененые, за усною и очевистою прозбою моею печати свое до сего тестаменту моего приложили, а которые писат умеют и руки свое подписат рачили. Писан у Роготной, у дворцы Млекусовском, лета от нароженья сына Божого тисеча пятьсот осмдесят осмого м[е]с[я]ца декабра осмнадцатого дня...»[27]

2. Раіна Андрэеўна Вайніловіч. Шлюб 1595 г.

35/26 **Аляксандр,** *1558 г. н. Валодаў маёнткамі Цярэшычаўскае, Шыпілаўскае, Ілічэўскае, Высоцкае, Раготна з палацам Млекусоўскім Слонімскага павета. Згадваўся ў дакументах 1586–1615 гг.

Падаваў скаргі ў Слонімскі земскі суд на роднага брата Льва Сцяпанавіча Статкевіча, які ў суд не з'яўляўся і не прысылаў упаўнаважаную асобу, пра што сведчаць тры запісы пільнасці: 13.06.1586 г. «о шесть коней и о москвитина сына боярского Васька»[28]; 14.06.1586 г. «о мамрам на моц против кнегини воеводиное волынское до права через пана Матыса Хотылевского данное»[29]; 14.06.1586 г. «о примовку, которую пан Лев и малжонка его на велю месцах перед зацными людми о малжонце его мовили»[30].

Слонімскі земскі суд 05.10.1589 г. разглядаў дзве справы па скарзе зямяніна Слонімскага павета Станіслава Арлоўскага на Аляксандра Сцяпанавіча Статкевіча: 1) пра невяртанне пазычанай скаціны: «...тот Александр Стецкевич на лист свой взял и позычил у Станислава Орловского быдла осмеро, то есть: волов оремых два, коров две, овец четверо, описавшисе дей листом своим п[а]ну Орловскому тое быдло отдать у дворе его Скрендевском на рок певный на день Светое Тройцы рымское минулое в року осмдесят девятом, а за неотданьем тым на рок описался дей ему тое быдло совито поплатить, то есть: за два волы осм коп гр[о]шей, а за две коровы шесть коп гр[о]шей, а за четверо овцы две копе гр[о]шей. А иж дей он, яко на рок так и по року и до сего часу Орловскому того быдла не отдал, а ни заплатил, за што дей в совитое плачене и в шкоды наклады на голое реченье слова Станислава Орловского попал...»[31]; 2) пра невяртанне пазыкі: «...в року прошлом осмдесят осмом тот Александр Стецкевич позычил и до рук своих взял у него десеть коп гр[о]ш[е]й литовских и описалсе дей листом своим отдать и заплатить...»[32] Суд вызначыў папярэдні іск Станіславу Арлоўскаму на палац Аляксандра Статкевіча Млекусоўскі[33], аднак Аляксандр не дазволіў 12.11.1589 г. увознаму Станіславу Падлескаму, які прыбыў у маёнтак, увесці Арлоўскага ў валоданне палацам[34].

Судзіўся 17.01.1591 г. у Слонімскім земскім судзе з князем Раманам Сангушкам за захоп палонскім ураднікам Каспарам Залонскім зямель: «...пославши дей подданных его милости пана своего того именья Полонского на кгрунт его, прозываемый Селиловский у повете Слонимском в селе Высоцку лежачий, оный кгрунт кгвалтовне поорать казал и иных житом его власным засееным и з сеножатьми всего волок три кгвал-

товне упорнее а безправне з спокойного держанья моего выбил и до двора пана своего полоньского привернул…»[35]

Быў упаўнаважанай асобай ад Пракопа Савіча Заляцелага 24.01.1591 г. у Слонімскім земскім судзе па справе абвінавачвання апошняга Янам Статкевічам Сачкевічам за забойства яго слугой Алексіем Зарэцкім зямяніна Івана Альшэўскага ў Слоніме[36].

Аляксандр Статкевіч разам з жонкай Багумілай Матысаўнай Хатылеўскай, братам Іванам і яго жонкай Раінай Андрэеўнай Вайніловіч 30.03.1592 г. прадалі полацкаму падкаморыю Міхайлу Францкевічу з Радзіміна землі маёнтка Раготна: «…через померу волочную есть вымероно моркгов трыдцать, то есть: на врочыщу у Ростовщынах нивы моркгов пять, на Шепелевщыне моркгов чотырнадцать, на клину за долгим лесом моркг один, которые тые кгрунты звыш помененые продали есмо на вечность…»[37]

Пазычыў 25.08.1594 г. гаспадарскаму зямяніну Слонімскага павета Станіславу Сакалоўскаму 20 коп грошаў, за якія той пакінуў Статкевічу падданых у сяле Высоцк Лукаша і Анцыпара Санцэвічаў, Мацвея, Пашку, Сідара Калошу з сынам Іванцом, Ждана Бабчыча, Уласа Сункгаловіча, Гацуту Міховіча, Стася Галынку з жонкамі, дзецьмі і іх маёмасцю[38].

Купіў 04.07.1595 г. у зямяніна Слонімскага павета Міхайлы Багданавіча Стойдзерава сенажаць у сёлах Блашное і Дзераўное ля ракі Бронніца: «…за певную и рукодануя суму п[е]н[е]зей за дванадцать коп гр[о]шей личбы и монеты здавна звыклое Великого Княжества Литовского…»[39]

У Слонімскім земскім судзе 12.10.1595 г. разглядалася справа па скарзе каралеўскага маршалка Абрама Мялешкі на Аляксандра Статкевіча, які не хацеў вяртаць аддадзеную ў заклад шаблю: «…сребром оправную злотистую на хозе с пасками шолков розных и на пачкох так же чотыры штуки сребра злотистого отливаного роботы, которая шабля коштовала дей его семдесят злотых польских, купленная у золотника места Виленского на име Клима Шостака… на часе назначоном у Слониме в рочки кгродские того ж року прошлого деветьдесят третего м[е]с[я]ца декабря четвертого дня тот служебник его милости Иван Гоголь хотечы он тую шаблю у пана Стецкевича выкупити, пять коп гр[о]шей тобе пана Стецкевичу отдава[ни] нижли дей ты пане Стецкевичу признавшисе перед ввозным и шляхтою, што в тебе тот слуга его милости тую шаблю у пети копах гр[о]шей заставил, тых пети коп гр[о]шей взятии еси не хотел и тое шабли ему не отдал и до сего часу отдати не хочешь…»[40]

Судзіўся 13.01.1597 г. з гаспадарскім зямянінам Слонімскага павета Станіславам Сакалоўскім за нападзенне на маёнтак Высоцк і захоп застаўных падданых: «…прыехавшы дей им на врочыщо Липине против села Серебрыщ тот де тивун мой Лукаш Санцович пошол коло броду пеш тот подданный мой Ждан Бабчыч з возом, на котором возе была бочка пива, поехал у брод, то пак дей тивун п[а]на Станислава Соколовского именья его Деревенского, в повете Слонимском лежачого, Полуян Петрович за росказанем п[а]на своего з многими помочниками своими перенемшы на том урочыщу у Липиню того подданного моего Ждана Бабчыча окрутне его збил и змордовал и до двора п[а]на Станислава Соколовского п[а]на своего прозываемого Деревенского отвел и до везеня в том дворе Деревенском осадил и через час немалый того подданного моего Ждана Бабчыча увезеню твоем у сверне за ведомостю дей тебе п[а]на своего держал, а потом дей еси его з везеня своего выпустил, пры котором дей зби-

тью пограбил в того его Ждана Бабчыча тот тивун твой свирепу вороную з возом з хомутом з дугою з вожками, а на возе бочку пива купленную за пол копы гр[о]шей у Молчади хлеба купленного за гр[о]шей десети [сома] за гр[о]шей осм, которые дей тые речы уси тот тивун пана Соколовского ему, п[а]ну своему, отдал…»[41]

У Слонімскім земскім судзе 18.01.1597 г. разглядалася справа па скарзе гаспадарскага зямяніна Слонімскага павета Яна Зміеўскага на гаспадарскіх зямян Слонімскага павета Аляксандра і Багумілу Хатылеўскую Статкевічаў аб нападзенні і рабаўніцтве яго людзей: «…в року от нароженья сына Божего тисеча пятьсот деветьдесят шостом м[е]с[я]ца декабра четвертого и пятого дня наехавшы вы сами кгвалтом на домы по розне мешкаючы подданным его, маючы з собою помочников своих Адама Яновича ввозного а прозвитора Биеита а Каспора Ягодинского, на первей на дом Матея а Гарасима у Меховее там вы у тых подданных взели и пограбили с хлева волов оремых шесть, коштовали их коп гр[о]ш[е]й шестнадцать, коров дойных деветь, коштовали их коп гр[о]ш[е]й чотырнадцать, овец старых петнадцать, коней двое, коштовали их деветь коп гр[о]ш[е]й, у тых же подданных с клети их двух взели есте гредчыны бочок двадцать, овса бочок чотыры, жыта сееного бочок пять, гороху бочок тры, сочывицы бочка, гусей битых деветь, кожух и сермяга новая, коштовало их полторы копы гр[о]ш[е]й, з гумна их побрали жыта коп двадцать, а других подданных у его бояр селиловских у Высоцку у Грышка а у Радюка з дому з хлева их взели пограбили волов сем, коштовали их трынадцать коп гр[о]ш[е]й литовских, коней двое, коштовали осм коп гр[о]ш[е]й, коров сем, коштовало их трынадцать коп гр[о]ш[е]й, а Блошной у подданного его Пашкевича узяли и пограбили з дому его, с хлева волов тры, коштовали его деветь коп гр[о]ш[е]й, и кляч двое, коштовало сем коп гр[о]ш[е]й, коров чотыры, коштовало его шесть коп гр[о]ш[е]й, а в селе Василевичах взели и пограбили у подданных его Матея Есифа з дому их, с хлева волов сем, коштовало их осмнадцать коп гр[о]ш[е]й, коров деветь, коштовало их петнадцать коп гр[о]ш[е]й, коней двое, коштовало их сем коп гр[о]ш[е]й, а у Вишове селе у Василя Лукашевича у боярына его шляхтича пограбили з дому его з хлева волов пять оремых, коней двое, коштовали его сем коп гр[о]ш[е]й, коров пять дойных, то все тыде Стецку и з жоною своею у тых подданных его кгвалтом з домов их побрали и пограбили тое все быдло у дому своем у Высоцку сполне ховасте, а ку тому ты ж дей Александре Стецкевичу и ты, жона его, пры том грабежы м[е]с[я]ца декабра патого дня у дому того ж боярына его Василя Лукашевича у Вишове чына его Лукаша шляхтича учстивого киймии збили и зранили…»[42]

Падданы Аляксандра Статкевіча Палуян Пятровіч 19.01.1597 г. збег з маёнтка Высоцк: «…подданный мой и малжонки моей Богумилы Матысовны Хотылевского Полуян Петрович, у которого нас ввозный повету Слонимского Адам Янович увезал у суме пенезей у десети копах грошей… дня учорашнего у неделю рано покинувшы дом свой, жону и дети и всю маетность свою не ведаем, где от нас панов своих утек и кром воли и ведомости нас панов своих пошол…»[43]

У Слонімскім земскім судзе 22.01.1597 г. разглядалася справа па скарзе гаспадарскага зямяніна Слонімскага павета Станіслава Сакалоўскага на гаспадарскіх зямян Слонімскага павета Аляксандра і Багумілу Хатылеўскую Статкевічаў за яго збіццё: «…в року деветьдесят третем месеца апреля осьмого дня ты, дей Богумило, перенявшы на дорозе, которая идее з Лушнева до Высоцка вулицы против до-

мов подданных малжонки его Быяков у Высоцку, которые люди тепер Адам Лукашевич держить на име Шимка Венцковича с помочниками своими оного дей его кийми збила и зранила, а пры том бой пограбилась у него трыдцать гр[о]ш[е]й червонными золотыми, коня, который его коштовал деветь коп гр[о]ш[е]й, дупан и дылею сукна каразыевого, коштовало его шесто коп гр[о]ш[е]й литовских, шабля его коштовала две копе гр[о]ш[е]й з седло з войлоком и з радиком, коштовало его две копе грошей, то дей ты усе у него пры том бои пограбила, а ку тому жаловал тот же Соколовский на тебе, Александре Стецкевичу и на тебе, жону его Богумило, о том иж дей в року деветьдесят шостом м[е]с[я]ца марца двадцать семого дня послал дей был он тивуна своего именя Деревенского на име Полуяна Петровича по возного Карпака Окулича до села Высоцка, а так дей тот тивун, бывшы у того возного пошол был до стодолы его Высоцкое, которая тепер есть в заставе Яна Змеевского, а коли дей прыходил до тое стодолы, там дей ты, Стецку, наполнившыся злое воли свое и за ведомостью и за волею тебе жоны свое нашедшы кгвалтом на тую стодолу Высоцкую того тивуна у самых воротех добывшы шабли свое зранил у голову, а коли он от тое раны на землю упал, там же дей ты нелитостиве лежачого оного сек, мордовал, не могучы над ним милосердя яко чоловека в летах зешлого, што шырей на том позве жалоба есть описана...»[44]

Аляксандр Статкевіч падаў 25.01.1597 г. пільнасць у Слонімскі земскі суд на падчашую ВКЛ Соф'ю Хадкевіч па справе невяртання пазыкі 800 коп грошаў яго прыяцелю Станіславу Вайцяховічу Рудзенскаму[45].

Зямянін Слонімскага павета Станіслаў Вышынскі падаў скаргу ў Слонімскі земскі суд: «...што ж дей маючи мне некоторые потребы на рокох теперешних земских слонимских и будучи мне у суду там же в сем року теперешнем тисеча шестсот шостом месяца генвара двадцать третего дня, будучи там же у того ж суду земского земенин господарский повету Слонимского пан Александер Стецкевич, не маючи до мене жадное потребы, мене, чоловека учтивого, первей словы неучтивыми, доброй славе моей шляхетской доткливыми, лаял и соромотил, а потом тут же, у суду, стоячы мне отповед и пофалку на здорове мое учинил, хотечи мене забить, и там же мене по двакроть, выходечы з ызбы судовое, на поединок вызывал. Которому я, яко чоловек спокойный, а постерегаючи вины, в праве посполитом описаное, стерпети мусял, а не будучы я от того пана Александра Стецкевича сам з челедю моею здоровя беспечон, прошу абы тое мое оповедане до книг справ земских слонимских было записано, што есть записано»[46].

Абмяняў 07.01.1613 г. з падстоліем і падстарастам слонімскім Адамам Лукашэвічам землі ў сяле Высоцк: «...Я, Александер Стецкевич, земенин господарский повету Слонимского, ознаймую тым моим листом, иж што з розделку половица кгрунтов Терушицких Иличовских Шипилковских в селе Высоцком, в повете Слонимском лежачом, досталисе мне от его милости пана Адама Лукашевича, подстолего и подстаростего слонимского, з селищами тых кгрунтов. Тогды я, Александер Стецкевич, часть селища Терушицкого, которая... пану Адаму Лукашевичу от мене досталасе, его милости есми поступил, меновите моркгов два прутов одиннадцать. А на то местце отмену... пан подстолий дать рачил кгрунту своего власного, там же у Высоцку, купного у пана Валерияна Соколовского, войского слонимского, селище Быковицкое, на котором мешкал подданый его милости Васюта Яковцевич, также моркгов два прутов осмнадцать, которое тое селище лежит с трох сторон межи кгрунтами мене Александра Стецкевича, а щетвертое стороны подле кгрунту... пана подстолего, на котором седит подданый его ми-

лости Нестрат Кудравцович. А иж того селища Васютинского болше выносит еще прутов сем, тогды за то поступил есми его милости катусничок Терушицкий и болота подле катусничка прутов сем... А на то дал... пану Адаму Лукашевичу сес мой лист меновный под моею печатю и с подписом руки моее, до которого... листу... князь Езоф Полубинский, пан Филон Ольшевский а пан Александер Коричевский печати свои приложить и руки свои подписать рачыли. Писан у Высоцку, Лета ... 1613, месяца генвара 7 дня»[47]. У той жа дзень 07.01.1613 г. прадаў таму ж Адаму Лукашэвічу землі Сялілаўскія ў маёнтку Высоцк: «Я, Александер Стецкевич, а я, Богумила Матысовна Хотылевска, малжонка... пана Александра Стецкевича, земяне господарские повету Слонимского, сознаваем... вечистым продажным листом... иж... маючы кгрунты свое власные именья нашого Высоцкого Селиловские отлеглые, с которых для отлеглости малый пожыток маем, на вручыщу у Грабовца, поля робочого моркгов сем, а лесу другая моркгов сем, которые тые кгрунты нашы лежат подле дороги, которая идеть з Стойдеревщизны, едучы до Высоцка по праве, а другим боком до кгрунту Терушицкого, концом одным до кгрунту Стойдеревского, а другим концом до кгрунту Поповского, которые... кгрунты продали... на вечность... пану Адаму Лукашевичу, подстолему господарскому и подстаростему слонимскому и пани малжонце его милости пани Гальшце Яновне Одаховской за... суму пенезей за тридцать коп грошей... И на то... дали... наш лист... под нашими печатми и подписом руки моее, мене Александра Стецкевича, а за... прозбою нашою... князь Езоф Полубинский, пан Филон Ольшевский, пан Александер Коричевский а пан Стефан Залуский печати свои до сего нашого листу приложить и рки свои подписать рачили. Писан у Высоцку, лета... 1613, месяца генвара 7 дня» [48].

Судзіўся 14.01.1615 г. з панам Станіслававам Бруханскім аб нанясенні пабояў яго дочкам: «...пан Стецкевич... жаловал... иж дей в року 1614 месяца августа 14 дня дочка дей наша, земянка господарская повету Слонимского пани Мартиновая Корбутовая Александра Стецкевичовна, маючы жыто свое на кгрунте земянки господарское повету Слонимского пани Яновое Хотылевское Галены Котовичовны посееное в ыйменю ее Высоцком Духовском, в повете Слонимском лежачом, на врочыщу ув Опаре, неподалеку двора... панов Бруханских, названого Высоцка Прусковского, в повете Слонимском лежачого, упросила дей нас, родичов своих, абыхмо послали челядь свою помочы того жыта пожать. Яко ж дей мы послали есмо челядь свою наиме Кондратовую Семеновича Масюту Грыгоревну, коберницу, Лукашовую Кондратовича Федору Левковну, стрелцовую, Ждановую Кондратовичовую ж Федору, Юревую Стасюкевичовую Устимю Василевну и пры них тры дочки свое панну Марыну, вжо лет дорослую, панну Настазыю и панну Раину Стецкевичовен, еще лет недорослых. То пак дей пан Станислав Бруханский того року и дня звыш помененого, вышедшы з немалою громадою слуг и гайдуков своих с того двора своего Высоцкого Прусковского, оных всих трох дочок нашых... окрутне а нелютостиве на зелжывость стану их шляхетского з зуфальства своего, не паметаючы на срокгость правную и на стан их паненский и на урожене учстивое шляхетское, постронками дротоваными, то есть линами, и пры них двох невест учстивых звыш менованых Масюту Грыгоревну Кондратовую Семеновича а Федору Левковну Лукашовую Кондратовича Стрелцовую тыми ж постронками окрутне а немилосерне позбивал и помордовал, которые од так окрутного збитя ледве дей жыви зостали. А пры том збитю и змордованю их тот же дей пан Станислав Бруханский сам руками

своими пограбил дей у Кондратовое Семеновича Масюты Грыгоревны сермягу новую чорную домовое роботы и серпов тры... А по прочытаню того позву умоцованый... панов Бруханских пан Ян Гатиский поведил, иж... для непорадного и неслушного позваня... панове Бруханские на тот позов им отказывати и усправедливяти се не повинни, а то с тых прычын, иж пан Александер Стецкевич з малжонкою своею, в той справе менечы быть крывду з ыйменя Высоцка Прусковского, а тые позвы положоны на именю Полонце показует, а не на том именю, с которого менует быть крывду... пан Станислав Бруханский... таковогo ексцесу... дочкам пана Стецкевичовым не чынил, але пан Стецкевич умысльне кгвалтовне слуг, подданых и з дочками своими и з слугами зятя своего Стефана Дунаевского на кгрунт власный пана Бруханского, у Высоцку под двором Прусковским лежачый, наслал и жыто жать казал... Мы, суд... паном Бруханским... тыми всими прычынами, яко неправными, позву збивать не допущаючы, сторонам далей в право поступовать наказали... пан Стецкевич покладал перед нами выпис с книг кгродских слонимских под датою року прошлого 1614 месяца августа 16 дня, в котором описует, иж пан Александер Стецкевич и малжонка его чынили протестацыю свою на пана Станислава Бруханского о збите трох дочок своих... пры которой протестацыи и реляцыя возного Костантына Стефановича огледаня ран на дочках пана Стецкевичовых и на подданых его, а пры той протестацыи самосем пан Стецкевич брал се до прысеги на ранах тых дочок своих, то есть сам з малжонкою, с трыма дочками... и з двема поддаными своими... А так мы, суд, в той справе пана Александра Стецкевича и малжонки его с... паном Станиславом Бруханским, яко прынцыпалом, с пани маткою и з братею его милости и з малжонками их милостей... навезки жалобливым дочкам тром пана Стецкевичовым совитые по осмидесят коп грошей з седзенем у вежы по двадцати чотыры недели водлуг артыкулу двадцать семого з розделу одинадцатого, а двум подданым навезки водле артыкулу пятого з розделу дванадцатого по десети коп грошей и за грабеж сермяги и трох серпов водлуг артыкулу четвертого розделу трынадцатого з виною грабежною за прысегою подданое его ж, пана Стецкевича, всего сумою двесте шестдесят шесть коп и грошей шесть литовских на нем, пану Станиславу Бруханском и на маетности его вскazуем и прысужаем, и рок той прысезе день третий здесь, перед собою, складаем. А умоцованый их милости панов Бруханских, розумеючы тот декрет наш не водле права учыненый, зо всею справою до суду головного трыбуналного апелевал, мы ему в той апеляцыи допустили, которое апеляцыи з обу сторон пилновати мают у суду головного трыбуналного у Минску в року теперешнем 1615 на термине суженя справ воеводства Новгородского и повету Слонимского...»[49]

На наступны дзень, 15.01.1615 г., у Слонімскім земскім судзе разглядалася справа Аляксандра Статкевіча з тым жа Бруханскім за права валодання маёнткам Высоцкае: «...прыпала справа их милости пана Валерыяна, пана Олбрыхта, пана Костентына, пана Станислава, пана Александра, пана Марцыяна а пана Крыштофа Бруханских на Глуску з земяны господарскими повету Слонимского с паном Александром Стефановичом Стецкевичом и з малжонкою его пани Богумилою Хотылевскою, з его милостю вельможным паном Янушом Тишкевичом Скумином, писаром Великого Князства Литовского, старостою браславским и цырынским, докладаючы яко опекуна, а з его милостю паном Адамом Лукашевичом, стольником и подстаростим кгродским слонимским, с паном Станиславом Юревским, з опекунами малжонки и

детей небощыка пана Яна Хотылевского з Александром и панною Галшкою Яновною Хотылевского, так теж и з самою пани Яновою Матысовича Хотылевскою пани Галеною Котовичовною и с панею Катерыною Семеновною Матысовою Хотылевскою и з зятями ее с паном Крыштофом Скромлем Товгином и малжонкою его пани Александрою Матысовною Хотылевского, с паном Станиславом Сухороцким и малжонкою его пани Ганною Матысовною Хотылевского... панове Бруханские... становили се и моц от себе прыятелеви умоцованому своему пану Яну Гатицкому злетили. Который то умоцованый... пан Ян Гатицкий... жаловал... иж они, потомкове Матыса Хотылевского, маючы имене у Высоцку, в повете Слонимском лежачое, прозываемое Духовщызну и Селиловщызну з людми и землями от князя Романа Санкгушка на боярской службе, прыслухаючое до именя Полонки, с которого именя заровно з ыншыми боярми служывали водле повинности своее ку именю Полонце, а кгды тое имене Полонку з фольварками, з людми, з бояры, з шляхтою и з их имeничами и повинностями... перво заставою, а потом и вечностью небощык князь Александер Пронский, пан троцкий, продал на вечность небощыку пану Бартошу Бруханскому, отцу менованых панов Бруханских, ино дей они, держачые тых помененых людей и кгрунтов у Высоцку, вдавшы се в непослушенство, службы с тое оселости до именя Полонки отцу их чынити не хотели и тепер им, паном Бруханским, не чынят, и тую оселость спустошыли, люди и кгрунты розным людем позаводили, будоване где хотели звозили, а иншое роспродали и попалили... и што дей отец их, панов Бруханских, их, потомков Матыса Хотылевского, до суду кгродского слонимского непооднокроть позывал, нижли для некоторых зволок справедливости собе довести не мог, а затым з сего света смертю зшол, по которого смерти они, выш менованые панове Бруханские, непооднокроть до суду кгродского слонимского позывали, нижли за недохоженем рочков и за зволоками собе справедливости довести не могли, а потом, року (1)614 на рочки февралевые особ менованых в той речы до того ж суду кгродского слонимского позывали... нижли дей за непрыбытем и незаседанем водлуг права панов врадников кгродских слонимских... тые рочки февралевые ужо сужоны быти не могли, отъехали з Слонима до домов своих, а в том часе выш помененые особы в нестанью их, панов Бруханских, декрет в той справе... одержали, якобы утвержене якогось права от пана Александра Стецкевича на тры волоки кгрунту Селиловских показаного, а о полшостаста золотых полских за другим правом на кгрунты Духовщызну у Высоцку, менечы быть от князя Романа Санкгушка записаную, через державых тое Духовщызны показаного, о котором декрете кгродском слонимском и о том праве их хотечы они... панове Бруханские, досконале ведати... По вычытаню позву... пан стольник и пан Стецкевич поведили... панове Бруханские позывают... хотечы лепшую ку браню пенезей за имене Высоцкое Духовское и о показане декрету кгродского слонимского, мы теды о тое се становим и декрет кгродский слонимский показуем и пенези брати готовы, а имене Высоцкое Духовское скоро по взятю пенезей зараз уступить естесмо готовы. И покладали перед нами декрет кгродский слонимский под датою року прошлого 1614 месяца февраля 5 дня, в котором описует, иж... панове Бруханские позывали... пана Александра Стецкевича и малжонку его... пана стольника и пани малжонку его... пани Янувую Хотылевскую Галену Котовичовну, детей и опекунов ее о имене Высоцкое Духовское, и о тры волоки земли ее Лиловское, задаючы то в позве, якобы с того именя небощык

пан Матыс Хотылевский службу и повинность до именя Полонки чынити мел, и якобы и пан Стецкевич с того именя небощыку пану троцкому и пани троцкой служыти мел, а потом якобы удавшысе в непослушенство, вжо кгды имене Полонка пану Бартошу Бруханскому достало се, служыти не хотел…»[50]

Атрымаў у 1615 г. квітацыйныя лісты ад зяцёў Яна Гумоўскага, Сцяпана Дунаеўскага і Яна Скрандзееўскага аб атрыманні пасагу[51].

Жонка – Багуміла Матысаўна Хатылеўская, дачка Матыса і Кацярыны Сямёнаўны Хатылеўскіх. Шлюб 1588 г. Матыс Хатылеўскі (памёр да 1596 г.) валодаў фальваркам Блашное, які прадаў зямянам Слонімскага павета Баўтрамею Васілевічу і Настассі Грыгор'еўне Высоцкім, а тыя падаравалі 30.12.1596 г. сваёй дачцэ Алене Баўтрамееўне. Засведчыў дакумент сваім подпісам Аляксандр Статкевіч[52]. Багуміла Матысаўна мела брата Яна Матысавіча (жанаты з Галенай Катавічоўнай), сясцёр: Аляксандру (замужам за Крыштафам Скромлем Тоўгінам), Ганну (замужам за Станіславам Сухоцкім).

36/26 **Леў,** *1561 г. н., каралеўскі зямянін Слонімскага павета, дзярэчанскі ўраднік (на 1583 г.)[53]. Валодаў часткамі спадчынных маёнткаў Рагаценскае, Млекусоўскае, згадваўся ў дакументах 1583–1598 гг. Падараваў сваёй жонцы Раіне Глінскай сяло Міткевічы маёнтка Раготна, што пацвярджае выпіс 21.06.1583 г. з актавай кнігі Слонімскага земскага суда[54]. У Ваўкавыскім гродскім судзе разглядалася нейкая справа князя Мікалая Міхайлавіча Глінскага, зямяніна Льва Сцяпанавіча Статкевіча са старастам ваўкавыскім Крыштафам Монвідам Дарагастайскім, што пацвярджаюць выпісы з актавай кнігі Слонімскага земскага суда ад [ ].01.1590 г. паведамлення вознага Ваўкавыскага павета Себасцьяна Дуброўскага[55].

Разам з жонкай прадаў зямяніну Слонімскага павета Пятру Сметанковічу Былчынскаму і яго жонцы Ганне Іванаўне Яцынічаўне частку зямель маёнтка Раготна палаца Млекусоўскага за 80 коп грошаў, у валоданне якімі іх увёў 03.01.1597 г. возны Слонімскага павета Станіслаў Падлескі[56]. І разам з жонкай у іх доме Млекусоўшчызна на Раготным 18.01.1597 г. збілі зямяніна гаспадарскага Слонімскага павета Пятра Мацеевіча, што пацвярджае выпіс 20.01.1597 г. з актавай кнігі Слонімскага земскага суда: «…в году тепер идучом по нароженью сына Божиего тисеча пятьсот деветьдесят се м[е]с[я]ца генвара осмнадцатого дня пан Лев Степанович Стецкевич, земенин господарский повету Слонимского, и малжонка его пани Раина, княжна Глинска, з одною намовою и радою своею упросивши мене в дом свой в повете Слонимском лежачий, прозываемый Млекосовщизна на Роготной, и кгды там до того дому их прыехал, тогды они за гостя упрошоного мене принявши, а потом без данья причыны моее, не ведати для чого тот пан Лев Степанович Стецкевич и вышей менованая малжонка его сами своими властными руками мене, чоловека ни в чом им не винного, окрутне без милосердя кийми збили и змордовали, пры котором оповеданью ставшы очевисто ввозный повету Слонимского Карп Окулич… прызнал… виделом раны на нем, то есть на плечы левом и в весь хрыбет кийми збитый синий крывавый шкодливее…»[57]

Жонка – Раіна Глінская, дачка князя Міхаіла Глінскага і родная сястра князя Мікалая Глінскага.

37/26 **Марына,** *1564 г. н. Валодала 1/3 часткай спадчынных маёнткаў Рагоценскае, Млекусоўскае па «пасагавым праве», маёнткам Скрандзевічы Слонімскага павета. Сын Сцецка, *1598 г.

Муж – Андрэй Міхайлавіч Зенікевіч.

### VIII КАЛЕНА

38/27 **Багдан-Фёдар Статкевіч-Заверскі,** падкаморы мсціслаўскі, дзяржавец палоніцкі, кашталян навагрудскі. Актыўна выступаў у абарону праваслаўя. Разам з жонкай Аленай Багданаўнай Саламярэцкай заснаваў манастыры: Баркулабаўскі Узнясенскі жаночы, Буйніцкі Свята-Духавы, Куцеінскі Богаяўленскі, Куцеінскі Успенскі, фінансаваў дзейнасць Куцеінскай друкарні. Яны былі апекунамі і ахвяравальнікамі брацтваў у Магілёве, Вільні, Менску і нават Кіеве.

Бацька яго жонкі Алены – староста крычаўскі і алучыцкі, князь Багдан Саламярэцкі – быў жанаты (08.09.1583) з дачкой Баркулаба Іванавіча Корсака Евай (Еўдакіяй). Гэты Корсак у 1564 г. залажыў «на лесе глухом», «на кгрунте лесном» ва ўрочышчы Брус замак і назваў яго сваім імем Баркулабаў, пабудаваў там царкву ў гонар Святога Духа з прыдзелам Раства Хрыстова, якая была асвечана ў 1568 г. Ад Баркулаба Корсака (памёр у *1576 г.) і яго жонкі маёнтак Баркулабава перайшоў да Багдана Саламярэцкага, а пасля яго смерці (07.09.1602) адышоў да яго жонкі, затым да сына Багдана Багданавіча, а пасля смерці сына (не быў жанаты) маёнтак атрымала яго сястра Алена. Памерла Алена Багданаўна Саламярэцкая Статкевіч да 1641 г. У свята Іаана Прадцечы 24.06.1641 г. Багдан Вільгельмавіч Статкевіч падпісаў фундуш на заснаванне Баркулабаўскага манастыра. Яшчэ са сваёй жонкай Аленай Багданаўнай, «па ўзаемнай прыхільнасці да ўзвядзення цэркваў і заснавання манастыроў у сваіх валоданнях, намераны быў у маёнтках Баркулабаўскіх узвесці ў славу Божыю манастыр паненскі чарніцкі». І пасля смерці княгіні Багдан Вільгельмавіч вырашыў давесці задуманае да канца, «жадаючы здабыць у гэтым і будучым веку сабе і нябожчыцы жонцы сваёй міласці Божай і пакінуць усім нашчадкам малітоўнае памінанне і несмяротную памятку». На манастыр ён выдзеліў з маёнтка Баркулабава ўрочышча Барок над ракой Днепр. Да гэтага ён далучыў яшчэ 6 валок незаселенай зямлі пад раллю над ракой Рэкта і млын на рацэ «со всем нарядом и ставом». На яго сродкі ў 1648 г. быў пабудаваны галоўны храм манастыра – Узнясенскі. Па архітэктуры ён з'яўляўся копіяй храмаў, пабудаваных Іаілем Труцэвічам у Куцеінскіх і Тупічэўскім манастырах. На сцяне гэтага храма быў такі надпіс: «В лето от сотворения света 7156-е, а от рождества Христова 1648, месяца мая 11 дня изволением, благодатию Святаго и Животворящего Духа збудованый храм сий во славу Великаго Бога и Спаса нашего Иисуса Христа, в честь же и память славнаго Его Вознесения, во святой общежительной обители Баркалабове, во монастыри девическом, в княжестве Литовском, в повете Оршанском сущей, при державе государя нашего великаго короля Владислава Четвертаго, при всечестном отцу Иоилю Труцевичу, игумену Кутеинском, Буйницком, Баркалабовском, первоначальнику и основателю монастырей, при игумении Фотонии Киркоровне первоначальной, коштом благороднаго, православнаго его милости пана Феодора Богдана Стеткевича, каштеляна Новогродского, и при его сыну его милости П[а]ну Михаилу Владимиру Стеткевичу; рукодействием же г. отца Макария Ликгаридия, Божиею Милостию православнаго митрополита Греческаго, викария и екзарха Святейшаго Орону при державе государя нашего Великаго Короля Иоанна третяго и при всечестном г. отцу Гедеону Климовичу, игумену Кутеенских монастырей, при игумении Ксенофонтии Камковне освятися сей Божественный храм и положены в Божественном его Алтаре мощи Святых мучеников Сергия и Вакха и Святыя Великомученицы Варвары в лето

от сотворения света 7187, а от воплощения Христова 1679, месяца мая 29 дня»[58]. Праз пяць гадоў пасля заснавання манастыра, у 1646 г., Статкевіч па просьбе манашак падарыў ім яшчэ вялікі агарод каля манастыра на Савасцянцы.

Багдан у сярэдзіне XVII ст. валодаў таксама маёнткам Сёмкава. Тут ён пабудаваў драўляную царкву. Захавалася яе апісанне 1646 г. Гэта быў вялікі прамавугольны будынак з размешчанай у цэнтры высокай двухпавярховай вежай пад шатровым дахам. Царква служыла галоўным абарончым збудаваннем. Пазней Багдан Статкевіч прадаў Сёмкава князю Сапегу. Памёр Багдан да 1652 г.

39/30 **Севярын.** Атрымаў 25.01.1612 г. ад радцы Слуцкага княства Войцеха Чэрскага 5 валок зямлі ў засценку Васіль Барок, што пацверджана князем Янушам Радзівілам у 1646 г., аб чым сведчылі актыкацыі 20.03.1720 г. у Слуцкім гродскім судзе і 26.11.1793 г. у Случарэцкім земскім судзе. Замяніў 04.08.1616 г. землі з Цэзарыушам Ордам, суддзёй Трыбунала ВКЛ. Пан Орда меў маёнтак Пенткаўшчына, набыты ў князёў Радзівілаў, што межаваў з фальваркам Валожыцы, з сямю падданымі, якія належалі пану Севярыну Статкевічу, што было прычынай спрэчак і іншых суседскіх непаразуменняў. Каб пазбегнуць іх, а таксама для ўзаемнага задавальнення, абодва бакі вырашылі ажыццявіць замену. Пан Орда, будучы дзедзічам фальварка Мазалоўка Ашмянскага павета з прыналежнымі яму 12 падданымі, перадаў гэты фальварак за фальварак пана Статкевіча, які знаходзіўся паміж землямі Орды, пан Статкевіч даплаціў 3000 злотых[59]. Атрымаў у спадчыну ад бацькі частку родавага маёнтка Валожыцы з сялянамі, ад якой адрокся 15.03.1630 г. на карысць брата Крыштафа, што пацвердзіў выпіс 15.11.1630 г. з актавых кніг Трыбунала ВКЛ Навагрудскай кадэнцыі.

Пакінуў тастамент 07.11.1656 г. (актыкаваны 13.09.1706 г. у Ашмянскім гродскім судзе), дзе маёнтак Мазалоўка з 12 дамамі сялян запісаў сынам, якія пры ім знаходзіліся, – Паўлу і Мікалаю, а сынам Яну і Крыштафу пакінуў 7000 злотых на заставе ў п. Брoскі, дачцэ Серафіне – 3000 злотых, іх абавязаны былі выплаціць ёй Павел і Мікалай[60].

40/30 **Крыштаф,** атрымаў 15.03.1630 г. ад свайго брата Севярына Валянцінавіча Сацкевіча-Статкевіча частку родавага маёнтка Валожыцы з сялянамі, які застаўся яму ў спадчыну ад бацькі, што пацвярджаў выпіс 15.11.1630 г. з актавых кніг Трыбунала ВКЛ Навагрудскай кадэнцыі. Раздзяліў належную яму палову трэцяй часткі маёнтка Валожыцы «только среди пятерых своих сыновей следующим образом: Яна, Юрия и Габриеля на Вериговщине, Петра и Деметрияна на Дубровке и Корыбутевщине, урочищах, осадил, а земли, леса, сеножати шнурами и чересполосицами между наследниками брата Адама и своими сыновьями распределил в разных полях, как и до сих пор в своих границах остаются. А на Павла Криштофовича Стецкевича, своего шестого сына, о котором не было сведений с военных действий, части имения не оставив, сам Криштоф с женой и беспотомным сыном Деметрияном, будучи во время первой московской войны замучен до смерти, погиб, и все документы, записи, разделы, тестаментовые распоряжения во время войны пропали, кроме давнейших документов, которые у других людей оставались».

*НГАБ, ф. 1730, воп.1, спр. 9, арк. 402–405 адв.*

Жонка – Бербашоўна з роду Юхновічаў-Бербашоў. Яе продак, князь нагайскі Бер-Баша, прыбыў у XIV ст. з прычарнаморскіх стэпаў, прыняў хрысціянства пад імем Юхна і стаў служыць вялікаму князю ВКЛ Вітаўту. Меў сына Івана. Унук

Бер-Башы – князь Міхаіл Іванавіч – меў сына Мікалая, намесніка мярэцкага.

*Дзядулевич С. Гербовник родов татарских в Польше. Вильна, 1929 г. С. 378.*

41/30 **Юрый.** Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў. Яго частка маёнтка Валожыцы засталася двум братам.

*НГАБ, ф. 1730, воп. 1, спр. 9, арк. 402–405 адв.*

42/30 **Ян.**

42а/30 **Адам.** Не меў нашчадкаў мужчынскага полу. Сем'і дачок жылі ў маёнтку Валожыцы.

*НГАБ, ф. 1730, воп.1, спр. 9, арк. 402–405 адв.*

42б/35 **Аляксандра,** зямянка гаспадарская Слонімскага павета. Была збіта зямянінам Станіславам Бруханскім, што пацвярджае дэкрэт ад 14.01.1615 г.[61]

Муж – Марцін Корбут.

42в/35 **Кацярына.** Была збіта Станіславам Бруханскім, што пацвярджае дэкрэт ад 14.01.1615 г.[62]

Муж – Сцяпан Дунаеўскі. Даў 10.01.1615 г. квітацыйны ліст цесцю Аляксандру Статкевічу аб атрыманні пасагу: «Я, Стефан Дунаевский, а я, Катерына Александровна Стецкевичовна Стефановая Дунаевская, земяне господарские повету Слонимского, вызнаваем... сим нашым квитацейным вечыстым листом, иж што его милость пан Александер Стецкевич и пани малжонка его милости пани Богумила Хотылевская, выдаючы ее, Катерыну, цорку свою, теперешнюю малжонку мою, за мене в стан малженский, посаг ей належачый золотых полских сто, а у выправе другую сто золотых полских отдали и вжо се нам от их милости за все про все досыт стало. Про то мы его милость пана Стецкевича и пани малжонку его, панов родичов своих, з отданя посагу вечне сим листом нашым квитуем... И на тосмы дали сес наш квитацыйный вечыстый лист... под нашыми печатми и с подписом рук людей зацных и с печатми их милости пана Крыштофа Есмана Сенковского, а пана Адама Яцынича, пана Богдана Плавского а пана Павла Можейка з Долекга... Писан у Слониме, лета... 1615, месяца генвара 10 дня»[63]. Судзіўся са Станіславам Барташэвічам Бруханскім за збіццё сваёй жонкі[64].

42г/35 **Зафея.** Была збіта зямянінам Бруханскім, што пацвярджае дэкрэт ад 14.01.1615 г.[65]

Муж – Ян Скрандзеўскі. Даў 10.01.1615 г. квітацыйны ліст цесцю Аляксандру Статкевічу аб атрыманні пасагу: «Я, Ян Михайлович Скрендевский, а я, Зофея Александровна Стецкевичовна Яновая Михайловича Скрендевская, земяне господарьские повету Слонимского, вызнаваем... сим нашым квитацейным вечыстым листом, иж што его милость пан Александер Стецкевич и пани малжонка его милости пани Богумила Хотылевская, выдаючы ее, Зофею, цорку свою, теперешнюю малжонку мою, за мене в стан малженский, посаг ей належачый золотых полских сто, а у выправе другую сто золотых полских отдали и вжо се нам от их милости за все про все досыт стало. Про то мы пана Стецкевича и пани малжонку его, панов родицов своих, з отданя посагу вечне сим листом нашым квитуем... И на то я, Ян Скрендевский, и я, Зофия Стецкевичовна... дали есмо их милости... сес наш вечыстый квитацыйный лист под печатми нашыми и с подписом руки моее, мене, Яна Скрендевского, а до того просили есмо о приложене печатей и о подпис рук людей зацных их милости пана Крыштофа Есмана Сынковского, пана Богдана Плавского, а пана Павла Можейка з Долекга, а пана Мартина Корбута... Писан у Слониме, лета... 1615, месяца генвара 10 дня»[66].

42д/35 **Марына,** у 1614 г. была паўналетняй. Разам з іншымі сёстрамі і чэляддзю 14.08.1614 г. дапамагала старэйшай сястры Аляксандры жаць жыта ва ўрочышчы Апара маёнтка Высоцк, дзе была збіта Станіславам Бруханскім, што выклікала судовы разбор 14.01.1615 г. яе бацькі Аляксандра Статкевіча з Бруханскім у Слонімскім земскім судзе.

42е/35 **Настасся,** у 1614 г. была непаўналетняй. Разам з іншымі сёстрамі і чэляддзю 14.08.1614 г. дапамагала старэйшай сястры Аляксандры жаць жыта ва ўрочышчы Апара маёнтка Высоцк, дзе была збіта Станіславам Бруханскім, што выклікала судовы разбор 14.01.1615 г. яе бацькі Аляксандра Статкевіча з Бруханскім у Слонімскім земскім судзе.

42і/35 **Раіна,** у 1614 г. была непаўналетняй. Разам з іншымі сёстрамі і чэляддзю 14.08.1614 г. дапамагала старэйшай сястры Аляксандры жаць жыта ва ўрочышчы Апара маёнтка Высоцк, дзе была збіта Станіславам Бруханскім, што выклікала судовы разбор 14.01.1615 г. яе бацькі Аляксандра Статкевіча з Бруханскім у Слонімскім земскім судзе.

42к/35 **N,** дачка Аляксандра Статкевіча.

Муж – Ян Гумоўскі. Даў у 17.01.1615 г. квітацыйны ліст цесцю Аляксандру Статкевічу аб атрыманні пасагу[67].

## IX КАЛЕНА

42л/38 **Міхаіл-Уладзімір.** Згадваецца 11.05.1648 г. разам з бацькам Багданам Фёдарам Статкевічам як заснавальнік Баркулабаўскага Узнясенскага жаночага манастыра. У 1652 г. Міхаіл па просьбе Іаіля Труцэвіча згадзіўся выдзеліць на карысць Баркулабаўскага манастыра 50 валок.

43/39 **Крыштаф,** зямянін Навагрудскага ваяводства. Разам з братам Янам, як аддзелены ад бацькі, атрымаў па завяшчанні бацькі 07.11.1656 г. 7000 злотых на заставе ў п. Броскі[68].

Разам з жонкай купіў 12.01.1707 г. у Андрэя і Ганны, народжанай Жаўрыд, Сыцько (гл. «Сыцько» 9/5) 12 валок і 12 моргаў зямлі ў маёнтку Востраў Барок Навагрудскага ваяводства з паловай карчмы Сасіноўка, якую 30.01.1712 г. аддалі ў заклад панам Навагрудскага ваяводства Мацвею і Ганне, народжанай Хрысцініч, Дзергаманам: «...мы, приобрев покупкою 12-го генваря 1707 года от е.к.м. земян Андрея Сыцьки и жены его Анны из Жаврідов Андреевой Сыцьковой земли 12 уволок и 12 моргов Остров Борок называемой с половиною корчмы Сасиновка в Новогрудском воеводстве состоящей и, находя в расчистке леса и рощей неудобность, а также нуждаясь в деньгах по совещании между собою, исключив в пользу свою две части, или 8 уволок и 8 моргов, остальные по размежевании и четыре уволоки и 4 морга с шестою частью корчмы, с лесами, рощами, пахотною землею, мурожными и прочими сенокосами и также с бортным деревом отдали в закладное владение гг. Новогрудского воеводства Матвею Дергаману и жене его Анне из Христиничей Матвеевой Дергамановой за 800 тынфов серебряною монетою... Дана в Остром Борку, генваря 30 дня 1712 года».

Жонка – Канстанцыя Дзергаман.

43а/39 **Тэадор,** зямянін Слуцкага княства, жыў у засценку Васіль Барок. У 1691 г. на яго падаў іск у Слуцкі гродскі суд зямянін Слуцкага княства Кандрат Зяневіч за нанясенне шкоды на яго зямлі ў вёсцы Заўшыцы і невяртанне пазыкі.

*НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1607, арк. 361–364 адв.*

44/39 **Ян.** Разам з братам Крыштафам, як аддзелены ад бацькі, атрымаў па завяшчанні бацькі

07.11.1656 г. 7000 злотых на заставе ў м. Броскі[69]. Быў прызначаны апекуном дзяцей брата Паўла па завяшчанні 12.12.1663 г.

45/39 **Павел.** Разам з братам Мікалаем атрымаў па завяшчанні бацькі 07.11.1656 г. маёнтак Мазалоўку з 12 дамамі сялян, акрамя таго, павінен быў выплаціць сястры Серафіне пасагавых 3000 злотых[70]. Валодаў зямлёй у маёнтку Васіль Барок, якую тастаментам 12.12.1663 г. пакінуў сынам, апекуном прызначыў брата Яна.

46/39 **Мікалай.** Разам з братам Паўлам атрымаў па завяшчанні бацькі 07.11.1656 г. маёнтак Мазалоўку з 12 дамамі сялян, акрамя таго, павінен быў выплаціць сястры Серафіне пасагавых 3000 злотых[71]. «Изрекательным документом» ад 01.03.1668 г. (актыкаваны 07.05.1670 г. у Ашмянскім гродскім судзе) фундуш па бацьку Севярыну, а таксама і асабістымі намаганнямі памножаны, маёнтак Новы Мазалоў з 8 дамамі падданых запісаў сынам, якія пры ім знаходзіліся: Стэфану і Дзям'яну; малодшаму сыну Іосіфу, які быў на ваеннай службе, пакінуў 3000 злотых польскіх, «за облигом» у пана Станіслава Замойскага, даў волю аднаму селяніну з сям'ёй[72]. Раздзяліў 01.03.1670 г. (актыкацыя 13.08.1670 г. у Ашмянскім гродскім судзе) маёнтак Мазалоўка з сялянамі (Ашмянскі павет) з сынамі брата Грыгорыем, Давідам і Даніілам. Валодаў зямлёй у маёнтку Васіль Барок, якую тастаментам 13.02.1678 г. пакінуў сынам і дочкам.

47/39 **Серафіна.** Атрымала па завяшчанні бацькі 07.11.1656 г. у пасаг 3000 злотых, якія абавязаны былі выплаціць браты Павел і Мікалай[73].

47а/40(?) **Яраслаў.** Разам з Юрыем, Паўлам, Габрыэлем і пляменнікам Юрыем, а таксама шваграмі Казімірам Мяркоўскім і Фёдарам Ханецкім падаў 06.03.1678 г. у Навагрудскі гродскі суд прывілей караля Жыгімонта II Аўгуста ад 22.10.1562 г. на зацвярджэнне замены маёнтка Сачкевічы на Ліпах Івана Статкевіча-Сацкевіча на маёнткі Валожыцы і Юраўшчызну ў Куковічах Навагрудскага ваяводства князя Мікалая Радзівіла.

47б/40 **N,** дачка Крыштафа Валянцінавіча Статкевіча-Сацкевіча.

Муж – Казімір Мяркоўскі, разам з братамі жонкі Яраславам, Юрыем, Янам, Паўлам, Гаўрыілам і пляменнікам Юрыем, а таксама Фёдарам Ханецкім падаў 06.03.1678 г. у Навагрудскі гродскі суд прывілей караля Жыгімонта II Аўгуста ад 22.10.1562 г. на зацвярджэнне замены маёнтка Сачкевічы на Ліпах Івана Статкевіча-Сацкевіча на маёнткі Валожыцы і Юраўшчызну ў Куковічах Навагрудскага ваяводства князя Мікалая Радзівіла.

47в/40 **N,** дачка Крыштафа Валянцінавіча Статкевіча-Сацкевіча.

Муж – Фёдар Ханецкі. Разам з братамі жонкі Яраславам, Юрыем, Янам, Паўлам, Гаўрыілам і пляменнікам Юрыем, а таксама Казімірам Мяркоўскім падаў 06.03.1678 г. у Навагрудскі гродскі суд прывілей караля Жыгімонта II Аўгуста ад 22.10.1562 г. на зацвярджэнне замены маёнтка Сачкевічы на Ліпах Івана Статкевіча-Сацкевіча на маёнткі Валожыцы і Юраўшчызну ў Куковічах Навагрудскага ваяводства князя Мікалая Радзівіла.

48/40 **Іван (Ян).** Разам з братамі Яраславам, Юрыем, Паўлам, Габрыэлем і пляменнікам Юрыем, а таксама шваграмі Казімірам Мяркоўскім і Фёдарам Ханецкім падаў 06.03.1678 г. у Навагрудскі гродскі суд прывілей караля Жыгімонта II Аўгуста ад 22.10.1562 г. на зацвярджэнне замены маёнтка Сачкевічы на Ліпах Івана Статкевіча-Сацкевіча на маёнткі Ва-



Завяральны дакумент Елізаветы Цвіркоўны, ігуменні Нясвіжскага бенедыкцінскага манастыра, шляхцічу Якаву Статкевічу на маёнтак Рулёва. 27.03.1832 г. (польская мова). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3080, арк. 60–60 адв.*



Свидѣтельство

ЦѢНА ОДИНЪ РУБЛЬ

По указу Его Императорскаго Величества изъ Минской Духовной Консисторіи въ слѣдствіе прошенія Слуцкаго уѣзда Застѣнка Жукова Шляхтича Адама Григорьева Стацкевича, и приложенной онымъ Консисторіи, дано сіе въ томъ, что въ метрической книгѣ Игуменскаго уѣзда, вѣдомства Слуцкаго Духовнаго Правленія [illegible] Покровской Церкви записано такъ: Тысяча восемьсотъ тридцать третьяго года Ноября восьмаго рожденіе, а девятаго числа крещенъ въ Застѣнкѣ Жуковъ на Заставѣ проживающаго Шляхтича Якова Симеонова Стацкевича повторному его съ нею брака и законной его жены Анны Ильиничны, также повторному съ нимъ брака родился сынъ Михаилъ, молитвовалъ и имя нарекъ и крещеніе совершилъ [illegible] Покровской Церкви Священникъ Фома Симеоновъ Соловковскій. При крещеніи были записавшій должность Асессора, какъ Заседатель, такъ и данный



Пасведчанне Мінскай духоўнай кансісторыі аб тым, што ў шляхціча Якава Сямёнавіча Статкевіча і яго жонкі ў другім шлюбе Ганны Ілынічны (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 116/87) 08.11.1833 г. нарадзіўся і 09.11.1833 г. ахрышчаны ў Пясечанскай Пакроўскай царкве сын Міхаіл (другі). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3080, арк. 120–120 адв.*



| Числа Умершіія. | Кто имянно померли. | Лѣта. Мужеска. | Лѣта. Женска. | Какою болѣзнію. |
|---|---|---|---|---|

Метрычная кніга Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета. Запіс аб смерці 10.09.1827 г. жонкі двараніна засценка Рулёва Якава Сямёнавіча Статкевіча Параскевіі, 52 гады. Параскевія Кандратаўна Астрэйка – прабабуля Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча, дзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 116/87). *НГАБ, ф. 136, воп. 4, спр. 311, арк. 29.*



Метрычная кніга Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета. Запіс аб смерці 08.02.1836 г. шляхціча засценка Рулёва Якава Сямёнавіча Статкевіча, 69 гадоў. Якаў Сямёнавіч – прадзед Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча, дзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 116/87). *НГАБ, ф.136, воп. 4, спр. 311, арк. 163.*



Спіс дваран Слуцкага павета за 1835 г.,
№ 1485 – сям'я Якава Сямёнавіча Сацкевіча-Статкевіча. У спісе яго другая жонка Ганна Ільынічна з Гарэлікаў, пад № 2 – Вікенцій, 20 гадоў. Месца жыхарства – засценак Рулёва. Вікенцій Якаўлевіч Сацкевіч-Статкевіч – прапрадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 116/87). *НГАБ, ф. 319, воп.1, спр. 219, арк. 237 адв.*

ў дваранстве. Заключыў кантракт 12.02.1806 г. з Ільёй Снітко: «...и в руки свои отщитал ходячею в государстве серебряною в рублях монетою щетом на пятьсот злотых от Якова Стецкевича, коему отдал в заклад гряду – часть полволоки в называемых Масликовцах, состоящую в уезде Ошмянском, приобретенную от Маслов, никакими долгами не заведенную, без малейшего усева, дозволяя пользоваться ему со времени праздника Святого Георгия 1806 года впредь на три года и приискивать с поля и сенокосов всякого дозволительного прихода по произволу самого его г., якова Стецкевича; но собираемое сено и солома должны быть обращены в корм на сем же месте и навоз вывезенным на часть моей земли. К тому г. Стецкевич обязан иметь призрение за всем строением, состоящим на моей части земли починки на щет свой и произвесть где требует нужда новую ограду, все сие иметь в своем ведении до возвращения одолженной суммы. А на случай по прошествии трех лет не возвратил бы я одолженной суммы, тогда г. Яков Стецкевич имеет право другие три года владеть вышепрописанною землею до уплаты ему 500 злотых...»[126]

Па рэвізскай сказцы шляхты Ігуменскага павета 28.09.1811 г., разам з братам Грыгорыем і пляменнікамі Лукой, Тэадорам і Антоніем жыў у сяле Пясечнае на арэнднай зямлі князя Дамініка Геранімава Радзівіла[127]. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., жыў па арэндным праве на зямлі Нясвіжскага жаночага бенедыкцінскага манастыра ў засценку Старая Гута[128]. У 1825 г. часова жыў у засценку Рулёва. Якаў Статкевіч разам з жонкай Ганнай, дзецьмі Васілём і Вікенціем, пляменнікамі Адамам з яго жонкай Антанінай і Даніілам з яго жонкай Францішкай і дзецьмі Максімам і Ганнай у 1828 г. быў на споведзі ў нясвіжскага святара Папова ў Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Значыўся дваранінам, які жыў у мястэчку Пясечнае.

*НГАБ, ф. 575, воп. 1, спр. 339, арк. 534 адв.*

Разам з Міхаілам Пілецкім быў сведкам пры шлюбе 12.07.1825 г. Давіда Мікітавіча Астрэйкі і Параскевіі Карпаўны Лапіч[129].

Атрымаў 27.03.1832 г. у заклад ад ігуменні Нясвіжскага бенедыкцінскага манастыра Елізаветы Цвіркоўны маёнтак Рулёва: «Катерина Борзобогатовна, игумения, Елисавета Цвирковна, настоятельница, Аполинария Горбатовская, вице-настоятельница Несвижского бенедиктинского монастыря, действуя в имени своем и всей братии, уверяем сим документом г., якова Стецкевич, что монастырь наш, состоя в долгу по двум облигам: первому 7 марта 1824 года на 420 р. и 50 коп. серебром и второму 15 мая 1830 года, выданным то серебром на 210 рублей, когда ныне таковой суммы ни целиком ни в части не может заплатить г., якову Стецкевичу, а потому за один токмо процент от вышепомянутой суммы отдается ему во владение застенок, называемый Рулево, принадлежащий к имению Велешину на условиях арендного права, выданного прежде сего 29 апреля 1823 г., на основании коего имеет он власть владеть тем застенком до совершенного удовлетворения одолженной суммы и облиги представлять ежегодно в 11 день апреля для пометы в принятии процентов. Но если бы монастырь, которого-либо не уплатил часть капитальной суммы, тогда со времени оной уплаты обязан будет г. Стецкевич или отсчитывать следуемую часть из причитающегося процента, или принимать то на счет остальной части капитала, или же доплачивать монастырю аренду наличными деньгами. А если монастырь совершенно заплатит в который-либо срок 11 числа апреля сумму, тогда обязан будет он зказанный застенок покинуть, оставив строения в хорошем состоянии, без малейшей монастырю претензии, освободить от дальнейшего содержания и оный



Кантракт ад 12.02.1806 г., па якім Ілья Снітко за 500 злотых аддаў Якаву Сацкевічу-Статкевічу ў заклад паўвалокі зямлі. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3080, арк. 56.*

отдать. В уверение чего и выдан настоящий документ...»[130]

Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[131].

Выказана падзяка 16.05.1836 г. Высокапраасвяшчэннейшым архіепіскапам Мінскім і Гродзенскім, архімандрытам Слуцкага Троіцкага манастыра Ніканорам за ахвяраванне грошай на рамонт Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета: «...мая 16 шляхтичу Якову Стецкевичу за пожертвование 50 руб. серебром на исправление церковной крыши объявить признательность»[132].

Памёр і пахаваны 08.02.1836 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы[133].

Жонкі: 1. **Параскевія (Тэрэза) Кандрацьеўна Астрэйка,** жыхарка маёнтка Пясечнае 18 гадоў (гл. «Астрэйкі» 10/7). Шлюб 16.05.1798 г. святаром Сімяонам Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве. Відаць, жаніў Якуба брат Грыгорый, бо бацькі ўжо не было ў жывых. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., Параскевія Кандрацьеўна жыла па арэндным праве на зямлі нясвіжскага жаночага бенедыкцінскага манастыра ў засценку Старая Гута[134]. Памерла ва ўзросце 52 гадоў «ад воднай хваробы» і пахавана 10.09.1827 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы[135].

2. Ганна Ільінічна Гарэлік. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыла ў засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[136]. Памерла 15.11.1861 г. ва ўзросце 69 гадоў «ад натуральнай хваробы» і пахавана святаром Глускай Уваскрэсенскай царквы Бабруйскага павета Іаанам Смолічам[137].

**XIII КАЛЕНА**

116а/87д **Карл.** Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 31.01.1851 г., № 656.

117/88 **Тамаш (Фама).** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з сынамі Іванам і Дзям'янам у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак. Не зацверджаны ўказам Сената ад 1861 г. у сувязі з непадачай хросных метрык на сыноў і ўнукаў.

118/88 **Ян.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве разам з сынамі Самуэлем і Сямёнам. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з сынам Самуілам у засценку Церабохава ў ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[138].

119/89 **Тэадор.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве разам з сынам Стэфанам.

120/89 **Базыль.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з сынам Дзям'янам у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

121/90 **Пётр.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з сынамі Андрэем, Янам і Тэадорам у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

122/90 **Ян.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з сынам Тэадорам у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

123/90 **Стэфан.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны

ў дваранстве разам з сынамі Антоніем, Ануфрыем і Паўлам. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з сынамі Антоніем і Ануфрыем у засценку Васіль Барок у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[139].

124/91 **Тэадор.** Прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г.

125/91 **Пётр.** Ахрышчаны 30.08.1765 г. у Смілавіцкай царкве[140]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве разам з сынамі Даніэлем, Лявонам і Сымонам. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе ад 14.06.1816 г. быў запісаны разам з сынамі Паўлам і Лявонам і родзічам Гаўрыілам Тамашавічам Статкевічам у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[141].

126/92 **Мацей,** *1781 г. н. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве разам з сынамі Янам і Грыгорыем. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе ад 14.06.1816 г. быў запісаны разам з сынам Грыгорыем у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[142].

127/93 **Андрэй,** *1787 г. н. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з братамі ў засценку Васіль Барок у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[143].

Жонка – Параскевія Парфёнаўна.

128/93 **Герасім-Геранім,** *1793 г. н.

Жонка – Фядора Філімонаўна (Філіпаўна).

129/93 **Іван,** *1790 г. н. Разам з братам Грыгорыем сабраў і падаў дакументы ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход для прызнання роду ў дваранстве. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. і 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве разам з братамі Геранімам, Прохарам і Андрэем. Жыў у засценку Лаўровічы.

Жонка – Ганна Мікалаеўна.

130/93 **Грыгорый.**

131/93 **Прохар,** *1797 г. н.

Жонка – Фёкла Іванаўна.

132/94 **Мікалай.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве разам з братамі Сымонам і Сымонам. Жыў у сяле Заўшыцы.

Жонкі: 1. Агнеша Антонаўна; 2. Ганна Пятроўна.

133/94 **Сымон.** Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з братамі Мікалаем і Сымонам у засценку Васіль Барок у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[144].

Жонка – Пелагія Іванаўна (Андрэеўна).

134/94 **Сымон.** Жыў у засценку Васіль Барок або Севярыны.

Жонка – Фёкла Іванаўна.

135/95 **Пётр (Павел).** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве. Не зацверджаны ўказам Сената ад 1861 г. у сувязі з непадачай хросных метрык на сыноў і ўнукаў.

136/95 **Самуіл,** ахрышчаны 16.03.1770 г. у Смілавіцкай царкве[145]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве разам з сынамі Якубам, Грыгорыем і Андрэем.

137/96 **Міхаіл,** *1797 г. н. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г.

прызнаны ў дваранстве. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з братамі ў засценку Васіль Барок у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[146].

Жонка – Дамнікея Аляксандраўна.

138/97 **Васіль.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з сынамі Стэфанам і Мацеем у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

139/97 **Якуб.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з сынам Міхаілам у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

140/98 **Пётр.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны разам з братам Янам [верагодна, Янам (другім)] у дваранстве. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны ў засценку Заўшыцы ў ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[147].

141/98 **Ян (першы).**

142/98 **Ян (другі).** Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з сынамі Васілём і Даніэлем у засценку Васіль Барок у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[148]. Жыў у засценку Церабохаў.

Жонка – Еўдакія Андрэеўна (Міхайлаўна).

143/99 **Міхаіл.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з сынам Іосіфам у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

144/100 **Сямён.**

145/100 **Тамаш (Фама).** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны разам з сынамі Дзям'янам, Антоніем і Платонам у дваранстве. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з сынамі Дзям'янам, Антоніем і Платонам у засценку Васіль Барок у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[149].

Рашэннем Мінскай крымінальнай палаты, зацверджаным указам Сената ад 22.04.1849 г., асуджаны за нанясенне пабояў сялянцы Параскевіі Годзікавай: «...насчет произошедшего выкидыша ребенка оставить в подозрении, а за буйственные поступки, нанесении побоев Годикам и неприличное поведение с Прасковьей Годиковой, удержать его, Статкевича, в Слуцком городском остроге на собственном содержании один месяц, а сверх того взыскать со Статкевича в пользу Прасковьи Годиковой двойной оклад платы мужем ее податей и других государственных повинностей»[150].

Жыў у засценку Церабохаў.

Жонка – Марыя Фёдараўна.

146/100 **Мацей.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны разам з сынам Матэвушам у дваранстве. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за ліпень 1822 г. быў запісаны разам з сынам Матэвушам у засценку Васіль Барок у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[151]. У 1832 і 1835 гг. быў упаўнаважаным ад роду для падачы дакументаў у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход.

Жонка – Марыя Іванаўна.

147/100 **Васіль.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. прызнаны ў дваранстве.

148/101 **Рамуальд,** нарадзіўся ў сям'і дваран Францішка і Ганны, народжанай Сташэўскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 15.01.1824 г. ксяндзом Паўлам Казловіцкім у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Юрый (Георгій) Статкевіч і Схаластыка Мержаеўская[152]. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыў у ваколіцы Валожыцы, у 1878 г. – у засценку Баравая Бабруйскага павета, а ў фальварку Валожыцы Слуцкага павета валодаў 6 дзесяцінамі зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 566, арк. 13–14.*

Жонка – N, памерла да 1878 г.

148а/101 **Марыя,** *1820 г. н. Па сямейным спісе дваран 1878 г., жыла ў засценку Баравая Бабруйскага павета разам з братам Рамуальдам і яго дзецьмі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 566, арк. 13–14.*

Муж – N Лазоўскі.

149/101 **Нікадзім,** нарадзіўся 02.06.1846 г.

150/102 **Францішка,** *1810 г. н. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы.

151/102 **Тэафіля,** *1818 г. н. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы.

152/102 **Фама,** нарадзіўся 12.06.1817 г.

153/106 **Міхаіл,** *1784 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Нясвіжскага павета 1795 г.[153] і шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г.[154] і 1816 г.[155], жыў у ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі.

154/106 **Іосіф,** *1797 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г.[156] і 1816 г. і сямейным спісе дваран 1828 г., жыў у ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі[157].

155/106 **Магдалена,** *1796 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., жыла з братамі, сястрой і маці ў ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі[158].

156/106 **Марцыяна,** *1804 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., жыла з братамі, сястрой і маці ў ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі[159].

157/106 **Іван,** *1787 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Нясвіжскага павета 1795 г.[160] і шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г.[161] і 1816 г.[162], жыў у ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі.

Жонка – Мар'яна.

158/107 **Пляцыд,** нарадзіўся ў засценку Валожыцы ў сям'і дваран Іосіфа Якаўлевіча і Юсціны Статкевічаў. Ахрышчаны 05.10.1766 г. ксяндзом Адальбертам Куляшом у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Антоній Статкевіч і Ганна Пяткевічава[163]. Па рэвізскай сказцы 1795 г. шляхты Нясвіжскага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы[164]. Згадваецца ў 1816 г. у пасямейным спісе і рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета. Жыў у ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі.

Жонка – Гелена Асмольская, *1781 г. н. Па рэвізскай сказцы 1816 г.[165] шляхты Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі.

159/107 **Іаахім,** *1776 г. н. З 1808 г. служыў ва ўланскім палку. Па рэвізскіх сказках шляхты Нясвіжскага павета 1795 г.[166] і шляхты Слуцкага павета 1816 г.[167], жыў у ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі.

Жонка – Мар'яна, *1776 г. н. Па рэвізскай сказцы 1816 г. шляхты Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі[168].

160/107 **Бенядзікт,** *1783 г. н. Па рэвізскіх сказках 27.11.1811 г.[169] і 1816 г.[170] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на ўласнай зямлі[171].

160а/107 **Лявон,** *1792 г. н. Па сямейным спісе шляхты Нясвіжскага павета 1796 г., жыў у фальварку Валожыцы.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 6, арк. 122 адв. – 123.*

160б/107 **Магдалена.** Жыла ў ваколіцы Валожыцы. Памерла 05.01.1779 г., пахавана ксяндзом Нясвіжскага касцёла.

*НГАБ, ф. 937, воп. 4, спр. 222, арк. 2.*

161/107 **Кацярына,** *1790 г. н. Па рэвізскай сказцы 1816 г. шляхты Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы на зямлі братоў[172].

162/107 **Петрунэля,** *1796 г. н. Па рэвізскай сказцы 1816 г. шляхты Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы на зямлі братоў[173].

163/109 **Франц,** *1778 г. н. Разам з братамі Іванам і Ануфрыем 03.03.1806 г. уведзены ў валоданне фальваркам Валожыцы[174]. Па рэвізскіх сказках шляхты Нясвіжскага павета 1795 г.[175] і 27.11.1811 г.[176] і сямейным спісе 1828 г.[177] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы. Разам з братамі Іванам і Іванам-Ануфрыем купіў 18.10.1817 г. у Валенція Невяроўскага і яго дачкі Зафеі зямлю ў ваколіцы Валожыцы[178].

164/109 **Іван,** * 1779 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Нясвіжскага павета 1795 г.[179] і шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г.[180], жыў у ваколіцы Валожыцы. Разам з братамі Францам і Ануфрыем 03.03.1806 г. уведзены ў валоданне фальваркам Валожыцы[181]. Разам з братамі купіў 18.10.1817 г. у Валенція Невяроўскага і яго дачкі Зафеі зямлю ў ваколіцы Валожыцы[182].

Жонка – Марыяна Тамашэўская.

165/109 **Іван-Ануфрый (Анісім),** *1781 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Нясвіжскага павета 1795 г.[183] і шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г.[184], жыў у ваколіцы Валожыцы. Разам з братамі Францам і Іванам 03.03.1806 г. уведзены ў валоданне фальваркам Валожыцы[185]. Разам з братамі купіў 18.10.1817 г. у Валенція Невяроўскага і яго дачкі Зафеі зямлю ў ваколіцы Валожыцы[186]. Быў прыхаджанінам Нясвіжскага касцёла.

Жонка – Марыяна Мяркоўская.

165а/109 **Ганна,** *1776 г. н. Па сямейным спісе шляхты Нясвіжскага павета 1796 г., значылася ўдавой, жыла ў фальварку Валожыцы.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 6, арк. 122 адв. – 123.*

166/110 **Стэфан,** *1794 г. н. Па рэвізскіх сказках Нясвіжскага павета 1795 г.[187] і Слуцкага павета 27.11.1811 г.[188], жыў у ваколіцы Валожыцы.

167/110 **Іосіф,** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Мікалая і Вікторыі, народжанай Фларыяновіч, Статкевічаў. Ахрышчаны 12.02.1813 г. святаром Міхаілам Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары ваколіцы Валожыцы Іван Фларыяновіч і Францішка Статкевіч[189]. Па рэвізскіх сказках шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г.[190] і 1816 г.[191] і сямейным спісе 1828 г.[192], жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў.

168/110 **Францішка,** *1803 г. н. Па рэвізскай сказцы 1816 г. шляхты Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў[193].

169/110 **Магдалена,** *1815 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[194], жыла ў ваколіцы Валожыцы.

170/113 **Адам,** *1802 г. н., дваранін. Па рэвізскай сказцы шляхты Ігуменскага павета 28.09.1811 г., разам з бацькам, дзядзькам Якубам і дваюраднымі братамі Лукой, Тэадорам і Антоніем жыў у сяле Пясечнае на арэнднай зямлі князя Дамініка Геранімава Радзівіла[195]; па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., разам з братам Даніілам і дзядзькам Якавам Сямёнавічам жыў па арэндным праве на зямлі Нясвіжскага жаночага бенедыкцінскага манастыра ў засценку Старая Гута[196]. У 1828 г. жыў у засценку Рулёва Ігуменскага павета. Быў прыхаджанінам Пясечанскай

Пакроўскай царквы. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[197]. Разам з Вікенціем Якаўлевічам Статкевічам быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 31.05.1843 г. Ануфрыя Антонавіча Шпакоўскага і Ганны Данілаўны Статкевіч[198].

Жонка – Антаніна Іванаўна Шымовіч, *1807 г. н., каталічка. Ахрышчана па праваслаўным абрадзе: «...далучана да праваслаўнай царквы, у час мірапамазання названая Ганнаю» 19.12.1834 г. святаром Нясвіжскай Праабражэнскай царквы Пятром Філімонавым Філіпоўскім, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета[199]. Аднак пры хрышчэнні яе дзяцей у царкве была пазначана як «рымскага веравызнання».

171/113 **Даніл,** *1798 г. н., дваранін. Па рэвізскай сказцы шляхты Ігуменскага павета 28.09.1811 г., разам з бацькам, дзядзькам Якубам і дваюраднымі братамі Лукой, Тэадорам і Антоніем жыў у сяле Пясечнае на арэнднай зямлі князя Даменіка Геранімава Радзівіла[200]; па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., разам з братам Адамам і дзядзькам Якавам Сямёнавічам жыў па арэндным праве на зямлі Нясвіжскага жаночага бенедыкцінскага манастыра ў засценку Старая Гута[201]. У 1821 г. часова жыў у засценку Шамы, у 1828 г. жыў у засценку Рулёва Ігуменскага павета. Быў прыхаджанінам Пясечанскай Пакроўскай царквы. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[202]. Разам з Ганнай Максімаўнай Статкевіч быў хросным 20.06.1843 г. у Пырашаўскай царкве ў Ануфрыя, 19.05.1846 г. – у Пятра[203], сыноў шляхцічаў Сямёна Максімавіча і Дамнікіі Іосіфаўны Статкевічаў[204].

Жонка – Францішка Іванаўна Лук'яновіч, *1799 г. н., каталічка. Ахрышчана па праваслаўным абрадзе: «...далучана да праваслаўя з рымлян і ў час мірапамазання названая Еўфрасінняю» 19.12.1834 г. святаром Нясвіжскай Праабражэнскай царквы Пятром Філімонавым Філіпоўскім, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета[205].

172/114 **Фёдар,** *1801 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Ігуменскага павета 28.09.1811 г., разам з братамі Антонам і Лукой, дзядзькамі Грыгорыем і Якубам Сямёнавічамі Статкевічамі і дваюраднымі братамі Даніілам і Адамам жыў у сяле Пясечнае на арэнднай зямлі князя Даменіка Геранімава Радзівіла[206]. У 1842 г. жыў у засценку Адамова, быў прыхаджанінам Забельскай Успенскай царквы. Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 11.06.1856 г., № 3776.

Жонка – Еўфрасіння Іванаўна.

173/114 **Антон,** *1804 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Ігуменскага павета 28.09.1811 г., разам з братамі Фёдарам і Лукой, дзядзькамі Грыгорыем і Якубам Сямёнавічамі Статкевічамі і дваюраднымі братамі Даніілам і Адамам жыў у сяле Пясечнае на арэнднай зямлі князя Даменіка Геранімава Радзівіла[207]. У 1836 г. жыў у засценку Адамова, быў прыхаджанінам Забельскай Успенскай царквы.

Жонка – Марыя Фамінічна.

174/114 **Лука,** *1794 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Ігуменскага павета 28.09.1811 г., разам з братамі Фёдарам і Антонам, дзядзькамі Грыгорыем і Якубам Сямёнавічамі Статкевічамі і дваюраднымі братамі Даніілам і Адамам жыў у сяле Пясечнае на арэнднай зямлі князя Даменіка Геранімава Радзівіла[208].

175/115 **Сямён,** нарадзіўся ў 1811 г. у сям'і дваран Максіма Сямёнавіча і Пелагіі Сямёнаўны Статкевічаў, што пацвердзіла 6 чалавек старажылаў у сувязі з «неадшуканнем па метрычных кнігах Пырашаўскай Успенскай царквы»[209]. Жыў у засценку Рума, быў прыхаджанінам Пырашаўскай Успенскай царквы Ігуменскага павета. Разам з жонкай Сямёна Рудзінскага Настасіяй Раманаўнай быў хросным 02.01.1829 г. у Сільвестра[210], 12.11.1831 г. – у Міхаіла (першага)[211], сыноў шляхцічаў Якава Сямёнавіча і жонкі ў другім шлюбе Ганны Ільінічны, народжанай Гарэлік, Статкевічаў. Па рэвізскай сказцы дваран Ігуменскага павета за 1835 г., жыў у засценку Рума на арэнднай зямлі маёнтка Валодзькі[212], па сямейным спісе дваран 2-га разраду Слуцкага павета 10.06.1835 г. – у засценку Адамова[213]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[214].

Жонка – Дамнікія Іосіфаўна Міхневіч, *1815 г. н. Па сямейным спісе дваран 2-га разраду Слуцкага павета 10.06.1835 г., жыла ў засценку Адамова[215].

176/115 **Павел,** нарадзіўся 16.02.1814 г. у вёсцы Рума ў сям'і шляхцічаў Максіма Сямёнавіча і Пелагіі Сямёнаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 18.02.1814 г. святаром Грыгорыем Мацкевічам у Пырашаўскай Успенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары вёскі Рума Фёдар Дубовік і дачка Грыгорыя Міцкевіча Аляксандра, дзяўчына[216]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[217]. Па рэвізскай сказцы дваран Ігуменскага павета за 1835 г., жыў у засценку Рума на арэнднай зямлі памешчыка Валодзькі[218], па сямейным спісе дваран 2-га разраду Слуцкага павета 10.06.1835 г. – у засценку Адамова[219].

177/115 **Мірон,** *1810 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Ігуменскага павета 28.09.1811 г., жыў разам з бацькам у засценку Рума на арэнднай зямлі князя Дамініка Радзівіла[220].

178/115 **Канстанцыя,** *1818 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Ігуменскага павета 1835 г., жыла ў засценку Рума на арэнднай зямлі памешчыка Валодзькі[221], па сямейным спісе дваран 2-га разраду Слуцкага павета 10.06.1835 г. – у засценку Адамова[222].

179/115 **Ганна,** *1822 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Ігуменскага павета 1835 г., жыла ў засценку Рума на арэнднай зямлі памешчыка Валодзькі[223], па сямейным спісе дваран 2-га разраду Слуцкага павета 10.06.1835 г. – у засценку Адамова[224]. У 1843 г. жыла ў засценку Рулёва. Разам са шляхцічам засценка Рулёва Даніілам Грыгор'евічам Статкевічам была хроснай 20.06.1843 г. у Пырашаўскай царкве ў Ануфрыя, 19.05.1846 г. – у Пятра[225], сыноў шляхцічаў Сямёна Максімавіча і Дамнікіі Іосіфаўны Статкевічаў[226].

180/115 **Параскевія,** нарадзілася ў мястэчку Пясечнае ў сям'і шляхцічаў Максіма Сямёнавіча і Пелагіі Сямёнаўны Статкевічаў. Ахрышчана 14.10.1797 г. святаром Сімяонам Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве. Хроснымі бацькамі былі Ірына Грыгор'еўна Астрэйка і Васіль Іванавіч Цярэшка[227].

181/116 **Васіль,** нарадзіўся ў засценку Пясечнае ў сям'і шляхцічаў Якава Сямёнавіча і Параскевіі Кандрацьеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 12.04.1812 г. святаром Фамой Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары мястэчка Пясечнае Мікіта Астрэйка і жонка Нікіфара Астрэйкі Ганна[228]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[229]. Па сямейным спісе дваран

Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[230]. Памёр 30.03.1841 г. ад сухотаў, пахаваны 01.04.1841 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета[231].

Жонка – Караліна Віктараўна (Іванаўна) Рымашэўская. Разам з Іванам Грыгор'евічам Шамовічам была хроснай 01.03.1832 г. у Еўдакіі[232], дачкі шляхцічаў Данііла Рыгоравіча і Францішкі Аляксандраўны Статкевічаў, з Ануфрыем Іванавічам Мажэйкам 01.06.1850 г. – у Іўсціна[233]; 21.09.1852 г. – у Міхаіла[234], сыноў дваран Сімяона Андрэевіча і Паўліны Францаўны Забэлаў.

182/116 **Вікенцій (Гаўрыіл),** нарадзіўся ў засценку Гута ў сям'і шляхцічаў Якава Сямёнавіча і Праскоўі (Тэрэзіі) Кандрацьеўны, народжанай Астрэйкі, Сацкевічаў-Статкевічаў. Ахрышчаны 25.03.1816 г. святаром Паўлам Наркевічам у Цялядавіцкай уніяцкай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі Францішак Крэпскі і Схаластыка Гудрановічава[235]. Сабраў дакументы, якія пацвярджалі дваранскае паходжанне роду Сацкевічаў-Статкевічаў, і звярнуўся з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб «пацвярджэнні дваранскага звання шляхціча... Якава Сямёнавіча Статкевіча, які жыў у фальварку Рулёва». Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[236]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[237]. Разам з Наталляй Тарасаўнай Нікановіч быў хросным 16.07.1833 г. ва Уліты[238], 04.07.1835 г. – у Філіпа[239], 15.09.1840 г. – у Сафіі[240], 22.02.1842 г. – у Агафіі[241], з Ганнай Тарасаўнай Нікановіч 03.01.1844 г. – у Пятра[242], дзяцей Пракопа Нікіціча і Марыі Фёдараўны Астрэйкаў; з Францішкай Андрэеўнай Забэлай 24.03.1858 г. – у Антаніны[243], дачкі Максіма Іванавіча і Марыі Іванаўны Корбутаў. Разам з Адамам Грыгор'евічам Статкевічам быў сведкам з боку маладой у час шлюбу 31.05.1843 г. Ануфрыя Антонавіча Шпакоўскага і Ганны Данілаўны Статкевіч[244].

Купіў 23.04.1847 г. у памешчыка Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні Тэафіла Маліноўскага зямлю ў абрубах Малінава і Яменец Бабруйскага павета, што пацвярджае выпіс з кніг Бабруйскага павятовага суда 20.06.1847 г.: «...помещик Рогачевского Теофил Антонов, сын Малиновский, дал сию купчую крепость дворянину Ивану Васильеву Корбуту в том, что имея собственностию мне принадлежащую землю в Бобруйском уезде, состоящую в двух обрубах, Малиновее и Яменце называемыми... ему, Ивану Корбуту, Семену Можейке, Онуфрию Можейке, Семену Забелла, Василию, Францу Забеллам, Андрею и Захарию Сыцком, Павлу Плышевскому, Викентию Стацкевичу и Степану Корбуту в общее им владение 300 десятин с предоставлением им права разделить между собою оную землю на части...»[245]

Згадваецца ў рапарце Бабруйскага павятовага суда ў Мінскую палату грамадзянскага суда ад 13.10.1848 г., дзе разам з Іванам Корбутам і іншымі дваранамі вяртае пазыку па заёмным пісьме памешчыку Маліноўскаму[246]. Разам з Францішкай Андрэеўнай Забэлай быў хросным 05.06.1861 г. у Іаана[247], 25.03.1866 г. – у Марыі[248], дзяцей дваран Максіма Іванавіча і Марыі Іванаўны Корбутаў. Падаў прашэнне 28.01.1866 г. у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход, «пры якім даў дваццаць рублёў на выраб пасведчанняў аб дваранстве Іаану і Васілю, сынам прасіцеля Вікенція Якаўлева Сацкевіча-Статкевіча»[249].

Значыўся ў спісах землеўладальнікаў Мінскай губерні: за 1876 г. пад № 2643, жыў у маёнтку





Выпіс з метрычнай кнігі Цялядавіцкай царквы Слуцкага павета аб нараджэнні 25.03.1816 г. Вікенція. Бацькі: Якаў Сямёнавіч Сацкевіч-Статкевіч і Праскоўя (Тэрэзія) Кандрацьеўна Астрэйка (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 182/116). Вікенцій Якаўлевіч Сацкевіч-Статкевіч – прапрадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава. *НГАБ, ф. 136, воп. 13, спр. 1500, арк. 118–118 адв.*



ЦѢНА 40 КОП. СЕРЕБРОМЪ

Свидѣтельство

По Указу Его Императорскаго Величества дано сiе изъ Минской Казенной Палаты за надлежащимъ подписомъ и приложенiемъ казенной печати дворянину Бобруйскаго Уѣзда Викентiю Яковлеву сыну Сацкевичу-Стацкевичу вслѣдствiе поданнаго имъ прошенiя и состоявшагося по оному журнала Палаты 24 Марта сего 1880 г. въ томъ, что Константинъ и Петръ сыновья Сильвестра Яковлева, Иванъ сынъ Михаила 1го и Александръ сынъ Михаила 2го Яковлевы, Семенъ сынъ [illegible], Антонъ и Иванъ сыновья Матвѣя Викентьева Сацкевичи-Стацкевичи въ числѣ гражданъ и однодворцевъ по Бобруйскому Уѣзду а также и мѣщанъ по сказкамъ 10й переписи записанными не состоятъ. Марта 26 дня 1880 г.

№ 2818

Управляющiй [illegible]

Начальникъ Отдѣленiя [illegible]

За Столоначальника [illegible]

Пасведчанне ад 26.03.1880 г., выдадзенае Мінскай казённай палатай двараніну Бабруйскага павета Вікенцію Якаўлевічу Сацкевічу-Статкевічу аб тым, што пералічаныя ў дакуменце яго родзічы ў грамадзянах і аднадворцах па Бабруйскім павеце не значацца (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 182/116). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3080, арк. 177.*



часть вторая, о бракосочетавшихся.

| Кто совершалъ таинство. | Кто были поручители. | Подпись свидѣтелей записи по желанію. |
|---|---|---|

Метрычная кніга Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета. Запіс аб шлюбе 15.10.1839 г. шляхціча фальварка Рулёва Вікенція Якаўлевіча Статкевіча, 23 гадоў, і шляхцянкі Марыі Андрэеўны Забэлы, 18 гадоў, рымскага веравызнання (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 182/116). *НГАБ, ф. 136, воп. 14, спр. 311, арк. 234 адв.–235.*

Малінава Бабруйскага павета, валодаў 160 дзесяцінамі зямлі па купчай крэпасці 1847 г.[250], за 1889 г. пад № 881, валодаў 120 дзесяцінамі зямлі ў ваколіцы Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета[251].

Збіраў дакументы для далучэння пляменнікаў да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў, звяртаючыся з прашэннямі ў адпаведныя інстанцыі: 26.03.1880 г. Мінская казённая палата выдала Вікенцію Якаўлевічу Сацкевічу-Статкевічу пасведчанне аб тым, што Канстанцін і Пётр, сыны Сільвестра Якаўлева, Іаан, сын Міхаіла (першага), і Аляксандр, сын Міхаіла (другога) Якаўлевых, Сямён, сын Фёдара Адамова, Антон і Іван, сыны Мацвея Васільева Сацкевічаў-Статкевічаў, у ліку грамадзян і аднадворцаў па Бабруйскім павеце не значацца[252]; падаў метрычныя выпісы аб нараджэнні і хрышчэнні вышэйназваных асоб у царкве. У адносіне Бабруйскага павятовага прадвадзіцеля дваранства А. Варанцова-Вельямінава ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход ад 28.03.1880 г. сказана, што ён не перашкаджае далучэнню да дваранства асоб роду Сацкевічаў-Статкевічаў па прашэнні двараніна Вікенція Якаўлева Сацкевіча-Статкевіча з-за адсутнасці ў некаторых метрыках прыдомка Сацкевіч перад прозвішчам Статкевіч[253]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. пляменнікі Вікенція Якаўлевіча, пра якіх ён хадайнічаў, былі далучаны да роду[254].

Заплаціў 08.06.1893 г. акладнага збору з фальварка Малінава 3 руб. 11 кап.[255] Памёр пасля 1895 г. Пахаваны на могілках у вёсцы Клетнае Клетненскага сельсавета Глускага раёна. Усталяваны помнік.

Жонка – **Марыя Андрэеўна Забэла** (гл. «Забэлы І» 29/18), 18 гадоў, шляхцянка, рымскага веравызнання. Шлюб 15.10.1839 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Сведкі: з боку маладога – шляхцічы Іосіф [Баршацкі], Вікенцій Рымашэўскі, з боку маладой – Марцін Татур і Дзмітрый Андрусевіч[256]. Разам з Іосіфам Аўгусцінавічам Шпакоўскім была хроснай 24.03.1844 г. у Вікенція[257], 11.01.1847 г. – у Аляксандры[258], дзяцей дваран Гаўрыіла Даніілавіча і Елізаветы Ігнацьеўны Статкевічаў; з Васілём Андрэевічам Сыцько 23.01.1866 г. – у Сафіі[259], дачкі Васіля Іванавіча і Наталлі Стэфанаўны Корбутаў.

183/116 **Аляксандр-Сільвестр,** нарадзіўся 02.01.1829 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Якава Сямёнавіча і жонкі ў другім шлюбе Ганны Ільінічны, народжанай Гарэлік, Статкевічаў. Ахрышчаны 02.01.1829 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Рума шляхціч Сімяон Статкевіч і жонка шляхціча засценка Шамы Сімяона Рудзінскага Настасся[260]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[261]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[262]. Разам з Елізаветай Іванаўнай Ліхадзіеўскай быў хросным 22.03.1847 г. у Антона[263], сына Адама Грыгор'евіча і Антаніны Іванаўны Статкевічаў; з Еўфрасінняй Андрэеўнай Забэлай 14.07.1866 г. – у Антонія[264], сына дваран Мацвея Васільевіча і Еўфрасінні Максімаўны Статкевічаў.

Судзіўся ў 1868–1869 гг. у Бабруйскім павятовым судзе з глускай мяшчанкай Домнай Якаўлеўнай Харланчуковай аб нанясенні пабояў яе дачцэ Таццяне. Домна Харланчукова 21.10.1868 г. звярнулася з прашэннем да станавога прыстава Баб-

руйскага павета аб аглядзе ўрачом яе дачкі Тацьцяны, дзе пісала: «Вчерашняго 20 числа вечером неизвестно по какой причине житель застенка Малинова Александр Стецкевич придя в дом дворянина Матвея Стецкевича, у которого дочь моя Татьяна, 14 лет, находилась на службе, побил сильно в голову и по лицу мою дочь Татьяну, от чего она теперь находится в болезненном состоянии...»[265] Штацкі лекар А. Клецкі 21.10.1868 г. даў заключэнне аб стане яе здароўя: «...Татьяна, лет 14-ти, телосложения слабого, лимфического, под правым глазом находится сине-багровое пятно и нижнее правое веко вспухшее, на голове на месте правой теменной кости покровы вспухшие, вся рубашка в крови, от истекшей крови из носа и около носа заметны сгустки запекшейся крови, в общем состоянии заметно сильное раздражение, пульс ускорен. Из выше прописанного я заключаю, что побои, нанесенные Татьяне как малолетней и слабой девочке, подвергают ее страданию и относятся к менее легким»[266]. У судзе 05.11.1868 г. даў паказанні сведка Іосіф Андрэевіч Забэла: «Иосиф Андреев Забелло, гражданин г. Бобруйска, житель околицы Малиново, от роду 35 лет, веры православной, поясняю: в воскресенье 20 числа октября я приходил по своей надобности в дом Матвея Стецкевича, придя туда, я сел на лавке, пришедшая при мне в хату девушка Татьяна, служанка Стецкевича, стояла около печки, в это время вошел в хату к Стецкевичу Александр Стецкевич и звал к себе на ужин Стефана Можейку, потом, заметив Татьяну, сказал, за что она била его хлопца, но она ответила, что не била, он же без всякой причины ударил ее, Татьяну, три раза по шеи и по лицу, а потом, когда Матвей Стецкевич стал боронить, то Александр и еще ударил Татьяну»[267]. Сам Аляксандр-Сільвестр Якаўлевіч Сацкевіч-Статкевіч 17.11.1868 г. патлумачыў здарэнне наступным чынам: «Двуименный Александр Сильвестр Яковлев Стецкевич, дворянин, житель околицы Малинова, от роду 40 лет, веры православной, под судом не был, поясняю: 20 числа октября месяца я послал своего сына Иосифа в дом моего брата двоюродного Матвея Стецкевича, дабы он позвал пастуха Можейку на ужин, когда же мой сын пришел к Матвею Стецкевичу и под окошком звал пастуха Можейку, то служанка Матвея Стецкевича Татьяна Яковлева Харланчукова выбежала из дому и побила моего сына Иосифа без никакой причины, то сын мой Иосиф прийдя ко мне с плачем, жаловался мне на Татьяну Харланчукову, причинившую ему побои, я как отец не мог этого вынести, пошел к Матвею Стецкевичу и начал бранить Татьяну, но когда же Татьяна начала ругать меня, то я ударил ея три раза в голову, при сем были Иосиф Забелло и пастух Можейко»[268].

Значыўся ў спісах землеўладальнікаў Мінскай губерні: за 1876 г. пад № 2642, жыў у маёнтку Малінава Бабруйскага павета, валодаў 160 дзесяцінамі зямлі па купчай крэпасці 1847 г.[269], за 1889 г. пад № 883, валодаў 80 дзесяцінамі зямлі ў ваколіцы Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета[270]. Разам з Андрэем Сямёнавічам Мажэйкам быў сведкам з боку маладога пры шлюбе ў Парыцкай Свята-Духавай царкве 08.06.1883 г. Міхаіла Сямёнавіча Забэлы і Агрыпіны Паўлаўны Некрашэвіч[271]. Разам з дваранамі Пятром, Маісеем і Сцяпанам Васільевічамі Бялькевічамі, Фамой Іосіфавічам Валадковічам, Андрэем Сцяпанавічам, Лаўрэнціем і Фёдарам Васільевічамі Мажэйкамі, Львом Фёдаравічам Ждановічам-Гурыновічам, Сцяпанам Васільевічам Некрашэвічам купіў 11.05.1884 г. у прускага падданага Карла Рыхарда Хрыстафорава Юнкуна зямлю 2757 дзесяцін 1370 квадратных сажняў у маёнтку Юзафполь

(Іванішчавічы) Рудабельскай воласці Бабруйскага павета[272]. Заплаціў 28.05.1893 г. акладны збор за фальварак Іванішчавічы 9 руб. 70,5 кап.[273]

Сяляне вёскі Пад'елле 09.06.1888 г. падалі прашэнне ў Мінскі акруговы суд на землеўладальнікаў Максіма Корбута, Сільвестра Статкевіча, Антона Забэлу, Анафрэя Мажэйку, Андрэя Сыцько і Максіма Плышэўскага аб узнаўленні парушанага імі ўладання пашамі ва ўрочышчы Лятушына: «Считается за нами пастбище в урочище Летушине в количестве приблизительно 15 десятин постоянно пастили и пользовались между прочем шляхта застенка Малинова 3 ст. Бобруйского повета Максим Корбут, Сильвестр Статкевич, Антон Забелый, Анофрей Можейка, Андрей Сыцько и Максим Плышевский куплено ими земли в сказанном застенке Малинове в 1846 году, уже третий год тому назад как препятствуют нам в пастбище и совсем занарушает в их пользу и, несмотря, что не принадлежал и не принадлежит к ним...»[274]

Разам з сынамі Зянона Забэлы, Мажэйкамі і сялянамі Сакалоўскімі купіў 01.02.1895 г. у Гаўрылы Пятровіча Рудкоўскага ў агульную маёмасць частку маёнтка – ферму Дарашкевічы колькасцю 1498,003 дзесяціны за 15 000 рублёў серабром, з якіх яму належала 299 дзесяцін 1454 сажні[275].

Жонка – Алена Васільева.

184/116 **Міхаіл (першы),** нарадзіўся 08.11.1831 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхціцаў Якава Сямёнавіча і жонкі ў другім шлюбе Ганны Ільінічны, народжанай Гарэлік, Статкевічаў. Ахрышчаны 12.11.1831 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Рума шляхціч Сімяон Максімаў Статкевіч і жыхарка засценка Шамы жонка шляхціча Сімяона Фларыянава Рудзінскага Настасія Раманава[276]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[277]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[278]. У 1870 г. жыў у засценку Гарадзішча (Гарадзец) Глускай воласці Бабруйскага павета, быў прыхаджанінам Глускай Уваскрэсенскай царквы.

Жонка – аднадворка ваколіцы Жуковічы Параскевія Іосіфаўна Перагуд, 19 гадоў. Шлюб 11.05.1869 г. святаром Іаанам Далінскім, дзякам Ільёй Тычынам і панамаром Дзмітрыем Мацкевічам у Поблінскай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Сведкі: з боку маладога – мешчанін фальварка Гарадзіца Зянон Андрэевіч Забэла і аднадворац ваколіцы Малінава Максім Паўлавіч Плышэўскі, з боку маладой – аднадворац ваколіцы Жуковічы Іван Мацвеевіч Гурыновіч і дваранін Васіль Ігнатавіч Гуткоўскі[279].

185/116 **Міхаіл (другі),** нарадзіўся 08.11.1833 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхціцаў Якава Сямёнавіча і жонкі ад другога шлюбу Ганны Ільінічны, народжанай Гарэлік, Статкевічаў. Ахрышчаны 09.11.1833 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і панамаром Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Рулёва Фадзей Паўлаў Шыманскі і жонка шляхціча Сімяона Фларыянава Рудзінскага Настасія Раманава[280]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[281]. У 1858–1861 гг. жыў у засценку Малінава, з 1867 г. у засценку Гарадзішча Глускай воласці Бабруйскага павета. Разам з Ганнай Васільеўнай Статкевіч быў хросным 23.01.1860 г. у Грыгорыя (аднаго з двойні)[282], сына

Васіля Іванавіча і Наталлі Корбутаў, з Францішкай Андрэеўнай Забэлай 06.08.1861 г. – у Антонія[283], 14.09.1863 г. – у Іаана[284], 01.10.1865 г. – у Міхаіла[285], 26.09.1866 г. – у Іосіфа, 26.10.1869 г. – у Андрэя[286], 02.04.1872 г. – у Стэфана[287], сыноў Зянона Андрэевіча і Сафіі Ігнацьеўны Забэлаў.

Значыўся ў спісе землеўладальнікаў Мінскай губерні: за 1876 г. пад № 2647, жыў у маёнтках Гарадзішча Глускай воласці Бабруйскага павета, Пархочава Бабруйскага павета, валодаў 139 дзесяцінамі зямлі па купчых крэпасцях ад 04.05.1867 г.[288]; за 1889 г. пад № 884, валодаў 138 дзесяцінамі зямлі ў ваколіцы Гарадзішча Глускай воласці Бабруйскага павета[289]. Звярнуўся з прашэннем (?).12.1880 г. у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў, зацверджанага ўказам Сената ад 11.07.1856 г., № 3776, сына Аляксандра і пляменнікаў Канстанціна і Пятра, сыноў Сільвестра Якаўлевіча; Іаана, сына Міхаіла (першага) Якаўлевіча; Сямёна, сына Фёдара Адамавіча; Антонія і Івана, сыноў Мацвея Васільевіча Сацкевічаў-Статкевічаў[290]. У 1880 г. жыў у засценку 3-га стану Гарадзішча Глускай воласці Бабруйскага павета.

Жонка – Алена Іванаўна.

186/116 **Еўфрасіння,** нарадзілася 24.09.1809 г. у мястэчку Пясечнае ў сям'і шляхцічаў Якава Сямёнавіча і Параскевіі Кандрацьеўны Статкевічаў. Ахрышчана 25.09.1809 г. святаром Фамой Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары мястэчка Пясечнае Павел Стасевіч (Статкевіч?) і жонка Нікіфара Астрэйкі Ганна[291]. Памерла «одержима горячкою» і пахавана 07.05.1811 г. святаром Пясечанскай Пакроўскай царквы Фамой Салаўевічам[292].

187/116 **Павел,** нарадзіўся ў мястэчку Пясечнае ў сям'і шляхцічаў Якава Сямёнавіча і Параскевіі Кандрацьеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 15.01.1800 г. святаром Пясечанскай Пакроўскай царквы. Хроснымі бацькамі былі жыхары мястэчка Пясечнае Нікіфар Кандрацьевіч Астрэйка і дачка Івана Стасевіча (Статкевіча?) Фёкла[293]. Памёр і пахаваны 04.08.1801 г. святаром Пясечанскай Пакроўскай царквы[294].

188/116 **Ганна,** нарадзілася ў мястэчку Пясечнае ў сям'і шляхцічаў Якава Сямёнавіча і Параскевіі Кандрацьеўны Статкевічаў. Ахрышчана 12.12.1802 г. святаром Сімяонам Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары маёнтка Пясечнае Андрэй Цярэшка і дачка Івана Стасевіча (Статкевіча?) Фёкла[295].

### XIV КАЛЕНА

188а/116а **Гвідон.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.11.1871 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. У 1904 г. жыў у Варонежскай губерні.

Жонка – Марыя-Елізавета Кубля.

189/117 **Іван.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве.

190/117 **Дзям'ян (Данііл).**

191/118 **Самуэль (Самуіл).** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Ірына Феліксаўна.

192/118 **Амяльян,** нарадзіўся 06.08.1817 г., ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду Статкевічаў рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г.

193/118 **Сямён.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

194/119 **Стэфан.**

195/119 **Якуб.**

196/120 **Дзям'ян.**

197/121 **Андрэй.**

198/121 **Ян.**

199/121 **Тэадор.**

200/122 **Тэадор.**

201/123 **Антоній.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Марыя.

202/123 **Ануфрый,** нарадзіўся 12.07.1806 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Анастасія Фамінічна.

203/123 **Павел,** ахрышчаны 12.01.1810 г.

204/124 **Ян.** У 1816 г. на ваеннай службе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны ў дваранстве разам з роднымі братамі да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

205/124 **Ян.**

206/124 **Марцін.**

207/124 **Ян.**

208/124 **Стэфан.**

209/125 **Даніэль.** Прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г.

210/125 **Тэафіл,** нарадзіўся 23.07.1809 г., ахрышчаны ў Малышэвіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г.

211/125 **Павел,** *1812 г. н. У 1816 г. ён быў, верагодна, запісаны як Данііл (Даніэль). Імя зменена на падставе сведчання святара Прорвіча і растлумачана ў прашэнні 1835 г. Мацвея Іванавіча Статкевіча. Метрыка аб яго нараджэнні не знойдзена, замест яе Мінская грэка-расійская кансісторыя 29.05.1835 г. выдала пасведчанне аб яго хрышчэнні гэтым імем і паходжанні. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 29.05.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

212/125 **Лявон,** *1814 г. н. Прызнаны ў дваранстве пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. і 28.11.1861 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Ганна Паўлаўна.

213/125 **Сымон.** Прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г.

214/126 **Ян.**

215/126 **Грыгорый.**

216/126 **Рафал.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны ў дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

217/127 **Антоній,** нарадзіўся 04.07.1818 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 04.07.1818 г. у Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Ксенія.

218/128 **Сямён,** *1822 г. н. Метрыка не знойдзена, згодна са сведчаннем Мінскай праваслаў-

най духоўнай кансісторыі ад 30.11.1834 г., што з'явілася ў выніку следства, праведзенага пагосцкім святаром з ключвойтам, заўшыцкім святаром са старобінскім ключвойтам, сведчанняў паважаных людзей, пацверджаных запісамі ў споведных ведамасцях, меў 12 гадоў і быў сынам Геранiма і Фядоры Філіпаўны Статкевічаў[296]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. У 1844 г. звяртаўся з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход па справе аб прызнанні роду ў дваранстве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1844 г. жыў у засценку Васіль Барок.

219/128 **Іван,** нарадзіўся 25.03.1828 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 25.03.1828 г. у Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1862 г. жыў у засценку Васіль Барок.

Жонка – А л е н а Ф ё д а р а ў н а.

220/128 **Васіль,** нарадзіўся 18.07.1831 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 18.07.1831 г. у Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1877 г. жыў у засценку Васіль Барок, у 1893 г. – у сяле Заўшыцы Слуцкага павета на арэнднай зямлі памешчыка Прашынскага[297].

Жонка – Аляксандра Сямёнаўна Б я л ь к е в і ч, *1835 г. н., дваранка герба «Дуб». У 1913 г. жыла ў вёсцы Астравок Цараўскай воласці Слуцкага павета. Памерла ў 1913 г.

221/129 **Васіль,** нарадзіўся 04.03.1827 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны ў Малышэвіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г.

222/131 **Пётр,** нарадзіўся 01.07.1824 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Н а с т а с с я Ф а м і н і ч н а.

223/131 **А ф а н а с і й (І в а н),** н а р а д з і ў с я 04.12.1826 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. У 1856 г. у Слуцкім земскім судзе разглядалася справа аб нанясенні пабояў Іванам Прохаравічам Статкевічам дваранцы Кацярыне Васілеўскай. У 1857 г. жыў у засценку Лаўровічы Слуцкага павета. У 1857 г. звярнуўся з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход па справе аб прызнанні ў дваранстве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Мінская духоўная кансісторыя праводзіла следства аб імені і шлюбе Афанасія, вынікі былі выкладзены ў рэзалюцыі Мінскага епархіяльнага кіраўніцтва 12–14.01.1881 г., пасля апытвання сведак было ўстаноўлена: «...до женитьбы его звали Ясем (Иваном) Прохоровым

Стеткевичем, он родился в застенке Северинах Завшицкого прихода и по смерти своих родителей переселился в застенок Лавровичи, где и жил до своей женитьбы под именем Ивана Прохорова Стеткевича. Когда от брака его с Дариею Игнатиевою родилась дочь Елена, то он объявил местному священнику, а равно и своим односельцам, что подлинное имя его, данное при Святом Крещении, есть Афанасий, а не Ясь или Иван. Так впоследствии и звали и писали его где нужно не Иваном, а Афанасием Прохоровым Стеткевичем, выговаривая фамилию его Статкевич. От Афанасия Прохорова Стеткевича с Дариею Игнатиевою и родились дети: Елена, Иван, Стефанида, Михаил, Екатерина, Тимофей, Антонина и Пётр. В застенке Лавровичах, сколько помнит, не было другого лица, именовавшегося Иваном Прохоровым Стеткевичем»[298]. Памёр да 1884 г.

Жонка – аднадворка Дар'я (Дарота), *1833 г. н., дачка двараніна герба «Баґорыя» Ігнація Пятровіча Марэцкага. Шлюб 31.10.1854 г. у Чыжэвіцкай царкве. Мінскі дваранскі дэпутацкі сход 03.03.1884 г. атрымаў прашэнне ўдавы Дар'і Ігнацьеўны, дзе яна прасіла далучыць да роду непаўналетніх дзяцей Міхаіла, Цімафея і Пятра, якія нарадзіліся пасля зацвярджэння ў дваранстве іх бацькі. Рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.03.1884 г. Мікалай Антонавіч, Іван, Міхаіл, Цімафей і Пётр Афанасьевічы далучаны да роду. Указам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 20.06.1884 г., № 2759 былі зацверджаны ў дваранстве Мікалай Антонавіч, Міхаіл, Цімафей і Пётр Афанасьевічы; Іван Афанасьевіч не зацверджаны ў дваранстве ў сувязі з непадачай метрыкі аб яго нараджэнні і хрышчэнні[299]. У 1884–1893 гг. жыла ў засценку Пятніцы Слуцкага павета. Памерла ў 1893 г.

224/132 **Стэфан,** нарадзіўся 28.09.1832 г. у засценку Заўшыцы, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

225/132 **Панцеляймон (Панталей, Платон),** нарадзіўся 27.07.1836 г. у засценку Заўшыцы, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве[300]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонкі: 1. Вольга Іванаўна; 2. Дваранка Стэфаніда Міхайлаўна Сакалоўская, шлюб 28.05.1878 г. у Петрыкаўскай царкве.

226/133 **Прохар,** *1819 г. н., ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Жыў у вёсцы Заўшыцы.

Жонка – Алена Фёдараўна.

227/133 **Данііл,** *1822 г. н., ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г.

228/133 **Феафіл,** нарадзіўся 24.06.1836 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве[301]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1878 г. жыў у вёсцы Заўшыцы Слуцкага павета.

Жонка – Марыя Іванаўна, *1838 г. н.

229/134 **Іван,** нарадзіўся 07.05.1830 г., ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1893 г. жыў у засценку Іздрашава Слуцкага павета[302].

Жонка – Кася Сцяпанаўна Б р а з о ў с к а я, *1843 г. н., дваранка герба «Кораб».

230/134 **Іосіф,** нарадзіўся 02.04.1833 г. у засценку Севярын, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

231/135 **Максім.** У адпаведнасці з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за 1822 г. быў запісаны ў ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[303].

Жонка – М а р ы я Ф ё д а р а ў н а.

232/135 **Ян,** *1804 г. н. У адпаведнасці з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе ад 14.06.1816 г. быў запісаны ў ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[304]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. не прызнаны разам з братам Грыгорыем у дваранстве да падачы пераканаўчых доказаў і шляхецкіх рэвізскіх сказак.

233/135 **Грыгорый.**

234/136 **Якаў.** У адпаведнасці з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе за 1822 г. быў запісаны разам з братамі Грыгорыем і Андрэем у ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[305]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Жыў у засценку Ужа.

Жонкі: 1. (?); 2. Е ў ф р а с і н н я Л я в о н ц ь е ў н а.

235/136 **Грыгорый.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1864 г. жыў у засценку Лаўровічы.

Жонка – Д а м н і к е я А н д р э е ў н а.

236/136 **Андрэй.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Жыў у засценку Будзішча.

Жонка – К с е н і я І в а н а ў н а.

237/137 **Якаў,** нарадзіўся 21.10.1827 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве[306]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.10.1832 г. У прашэнні, атрыманым Мінскім дваранскім дэпутацкім сходам 28.09.1862 г., паведаміў, што не быў уключаны ў вывад 1861 г., у яго метрыцы бацька запісаны Міхаілам Феафілавічам, прасіў выправіць на Міхаіла Рафаілавіча, далучыць яго да роду і адасланы справу на зацвярджэнне ў Герольдыю[307]. Згодна з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 08.01.1865 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, разам з сынам Адамам залічаны ў аклад аднадворцаў Слуцкага павета 4-га Касыніцкага ўчастка з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[308]. У 1862–1865 гг. жыў у засценку Васіль Барок.

238/138 **Стэфан.**

239/138 **Мацей.**

240/139 **Міхаіл.**

241/141 **Сымон.** Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.07.1816 г. і 28.11.1861 г. прызнаны разам з братамі Васілём, Стэфанам і другім Стэфанам у дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

242/141 **Васіль.** Жыў у засценку Сорагі.

Жонка – Марыя Марцінаўна.

243/141 **Ян,** ахрышчаны 28.10.1808 г. ва Усьнеўскай царкве.

244/141 **Стэфан,** ахрышчаны 22.01.1813 г. ва Усьнеўскай царкве.

245/141 **Васіль.**

246/142 **Васіль,** нарадзіўся 22.03.1800 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 22.03.1800 г. у Заўшыцкай царкве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Сінкліція Іванаўна.

247/142 **Данііл,** нарадзіўся 30.06.1803 г. у засценку Церабохаў, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве[309]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ў 1861 г. у сувязі з непададачай метрыкі.

Жонка – Еўфрасіння Самуілаўна.

248/142 **Кірыл,** нарадзіўся 18.03.1804 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве[310]. У 1816 г. ён быў запісаны як Стэфан. Імя зменена на падставе сведчання святара Прорвіча, пададзенай метрыкі і растлумачана ў прашэнні Мацвея Іванавіча Статкевіча ў 1835 г. у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г.

249/142 **Якаў,** *1819 г. н. Метрыка не знойдзена, адпаведна пасведчанню Мінскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі ад 30.11.1834 г., што з'явілася вынікам следства, праведзенага пагосцкім святаром з ключвойтам, заўшыцкім святаром са старобінскім ключвойтам, сведчанняў паважаных людзей, пацверджаных запісамі ў споведных ведамасцях, меў 15 гадоў і быў сынам Івана Емяльянавіча і Еўдакіі Андрэеўны Статкевічаў[311]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

250/143 **Іосіф.**

251/144 **Іван.**

252/144 **Іосіф.**

253/145 **Дзям'ян.**

254/145 **Гаўрыіл,** ахрышчаны 26.03.1802 г. У 1816 г. ён быў запісаны як Ян. Імя зменена на падставе сведчання святара Прорвіча, пададзенай метрыкі і растлумачана ў прашэнні Мацвея Іванавіча Статкевіча ў 1835 г. у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход. Згодна з паведамленнем Мінскай казённай палаты ад 25.11.1859 г. па рэвізіі 1816 г., шляхецкім спісе 14.06.1816 г. быў запісаны разам з сям'ёй Пятра Міхайлавіча ў ліку чыншавай шляхты Слуцкага павета[312]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Параскевія.

255/145 **Антоній,** нарадзіўся 03.07.1811 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай

царкве[313]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Жыў у засценку Дунцы Слуцкага павета.

256/145 **Платон,** нарадзіўся 17.12.1813 г. у засценку Церабохаў, ахрышчаны 19.12.1813 г. у Заўшыцкай царкве. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., значыўся ў засценку Валожыцы[314]. Згодна з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 24.08.1868 г. разам з сынамі Фёдарам, Іванам і Пудам, унукам Філіпам Фёдаравічам залічаны ў саслоўе сялян-уласнікаў Забалацкай воласці Бабруйскага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[315]. Далучаны да дваранскага роду разам з сынамі Фёдарам, Іванам і Пудам, унукам Філіпам Фёдаравічам рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад (?).01.1870 г.

Жонка – Параскевія Іванаўна (Марцінаўна, Фёдараўна).

257/146 **Амяльян (Емяльян, Матэвуш).** У 1816 г. ён быў запісаны як Матэвуш. Імя зменена на падставе сведчання святара Прорвіча і растлумачана ў прашэнні Мацвея Іванавіча Статкевіча ў 1835 г. у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

Жонка – Антаніна, каталіцкага веравызнання.

258/146 **Андрэй,** нарадзіўся 25.10.1820 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве[316]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

259/146 **Яўсевій (Яўгеній),** нарадзіўся 20.06.1823 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве[317]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

259а/148 **Вікенцій,** *1875 г. н. Па сямейным спісе дваран 1878 г., жыў у засценку Баравая Бабруйскага павета.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 566, арк. 13–14.*

259б/148 **Кацярына,** *1861 г. н. Па сямейным спісе дваран 1878 г., жыла ў засценку Баравая Бабруйскага павета.

260/152 **Пётр-Іосіф.**

261/152 **Казімір,** нарадзіўся 27.06.1842 г. Атрымаў 02.05.1870 г. пасведчанне, выдадзенае слуцкім павятовым прадвадзіцелем дваранства, аб пацвярджэнні прозвішча Сацкевіч-Статкевіч: «Дано сие... Казимиру Фомину Сацкевичу-Стецкевичу в том, что по документам рода Сацкевичей-Стецкевичей, вошедших в состав определения Минского дворянского депутатского собрания от 21 июня 1802 г. и 29 декабря 1832 г., 27 февраля 1835 г. и 28 декабря 1855 г., состоявшихся о дворянстве этого рода, слово "Сацкевич" не означает другой фамилии, а только частицу, предфамильное название, так называемое придомок, употребляющееся предками рода Сацкевичей-Стецкевичей по принятому в то время обычаю многими фамилиями при заключении между собою сделок, в особенности о переходе имений, предфамилийное назва-

ние усваивалось одними от наименования имения предков, а другими от герба, но в общественной жизни эта частица, или “придомок”, исконечно употреблялся, имея ввиду, что употребление таковых частиц, или придомков, по документам, обязательным по закону не было и не есть, а представлялось произволу составителей документов или ходатаев, а потому и при крещении детей, по метрикам писалась одна только фамилия без добавления “придомка”, таким образом и предки рода Сацкевичей-Стецкевичей с давних времен по крепостным сделкам, духовным завещаниям и прочим документам писались Сацкевичи-Стецкевичи, а в последнее время при крещении детей по метрикам и прочим документам писались прямо Стецкевичи, но ни в каком случае это предфамилийное название “Сацкевич”, как не было обязательным, не может в существе представлять малейшего недоумения в тождестве фамилии»[318].

262/152 **Аляксандр,** нарадзіўся 19.06.1845 г.

263/152 **Іван,** нарадзіўся 29.05.1850 г. Пісьменны. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці на ўласнай зямлі (17 дзесяцін).

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 645, арк. 577.*

Жонка – Ганна Фабіянаўна, *1863 г. н.

264/152 **Антон,** нарадзіўся 02.06.1855 г.

265/157 **Антон,** нарадзіўся 27.08.1823 г.

266/158 **Сцяпан,** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Пляцыда і Алены, народжанай Асмольскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 17.06.1800 г. святаром Міхаілам Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі Андрэй Статкевіч і Магдалена Асмольская[319]. Па рэвізскай сказцы 1816 г.[320] і сямейным спісе 1828 г.[321] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў.

Жонка – Францішка.

267/158 **Карл (Павел),** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Пляцыда і Алены, народжанай Асмольскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 05.01.1802 г. «з дабаўленнем новаахрышчанаму імені Павел» святаром Міхаілам Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране ваколіцы Валожыцы Юрый Флараловіч і Алена Статкевічава[322]. Па рэвізскіх сказках 27.11.1811 г.[323] і 1816 г.[324] і сямейным спісе 1828 г.[325] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў. Атрымаў 03.03.1836 г. пасведчанне слуцкага павятовага прадвадзіцеля дваранства, дзе сказана, што «ваколіца Валожыцы, якая ляжыць у Мінскай губерні Слуцкага павета, знаходзіцца цяпер у вотчынным валоданні Сацкевічаў-Статкевічаў».

Жонка – Караліна Татаржынская. Па сямейным спісе 1828 г.[326] шляхты Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы.

268/158 **Юрый,** *1800 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г.[327] і 1816 г.[328], жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў.

269/158 **Тэрэза,** *1806 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў[329].

270/158 **Кацярына,** *1815 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1816 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў[330].

271/158 **Ян,** *1802 г. н. Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 27.11.1811 г., жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў[331].

272/158 **Франц-Ігнацій,** нарадзіўся ў сям'і дваран Пляцыда і Алены, народжанай Асмольскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 26.01.1806 г. ксяндзом Ігнатам Твароўскім у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Франц Арамовіч і Аляксандра Петрашкевічаўна, асістэнты [Сіль-

вестр] Статкевіч і Марыяна Корзунава[332]. Па рэвізскіх сказках 27.11.1811 г.[333], 1816 г.[334] і сямейным спісе 1828 г.[335] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў.

273/158 **Вікенцій,** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Пляцыда і Алены, народжанай Смольскай [Асмольскай], Статкевічаў. Ахрышчаны 19.03.1810 г. святаром Міхаілам Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране ваколіцы Валожыцы Іван Статкевіч і Марцэля Дамашэўская[336]. Па рэвізскай сказцы 1816 г. і сямейным спісе 1828 г.[337] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў[338]. У 1841–1848 гг. жыў у засценку Крывое Сяло, у 1857 г. – у засценку Думічы, быў прыхаджанінам Бабовенскага касцёла.

Жонка – Францішка Івашкевіч.

274/158 **Міхаіл,** нарадзіўся 06.07.1810 г. у сям'і дваран Пляцыда і Алены, народжанай Асмольскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 11.07.1810 г. ксяндзом Ігнатам Твароўскім у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Сільвестр Статкевіч і Марыяна Корзунава[339]. Па рэвізскай сказцы 27.11.1811 г.[340] і сямейным спісе 1828 г.[341] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў.

275/158 **Іосіф,** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Пляцыда і Алены, народжанай Асмольскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 24.12.1816 г. святаром Міхаілам Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране ваколіцы Валожыцы Сільвестр Статкевіч і Францішка Статкевічаўна[342]. Па рэвізскай сказцы 1816 г. і сямейным спісе 1828 г.[343] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў[344]. Разам з Каралінай Статкевіч быў хросным бацькам у Нясвіжскім касцёле 21.10.1834 г. у Францa, сына дваран Вікенція і Францішкі Статкевічаў[345].

276/159 **Пётр-Іван,** *1803 г. н. Па рэвізскіх сказках 27.11.1811 г.[346], 1816 г.[347] і сямейным спісе 1828 г.[348] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў. Быў прыхаджанінам Нясвіжскага касцёла.

Жонка – Уршуля Хацяновіч. Па сямейным спісе 1828 г.[349] дваран Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы.

277/159 **Міхаіл,** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Іаахіма і Марыяны Галавічоўны Статкевічаў. Ахрышчаны 24.01.1807 г. ксяндзом Цалясцінам Жуковічам у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі жыхары ваколіцы Валожыцы (?) Статкевіч і Гелена Статкевічава[350]. Па рэвізскіх сказках 27.11.1811 г.[351], 1816 г.[352] і сямейным спісе 1828 г.[353] шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Валожыцы на зямлі бацькоў. Разам з Францішкай Цвіркоўнай быў асістэнтам пры хрышчэнні 10.01.1822 г. у Солтанаўскай уніяцкай царкве Вікенція-Грыгорыя[354], сына шляхцічаў Ануфрыя і Марыяны Статкевічаў.

Жонка – Мар'яна. Па сямейным спісе 1828 г.[355] дваран Слуцкага павета, жыла ў ваколіцы Валожыцы.

278/159 **Францішка.**

279/163 **Аляксандр,** *1823 г. н. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыў у ваколіцы Валожыцы.

280/163 **Францішка,** *1808 г. н. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы.

281/163 **Анэля,** *1810 г. н. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы.

282/163 **Антаніна,** *1811 г. н. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы.

283/163 **Кацярына,** *1813 г. н. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы.

284/164 **Антон,** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Яна Марціновіча і Марыяны, народжанай Тамашэўскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 03.10.1816 г. святаром Мікалаем Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары ваколіцы Валожыцы Іосіф Тур і Разалія Дастаеўская, асістэнты Феліцыян Дамашэвіч і Кацярына Статкевічаўна[356]. Па сямейным спісе дваран 1828 г., жыў у ваколіцы Валожыцы.

285/164 **Караліна,** *1820 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[357], жыла ў ваколіцы Валожыцы.

286/164 **Станіслаў-Мікалай,** нарадзіўся ў ваколіцы Валожыцы ў сям'і шляхцічаў Яна і Марыяны, народжанай Тамашэўскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 09.01.1822 г. святаром Мікалаем Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары ваколіцы Валожыцы Францішак Статкевіч і Разалія Дастаеўская, асістэнты Карл Сцыгек і Марыяна Статкевічаўна, Ігнат Дамашэвіч і Ганна Статкевічаўна, Марцін Данброўскі і Францішка Статкевічаўна[358]. Па сямейных спісах дваран Слуцкага павета 1828 г.[359] і 1893 г., жыў у ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці, валодаў у 1893 г. 5 дзесяцінамі зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 645, арк. 583.*

287/165 **Вікенцій-Грыгорый,** нарадзіўся ў сям'і шляхцічаў Ануфрыя і Марыяны, народжанай Мяркоўскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 10.01.1822 г. святаром Аляксандрам Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары ваколіцы Валожыцы Ян Дастаеўскі і Магдалена Мяркоўская, Міхаіл Статкевіч і Францішка Цвіркоўна[360]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[361], жыў у ваколіцы Валожыцы.

288/165 **Валерыя,** *1823 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[362], жыла ў ваколіцы Валожыцы.

289/170 **Іпаліт,** нарадзіўся 21.01.1836 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Адама Грыгор'евіча (праваслаўны) і Антаніны Іванаўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчаны 23.01.1836 г. святаром Фамой Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Шамы шляхціч Фадзей Мацвееў Шыманскі і жыхарка засценка Рулёва жонка аднадворца Фёдара Аляксандравіча Ермаловіча Параскевія Іванаўна[363]. Памёр 11.03.1892 г., пахаваны святаром Дудаковіцкай царквы.

Жонка – Кацярына Вікенцьеўна Смольская. Шлюб 02.02.1875 г. у Вазнясенскай царкве г. Копысі.

290/170 **Дамнікія,** нарадзілася 20.02.1833 г. у сям'і шляхцічаў, што пражывалі на заставе ў засценку Рулёва, Адама Грыгор'евіча (праваслаўны) і Антаніны Іванаўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчана 20.02.1833 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Шамы шляхціч Фёдар Мацвееў Шыманскі і дачка шляхціча Васіля Паўлавіча Абрамовіча Антаніна Паўлаўна, дзяўчына[364]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыла ў засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[365].

291/170 **Вольга,** нарадзілася 23.06.1844 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран 2-га разраду Адама Грыгор'евіча (праваслаўны) і Антаніны Іванаўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчана 26.06.1844 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Шамы Сямён Фадзеевіч Шыманскі і дачка шляхціча засценка Думічы Баніфацыя Фёдаравіча [Камінскага] Марыяна, дзяўчына[366].

292/170 **Фёдар,** нарадзіўся 11.08.1828 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Адама Грыгор'евіча (праваслаўны) і Антаніны Іванаўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчаны 12.08.1828 г. святаром Фамой Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Шамы Тадэвуш Шамовіч і жонка Фёдара Ермаловіча Параскевія (каталічка)[367]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[368]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[369].

Жонка – Антаніна Андрэеўна З а б э л а, дачка Андрэя Марціновіча і Ганны, народжанай Татур, Забэлаў (гл. «Забэлы І» 30/18).

293/170 **Антон,** нарадзіўся 21.03.1847 г. у засценку Навінкі ў сям'і дваран 2-га разраду Адама Грыгор'евіча (праваслаўны) і Антаніны Іванаўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчаны 22.03.1847 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Навінкі Сільвестр Якаўлевіч Статкевіч і жонка шляхціча засценка Шамы Антона Іванавіча Ліхадзіеўскага Елізавета Іванаўна[370]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[371] Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў на хутары Звярынцы на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 645, арк. 572.*

Жонка – Ганна Фёдараўна Д а в і д о ў с к а я, *1846 г. н.

294/170 **Сямён,** нарадзіўся 07.02.1841 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран 2-га разраду Адама Грыгор'евіча (праваслаўны) і Антаніны Іванаўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчаны 09.02.1841 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам на пасадзе дзячка Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Шамы Фадзей Мацвееў Шыманскі і жонка дваранін 2-га разраду засценка Думічы Стэфана Баніфатава Камінскага Параскевія Іванаўна[372].

295/170 **Іван,** нарадзіўся 24.06.1851 г. у сям'і дваран 2-га разрада Адама Грыгор'евіча (праваслаўны) і Антаніны Іванаўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчаны 29.06.1851 г. святаром Мікалаем Наркевічам у Цялядавіцкай Троіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі мешчанін г. Слуцка Іосіф Міхайлавіч Есьмен і жонка Антона Ліхадзіеўскага Антаніна Іванаўна[373]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[374] Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1903 г., жыў у маёнтку Халопенічы, на службе.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 645, арк. 585.*

Жонка – Фёкла Францаўна Я з в і н с к а я, *1853 г. н.

296/171 **Сямён,** нарадзіўся 03.02.1828 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Данілы Грыгор'евіча (праваслаўны) і Францішкі Іванаўны (Лук'янаўны; каталічка) Статкевічаў. Ахрышчаны 04.02.1828 г. святаром Фамой Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Шамы Грыгорый Шамовіч (каталік) і жонка Васіля Статкевіча Караліна (каталічка)[375]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[376]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[377].

297/171 **Гаўрыіл,** сын дваран, якія часова жылі ў засценку Шамы. Нарадзіўся і ахрышчаны 26.03.1821 г. святаром Фамой Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Шамы Грыгорый Шамовіч (католік) і жонка Сямёна Рудакоўскага Настасія (каталічка)[378]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[379]. Разам з Яфіміяй Мікіцічнай Мікулай быў хросным бацькам 14.09.1837 г. у Іаана[380], 19.02.1839 г. – у Ганны[381], 04.05.1841 г. – у Сафіі[382], дзяцей шляхцічаў Васіля Якаўлевіча і Караліны Віктараўны Статкевічаў. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[383].

298/171 **Ганна,** нарадзілася ў сям'і дваран, якія часова жылі ў засценку Шамы, Данілы Грыгор'евіча і Францішкі Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчана 16.05.1824 г. святаром Фамой Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Шамы Грыгорый Шамовіч (католік) і жонка Сямёна Рудакоўскага Настасія[384]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыла ў засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[385]. Разам з Сямёнам Андрэевічам Забэлам была хроснай маці 07.12.1840 г. у Ганны[386], 06.12.1842 г. – у Антонія[387], дзяцей дваран 2-га разраду Вікенція Якаўлевіча (праваслаўны) і Марыі Андрэеўны (каталічка) Статкевічаў.

Муж – Ануфрый Антоніеў Шпакоўскі, дваранін 2-га разраду засценка Кадлыбаеўшчызна, першым шлюбам, 28 гадоў. Шлюб 31.05.1843 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Сведкі: з боку маладога – дваранін 2-га разраду засценка Кадлыбаеўшчызна Вікенцій Васільеў Лазарэвіч, Станіслаў Сімянонаў Шпакоўскі, Казімір Зігмунтаў Пракаповіч, з боку маладой – з фальварка Рулёва Адам Грыгорыеў Статкевіч, Вікенцій Якаўлеў Статкевіч[388].

298а/171 **Максім.** У 1828 г. быў на споведзі ў Пясечанскай Пакроўскай царкве ў нясвіжскага святара Папова разам з бацькам і сястрой Ганнай.

*НГАБ, ф. 757, воп. 1, спр. 339, арк. 534 адв.*

299/171 **Еўдакія (Людвіка),** нарадзілася 28.02.1832 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Данііла Грыгор'евіча і Францішкі Аляксандраўны Статкевічаў. Ахрышчана 01.03.1832 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Шамы Іван Грыгор'евіч Шамовіч і жыхарка засценка Рулёва жонка шляхціча Васіля Якаўлева Статкевіча Караліна[389]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыла ў засценку Рулёва на закладной зямлі ад нясвіжскіх манашак-бенедыкцінак[390]. Памерла «от коклиша» і пахавана 18.10.1837 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета[391].

300/171 **Алена,** нарадзілася 21.06.1835 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Данііла Грыгор'евіча і Францішкі Аляксандраўны Статкевічаў. Ахрышчана 27.06.1835 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Шамы вольны хлебароб Іван Грыгор'евіч Шамовіч і жыхарка засценка Думічы жонка шляхціча Андрэя Паўлавіча Корбута Кацярына Аляксандраўна[392]. Памерла «з крываўкі» і пахавана 20.09.1837 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і

дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета[393].

301/172 **Андрэй,** нарадзіўся 29.11.1842 г. у засценку Адамова ў сям'і дваран Фёдара Геранімавіча і Еўфрасінні Іванаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 30.11.1842 г. святаром Мікалаем Цераўскім у Забельскай Успенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Адамова Грыгорый Іванавіч Карповіч і Агафія Паўлаўна Карповічыха[394]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[395]

Жонка – Марыя Андрэеўна.

302/172 **Лука,** нарадзіўся 05.02.1824 г. у засценку Адамова ў сям'і дваран Фёдара Геранімавіча і Еўфрасінні Іванаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 05.02.1824 г. святаром Мікалаем Цераўскім у Забельскай Успенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Адамова Грыгорый Карповіч і дачка Івана Карповіча Агафія, дзяўчына[396]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[397].

303/172 **Гаўрыіл,** нарадзіўся 26.03.1831 г. у засценку Адамова ў сям'і дваран Фёдара Геранімавіча і Еўфрасінні Іванаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 26.03.1831 г. святаром Мікалаем Церраўскім у Забельскай Успенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Адамова Грыгорый Іванавіч Карповіч і жонка Фёдара Іванавіча Карповіча Цыцылія, Іван Васільевіч Ляневіч і дачка Аляксандра Фёдаравіча Гуткоўскага Параскевія, дзяўчына[398]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[399]. У 1866 г. жыў у засценку Рудня, быў прыхаджанінам Забельскай царквы.

Жонка – Кацярына Дамінікаўна.

304/173 **Грыгорый,** нарадзіўся 18.04.1829 г. у засценку Адамова ў сям'і дваран Антона Геранімавіча і Марыі Фамінічны Статкевічаў. Ахрышчаны 18.04.1829 г. святаром Мікалаем Церраўскім у Забельскай Успенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Адамова Фама Іванавіч Карповіч і дачка Стэфана Ляўкевіча Цыцылія[400]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[401].

305/173 **Фёдар,** нарадзіўся 16.05.1836 г. у засценку Адамова ў сям'і дваран Антона Геранімавіча і Марыі Фамінічны Статкевічаў. Ахрышчаны 19.05.1836 г. святаром Мікалаем Церраўскім у Забельскай Успенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Адамова аднадварац Іван Лукіч Быткоўскі і жонка Івана Іванавіча Цвірко Еўдакія Іванаўна[402].

306/175 **Ануфрый,** нарадзіўся 17.06.1843 г. у засценку Рума ў сям'і шляхцічаў Сямёна Максімавіча і Дамнікіі Іосіфаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 20.06.1843 г. святаром Стэфанам Страховічам у Пырашаўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Рулёва Данііл Грыгор'евіч Статкевіч і Ганна Максімаўна Статкевіч, дзяўчына[403]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[404]

307/175 **Фёдар,** нарадзіўся ў засценку Рума ў сям'і шляхцічаў Сямёна Максімавіча і Дамнікіі Іосіфаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 16.02.1836 г. святаром Стэфанам Мацвеевічам Страховічам у Пырашаўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Рулёва Данііл Грыгор'евіч Статкевіч і дачка шляхціча засценка Глінкі Іосіфа Пятровіча Міхневіча Параскевія, дзяўчына[405]. Пастановай Мінскага дваран-

скага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[406]

308/175 **Пётр,** нарадзіўся 16.05.1846 г. у засценку Рума ў сям'і шляхцічаў Сямёна Максімавіча і Дамнікіі Іосіфаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 19.05.1846 г. святаром Лукой Васюковічам у Пырашаўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Рулёва Данііл Грыгор'евіч Статкевіч і Ганна Максімаўна Статкевіч, дзяўчына[407]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[408]

309/175 **Іван,** нарадзіўся 18.04.1849 г. у засценку Рума ў сям'і шляхцічаў Сямёна Максімавіча і Дамнікіі Іосіфаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 23.04.1849 г. святаром у Пырашаўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Глінкі Аляксандр Васільевіч Русаковіч і жыхарка засценка Рума Марыя Сакалоўская, дзяўчына[409]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[410]

310/176 **Касьма,** нарадзіўся 01.07.1851 г. у сям'і Паўла Максімавіча і Елізаветы Фамінічны Статкевічаў. Ахрышчаны 02.07.1851 г. святаром Лукой Васіковічам у Пырашаўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі аднадворац Якаў Франкаў Скіндзялеўскі і сялянка Еўдакія Лук'янаўна Дубовікава[411]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[412]

311/181 **Франц,** нарадзіўся 24.02.1829 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Васіля Якаўлевіча (праваслаўны) і Караліны Віктараўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчаны 24.02.1829 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч Фёдар Зубрыцкі, які часова жыў у засценку Брады, і дачка жыхара мястэчка Пясечнае Мікіты Астрэйкі Алена, дзяўчына[413]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[414].

312/181 **Мацвей,** нарадзіўся 16.11.1830 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Васіля Якаўлевіча і Караліны Віктараўны Статкевічаў. Ахрышчаны 21.11.1830 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч Фёдар Зубрыцкі, які часова жыў у засценку Брады, і дачка жыхара мястэчка Пясечнае Мікіты Астрэйкі Алена, дзяўчына[415]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1832 г. прызнаны ў дваранскім саслоўі[416]. Разам з Зянонам Андрэевічам Забэлам быў сведкам з боку маладой пры заключэнні шлюбу 24.10.1865 г. Васіля Ігнатавіча Гуткоўскага і Аляксандры Вікенцьеўны Статкевіч[417]. Разам з Аляксандрай Сямёнаўнай Забэлай быў хросным бацькам 26.04.1864 г. у Марыі, дачкі дваран засценка Малінава Максіма Паўлавіча і Ганны Васільеўны Плышэўскіх[418], з Антанінай Вікенцьеўнай Статкевіч 21.06.1867 г. – у Іаана[419], 07.11.1871 г. – у Марыі[420], дзяцей дваран Міхаіла Якаўлевіча і Алены Іванаўны Статкевічаў. У спісе землеўладальнікаў Мінскай губерні за 1889 г. значыўся пад № 882, валодаў 80 дзесяцінамі зямлі ў ваколіцы Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета[421]. Заплаціў 08.06.1893 г. акладны збор за фальварак Малінава 2 руб. 9,75 кап.[422] Пахаваны на могілках у Клетным, захаваўся помнік.

Жонка – дваранка засценка Малінава Еўфрасіння Максімаўна Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 125/68). Шлюб 09.02.1864 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Сведкі – дваране засценка Малінава: з боку маладога – Міхаіл Якаўлевіч Статкевіч і Максім Паўлавіч Плышэўскі, з боку маладой – Ануфрый Іванавіч Мажэйка і Васіль Фіафілактавіч Плышэўскі[423].

313/181 **Іаан,** нарадзіўся 08.09.1837 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Васіля Якаўлевіча і Караліны Віктараўны Статкевічаў. Ахрышчаны 14.09.1837 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Рулёва Гаўрыіл Даніілавіч Статкевіч і жонка жыхара мястэчка Пясечнае Стэфана Аляксеевіча Мікулы Яфімія Мікіцічна[424].

314/181 **Ганна,** нарадзілася 13.02.1839 г. у засценку Рулёва ў сям'і шляхцічаў Васіля Якаўлевіча і Караліны Віктараўны Статкевічаў. Ахрышчана 19.02.1839 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Рулёва Гаўрыіл Данілаў Статкевіч і жонка жыхара мястэчка Пясечнае Стэфана Аляксеева Мікулы Яфімія Мікіцьева[425]. Разам з Міхаілам Якаўлевічам Статкевічам была хроснай маці 23.01.1860 г. у Грыгорыя (аднаго з двойні)[426], сына Васіля Іванавіча і Наталлі Корбутаў.

Муж – Максім Паўлавіч Плышэўскі, дваранін засценка Малінава, 22 гады. Шлюб 20.01.1863 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Сведкі: з боку маладога – дваране засценка Малінава Ануфрый Іванаў Мажэйка і Зянон Андрэеў Забэла, з боку маладой – Міхаіл Якаўлеў Статкевіч і Антоній Сіманаў Забэла[427].

315/181 **Сафія,** нарадзілася 01.05.1841 г. у сям'і дваран 2-га разраду, якія жылі на арэнднай зямлі ў засценку Рулёва, Васіля Якаўлевіча (праваслаўны) і Караліны Віктараўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчана 04.05.1841 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам на пасадзе дзячка Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі: дваране 2-га разраду фальварка Рулёва Гаўрыіл Даніілаў Статкевіч і жонка селяніна мястэчка Пясечнае Стэфана Аляксеева Мікулы Яфімія Мікіцьева[428]. Памерла 09.01.1843 г. «ад гарачкі», пахавана 11.01.1843 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета[429].

316/181 **Еўфрасіння,** нарадзілася 28.06.1835 г. у сям'і шляхцічаў, якія жылі на арэнднай зямлі ў засценку Рулёва, Васіля Якаўлевіча і Караліны Віктараўны Статкевічаў. Ахрышчана 30.06.1835 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі аднадворац, які часова жыў у засценку Брадок, Фёдар Дзмітрыевіч Зыбрыцкі і дачка жыхара мястэчка Пясечнае Мікіты Кандратавіча Астрэйкі Яфімія, дзяўчына[430].

317/181 **Настасія,** нарадзілася 01.01.1833 г. у сям'і шляхцічаў, якія пражывалі на заставе ў засценку Рулёва, Васіля Якаўлевіча і Караліны Віктараўны Статкевічаў. Ахрышчана 04.01.1833 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі адна-

дворац, які часова жыў у засценку Брадок, Фёдар Дзмітрыевіч Зыбрыцкі і дачка жыхара мястэчка Пясечнае Мікіты Афанасьева Астрэйкі Алена, дзяўчына[431].

318/181 **Ганна,** памерла ва ўзросце аднаго года ад «падучай хваробы», пахавана 11.08.1833 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Фёдарам Мікіцічам Астрэйкам і дзякам Якавам Іванавічам Кранікоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета[432].

319/181 **Алена.** Разам з Назарыем Стэфанавічам Сыцько была хроснай маці 26.12.1860 г. у Іосіфа, сына дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў[433], з Венядзіктам Назаравічам Сыцько 13.09.1895 г. – у Пятра[434], з Сафроніем Назаравічам Сыцько 14.11.1899 г. – у Іаана[435], сыноў Андрэя Назаравіча і Аляксандры Усцінаўны Сыцько.

Муж – дваранін Іўсцін Андрэевіч С ы ц ь к о, сын Андрэя Стэфанавіча і Хрысціны Сыцько.

320/182 **Васіль,** нарадзіўся 30.01.1854 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[436]

Разам з Настассяй Андрэеўнай Сыцько быў хросным бацькам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета 06.05.1885 г. у Мікалая[437], з Антанінай Вікенцьеўнай Мажэйкай 03.07.1890 г. – у Андрэя, сыноў Юсціна Андрэевіча і Алены Вікенцьеўны Сыцько. Звярнуўся 25.08.1905 г. з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб ссылцы яму копіі ўказа Сената аб далучэнні да дваранства яго сына Сцяпана[438]. Але 15.09.1905 г. атрымаў адмоўны адказ[439]. Сабраў неабходныя дакументы: метрычнае пасведчанне, выдадзенае Мінскай духоўнай кансісторыяй 18.01.1903 г. аб нараджэнні і хрышчэнні сына Стэфана [Сцяпана], пасведчанне аб несудзімасці Васіля Вікенцьевіча і Стэфана Васільевіча Сацкевічаў-Статкевічаў і квітанцыю Мінскага казначэйства аб унясенні ў казну пяці рублёў пошліны. Звярнуўся 02.07.1910 г. з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў сына Стэфана[440]. У спісе домаўладальнікаў Глускай воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні за 1816 г. значыўся пад № 5, у засценку Малінава[441].

Жонка – Кацярына Іеранімава Ц в і р к о.

321/182 **Іван,** нарадзіўся 23.11.1847 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Вікенція Якаўлевіча і Марыі Андрэеўны, народжанай Забэла, Статкевічаў. Ахрышчаны святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім, дзякам Фёдарам Лычкоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду Слуцкага павета Сімяон Андрэеў Забэла і жонка шляхціча засценка Шамаў Канстанціна Аўгусцінава Шпакоўскага Караліна Лявонава[442]. 07.02.1857 г. Гаўрыілу Данілаву Сацкевічу-Статкевічу слуцкім павятовым прадвадзіцелем дваранства кавалерам Вайніловічам выдадзена пасведчанне аб непазбаўленні дваранства прадстаўнікоў роду. Сярод пералічаных – Іван Вікенцьевіч Сацкевіч-Статкевіч. У 1870 г. жыў у засценку Гарадзец Бабруйскага павета, быў прыхаджанінам Глускай Уваскрэсенскай царквы. Разам з Ксеніяй Іосіфаўнай быў хросным бацькам 30.08.1870 г. у Ганны[443], дачкі дваранiна Міхаіла Якаўлевіча і Параскевіі Іосіфаўны Статкевічаў. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[444] Разам з Пятром Васільевічам Карафа-Корбутам, Іванам Карафа-Корбутам, Аляксандрам Платонавічам Карафа-




Помнік на магіле
Мацвея Васільевіча
Сацкевіча-Статкевіча.
Вёска Клетнае Глускага
раёна (гл. «Сацкевічы-
Статкевічы» 312/181).

Корбутам і інш. купіў 25.09.1893 г. у княгіні Марыі Львоўны Гагенлое маёнтак Засмужжа Бабруйскага павета (усяго 2022,01 дзесяціны)[445], аформіўшы здзелку ў мінскага натарыуса Галіневіча за № 1762. Звярнуўся 26.02.1896 г. з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні сына Міхаіла да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[446]. Мінскі дваранскі дэпутацкі сход далучыў да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў сына Івана Вікенцьевіча Міхаіла, што пацвярджаюць пастанова Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 18.11.1896 г.[447], рапарт ва Урадавы сенат па Дэпартаменце Герольдыі[448], а таксама аб'ява 19.06.1897 г. Івану Вікенцьевічу Сацкевічу-Статкевічу аб зацвярджэнні ў дваранстве яго сына Міхаіла[449], распіска ад 16.09.1897 г. Івана Вікенцьева Сацкевіча-Статкевіча аб атрыманні паведамлення аб зацвярджэнні ў дваранстве яго сына Міхаіла[450].

Быў запрошаны 13.03.1899 г. абавязковым членам Бабруйскай павятовай па сялянскіх справах установы ў Забалацкае валасное праўленне для правядзення «адмежавання» сялянскіх надзелаў вёскі Абчын, якая належала да маёнтка Засмужжа[451]. Разам з саўладальнікамі маёнтка Засмужжа 18.09.1901 г. звярнуўся са скаргаю ў Мінскую губернскую па сялянскіх справах установу на няправільную пастанову Бабруйскай павятовай па сялянскіх справах установы аб знішчэнні сервітуту вёскі Абчын[452]. Земскі начальнік 8-га ўчастка Бабруйскага павета 29.05.1905 г. і 30.05.1905 г. прыбыў у вёску Абчын, запрасіўшы павераных ад сялян вёскі Абчын і ўладальнікаў маёнтка Засмужжа (у тым ліку і Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча), і «выяснял на месте и определял в натуре границы и пространство оставшегося за крестьянами д. Обчин пастбищного сервитута в лесах части имения Засмужья, купленной Сацкевичем-Стецкевичем, Карафа-Корбутами и другими в числе 30 человек»[453].

Жонка – **Наталля Васільеўна Карафа-Корбут** (гл. «Карафа-Корбуты І» 144/70).

322/182 **Антон,** нарадзіўся 01.12.1842 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран 2-га разраду Вікенція Якаўлевіча і Марыі Андрэеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 06.12.1842 г. святаром Фамой Салаўевічам і дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Хвойнікі Сімяон Андрэеў Забэла і дачка двараніна 2-га разраду засценка Рулёва Даніла Грыгор'евіча Статкевіча Ганна, дзяўчына[454]. Разам з Разаліяй Васільеўнай Сыцько быў хросным бацькам 18.11.1859 г. у Назарыя, сына Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў[455].

323/182 **Соф'я,** нарадзілася 18.11.1861 г. у засценку Малінава ў сям'і дваран Вікенція Якаўлевіча і Марыі Андрэеўны Статкевічаў. Ахрышчана 19.11.1861 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета[456]. 23.10.1882 г. разам з Міхаілам Сямёнавічам Забэлам была хроснай маці ў **Міхаіла,** сына дваран **Івана Вікенцьевіча** і **Наталлі Васільеўны** Сацкевічаў-Статкевічаў.

Муж – Сцяпан Максімавіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 126/68).

324/182 **Аляксандра,** нарадзілася 08.05.1845 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран 2-га разраду Вікенція Якаўлевіча (праваслаўны) і Марыі Андрэеўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчана 13.05.1845 г. святаром Фамой Салаўевічам і дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Хвойнікі Сімяон Андрэеў Забэла і дачка шляхціча засценка

Рулёва Лявона Лаўрэнцьевіча Рымашэўскага Караліна, дзяўчына[457]. Разам з Васілём Андрэевічам Сыцько была хроснай маці 23.01.1860 г. у Іаана (аднаго з двойні)[458], сына Васіля Іванавіча і Наталлі Корбутаў, з Назарыем Стэфанавічам Сыцько 31.10.1863 г. – у Анастасіі[459], дачкі дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў.

Муж – дваранін Васіль Ігнацієў Гудкоўскі, 26 гадоў. Шлюб 24.10.1865 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Сведкі: з боку маладога – дваране Гаўрыіл Фёдараў Валадковіч і Іван Матфееў Гурыновіч, з боку маладой – Зянон Андрэеў Забэла і Мацвей Васільеў Статкевіч[460].

325/182 **Алена.** Муж – Іўсцін Андрэевіч Сыцько (гл. «Сыцько» 221/154).

326/182 **Ганна,** нарадзілася 04.12.1840 г. у фальварку Рулёва ў сям'і дваран 2-га разраду Вікенція Якаўлевіча (праваслаўны) і Марыі Андрэеўны (каталічка) Статкевічаў. Ахрышчана 07.12.1840 г. святаром Фамой Салаўевічам і дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду Ігуменскага павета засценка Хвойнікі Сімяон Андрэеў Забэла і дачка двараніна 2-га разраду фальварка Рулёва Данііла Грыгор'ева Статкевіча Ганна, дзяўчына[461]. Памерла 01.02.1842 г. «от родимца», пахавана 03.02.1842 г. святаром Фамой Салаўевічам і дзякам Стэфанам Буякоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета[462].

327/182 **Антаніна.** Разам з Мацвеем Васільевічам Статкевічам была хроснай маці 21.06.1867 г. у Іаана[463], 07.11.1871 г. – у Марыі[464], дзяцей дваран Міхаіла Якаўлевіча і Алены Іванаўны Статкевічаў, з Назарыем Стэфанавічам Сыцько 06.03.1871 г. – у Канстанціна[465], 07.01.1874 г. – у Марыі[466], дзяцей Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў.

328/183 **Іосіф,** нарадзіўся 24.12.1860 г. у засценку Малінава ў сям'і дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 26.12.1860 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Малінава Назарый Стэфанаў Сыцько і Алена Васільева Статкевіч, дзяўчына[467].

329/183 **Марыя,** нарадзілася 06.01.1874 г. у засценку Малінава ў сям'і дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў. Ахрышчана 07.01.1874 г. святаром у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Малінава Назарый Стэфанаў Сыцько і Антаніна Вікенцьеўна Статкевіч, дзяўчына[468].

330/183 **Анастасія,** нарадзілася 28.10.1863 г. у засценку Малінава ў сям'і дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў. Ахрышчана 31.10.1863 г. святаром сяла Ольніцы Аляксеем Пігулеўскім у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Малінава Назарый Стэфанаў Сыцько і Аляксандра Вікенцьеўна Статкевіч, дзяўчына[469].

331/183 **Канстанцін,** нарадзіўся 05.03.1871 г. у сям'і дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Сацкевічаў-Статкевічаў. Ахрышчаны 06.03.1871 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Малінава Назарый Стэфанавіч Сыцько і Антаніна Вікенцьеўна Статкевіч, дзяўчына[470]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[471].

Пасведчанне ад 18.02.1910 г., выдадзенае мінскім губернскім прадвадзіцелем дваранства аб тым, што Васіль Вікенцьевіч Сацкевіч-Статкевіч і сын яго Стэфан не пазбаўлены правоў маёмасці за крымінальныя і палітычныя злачынствы (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 320/182). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 405.*



СВИДѢТЕЛЬСТВО.

Дано сіе Минскимъ Губернскимъ Предводителемъ Дворянства на основаніи 2 п. правилъ прилож. къ 69 ст. (2 примѣч.) т. IX свод. зак. о сост. изд. 1876 г., въ томъ, что, какъ оказалось по собраннымъ свѣдѣніямъ Василій Викентьевъ Сацкевичъ-Стацкевичъ и сынъ его Стефанъ

не лишены правъ состоянія за уголовныя и политическія преступленія и что они, Сацкевичи-Стацкевичи, подъ судомъ и слѣдствіемъ за означенныя преступленія не состоятъ.

№ 405

Настоящее свидѣтельство выдано Василію Викентьеву Сацкевичу-Стацкевичу вслѣдствіе поданнаго имъ прошенія, для представленія къ дѣлу о причисленіи къ дворянству. Гербовый сборъ уплаченъ. Г. Минскъ.

Февраля „18" дня 1910 года.

За Губернскаго, Минскій Уѣздный Предводитель Дворянства [signature]

Письмоводитель [signature]

№ 1029

Приложенное въ настоящемъ свидѣтельствѣ удостовѣряю. Февраля 22 дня 1910 года.

Минскій Губернаторъ [signature]

Управляющій Канцеляріею [signature]



Сацкевичъ-Стецкевичъ

Въ Минское Дворянское Депутатское Собрание

Дворянина Василия Викентиева Сацкевича-Стецкевича

Прошение

Указомъ Правительствующаго Сената по Департаменту Герольдии отъ 5 Октября 1873 года за № 3596 въ Минское Дворянское Депутатское Собрание последовавшимъ я проситель Василий сынъ Викентия Яковлева Сацкевичъ-Стецкевичъ утвержденъ въ дворянскомъ достоинствѣ; нынѣ къ роду сему желаю причислить сына своего Стефана Васильева Сацкевича-Стецкевича для чего представляю метрическое свидетельство выданное Минской Духовной Консисторией 13 Января 1903 г. за № 517, свидетельство о несудимости меня просителя и сына моего и квитанцию Минскаго казначейства о взносе въ казну пяти руб. пошлинъ съ копиями документовъ.

Имѣю честь покорнѣйше просить Депутатское Собрание сделать надлежащее распоряжение о причислении къ дворянскому роду сына моего Стефана Васильева Сацкевича-Стецкевича и дѣло о томъ представить на утверждение въ Правительствующий Сенатъ по Департаменту Герольдии

Василий Викентьевъ Сацкевичъ-Стецкевичъ

Прашэнне двараніна Васіля Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні да дваранскага роду сына Стэфана (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 320/182). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 403.*





Метрычная кніга Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета. Запіс аб нараджэнні 23.11.1847 г. Іаана (Івана). Бацькі: дваранін фальварка Рулёва Вікенцій Якаўлевіч Статкевіч і Марыя Андрэеўна Забэла. Іван Вікенцьевіч Сацкевіч-Статкевіч – прадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 321/182). *НГАБ, ф. 136, воп. 4, спр. 311, арк. 453 адв. – 454.*


Внесено въ сборникъ запрещенія за 189 4 годъ подъ № 12 по Бобруйскому

ЗАПРЕЩЕНІЕ.

ОТЪ СТАРШАГО НОТАРІУСА МИНСКАГО ОКРУЖНАГО СУДА.

31 Января 1894 года; № 1011

По выданному Старшимъ Нотаріусомъ Минскаго Окружнаго Суда 10 Іюля 1889 года за № 3330, на принадлежащія Княгинѣ Маріи Львовнѣ Гогенлоэ-Шиллингсфюрстъ имѣнія свидѣтельству, считаются подъ запрещеніемъ расположенныя Минской губерніи, въ Бобруйскомъ уѣздѣ, въ числѣ другихъ, имѣнія Засмужье, Еремичи, Закалье, Малія [illegible] Любань въ полномъ составѣ, заключающія въ себѣ пространства земли всего 18772 дес. [illegible] Домброво въ полномъ составѣ, заключающемъ [illegible] всего 18715 дес. 78 саж. Запрещеніе [illegible] сего свидѣтельства припечатано въ Сенатскихъ объявленіяхъ 1889 года, № 61, въ [illegible] 2509. По выдачѣ подъ залогъ означенныхъ имѣній ссуды въ шесть милліоновъ сто двадцать восемь тысячъ (6128000) руб. запрещенія [illegible] Виленскаго Земельнаго Банка въ [illegible] по Бобруйскому уѣзду за [illegible] подъ № 93. За тѣмъ [illegible] Банкомъ выдана ей, Княгинѣ Гогенлоэ-Шиллингсфюрстъ, подъ залогъ тѣхъ же имѣній [illegible]

Д. 1893 г. № 4468.

Отмѣчено въ реестрѣ крѣп. дѣлъ № 1 стр. 251.

Забаронны артыкул Мінскага акруговага суда ад 31.01.1894 г. на лес, які знаходзіцца ў закладзе пад выдадзены Віленскім зямельным банкам крэдыт, маёнтка Засмужжа, набытага па купчай крэпасці ад 06.10.1893 г. Іванам Вікенцьевічам Сацкевічам-Статкевічам, Карафа-Корбутамі і інш. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 321/182). Дакумент на 3 старонках. *НГАБ, ф. 1424, воп. 1, спр. 62, арк. 13–14.*



дополнительная ссуда въ размѣрѣ четырнадцати т.
(40000) руб., за выдачу каковой запрещение внесено
дворянинъ по Бобруйскому уѣзду за 1892 годъ подъ №3
Затѣмъ по купчей крѣпости, утвержденной
Октября 1893 года за №60, продано Княгинею Гогенъ
Шиллингсфюрстъ дворянамъ: Ивану Викентьеву
кевичу-Статкевичу, Петру Васильеву, Ивану Григ
и Александру Платонову Карафа-Корбутамъ, Гр
рію и Захарію Яковлевымъ Тычино, Іосифу Өед
ву Кунцевичу, Василію и Гавріилу Ивановымъ и Г
горію Павлову Барановскимъ, Юстину Неофитову
Дминскому, крестьянамъ: Карпу, Іосифу, Василію, Ѳе
дору и Константину Григорьевымъ Шукевичамъ, Ива
первому, Василію, Антону, Поликарпу и Ивану втор
Степановымъ Михневичамъ, Валеріану, Андрею и Ст
пану Трофимовымъ Михневичамъ, Евгенію, Өедору
Ивану Ивановымъ Зубовичамъ, Моисею Лукьянову Бо
ку, Авраамъ Степанову Мартиновичу и Роману Гр
горьеву Ляпко въ общее ихъ владѣніе вышеозначенн
имѣніе Засмужье, заключающее въ себѣ разнаго родо
земли 964,75 десят., корчемный участокъ въ деревн
Ѳечинъ, мѣрою 15,70 дес., корчемный участокъ въ дерев.
Очинъ, мѣрою 13,31 дес. и изъ вышеозначеннаго имѣнія
Домброво 1028,25 дес. земли подъ лѣсомъ, расположенно
смежно съ имѣніемъ Засмужье съ южной стороны с
а всего вообще разнаго рода земли двѣ тысячи
двадцать двѣ и одна сотая десят., съ переводомъ н
вышеозначенныхъ покупщиковъ долга Банку по ссуд
въ тридцать тысячъ руб., котораго къ 1 Января 189



14

состоитъ въ остаткѣ двадцать девять тысячъ во-
семьсотъ два руб. девяносто коп., но съ тѣмъ, что весь
лѣсъ находящійся на проданной землѣ не можетъ
быть продаваемъ безъ разрѣшенія означеннаго Бан-
ка, какъ составляющій обезпеченіе долга тому Бан-
ку въ тридцать тысячъ руб., почему и запрещеніе
должно считаться отъ имени ихъ вышепоимено-
ванныхъ покупщиковъ. Поправлено слово: -Василія- и
зачеркнуто: -сего-.

И. д. Старшаго Нотаріуса [подпись]

3 р. — к. внесены въ Минское Казначейство
подъ квитанцію отъ 30 Сентября 1893 г. за № 17556.


СВИДѢТЕЛЬСТВО.

Дано сіе отъ Минскаго Губернскаго Предводителя Дворянства, за подписью и приложеніемъ казенной печати, въ томъ, что Иванъ Викентіевъ и сынъ его Михаилъ Сацкевичъ-Стецкевичъ донынѣ не лишен ы правъ состоянія силою закона за уголовныя и политическія преступленія и не находятся за таковыя подъ судомъ и слѣдствіемъ.

Г. Минскъ Марта «10» дня 1892 года.

Гербовый сборъ уплоченъ.

Минскій Губернскій Предводитель Дворянства,
Дѣйствительный Статскій Совѣтникъ и Кавалеръ

Что означенные въ семъ свидѣтельствѣ Иванъ Викентіевъ и сынъ его Михаилъ Сацкевичи-Стецкевичи не лишены правъ состоянія силою закона за уголовныя и политическія преступленія, подъ судомъ и слѣдствіемъ не состояли и нынѣ не состоятъ, въ томъ подписью съ приложеніемъ казенной печати удостовѣряю. Губ. г. Минскъ. Мая [illegible] дня 1892 года.

Минскій Губернаторъ,
Генералъ-Лейтенантъ

Правитель Канцеляріи

Пасведчанне ад 10.03.1892 г., выдадзенае мінскім губернскім прадвадзіцелем дваранства і заверанае генерал-губернатарам князем Трубяцкім Івану Вікенцьевічу Сацкевічу-Статкевічу і яго сыну Міхаілу аб тым, што яны не пазбаўляліся правоў за крымінальныя і палітычныя злачынствы (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 321/182). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 280.*


При семъ прилагаются слѣдующія документы:

Депутатъ Дворянства

И. о. Секретаря

Распіска Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча аб атрыманні паведамлення ад 16.09.1897 г. аб зацвярджэнні ў дваранстве яго сына Міхаіла. Іван Вікенцьевіч – прадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 321/182). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 305.*

332/183 **Пётр,** нарадзіўся 25.10.1878 г. у засценку Малінава Бабруйскага павета ў сям'і дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Сацкевічаў-Статкевічаў. Ахрышчаны 30.10.1878 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[472]. Узгадваецца ў справе Мінскай губернскай па воінскай павіннасці ўстанове ад 22.11.1901 г. У адносінах прыёму на службу павятовай установай прынята рашэнне не выклікаць яго для далейшага пераасведчання.

У гады Першай сусветнай вайны служыў у царскай арміі. У 1925 г. член сялянскага камітэта. У 1930 г. пазбаўлены выбарчых правоў і ў тым жа годзе пасля раскулачвання разам з членамі сям'і высланы з Дарожкавіч Старадарожскага раёна ва Уральскую вобласць. У 1933 г. рашэннем калегіі АДПУ г. Кем датэрмінова вызвалены без права пражывання ва Уральскай вобласці. Да 1946 г. жыў у г. Бабруйску.

Другая жонка – Ядвіга Феліксаўна, 1895 г. н.

333/183 **Назарый,** нарадзіўся 30.10.1859 г. у засценку Малінава ў сям'і дваран Сільвестра Якаўлевіча і Алены Васільеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 18.11.1859 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Малінава дваране Антоній Вікенцьевіч Статкевіч і Разалія Васільеўна Сыцькова[473].

Жонка – Надзея Грыгор'еўна.

334/184 **Іаан,** нарадзіўся 10.06.1877 г. у сям'і дваран Міхаіла Якаўлевіча і Параскевіі Восіпаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 12.06.1877 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[474]. Памёр 02.08.1954 г.

Жонка – Вольга Іванаўна Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 335/207).

335/184 **Марыя,** нарадзілася 03.11.1871 г. у фальварку Гарадзішча Глускай воласці Бабруйскага павета ў сям'і дваран Міхаіла Якаўлевіча і Алены Іванаўны Статкевічаў. Ахрышчана 07.11.1871 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Малінава дваране Мацвей Васільевіч Статкевіч і Антаніна Вікенцьеўна Статкевіч, дзяўчына[475].

Муж – Ігнат Васільевіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 142/70). Дзяцей не было.

336/184 **Алена.** Муж – Васіль Цішкевіч. Дзеці: Соф'я; Еўдакія (муж Карафа-Корбут).

337/184 **Соф'я.** Муж – Лупко. Жылі ў сяле Лучкі.

338/184 **Вольга.**

339/184 **Ганна,** нарадзілася 22.08.1870 г. у засценку Гарадзішча Глускай воласці Бабруйскага павета ў сям'і дваран Міхаіла Якаўлевіча і Параскевіі Іосіфаўны Статкевічаў. Ахрышчана 30.08.1870 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Гарадзец Іван Вікенцьевіч Статкевіч і Ксенія Іосіфаўна[476].

340/185 **Аляксандр,** нарадзіўся 22.11.1864 г. у сям'і дваран Міхаіла Якаўлевіча і Алены Іванаўны Статкевічаў, ахрышчаны 23.11.1864 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[477].

341/185 **Іаан,** нарадзіўся 18.06.1867 г. у засценку Малінава ў сям'і дваран Міхаіла Якаўлевіча і Алены Іванаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 21.06.1867 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Малінава Мацвей Васільеў Статкевіч і Антаніна Вікенцьева Статкевічава[478].



Іван Міхайлавіч і Вольга Іванаўна (да замужжа Карафа-Корбут) Сацкевічы-Статкевічы і іх дзеці (злева направа): Марыя, Іван, Васіль (сядзіць), Надзея, Ніна, Вера. 1922 г. Іван Міхайлавіч – дваюрадны брат прадзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча. Вольга Іванаўна – сястра Марыі Іванаўны, першай жонкі дзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 334/184).

### XV КАЛЕНА

342/188а **Еленора-Фіфлія,** нарадзілася 16.03.1885 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1904 г. далучана да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджана ўказам Сената ад 02.05.1905 г., №1470.

343/188а **Артур-Юльян,** нарадзіўся 13.02.1887 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1904 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 02.05.1905 г., №1470.

344/188а **Аляксандра-Вольга,** нарадзілася 04.09.1890 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 21.12.1904 г. далучана да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджана ўказам Сената ад 02.05.1905 г., № 1470.

345/191 **Стэфан (Сцяпан),** нарадзіўся 26.12.1822 г. у засценку Церабохаў. Ахрышчаны 26.12.1822 г. у Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1874–1878 гг. жыў у вёсцы Юркевічы Ленінскай воласці Мазырскага павета.

Жонка – Антаніна Ігнацьеўна.

346/191 **Міхаіл.** Згодна з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 24.05.1879 г., залічаны ў саслоўе сялян Ленінскай воласці Мазырскага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[479].

347/193 **Казімір,** *1826 г. н. У 1864 г. радамышльскі павятовы судовы следчы 3-га ўчастка вёў справу па абвінавачванні Казіміра Сямёнавіча Статкевіча ў парушэнні межавых знакаў і заваладанні пчаліным дрэвам. Жыў у засценку Аленя Мазырскага павета. Да роду не далучаны.

348/193 **Ануфрый,** *1834 г. н. Мазырскі павятовы маршалак запытам ад 26.02.1853 г. паведаміў, што для паступлення на вайсковую службу Ануфрыя Сямёнавіча Статкевіча неабходна ведаць, ці былі дакументы, адпаведна вываду 1816 г., на разглядзе ў Герольдыі і якое было заключэнне[480]. Згодна з журнальнай рэзалюцыяй ад 01.04.1853 г., Мінскі дваранскі дэпутацкі сход паведаміў, што метрыкі на Казіміра і Ануфрыя Сямёнавічаў не былі пададзены ў сход[481].

349/193 **Рафал.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ў 1861 г. у сувязі з непададачай метрыкі.

350/201 **Дзмітрый,** нарадзіўся 26.10.1832 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 30.10.1832 г. у Заўшыцкай царкве[482]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

351/201 **Павел,** нарадзіўся 14.12.1836 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1881–1882 гг. жыў у засценку Васіль Барок на арэнднай зямлі памешчыка Прашынскага, у 1893 г. – у засценку Заўшыцы Старобінскай воласці Слуцкага павета.

Жонка – Юлія (Ульяна) Іванаўна Качаноўская, дваранка герба «Астоя».

352/202 **Касьма (Казьма, Казімір),** нарадзіўся 01.11.1836 г. у засценку Васіль Барок, ахрыш-

чаны ў Заўшыцкай царкве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 1861 г., бо ў метрыцы названы Кузьмою, а ў вывадзе – Казімірам. Рэзалюцыяй ад 01.12.1864 г. Мінская духоўная кансісторыя паведаміла, што па разглядзе просьбы Касьмы Ануфрыевіча Статкевіча запісаць пасведчанне, што імёны Казімір і Касьма азначаюць адно і тое ж, не можа: «Консистория находит, что в святцах православной церкви имени Казимир не имеется и что показанное в свидетельстве время рождения Косьмы 1 числа ноября совпадает со днем, в котором православная церковь празднует день св. Косьмы. Поэтому консистория не может предполагать, что действительное имя означенного лица есть Косьма, но, с другой стороны, по поводу перемешанного в Слуцком уезде православного народонаселения с римско-католическим, консистория не может утверждать, что означенный Стецкевич вместо настоящего своего имени Косьма мог именоваться в общежитии и римским именем Казимир. Но при всем том, не имея под рукой письменных фактов, могущих служить удостоверением как о том, так и о тождестве [...]емых Стецкевичу имен Косьмы и Казимира, не имеет возможности делать о том требуемую Депутатским Собранием надписи»[483]. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 22.05.1870 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[484]. Далучаны да дваранскага роду разам з непаўналетнімі сынамі Адамам і Іванам, братам Марцыніянам і яго непаўналетнім сынам Цімафеем рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 23.07.1882 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 01.12.1882 г., № 4201[485]. У 1877–1881 гг. жыў у засценку Севярыны, у 1893 г. – у засценку Заўшыцы Слуцкага павета, беззямельны.

Жонка – Еўфрасіння Іванаўна Муравіцкая, дваранка герба «Тапор».

353/202 **Марцыніян (Марцыян),** нарадзіўся 15.02.1841 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 16.02.1841 г. у Заўшыцкай царкве. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 22.05.1870 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[486]. Далучаны да дваранскага роду разам з непаўналетнім сынам Цімафеем, братам Касьмой і яго непаўналетнімі сынамі Адамам і Іванам рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 23.07.1882 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 01.12.1882 г., № 4201[487]. У 1877 г. жыў у засценку Васіль Барок і сяле Заўшыцы, у 1893 г. – у засценку Севярыны Слуцкага павета на арэнднай зямлі памешчыка К. Прашынскага[488].

Жонка – Анастасія Карлаўна Зяневіч, *1850 г. н., дваранка.

354/209 **Пётр.**

355/211 **Іосіф.** Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

356/211 **Клеменс.**

357/212 **Герасім (Еранім),** нарадзіўся 04.03.1832 г., ахрышчаны ў Малышэвіцкай

царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ў 1861 г. у сувязі з незацвярджэннем метрыкі кансісторыяй. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 23.05.1870 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны разам з сынамі Грыгорыем, Іванам, Васілём і Аляксандрам у аклад сялян Забалацкай воласці Бабруйскага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі. Далучаны да дваранскага роду разам з сынамі Грыгорыем, Іванам, Васілём і Аляксандрам рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.02.1871 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 10.01.1873 г., № 292[489]. У 1862 г. жыў у вёсцы Таль Бабруйскага павета на зямлі князя Вітгенштэйна, у 1871–1888 гг. – у засценку Ямінск Асавецкай воласці Бабруйскага павета. У 1888 г. валодаў у засценку Ямінск 220 дзесяцінамі зямлі[490].

Жонка – Алімпіяда Лявонаўна.

358/215 **Мацей,** нарадзіўся 17.01.1830 г., ахрышчаны ў Дарагавіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г.

359/217 **Мікалай,** нарадзіўся 05.12.1849 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны 06.12.1849 г. у Малышэвіцкай царкве. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 12.03.1869 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Чапліцкай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.03.1884 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 20.06.1884 г., № 2759. У 1884 г. жыў у засценку Лаўровічы Слуцкага павета, у 1893 г. – у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі[491].

Жонка – Харыта Грыгор'еўна Статкевіч, дваранка герба «Касцеша».

360/219 **Стэфан,** нарадзіўся 27.11.1853 г., ахрышчаны 29.11.1853 г. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 16.09.1874 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.02.1875 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.09.1876 г., № 3591. У 1875 г. жыў у засценку Касынічы, у 1877 г. – у засценку Ратваў Слуцкага павета.

361/219 **Іван,** нарадзіўся 01.02.1866 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны ў Заўшыцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду разам з сынамі Паўлам і Аляксандрам і братам Грыгорыем Іванавічам рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 13.02.1903 г.[492] Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 30.11.1903 г., № 3061[493].

Жонка – Іулія Фёдараўна.

362/219 **Грыгорый,** нарадзіўся 25.03.1871 г. у вёсцы Гаўрыльчыцы, ахрышчаны 27.03.1871 г. у Роданскай царкве.

363/220 **Іоў,** нарадзіўся 04.05.1862 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 06.05.1862 г. у Заўшыцкай царкве[494]. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 16.09.1874 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павін-

насцямі. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.02.1875 г. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.09.1876 г. у сувязі са зваротам да слуцкага павятовага маршалка, а не ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход з просьбаю яго бацькі аб далучэнні да дваранскага роду.

364/220 **Мацвей,** нарадзіўся 16.11.1869 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 17.11.1869 г. у Заўшыцкай царкве. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Заўшыцы на арэнднай зямлі памешчыка Прашынскага. Прашэннем, атрыманым Мінскім дваранскім дэпутацкім сходам 29.07.1913 г., маці, удава Аляксандра Сямёнаўна, прасіла далучыць да роду сыноў Мацвея і Палікарпа. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1913 г.[495] Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 31.12.1913 г., № 4620[496].

365/220 **Ірына,** *1870 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў засценку Заўшыцы на арэнднай зямлі памешчыка Прашынскага.

366/220 **Фёкла,** *1874 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў засценку Заўшыцы на арэнднай зямлі памешчыка Прашынскага.

367/220 **Палікарп,** нарадзіўся 20.02.1875 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 23.02.1875 г. у Заўшыцкай царкве[497]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Заўшыцы на арэнднай зямлі памешчыка Прашынскага.

368/222 **Фёдар,** нарадзіўся 15.02.1852 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 17.02.1852 г. у Заўшыцкай царкве[498]. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 22.05.1870 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[499]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 23.07.1882 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 01.12.1882 г., № 4201[500]. У 1877 г. жыў у засценку Васіль Барок і сяле Заўшыцы, у 1893 г. – у засценку Севярыны Вызнянскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі[501].

Жонка – Алена Іванаўна З а б р о д с к а я, дваранка герба «Прус II».

369/224 **Алена,** *1855 г. н.

370/224 **Іван,** нарадзіўся 04.12.1858 г. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 07.02.1879 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Старобінскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[502]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 26.06.1885 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 05.12.1885 г., № 4840[503]. Па сямейным спісе дваран 1893 г., жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці на арэнднай зямлі князя Гагенлое.

371/224 **Стэфаніда,** 1861 г. н.

372/224 **Міхаіл,** нарадзіўся 23.05.1864 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны 24.05.1864 г. у Малышэвіцкай царкве[504]. Па сямейным спісе дваран 1893 г., жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці на арэнднай зямлі князя Гагенлое.

373/224 **Кацярына,** *1865 г. н.

374/224 **Цімафей,** нарадзіўся 22.02.1869 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны 23.02.1869 г. у Малышэвіцкай царкве. Па сямейным спісе дваран 1893 г., жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці на арэнднай зямлі князя Гагенлое.

375/224 **Антаніна,** *1870 г. н. Па сямейным спісе дваран 1893 г., жыла ў засценку Пятніцы Чапліцкай воласці на арэнднай зямлі князя Гагенлое.

376/224 **Пётр,** нарадзіўся 15.06.1874 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны 16.06.1874 г. у Малышэвіцкай царкве[505]. Па сямейным спісе дваран 1893 г., жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці на арэнднай зямлі князя Гагенлое.

377/225 **Феафілакт,** нарадзіўся 06.03.1859 г. у засценку Забродскія, ахрышчаны 08.03.1859 г. у Чыжэвіцкай царкве[506]. Далучаны да дваранскага роду разам з сынам Міхаілам рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 29.04.1900 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 30.06.1900 г., № 2515[507].

Жонка – Паўліна Мікалаеўна.

378/225 **Аляксей,** нарадзіўся 13.03.1881 г. на хутары Загалле, ахрышчаны 14.03.1881 г. у Петрыкаўскай Уваскрэсенскай царкве Мазырскага павета[508]. Далучаны да дваранскага роду разам з братамі Васілём і Венядзіктам рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.09.1899 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 30.06.1900 г., № 2515[509].

379/225 **Васіль,** нарадзіўся 22.03.1886 г. на хутары Загалле, ахрышчаны 30.03.1886 г. у Петрыкаўскай Мікалаеўскай царкве Мазырскага павета[510].

380/225 **Венядзікт,** нарадзіўся 19.03.1889 г. на хутары Загалле, ахрышчаны 21.03.1889 г. у Петрыкаўскай Мікалаеўскай царкве Мазырскага павета[511].

381/226 **Пётр,** жыў у засценку Васіль Барок.

382/226 **Прохар.**

383/226 **Карнелій,** нарадзіўся 03.09.1847 г. у сяле Заўшыцы, ахрышчаны 14.09.1847 г. у Заўшыцкай царкве[512]. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 22.05.1870 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[513]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 06.04.1872 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 16.04.1874 г., № 1323[514]. У 1893 г. жыў у вёсцы Чыжэвічы Старобінскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі[515].

Жонка – Ганна Адамаўна Галавінская, *1853 г. н., дваранка.

384/226 **Трафім,** нарадзіўся 16.04.1856 г. у сяле Заўшыцы, ахрышчаны 16.04.1856 г. у Заўшыцкай царкве[516]. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 22.05.1870 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[517]. Жыў на хутары Малыя Тычыны Слуцкага павета, валодаў 33 дзесяцінамі зямлі[518]. Памёр у 1903 г.

Жонка – Ганна Адрыянаўна Некрашэвіч, дваранка герба «Любіч». У 1903 г. другі шлюб з Палікарпам Васільевічам Шчарбовічам-Вечарам.

385/228 **Лукер'я,** *1860 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Заўшыцы.

386/228 **Фадзей,** нарадзіўся 21.08.1861 г. у сяле Заўшыцы, ахрышчаны 21.08.1861 г. у Заўшыцкай царкве[519]. У адпаведнасці з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 22.05.1870 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян Вызнянскай воласці Слуцкага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[520]. Па ся-

мейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Заўшыцы. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 23.07.1882 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 01.12.1882 г., № 4201[521].

Жонка – Марыя Мікалаеўна.

387/228 **Георгій (Грыгорый),** нарадзіўся 07.04.1864 г. у сяле Заўшыцы, ахрышчаны 08.04.1864 г. у Заўшыцкай царкве. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Заўшыцы. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.10.1902 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.04.1903 г., № 2515[522]. У 1892–1897 гг. ляснік у маёнтку Навасёлкі Мазырскага павета.

Жонкі: 1. Кацярына Мікалаеўна; 2. Марыяна Пятроўна Сеўрук, шлюб 02.02.1897 г.

388/228 **Пётр,** нарадзіўся 16.01.1867 г. у сяле Заўшыцы, ахрышчаны 16.01.1867 г. у Заўшыцкай царкве. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Заўшыцы.

389/228 **Самуіл,** нарадзіўся 20.08.1870 г. у сяле Заўшыцы, ахрышчаны 23.08.1870 г. у Заўшыцкай царкве[523]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Заўшыцы.

Жонка – Вольга Паўлаўна.

390/229 **Сцяпан,** *1869 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Іздрашава.

391/229 **Ева,** *1875 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў засценку Іздрашава.

392/231 **Стэфан,** *1811 г. н., ахрышчаны ў Іваньскай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 28.11.1861 г. Жыў у засценку Машчыцы.

Жонка – Соф'я Іванаўна.

393/234 **Іван,** ахрышчаны 27.09.1830 г. у Грозаўскай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г.

394/234 **Багуслаў.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 1861 г. у сувязі з непададачай метрыкі. У 1878 г. залічаны ў саслоўе мяшчан г. Слуцка[524].

Жонка – Алена Іванаўна.

395/234 **Васіль,** нарадзіўся ў засценку Ужа, ахрышчаны 28.01.1835 г.

396/234 **Дзям'ян,** нарадзіўся 01.11.1835 г. у засценку Ужа, ахрышчаны 03.11.1835 г. у Грозаўскай царкве[525]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1867 г. быў арэндным уладальнікам маёнтка Палажэвічы Бабруйскага павета. У 1893 г. жыў у засценку Гуткова Горкаўскай воласці Бабруйскага павета на чыншавай зямлі князя Гагенлоэ[526].

Жонка – Ірына Данілаўна Дубовік, *1843 г. н.

397/234 **Пётр,** нарадзіўся 28.06.1839 г. у засценку Ужа, ахрышчаны 29.06.1839 г. у Грозаўскай царкве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Памёр 04.07.1884 г.

Жонка – Юсціна Венядзіктаўна Рымашэўская, *1852 г. н., дваранка герба «Побуг». Памерла ў 1902 г.

398/234 **Іван,** нарадзіўся 23.06.1842 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1893 г. жыў у засценку Ужа Слуцкага павета на арэнднай зямлі[527]. Валодаў у 1913–1915 гг. 9 дзесяцінамі зямлі ў засценку Ужа[528].

Жонка – Ганна Паўлаўна З у б о в і ч, дваранка герба «Лебедзь».

399/235 **Іван,** нарадзіўся 20.02.1829 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны 23.02.1829 г. у Малышэвіцкай царкве[529]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1893 г. жыў у засценку Пятніцы на чыншавай зямлі князя Гагенлоэ[530].

Жонка – Параскевія Марцінаўна М а ж э й к а, дваранка герба «Лебедзь».

400/235 **Парфеній,** нарадзіўся 07.02.1832 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны 07.02.1832 г. у Малышэвіцкай царкве[531]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 1861 г. у сувязі з незацвярджэннем метрыкі кансісторыяй.

401/235 **Фёдар,** нарадзіўся 11.11.1838 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. У 1893 г. жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі[532], адкуль быў выселены ў 1902 г. Жыў у засценку Устрань Вызнянскай воласці Слуцкага павета. Хацеў выкупіць у 1909 г. зямлю ў засценку Пятніцы, якой з 1875 г. валодаў па чыншавым праве адпаведна закону ад 17.03.1903 г. (пад дзеянне яго не трапляў, паколькі быў зацверджаны ў дваранстве), прапусціў тэрмін на права выкупу, падаваў скаргі, аднак яму было адмоўлена ва ўсіх прэтэнзіях[533]. Жыў у засценку Куляшы Цараўскай воласці Слуцкага павета.

Жонкі: 1. Васіліса Філіпаўна Н е к р а ш э в і ч, дваранка герба «Любіч», памерла ў 1872 г.; 2. Параскевія Мацвееўна З а г а р о ў с к а я, *1848 г. н., дваранка герба «Корчак».

402/235 **Васіль,** нарадзіўся 06.03.1842 г. у засценку Лаўровічы, ахрышчаны 07.03.1842 г. у Малышэвіцкай царкве[534]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Жыў у 1893 г. у засценку Пятніцы на чыншавай зямлі князя Гагенлоэ[535].

Жонка – Параскевія Васільеўна К е р н а ж ы ц к а я, *1848 г. н.

403/236 **Яўхім,** нарадзіўся 15.10.1833 г. у засценку Будзішча, ахрышчаны 15.10.1833 г. у Баслаўскай царкве[536]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

404/237 **Адам.**

405/242 **Павел,** нарадзіўся 15.01.1810 г. у засценку Сорагі, ахрышчаны 15.01.1810 г.[537] Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г.

Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458. Жыў у засценку Сорагі.

Жонка – Ганна Кірылаўна.

406/246 **Гаўрыіл,** *1830 г. н. Метрыка не знойдзена. Згодна з пасведчаннем Мінскай праваслаўнай духоўнай кансісторыі ад 30.11.1834 г., зробленага ў выніку следства, праведзенага пагосцкім святаром з ключвойтам, заўшыцкім святаром са старобінскім ключвойтам, сведчанняў паважаных людзей, пацверджаных запісамі ў споведных ведамасцях, меў чатыры гады і быў сынам Васіля Іванавіча і Сінкліціі Іванаўны Статкевічаў[538]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 15.05.1862 г., № 4458.

407/247 **Мікалай.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве. У 1865 г. жыў у засценку Жывагладавічы.

408/247 **Данііл,** нарадзіўся 07.12.1832 г. у засценку Вялікая Альшанка, ахрышчаны 07.12.1832 г. у Вызнянскай царкве[539].

409/247 **Флор,** нарадзіўся 15.08.1835 г. у засценку Вялікая Альшанка, ахрышчаны 17.08.1835 г.[540] Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве.

410/249 **Карнелій,** ахрышчаны 13.09.1842 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве як Карл. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ў 1861 г. у сувязі з непадачай метрыкі.

411/254 **Фёдар,** ахрышчаны 06.06.1835 г. Згодна з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 24.08.1868 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян-уласнікаў Забалацкай воласці Бабруйскага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[541]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.06.1873 г. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 12.08.1875 г.[542]

412/254 **Якаў,** нарадзіўся 04.05.1844 г. у вёсцы Загальнае, ахрышчаны 04.05.1844 г.[543] Згодна з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 24.08.1868 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны разам з сынам Іванам у аклад сялян-уласнікаў Забалацкай воласці Бабруйскага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[544]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.03.1870 г. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 12.05.1875 г.

413/255 **Алімпій,** *1844 г. н. Згодна з рэзалюцыяй Мінскай казённай палаты ад 24.08.1868 г. як дваранін канчаткова не зацверджаны Герольдыяй, залічаны ў аклад сялян-уласнікаў Забалацкай воласці Бабруйскага павета з належнымі з 01.01.1865 г. падаткамі і павіннасцямі[545]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.06.1873 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 12.08.1875 г., № 3157[546]. У 1869 г. жыў у засценку Дунцы Пагосцкай воласці Слуцкага павета, у 1873–1893 гг. – у засценку Дунцы Бабруйскага павета на чыншавай зямлі[547].

Жонкі: 1. Стэфаніда Васільеўна Смольская, дваранка герба «Ястрабец», памерла *1878 г.;

2. Феадосія Стэфанаўна Карафа-Корбут, *1861 г. н., аднадворка з дваран герба «Корчак». Шлюб 01.07.1879 г. у Яроміцкай царкве Бабруйскага павета.

414/256 **Грыгорый,** нарадзіўся 04.02.1834 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 04.02.1834 г. у Заўшыцкай царкве[548]. У 1865 г. жыў у Слуцкім павеце. Не зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі.

415/256 **Фёдар,** нарадзіўся 08.02.1836 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 09.02.1836 г. у Заўшыцкай царкве[549]. У 1870–1876 гг. жыў у засценку Дуброва Бабруйскага павета.

Жонка – Алена.

416/256 **Іван,** нарадзіўся 24.07.1845 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 24.07.1845 г. у Заўшыцкай царкве[550].

417/256 **Пуд,** нарадзіўся 09.12.1848 г. у засценку Дуброва.

418/256 **Грыгорый.**

419/256 **Іван.**

420/257 **Канстанцін,** нарадзіўся 23.05.1858 г. у вёсцы Застарасекі, ахрышчаны 25.05.1858 г. у Загальскай царкве Бабруйскага павета. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 29.09.1912 г. Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 11.03.1913 г., № 890[551]. У 1912 г. жыў у маёнтку Любча Петрыкаўскай воласці Мазырскага павета.

421/263 **Казімір,** нарадзіўся 19.05.1876 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

422/263 **Іосіф,** нарадзіўся 18.12.1878 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

423/263 **Уладзіслаў,** нарадзіўся 12.01.1881 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

424/263 **Франц-Іван,** нарадзіўся 18.06.1886 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

425/263 **Марыя,** *1883 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

426/263 **Юзэфа-Феафіла,** *1890 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

427/266 **Ігнацій-Севасцьян,** нарадзіўся 18.12.1827 г.

428/266 **Каятан,** нарадзіўся 10.08.1831 г.

429/267 **Антон,** нарадзіўся 07.12.1833 г. у сям'і дваран Карла і Караліны, народжанай Татаржынскай, Статкевічаў. Ахрышчаны 10.12.1833 г. ксяндзом Абдонам Сталыгвам у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Казімір Радкевіч і Кацярына Статкевічава[552]. Памёр да 1893 г.

Жонка – Міхаліна Іосіфаўна Лазоўская, *1843 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з братам памерлага мужа Вікенціем і дзецьмі Адамам і Францішкай жыла ў ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці на арэнднай зямлі.

430/267 **Іван-Адам,** нарадзіўся 30.05.1843 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Качановічы на арэнднай зямлі.

Жонка – Мар'я Ігнацьеўна Рымашэўская, *1848 г. н.

431/267 **Багуміла,** *1822 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[553], жыла ў ваколіцы Валожыцы.

432/267 **Юлія,** *1826 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[554], жыла ў ваколіцы Валожыцы.

433/267 **Вікенцій,** нарадзіўся 03.11.1845 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Валожыцы Пацейкаўскай воласці на арэнднай зямлі.

Жонка – Антаніна Каятанаўна Дземідовіч-Валчэцкая.

434/272 **Мечыслаў.** Зацверджаны ў дваранстве ўказамі Сената ад 14.01.1871 г., 01.07.1871 г. і 02.09.1876 г.

Жонка – Францішка Сеўрук.

435/272 **Браніслаў,** нарадзіўся 23.08.1838 г. Пісьменны. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета, жыў у засценку Валожыцы Пацейкаўскай воласці, валодаў 3 дзесяцінамі зямлі.

Жонка – Анэля Адамаўна Міркоўская, *1853 г. н.

436/272 **Казімір-Міхаіл,** нарадзіўся 08.11.1841 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у маёнтку Філіповічы Кіевіцкай воласці на службе ў тайнага саветніка Клімава, а ў засценку Валожыцы валодаў 5 дзесяцінамі зямлі.

Жонка – Сабіна Іосіфаўна Карловіч, *1848 г. н. У 1893 г. валодала 12 дзесяцінамі зямлі ў засценку Крывое Сяло.

437/272 **Фама.**

438/272 **Станіслаў,** нарадзіўся 09.01.1855 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Валожыцы Пацейкаўскай воласці, валодаў 3 дзесяцінамі зямлі.

Жонка – Карнелія Іванаўна Жаўрыд, *1860 г. н.

439/272 **Андрэй,** *1860 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Валожыцы Пацейкаўскай воласці, валодаў 16 дзесяцінамі зямлі.

Жонка – Феафіля Фамінічна, *1863 г. н.

440/273 **Франц,** нарадзіўся 17.10.1834 г. у ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Вікенція і Францішкі, народжанай Івашкевіч, Статкевічаў. Ахрышчаны 21.10.1834 г. ксяндзом Міхаілам Малчановічам у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Іосіф Статкевіч і Караліна Статкевічаўна[555].

441/273 **Анэля,** *1826 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[556], жыла ў ваколіцы Валожыцы.

442/273 **Адольф,** нарадзіўся 17.09.1841 г. у засценку Думічы ў сям'і дваран Вікенція і Францішкі, народжанай Івашкевіч, Статкевічаў. Ахрышчаны 17.09.1841 г. ксяндзом Сямёнам Несяловічам у Бабовенскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Ігнацій і Францішка Рымашэўскія[557].

443/273 **Адам,** нарадзіўся 08.06.1845 г. у засценку Крывое Сяло ў сям'і дваран Вікенція і Францішкі, народжанай Івашкевіч, Статкевічаў. Ахрышчаны 10.06.1845 г. ксяндзом Сямёнам Несяловічам у Бабовенскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Іосіф Суднік і Францішка Шыманская, дзяўчына[558].

444/273 **Іван,** нарадзіўся 17.11.1848 г. у засценку Крывое Сяло ў сям'і дваран Вікенція і Францішкі, народжанай Івашкевіч, Статкевічаў. Ахрышчаны 19.11.1848 г. ксяндзом Сямёнам Несяловічам у Бабовенскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Іосіф Карловіч і Анэля Фларыянавічавая[559].

445/273 **Іосіф,** нарадзіўся 08.03.1857 г. у засценку Думічы ў сям'і дваран Вікенція і Францішкі, народжанай Івашкевіч, Статкевічаў. Ахрышчаны 11.03.1857 г. ксяндзом Іосіфам Маткевіем у Бабовенскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Фама і Луцыя Рымашэўскія[560].

446/274 **Антон.**

447/275 **Браніслаў,** нарадзіўся 06.06.1845 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Валожыцы Пацейкаўскай воласці, валодаў 1 дзесяцінай зямлі.

Жонка – Разалія Адамаўна Язвінская.

448/276 **Ігнацій-Севасціян,** нарадзіўся 28.12.1827 г. у ваколіцы Валожыцы ў сям'і дваран Пятра і Уршулы, народжанай Хацяновіч, Статкевічаў. Ахрышчаны 01.01.1828 г. святаром Аляксандрам Календам у Солтанаўскай уніяцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі паручнік уланскага татарскага палка Васіль Таміліч і Ганна Турава, Іосіф Сіхень і Тэафіля Статкевічава[561]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[562], жыў у ваколіцы Валожыцы.

449/276 **Франц,** нарадзіўся 25.09.1836 г. у ваколіцы Валожыцы. Ахрышчаны ксяндзом Ігнаціем Сталыгвам у Нясвіжскім касцёле. Хроснымі бацькамі былі Стэфан Статкевіч і Францішка Статкевічаўна[563].

450/276 **Іазефата,** *1821 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1828 г.[564], жыла ў ваколіцы Валожыцы.

451/286 **Іван-Вікенцій,** нарадзіўся 29.01.1864 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

452/286 **Алена,** нарадзілася 17.05.1869 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

453/286 **Іазефа,** нарадзілася 25.04.1871 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

454/286 **Марыяна,** нарадзілася 07.03.1858 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

455/286 **Паўліна,** нарадзілася 07.09.1851 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў ваколіцы Валожыцы Пацейкаўскай воласці.

456/287 **Ануфрый,** нарадзіўся 28.03.1858 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Валожыцы Пацейкаўскай воласці, валодаў 10 дзесяцінамі зямлі.

Жонка – Францішка Вікенцьеўна Міхневіч, *1868 г. н.

457/289 **Канстанцін,** нарадзіўся 13.05.1877 г., ахрышчаны ва Узнясенскай царкве г. Копысі. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.10.1897 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената ад 30.04.1898 г., № 1375.

458/292 **Сямён,** нарадзіўся 01.02.1870 г. у сям'і дваран Фёдара Адамавіча і Антаніны Андрэеўны Статкевічаў, ахрышчаны 02.02.1870 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[565].

459/292 **Васіль,** нарадзіўся 01.03.1852 г.

460/293 **Мікалай,** нарадзіўся 13.04.1874 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў на хутары Звярынцы на арэнднай зямлі. Прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.12.1899 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 13.02.1901 г., № 541.

461/293 **Сафія,** *1870 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла на хутары Звярынцы на арэнднай зямлі.

462/293 **Марыя,** *1883 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла на хутары Звярынцы на арэнднай зямлі.

463/295 **Вікенцій,** нарадзіўся 05.07.1881 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1903 г., жыў у маёнтку Халопенічы.

464/295 **Міхаіла,** нарадзілася 25.09.1883 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1903 г., жыла ў маёнтку Халопенічы.

465/295 **Алена,** *1886 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1903 г., жыла ў маёнтку Халопенічы.

466/297 **Вікенцій,** нарадзіўся 21.03.1844 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Данііавіча і Елізаветы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 24.03.1844 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Шамаў Іосіф Аўгусцінаў Шпакоўскі і жонка двараніна фальварка Рулёва Вікенція Якаўлева Статкевіча Марыя[566]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[567]

467/297 **Аляксандр,** нарадзіўся 27.04.1858 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Данііавіча і Ізабэлы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 01.05.1858 г. святаром Мікалаем Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Рулёва Ігнацій Фадзеевіч Шыманскі і жонка селяніна Васіля Шамовіча Антаніна Фёдараўна[568]. Памёр 25.06.1859 г. «ад прастуды», пахаваны 27.06.1859 г. святаром Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета Мікалаем Салаўевічам[569].

468/297 **Сафія,** нарадзілася 05.09.1860 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Данііавіча і Ізабэлы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчана 11.09.1860 г. святаром Мікалаем Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Рулёва Ігнацій Фадзеевіч Шыманскі і жонка селяніна Васіля Шамовіча Антаніна Фёдараўна[570].

469/297 **Марыя,** нарадзілася 05.12.1863 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Данііавіча і Ізабэлы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчана 07.12.1863 г. святаром Мікалаем Салаўевічам у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Шамы Вікенцій Францавіч Шпакоўскі і жонка казённага селяніна Васіля Шамовіча Антаніна Фёдараўна[571].

470/297 **Аляксандра,** нарадзілася 07.01.1847 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Данііавіча і Ізабэлы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчана святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Шамаў Іосіф Аўгусцінаў Шпакоўскі і жонка двараніна 2-га разраду фальварка Рулёва Вікенція Статкевіча Марыя Андрэеўна[572]. Памерла 05.08.1850 г. «ад крывавага паносу», пахавана 07.08.1850 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім, дзякам Фёдарам Лычкоўскім Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета[573].

471/297 **Міхаіл,** нарадзіўся 01.10.1849 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Данііавіча і Елізаветы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 05.10.1849 г. святаром Фамой Салаўевічам, дзякам Стэфанам Буякоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Шамаў Іосіф Аўгусцінаў Шпакоўскі і жонка Якава Дзмітрыевіча Замбржыцкага Францішка Якаўлеўна[574].

472/297 **Ігнацій,** нарадзіўся 27.05.1852 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Данііавіча і Ізабэлы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 01.06.1852 г. святаром Мікалаем Салаўевічам і дзякам Фёдарам Лычкоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі

бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Шамаў Іосіф Аўгусцінаў Шпакоўскі і жонка аднадворца засценка Брады Якава Дзмітрыевіча Замбржыцкага Францішка Якаўлеўна[575]. Памёр 13.12.1857 г. «ад крупу», пахаваны 15.12.1857 г. святаром Пясечанскай Пакроўскай царквы Ігуменскага павета Мікалаем Салаўевічам[576].

473/297 **Іосіф,** нарадзіўся 12.03.1855 г. у засценку Рулёва ў сям'і дваран Гаўрыіла Даніілавіча і Ізабэлы Ігнацьеўны Статкевічаў. Ахрышчаны 13.03.1855 г. святаром Мікалаем Салаўевічам і дзякам Фёдарам Лычкоўскім у Пясечанскай Пакроўскай царкве Ігуменскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Рулёва Юльян Фадзеевіч Шпакоўскі і жонка аднадворца засценка Брады Якава Дзмітрыевіча Замбржыцкага Францішка Якаўлеўна[577]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.04.1873 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 05.10.1873 г.[578]

474/301 **Аляксандр,** нарадзіўся 10.08.1876 г., ахрышчаны ў Забельскай царкве. Прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.12.1915 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 29.02.1916 г., № 784.

Жонка – Антаніна Якаўлеўна.

475/312 **Антон,** нарадзіўся 14.07.1866 г. у засценку Малінава ў сям'і дваран Мацвея Васільевіча і Еўфрасінні Максімаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 14.07.1866 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Малінава Сільвестр Якаўлеў Статкевіч і Еўфрасіння Андрэева Забэла, дзяўчына[579]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[580]. Разам з дваранкай Марыяй Назар'еўнай Сыцько быў хросным 05.11.1891 г. у Паўла[581], 05.01.1897 г. – у Антонія[582], 20.07.1898 г. – у Ільі[583], з Соф'яй Іосіфаўнай Забэлай 07.10.1901 г. – у Сяргея[584], сыноў дваран Грыгорыя Васільевіча і Аляксандры Іосіфаўны Карафа-Корбутаў. У спісе домаўладальнікаў Глускай воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні за 1816 г. значыўся пад № 8 у засценку Малінава[585].

Жонка – Вольга Іванаўна Караткевіч.

476/312 **Насця.** Муж – Адам Андрэевіч Мажэйка.

477/312 **Алена.** Муж – Барысевіч. Загінулі ў ссылцы. Сын Барыс прапаў без вестак на фронце.

478/312 **Іван,** нарадзіўся 22.06.1872 г. у сям'і дваран Мацвея Васільевіча і Еўфрасінні Максімаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 25.06.1872 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1881 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў[586].

Жонка – Алена. Загінулі ў ссылцы.

479/313 **Стэфан.**

480/320 **Сцяпан,** нарадзіўся 02.12.1888 г. у ваколіцы Малінава ў сям'і дваран Васіля Вікенцьевіча і Кацярыны Іеранімаўны Статкевічаў. Ахрышчаны 04.12.1888 г. святаром Поблінскай царквы Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі мяшчане ваколіцы Лепяшаны Аляксей Іеранімавіч і Марыя Іеранімаўна Цвірко[587]. Яго бацька Васіль Вікенцьевіч Сацкевіч-Статкевіч 25.08.1905 г. звярнуўся з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб ссылцы яму копіі ўказа Сената аб далучэнні да дваранства яго сына Сцяпана[588]. Аднак у Мінскім дваранскім дэпутацкім сходзе «документа о дворянстве просителя, находящегося будто бы при деле о причислении сына его Степана, не оказалось, что самого дела о причислении к дворянству названного сына его в собрании не имеется и



Антон Мацвеевіч Сацкевіч-Статкевіч. 1930-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 475/312).



Вольга Іванаўна Сацкевіч-Статкевіч (Караткевіч). 1930-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 475/312).



Запіс аб нараджэнні 14.07.1866 г. Антона. Бацькі: дваранін засценка Малінава Мацвей Васільевіч і Еўфрасіння Максімаўна Сацкевічы-Статкевічы. *НГАБ, ф. 136, воп. 18, спр. 43, арк. 205 адв. – 206.*

что из дел не видно, чтобы об этом причислении кто-либо возбуждал ходатайство»[589]. Тады Васіль Вікенцьевіч падаў у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход неабходныя дакументы: метрычнае пасведчанне аб нараджэнні і хрышчэнні Стэфана, выдадзенае Мінскай духоўнай кансісторыяй 18.01.1903 г., пасведчанне аб несудзімасці Васіля Вікенцьевіча і Стэфана Васільевіча Сацкевічаў-Статкевічаў і квітанцыю Мінскага казначэйства аб унясенні ў казну пяці рублёў пошліны. Звярнуўся 02.07.1910 г. з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў сына Стэфана[590]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 08.10.1910 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 28.02.1811 г.[591] Арыштаваны НКУС 08.03.1937 г., знаходзіўся ў турме г. Салікамска Пермскай вобласці. Загінуў у лагеры ў 1937 г.

Жонка – Марыя Андрэеўна Сыцько, 1896–1990 гг. (гл. «Сыцько» 271/225). Выслана на Урал, у Свярдлоўскую вобласць, у 1929 г. З 1937 г., пасля арышту Сцяпана Васільевіча, сям'я перавядзена ў г. Кунгур Пермскай вобласці.

Дзеці: 1. Галіна, 1927–2006 гг. Муж Іван Мікалаевіч Вялічка, сын Уладзімір, 1951 г. н., закончыў Чалябінскі політэхнічны інстытут, жыве ў г. Чалябінску. Яго дзеці: Кірыл, закончыў Чалябінскі політэхнічны ўніверсітэт; Сяргей, вучыцца ў Чалябінскім медыцынскім універсітэце.

2. Валянціна. Муж Георгій Іванавіч Невяроўскі, 1919–1989 гг. Франтавік, узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Сям'я выслана з Любанскага раёна ў Пермскую вобласць. Дзеці: 2.1. Раіса, 1948 г. н., жыве ў курортным пасёлку Нарач Мінскай вобласці (сын Андрэй); 2.2. Ніна, 1951 г. н.; 2.3. Маргарыта. Муж Міхаіл Васільеў. Іх дзеці: 2.3.1. Ларыса, закончыла Маскоўскі інстытут гандлю (сын Дзяніс); 2.3.2. Ігар, закончыў Акадэмію лясной гаспадаркі (дзеці Алена і Леў, жывуць у г. Чэбаркуль).

481/320 **Марыя.** Муж – Антон Грыгор'евіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 232/140).

482/320 **Алена.** Муж – Русакоў. Сын Усевалад; унукі: Вольга, Уладзімір, Анатоль. Жывуць у г. Бабруйску.

483/321 **Міхаіл,** нарадзіўся 23.10.1882 г. у засценку Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета ў сям'і дваран Івана Вікенцьевіча і Наталлі Васільеўны, народжанай Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 144/70), Сацкевічаў-Статкевічаў. Хросныя бацькі Міхаіл Сямёнавіч Забэла (гл. «Забэла I» 66/33) і Соф'я Вікенцьеўна Сацкевіч-Статкевіч (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 323/182). Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 18.11.1896 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў: «...сопричислить к отцу его Ивану, сыну Викентия Яковлева Сацкевича-Стецкевича и роду сего имени, утвержденному во дворянстве указами Сената от 11.06.1856 г., № 3776, и 5.10.1873 г., № 3596»[592]. Разам з Адамам Рудзінскім быў сведкам з боку маладой пры заключэнні шлюбу 29.06.1909 г. у Забалацкай царкве Бабруйскага павета Міхаіла Максімавіча Лазоўскага і Іўсцініі Аляксандраўны Корбут[593], з боку маладога – з Міхаілам Бржазоўскім пры заключэнні шлюбу 24.10.1910 г. Аляксандра Уладзіміравіча Бржазоўскага і Еўфрасінні Пятроўны Карафа-Корбут[594]. Разам з Марыяй Пятроўнай Рудзінскай быў хросным бацькам 26.09.1916 г. у Івана, сына дваран вёскі Засмужжа Георгія Аляксандравіча і Евы Пятроўны Карафа-Корбутаў[595]. У спісе домаўладальнікаў Забалацкай воласці

Бабруйскага павета за 1916 г. лічыцца пад № 14 па засценку Засмужжа[596].

З пратакола № 65 пасяджэння Любанскага райвыканкама ад 29.02.1930 г.:

«Слушали ходатойство Реченского сельского совета о конфискации имущества у кулаков и выселении их за пределы БССР как вредный элемент, проводящий работу против партии и власти.

Постановили: Учитывая широкое развёртывание коллективизации, а также то, что проживающие кулаки в деревнях Засмужье и Дунцы проводят вредную работу против коллективизации, в прошлом являлись полупомещиками, до последнего времени эксплуатировали бедноту из ближайших околиц, конфисковать имущество у следующих кулаков: Корбута Рыгора [Карафа-Корбут Георгій Аляксандравіч], Корбута [Карафа-Корбут] Василия Петровича, Статкевича Михася [Сацкевіч-Статкевіч Міхаіл Іванавіч]».

*Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці.*

У спісе пазбаўленых выбарчых правоў ад 26.02.1930 г. па Рэчанскім сельсавеце Любанскага раёна пад № 36 значыцца Міхаіл Іванавіч Статкевіч, узрост – 46 гадоў[597].

З пратакола пасяджэння Тройкі пры АДПУ па БВА ад 06.03.1930 г.: «Статкевич Михаил Иванович и Корбут Василий Петрович вели антисоветскую деятельность, активно противодействовали всем мероприятиям Советской власти в деревне, вели агитацию против организации колхозов. Кроме того, в 1920 году, поддерживая связь с бандитами, снабжая их продуктами, передавали сведения о расположении красноармейских отрядов.

Постановили: 1. Статкевича Михаила Ивановича; 2. Корбута Василия Петровича. Расстрелять»[598].

Рэабілітаваны 28.07.1989 г.

*Даведка КДБ БССР. 16.02.1993 г. Па матэрыялах архіўнай справы па Статкевічу (Сацкевічу-Статкевічу) Міхаілу Іванавічу.*

*Памяць: Любанскі раён. Мн., 1996. С. 134.*

Жонкі: 1. Марыя Іванаўна Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 336/207). Памерла ў 1920 г. Дзеці: Міхаіл, Васіль, Іван, 1908 г. н., Зоя, 1912 г. н.; 2. **Марыя Аляксандраўна Карафа-Корбут** (гл. «Карафа-Корбуты І» 279/179). Дзеці: **Аляксандра,** 1924 г. н., Віктар, 1927 г. н., Мікалай, 1929 г. н.

484/321 **Алена,** нарадзілася ў 1885 г. у засценку Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета ў сям'і дваран Івана Вікенцьевіча і Наталлі Васільеўны, народжанай Карафа-Корбут, Сацкевічаў-Статкевічаў.

Муж – Іван Іванавіч Понтус з засценка Малая Млынка Цараўскай воласці Слуцкага павета. У час Першай сусветнай вайны старшы унтэр-афіцэр 312-га стралковага палка. Узнагароджаны Георгіеўскімі Крыжамі III і IV ступені. Да 1918 г. паліцэйскі ўраднік. У 1919 г. выбіраўся старшынёй сельсавета вёскі Млынкі. У 1924 г. пазбаўлены выбарчых правоў. У 1927 г. арыштаваны. Тройка пры АДПУ па БВА абвінаваціла Івана Іванавіча ў тым, што ён служыў паліцэйскім ураднікам, праводзіў антысавецкую агітацыю, групіраваў антысавецкі элемент, тэрарызаваў сялян. Прысуд: тры гады лагераў. Накіраваны ва Упраўленне Салавецкімі лагерамі г. Кем у Карэліі. Рэабілітаваны 14.05.1992 г.

Дзеці: 1. Іван, 1910 г. н., загінуў на фронце ў 1945 г. на тэрыторыі Польшчы. Жонка Корбут Соф'я Іванаўна, дачка Валянціна. Яе дзеці: Ірына, Зоя, Міхаіл (дачка Таццяна).

2. Аляксандр, 1912–1965 гг. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, быў паранены пад г. Кёнігсбер-



Сцяпан Васільевіч Сацкевіч-Статкевіч. 1920-я гг. Загінуў у лагеры ў 1937 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 480/320).



Марыя Андрэеўна Сацкевіч-Статкевіч (Сыцько; крайняя справа; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 480/320) і сям'я Невяроўскіх у ссылцы. Кургун. Пермская вобласць. 1937 г.



Георгій Іванавіч Невяроўскі і яго жонка Валянціна Сцяпанаўна (Сацкевіч-Статкевіч; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 480/320) з дзецьмі Нінай (злева) і Раяй. 1950-я гг.

Георгій Іванавіч Невяроўскі (стаіць 4-ы справа) у гады Вялікай Айчыннай вайны. Фронт. Вільнюс. 1944 г.





Червонн.

ВЪ ПРАВИТЕЛЬСТВУЮЩІЙ СЕНАТЪ ПО ДЕПАРТАМЕНТУ ГЕРОЛЬДІИ

307

Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія.

Рапортъ.

Депутатское Собраніе имѣетъ честь донести Правительствующему Сенату, что Указъ Департамента Герольдіи отъ 19 Июня сего 1897 года за № 2278 послѣдовавшій, съ возвращеніемъ подлинныхъ документовъ и присылкою

Свидѣтельства объ утвержденіи въ дворянствѣ получены въ семъ Собраніи 14 Июля 1897 года.

№ 1098 Июля 21 дня 1897 года.

Господину Бобруйскому Уѣздному Предводителю Дворянства.

МИНСКОЕ ДВОРЯНСКОЕ ДЕПУТАТ. СОБРАНІЕ. № 1099 Июля 21 дня 1897 года.

Депутатское Собраніе имѣетъ честь увѣдомить Ваше Высокородіе для свѣдѣнія и учиненія отмѣтки по дворянскимъ спискамъ, что Михаилъ сынъ Ивана Никитичъ Сацкевичъ-Статкевичъ утвержденъ въ дворянствѣ указомъ Правительствующаго Сената по Департаменту Герольдіи отъ 19 Июня сего 1897 года за № 2278 въ сіе Собраніе послѣдовавшимъ.

№ 1100

Уѣздному Полицейскому Управленію.

Правительствующій Сенатъ по Департаменту Герольдіи Указомъ отъ 19 Июня 1897 года за № 2278 въ сіе Собраніе послѣдовавшимъ съ возвращеніемъ подлинныхъ документовъ, далъ знать сему Собранію объ утвержденіи въ дворянствѣ

Во исполненіе вышеозначеннаго Указа Депутатское Собраніе проситъ Полицейское Управленіе объявить о вышеизложенномъ по сему дѣлу Дворянину уѣзда жительствующему

Рапарт ва Урадавы сенат аб зацвярджэнні ў дваранстве Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. 19.06.1897 г. Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч – дзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 483/321). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 307.*



Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч (стаіць
2-і злева; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 483/321).
1920-я гг.

гам. Жонка Соф'я Васільеўна Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 346/227).

3. Міхаіл, 1915 г. н.

4. Аркадзій, 1924 г. н.; дачка Антаніна; унучка Анастасія, жывуць у г. Гомелі.

485/321 **Марыя.** Муж – Грыгорый Сафронавіч Вечар. Жылі ў пасёлку Зара Любанскага раёна. Дзеці: 1. Вольга Грыгор'еўна Вечар. Муж Харытон Савіч Жудрык. Жылі ў вёсцы Засмужжа. Дзеці: 1.1. Георгій Харытонавіч Жудрык, 14.04.1927–21.10.1984 гг. Жонка Валянціна Віктараўна Гушчыноўская, 21.05.1930–12.05.1982 гг., дзеці: 1.1.1. Валерый Георгіевіч, н. 27.01.1950 г. (жонка Леакадзія Ігараўна, н. 27.02.1952 г., жылі ў г. Валожыне; дзеці: Андрэй, н. 21.10.1974 г., закончыў інстытут механікі, капітан міліцыі; Аляксей, н. 27.02.1978 г.); 1.1.2. Вольга Георгіеўна, н. 29.06.1953 г., судовы выканаўца (муж Барыс Уладзіміравіч Курыловіч, н. 01.03.1952 г.; дзеці: Сяргей, н. 11.01.1976 г., закончыў мінскія радыётэхнічны інстытут і інстытут народнай гаспадаркі); 1.1.3. Алена Георгіеўна, н. 24.04.1958 г., намеснік дырэктара сярэдняй школы (муж Валерый Яўгеньевіч Сенажацкі, 10.06.1952–29.07.1998 гг., дырэктар аўтабазы г. Любані; дачка Таццяна, н. 09.09.1980 г., закончыла Мінскі педінстытут, дэфектолаг; муж Аляксей Міхайлавіч Кругленя, н. 02.12.1978 г., сын Глеб, н. 20.02.2008 г.).

1.2. Яўгеній Харытонавіч Жудрык, 15.01.1931–08.08.1993 гг. Жыў у г. Слуцку. Жонка Лідзія Паўлаўна Доўнар, н. 22.04.1933 г., старшыня гандлёвага прадпрыемства «Слуцкае»; дзеці: 1.2.1. Алег Яўгеньевіч, н. 16.07.1957 г. у г. Барнауле, закончыў лётнае вучылішча, мастак (жонка Ірына Яўгеньеўна Качэргіна, н. 13.04.1962 г., закончыла інстытут народнай гаспадаркі; дачка Яўгенія, н. 27.03.1986 г.); 1.2.2. Алена Яўгеньеўна, н. 19.10.1963 г. у г. Слуцку. Закончыла інстытут народнай гаспадаркі (муж Валерый Паўлавіч Багдановіч, н. 18.12.1957 г.; дачка Юлія, н. 10.02.1987 г., жыве ў г. Лондане, студэнтка, сын Ягор, н. 19.10.2000 г.).

1.3. Іван Харытонавіч Жудрык, н. 03.01.1933 г. Жонка Марыя Ільінічна Шкатула, н. 22.03.1935 г.; дзеці: 1.3.1. Алег Іванавіч, н. 24.09.1962 г. (жонка Ліна Яўгеньеўна; сын Яўгеній, н. 20.03.1985 г., жыве ў г. Салігорску); 1.3.2. Ігар Іванавіч, н. 15.08.1965 г. (жонка Ірына Міхайлаўна, н. 30.09.1962 г.; дзеці: Вадзім, н. 06.04.1984 г.; Аляксей, н. 19.10.1986 г.); 1.3.3. Іна Іванаўна, н. 15.03.1968 г. (муж Аляксандр Аляксандравіч Пыж; дзеці: Крысціна, н. 20.09.1988 г., студэнтка медыцынскага інстытута; Паліна, н. 10.11.1991 г.).

1.4. Аляксандр Харытонавіч Жудрык, 25.08.1938–23.03.2005 гг., дырэктар Любанскага гарпаліва. Жонка Ганна Антонаўна Кругленя, н. 20.04.1938 г., бухгалтар; дзеці: 1.4.1. Жанна Аляксандраўна, н. 07.09.1964 г. Закончыла Мінскі педінстытут (муж Сяргей Рамановіч, н. 11.04.1962 г.; сын Антон, н. 31.08.1989 г., студэнт БДУ); 1.4.2. Вольга Аляксандраўна, н. 26.04.1966 г., закончыла БНТУ, жыве ў Італіі; 1.4.3. Інга Аляксандраўна Шчарбачэня, н. 29.01.1971 г., закончыла педінстытут у г. Мінску (дачка Аляксандра Валер'еўна, н. 17.04.1993 г.).

1.5. Уладзімір Харытонавіч Жудрык, 15.02.1940–05.12.1997 гг. Жыў у г. Любані. Жонка Тамара Анатольеўна Тараховіч, н. 01.06.1949 г.; дзеці: 1.5.1. Уладзімір Уладзіміравіч, н. 10.01.1970 г. (сын Дзяніс, н. 01.03.1991 г.); 1.5.2. Алена Уладзіміраўна, н. 27.11.1973 г. (муж Аляксандр Мікалаевіч Рабы, н. 27.12.1972 г., дачка Паліна, н. 27.10.1995 г.).

1.6. Алег Харытонавіч Жудрык, 08.06.1943–21.05.2000 гг. Закончыў школу з сярэбраным



Сям'я Алены Іванаўны Сацкевіч-Статкевіч (злева направа): Іван Іванавіч Понтус (загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны ў 1945 г. у Польшчы), Соф'я Васільеўна Понтус (Карафа-Корбут), Іван Іванавіч Понтус, Аляксандр Іванавіч Понтус. 1930-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 484/321).

медалём, працаваў інжынерам у г. Салігорску. Жонка Елеанора Канстанцінаўна Варабей (Філіпавец), н. 21.01.1944 г. Закончыла Мінскі інстытут замежных моў; дзеці: 1.6.1. Галіна Алегаўна, н. 28.02.1966 г. Закончыла інстытут народнай гаспадаркі (муж Юрый Аляксеевіч Захараў, н. 02.12.1963 г.; дзеці: Канстанцін, н. 01.09.1987 г., студэнт БНТУ; Міхаіл, н. 21.06.1994 г.); 1.6.2. Ірына Алегаўна, н. 18.10.1968 г. Закончыла інстытут народнай гаспадаркі, інжынер.

1.7. Міхаіл Харытонавіч Жудрык, 1946–1960 гг.

2. Фаіна Грыгор'еўна Вечар, н. 19.08.1925 г. у пасёлку Зара Любанскага раёна. Муж Павел Антонавіч Філіпавец, н. 24.08.1924 г. Дзеці: 2.1. Аляксандра Паўлаўна, н. 01.02.1950 г. у г. Любані. Муж Аляксандр Паўлавіч Кійко, н. 10.01.1946 г.; дзеці: 2.1.1. Аксана Аляксандраўна, н. 31.03.1971 г. у вёсцы Атраднае (муж Віктар Віктаравіч Андруховіч; дзеці: Арцём, н. 18.10.1994 г.; Уладзіслаў, н. 12.09.2000 г.; Антон, н. 11.02.2002 г.); 2.1.2. Юрый Аляксандравіч, н. 13.03.1977 г. у г. Любані (жонка Вольга Мікалаеўна Кулага, н. 01.10.1980 г., настаўніца); 2.1.3. Аляксандр Аляксандравіч, н. 17.05.1978 г. (жонка Наталля Віктараўна Брагінец, н. 07.06.1980 г., ветурач, дачка Анастасія, н. 08.04.2004 г.).

2.2. Галіна Паўлаўна, н. 01.11.1952 г. у г. Салігорску. Муж Валерый Аляксеевіч Вялічка; сын Аляксей Валер'евіч, н. 06.09.1979 г., закончыў Горна-хімічны тэхнікум у г. Салігорску (жонка Вольга Валер'еўна Колтун, н. 13.02.1981 г., сын Артур, н. 24.05.2000 г.).

2.3. Таццяна Паўлаўна, н. 25.09.1954 г. у вёсцы Шунеўцы Глыбоцкага раёна. Муж Уладзімір Сямёнавіч Белы, н. 27.12.1952 г., закончыў Горна-хімічны тэхнікум у г. Салігорску; сын Павел Уладзіміравіч, н. 20.03.1980 г., закончыў Полацкі лясны тэхнікум.

2.4. Валянціна Паўлаўна, н. 02.03.1958 г. Муж Міхаіл Мікалаевіч Адзінец, н. 24.05.1959 г.; дзеці: 2.4.1. Юлія Міхайлаўна, н. 20.10.1984 г., закончыла эканамічны ўніверсітэт, намеснік дырэктара Гандлёвага дома «Партызанскі» (муж Валянцін Эдуардавіч Шчасны, н. 04.02.1984 г., афіцэр-сувязіст); 2.4.2. Дзяніс Міхайлавіч, н. 31.01.1982 г., закончыў БНТУ.

2.5. Юрый Паўлавіч, н. 02.01.1963 г., закончыў Калінінградскае мараходнае вучылішча; дачка Яўгенія Юр'еўна, н. 29.11.1988 г., закончыла Мазырскае музычнае вучылішча.

2.6. Георгій Паўлавіч Філіпавец, н. 03.01.1948 г.

2.7. Павел Паўлавіч Філіпавец, н. 10.03.1960 г.

3. Уладзімір Грыгор'евіч Вечар, жыў у г. Варонежы, памёр у час Вялікай Айчыннай вайны. Дзеці: Іван, Марыя, Ева.

4. Аляксандра Грыгор'еўна Шуневіч (Бадун), жыла ў г. Калінінградзе. Дзеці: Фаня, Люся, Алег, Юдзік, Сяргей, Алёна, Аляксандр, Іван.

486/321 **Соф'я (Зося),** нарадзілася ў сям'і дваран Івана Вікенцьевіча і Наталлі Васільеўны, народжанай Карафа-Корбут, Сацкевічаў-Статкевічаў.

Муж – (?) Урсін.

Дзеці: 1. Ядвіня. Муж (?) Рычалоўскі; дзеці: Валянціна, Ніна.

2. Марыя. Сын Вітоль. 10 гадоў жыў у Любанскім раёне, жонка Лілія, г. Крывы Рог.

3. Венця. Муж (?) Цяліцкі.

487/321 **Вольга,** 1893–27.09.1975 г.

Муж – Міхаіл Іванавіч Зяновіч, 09.11.1884–09.01.1958 гг. Жылі ў засценку Тычыны Старобін-

скай воласці Слуцкага павета (пазней – вёска Тычыны Салігорскага раёна).

Дзеці: 1. Любоў Міхайлаўна Зяновіч, 14.12.1927–07.09.1970 гг. Закончыла Пінскі педінстытут. Жыла ў г. Салігорску. Муж Станіслаў Раманавіч Гайдук, 21.11.1928–22.01.1983 гг. Дзеці: 1.1. Алена, н. 18.01.1951 г., інжынер-тэхнолаг, жыве ў г. Мінску. Муж Мікалай Мікалаевіч Козак, н. 02.01.1945 г.; дзеці: Вольга, н. 03.09.1979 г., філолаг-лінгвіст; Любоў, н. 16.05.1981 г., інжынер.

1.2. Ірына, н. 06.05.1963 г., інжынер-тэхнолаг, жыве ў г. Салігорску. Муж Юрый Мікалаевіч Сячко, н. 31.03.1961 г.

2. Мікалай Міхайлавіч Зяновіч, 15.01.1929–29.01.1995 гг., фельчар, жыў у г. Слуцку. Жонка Кіра Кіпрыянаўна Стацэвіч, н. 17.10.1929 г. Дзеці: 2.1. Сяргей, н. 17.11.1955 г., інжынер, жыве ў г. Мінску. Жонка Ганна Крысько, н. 15.03.1966 г.; дзеці: Анастасія, н. 09.05.1991 г.; Аляксандра, 1997 г. н.

2.2. Вольга, н. 14.12.1960 г., інжынер-канструктар, мадэльер, жыве ў г. Мінску. Муж Аляксандр Васільевіч Адаменка, 1958 г. н.; дзеці: Надзея, н. 01.06.1991 г.; Кацярына, 1994 г. н.

3. Марыя Міхайлаўна Зяновіч, н. 05.10.1931 г., закончыла Пінскі педінстытут. Жыве ў вёсцы Раховічы Салігорскага раёна. Муж Аляксандр Ігнацьевіч Нядвецкі, н. 27.07.1926 г. Дзеці: 3.1. Аляксандр, 12.12.1957–04.03.2007 гг., інжынер-будаўнік, жыў у г. Гомелі. Жонка Галіна Фёдараўна, н. 01.09.1957 г.; дзеці: 3.1.1. Наталля, н. 12.04.1981 г., урач (муж Аляксей, сын Арцём, н. 01.09.2006 г.); 3.1.2. Алеся, н. 25.11.1984 г., юрыст, жыве ў г. Мінску.

3.2. Міхаіл, 1959 г. н., аграном, жыве ў г. Пружаны. Жонка Людміла, 1959 г. н.; дзеці: 3.2.1. Марына, 1982 г. н., медсястра, жыве ў г. Мінску (муж Раман, сын Мікалай, 2006 г. н.); 3.2.2. Аляксандр, 1983 г. н.; 3.2.3. Ганна, 1990 г. н., студэнтка Мінскага медвучылішча.

3.3. Іван, 19.05.1962 г. н., інжынер-механік, жыве ў г. п. Старобін. Жонка Зоя; дзеці: Таццяна, 1992 г. н.; Аляксандр, 1993 г. н.

3.4. Анатоль, н. 01.09.1963 г., інжынер-будаўнік, жыве ў г. Салігорску. Жонка Святлана; дзеці: Яўгенія, 1990 г. н., студэнтка БНТУ; Цімафей, н. 01.09.1996 г.

4. Марфа Міхайлаўна Зяновіч, н. 07.03.1934 г. Закончыла Мінскі медыцынскі інстытут, урачафтальмолаг, жыве ў г. Слуцку. Муж Аляксандр Аляксандравіч Барысавец, н. 28.09.1928 г. Сын Аляксандр, н. 24.02.1966 г., жыве ў г. Слуцку, урач; жонка Таццяна Паўлаўна Жук, н. 11.02.1974 г., дачка Ганна, н. 03.02.1999 г.

5. Міхаіл Міхайлавіч Зяновіч, н. 01.01.1938 г. Закончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, заатэхнік, жыве ў вёсцы Тычыны Салігорскага раёна. Жонка Соф'я Рыгораўна Пракаповіч, н. 01.03.1939 г. Дзеці: 5.1. Сяргей, н. 14.08.1961 г., жыве ў г. Салігорску, машыніст камбайна. Жонка Святлана; дзеці: Таццяна, 1988 г. н., жыве ў г. Мінску, студэнтка БДПУ; Андрэй, 1993 г. н.

5.2. Наталля, н. 09.09.1964 г., інжынер, жыве ў г. Слуцку. Муж Аляксандр Барысевіч; сын Яўген, н. 16.11.1988 г., жыве ў г. Мінску, студэнт БДУ.

488/321 **Ганна,** нарадзілася ў 1885 г. у засценку Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета. Памерла ў 1977 г.

Муж – Якаў Сямёнавіч З а б р о д с к і, 1891–1967 гг., з вёскі Парэчча. Жылі ў вёсцы Залессе Пагосцкага сельсавета Салігорскага раёна. У сувязі з пагрозай арышту ў 1930 г. выехаў з Беларусі ў г. Іркуцк, дзе пражыў сем гадоў.

Дачка Зоя Ермаліцкая, 17.10.1925–20.10.2006 гг., настаўніца, жыла ў г. Гомелі. Дзеці:



Злева направа: Алік, Уладзімір, Аляксей, Іван, Яўген, Георгій Жудрыкі. 1960-я гг. Любань. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 485/321).





Соф'я (Зося) Іванаўна Урсін (Сацкевіч-Статкевіч) з дачкой Марыяй. 1950-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 486/321).

Вольга Іванаўна Зяновіч (Сацкевіч-Статкевіч), сястра Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. 1950-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 487/321).



Вольга Іванаўна Зяновіч (Сацкевіч-Статкевіч; сядзіць другая справа) і яе сям'я. 1950-я гг.



Зоя Якаўлеўна Ермаліцкая (Заброцкая; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 488/321). 1950-я гг.




Якаў Сямёнавіч Заброцкі, муж Ганны Іванаўны Сацкевіч-Статкевіч. 1950-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 488/321).



Васіль Іванавіч Статкевіч. 1945 г. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 501/334).



Іван Іванавіч Статкевіч. 1970-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 502/334).

1. Мікалай Міхайлавіч, н. 05.02.1958 г. Закончыў Томскі медыцынскі інстытут, кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт, вучоны сакратар Гомельскага медыцынскага ўніверсітэта. Жонка Гульфія Рафаілаўна Тухбатуліна; дзеці: 1.1. Настасся, 1982 г. н., закончыла Гомельскі медыцынскі ўніверсітэт; дачка Ганна, 2002 г. н., жывуць у г. Гомелі; 2. Міхаіл Міхайлавіч, 11.07.1952–17.11.2000 гг., памочнік капітана карабля, жонка Любоў Анатольеўна; дзеці: 2.1. Віталь, закончыў педінстытут; 2.2. Наталля, жыве ў г. Мурманску, дачка Анастасія.

489/321 **Аляксандра,** нарадзілася ў 1875 г. у засценку Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета. Жыла ў засценку Сялец Глускай воласці (затым Глускага раёна). Не выдала сваіх сыноў-партызан і была закатавана фашыстамі. Данёс на яе немцам былы старшыня сельсавета Круглоў.

Муж – Сцяпан Іванавіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 188/105).

490/321 **Антаніна,** дачка дваран Івана Вікенцьевіча і Наталлі Васільеўны, народжанай Карафа-Корбут, Сацкевічаў-Статкевічаў. У 1908 г. жыла ў засценку Засмужжа Забалацкай воласці Бабруйскага павета, была прыхаджанкай Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царквы. Разам з дваранінам засценка Засмужжа Васілём Пятровічам Корбутам была хроснай маці 28.01.1908 г. у Івана[599], сына дваран засценка Засмужжа Міхаіла Іванавіча і Марыі Іванаўны Сацкевічаў-Статкевічаў. У 1930 г. з сям'ёй выслана ў Іркуцкую вобласць на залатыя прыіскі. Далейшы лёс невядомы.

Муж – Шантор.

491/321 **Еўфрасіння.** У 1930 г. выслана ў Чыцінскую вобласць, там і памерла.

Муж – Міхаіл Фёдаравіч Карафа-Корбут. Дачка Ніна Міхайлаўна Друзенка (дзеці Любоў, Наталля). Жылі ў г. Балтыйску Калінінградскай вобласці.

492/332 **Іван,** 1906 г. н.

493/332 **Данііл,** 1912 г. н. У 1937 г. расстраляны ў ссылцы ў г. Кочаве на Урале разам з мужам сястры Марыі Аляксеем Васільевічам Міхневічам, 1908 г. н.

494/332 **Марыя,** 1914 г. н.

Муж – Аляксей Васільевіч Міхневіч, 1908 г. н.

495/332 **Ніна,** 1918 г. н.

496/332 **Мікалай,** 1927 г. н. Жыў пасля ссылкі ў г. Слуцку.

497/332 **Браніслаў,** 1930–2003 гг. Жыў пасля ссылкі ў г. Мінску.

498/333 **Міхаіл,** нарадзіўся 15.06.1889 г. у сям'і дваран Назарыя Сільвестравіча і Надзеі Грыгор'еўны Сацкевічаў-Статкевічаў. Ахрышчаны ў Глускай Богаяўленскай царкве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.05.1910 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 22.12.1910 г.[600]

499/333 **Мікалай,** нарадзіўся 03.08.1899 г. у сям'і дваран Назарыя Сільвестравіча і Надзеі Грыгор'еўны Сацкевічаў-Статкевічаў. Ахрышчаны ў Крываносаўскай царкве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.05.1910 г. далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 22.12.1910 г.[601]

500/334 **Вера,** 05.02.1912–25.07.2007 гг. Жыла ў г. Ленінградзе. У час блакады ў Вялікую Айчынную вайну працавала ў ваенным шпіталі. Узнагароджана медалямі «За Абарону Ленінграда», «За Працоўную Доблесць», «За доблесную працу ў час Вялікай Айчыннай вайны», многімі юбілейнымі медалямі.

Муж – Іван Фядотавіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 428/329).

501/334 **Васіль,** 12.01.1921–31.03.1993 гг., франтавік, узнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР. Сын Уладзімір, н. 06.08.1955 г. (дачка Ганна, унук Уладзіслаў). Жывуць у г. Адэсе.

502/334 **Іван,** 30.11.1919–?, франтавік, узнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР.

Жонка – Валянціна Васільеўна. Дзеці: 1. Люся, н. 20.12.1958 г., жыве ў г. Екацярынбургу (дзеці: Ірына, Юлія); 2. Вольга, н. 17.08.1952 г., жыве ў ЗША, два сыны.

503/334 **Уладзімір,** 01.04.1935–1996 г. Дачка Рэгіна, н. 07.02.1967 г., жыве ў г. Львове.

504/334 **Марыя,** 02.12.1910–25.08.1987 гг.

505/334 **Надзея,** 16.05.1913–1996 г. Дачка Таццяна, 05.09.1941–01.01.1999 гг.; дзеці: Кацярына, жыве ў г. Валгаградзе; Ганна, жыве ў г. Пензе (дзеці: Таццяна, Васіль).

506/334 **Ніна,** 21.12.1914–2005 г. Дачка Нэлі, н. 01.01.1942 г.; дзеці: Алена, Вольга (сын Яўген). Жывуць у г. Екацярынбургу.

507/334 **Люба,** нарадзілася 06.05.1926 г. Дзеці: 1. Валерый (дзеці: Аляксандр, Іван, Марыя); 2. Міхаіл (дачка Марыя); 3. Ларыса (дзеці: Сяргей, Яўген). Жывуць у г. Екацярынбургу.

### XVI КАЛЕНА

508/345 **Адакія,** *1855 г. н.

509/345 **Міхаіл,** нарадзіўся 12.07.1856 г., ахрышчаны 13.07.1856 г. у Хорастаўскай царкве Мазырскага павета[602]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.06.1878 г. Не зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 27.11.1878 г.

510/345 **Пелагія,** *1861 г. н.

511/345 **Фёдар,** нарадзіўся 08.06.1862 г. у вёсцы Пужычы, ахрышчаны 17.06.1862 г. у Хорастаўскай царкве Мазырскага павета[603]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 18.07.1878 г.

512/345 **Максім,** нарадзіўся 20.10.1866 г., ахрышчаны 30.10.1866 г. у Хорастаўскай царкве Мазырскага павета[604].

513/351 **Карнелій,** нарадзіўся 19.05.1862 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 20.05.1862 г. у Заўшыцкай царкве[605]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у сяле Заўшыцы Старобінскай воласці.

514/351 **Павел,** нарадзіўся 14.12.1867 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 14.12.1867 г. у Заўшыцкай царкве[606]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у сяле Заўшыцы Старобінскай воласці.

515/351 **Міхаіл,** нарадзіўся 09.07.1870 г. у засценку Севярыны, ахрышчаны 10.07.1870 г. у Заўшыцкай царкве[607]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у сяле Заўшыцы Старобінскай воласці.

516/351 **Сінкліція,** *1873 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў сяле Заўшыцы Старобінскай воласці.

517/351 **Надзея,** *1880 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў сяле Заўшыцы Старобінскай воласці.

518/352 **Адам,** нарадзіўся 19.08.1877 г. у засценку Севярыны, ахрышчаны 21.08.1877 г. у Заўшыцкай царкве[608]. У 1893 г. жыў у засценку Заўшыцы Слуцкага павета.

519/352 **Іван,** нарадзіўся 30.03.1880 г. у засценку Замошша, ахрышчаны 30.03.1880 г. у Заўшыцкай царкве[609]. У 1893 г. жыў у засценку Заўшыцы Слуцкага павета.

520/352 **Дзям'ян,** нарадзіўся 17.08.1886 г. У 1893 г. жыў у засценку Заўшыцы Слуцкага павета.

521/353 **Цімафей,** нарадзіўся 25.07.1881 г. у засценку Васіль Барок, ахрышчаны 26.07.1881 г. у Заўшыцкай царкве. У 1893 г. жыў у засценку Севярыны Слуцкага павета на арэнднай зямлі памешчыка К. Прашынскага.

522/353 **Фама,** нарадзіўся 05.10.1885 г. У 1893 г. жыў у засценку Севярыны Слуцкага павета на арэнднай зямлі памешчыка К. Прашынскага.

523/353 **Вольга,** *1891 г. н. У 1893 г. жыла ў засценку Севярыны Слуцкага павета на арэнднай зямлі памешчыка К. Прашынскага.

524/354 **Клеменс,** ахрышчаны ў Малышэвіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.11.1832 г.

525/355 **Пётр.** У 1887 г. знаходзіўся на ваеннай службе. Служыў радавым у 16-й роце 4-га батальёна 73-га пешага Крымскага палка.

526/357 **Грыгорый.** У 1875 г. лічыўся на ваеннай службе. У 1897 г. жыў у засценку Ямінск Асавецкай воласці Бабруйскага павета.

Жонка – Еўдакія Герасімаўна.

527/357 **Іван.** У 1898 г. жыў у засценку Ямінск Асавецкай воласці Бабруйскага павета.

Жонка – Ганна Андрэеўна.

528/357 **Васіль,** ахрышчаны 18.07.1860 г.

529/357 **Аляксандр.** Жыў у засценку Ямінск Асавецкай воласці Бабруйскага павета. Зацверджаны ў дваранстве.

Жонка – Юлія Іванаўна.

530/357 **Фёдар,** нарадзіўся 16.02.1885 г. у фальварку Ямінск, ахрышчаны 17.02.1885 г. у Ямінскай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.06.1898 г.[610] Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 27.07.1899 г., № 2280[611].

531/359 **Аляксандра,** *1885 г. н. У 1893 г. жыла ў засценку Пятніцы Чапліцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі.

532/359 **Адам,** *1887 г. н. У 1893 г. жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі.

533/359 **Павел,** *1889 г. н. У 1893 г. жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі.

534/359 **Агаф'я,** *1889 г. н. У 1893 г. жыла ў засценку Пятніцы Чапліцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі.

535/359 **Пётр,** *1892 г. н. У 1893 г. жыў у засценку Пятніцы Чапліцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі.

536/361 **Павел,** нарадзіўся 10.01.1894 г., ахрышчаны 16.01.1894 г. у Хворастаўскай царкве[612].

537/361 **Аляксандр,** нарадзіўся 18.01.1899 г. на хутары Сялко, ахрышчаны 24.01.1899 г. у Людзяневіцкай царкве Мазырскага павета[613].

538/368 **Марыя,** *1886 г. н. У 1893 г. жыла ў засценку Севярыны Вызнянскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі.

539/359 **Вольга,** *1890 г. н. У 1893 г. жыла ў засценку Севярыны Вызнянскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі.

540/377 **Міхаіл,** нарадзіўся 01.11.1899 г. на хутары Гарадзішча, ахрышчаны 08.11.1899 г. у Грабаўскай царкве Мазырскага павета[614].

541/383 **Ігнацій,** *1876 г. н. У 1893 г. жыў у вёсцы Чыжэвічы Старобінскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі.

542/383 **Агафія,** *1878 г. н. У 1893 г. жыла ў вёсцы Чыжэвічы Старобінскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі.

543/383 **Іван,** *1881 г. н. У 1893 г. жыў у вёсцы Чыжэвічы Старобінскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі.

544/383 **Марыя,** *1890 г. н. У 1893 г. жыла ў вёсцы Чыжэвічы Старобінскай воласці Слуцкага павета на арэнднай зямлі.

545/384 **Іван,** нарадзіўся 11.08.1882 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1903 г., жыў на хутары Малыя Тычыны.

546/386 **Іван,** нарадзіўся 07.01.1894 г. у фальварку Філіповічы, ахрышчаны 08.01.1894 г. у Ванюжыцкай царкве Мазырскага павета[615]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.09.1902 г.[616] Зацверджаны ўказам Сената па Дэпартаменце Герольдыі ад 28.04.1903 г., № 1515.

547/387 **Павел,** нарадзіўся 13.02.1892 г. у вёсцы Філіповічы, ахрышчаны 16.02.1892 г. у Ванюжыцкай царкве Мазырскага павета[617]. Адпаведна прысуду Мінскага акруговага суда 11.01.1913 г. прызнаны вінаватым у тым, што спланаваў забойства рабочага Станіслава Пятровіча Лейзіна на філіповіцкім заводзе, каб скарыстацца яго грашыма. У ноч на 19.03.1912 г. падпільнаваў Лейзіна пры вяртанні яго з канторы пасля зарплаты, пайшоў следам, нагнаў на дарозе каля вёскі Навасёлкі (Камаровіцкай воласці Мазырскага павета), нанёс Лейзіну ўдар ззаду па галаве спецыяльна захопленым з завода калом, разбіў чэрап і пашкодзіў мозг, ад чаго Лейзін памёр на месцы, а ён забраў у забітага кашалёк з грашыма. Асуджаны да пазбаўлення ўсіх правоў і катаржных работ тэрмінам на 10 гадоў[618]. Рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 18.12.1913 г. унесены ў спіс пазбаўленых усіх правоў[619].

548/387 **Аляксандр,** нарадзіўся 20.02.1894 г. у фальварку Філіповічы, ахрышчаны 20.02.1894 г. у Ванюжыцкай царкве[620].

549/387 **Іван,** нарадзіўся 01.12.1897 г. у фальварку Філіповічы, ахрышчаны 04.12.1897 г. у Ванюжыцкай царкве[621].

550/389 **Іван,** нарадзіўся 21.09.1899 г. у засценку Зацішша, ахрышчаны 27.09.1899 г. у Парыцкай царкве Бабруйскага павета[622].

551/392 **Фоцій,** нарадзіўся 12.08.1833 г. у засценку Машчыцы, ахрышчаны 13.08.1833 г. у Іваньскай царкве. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.12.1835 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.11.1861 г. прызнаны ў дваранстве.

552/394 **Сямён,** нарадзіўся 09.12.1858 г. у вёсцы Астравок, ахрышчаны 09.12.1858 г. у Грозаўскай царкве.

553/394 **Данііл,** нарадзіўся 16.12.1861 г. у засценку Ужа, ахрышчаны 17.12.1861 г. у Грозаўскай царкве.

554/396 **Аляксандр,** нарадзіўся 18.04.1867 г. у маёнтку Палажэвічы, ахрышчаны 19.04.1867 г. у Ольніцкай царкве Бабруйскага павета[623]. У 1893 г. жыў у засценку Гуткова Горкаўскай воласці Бабруйскага павета на чыншавай зямлі князя Гагенлое.

Жонка – Аляксандра-Марфа Геранімаўна Бранавіцкая, дваранка герба «Корчак».

555/396 **Пётр,** нарадзіўся 28.06.1871 г. у маёнтку Палажэвічы, ахрышчаны 29.06.1871 г. у Ольніцкай царкве Бабруйскага павета[624]. Далучаны да дваранскага роду рэзалюцыяй Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.12.1881 г.[625] У 1893 г. жыў у засценку Гуткова Горкаўскай воласці Бабруйскага павета на чыншавай зямлі князя Гагенлое.

556/397 **Соф'я,** *1864 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1902 г., жыла ў засценку Пятніцы Слуцкага павета.

557/397 **Антоній,** нарадзіўся 07.08.1869 г. У 1902 г. разам з маці і сястрой жыў у засценку Пятніцы Слуцкага павета.


135

po Derewo ani wsenożati y w żadny
inszuju rzecz nijakoho inszoho ustu-
pu nemajut, a szto sie dotyczet
Druhoho Jmenia Panu Jwanu
Steckiewiczu ot nas mienoju
postuplennoho to jest Jurewszczy-
zny wkuliowiczach toho Jmenia
Liudy y Zemli leżat na roznych
mescach pry gruntach Kniażati
Jeho milosti Sluckoho, Pana Jwana
Sołtana, Panow Stoltołow, Paniej
Tiekawoie y Służebnika naszeho
Szczepana Łonowickoho, y trudno
ami tez potrebno było każdujusz-
cu w list wpisowati toho gruntu
kotoryj wpewnoj widomosti, y za
slusznymi mieżami z Starodaw-
na wspokoynom używaniu były
do kotorych Jmen prydali jesmo Pa-
nu Jwanu Steckiewiczu samo-
ju Pieniażnuju trysta y osim
desiat kop hroszej y szto dno uże
ot nas danoho majet Pan Jwan
Steckiewicz Deti y Potomki y na
potom buduczyje Szczadki y blizkie
Jeho oncie jak sieto wse wtożycze
z ludmi y zowsimi Zemlami wtych
hranicach naszych wysz pisanych
Zamenenych wiesto Jurewszczyzny
wkuliowiczach z ludmi zemlami y
usim tym jak mnie samo wsobie w
hranicach, mieżach y obchodach
swoich majet, y jak jesmy sami
ku Zamku naszomu mienskomu
używali derżali y wsiakich pożyt-
kow na sebie zażywali, tak wo
leny



uolen y mocen budet Pan Stecke
wicz temi Imeniami pod Jeho Koro-
lewskoju miłostiu ot nas sobie za
menenije wołożyte y wse spokoyne
derzaty y wsiakich pożytkow uży-
wati jako z Lipoy Sackiewicz miał
używał albo komu chotiaczy oddat
prodat y darowat, zamenity y jako
własnostiu swoieju władati, y ko
tomie Imenia wże my sami, Diti
y Potomki naszy żuczystsia wstupowa-
ti y toi zemli ruszyti nie mayem.
a jeśliby chto onyie Imenia abo gruń
ty pozyskowaty miał tohdy my y po-
tomki naszy powinny buden to jemu
oczyszczati, na szto jesmo jemu y list
nasz dali, y z podpisom Ruki naszej
y z podpisom ruki Jeh miłostiej Woie
wodskoho widomy były y za zedaniem
naszym peczaty swoie k semu na-
szemu Listu przyłożyti y zawiesi
ty raczyli. Pan Ikuzmik Lwowicz
Tyszkiewicz marszałok Jeho Koro-
lewskoje miłosti, Derżawca Czarno-
bylski. Kniaź Iwan Kroszynski Der
żawca Upitski, a kniaź Bohdan
Tymofiejewicz Puzyna. Pisan w
Wilni Roku ot narożenia Syna
Bożeho Tysiecza piatsot szeste-
siat wtoroho Misia Oktobria De-
wiatoho Dnia. Y z łaski naszej Hospo
darskoie na żadanie Jeho miłosti
Pana Wojewody Wilenskoho to jesmy
uczynili y na tyie Sieła wołożyły
y Ilyrewszczyznu z Ludmi y z Zemla
mi, gruntami, y pożytkami Jeśano:
wi Stec-



176

Iwanowi Steckiewiczowi naszlist
y potwerżenie towe jemu samomu,
Żenie, Ditiem y Potomkom Joho ko-
torÿi wiczne y neporuszne majet
tyie pomenenÿie Sieła z liudmi, zow
simi gruntami y pożytkami wo
usich hranicach jak w liste Joho
Miłosti Pana Wojewody opisano der-
żaty y zażywaty na wicznyie Czasy
y tymi jmeniami pod nami Hospodarom
w Powiete Nowohorodzkom, w kotorom
y onyie jmenia Iwan Steckiewiczowi
na Lipole, wolen budet on sam, Żona
Diti, Potomki y bliżnyie Joho tuju menu
swoju Komu chotia oddati, prodaty daro-
waty y kudy chotiaczy na swoj pożyto-
obernuti, a nam z toho sam y Potomki
Joho powinny budut służbu Zemskuju
wojennuju Konnuju y Zbroynuju służyti
y zastupowaty poto[m]ż potrzomu y
inyie naszy Ziemianie Szlachta toho Pan-
stwa Wielikoho Kniastwa Litowskoho a
nautwerżenie toi reczy y peczat naszu
prytisnuti kazaliesmo do toho naszoho
Listu. Pisan wo Wilni leta ot narożenia
Syna Bożoho tysiecza Piatsot szesdesiat
wtoroho mesiaca oktiabrja dwatcat wtoroho
Dnia, u toho Listu Prywileju Peczat
zawiesistaja Wielikoho Kniastwa Litow-
skoho prytysnena, a podpis Ruki naja-
śwjetszoho Korola Joho Miłosti Żygimun-
ta Augusta tymi słowy Sigismundus
Augustus Rex Poloniae. Kotoryi to list
Prywilej Joho Korolewskoj miłosti za
podanem onoho do Akt czerez odda-
wcu wyszmenenyie do Knih hrodz-
kich Nowohorodzkich iest upisan.
Z kotorych y sei wypis pod moieju
w Radowija



Прывілей ад 22.10.1562 г. Жыгімонта II Аўгуста Івану Сцецкавічу Сачкевічу (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 21/15) аб зацвярджэнні замены маёнткамі паміж ім і Мікалаем Радзівілам Чорным (на 12 старонках). Актыкацыя ў кнігах Трыбунала ВКЛ 13.11.1758 г. (польская мова). *Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы (LVIA), SA-125, f. 8, ap. 1, b. 125, p. 131–136 v.*


Переводъ съ польскаго

Выпись изъ книгъ Главнаго Трибунала В. Кн. Лит.

1758го года Ноября 13го дня

Прывілей ад 22.10.1562 г. Жыгімонта II Аўгуста Івану Сцецкавічу Сачкевічу (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 21/15) на замену маёнткамі паміж ім і Мікалаем Радзівілам Чорным. Выпіс з кніг Трыбунала ВКЛ ад 13.11.1758 г. Запіс у кнігі гродскія Навагрудскага ваяводства ад 06.03.1678 г. Першы ліст. Копія. Пераклад з польскай мовы (на 8 старонках). 1849 г. *РДГА, ф. 1343, воп. 29, спр. 1347, арк. 7–10.*


Переводъ съ Польскаго

Выпись изъ Книгъ Главнаго Трибунала Великаго Княжества Литовскаго въ Городѣ Новогрудкѣ производящемся —

1630 года Ноября 15 Дня.

Передъ Нами Судьями Головными на Трибуналъ въ Великомъ Княжествѣ Литовскомъ изъ Воеводствъ земель и Уѣздовъ, на настоящій 1630-й годъ избранными, явясь лично Г. Северинъ Валентьиновичъ Стецкевичъ представилъ и совершилъ добровольную вечистую переуступочную запись, законно составленную на предметъ въ ней изъясненный Г. Христофору Сачкевичу-Стецкевичу родному брату своему выданную и служащую и просилъ, чтобы эта запись въ книги Главные Трибунальскіе были вписана, которую въ [illegible] въ книги слово въ слово есть слѣдующаго содержанія. Я Северинъ Валентьиновичъ ручаюсь и обязываюсь за себя самаго и за наслѣдниковъ моихъ [illegible] и сознаваю сего моего переуступочного записью записью кому о томъ знать надлежитъ, что имѣя по наслѣдству отъ родителей моихъ частьими[illegible]нія Воложицъ называемого съ принадлежащими къ оному крестьянами въ Новогрудскомъ Воеводствѣ лежащаго, сходно днешнему обмѣрованію а нынѣ вновь составленному Инвентарю, никому незавѣденное въ спокойномъ моемъ владѣніи отъ немалаго времяни находящееся, а нуждаясь денежной суммы, переуступилъ родному брату

Пераўступачны запіс ад 15.03.1630 г. Севярына Валянцінавіча Сацкевіча-Статкевіча брату Крыштафу (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 40/30) на частку радавога маёнтка Валожыцы з сялянамі, якая засталася яму ў спадчыну ад бацькі, што пацвярджае выпіс ад 15.11.1630 г. з актавых кніг Трыбунала ВКЛ Навагрудскай кадэнцыі. Копія. Пераклад з польскай мовы (на 3 старонках). 11.06.1864 г. *РДГА, ф. 1343, воп. 29, спр. 1347, арк. 16–17 адв.*



моему земянину Его Королевского Величества Но-
вогрудского Воеводства Г. Христофору Валенти-
новичу Стацкевичу Статкевичу за сумму четы-
рех тысячи злотых Польских с строениями
ветхими и со всеми к оному принадлежностя-
ми, ни чего неисключая, что токмо обозначено по
старым записям и что в моем владении на-
ходилось, как то: восемь Округов называемых
Соболь Ляда с прочими записями и старым
Двором, не с рекою Вишнею, состоящий брату
родному передав и отрекаясь из лица моего на
лицо тогож брата моего Христофора пере-
уступаю и в спокойное владение посредством
Возного Новогрудского Воеводства ввод делать
дозволяю и в полное распоряжение поступаю
власти записал упомянутый брат мой
Христофор Валентинович этого части
имения с принадлежащими к оной земля-
ми, лесами, сенокосами и крестьянами обо-
его пола владеть может всяких происковать
сообразно своему желанию обратишь, а я сам
и ни кто имать никого препятствия владе-
нія упомянутым фольварком родному
брату моему Христофору делать не будем
напротив от всякого притязывающагося
к этой переуступочной части, собственны-
ми издержками, во всякий Суд заступать



28

и защищать обязуюсь, что все [illegible] подъ
зарукою четыре съ тысячъ злотыхъ польскихъ
въ случаѣ же нарушенія этой записи дозво-
ляю меня самаго и наслѣдниковъ моихъ поз-
вать во всякій Судъ Земскій Градскій Головный
Трибунальскій и Контуровый гдѣ я безъ ма-
лѣйшихъ отговорокъ къ разбирательству долженъ явит-
ся и заруки сходно сей записи уплатить, а
въ противномъ случаѣ всякій Судъ на имѣніяхъ
въ обеспеченіе подвергаемыхъ штрафовъ приго-
ворить будетъ имѣть право — и въ томъ выдавъ
сію мою вѣчисто переуступочную запись
съ подписомъ рукъ нашихъ и гг. свидѣтелей
отъ меня упрошенныхъ — писано въ Новогруд-
кѣ 1630 года Марта 16 дня — у сей переуступоч-
ной записи подписи слѣдующіе: Северинъ
Валентиновичъ Сацкѣвичъ Статкѣвичъ —
лично прошенный во свидѣтели къ сей переу-
ступочной записи отъ выше писаннаго
лица подписуюсь Войскій [illegible] уѣзда
Константинъ Сологубъ — лично прошенный
за свидѣтеля къ сей переуступочной записи
подписуюсь Войскій Слонимскій Стефанъ
Казимиръ Кендзіоржевскій — лично прошенный
во свидѣтели отъ Г. Христофора Валенты-
новича Статкѣвича съ приложеніемъ печа-
ти моей подписуюсь Иванъ Семерикъ Оборскій


Каковая переуступочная запись по совершен-
ной чрез вышеписанные лица есть в книги
Головныя Трибунальские принято и выписан-
ною копия и Сия выпись с приложением Три-
бунальской печати Новогрудскаго Заседания
Земянину Его Королевскаго Величества Се-
мену Стецкевичу Статкевичу выдано, (по-
писано) Подстароста Упитскаго Уезда, Маршал
Главнаго Трибунала Великаго Княжества Ли-
товскаго Казимир Страшевич. Скарбник Лидскаго
Уезда Иван-Станислав Каменский-Цивун и По-
комории Троцкаго Воеводства Казимир Яцковский
Вице Инстигатор и Писарь Александр Мойдевидс
Вязевич. Справил Регент Минскаго Воеводства и
Главнаго Трибунала Еленский.-
С подлинною верно: Переводчик Губернский Секретарь
Домашевич

Копия. 1854. Июня 11 дня. По Указу Его Императорскаго
Величества Минская Палата Гражданскаго Суда, сим
Свидетельствует, что в присутствии ея, Секретари
Здешних присутственных мест, на основании Высо-
чайше утвержденнаго 22 дня Марта 1843 года мне-
ния Государственнаго Совета, делали сличение подпи-
си Регента Еленскаго, на сем документе обозначен-
ной, с прочими таковыми подписями находящими-
ся в сей Палате, и таковые оказались сходны.
(подписано) Заседатель Павликовский. Секретарь
Немировский. В должности Архивариуса Амлин-
гер. (М.П.) №: 2894.—



9

Переводъ съ Польскаго

Выпись изъ Книгъ Гродскихъ Новогрудскаго Воеводства

1704го года Августа 29го дня.

Выпіс з актавай кнігі Навагрудскага гродскага суда ад 29.08.1704 г. завяшчання ад 22.07.1704 г. Паўла Хрыстафоравіча Сацкевіча-Статкевіча (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 50/40). Копія. Пераклад з польскай мовы (на 3 старонках). 10.05.1855 г. *РДГА, ф. 1343, воп. 29, спр. 1347, арк. 23–24.*



248

[illegible] обязанъ [illegible]. Затемъ [illegible] сего свѣта
въ семъ мирѣ прошу и [illegible] какъ вышеупомянутыхъ
братанцовъ моихъ такъ родственниковъ, друзей, слугъ и под-
данныхъ прося ихъ извиненія вины моихъ если кому за [illegible]
сдѣлалъ въ чемъ либо непріятности и таковое Завѣщаніе при
упрошенныхъ ГГ. Свидѣтеляхъ собственноручнымъ подпи-
саніемъ утверждаю. Писанъ въ Волмрищахъ 1804 года Ію-
ля 22 дня. У сего Завѣщанія подписи Завѣщателя и Свидѣте-
лей слѣдующіе: Павелъ Степкевичъ. Лично прошенный
за Свидѣтеля отъ Г. Павла Степкевича который записы-
ваетъ свое Имѣніе Волмрищи съ Крестьянами братанцу своему
Петру Степкевичу и братьямъ его Ивану, Михаилу и Ва-
силію по причинѣ [illegible] предназначаетъ за-
конно подписуюсь Андрей Левковичъ. Лично прошенный въ
Свидѣтели отъ вышеписанного Лица къ сему Завѣщанію
на предметъ въ [illegible] вышеизложенный подпи-
суюсь [illegible]. Какъ свидѣтель прошенный
по сему Завѣщанію подписуюсь Яковъ [illegible]. Каковое
Духовное Завѣщаніе по подачѣ онаго чрезъ вышеписан-
ное Лице есть въ книги Гродскія Новогрудского Воевод-
ства принято и вписано, изъ коихъ и сія выпись съ при-
ложеніемъ Гродской Новогрудской Печати Г. Францу
Степковичу выдана. /Подписано/ Вѣрно съ книгами Ре-
гентъ Гродскій Новогрудскаго Воеводства Костантъ
Обуховичъ. —
[illegible] [illegible] Дворян-
скаго Собранія Губернскій Секретарь [illegible]

Копія. 1855. Года Мая 10. дня. По Указу Его
Императорскаго Величества Минская
Палата Гражданскаго Суда, симъ Свидѣ-
тельствуетъ, что въ Присутствіи ея
Секретари [illegible] Присутственные
мѣста, на основаніи Высочайше у-
твержденнаго въ 1. день Марта 1843 года


Переводъ съ Польскаго

Выписъ изъ Книгъ Земскихъ Новогрудскаго Воеводства.

1725 года Сентября 3 дня.

Запіс ад 17.08.1725 г. аб продажы братамі Станіславам і Грыгорыем Сацкевічамі-Статкевічамі Сямёну Яфімавічу Сацкевічу-Статкевічу (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 87/69) часткі маёнтка Валожыцы (Дамброўка) з сялянамі. Выпіс з кніг земскіх ад 03.09.1725 г. Копія. Пераклад з польскай мовы (на 3 старонках). 1854 г. *РДГА, ф. 1343, воп. 29, спр. 1347, арк. 26–27.*



Свидетельство

Иванъ
Валентий
Крыштофъ
Гавриилъ
Ефимъ
Семенъ
Григорий Герасимъ Матвей Яковъ
Даниилъ Адамъ Федоръ Семенъ Павелъ Викентий
Гавриилъ

Мы нижеподписавшиеся Дворяне Слуцкаго уезда Адамъ сынъ Григорія и Викентій сынъ Якова внуки Семена Ефимова Сацкевичи-Стацкевичи, окончательно утвержденные въ дворянскомъ достоинстве Указомъ Правительствующаго Сената по Департаменту Герольдіи отъ 11 Іюля 1856 года за № 3746 въ Минское Дворянское Депутатское Собраніе последовавшимъ, дали сіе свидетельство на основаніи 63 ст. IX т. Св. зак. /изд. 1857 г./ сыновьямъ и род-

Радавод і пасведчанне дваран Слуцкага павета Адама Грыгор’евіча і Вікенція Якаўлевіча, унукаў Сямёна Яфімавіча Сацкевіча-Статкевіча, у тым, што пералічаныя родзічы паходзяць ад бацькоў, зацверджаных у дваранскай годнасці ўказам Урадавага сената ад 11.07.1856 г. за № 3746, і павінны быць далучаны да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў (на 3 старонках) (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 182/116). *РДГА, ф. 1343, воп. 2, спр. 1347, арк. 271–272.*



отвѣтникамъ нашимъ а именно
я Адамъ Григорьевъ сыновьямъ сво-
имъ Антону и Ивану равно род-
ственникамъ Андрею сыну Ѳеодо-
а внуку Геронима сына Семена
Ефимова; а также Викентiю
и Iосифу сыновьямъ Гаврiила внукамъ
Данiила а правнукамъ отца моего Григо-
рiя сына Семена Ефимова Сацкевичамъ
Стецкевичамъ; а также я Викентiй сы-
Якова Семенова; Ѳеодору, Онуфрiю, Петру
и Ивану сыновьямъ Семена и Кузьмѣ сы-
ну Павла а всѣмъ имъ внукамъ двуимен-
наго Матвѣя Максима сына Семена Ефи-
мова а также Iоанну и Василiю сынов-
ьямъ моимъ т.е. (Викентiя) а внукамъ
Якова сына Семена Ефимова Сацкевичамъ
Стецкевичамъ въ томъ: что всѣ вышепо-
именованные лица происходятъ отъ
отцевъ окончательно утвержденныхъ
въ дворянствѣ вышепрописанныхъ ука-
зомъ Правительствующаго Сената
по Департаменту Геральдiи и отъ
одного вмѣстѣ съ нами предка Семена
сына Ефима а внука Гаврiила Криш-
тофорова Сацкевича-Стецкевича слѣдова-
тельно вышеупомянутые Антонъ и
Иванъ суть моими (Адама) родными
сыновьями, Андрей Ѳеодоровъ внукъ Ге-
ронима Семенова приходитъ мнѣ Ада-
му двоюроднымъ племянникомъ, Ви-
кентiй же и Iосифъ суть сыновья
родного племянника моего Гаврiила
Данiилова Сацкевича-Стецкевича, точно
также и мнѣ Викентiю сыну Якова
Семенова; Ѳеодоръ, Онуфрiй, Петръ и
Иванъ сыновья Семена, равно Кузьма
сынъ Павла а внуки двуименнаго Ма-
твѣя-Максима Семенова суть моими
двоюродными племянниками Iоаннъ
же и Василiй Сацкевичи-Стецкевичи



272

отъ помощи Викентія Яковлева Сац-
кевича Стецкевича родивши сыновья-
ми и что всѣ вышепрописанные сы-
новья и родственники наши, родивші-
ся до утвержденія отцевъ своихъ въ
дворянствѣ, остались несопричислен-
ными къ роду вмѣстѣ съ отцами
своими по причинѣ несостоятельно-
сти отцевъ своихъ ходатайствовать
въ то время на всѣхъ лицъ метричес-
кихъ выписей о ихъ рожденіи и креще-
ніи, и таковымъ ходатайствованіямъ
дабы незамедлить представленіемъ об-
щаго дѣла въ Правительствующій Се-
натъ некоторые отцы оставили
младшихъ а прочіе всѣхъ сыновей своихъ
сопричисленіе къ роду, на прѣдбуду-
щее время т. е. послѣ утвержденія
самихъ отцевъ въ дворянствѣ, и за симъ
на основаніи Высочайшаго указа отъ
23 Сентября 1864 года всѣ вышепро-
писанные сопричисляющіеся къ роду
лица записались въ податные сосло-
вія по званію крестьянъ общества
Слуцкаго, Игуменскаго и Бобруйскаго
уѣздовъ съ податьми и повинностя-
ми съ начала 1865 года, какъ уже нынѣ
ими Сацкевичами — Стецкевичами въ точ-
ности исполнены всѣ условія изложенные
въ вышеприведенномъ Указѣ Высочайшаго
повелѣнія; то на основаніи 63 и 65 ст.
IX т. св. зак. о состояніи (изд. 1857 года)
они какъ родившіеся отъ утвержден-
ныхъ отцевъ своихъ въ дворянствѣ дол-
жны быть сопричисленными къ своему
роду, и пользоваться таковыми же прав-
ами съ преимуществами дворянства
кои дарованы намъ и отцамъ всѣхъ
вышепрописанныхъ лицъ Сацкевичамъ
Стецкевичамъ вышеприведеннымъ Ука-
зомъ Правительствующаго Сената

Пастанова Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 18.11.1896 г. аб далучэнні да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў сына Івана Вікенцьевіча Міхаіла (дзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 483/321). Дакумент на 5 старонках. *РДГА, ф. 1343, воп. 36, спр. 22294, арк. 6–8.*



№5.

Копия

6

1896 года Ноября 18 дня. По указу Его Императорскаго Величества, Минское Дворянское Депутатское Собрание слушали: прошение Дворянина Бобруйскаго уезда Ивана, сына Викентия Яковлева Сацкевича-Стецкевича, 16 февраля сего 1896 года въ сие Собрание поданное, которымъ проситель изъясняетъ, что определением сего Собрания 16 апреля 1873 г. состоявшимся онъ, Иванъ Викентьевъ Сацкевичъ-Стецкевичъ сопричисленъ къ роду Сацкевичей Стецкевичей и указомъ Правительствующаго Сената по Департаменту Герольдии, отъ 5 октября 1873 года за №3591, въ сие Собрание последовавшимъ, утвержденъ въ потомственномъ Дворянстве.- Въ настоящее время, проситель, имея необходимость сопричислить къ Дворянскому роду его Сацкевичей-Стецкевичей сына своего Михаила Ивановича Сацкевича-Стецкевича, для чего и представляя: метрическое свидетельство, выданное Минскою Духовною Консисториею отъ 7 февраля 1892 г. за №1416, о рождении и крещении 1882 г. октября 23. Михаила, сына Ивана Викентьева

Сацкевича - Стецкевича и законной
жены его Натальи Васильевой. –
3, свидѣтельство Минскаго Губернска-
го Предводителя Дворянства и Губер-
натора отъ 2 Сентября и 20 октяб-
ря 1895 г., за №№ 704 и 1131, выданное
и завѣренное въ томъ, что Иванъ
Викентьевъ и сынъ его Михаилъ
Сацкевичи - Стецкевичи до нынѣ
не лишены правъ состоянія, силою
закона, за уголовныя и полити-
ческія преступленія и не находят-
ся за таковыя подъ судомъ и
слѣдствіемъ; и 4) квитанцію Мин-
скаго Казначейства, отъ 23 Мая 1892 г.
за № 3379, на пять руб. пошлинъ за
выдачу сопричисляемому къ роду Ми-
хаилу Иванову Сацкевичу - Стецке-
вичу дворянскаго свидѣтельства,
съ копіями означенныхъ докумен-
товъ, проситъ сіе Собраніе со-
причислить сказаннаго Михаила
Иванова Сацкевича - Стецкевича къ
дворянскому роду Сацкевичей - Стец-
кевичей и дѣло о томъ предста-
вить въ Правительствующій Се-
натъ по Департаменту Герольдіи
на утвержденіе. - Справка: Родъ
Сацкевичей - Стецкевичей, а въ том
числѣ Викентій, сынъ Якова Се-

7

менова, Сацкевичъ-Стецкевичъ опре-
дѣленіями сего Собранія 1802 Іюня
21, 1832 Декабря 21 и 29, 1835 февраля
27 и 1855 годовъ Декабря 29 чиселъ со-
стоявшимися, признанъ въ дво-
рянскомъ достоинствѣ и въ этомъ
званіи окончательно утвержденъ
указомъ Правительствующаго Се-
ната, по Департаменту Герол-
діи, отъ 11 Іюня 1856 г. за №3776, въ
сіе Собраніе послѣдовавшимъ со
внесеніемъ въ шестую часть ро-
дословной книги Дворянъ Мин-
ской Губерніи; дополнитель-
нымъ-же опредѣленіемъ сего Со-
бранія 1873 г. Апрѣля 18 дня со-
стоявшимся настоящій про-
ситель, Иванъ Викентьевъ Сац-
кевичъ-Стецкевичъ сопричисленъ
къ утвержденному въ дворянствѣ
роду своему Сацкевичей-Стец-
кевичей и указомъ Правитель-
ствующаго Сената, по Депар-
таменту Герольдіи, отъ 5 Ок-
тября 1873 г. за №3594, въ сіе Со-
браніе послѣдовавшимъ, утвер-
жденъ въ дворянствѣ, со внесе-
ніемъ его въ ту-же шестую часть
Дворянской родословной книги
Минской губерніи.- по-чему и



опредѣлили: такъ какъ дѣйстви-
тельность законнаго происхожденія
Михаила Сацкевича-Стецкевича
отъ отца Ивана Викентьева Сац-
кевича-Стецкевича доказывается
метрическимъ свидѣтельствомъ
о его рожденіи и крещеніи, выдан-
нымъ Минскою Духовною Конси-
сторіею, о неимѣніи же Сацке-
вичей-Стецкевичей какъ отца такъ
и сына ни правъ состоянія, си-
лою закона, за уголовныя и по-
литическія преступленія и
несостояніи за таковыя подъ
судомъ и слѣдствіемъ, удосто-
вѣряется свидѣтельствомъ Мин-
скаго Губернскаго Предводителя
Дворянства и Губернатора, то
Депутатское Собраніе, руко-
водствуясь 27, 274, 284, 1101 ст., равно
примѣч. къ 19 ст. IX т. Св. Зак. о сост.
(изд. 1876 г.), полагаетъ: Михаила
Иванова Сацкевича-Стецкевича,
сопричислить къ отцу его Ива-
ну, сыну Викентія Яковлева,
Сацкевичу-Стецкевичу и роду
сего имени, утвержденному въ
Дворянствѣ указами Правитель-
ствующаго Сената, по Де-
партаменту Герольдіи, отъ 11



Іюня 1856 г. за № 3776, и 5 Октября 1873 г., за № 3596, въ сіе Собраніе последовавшими, со внесеніемъ его въ туже шестую часть родословной книги Дворянъ Минской губерніи.

Копію сего определенія съ вошедшими въ составъ оного документами, копіями оныхъ, родословною, квитанціею казначейства на пять руб. пошлинъ и прошеніемъ Сацкевича-Стецкевича представить на ревизію въ Правительствующій Сенатъ, по Департаменту Герольдіи.-

Подлинный протоколъ за надлежащимъ подписомъ и скрепою Секретаря.

Съ подлиннымъ верно!

Минскій Губернскій Предводитель Дворянства [illegible]

За Секретаря [illegible]


Въ Правительствующій Сенатъ
по Департаменту Герольдіи.

Минскаго Дворянскаго
Депутатскаго Собранія
Рапортъ

Депутатское Собраніе опредѣленіемъ своимъ 18 Ноября 189[illegible] состоявшимся, опричислили Михаила Иванова Сацкевича-Статкевича къ утвержденному въ дворянствѣ роду отца его Сацкевичей-Статкевичей. Копію сего опредѣленія съ вошедшими въ составъ онаго документами, копіями сихъ документовъ, квитанціею Казначейства на пять руб. пошлинъ и прошеніемъ Сацкевича-Статкевича, имѣетъ честь при семъ представить на ревизію Правительствующаго Сената по Департаменту Герольдіи.

[illegible] Декабря дня [illegible]

Рапарт Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ва Урадавы сенат па Дэпартаменце Герольдыі аб далучэнні да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў сына Івана Вікенцьевіча Міхаіла (дзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 483/321). Дакумент на 4 старонках. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 3091, арк. 302–303.*



сына (9) Ивана Викентьева и Натальи Васильевой Сацкевичи=Стацкевичей законнаго супруга, выданное Минскою Духовною Консисториею от 7 Февраля 1892 г. за № 1116.—

Свидетельство: свидетельство Минскаго Губернскаго Предводителя Дворянства и Губернатора выданное от 2 сентября за № 707, и 20 Октября 1895 г. за № 8691, о несудимости (9) Ивана Викентьева и сына его (10) Михаила Сацкевичи Стацкевичей —

Квитанцію: Квитанцию Минскаго Казначейства ~~от 23 Мая 1892 г.~~ за № 8379, на пять руб. пошлин для выдачи (10) Михаилу Иванову Сацкевичу=Стацкевичу дворянскаго свидетельства —

Определение: Копія определения из Собрания 18 Ноября 1896 г. состояв, коим сопричислены (10) Михаил к отцу (9) Ивану Викентьеву Сацкевичу=Стацкевичу и роду ...


Опись къ делу о дворянстве г. Михаила Иванова Сацкевича Стацкевича, составленная въ Минскомъ Дворянскомъ Депутатскомъ Собраніи [illegible] 1896

| № по порядку | Наименованіе документовъ | Число листовъ |
|---|---|---|
| 1 | Прошеніе Мих. Михаила Сацкевича-Стацкевича | |
| 2 | Метрика о рожденіи и крещеніи Михаила Иванова Сацкевича-Стацкевича, за № [illegible] | |
| 3 | Свидетельство Минскаго Губернскаго Предводителя Дворянства и Губернатора о недвижимости Сацкевичъ-Стацкевичей. | |
| 4 | Квитанція Минскаго Казначейства на пять руб. пошлины, за № [illegible] | |
| | Копіи означенныхъ документовъ | |
| 5 | Копія определенія сего Собранія [illegible] Ноября сего 1896 г. состоявшагося | |
| 6 | Родословная роспись рода Сацкевичъ-Стацкевичей. | |



Герб «Корчак» роду Карафа-Корбутаў.

Мая бабуля Марыя Аляксандраўна і прабабуля Наталля Васільеўна, мама дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча, паходзілі з роду Карафа-Корбутаў.

Ды і яшчэ дзве мае пра...прабабулі былі з гэтага ж роду: адна з іх – Марыяна Васільеўна – выйшла замуж за Івана Тычыну, другая – Феліцыяна – вянчалася з Андрэем Іваноўскім. Гэта было яшчэ ў XVIII ст.

У пратаколе ад 20 студзеня 1816 г. Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу пра дваранскае паходжанне роду Карафа-Корбутаў чытаем: «...той род, які меў герб «Корчак» (у чырвоным полі тры белыя ракі ўпоперак шчыта адна пад другою паасобку, верхняя самая доўгая, сярэдняя карацейшая, а ніжняя самая кароткая, на шлеме ў судне паўсабакі відно), са старажытных часоў у Каралеўстве Польскім шляхетным значыўся, карыстаўся правамі і прывілеямі ад кіруючых манархаў».

Пра ўзнікненне герба «Корчак» польскі даследчык Марыюш Казанчук распавядае наступнае. Было гэта ў часы гунскага важака Атылы, чыя дзяржава займала тэрыторыю сучаснай Венгрыі. Яго палкаводзец, таленавіты і адважны Зоард, разбіў ворага ў раёне трох рэк – Бадрока, Цісы і Дуная. Гэтыя рэкі як сімвал перамогі красуюцца на шчыце герба «Корчак». А сабака ў залатым судне – сімвал таго, што Зоард дапамог скінуць з трона жорсткага ўладара, якога людзі параўноўвалі са злосным сабакам.



Кароль венгерскі і польскі Людовік.

А вось другая гісторыя ўзнікнення герба «Корчак».

Вугорцы (венгры), выбіраючы сабе караля, не маглі прыйсці да згоды. У выніку зрабілі так: адчынілі шырока вароты і дамовіліся – хто ўвойдзе першы, той і будзе каралём. Першым у памяшканне забег сабака. Вырашыўшы, што гэта і ёсць Богам вызначаны кароль, вугорцы наладзілі яму каралеўскі прыём: пасадзілі на чале стала, і крайчы, аддзяліўшы мяса ад касцей, падаў яго сабаку, але той ухапіў костку. Пакрыўджаныя гаспадары са словамі: «Калі хочаш быць панам, дык кінь сабачыя звычкі», – узяліся за шаблі. І «кароль», спужаўшыся, уцёк ажно за тры ракі. Легенду ўзгадвае Б. Папроцкі ў кнізе «Гняздо цноты...» і лічыць, што гэтую прыдуманую гісторыю расказаў Людовік, кароль польскі і вугорскі, які загадаў падскарбію Дзяметрыюшу ў тым гербе змясціць тры ракі і сабаку ў залатым судне.

Людзі, якія мелі прозвішча Карафа-Корбут, ужо даўно задумваліся: адкуль яно? Асабліва іх цікавіла частка *Карафа*. Гэта, напрыклад, турбавала ўдаву тытулярнага саветніка Антаніну Карафа-Корбутаву. На свой запыт да мінскага павятовага прадвадзіцеля дваранства ў 1868 г. яна атрымала адказ: «Слова “Карафа” раней прозвішча Корбут не складала... і ўжывалася неабавязкова і адвольна членамі роду».

Існуе яшчэ адзін дакумент, датаваны 1889 г. Паводле яго, малодшы ўрач 104-га пяхотнага Усцюжанскага палка Аляксандр Васільевіч




Корбут-Карафа просіць аб аднаўленні правільнасці яго прозвішча, паколькі ў адных дакументах ён *Карафф-Корбут*, у іншых – *Караффа-Корбут*, а ў некаторых проста *Корбут*. І Мінскі дваранскі дэпутацкі сход паведаміў кіраўніцтву Усцюжанскага палка і асабіста Аляксандру Васільевічу, што, па дакладных звестках, ён Карафа-Корбут.

Прозвішча Карафа-Корбут у мінулыя стагоддзі годна гучала не толькі на беларускай зямлі, але і за яе межамі. Так, напрыклад, сапраўднае імя вядомага паэта Элегія Вуля, аўтара знакамітага верша «К дудару Арцёму...» – Элегій Францішак Карафа-Корбут.

У канцы XIX ст. у Пецярбургу была папулярнай спявачка Наталля Эдуардаўна Карафа. А вось прозвішча Корбут яна змяніла на Карыбут: магчыма, для больш звыклага гучання. Але яе любілі не за прозвішча, а за голас, яна выступала нават са знакамітым Фёдарам Шаляпіным. Дарэчы, Наталля Эдуардаўна часам прыязджала ў Мінск да родзічаў, тут яна адпачывала, выступала, давала ўрокі спеваў.

Знакамітай асобай у музычным жыцці Беларусі на той час быў Пятро Карафа-Корбут, кампазітар і выканаўца, які ўражваў ігрой на многіх інструментах меламанаў Мінска, Слуцка, Нясвіжа. Музыкант падтрымліваў добрыя стасункі з сям'ёй знакамітага Станіслава Манюшкі.

Радаводнае дрэва шляхецкага роду Карафа-Корбутаў.
*НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573.*

Сярод прадстаўнікоў слаўнага роду – доктар філасофіі Матэвуш Карафа-Корбут; адметны бібліёграф, гісторык літаратуры Габрыэль Карафа-Корбут. У польскім біяграфічным слоўніку згадваецца Людміла-Ганна-Гелена Карафа-Корбут, удзельніца антыфашысцкага падполля. Яе муж доктар Браніслаў Карафа-Корбут – ураджэнец Табольска і, як высвятляецца, родны пляменнік паэта Э. Вуля, пра якога мы ўжо згадвалі.

У энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона таксама згадваюцца Карафа-Корбуты: «Літоўскі дваранскі род герба «Корчак» паходзіць з XVI ст. і ўнесены ў шостую і першую часткі радаводнай кнігі Мінскай губерні».

Дык дзе ж карані гэтага старажытнага роду, адкуль жа такое незвычайнае прозвішча? Некаторыя навукоўцы лічаць, што ён утварыўся шляхам аб'яднання дзвюх галін: Корбутаў, скажам, палякаў ці беларусаў, і Карафа, італьянцаў. Адна з легендаў распавядае, што ў Польскім Каралеўстве ў далёкія часы жыў гандляр сукном Корбут. Ён меў канцэсію на сваю справу і прадаваў тавар па ўсёй Еўропе. І была ў яго дачка, адукаваная і прыгожая, чыя вабнасць зачаравала італьянскага афіцэра графа Карафа. Прадстаўнік знатнага роду з берагоў Міжземнага мора з годнасцю нёс службу пры двары польскага караля. Прозвішча Карафа на Апенінскім паўвостраве было даволі распаўсюджанае. Сярод яго носьбітаў – паэты, фельдмаршалы, кардыналы... З роду Карафа паходзіў нават рымскі папа Павел IV.

У «Гісторыі прозвішча Карафа» італьянскага генеолага Біягіа Алдымары, якая выйшла ў Неапалі ў 1691 г., згадваецца Павел Карафа, з роду князёў венецыянскіх, які перасяліўся ў Польшчу ў часы караля Уладзіслава Ягайлы.

Пра гэта ж гаворыцца і ў першапачатковай пастанове Віленскага дваран-



Папа Павел IV.

скага дэпутацкага сходу ад 31 снежня 1798 г.: «...род Карафа-Корбутаў, які ўваходзіў у польскае дваранства, бярэ пачатак з Неапалітанскага Каралеўства ад прозвішча Карафа. Адзін з носьбітаў гэтага прозвішча Павел Карафа, нашчадак князёў венецыянскіх, разам з жонкай з роду Данатаў у перыяд царавання караля польскага Уладзіслава Ягайлы перайшоў у Польшчу і, будучы пры каралеўскім двары, паступіў на воінскую службу, стаў палкоўнікам, вылучыўся ў вайне з крыжакамі. Пакінуў пасля сябе сына Матфея, які таксама знаходзіўся на воінскай службе і ў перыяд кіравання Уладзіслава III вылучыўся ў вайне з туркамі, за што быў узнагароджаны чынам ротмістра і па прывілеі караля атрымаў да свайго венецыянскага прозвішча Карафа славянскі прыдомак Корбут». Вось так і ўзнікла прозвішча Карафа-Корбут.




Знак малодшага ўрача 104-га Усцюжанскага палка. *З калекцыі А. Статкевіча-Чабаганава.*

Вядома, што Матфей ажаніўся з дачкой палкоўніка Базыля Жаравінскага, служыў пры двары караля польскага, стаў падпалкоўнікам. У 1440 г. атрымаў ад караля Уладзіслава III маёнтак Корбутава Воля, які знаходзіўся на Хелмінскай зямлі Валынскага ваяводства. Загінуў у другой вайне з туркамі пад Варнай у 1444 г.

Сын Матфея Якуб быў жанаты з Пянёжкаўнай, а ўнук Пётр ажаніўся з Грудзінскай. Жылі ў вотчынным маёнтку Корбутава Воля да пачатку XVI ст.

Сын Пятра, таксама Пётр, аддаў спадчынны маёнтак у заклад Ржавуцкім, а сам перасяліўся ў Слонімскі павет, дзе ўзяў у заклад у Паклонскіх маёнтак Вішаў. Вось так і раздзяліўся род Карафа-Корбутаў: адна галіна засталася на Валыні, а другая асталявалася на беларускай зямлі і з часам падзялілася на мсціслаўскую, віленскую, навагрудскую і мінскую галіны. Мною даследавана восем галін роду Карафа-Корбутаў, у тым ліку і валынская. Наша галіна ўмоўна пазначана «Карафа-Корбуты I».

Але працягнем размову пра Пятра, ад якога ідзе нітка да маіх продкаў Карафа-Корбутаў. Пётр быў жанаты з Тржцінскай, вылучыўся на службе ў польскага караля Жыгімонта I і ў слуцкага князя Юрыя Алелькавіча.

Прывяду два дакументы, якія сведчаць пра заслугі Пятра.

Вось прывілей, напісаны ў Кракаве 3 верасня 1532 г. Ім кароль Жыгімонт I за вайсковую конную службу падарыў Пятру Брыкаўскую зямлю ў Слонімскім павеце: «...біў нам чалом баярын наш павета Слонімскага, і мы нашу ласку гаспадарскую чынілі і далі яму зямлю з дворышчам і селянінам Радзюком... далі есма Корбуту самому, жонцы, дзецям і нашчадкам яго...»

З граматы князя Юрыя Алелькавіча, напісанай у Слуцку 3 студзеня 1538 г., на зямлю Дубеі над ракой Усой вынікае: «...іж біў нам чалом служэбнік наш Пётр Корбут, за верныя і зычлівыя яго паслугі далі яму зямлю нашу Грозаўскую над ракою Усою з усімі ўрочышчамі, да тае зямлі здаўна належнымі, якую тую зямлю далі мы яму Корбуту, самому, жонцы, дзецям і шчадкам яко вечна і непарушна, а ён нам з тае зямлі павінен будзе службу земскую ваенную служыць...»



На гэтых землях жылі нашы продкі да сярэдзіны XVII ст., пра што сведчаць граматы, дадзеныя сыну Пятра Юрыю 17 лютага 1604 г., і межавы ліст унуку Івану 28 верасня 1642 г. Гэта ж пацвярджае і справа ад 30 жніўня 1668 г. «аб выйшаўшых сялянах», калі Іван Карафа-Корбут судзіўся з навагрудскай падстолінай Чаркоўскай.

Праўнук Пятра Карафа-Корбута Васіль купіў 12 мая 1665 г. у Сузанны, народжанай Свід, і яе сына Мікалая Дабкоўскага 1/12 частку зямлі ў засценку Іздрашава Слуцкага княства. Гэты факт цікавы тым, што Карафа-Корбуты з таго часу пачалі паступова асталёўвацца ў тутэйшых мясцінах каля Старобіна і Пагоста. Першапраходцам, як бачым, быў Васіль, сын Іванаў.

Кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла.

У Васіля Іванавіча Карафа-Корбута нарадзіліся тры сыны: Павел, Сямён і Хрыстафор (Крыштаф). Ад яго і пайшла наша галіна Карафа-Корбутаў. Нам вядома, што 3 жніўня 1678 г. Павел, Сямён і Хрыстафор судзіліся ў Слуцкім гродскім судзе з Лабейкамі з-за пасягальніцтва апошнімі на іх дваранскую годнасць.

Да таго ж вядома, што Хрыстафор валодаў маёнткам Мінкавічы ў Ашмянскім павеце, які 10 сакавіка 1698 г. падарыў сыну Канстанціну.



Жыгімонт I Стары.

Пра Канстанціна, сына Хрыстафора, у справе Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу аб дваранскім паходжанні роду Карафа-Корбутаў ад 20 студзеня 1816 г. гаворыцца, што ў яго было тры сыны: Грыгорый, Станіслаў-Якуб і Дыянізій. Там жа мы знайшлі «квіт зборшчыкаў павіннасцей Навагрудскага ваяводства аб спагнанні павіннасцей, устаноўлены на войска Рэчы Паспалітай Вялікага Княства Літоўскага народжанаму Канстанціну Карафа-Корбуту, таварышу харугвы, з маёнтка Мінкавічы ў 1708 годзе лістапада 6 дня выдадзены».

З кніг Ашмянскага гродскага суда вядома, што жонкаю Канстанціна была Елеанора з роду Пілатовічаў, якая па дарчым запісе перадала маёнтак Пуцілава сваім дзецям і ўнукам, у тым ліку і маім пра...прадзедам Грыгорыю і Дыянізію.

Цікавы і дакумент аб продажы маёнтка Мінкавічы ад 29 снежня 1780 г. Яго ўдалося знайсці ў архівах Мінскага гродскага суда. Прадалі маёнтак сыны Грыгорыя і Дыянізія, дваюрадныя браты Васіль і Якаў. Пасля гэтага нашы Карафа-Корбуты перабраліся з Ашмянскага павета ў Слуцкі, на землі, якія некалі выбраў іх прапрадзед Васіль. І жылі яны ў вёсках Іздрашава, Кутнева, Чыжэвічы, у засценках Шабунькі, Балотчыцы, Тычыны, Залессе. Тут сталі прыхаджанамі Іздрашаўскай Пакроўскай, Старобінскай Мікалаеўскай, Пагосцкай Уваскрэсенскай цэркваў. І, як вядома, менавіта ў гэтых краях Карафа-Корбуты пасябравалі і парадніліся з Некрашэвічамі, Тычынамі, Рудзінскімі.

Калі ў 1811 г. мой продак Іван Васільевіч Карафа-Корбут разам са старэйшым братам Андрэем вырашыў пераехаць у маёнтак Віктарын Бабруйскага павета, унёсшы заклад 1400 рублёў серабром памешчыку Прушаноўскаму, то з імі ў дарогу сабраліся і іх родзічы: Рудзінскія і Нікіфар Некрашэвіч (прапрадзед акадэміка Сцяпана Некрашэвіча) з жонкай Агаф'яй Васільеўнай, якая даводзілася сястрою Івану і Андрэю Карафа-Корбутам. Арандавалі яны зямлю ў Віктарыне на працягу дзесяці гадоў, а потым жылі ў маёнтках Дражня і Данілаўка, што пад Парычамі. Калі памешчык Маліноўскі вырашыў прадаць свой маёнтак Малінава ў Глускай воласці, то сярод пакупнікоў быў і Іван Васільевіч Карафа-Корбут, які захацеў набыць землі для сваіх сыноў Максіма і Васіля. Купчая была падпісана 23 красавіка 1847 г.

У 1848 г. вырашылі дакупіць землі. Аднак на гэты раз усё ішло няпроста. Перашкаджалі розныя абставіны. Спачатку не ўсе пакупнікі сабраліся ў Слуцку, каб разам ехаць да натарыуса ў Мінск, дзе павінна была адбыцца здзелка. Дабраліся толькі Іван Карафа-Корбут і ўладальнік маёнтка Малінава Антоній Маліноўскі. Другія пакупнікі, верагодна, прыпыніліся кіламетраў за 10 ад горада «перад страхам існуючай тады ў Слуцку халеры». Да іх двойчы прыязджаў Іван, «увещевая их в предрассудке о сей болезни, которая не заразительна и прочее, но все приглашения эти остались тщетными». Яны так і не адважыліся рушыць у дарогу. Памешчык пакрыўдзіўся, запатрабаваў заплаціць выдаткі. Купля на гэты раз сарвалася, аднак і другі раз узніклі



Пасямейныя спісы шляхты Слуцкага павета ад 1811 г. *НГАБ, ф. 333, воп. 9, спр. 170.*



Маёнтак Віктарын. 1917 г.

праблемы: у дваран Сеўрукаў не хапіла грошай. Урэшце ўсё абышлося, і купчая была падпісана.

Так мае родзічы асталяваліся на новым месцы. Жылі заможна, шчыравалі на зямлі. Бывала, здараліся і незвычайныя гісторыі. Як, напрыклад, выпадак з прапажай каня ў Васіля Іванавіча Карафа-Корбута, майго прапрадзеда. Гісторыя гэта, здарылася праз 15 гадоў, як мае родзічы пераехалі ў Малінава. Яна зацікавіла сваёй кульмінацыяй: злачынства было раскрыта ўсяго за два дні і зрабілі гэта не паліцэйскія, а сам пацярпелы.

Аповед пачну з архіўнага дакумента.

«Па Указе Яго Імператарскай Вялікасці крымінальная Палата слухала прапановы спадара выконваючага абавязкі Мінскага грамадзянскага губернатара ад 11 лютага 1863 г. за № 1222 аб вяртанні справы і зацверджанага рашэння Палаты аб крадзяжы мешчанінам Сарнецкім у двараніна Корбута каня. Загадалі: копію дадзенага рашэння перанаправіць у Бабруйскі павятовы суд з тым, каб выклікаць у тамтэйшы грамадзянскі астрог былога кантаніста Сцяпана Сарнецкага і аб'явіць яму рашэнне гэтае без права апеляцыі і распіску яго ў тым прадставіць у Палату, а пра час аб'яўлення яму рашэння прама ад сябе даць Мінскаму губернскаму праўленню і перадаць пра тое звесткі там-

тэйшай гарадской паліцыі, роўна аб'явы на права апеляцыі двараніну Васілю Корбуту і мешчаніну Кузьму Шпіталевічу аб захаванні правіла на гэты конт у законе ўстаноўленага...»

Гэты дакумент выклікае шэраг пытанняў. Скажам, чаму справай аб крадзяжы каня ў двараніна Корбута зацікавіўся мінскі губернатар? Хутчэй за ўсё, тут прычына ў тым, што коні на той час з'яўляліся вялікай каштоўнасцю, многія з іх, асабліва пародзістыя, ставіліся на ўлік і ў час баявых дзеянняў былі запатрабаваныя. Ну, а агульны парадак вядзення спраў і многія дакументы таго часу пачыналіся са спасылкі на ўказы Яго Імператарскай Вялікасці. А магчыма, рашэннем суда застаўся незадаволены мой прапрадзед. Адказу няма. Ды і не ў гэтым сутнасць.

Здарылася бяда ў пятніцу 9 сакавіка 1862 г.



Імператар Усерасійскі Аляксандр ІІ.

...Гаспадар вярнуўся ў Малінава з Мінска позна ўвечары на сваім кані «гнядой масці, грыва і хвост чорныя». Каштаваў ён па тых часах 70 рублёў серабром. А гэта немалыя грошы. Паставіў Васіль Іванавіч свайго стомленага каня ў стайню, добра зачыніў і пайшоў спаць. А раніцай глянуў – каня няма. Нехта выкраў «разам з раменным хамутом і вяровачнымі лейцамі». Усхваляваўся ўладальнік, забіў трывогу. Прыбег на месца здарэння і яго швагер Андрэй Сыцько. На шчасце, напярэдадні выпаў невялікі сняжок, а на ім засталіся сляды і каня, і злодзея. Вялі сляды ў бок Бабруйска. Туды і накіраваліся наўздагон за злодзеем Васіль з Андрэем. Дарога немалая – вёрстаў пяцьдзясят, але яны хутка дабраліся да горада, адшукалі кірмаш. Кі-

нуліся туды, дзе ішоў гандаль коньмі, глядзяць – стаіць іх прапажа і трымае яе за аброць незнаёмы чалавек сталага ўзросту. Аказалася, што новы гаспадар ні ў чым не вінаваты: ён выменяў каня ў хлопца са Слаўкавіч. Апісаў, як выглядае злодзей, назваў прыкметы.

Зноў выправіліся мае родзічы ў дарогу. Заехаўшы ў Слаўкавічы, пачалі апытваць усіх сустрэчных. Хутка ўдалося даведацца, што, па ўсіх прыкметах, злодзей – гэта кантаніст, былы радавы царскай арміі Сцяпан Сарнецкі, які жыве ў Глуску, дзе здымае жыллё. Васіль з Андрэем памчаліся туды – галоўнае, каб злодзей быў на месцы. А ён, радуючыся ўдаламу крадзяжу, а затым і здзелцы, знаходзіўся ў доме глускага мешчаніна яўрэя Міхеля, упэўнены, што яго ніхто не знойдзе. І якое было яго здзіўленне, калі ўбачыў перад сабою грознага ўладальніка каня!

Бабруйскі павятовы суд адмераў канакраду два гады астрога.




Справа аб крадзяжы каня ў двараніна Васіля Корбута. *НГАБ, ф. 150, воп. 1, спр. 1005.*

Частка роду Карафа-Корбутаў у XIX ст. асталявалася ў бабруйска-глускім рэгіёне. Астатнія ж прадстаўнікі нашай галіны так і засталіся жыць у Слуцкім павеце. Тут яны параднілiся са Ждановічамі-Гурыновічамі і Рэутамі. Пра іх жыццё ў гэтых мясцінах распавядаюць шматлікія дакументы – як пра радасныя падзеі, так і пра сумныя. Напрыклад, у мае рукі трапіў пратакол Слуцкага паліцэйскага ўчастка пра пажар у вёсцы Кутнева, у час якога згарэла некалькі хат і ўся скаціна...

Нам пашанцавала, што добра захаваліся метрычныя кнігі многіх цэркваў Случчыны, звесткі з якіх ахопліваюць больш за стагадовы перыяд. З іх мы даведаліся пра найважнейшыя падзеі жыцця нашых продкаў.



Справа ад 11.02.1863 г. за № 1222 аб крадзяжы мешчанінам Сарнецкім у дваранін Корбута каня, зацверджаная рашэннем Крымінальнай палаты па Указе Яго Імператарскай Вялікасці.




Напрыклад, 7 кастрычніка 1817 г. бралі шлюб шляхціч засценка Іздрашава, прыхаджанін Чыжэвіцкай Пакроўскай царквы Самуіл Якаўлевіч Карафа-Корбут і дачка жыхара засценка Залессе Аляксандра Рэута – Ірына.

Цікавы той факт, што сярод продкаў Ірыны – Саламаніда Томкаўна Геталт, якая, як і графы Тышкевічы, паходзіць з вядомага з XIV ст. кіеўскага роду Каленікавічаў-Мішкавічаў.

Прайшоў час, і ў Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве 18 сакавіка 1879 г. вянчаліся ўнук Самуіла Якаўлевіча дваранін засценка Кутнева Аляксандр Платонавіч Карафа-Корбут (мой прадзед) з Марыяй Неафітаўнай Рудзінскай.

Метрычныя кнігі Слуцкага павета. XVIII ст.


254.

По Высочайшему повелению.

Въ Правительствующій Сенатъ по Департаменту Герольдіи

1. Декабря 1877 г. N 480.

Минскаго Дворянскаго Депутатскаго Собранія

Рапортъ

Депутатское Собраніе имѣетъ честь донести Правительствующему Сенату, что Указъ Департамента Герольдіи отъ 20 Іюня сего 1877 года за № 2048, послѣдовавшій съ документами и 47 свидѣтельствами объ утвержденіи въ дворянствѣ Карафа-Корбутовъ, полученъ въ семъ Собраніи 27 Іюня сего 1877 года.

№ 1678.
Ноября 9 дня 1877 года
г. Минскъ.

Секретарь

Рапарт Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ва Урадавы сенат і Дэпартамент Герольдыі аб тым, што ўказ ад 20.06.1877 г., № 2048, і сапраўдныя 47 пасведчанняў аб зацвярджэнні ў патомным дваранстве прадстаўнікоў роду Карафа-Корбутаў атрыманы. Сярод зацверджаных Васіль Іванавіч (прапрадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава), Платон Самуілавіч (прапрадзед), Аляксандр Платонавіч (прадзед) Карафа-Корбуты. *РДГА, ф. 1343, воп. 23, спр. 1373, арк. 254.*



ПРАВИТЕЛЬСТВУЮЩЕМУ СЕНАТУ

МИНИСТРА ЮСТИЦІИ

ПРЕДЛОЖЕНІЕ.

„Государь Императоръ, по всеподданнѣйшему докладу моему, въ 12й день текущаго Мая, Высочайше соизволилъ на исключеніе изъ мѣщанскаго и крестьянскаго званій: Павла Іосифова съ сыномъ Домитіемъ, Семена Іосифова съ сыномъ Өеодосіемъ, Калистрата Іосифова съ сыновьями Владиміромъ, Іоанномъ, Виктора Іосифова съ сыновьями Елисеемъ, Өедоромъ, Іоанномъ, Іоанникіемъ, Адріана Іосифова съ сыновьями Иваномъ, Петромъ и Сильвестромъ, Стефана Иванова съ сыномъ Тимоөеемъ, Максима Иванова съ сыновьями Василіемъ, Стефаномъ, Пан[illegible]



номъ, Іосифа, Антона, Порфирія, Серафима Петровыхъ, Василія Иванова съ сыновьями Петромъ, Григоріемъ, Іосифомъ, Игнатіемъ, Николаемъ, Виктора Семенова съ сыновьями Іоанномъ, Стефаномъ, Андреемъ, Василіемъ, Ивана Григорьева съ сыновьями Аѳанасіемъ, Ѳедоромъ, Тимоѳея Григорьева съ сыномъ Владиславомъ, Платона Самуилова съ сыномъ Александромъ, Ивана Андреева съ сыновьями Константиномъ и Стефаномъ Карафа-Корбутовъ, и подтвержденіе въ первобытномъ предковъ ихъ дворянскомъ достоинствѣ, согласно опредѣленію Правительствующаго Сената, 11 Мая 1877 года состоявшемуся.

О таковомъ Высочайшемъ волѣ имѣю честь предложить Правительствующему Сенату, къ надлежащему исполненію.

Министръ Юстиціи,
Статсъ-Секретарь

№ 1976.

20 Мая 1877 г. Ид. Директора

Прапанова ад 20.05.1877 г. міністра юстыцыі Расійскай імперыі Урадаваму сенату аб зацвярджэнні ў дваранстве прадстаўнікоў роду Карафа-Корбут (на 2 старонках). Сярод пералічаных Васіль Іванавіч Карафа-Корбут – прапрадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава, Платон Самуілавіч Карафа-Корбут – прапрадзед, Аляксандр Платонавіч Карафа-Корбут – прадзед (гл. «Карафа-Корбуты I» 70/40, 94/50, 179/94). *РДГА, ф. 1343, воп. 23, спр. 1373, арк. 250–250 адв.*



Каля помніка святой праведнай Сафіі, княгіні Слуцкай, у дзень яго адкрыцця. Злева направа: Андрэй Анатольевіч, Анатоль Васільевіч, Тамара Фёдараўна, Сяргей Анатольевіч Чабаганавы. Слуцк. 24.09.2000 г.

Памятная пліта ў гонар уладкавальнікаў помніка святой праведнай Сафіі, княгіні Слуцкай. Слуцк. 24.09.2000 г.





Хросны ход з нагоды адкрыцця помніка святой праведнай Сафіі, княгіні Слуцкай. У цэнтры – Высокапраасвяшчэннейшы Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт. Злева – Анатоль Статкевіч-Чабаганаў. Слуцк. 24.09.2000 г.

Менавіта Аляксандр Платонавіч разам з родзічамі Карафа-Корбутамі, Статкевічамі, якія жылі ў Малінаве, а таксама далучанымі да іх Тычынамі, Рудзінскімі і іншай шляхтай купілі ў 1893 г. маёнтак Засмужжа ў Забалацкай воласці ў княгіні Марыі Гагенлоэ. У Засмужжы нарадзіліся мая бабуля і мая мама. Тут нарадзіўся і я.

Сёння мне дакладна вядома, што мае родзічы пачынаючы з XV ст. жылі ў асноўным у нясвіжскім, капыльскім, слуцкім рэгіёнах. Таму, калі ўзнікла ідэя ўстанавіць у Слуцку помнік святой Сафіі, княгіні Слуцкай, я з вялікай радасцю ўзяў удзел у яго фундаванні.

Як жа склаўся лёс маіх родзічаў з роду Карафа-Корбутаў, якія жылі ў Малінаве? Да 1930 г. там было шаснаццаць гаспадарак, што пачалі называць кулацкімі, у тым ліку чатыры – Карафа-Корбутаў, дзве – Статкевічаў, дзве – Сыцько. Усе гэтыя сем'і былі рэпрэсіраваны савецкай уладай і высланы за межы Беларусі.

З успамінаў Тамары Мікалаеўны Карафа-Корбут:

«Мая мама Алена Грыгор’еўна нарадзілася ў Малінаве Глускага раёна. У 1914 г. выйшла замуж за Корбута Фёдара Сцяпанавіча. У тым жа годзе ён пайшоў на фронт і прапаў без вестак. У сакавіку 1915 г. нарадзілася дачка Ніна, якая так і не ўбачыла бацьку. Дванаццаць гадоў мама чакала свайго Фёдара, жыла з дачкою ў свекрыві.

Мой бацька Корбут Мікалай Васільевіч угаворваў маму выйсці за яго яшчэ да першага замужжа. І ўсё-такі яны ажаніліся ў 1927 г. Дарэчы, мама Мікалая Васільевіча Анастасія Паўлаўна даводзіцца цёткай Сцяпану Міхайлавічу Некрашэвічу, першаму віцэ-прэзідэнту Акадэміі навук Беларусі.

Калі надышоў 1930 год, мае бацькі працавалі на гаспадарцы, як простыя сяляне, нягледзячы на сваё паходжанне. Дык навошта было высяляць гэтых працаўнікоў? Яны, як мне мама расказвала, босымі хадзілі па ржышчы, жалі сярпамі жыта. Толькі і ўсяго, што было, – гэта некалькі кароў і пара коней. Праўда, у час уборкі хлеба яны наймалі работнікаў, але плацілі ім нядрэнна і кармілі іх.




Помнік на магіле Анастасіі Паўлаўны Корбут (Некрашэвіч). Вёска Клетнае Глускага раёна (гл. «Некрашэвічы» 99/69).

У той страшны год арганізавалі ў Малінаве калгас, куды ўступілі і мае бацькі. Туды ж забралі інвентар і ўсю жывёлу. Мама гаварыла, што каровы, калі ішлі з пашы, убачыўшы гаспадароў, жаласна мукалі, а жанчыны, гледзячы на іх, плакалі.

У той час, як вядома, даводзілі планы па раскулачванні. У Маскве ўжо разлічылі, колькі чыгуначных саставаў трэба было падрыхтаваць для “вялікага перасялення” ў Сібір.

Наш дзядзя Паўлуша, даведаўшыся пра раскулачванне, паехаў у Ленінград, дзе вучыліся яго браты Ілья і Сяргей. Майго бацьку ён таксама ўгаворваў паехаць з ім, але той не паверыў, што будзе высяленне, маўляў, няма такой прычыны. Як жа ён памыляўся!

І вось аднойчы ў Малінава прыехала раённае кіраўніцтва. Усіх жыхароў сабралі



Фёдар Сцяпанавіч Корбут. 1913 г. Прапаў без вестак на фронце ў час Першай сусветнай вайны (гл. «Карафа-Корбуты I» 220/126).

ў клубе і зачыталі прозвішчы тых, хто павінен быў пакінуць сход. Іх проста выгналі. Праз некалькі дзён забралі некуды ўсіх мужчын, а жанчынам загадалі тэрмінова збірацца ў дарогу. Мама ўзяла з сабою дваіх маленькіх дзяцей. Ніне на той час споўнілася 15 гадоў, і ёй дазволілі застацца. Сколькі пакут перанесла пасля мая бедная сястрычка!

А некаторыя не забіралі дзяцей з сабою. Мая цётка Вара (Варвара Васільеўна Карафа-Корбут) таксама пакінула трох малых дзяцей, у тым ліку і Клаву. У час вайны дзеці цёткі Вары трапілі ў Германію, вярнуліся двое: Клава і Барыс. Клава не можа ўспамінаць пра гэта без слёз...

Усіх раскулачаных пагрузілі на падводы, і калі прывезлі на чыгуначную станцыю, то некаторых мужчын вярнулі да сваіх сем'яў, у тым ліку і майго бацьку. А муж цёці Вары Рыгор Більдзюкевіч так і застаўся ў лагерах. Ён правёў там дваццаць гадоў, магчыма таму, што змагаўся на франтах Першай сусветнай вайны і стаў Георгіеўскім кавалерам. Ужо хворым, змардаваным, старым ён вярнуўся ў Беларусь да дачкі Клавы...

Этапіравалі нашых бацькоў у таварных вагонах і вагонах, прыстасаваных для перавозкі скаціны. Многія дзеці і старыя не вытрымалі голаду і холаду. Памерлых выносілі і пакідалі на адхонах. Дзесьці ў Сібіры сасланых выса-

дзілі і пасялілі ў бараках, вакол якіх была сцяна з калючым дротам. Мама называла гэтае месца "Бушуйкай". Зімой прымушалі валіць лес, галодныя і дрэнна апранутыя людзі на марозе не вытрымлівалі, многія гінулі.

Затым пачалася чарговая "сарціроўка": некага пакінулі ў Сібіры, а маіх бацькоў з дваімі дзецьмі, а таксама цёцю Вару адправілі ў далейшую перасылку. Плылі і на параходзе, і на кацеры. Нарэшце дасягнулі раёна імя Асіпенкі ў Хабараўскім краі. Цёця Вара трапіла на залатыя прыіскі, а мае бацькі – у глухамань, дзе стаяла некалькі баракаў для перасяленцаў ды адзін домік мясцовага жыхара. Людзі былі не толькі з Беларусі, а і з Украіны, Малдавіі, Татарстана. Навокал лес, ніякіх шляхоў зносін з раённым цэнтрам, хіба толькі па рацэ летам ці зімой пешшу. Мабыць, спецыяльна прывезлі ў такое месца, каб людзі не разбегліся.

Сярод глухой тайгі Хабараўскага краю і пачалося новае жыццё гэтых няшчасных людзей. У створаным калгасе працавалі з ранку да ночы. Раскарчоўвалі ўручную лясы: мужчыны падсякалі карані, а жанчыны вяроўкамі выцягвалі пні. І так цэлы дзень, а пасля дадому ішлі пешшу некалькі кіламетраў, ды яшчэ жанчыны неслі каровам траву. Людзі працавалі за працадні, нічога не атрымліваючы за іх, акрамя таго, здавалі дзяржпастаўкі. Помню, мама прыйдзе



Грыгорый Ігнацьевіч Більдзюкевіч. 1940 г. У час Першай сусветнай вайны стаў Георгіеўскім кавалерам. Залаты Георгіеўскі Крыж атрымаў з рук імператрыцы Аляксандры Фёдараўны (гл. «Карафа-Корбуты І» 225/127).

з работы, падоіць карову і нясе вядро малака на прыёмны пункт, а нам, дзецям, мала што заставалася. Калі нехта не выпрацоўваў вызначанай колькасці працадзён, іх судзілі. Аднойчы мама захварэла і не змагла працаваць, дык яе і яшчэ некалькі жанчын, якія "правінаваціліся", адправілі ў суд. Мы, дзеці, не маглі дачакацца сваіх мам, стаялі на дарозе і плакалі. Вярнуліся яны толькі на другі дзень, позна ўвечары...



Мікалай Васільевіч Карафа-Корбут. 1920-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты I» 224/127).

Памятаю, як мы жылі ў бараку. Тры сям'і – у адным калідоры, кожная мела пакойчык. У калідоры была невялікая печ, дзе па чарзе гатавалі абеды, а ў пакоях стаялі печы-буржуйкі. Раніцай было вельмі холадна.

Паступова завялі сваю гаспадарку. У некаторых пачалі з'яўляцца і свае хаты.

Бацька мой доўгі час працаваў у кузні. Калі прыходзіў дадому, у яго часта ішла носам кроў, але на гэта ніхто не звяртаў увагі. З часам яму стала зусім дрэнна, яго перавялі працаваць у ветэрынарную лячэбніцу, аднак было позна. У хуткім часе пасля захворвання на грып ён памёр ад ацёку лёгкіх. Яму было 62 гады.

У 1949 г. многія сталі з'язджаць адсюль, выдалі і нам пашпарты. Калі б бацька быў жывы, мы, мабыць, паехалі б дадому ў Беларусь, а так вырашылі перабрацца да сястры Ніны, якая жыла ў той час на Каўказе.

Калі збіралі дакументы на рэабілітацыю бацькоў, я напісала запыт у той калгас, дзе яны працавалі. Аказалася, што калгас даўно распаўся. Відаць, таму што адтуль выехалі "кулакі"... З раённага пасёлка мне прыйшло пісьмо ад дырэктара краязнаўчага музея. Ён паведаміў, што ў музеі сабрана шмат дакументаў аб рабоце спецперасяленцаў. Там ёсць нават Кніга ганаровых людзей.

Сярод іх і мае бацькі, пазначаны і медалі, якімі яны ўзнагароджаны...»

Вось такая тыповая гісторыя былой кулацкай сям'і. Яна паўталалася ў тысячах варыянтаў. Некаму пашанцавала больш, некаму менш, але працалюбівы і моцны народ вытрываў многае. Спроба адарваць ад роднай зямлі, ад сваіх каранёў і пераплавіць «варожы клас» у народ без хрысціянскай веры і гістарычнай памяці, дзякуй богу, правалілася.

Некаторым маім родзічам з роду Карафа-Корбутаў удалося пазбегнуць рэпрэсій.

У маёй прабабулі Наталлі Васільеўны быў брат – Грыгорый. Дык вось яго сыны, зразумеўшы, што будуць праследавацца тыя, каго сталі называць кулакамі, вырашылі перабрацца з Малінава ў Ленінград. І гэта дапамагло ім пазбегнуць бяды, сваёй працаю дабіцца прызнання і пашаны. Адзін з іх – Павел Грыгор'евіч. Яго не раз выбіралі дэпутатам. І ў тыя гады ён быў вядомым чалавекам у горадзе на Няве. Не забываў Павел Грыгор'евіч і пра сваіх родзічаў: стараўся ўсіх аб'яднаць, абагрэць кожнага сваім цяплом і клопатам.



Павел Грыгор'евіч Корбут. Ленінград. 1939 г. (гл. «Карафа-Корбуты І» 230/140).

З успамінаў пляменніцы Паўла Грыгор'евіча Ірыны Іванаўны Корбут: «Дзядзя Паўлуша ўладкаваўся на завод імя Ільіча. Выбраў прафесію станочніка і ў хуткім часе выклікаў да сябе жонку з сынам. На прадпрыемстве дзядзю хвалілі. Пастаянна вылучалі. Быў ён працалюбівы, таварыскі, ніколі не сумаваў, да людзей ставіўся проста і сардэчна.

Мая мама Вера Іванаўна расказвала, што Павел Грыгор'евіч часта бываў у нас, з маім бацькам іх звязвала моцнае сяброўства. Не забываў ён нашу сям'ю і ў час вайны.



Тамара Мікалаеўна Корбут у час вучобы ў Ціміразеўскай акадэміі. Масква. 1965 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 224/127).



Стаіць Ганна Сцяпанаўна Сыцько (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 221/126). Злева – Ніна Фёдараўна Лазарэнка (Карафа-Корбут), справа – Алена Грыгор'еўна (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 235/140). 1920-я гг.

Блакада. Зіма. Голадна і холадна, а мама цяжарная мною. Павел Грыгор'евіч ведаў, што маме хутка нараджаць, і выбраўся ў далёкую дарогу, прыхапіўшы з сабой вязку дроў. Але, як усе, быў знясілены, і ноша тая аказалася вельмі цяжкай. Па дарозе, горка ўздыхаючы, ён пакідаў палена за паленам і прынёс толькі два...

Зразумела, справа не ў дрывах, а ва ўвазе, у клопаце пра блізкіх.

І яшчэ адну гісторыю распавядала мне мама. Калі яе выпісалі з раддома, хлебныя і прадуктовыя карткі не вярнулі. Разгневаны дзядзя пайшоў туды, прад'явіў свае дэпутацкія дакументы, сказаў, што ўрачы так не павінны сябе паводзіць. Усе карткі былі вернуты.

Я памятаю, што ў доме дзядзі Паўлушы заўсёды было весела, панурых людзей ён не любіў. За сталом заўсёды жартаваў, а ў канцы зацягваў нашу родную беларускую песню: "Бывайце здаровы, жывіце багата..."»



Ілья Грыгор'евіч Карафа-Корбут. 1928 г. (гл. «Карафа-Корбуты І» 233/140).




Медаль удзельніка ВДНГ Ілы Грыгор'евіча Карафа-Корбута «За поспехі ў народнай гаспадарцы СССР». 1956 г.

Брат Паўла Ілья Грыгор'евіч закончыў Ленінградскую лесатэхнічную акадэмію. Быў накіраваны ў Сярэднюю Азію, дзе стаў вядомым вучоным-лесаводам. Шмат эксперыментаваў, садзіў лясы ў пустыні, у прыватнасці многае зрабіў, каб абараніць горад Фрунзэ [Бішкек] ад наступу пяскоў і пылавых бур. Удзячныя гараджане ўстанавілі памятную дошку ў яго гонар. Ілья Грыгор'евіч узнагароджаны медалём удзельніка Выставы дасягненняў народнай гаспадаркі СССР 1956 г. Перад Вялікай Айчыннай вайной ён працаваў дырэктарам запаведніка Лес-на-Варсіле Курскай вобласці. У час нямецкай акупацыі, абараняючы ад высечкі каштоўныя пароды ў запаведным лесе, ледзь не загінуў ад рук паліцаяў. Як ні дзіўна, яго выратаваў нямецкі афіцэр па імені Ота, які, аказалася, таксама быў лесаводам у мірны час.

Ілья Грыгор'евіч склаў і захаваў унікальную схему роднасных сувязей дваранскіх родаў, якія жылі ў Малінаве і іншых ваколіцах Глуска ў канцы XIX ст., – Карафа-Корбутаў, Статкевічаў, Сыцько, Забэлаў, Некрашэвічаў. Яго дачка Галіна жыве ў г. Мінску і мае прозвішча Карафа-Корбут. Другая дачка Маргарыта жыве ў Смаленску, настаўніца.

Сын Грыгорыя Васільевіча Корбута, Антон Грыгор'евіч, быў афіцэрам царскай арміі. Пасля служыў у Чырвонай Арміі. Перад грамадзянскай вайной ужо меў званне, роўнае падпалкоўніку. У час Вялікай Айчыннай

вайны камандаваў часцю, удзельнічаў ва ўзяцці Берліна. Мае вышэйшыя баявыя ўзнагароды: ордэны Леніна, Баявога Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны І ступені, шмат медалёў. Нават была выпушчана паштоўка, на якой ён разам з байцамі. Так мала хто быў уганараваны ў той час.

Павінен адзначыць, што Антон Грыгор’евіч нядрэнна маляваў. У яго родзічаў і цяпер ёсць напісаныя ім карціны. Яго мінавалі рэпрэсіі. Але, на жаль, да генерала Антон Грыгор’евіч так і не даслужыўся, закончыўшы вайну ў званні палкоўніка, а ўсё таму, што паходзіў з дваранскага роду, быў царскім афіцэрам.

Яшчэ адзін прадстаўнік нашага роду Іван Фядотавіч Корбут таксама паехаў у Ленінград у тыя няпростыя трыццатыя гады. Там ён закончыў уні-



Паручнік Антон Грыгор’евіч Корбут. 1916 г. (гл. «Карафа-Корбуты І» 232/140).



Падпалкоўнік Антон Грыгор’евіч Корбут камандуе стральбой. Ваенныя вучэнні. Фотаздымак з газеты. 1940 г.



Палкоўнік Антон Грыгор’евіч Карафа-Корбут. Германія. 1946 г.

версітэт, стаў астраномам, прычым даволі вядомым. Працаваў у Пулкаўскай абсерваторыі, некаторыя яго назіранні былі прызнаны самымі дакладнымі, што пацвердзілі нават амерыканскія вучоныя.

З успамінаў дачкі Івана Фядотавіча Ірыны:

«У нашым доме часта бывалі сябры, родзічы, замежныя госці. Бацька любіў чытаць ім вершы беларускіх паэтаў на роднай мове. З юнацкіх гадоў ён сябраваў з паэтам Сяргеем Грахоўскім, з якім вучыўся ў сярэдняй школе ў Глуску. І калі Сяргей Іванавіч бываў у Ленінградзе, ён спыняўся ў нас. Яны з захапленнем чыталі вершы, і Грахоўскі кожны раз дзівіўся, наколькі таленавіта гэта атрымлівалася ў Івана Фядотавіча. Бацька выдатна гуляў у шахматы, метка страляў, заўсёды ўдзельнічаў у спаборніцтвах. Ён прайшоў дзве вайны: фінскую і Вялікую Айчынную, быў двойчы цяжка паранены. Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны І ступені, многімі медалямі.

Аднак мінулае не забывалася. Ён шанаваў свае карані і не баяўся гэтага. Нават калі першая бацькава вучаніца выходзіла замуж за астранома з сям’і рэпрэсіраваных і ніхто не пагадзіўся быць сведкам, Іван Фядотавіч яе падтрымаў...»

Мама Ірыны Іванаўны – Вера Іванаўна з роду Сацкевічаў-Статкевічаў – перажыла Ленінградскую блакаду, мела ўзнагароды, жыла разам з дачкою ў горадзе на Няве. Памерла, калі ёй было ўжо за дзевяноста.



ГВАРДИИ ПОЛКОВНИКУ

К О Р Б У Т Антону Григорьевичу.

*Приказом Верховного Главнокомандующего Маршала Советского Союза товарища Сталина от „2" мая 1945 г. № 359 за овладение гор. Б Е Р Л И Н всему личному составу нашего соединения, в том числе и Вам, принимавшему участие в боях, ОБ'ЯВЛЕНА БЛАГОДАРНОСТЬ.*

КОМАНДИР ЧАСТИ (подпись)

ГВ. ГЕНЕРАЛ-МАЙОР /АНТОНОВ/.

Мы в битвах решаем судьбу поколений,
Мы к славе отчизну свою поведем!

Падзяка гвардыі палкоўніку Антону Грыгор'евічу Корбуту за ўзяцце Берліна. 02.05.1945 г.



Іван Фядотавіч Корбут на руінах Пулкаўскай абсерваторыі. 1945 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 428/329).

Баявыя ўзнагароды Івана Фядотавіча Корбута:
ордэн Айчыннай вайны I ступені, ордэн Чырвонай Зоркі; Знак аб заканчэнні Ленінградскага ўніверсітэта (1937 г.).











Кніга «Рудабельская рэспубліка» Сяргея Грахоўскага, падараваная Веры і Івану Корбутам 26.08.1968 г.

А вось як склаўся лёс Аляксандры Іванаўны Карафа-Корбут (да замужжа Сацкевіч-Статкевіч), адной з васьмі сясцёр майго дзеда.

Так атрымалася, што раскулачванне, ад якога пацярпелі амаль усе мае родзічы, яе абышло. Яны з мужам хутка ўступілі ў калгас, бо думалі ў першую чаргу пра дзяцей, якіх у сям'і было шмат. Але на іх увесь час падазрона глядзела мясцовае кіраўніцтва, асабліва старшыня сельсавета. Ён ведаў, што сясцёр Аляксандры Іванаўны – Еўфрасінню і Антаніну (у замужжы Шантар) – саслалі ў Іркуцкую вобласць на залатыя прыіскі, там яны і памерлі. І старшыня пагражаў: «Цябе таксама чакае такі лёс!»

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Аляксандры Іванаўне было ўжо 72 гады. Два сыны і дачка пайшлі на фронт, трое сыноў – у партызаны. А той старшыня сельсавета, які ўвесь час пужаў іх Сібір'ю, падаўся ў паліцаі. Такія людзі хутка прыстасоўваюцца да



Сцяпан Іванавіч і Аляксандра Іванаўна (да замужжа Сацкевіч-Статкевіч) Карафа-Корбуты. Вёска Сялец Глускага раёна. 1940 г.

любой улады і старанна ёй служаць. Менавіта ён і навёў на Аляксандру Іванаўну фашыстаў, расказаўшы ім пра яе сыноў.

Тады пачыналася блакада. Гітлераўцам, якія вялі ўпартае наступленне на партызанскія брыгады, неабходны былі звесткі пра яўкі лясных мсціўцаў, імёны тых, хто ім дапамагае, корміць і дае прытулак.

Аляксандру Іванаўну арыштавалі, доўга катавалі, але яна маўчала. Як магла маці здрадзіць сынам? Змучаную, яе прывязалі вяроўкай да каня і пацягнулі праз вёску Сялец у Глуск. Вяскоўцы з жахам назіралі праз вокны за пакутамі гэтай мужнай жанчыны. У злавеснай цішыні людзі быццам скамянелі. У Глуску з яе яшчэ некалькі дзён здзекаваліся, а пасля жывой закапалі ў зямлю.

Аляксандра Іванаўна, як салдат, пахавана ў брацкай магіле ў райцэнтры. І ў будні, і ў святы там заўсёды



Браты
Карафа-Корбуты –
сыны Аляксандры
Іванаўны Карафа-
Корбут (Сацкевіч-
Статкевіч): Іван
(стаіць), Аляксандр,
Аляксей, Барыс.
1930-я гг.
(гл. «Карафа-
Корбуты І» 310/188,
311/188, 312/188,
315/188).



Марыя Сцяпанаўна Карафа-Корбут, дачка Аляксандры Іванаўны. 1933 г. Удзельніца Вялікай Айчыннай вайны, разведчыца. Узнагароджана ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны і іншымі ордэнамі і медалямі СССР, Украіны (гл. «Карафа-Корбуты I» 313/188).

кветкі. Усе яе сыны і дачка атрымалі ўзнагароды за баявыя заслугі. Адзін з сыноў, Аляксандр, загінуў, астатнія вярнуліся з вайны, займалі ў мірны час адказныя пасады. Дачка, Марыя Сцяпанаўна, былая настаўніца, а ў час вайны разведчыца, жыла ў Адэсе...

А вось як склаліся лёсы братоў – Мікалая Ягоравіча і Ільі Ягоравіча Карафа-Корбутаў.

Рэвалюцыя, раскулачванне, ссылкі і расстрэлы... Як на гэта рэагавалі прадстаўнікі майго роду? Напрыклад, Мікалай Ягоравіч адплаціў за чырвоны тэрор незвычайным спосабам. Пасля раскулачвання ён быў высланы з роднага Засмужжа ў Сібір. Жыў там недалёка ад чыгуначнай станцыі, добра ведаў расклад руху і час фарміравання цягнікоў. І вось аднойчы ў яго саспеў дзёрзкі план – пакараць уладу за тое, што яна ў яго адабрала. На станцыі падоўгу



БОЕВАЯ ХАРАКТЕРИСТИКА

На партизана отряда им.Буденного,бригады № 100,Полесского соединения тов.КОРБУТА БОРИСА СТЕПАНОВИЧА.

Тов.Корбут Б.С.в партизанский отряд вступил вместе с двумя старшими братьями 23 февраля 1942 года,до вступления в партизанский отряд тов.Корбут выполнял ряд боевых заданий нашего партизанского отряда. Тов.Корбут Б.С.в партизанском отряде исполнял должности: бойца-разведчика и подрывника,он активно участвовал в разгроме немецко-полицейских гарнизонов в деревнях:Доколь,Кадка,Альбинск,Холопиничи,Болашевичи,Касаричи,жел.дор.разъезд Постали,в ряде засад и охотгруппах,будучи подрывником на поставленной им мины и поставленных двух минах в составе группы было взорвано три вражеских воинских жел.дор.эшелона с живой силой и техникой,под обломками паровозов,вагонов и платформ было убито 207 и ранено 118 немецких солдат и офицеров.

За проявленную смелость и отвагу в проводимых боевых операциях тов.Корбут Б.С.был выдвинут на должность заместителя комиссара бригады по комсомольской работе.За боевые подвиги и проявленную смелость в боях тов. Корбут Б.С.награжден: орденом "Красной звезды" и тремя медалями.

Командир партизанского отряда им.Буденного,бригады № 100 Полесского соединения

/ Б.Цикунков /

Баявая характарыстыка партызана атрада імя Будзённага брыгады № 100 Палескага злучэння Барыса Сцяпанавіча Корбута (гл. «Карафа-Корбуты І» 315/188).



Мікалай Ягоравіч Карафа-Корбут. 1930-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты І» 416/280).



Ілья Ягоравіч Карафа-Корбут. 1950-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты І» 418/280).

стаяў вагон, які перавозіў грошы. Мікалай змог незаўважна трапіць у яго. Узяў два мяшкі з купюрамі і без усякіх перашкод прынёс дадому. Экспрапрыяцыя адбылася! Цяпер важна было не «засвяціцца»! Мікалай добра прадумаў далейшыя дзеянні: разам з сям'ёй пачаў мяняць месцы жыхарства. Аб'ездзіў увесь былы Савецкі Саюз. Дзе толькі ні працаваў, нават на шахце. На адным месцы больш за два гады не затрымліваўся. Паспеў паваяваць на трох войнах – фінскай, Айчыннай і японскай. І ні разу не апынуўся пад падазрэннем. Прайшло шмат гадоў, і аднойчы ў размове Мікалай Ягоравіч паведаміў бліжэйшым родзічам, што да гэтага часу не пакаяўся, а, наадварот, ганарыцца здзейсненым. Ён зноў падкрэсліваў: экспрапрыяцыя адбылася!

А Ілья Ягоравіч так і застаўся пасля ссылкі жыць у Комі-Пярмяцкай акрузе. Закончыў універсітэт, працаваў настаўнікам, дырэктарам школы. У час Вялікай Айчыннай вайны ў складзе лыжнага батальёна абараняў Маскву, быў цяжка паранены.



Музей спецперасяленцаў
і ахвяр палітычных рэпрэсій.
Сяло Юксеева Качоўскага
раёна Пермскай вобласці.
Дом, дзе жыў Ілья Ягоравіч
Карафа-Корбут.




Разам з аднадумцамі стварыў пры мясцовай школе музей ссыльных, які цяпер знаходзіцца ў яго доме ў вёсцы Юксеева Качоўскага раёна. Галоўны экспанат музея – карта спецпасяленняў Пермскага краю...

Гісторыя роду Карафа-Корбутаў толькі пацвярджае словы Паўла Фларэнскага: «Род ёсць адзіны арганізм і мае цэласны вобраз...»




Карта спецпасяленняў Комі-Пярмяцкай акругі.

# РАДАВОДНЫЯ РОСПІСЫ. КАРАФА-КОРБУТЫ І

*Род Карафа-Корбутаў герба «Корчак» прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.01.1816 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 20.06.1877 г.*

*Легенду аб паходжанні роду гл. на с. 482.*

### I КАЛЕНА

1 **Павел Карафа,** з роду князёў венецыянскіх. Перасяліўся ў Польшчу ў час праўлення караля Уладзіслава Ягайлы, быў пры каралеўскім двары, затым служыў у войску, меў чын палкоўніка, вызначыўся ў вайне з крыжакамі[1].

Жонка – N **Данат.**

### II КАЛЕНА

2/1 **Мацей Карафа-Корбут.** Застаўся ў Польшчы, знаходзіўся пры двары каралёў Уладзіслава Ягайлы і Уладзіслава III, быў у каралеўскіх палках ротмістрам, добра зарэкамендаваў сябе ў першай вайне з туркамі, пасля чаго кароль прызначыў яму прыдомак Корбут ад слова «кор» са славянскай мовы. Мацей гэты прыдомак узяў як асабісты і пачаў пісацца Карафа-Корбут. У 1440 г. атрымаў ад Уладзіслава III маёнтак у Хелмінскай зямлі Валынскага ваяводства і назваў маёнтак Корбутава Воля. Быў падпалкоўнікам войска польскага. Забіты ў другой вайне з туркамі пад Варнай у 1444 г.

Жонка – N, дачка **Базыля Жаравінскага,** палкоўніка.

### III КАЛЕНА

3/2 **Якуб.** Жонка – **Пянёжкаўна.**

4/2 **Раіна.** Памерла незамужняй.

5/2 **Гелена.** Муж – N Гарайскі, суддзя земскі хелмінскі.

### IV КАЛЕНА

6/3 **Пётр.** Жонка – N **Грудзінская (Градзінская).**

7/3 **Станіслаў.** Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

8/3 **Ганна.** Муж – N Хадароўскі.

### V КАЛЕНА

9/6 **Пётр.** Залажыў спадчынны маёнтак Корбутава Воля Ржавускім, а сам перасяліўся ў ВКЛ, дзе ўзяў у заклад маёнтак Вішаў Слонімскага павета ў Паклонскіх. За ваенную конную службу атрымаў па прывілеі караля Жыгімонта I Старога, пісаным у г. Кракаве 03.09.1532 г., Брыкаўскую зямлю ў Слонімскім павеце: «...бил нам челом боярин наш повету Слонимского, и мы нашу ласку господарскую учинили и дали ему землю с дворищем и крестьянином Радюком... дали есмо Корбуту самому, жене, детям и потомкам его...»

Ад князя Юрыя Алелькавіча 03.01.1538 г. атрымаў грамату, пісаную ў Слуцку, на зямлю Дубеі ў Грозаўскай воласці над ракой Уса: «...иж бил нам чолом служебник наш Пётр Корбут, за

верные и зычливые его послуги дали ему землю нашу Гразовскую над рекою Усою со всеми урочищами, до тое земли здавна належными, которую тую землю дались мы ему, Корбуту, самому, жоне, детям и щатком яко вечно и непорушно, а он нам з тое земли повинен будет службу земскую военную служит…»

*НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1493, арк. 153.*

Пётр згадваўся ў многіх галінах роду Карафа-Корбутаў, якія даказвалі сваё дваранскае паходжанне ў канцы XVIII–XIX ст. (гл. «Карафа-Корбуты II» 9/6; «Карафа-Корбуты III» 1; «Карафа-Корбуты IV» 1; «Карафа-Корбуты V»).

Жонка – N **Тржцінская.**

10/6 **Марыяна.** Памерла незамужняй.

11/6 **Агата.** Муж – N Хржшчановіч.

12/6 **Канстанцыя.** Муж – N Сухадольскі.

## VI КАЛЕНА

13/9 **Юрый.** Дзве граматы, дадзеныя яго бацьку, як нашчадак унёс 17.02.1604 г. у акты Навагрудскага земскага суда[2].

## VII КАЛЕНА

14/13 **Іван.** Адмежаваў землі ў [маёнтку] Дубеі, аб чым сведчыў межавы ліст ад 28.09.1642 г. Дзве граматы, дадзеныя яго дзеду, як нашчадак унёс 09.03.1659 г. у акты Навагрудскага гродскага суда. Судзіўся 30.08.1668 г. з навагрудскай падстолінай Чаркоўскай «о вышедших крестьянах»[3].

## VIII КАЛЕНА

15/14 **Васіль.** Купіў 12.05.1665 г. у Сузанны, народжанай Свід, і яе сына Мікалая Дабкоўскага 1/12 частку зямлі Слуцкага княства ў засценку Іздрашава, аб чым сведчыла купчая крэпасць, актыкаваная 25.05.1665 г. у Слуцкім гродскім судзе[4].

## IX КАЛЕНА

16/15 **Павел.** Разам з братамі Сямёнам і Крыштафам судзіўся 03.08.1678 г. у Слуцкім гродскім судзе з Лабейкамі аб нанясенні ім як дваранам знявагі.

17/15 **Сямён.** Разам з братамі Паўлам і **Крыштафам** судзіўся 03.08.1678 г. у Слуцкім гродскім судзе з Лабейкамі аб нанясенні ім як дваранам знявагі.

18/15 **Крыштаф (Хрыстафор),** шляхціч герба «Корчак». Разам з братамі Сямёнам і Паўлам судзіўся 03.08.1678 г. у Слуцкім гродскім судзе з Лабейкамі аб нанясенні ім як дваранам знявагі, 05.06.1688 г. судзіўся ў Навагрудскім гродскім судзе з Фёдарам і Дагмантам Ерамеевічамі Лабейкамі за права валодання маёнткам Мінкавічы.

*НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1324, т. 1, арк. 360.*

Валодаў маёнткам Мінкавічы Ашмянскага павета, які 10.03.1698 г. падарыў сыну Канстанціну (гл. «Карафа-Корбуты III» 8/4).

Жонка – **Таццяна Дашкевічаўна Крыштафава Корбутава.** Пасля смерці мужа Крыштафа Корбута валодала зямлёй у вёсцы Балотчыцы. У гэты час яе сыны былі непаўналетнія. Аддаючы замуж дачку Настассю Корбутаўну за Пятра Бранавіцкага, абяцала даць рухомую маёмасць, скаціну і 200 злотых польскіх, але неабходнай сумы ў яе не аказалася. Мела на 500 злотых скаціну, паўвалокі зямлі па памерлым мужы пану Крыштафу Корбуту ў вёсцы Балотчыцы, якая мяжуе з зямлёй пана Тамаша Корзуна, а з другога боку з зямлёй пана Яка Навіцкага, з азімымі, з дворнай сядзібай і гуменнай, г. зн. з хлявом і гумном, якія знаходзіліся на той паўвалоцы, і за тыя 200 злотых аддала 25.05.1692 г. у заклад Пятру Бранавіцкаму і яго жонцы Настассі Корбутаўне паўвалокі ў вёсцы Балотчыцы.

*НГАБ, ф. 694, воп. 4, спр. 1607, арк. 129–130 адв.*




Справа Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу аб дваранскім паходжанні роду Карафа-Корбутаў. *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573.*



Переводъ съ польскаго. №1. 7

ЦѢНА 60 КОП. СЕРЕБРОМЪ

Выпись изъ книгъ Земскихъ Новогрудскаго уѣзда 1797 года Ноября 5 дня. Въ судѣ Земскомъ Новогрудскаго уѣзда, предъ Нами Предсѣдателемъ Елевтеріемъ [illegible], судьями [illegible] [illegible], [illegible] Довнаровичемъ, Францемъ Дунинымъ Раевскимъ и Писаремъ Игнатіемъ [illegible], явясь лично Г. Землемѣръ Новогрудскаго уѣзда Матвей Война подалъ для внесенія въ акта выпись двухъ грамотъ, одну отъ Короля Польскаго Сигизмунда, другую отъ Князя Олельковича пожалованныя Петру Корбуту на земли слѣдующаго содержанія: Переводъ съ древне Русскаго: Выпись изъ книгъ Гродскихъ Замка Господарскаго Воеводства Новогрудскаго 1659 мѣсяца Марта 9 дня. – Въ судѣ Гродскомъ Господарскомъ Новогрудскомъ, предъ [illegible] Подвоеводимъ Новогрудскимъ Яномъ съ [illegible], явясь лично благородный Иванъ Корбутъ подалъ для внесенія въ акта выпись изъ книгъ Земскихъ Земли Новогрудской [illegible] грамоты [illegible] слѣдующаго содержанія: Выпись изъ книгъ Земскихъ Земли Новогрудской 1604 года Февраля 17 дня. Предъ Нами [illegible] Маршалкомъ суда Его Королевскаго Величества [illegible] Гродскимъ Подсудкомъ Федоромъ [illegible] и писаремъ Иваномъ [illegible] явясь лично благородный Юрій Корбутъ подалъ для внесенія въ книги двѣ грамоты, одна Короля Сигизмунда, другая Князя Олельковича слѣдую[щаго]



нарисованного земли следующаго содержанія: Божіею
Милостію Сигизмунд Король Польскій Великій Князь
Литовскій, Русскій, Прусскій, Самогитскій и проч. объявляемъ
Настоящею нашею грамотою, что былъ у насъ Нашъ
Верный Слонимскаго повета Петръ Корбутъ и просилъ
чтобы мы оказали ему милость Нашу, пожаловавъ
ему землю Грушевскую съ дворомъ [illegible]
Рапинымъ называемымъ, на сей земли поселившихся
По сему мы снисходя со [illegible] уступаемъ [illegible]
пустую землю ему Корбуту въ вечное потомственное
по жене и детямъ его владеніе, возлагая притомъ
обязанность исполнять военную повинность так
какъ несутъ ее прочіе Г.Г. Бояре и Дворяне. Въ
утвержденіе чего издали сію Нашу Грамоту съ при
ложеніемъ Нашей печати. Писано въ г. Краковъ
1532 Сентября 3 дня. — У сей Грамоты при печати
Его Королевскаго Величества подпись следую-
щая Михаилъ Писарь. Вторая же Грамота
следующаго содержанія: Мы Князь Юрій Олелько
вичъ Слуцкій объявляемъ настоящею Нашею
Грамотою, что мы въ воздаяніе верной и усерд-
ной службы находящагося при дворе Нашемъ бо-
ярина Петра Корбута уступаемъ ему землю
Грушевскую [illegible] со всеми угодьями
къ сей земли принадлежащими на вечныя вре-
мена ему Петру Корбуту, жене и детямъ
его въ потомство съ обязанностію отбы-
вать военную повинность, для чего мы по-
велели дать ему сію Грамоту съ приложе-



ніемъ Нашей Печати. Писана въ Г. Стрыжн…
1538. Генваря 13 дня. / М. П. / Каковая Гра
мота вписана въ Новогрудскія Земскія Кни
ги, изъ коихъ и сія выпись достается благородно
му Юрію Корбуту. У сей выписи апликуюца
подпись: Земскій Писарь Иванъ Головня, сверфик
фиксъ Головня. За вписаніемъ сей выписи въ
Книги Новогрудскія, другая же старая выпись вы
дана за надлежащимъ подписаніемъ благородно
му Александру Корбуту. У сей же послѣдней вы
писи апликуцая надпись 1776 года Февраля 8
дня, явилъ оную Г. Николай Янковскій подана
сія выпись для внесенія въ Акта-Марша…
Главнаго Трибунала Велик. Княжест. Лит
скаго Юрій Билевичъ. Исправляющій дол
жность Судебнаго Писаря Регентъ Упит
скій, Депутатъ Іосифъ Кимбаръ. / М. П. /
…ралъ съ Актами Гродскій Земской Велик.
Княжества Литовскаго Регентъ Христо
форъ Козелъ. Каковая наконецъ выпись тог
принята и внесена въ Книги Новогрудскія
…нимъ и настоящая выпись выдается съ при
ложеніемъ печати и надлежащимъ подписа
ніемъ. / Председатель Елевтерій Се…


гродский Земский Судья Ксаверий Обухович —
Судья Бенедикт Довнович. Гродский Судья
Франц Дунин. Гродский Земский Писарь
Игнатий Туганьский /: М. П. :/ Верно
Регент Иван [illegible]
Верно: Минского Дворянского Собрания Штатный переводчик
[illegible]

Выпіс з актавай кнігі Навагрудскага земскага суда ад 05.11.1797 г. актыкаваных 08.02.1776 г. двух выпісаў з актавых кніг Навагрудскага земскага суда ад 17.02.1604 г. і Навагрудскага гродскага суда ад 09.03.1659 г. дзвюх грамат: 1) граматы польскага караля Жыгімонта I Старога баярыну Слонімскага павета Пятру Корбуту на зямлю Брыкаўскую (пісана ў г. Кракаве 03.09.1532 г.); 2) граматы князя Юрыя Алелькавіча Слуцкага высакароднаму Пятру Корбуту на зямлю Грозаўскую над ракою Уса з усімі ўрочышчамі (пісана 13.01.1538 г.). Дакумент на 4 старонках. Гл. «Карафа-Корбуты I» 9/6. *РДГА, ф. 1343, воп. 23, спр. 1374, арк. 7–8 адв.*

### X КАЛЕНА

19/17 **Грыгорый.** Падаў 08.04.1726 г. у Навагрудскі земскі суд грамату князя Юрыя Юр'евіча Алелькавіча на зямлю ў [маёнтку] Дубеі з двума сялянамі.

20/18 **Канстанцін,** таварыш харугвы. Валодаў маёнткам Мінкавічы Ашмянскага павета, аб чым сведчыць квіт ад 06.11.1708 г. зборшчыка падаткаў Навагрудскага ваяводства Канстанціну Карафа-Корбуту аб выплаце ўстаноўленай павіннасці на войска Рэчы Паспалітай з маёнтка Мінкавічы.

Жонка – **Елеанора Пілатовіч.** 07.08.1733 г. падарыла сынам Станіславу-Якаву і **Дыянізію,** а таксама ўнукам **Васілю** і Пятру-Мацвею Грыгор'евічам маёнтак з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета, што пацвярджалася выпісам ад 18.08.1733 г. з кніг Ашмянскага гродскага суда[5].

20а/18 **Настасся.**

Муж – Пётр Бранавіцкі.

### XI КАЛЕНА

21/19 **Іван.** Жыў у засценку Іздрашава, быў прыхаджанінам Іздрашаўскай Пакроўскай царквы.

22/19 **Георгій.** Жыў у засценку Іздрашава, быў прыхаджанінам Іздрашаўскай Пакроўскай царквы.

23/20 **Грыгорый.** Памёр да 1733 г., г. зн. да часу складання дарчага дакумента яго маці Елеанорай Пілатовіч.

24/20 **Станіслаў-Якаў.** Разам з братам **Дыянізіем** па даверанасці ад пляменнікаў **Васіля** і Пятра-Мацвея валодаў спадчынным пасля маці спадчынным маёнткам з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета, аб чым сведчылі выпісы ўводных актаў ад 15.12.1733 г. і 20.12.1733 г. з кніг Ашмянскага гродскага суда. Разам з братам Дыянізіем і пляменнікамі валодаў спадчынным маёнткам з сялянамі Мінкавічы Ашмянскага павета, што пацвярджалася 16.06.1738 г. выпісам уводнага акта, прадстаўленым 21.06.1738 г. у актах земскіх Ашмянскага павета.

25/20 **Дыянізій.** Разам з братам Станіславам-Якавам па даверанасці ад пляменнікаў Васіля і Пятра-Мацвея валодаў пасля маці спадчынным маёнткам з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета, аб чым сведчылі выпісы ўводных актаў ад 15.12.1733 г. і 20.12.1733 г. з кніг Ашмянскага гродскага суда. Разам з братам Станіславам-Якавам і пляменнікамі валодаў спадчынным маёнткам з сялянамі Мінкавічы ў Ашмянскім павеце, што пацвярджалася 16.06.1738 г. выпісам уводнага акта, прадстаўленым 21.06.1738 г. у актах земскіх Ашмянскага павета.

### XII КАЛЕНА

26/21 **Лаўрэнцій.** Жыў у засценку Іздрашава, быў прыхаджанінам Іздрашаўскай Пакроўскай царквы. Паходжанне яго ад бацькі Івана Грыгор'евіча засведчыў 08.01.1803 г. святар Іздрашаўскай Пакроўскай царквы ў сувязі з «истреблением книг»[6].

27/23 **Васіль.** Разам з братам Пятром-Мацвеем даў даверанасць дзядзькам Станіславу-Якаву і Дыянізію на валоданне пасля бабулі спадчынным маёнткам з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета, аб чым сведчыў выпіс уводнага акта ад 15.12.1733 г., прадстаўлены 20.12.1733 г. у кнігах Ашмянскага гродскага суда. Разам з братам Пятром-Мацвеем і дзядзькамі Станіславам-Якавам і Дыянізіем уведзены ў валоданне спадчынным маёнткам з сялянамі Мінкавічы ў Ашмянскім павеце, што пацвярджалася выпісам уводнага акта ад 16.06.1738 г., прадстаўленым 21.06.1738 г. у актах земскіх Ашмянскага павета. Васіль разам з братам Пятром-Мацвеем і дваюраднымі братамі прадаў 29.12.1780 г. ротмістру Сушыцкаму маёнтак з сялянамі Мінкавічы Ашмянскага па-

вета, паручыўшыся за сваіх сыноў Андрэя і Сімяона, аб чым сведчыць актыкацыя 30.12.1780 г. у кнізе Мінскага гродскага суда[7].

Жыў у сяле Чыжэвічы. Памёр і пахаваны 28.03.1789 г. святаром Іздрашаўскай Пакроўскай царквы Мікалаем Кранікоўскім[8].

Жонкі: 1. Кацярына; 2. **Алена,** ад яе сын **Іван,** дачка Пелагія.

28/23 **Пётр-Мацвей.** Разам з братам **Васілём** даў давeранасць дзядзькам Станіславу-Якаву і Дыянізію на валоданне пасля бабулі спадчынным маёнткам з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета, аб чым сведчыў выпіс уводнага акта ад 15.12.1733 г., прадстаўлены 20.12.1733 г. у кнігах Ашмянскага гродскага суда. Разам з братам Васілём і дзядзькамі Станіславам-Якавам і **Дыянізіем** валодаў спадчынным маёнткам з сялянамі Мінкавічы ў Ашмянскім павеце, што пацвярджалася выпісам уводнага акта ад 16.06.1738 г., прадстаўленым 21.06.1738 г. у актах земскіх Ашмянскага павета. Пётр-Мацвей разам з братам **Васілём** і дваюраднымі братамі прадаў 29.12.1780 г. ротмістру Сушыцкаму маёнтак з сялянамі Мінкавічы Ашмянскага павета, паручыўшыся за сына Фёдара, аб чым сведчыць актыкацыя 30.12.1780 г. у кнізе Мінскага гродскага суда. Па рэвізскай сказцы 1795 г. шляхты Слуцкага павета, жыў у ваколіцы Чыжэвічы на ўласнай зямлі.

Жонкі: 1. Алена, ад яе сын Фёдар; 2. Ганна, ад яе сын Андрэй.

29/24 **Даніiл.** Разам з братам Казімірам і дваюраднымі братамі прадаў маёнтак з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета Пятру Язвінскаму, аб чым сведчыў выпіс прадажнай крэпасці ад 20.03.1773 г., у той жа дзень упісаны ў актавыя кнігі Ашмянскага земскага суда, а 09.11.1781 г. – у актавыя кнігі Навагрудскага земскага суда. Даніiл разам з братам Казімірам і дваюраднымі братамі прадаў 29.12.1780 г. ротмістру Сушыцкаму маёнтак з сялянамі Мінкавічы Ашмянскага павета, паручыўшыся за сваіх сыноў Аляксандра і Грыгорыя, аб чым сведчыць актыкацыя 30.12.1780 г. у кнізе Мінскага гродскага суда.

30/24 **Казімір (Кузьма).** Разам з братам Даніiлам і дваюраднымі братамі прадаў маёнтак з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета Пятру Язвінскаму, аб чым сведчыў выпіс прадажнай крэпасці ад 20.03.1773 г., у той жа дзень упісаны ў актавыя кнігі Ашмянскага земскага суда, а 09.11.1781 г. – у актавыя кнігі Навагрудскага земскага суда. Казімір разам з братам Даніiлам і дваюраднымі братамі прадаў 29.12.1780 г. ротмістру Сушыцкаму маёнтак з сялянамі Мінкавічы Ашмянскага павета, паручыўшыся за сына Івана, аб чым сведчыць актыкацыя 30.12.1780 г. у кнізе Мінскага гродскага суда. У 1786 г. жыў у сяле Чыжэвічы Слуцкага павета.

Жонка – Ганна Міхайлаўна. Разам з сынам Іванам Корбутам была хроснай 13.03.1786 г. у **Івана**[9], сына **Васіля** і **Алены Корбутаў.**

31/25 **Марцін.** Разам з братамі Якавам і Самуілам, а таксама дваюраднымі братамі прадаў маёнтак з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета Пятру Язвінскаму, аб чым сведчыў выпіс прадажнай крэпасці ад 20.03.1773 г., у той жа дзень упісаны ў актавыя кнігі Ашмянскага земскага суда, а 09.11.1781 г. – у актавыя кнігі Навагрудскага земскага суда.

32/25 **Якаў.** Разам з братамі Марцінам і Самуілам, а таксама дваюраднымі братамі прадаў маёнтак з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета Пятру Язвінскаму, аб чым сведчыў выпіс прадажнай крэпасці ад 20.03.1773 г., у той жа дзень упісаны ў актавыя кнігі Ашмянскага земскага суда, а 09.11.1781 г. – у актавыя кнігі Навагрудскага земскага суда. Якаў разам з дваюраднымі бра-



Радаводнае дрэва Карафа-Корбутаў ад Хрыстафора (гл. «Карафа-Корбуты I» 18/15). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573, арк. 368.*



Roku Tysiąc Siedemsetnego Trzydziestego trzeciego Miesiąca Augusta Osiemnastego Dnia.

Выпіс з актавай кнігі Ашмянскага гродскага суда ад 18.08.1733 г. дарчага запісу Елеаноры з Пілатовічаў Корбутавай сынам Станіславу-Якаву і Дыянізію, а таксама ўнукам Васілю і Пятру-Мацвею Грыгор’евым на маёнтак Пуцілава Ашмянскага павета ад 07.08.1733 г. (на 3 старонках). Дыянізій Канстанцінавіч Карафа-Корбут – прапрадзед Аляксандра Платонавіча Карафа-Корбута, прадзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава. Васіль Грыгор’евіч Карафа-Корбут – прадзед прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 20/18, 25/20, 27/23). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573, арк. 2–3.*



Выпіс з актавай кнігі Мінскага гродскага суда ад 30.12.1780 г. прадажнай крэпасці братоў Васіля, Пятра-Мацея Грыгор'евічаў, Данііла і Казіміра Станіслававічаў і Якуба Дыянізіевіча Карафа-Корбутаў ротмістру Мінскага ваяводства Карлу Сушыцкаму на продаж маёнтка з сялянамі Мінкавічы Ашмянскага павета за 30 000 злотых польскіх ад 29.12.1780 г. Васіль Грыгор'евіч – прадзед прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут). Якаў Дыянізіевіч – прапрадзед бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 27/23, 32/25). *НГАБ, ф. 1727, воп. 1, спр. 19, арк. 431–431 адв.*



Метрычная кніга Іздрашаўскай Пакроўскай царквы Слуцкага павета 1789 г. Запіс аб смерці 28.03.1789 г. жыхара сяла Чыжэвічы Васіля Корбута, 43 гадоў. Васіль Грыгор’евіч Карафа-Корбут – прадзед прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты І» 27/23). *НГАБ, ф. 136, воп. 13, спр. 554, арк. 280.*



Метрычная кніга Іздрашаўскай Пакроўскай царквы Слуцкага павета за 1786 г. Запіс аб нараджэнні 13.03.1786 г. Івана. Бацькі – жыхары сяла Чыжэвічы Васіль Грыгор’евіч і Алена Карафа-Корбуты. Іван Васільевіч – дзед прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты І» 40/27). *НГАБ, ф. 136, воп. 13, спр. 553, арк. 124.*



Метрычная кніга Парыцкай Свята-Духавай царквы Бабруйскага павета. Запіс аб смерці ад родаў 16.11.1829 г. жонкі дваранiна Івана Васільевіча Корбута Еўдакіі Іванаўны (Пятроўны), 41 года. Еўдакія Іванаўна Карафа-Корбут (Тарасевіч) – бабуля Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут), прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Карафа-Корбуты І» 40/27). *НГАБ, ф. 136, воп. 13, спр. 33, арк. 412.*




Метрычная кніга Парыцкай Свята-Духавай царквы Бабруйскага павета. Запіс аб смерці 19.02.1854 г. шляхціча засценка Дражня Івана Васільевіча Корбута, 70 гадоў. Іван Васільевіч – дзед прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты І» 40/27). *НГАБ, ф. 136, воп. 18, спр. 5, арк. 20 адв.*

тамі прадаў 29.12.1780 г. ротмістру Сушыцкаму маёнтак з сялянамі Мінкавічы Ашмянскага павета, паручыўшыся за сына Васіля, аб чым сведчыць актыкацыя 30.12.1780 г. у кнізе Мінскага гродскага суда.

33/25 **Самуіл.** Разам з братамі Марцінам і **Якавам,** а таксама дваюраднымі братамі прадаў маёнтак з сялянамі Пуцілава Ашмянскага павета Пятру Язвінскаму, аб чым сведчыў выпіс прадажнай крэпасці ад 20.03.1773 г., у той жа дзень упісаны ў актавыя кнігі Ашмянскага земскага суда, а 09.11.1781 г. – у актавыя кнігі Навагрудскага земскага суда.

## XIII КАЛЕНА

34/26 **Васіль.** Паходжанне яго разам з братамі Яўстафіем і Сямёнам ад бацькі Лаўрэнція Іванавіча засведчыў 08.01.1803 г. святар Іздрашаўскай Пакроўскай царквы ў сувязі з «истреблением книг»[10].

35/26 **Яўстафій.** Купіў 19.07.1771 г. у Сцяпана і яго жонкі N Корбутаў 1/12 частку зямлі Слуцкага княства ў засценку Іздрашава, купчую крэпасць засведчыў у 1772 г. і 19.07.1774 г. рэвізор Слуцкага княства[11].

Жонка – Еўфрасіння.

36/26 **Сямён.** Паходжанне яго разам з братамі Яўстафіем і Васілём ад бацькі Лаўрэнція Іванавіча засведчыў 08.01.1803 г. святар Іздрашаўскай Пакроўскай царквы ў сувязі з «истреблением книг»[12].

37/27 **Андрэй,** *1780 г. н. Жыў у сяле Чыжэвічы, у 1795 г. – у засценку Шабунькі Слуцкага павета, у 1808 г. – у сяле Чыжэвічы. Разам з Анастасіяй Іванаўнай Некрашэвіч быў хросным 20.08.1797 г. у Васіля[13], 30.03.1808 г. – у Матроны[14], дзяцей Нікіфара і Агафіі Некрашэвічаў. Разам з Мікітам Вялічкам быў сведкам пры шлюбе 19.07.1808 г. Грыгорыя Корбута і Еўдакіі Бунцэвіч[15], з Кузьмой Івашкевічам 28.10.1829 г. – у Паўла Стэфанавіча Барысевіча і Ксеніі Марцінаўны Некрашэвіч[16].

Па рэвізскай сказцы шляхты 14.12.1811 г., жыў па закладным праве ў вёсцы Віктарын Бабруйскага павета памешчыка Міхаіла Прушаноўскага разам з сынам Іосіфам і братам **Іванам**[17] на 8 валоках зямлі па кантракце ад 12.04.1811 г. тэрмінам на 12 гадоў. У 1822–1829 гг. жыў у сяле Чыжэвічы.

Жонка – Алена Мацвееўна Бжазоўская.

38/27 **Грыгорый,** *1776 г. н. Жыў у сяле Чыжэвічы, быў прыхаджанінам Іздрашаўскай Пакроўскай царквы. Памёр 19.03.1789 г. ва ўзросце 13 гадоў, пахаваны святаром Іздрашаўскай Пакроўскай царквы Мікалаем Кранікоўскім[18].

39/27 **Сямён,** *1785 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., разам з сям'ёй брата Андрэя Васільевіча жыў у засценку Чыжэвічы.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 791, арк. 31 адв.*

Быў прыхаджанінам Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы. Разам з жонкай Пятра Тарынскага Агафіяй Самуілаўнай быў хросным 14.03.1811 г. у Аляксандра[19], сына Паўла Іванавіча і Марыі Іванаўны Тарынскіх, з жонкай Пятра Сеўрука Марыяй Фёдараўнай 24.08.1805 г. – у Пятра[20], 06.08.1814 г. – у Марыі[21], 29.08.1817 г. – у Івана[22], з жонкай Уладзіміра Тычыны Еўдакіяй Грыгор'еўнай 27.07.1822 г. – у Прохара[23], 23.06.1825 г. – у Аграфены[24], з жонкай Сямёна Рэута Еўдакіяй Грыгор'еўнай 15.02.1820 г. – у Анісіма[25], дзяцей жыхароў засценка Залессе Міхаіла Грыгор'евіча і Еўфрасінні Іванаўны Рэутаў, з Марыяй Іванаўнай Старынскай 23.11.1837 г. – у Мітрафана[26], сына Якава Гервасіевіча і Матроны Грыгор'еўны Тычынаў. У 1797–1870 г. жыў у засценку Залессе Слуцкага павета.

Жонка – Параскевія (Тэрэза) Васільеўна Тарынская. Разам з Мацвеем Крышэвічам была

хроснай 06.07.1801 г. у Анісіма[27], з Міхаілам Сеўрукам 04.06.1811 г. – у Мітрафана[28], з Міхаілам Рэутам 17.02.1814 г. – у Фёдара, сыноў жыхароў засценка Залессе Аляксандра Янавіча і Еўфрасінні Грыгор'еўны Рэутаў[29], са Сцяпанам Іванавічам Ермалінскім 23.06.1828 г. – у Агрыпіны[30], 13.05.1831 г. – у Глікерыі[31], дачок Нікадзіма Аляксеевіча (Іванавіча) і Марыі Андрэеўны (Мацвееўны) Кулеўскіх.

40/27 **Іван,** нарадзіўся і ахрышчаны 13.03.1786 г. святаром Мікалаем Кранікоўскім у Іздрашаўскай Пакроўскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары сяла Чыжэвічы Іван Корбут і жонка Кузьмы Корбута Ганна Міхайлаўна[32].

У 1795 г. жыў у засценку Шабунькі Слуцкага павета. У 1811 г. перасяліўся ў засценак Віктарын Бабруйскага павета на зямлю (8 валок) без сялян памешчыка Міхаіла Прушаноўскага па закладным праве (з 23.04.1811 г. на 12 гадоў)[33]. Аднак 16.06.1811 г. памешчык Прушаноўскі адмовіў у валоданні засценкам Віктарын па закладзе. Тады Іван разам з братам Андрэем заключылі арэндны кантракт з Казімірам Баранцэвічам на арэнду зямлі ў вёсцы Чыжэвічы. Але, магчыма, у тым жа 1811 г. зноў заключылі кантракт на арэнду засценка Віктарын, паколькі, па рэвізскай сказцы шляхты 14.12.1811 г., жыў па закладным праве ў вёсцы Віктарын Бабруйскага павета памешчыка Міхаіла Прушаноўскага.

*НГАБ, ф. 333, воп. 9, спр. 198, арк. 176.*

Пасля заканчэння тэрміну закладу 06.06.1823 г. заключыў новы кантракт з памешчыкам Ігнаціем Прушаноўскім на зямлю ў засценку Віктарын да 11.04.1836 г. за 1400 рублёў серабром[34]. Аднак у 1832 г. жыў у засценку Дражня Бабруйскага павета.

Прызнаны ў дваранстве 20.01.1816 г. пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу.

Сумесна з дваранамі Забэламі, Сыцько, **Вікенціем Статкевічам** 23.04.1847 г. купіў у памешчыка Рагачоўскага павета Тэафіла Антонавіча Маліноўскага 300 дзесяцін зямлі ў двух надзелах у засценках Малінава і Яменец з правам раздзяліць паміж сабой на часткі. Разам з дваранамі Сеўрукамі, Шуневічам і Пржылуцкім 19.10.1848 г. дамовіўся купіць у таго ж памешчыка ўрочышча Сялец, якое ўключала 65 валок зямлі, або 1289 дзесяцін 1050 квадратных сажняў. Але ў лістападзе 1848 г. памешчык Тэафіл Антонавіч Маліноўскі вымушаны быў звярнуцца ў Мінскую палату грамадзянскага суда з прашэннем аб вяртанні яму выдаткаў у сувязі з тым, што продаж не адбыўся: «...по надобности покупщиков проситель должен был вместо того, чтобы ехать прямо в Минск, сделать наклад дороги, поехав на Слуцк, а именно лишь для того, что сего требовала распоряжения покупщиков для сбора; и чтобы вместе ехать, затем прибыл в Минск 17 июня, явил полиции подорожную, записанную в книгу за № 204. В несколько часов прибыл Корбут, но без товарищей, котория ради страха существовавшей холерии остановились в 10 верстах за городом, он, Малиновский, два раза Корбута к ним посылал, увещевая их в предрассудке о сей болезни, которая не заразительна и прочая, но все приглашения эти остались тщетными. Итак, сделав на тройке лошадей 600 верст на собственном коште 17 дней будучи в разъездах и ожидании покупщиков в Минске, заболев в Игумене дня три, был в Бобруйске 27 июля, чему доказательством имеет подорожную, явленную в Бобруйском Ордонансе гаузе за № 1040. Ради справедливого самоосуждения явной вины, убытков и неустойки покупщики несколько недель (под предлогом якобы существовавшей еще, как говорили, холери в Минске) с верителем его не делали сношения, он же, будучи занят собственными де-

лами по Могилевской губернии, не предпринимал никаких действий, более что по месту жительства покупщиков в другой губернии ходатайство по делу сопряжено с поездками, а тем самым убытками и еще потерию времени, накопление которых по неимению оседлости покупщиков и обеспечения безвозмездно.

Однако ж 17 сентября покупщики прибыли лично в числе четырех человек, а именно, Корбут, Прилуцкий и Яков с Петром Севруки в имение верителя его Козловичи, сознавали свою неустойку, просили, умоляли не считать им сего в вину, что не выехали в г. Минск, спасаясь смерти и тому подобное, и теперь просят приступить к совершению купчих крепостей… Приступя с покупщиками к расчету о следуемых получить Малиновскому равно 3000 сер. за землю, оказалось, что сей суммы они на лицо не имеют и домагались кредыта, недостающих Павлу Севруку 250 и Петру Севруку 100 и около 200 Якова Севруки совместника Шуневича, еще домагались уступки высчитающихся на них убытков и внесения пошлин… Междуусабное прение продолжалось до 4 ноября… Покупщики уехали домой будто бы по деньги… Он ожидания их возврата отказался и объявил покупщикам, что всех издержек и убытков равно потерь верителя своего искать будет формою суда…»

Памёр 19.02.1854 г. ад старасці, пахаваны 21.02.1854 г. святаром Парыцкай Свята-Духавай царквы Аляксандрам Бабарыкіным[35].

Жонкі: 1. **Еўдакія Іванаўна (Пятроўна) Тарасевіч** (гл. «Тарасевічы» 45/22). Разам з Васілём Рудзінскім была хроснай 03.11.1817 г. у Іосіфа, сына Паўла Якаўлевіча і Марыяны Рудзінскіх[36], з Аляксандрам Нікіфаравічам Некрашэвічам 21.12.1822 г. – у Пятра, сына двараніна засценка Дражня Самуіла Нікіфаравіча і Ірыны Сямёнаўны Некрашэвічаў[37]. Памерла ва ўзросце 41 года ад родаў і пахавана 16.11.1829 г. святаром Парыцкай Свята-Духавай царквы Бабруйскага павета Паўлам Яроміча[38].

2. Пелагія Іванаўна (Фёдараўна). Разам з Самуілам Нікіфаравічам Некрашэвічам была хроснай 06.06.1830 г. у Фёдара, сына шляхціча фальварка Віктарын Максіма Нікіфарава і Дарыі Іванавай Некрашэвічаў[39], з Васілём Якаўлевічам Рудзінскім 19.10.1830 г. – у Параскевіі, дачкі шляхціча фальварка Віктарын Аляксандра Нікіфарава і Настасіі Ігнатавай Некрашэвічаў[40], з Іосіфам Паўлавічам Рудзінскім 21.12.1836 г. – ва Ульяніі, дачкі шляхцянкі з засценка Дражня дзяўчыны Еўфрасінні Данілаўны Некрашэвічаўны[41], з Васілём Якаўлевічам Рудзінскім 08.05.1837 г. – у Глікерыі, дачкі жыхароў засценка Дражня шляхціча Аляксандра Нікіфаравіча і Настасіі Ігнатаўны Некрашэвічаў[42].

3. (?) Разалія. Згадвалася ў 1845 г. у сямейным спісе дваран Бабруйскага павета.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 341, арк. 122–123 адв.*

41/27 **Марыя.** Жыла ў сяле Чыжэвічы. Разам з жыхаром засценка Булакі Сцяпанам Барысавічам была хроснай 29.10.1805 г. у Настасіі, дачкі Андрэя Васільевіча і Алены Мацвееўны Корбутаў[43].

Муж – **Іван Грыгор'евіч Тычына** (гл. «Тычыны» 15/7).

42/27 **Агата,** *1774 г. н. Разам з Васілём Андрэевічам Некрашэвічам была хроснай 18.11.1795 г. у Марыі[44], дачкі Фёдара Антонавіча і Настасіі Паўлаўны Некрашэвічаў. Пасля замужжа жыла ў засценку Язавіны Старобінскай воласці Слуцкага павета, стала прыхаджанкай Старобінскай Мікалаеўскай царквы.

Муж – Нікіфар-Нікадзім Максіміліянавіч Некрашэвіч, нарадзіўся 22.12.1765 г., сын дваран

Максіміліяна Грыгор'евіча і Іаанны Некрашэвічаў. Жыў у засценку Язавіны Старобінскай воласці Слуцкага павета, быў прыхаджанінам Старобінскай Мікалаеўскай царквы (гл. «Некрашэвічы» 54/29).

43/28 **Фёдар,** *1774 г. н. Па ведамасці чыншавай шляхты Нясвіжскага павета за 1795 г., жыў на зямлі князя Дамініка Радзівіла ў засценку Чыжэвічы, у 1816 г. – у фальварку Віктарын на зямлі памешчыка Станіслава Прушаноўскага, па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1822 г. – у засценку Кулакова.

Жонка – Марыя.

44/28 **Андрэй.** Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Кулакова.

Жонка – Дамніка Тычына.

45/29 **Аляксандр.** Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Балотчыцы.

Жонка – Марыяна.

46/29 **Грыгорый.** Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Балотчыцы.

47/30 **Іван**, * 1752 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Слуцкага павета 1795 г., жыў у ваколіцы Балотчыцы на арэнднай зямлі.

Жонка – Кацярына-Пелагія, *1775 г. н.

48/31 **Парфен.** Жонка – Еўдакія Смоліч.

49/31 **Антоній.** Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Заброддзе.

50/32 **Самуіл,** *1782 г. н. Па рэвізскіх сказках шляхты Слуцкага павета 1795–1816 гг., разам з братам Васілём жыў у ваколіцы Балотчыцы на арэнднай зямлі, у 1816–1822 гг. – у засценку Іздрашава Слуцкага павета на зямлі княгіні Стэфаніі Дамінікавай Радзівіл[45], з 1824 г. – у засценку Залессе. Разам са Сцепанідай Лявонаўнай Сеўрук быў хросным 12.06.1826 г. у Ануфрыя[46], сына Міхаіла Андрэевіча і Пелагеі Васільеўны Сеўрукаў, з Параскевіяй Паўлаўнай Ермалінскай 28.04.1830 г. – у Сімяона, сына жыхароў засценка Залессе Івана Якаўлевіча і Матроны Паўлаўны Рэутаў[47]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Залессе на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 218, арк. 181 адв.*

Жонка – **Ірына Аляксандраўна Рэут** (гл. «Рэуты» 244/125), жыхарка засценка Залессе. Шлюб 07.10.1817 г. святаром Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім у Пагосцкай Срэценскай царкве. Сведкі: жыхары засценка Залессе Павел Тарынскі і Якаў Рэут[48]. **Ірына Аляксандраўна** разам з Андрэем Некрашэвічам была хроснай 10.11.1829 г. у Матроны, дачкі жыхароў засценка Залессе Аляксандра Дзям'янавіча і Марыі Грыгор'еўны Рэутаў[49].

Памерла ва ўзросце 34 гадоў ад ліхаманкі, пахавана 02.04.1836 г. святаром Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім[50].

51/32 **Фяўронія,** нарадзілася і ахрышчана 13.06.1799 г. святаром Мікалаем Кранікоўскім у Чыжэвіцкай Пакроўскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары сяла Чыжэвічы Кандрацій Прылуцкі і жонка Васіля Корбута Марыя[51].

52/32 **Васіль.** Па рэвізскіх сказках шляхты Слуцкага павета 1795 г., жыў разам з непаўналетнім братам Самуілам у ваколіцы Балотчыцы на арэнднай зямлі, у 1816–1822 гг. у засценку Іздрашава Слуцкага павета на зямлі княгіні Стэфаніі Дамінікавай Радзівіл[52].

Жонка – Кацярына, * 1750 г. н.

53/33 **Пётр.**

54/33 **Якаў.** У 1869 г. прылічаны да аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыў у вёсцы Заўшыцы.

55/33 **Андрэй.** Жонка – Варвара. Пазначана ў дадатковым сямейным спісе грамадзян г. Слуцка, не зацверджаных Герольдыяй 28.11.1867 г.[53]





Пасямейны спіс 1816 г. шляхцічаў Корбутаў, якія жылі ў Слуцкім і Бабруйскім паветах. Засценак Іздрашава. Пад № 10 – Васіль Якаўлевіч Корбут і яго брат Самуіл. Самуіл Якаўлевіч Корбут – прадзед бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты І» 50/32, 52/32). *НГАБ, ф. 333, воп. 2, спр. 218, арк. 652 адв.*



Метрычная кніга Пагосцкай Срэценскай царквы Слуцкага павета за 1817–1824 гг. Запіс аб шлюбе 07.10.1817 г. жыхара засценка Іздрашава, прыхаджаніна Чыжэвіцкай Пакроўскай царквы Самуіла Якаўлевіча Корбута, 20 гадоў, і дачкі жыхара засценка Залессе Аляксандра Рэута Ірыны, 15 гадоў. Сведкі: жыхары засценка Залессе Павел Тарынскі і Якаў Рэут. Самуіл Якаўлевіч Карафа-Корбут і Ірына Аляксандраўна Карафа-Корбут (Газдава-Рэут) – прадзед і прабабуля Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут), бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Карафа-Корбуты І» 50/32). *НГАБ, ф. 136, воп. 134, спр. 589, арк. 214 адв.*



Метрычная кніга Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета. Запіс аб смерці 02.04.1836 г. жонкі дваранiна засценка Залессе Самуіла Корбута Ірыны Аляксандраўны (Рэут), 34 гадоў (гл. «Карафа-Корбуты І» 50/32). Ірына Аляксандраўна Карафа-Корбут (Газдава-Рэут) – прабабуля Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут), бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава. *НГАБ, ф. 136, воп. 4, спр. 607, арк. 414.*

### XIV КАЛЕНА

55а/35 **Якуб,** *1764 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета, жыў у засценку Іздрашава.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 791, арк. 33 адв.*

Жонка – Еўдаксія Замброўская.

56/37 **Іосіф.** У 1795 г. жыў у засценку Шабунькі Слуцкага павета. У 1811 г. перасяліўся ў засценак Віктарын Бабруйскага павета на зямлю (8 валок) памешчыка Міхаіла Прушаноўскага па закладным праве (з 23.04.1811 г. на 12 гадоў)[54].

У 1822–1832 гг. жыў у сяле Чыжэвічы. Больш за 20 гадоў быў старастам пры Чыжэвіцкай Пакроўскай царкве, ахвяраваў 100 рублёў серабром на ўладкаванне іканастаса. У 1856 г. купіў у памешчыка Маліноўскага ва ўрочышчы Сялец 19 валок зямлі (376 дзесяцін 2190 сажняў), якую размеркаваў паміж дзецьмі, а таксама забяспечыў пасаг для дачок. Памёр 06.08.1858 г. ва ўзросце 64 гадоў ад сухотаў, пахаваны 08.08.1858 г. святаром Глускай Уваскрэсенскай царквы Іаанам Смолічам[55].

Жонка – Марыя Якаўлеўна Барысевіч. 24.01.1867 г. звярнулася з прашэннем да прыстава 3-га стану Бабруйскага павета аб пакаранні яе зяця Івана Корбута за падробленае ад імя жонкі Еўдакіі прашэнне ў Бабруйскі павятовы суд аб раздзеле маёмасці пасля смерці Іосіфа Андрэевіча Карафа-Корбута, дзе пісала: «Покойный уже муж мой Иосиф Андреев Корбут, будучи еще в живых, купленную им в 1856 году от помещика Малиновского в урочище Сельце землю 19 уволок и движимое имущество распределил следующим образом: сыновьям старшему Семиону 4, среднему Каликсту 5, младшему Виктору 5 и Андрияну 5 уволок, дочерям же Ольге, Арине и Евдокии в приданое из движимости всякой пара волов, пара коров, 5 овец, 3 свиней, а также белье, платье, халат и прочие неуловимые мелочи да наличными деньгами по 40 рублей. При выходе в замужества дочери получили все то, что выше означено. Дележом этим как сыновья, так и дочери остались довольны и никакого спора и притезания друг к другу не делали, жили дружно. Но муж последней дочери, Евдокии, Иван Корбут постоянно негодует к сыновьям, а шуринам своим вышеупомянутым, и постоянно делает им разные неприятности и, наконец решил даже подать подложное прошение в Бобруйский уездный суд в имени жены своей Евдокии, прося учинить дележ оставшемусь после отца движимому и недвижимому имуществу, подлог этот обнаружился тем, что когда на днях Лясковицкий тысяцкий прибыл в Сельцы и объявил решение того суда наследникам покойного выше отца вышеупомянутым, то она, Евдокия, в лице всех и посторонних даже лиц заявила, что прошение о том не подавала и ничога даже не сведуща.

О чем заявила Вашему Высокоблагородию, покорнейше прошу учинить начальничье свое распоряжение о подвержении Корбута заслуженному взысканию за прописанное выше поданное им подложное прошение»[56].

Указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічана да грамадзян г. Слуцка.

57/37 **Фёдар,** нарадзіўся і ахрышчаны 20.02.1799 г. святаром Мікалаем Кранікоўскім у Чыжэвіцкай Пакроўскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары вёскі Іздрашава Сямён Беразоўскі і дачка святара Кранікоўскага Ксенія, дзяўчына[57].

58/37 **Настасія,** нарадзілася і ахрышчана 29.10.1805 г. святаром Мікалаем Кранікоўскім у Чыжэвіцкай Пакроўскай царкве Слуцкага павета, хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Булакі Сцяпан Барысавіч і Марыя, дачка жыхара сяла Чыжэвічы Васіля Корбута[58].

Памерла і пахавана 02.12.1813 г. святаром Чыжэвіцкай Пакроўскай царквы[59].

58а/37 **Апалонія,** *1793 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., разам з бацькамі і дзядзькам Сямёнам жыла ў засценку Чыжэвічы.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 791, арк. 31 адв.*

59/39 **Антоній,** нарадзіўся 12.02.1809 г., ахрышчаны 14.02.1809 г. святаром Аляксандрам Прорвічам у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Залессе Іван Тарынскі і жонка Сямёна Сеўрука Агафія Васільеўна[60].

60/39 **Васіль.**

61/39 **Іван,** *1805 г. н. Жыў у засценку Залессе. Разам з жонкай Фёдара Рэута Таццянай Іванаўнай быў хросным 27.01.1824 г. у Марыі[61], 21.12.1824 г. – у Пятра[62], дзяцей жыхароў засценка Залессе Самуіла Якаўлевіча і Ірыны Аляксандраўны Корбутаў, з жонкай Уладзіміра Тычыны Еўдакіяй Грыгор'еўнай 13.12.1827 г. – у Лукер'і[63], дачкі жыхароў засценка Залессе Міхаіла Грыгор'евіча і Еўфрасініі Іванаўны Рэутаў, з жонкай Івана Рэута Матронай Якаўлеўнай 07.02.1829 г. – у Агафіі, дачкі Мацвея Васільевіча і Аляксандры Васільеўны Некрашэвічаў[64], са Стэфанідай Паўлаўнай Ермалінскай 21.04.1829 г. – у Аляксандра[65], з Марыяй Іванаўнай Старынскай 06.09.1831 г. – у Захарыя[66], дзяцей Якава Гервасіевіча і Матроны Грыгор'еўны Тычынаў. Памёр ва ўзросце 31 года «ад болю ў галаве», пахаваны 23.11.1836 г. святаром Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім[67].

Жонка – Марыя Міхайлаўна Сеўрук, жыхарка засценка Залессе. Шлюб 26.05.1830 г. святаром Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета, сведкі – жыхары засценка Залессе Міхаіл Рэут і Фёдар Рэут[68].

62/39 **Павел,** нарадзіўся ў засценку Залессе, ахрышчаны 06.11.1797 г. святаром Аляксандрам Прорвічам у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Залессе Іван Тарынскі і жонка Сямёна Сеўрука Агафія[69].

63/39 **Фёдар,** нарадзіўся ў засценку Залессе, ахрышчаны 23.04.1806 г. святаром Філіпам Салаўевічам у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Залессе Іван Тарынскі і жонка Данііла Сеўрука Ганна Фёдараўна[70].

64/39 **Ігнацій,** нарадзіўся ў засценку Залессе, ахрышчаны 28.05.1802 г. святаром Прорвічам у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Залессе Іван Тарынскі і жонка Сямёна Сеўрука Агафія[71].

65/40 **Яфімій,** нарадзіўся і ахрышчаны 20.01.1834 г. святаром Паўлам Якаўлевічам Яромічам у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Дражня Максім Нікіфараў Некрашэвіч і жонка Лявонція Якаўлева Рудзінскага Еўфрасінія Іванава[72].

66/40 **Таццяна,** нарадзілася 12.01.1832 г., ахрышчана 14.01.1832 г. святаром Паўлам Якаўлевічам Яромічам у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі шляхціч засценка Дражня Міхаіл Іванаў Сыцько і жонка Васіля Іванава Вечара Кацярына Іванаўна[73]. Згадвалася ў сямейным спісе дваран 1845 г. Бабруйскага павета.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 341, арк. 122–123 адв.*

67/40 **Сцяпан,** нарадзіўся (з двойні) і ахрышчаны 10.08.1819 г. святаром Мікалаем Русецкім у Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) уніяцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары вёскі Дражня Сцяпан Некра-

шэвіч і Еўдакія Фядосаўна Калеўская[74]. З 1819 г. разам з бацькамі жыў у засценку Віктарын на зямлі памешчыка Прушаноўскага, у 1832 г. – у засценку Дражня Бабруйскага павета. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.02.1835 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 216, арк. 299–299 адв.*

Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[75]. Склаў тастамент 20.02.1879 г., дзе пісаў: «Во имя Отца и сына и Святаго Духа. Ниже собственноручно подписавшийся дворянин Степан Иванов Карафа-Корбут, чувствуя себя слабым в силах, но находясь в здравом уме и твёрдой памяти, я признал необходимым изложить последнюю волю мою о распределении имеющего остаться после меня имущества и настоящим крепостным духовным завещанием определяю:

1. Благоприобретённый мною участок земли, доставшийся из им. Мойсеевки и застенка Новой Белицы Бобруйского уезда, по купчей крепости в Минской соединённой палате уголовного и гражданского суда 13 апреля 1871 г. совершенный, из какового участка земли восемдесят пять десятин отказываю дочере моей Марьянке Степановне, по мужу Сосновской, граница которого мною обозначена со стороны сумежного владельца брата моего Петра Корбута, и дочь моя, получившая таковой участок земли, не должна иметь к моему наследству никакой претензии.

2. Одну десятину усадебной земли и все постройки, находящиеся на сказанной десятине, а также всю движимость, какая только после смерти моей останется, отказываю пожизненной жене моей Аксинии Леонтиевне, а после ея смерти должно принадлежать сыну нашему Тимофею Степанову Карафа-Корбуту как движимое, так и недвижимое имущество. За сим оканчиваю мою волю и прошу моих детей жить мирно и уважать свою мать. Аминь. Февраля 20 дня 1879 г. ...»[76]

Жонка – Ксаверыя Львоўна (Ксенія Лявонава). Разам з Фёдарам Максімавічам Некрашэвічам была хроснай 27.01.1863 г. у Грыгорыя[77], 17.10.1864 г. – у Анастасіі, дзяцей дваран засценка Дражня Пятра Іванавіча і Ганны Данілаўны Корбутаў[78].

68/40 **Максім,** нарадзіўся (з двойні) і ахрышчаны 10.08.1819 г. святаром Мікалаем Русецкім у Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) уніяцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары вёскі Дражня Сцяпан Некрашэвіч і Еўдакія Фядосаўна Калеўская[79]. З 1819 г. разам з бацькамі жыў у засценку Віктарын на зямлі памешчыка Прушаноўскага, у 1832 г. – у засценку Дражня Бабруйскага павета. Пісьменны. 23.04.1847 г. разам з жонкай купіў у памешчыка Рагачоўскага павета Маліноўскага 11 валок (220 дзесяцін) зямлі ў засценку Малінава і Яменец за 510 рублёў серабром. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.02.1835 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 216, арк. 299–299 адв.*

Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны ў саслоўе грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[80]. У спісе землеўладальнікаў Мінскай губерні 1876 г. пазначаны пад № 1244, валодаў 160 дзесяцінамі зямлі ў маёнтку Малінава Бабруйскага павета[81]. У 1888–1889 гг. разам з дваранамі Забэламі, Сыцько, Статкевічам судзіўся ў Мінскім

акруговым судзе з сялянамі ўрочышча Лятушына за пашу.

Жонка – Марыя Іванаўна.

69/40 **Пётр,** нарадзіўся і ахрышчаны 29.06.1824 г. святаром Мікалаем Русецкім у Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) уніяцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі Міхаіл Некрашэвіч і Еўдакія Тарэсевічаўна[82]. Разам з Агафіяй Сямёнаўнай Некрашэвіч быў хросным 03.01.1850 г. у Сцяпана, сына Іосіфа Паўлавіча і Ганны Грыгор'еўны Рудзінскіх[83]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.02.1835 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 216, арк. 299–299 адв.*

Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны ў саслоўе грамадзян г. Слуцка.

Жонка – Ганна Данілаўна.

70/40 **Васіль,** нарадзіўся і ахрышчаны 07.03.1827 г. святаром Мікалаем Русецкім у Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) уніяцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі Максім Некрашэвіч і Фрузына Рудзінская з вёскі Дражня[84]. Праваслаўны, непісьменны. Разам з Ануфрыем Іванавічам Мажэйкам быў сведкам з боку маладога пры шлюбе 17.01.1858 г. Паўла Васільевіча Рудзінскага і Марыі Андрэеўны Сыцько[85]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.02.1835 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 216, арк. 299–299 адв.*

Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны ў саслоўе грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[86]. Пазначаны ў спісах землеўладальнікаў Мінскай губерні 1876 г.[87] і 1889 г.[88], валодаў 120 дзесяцінамі зямлі ў маёнтку Малінава Бабруйскага павета.

У архіве захавалася справа за 1862 г. аб крадзяжы каня ў двараніна Васіля Іванавіча Корбута кантаністам Сцяпанам Андрэевічам Сарнецкім: «Девятого числа сего марта месяца в пятницу над вечер возвра[тился] я из губернского города Минска на собственной моей лошади масти гнедой, грива и хвост черные, лет 6, стоющая мне 70 рублей серебром, каковую поставил в конюшней для откормления, каковая была заперта, а [меж]ду тем в полночь таковую лошадь с ременным хомутом и веровчанными возжами из озимой конюшни уворована, а как [выпал] маленькой снежок, то найдя след по оному в ту же минуту бросив я в помощь своего шурина дворянина Андрея Сыцьки вдогон за похитительным по означенному следу, который вел до города Бобруйска, куда пристав 10 числа на базаре опознал мою лошадь у какого-то русского человека, который объявил, что оную выменял у какого-то молодого человека с деревни Славкович, и тотчас отправился в Глуск, чтобы нагнать означенного меняльщика, куда по приистии застигли его в доме еврея, Глусского мещанина Михеля, которого мы и опознали, что он есть какой-то кантонист по имени Степан, а прозвания неизвестного мне. Который в воровстве моей лошади и протчего описанного добровольно повинился. Почему представляя при сем означенного вора вместе с лошадью вашему благородию покорнейше честь имею просить таковую лошадь оценив мне возвратить, а виновного за похищение предать действию закона и взыскать с имущества его Степана всех понесенных мною издержек на отыскание моей лошади, ка[кие] я понес наличных денег [ ] сереб., а буде лошадь, которую [я на]нимал на домику не выйдет, то и определить потери всем на сей предмет не могу и меня во всем



М. В. Д.

МИНСКОЕ ДВОРЯНСКОЕ ДЕПУТАТСКОЕ СОБРАНІЕ

№ 3515.

Ноября 6 дня 1844 года

На основаніи указовъ Правительствующаго Сената отъ 7 Апрѣля 1826, 28 Ноября 1839, 4 Января и 10 февраля 1840 годовъ, Депутатское Собраніе препровождая при семъ

просить повѣривъ съ книгами, и надписавъ на въ какомъ видѣ найдены тѣ книги и самыя статьи изъ которыхъ прилагаемыя выписи выданы, бывшею для разсмотрѣнія таковыхъ книгъ Коммисіею; возвратить въ сіе Собраніе въ возможной скорости.

Депутатъ

Секретарь

Протоколистъ



Справа Мінскай духоўнай кансісторыі (на 4 старонках) аб завярэнні хросных метрык прадстаўнікоў роду Корбутаў – Сцяпана, Максіма, Пятра, Васіля і іншых (гл. «Карафа-Корбуты І» 67/40, 68/40, 69/40, 70/40). У дакуменце пазначана, што ў Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) царкве Бабруйскага павета 07.03.1827 г. ахрышчаны Васіль, бацька прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут). Яго бацькі: дваране засценка Дражня Іван і Еўдакія з Тарасевічаў Корбуты, хросныя бацькі: Максім Некрашэвіч (гл. «Некрашэвічы» 50/39) і Фрузына Рудзінская. Выпіс з метрычных кніг Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) царквы Бабруйскага павета. *НГАБ, ф. 136, воп. 1, спр. 18827, арк. 1–2 адв.*

Згодна з Указам Яго Імператарскай Вялікасці Урадавы сенат, па прадстаўленні міністра юстыцыі ад 24.05.1877 г., № 9976, слухаў і зацвердзіў у патомным дваранстве з занясеннем у 1-ю частку дваранскай радаводнай кнігі 47 прадстаўнікоў роду Карафа-Корбутаў, якія паходзяць ад Хрыстафора, сына Канстанціна, у тым ліку Васіля Іванавіча (прапрадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава), Платона Самуілавіча (прапрадзед) з сынам Аляксандрам (прадзед). Дакумент на 4 старонках. *РДГА, ф. 1343, воп. 23, спр. 1373, арк. 251–252 адв.*


251.

По Высочайшему повелению



принесть сей указъ, предписавъ оному объявить лицамъ рода
Карафа-Корбутовъ, коимъ отказано въ утвержденіи въ дво-
рянскомъ достоинствѣ, что внесенныя деньги шестьдесятъ
руб. сер. не могутъ быть имъ возвращены впредь до окон-
чанія вотчиннаго дѣла объ обнаруженныхъ растратахъ одного
Департамента Герольдіи и взыскать съ утвержденныхъ
въ дворянствѣ лицъ рода Карафа-Корбутовъ подлежащій
въ пользу казны гербовый сборъ 40 коп. сер. Для припечатанія
же сего Высочайшаго повелѣнія въ вѣдомостяхъ — Конторѣ
Сенатской Типографіи сообщить вѣдѣніе. Подлинное
за подписаніемъ Правительствующаго Сената почи-
нено Июня 20 дня 1877 года.

Вѣрно: Протоколистъ [signature]

С подлиннымъ читалъ
И. д. Помощника Секретаря [signature]

По Высочайшему повелѣнію
Подлинному Карафа-Корбутовъ

удовлетворить. Дворянин Василий Корбут руку приложил, а за его яко неграмотного по просьбе расписался дворянин Мечислав Франковский. Марта 12 дня 1862 года. Жительство имею в застенке Малиново Бобруйского уезда»[89].

Сцяпан Андрэевіч Сарнецкі 14.03.1862 г. даў паказанні: «Зовут меня Степан Андреев не Одестеня, а Сарнецкий, лет 20, веры православной, на исповеди и у Св. тайн причастия бываю ежегодно, из кантонистов, приписанный теперь в Глусские мещане. Отец мой граф, а мать Настасия служит у глусского римско-католического ксендза Томашевича; служил работником у славковицкаго священника Еремича три годы, а целый год пред сим занимался подельными работами в Славковичах: в господском дворе и у крестьян того имения, собственного имущества не имею, а пропитываю и вообще содержу себя службою. В последнее время занимался работою у славковицкого крестьянина Максима Куксика, от коего в пятницу (9 марта) намерен был идти к матери в Глуск. Идя этим путем, зашел в застенок Малиново, где хотел переночевать, но как огня ни в одном доме уже не было видно, то не желая никого тревожить, вошел в сарай дворянина Корбута, где на сене лег отдохнуть и вдруг заснул. После чего услышал, что кто-то отворил с шумом ворота и въехал в двор; начал выпрягать лошадь и, снявши хомут, поставил лошадь в конюшню. По голосу приезжаго и по лошади я узнал, что это был хозяин дома Корбут, который, как я прежде знал, ездил в Минск. Корбут пошел в комнату, а я опять заснул. Проснувшись опять, вдруг приходит мне мысль уворовать ту лошадь, на которой приехал Корбут, и вставши, заметил, что уже огня в комнате нет, вошел в конюшню, надел на ту лошадь хомут, при коем и были вожжи, сел на нее верхом и поехал дорогою прямою к Глуску. Дорогою надумавшись променять ее в Бобруйске через Глуск, Вильчу и Горбацевичи, приехал в Бобруйск в субботу (10 марта) пред полднем, остановился на постоялом дворе, откуда пошел в город. Заметив какого-то русского человека, вывозившего гной с базарной площади, предложил ему менять лошади. Осмотрев мою лошадь, тот русский повел меня с лошадью к себе на квартиру, состоящую в Слободе, и там променял я уворованную мною у Корбута лошадь на его лошадь рыжую с лысиною, не объявляя ему, что моя ворованная; хомут и узду тоже поменял с ним. Купив у того же русского сани, запрег лошадь, я поехал в Глуск, куда прибыл ночью с субботы на неделю. Здесь остановился у еврея Михеля, от каго ездил к матери, а после опять возвратился к Михелю; через несколько часов выйдя на улицу заметил, что Корбут едет на своей лошади, а с другой стороны идет тот русский, с коим я променял лошадь. Испугавшись, что воровство открылось, ушел, оставивши там лошадь вымененную, переночевал у одного еврея незнакомого, а назавтра утром пошел к матери, взял 20 коп., с коими пришел опять к Михелю разсчитаться за овес, и себе пищу взятую, но Михель сказал пойдеш в стае и с ним прибыл в канцелярию и здесь взят был под арест и к настоящему допросу. Что все показал справедливо...»[90]

Ноччу 18 сакавіка «содержащийся под стражею конокрад Степан Андреев Сарнецкий требовал от десятского Апанаса вывести его на двор для естественной надобности. Между тем вышед на двор притаился в углу, влез на ледник, а оттуда на забор и перескочил. На крик десятского выбежали арестованные при становой квартире мещане глусские... и после усиленных поисков в темноте ночной едва через час могли поймать его

уже в местечке спрятанным под домом какого-то еврея...»[91]

Мінская палата грамадзянскага суда 20.12.1862 г. пастанавіла: «...бывший кантонист Степан Андреев Сарнецкий... за кражу лошади... подлежит лишению всех особых лично и по состоянию присвоенных ему прав и преимуществ и заключить в тюрьму на 2 года с употреблением на самыя тяжкия из установленных в сем месте заключения работы, а потом... отдать под особый надзор местной полиции на четыре года; 2) обиженному кражею дворянину Василию Корбуту и променявшему с подсудимым Сарнецким свою собственную на украденную им Сарнецким у Корбута лошадь как получившим обратно таковые лошади никакого вознаграждения не полагать...»[92]

Права ўласнасці на зямлю плошчай 119 дзесяцін 60 квадратных сажняў у ваколіцы Малінава прызнаў 17.11.1877 г. у Мінскай аб'яднанай палаце крымінальнага і грамадзянскага суда[93].

Жонка – **Наталія Сцяпанаўна Сыцько** (гл. «Сыцько» 156/98), дваранка, дачка **Сцяпана Грыгор'евіча** і **Кацярыны з Ліпскіх Сыцько**. Разам з Васілём Феафілактавым Плышэўскім была хроснай 23.10.1858 г. у Іларыёна[94], 20.10.1860 г. – у Лукі[95], 30.11.1862 г. – у Андрэя[96], 16.03.1865 г. – у Венядзікта[97], 03.04.1869 г. – у Іосіфа[98], сыноў грамадзяніна засценка Малінава Назарыя Сцяпанавіча і Разаліі Васільеўны Сыцько.

71/40 **Грыгорый,** нарадзіўся і ахрышчаны 08.01.1822 г. святаром Мікалаем Русецкім у Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) уніяцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Дражня Максім Некрашэвіч і Еўдакія Якубаўна Розгінава[99].

72/40 **Елізавета,** нарадзілася і ахрышчана 01.09.1817 г. святаром Мікалаем Русецкім у Казіміраўскай (Каралёва-Слабадской) уніяцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары вёскі Віктарын Максім Некрашэвіч і Марыя Якубаўна Грудзінская[100].

73/43 **Грыгорый,** нарадзіўся 21.02.1796 г. Праваслаўны.

Жонка – Марыя Паўлаўна Кулакоўская.

74/43 **Пётр,** нарадзіўся 08.01.1793 г. Праваслаўны.

Жонка – Ганна.

75/43 **Сямён,** нарадзіўся 11.05.1798 г. Праваслаўны. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Кулакова. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета. У 1869 г. яго сям'я прылічана да Старобінскай воласці, а ў 1879 г. прызнана ў дваранстве. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

Жонка – Ксенія Андрэеўна Тычына.

76/44 **Пётр,** нарадзіўся 24.08.1823 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. перапісаны да сялян Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

Жонка – Мар'я.

77/44 **Грыгорый,** нарадзіўся 23.01.1826 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў два-

ранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. перапісаны да сялян Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

Жонкі: 1. Аксеня; 2. Наталія (Настасія) Лявонцьеўна Прылуцкая, ад яе сыны Іван і Фама.

78/44 **Еўфрасінія,** *1819 г. н.

79/44 **Марыя,** *1830 г. н.

80/44 **Мар'яна,** *1817 г. н.

81/45 **Сцяпан.**

82/45 **Грыгорый,** нарадзіўся 26.09.1795 г., ахрышчаны ў Чыжэвіцкай царкве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Жонка – Фядора Іванаўна Статкевіч.

83/45 **Матрона.**

84/46 **Бенядзікт.** Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Балотчыцы.

85/46 **Ян.** Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Балотчыцы.

86/ 46 **Пракоп.** Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1822 г., жыў у засценку Балотчыцы.

87/47 **Гаўрыіл,** 1791 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Балотчыцы.

Жонка – Настасія Сямёнаўна Бялькевіч, *1794 г. н.

88/47 **Грыгорый,** нарадзіўся 11.03.1803 г. Праваслаўны. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў разам з братам Гаўрыілам у засценку Балотчыцы. У 1835 г. жыў у засценку Касынічы на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 218, арк. 181 адв.*

Жонка – Алена Грыгор'еўна Корзун з засценка Касынічы. Шлюб 27.05.1824 г. святаром Навумам Мінькевічам у Пpускай царкве. Сведкамі былі жыхары засценка Касынічы Іван Сеўрук і засценка Машчыцы Пётр Хаўстовіч[101]. У 1869 г. прылічана да аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыла ў вёсцы Заўшыцы.

89/48 **Еўфрасінія.**

90/48 **Аўдокія.**

91/50 **Луцыя,** *1823 г. н.

92/50 **Мар'яна,** *1827 г. н.

93/50 **Георгій,** нарадзіўся і ахрышчаны 03.11.1835 г. святаром [Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім] у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Залессе Ілья Паўлавіч Старжынскі і жонка Андрэя Іосіфавіча Некрашэвіча Агафія Фёдараўна[102]. Памёр ад адру, пахаваны 05.01.1836 г. святаром Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім[103].

94/50 **Платон,** нарадзіўся і ахрышчаны 18.11.1831 г. святаром Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Залессе Ілья Паўлавіч Старжынскі і жонка Андрэя Іосіфавіча Некрашэвіча Агафія Фёдараўна[104]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў з бацькамі ў засценку Залессе на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 218, арк. 181 адв.*

Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. з сям'ёй запісаны ў саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета. У 1870 г. разам з сынам Аляксандрам быў перапісаны з аднадворцаў у сяляне Кутнеўскай сельскай грамады. Прызнаны ў дваранстве ў 1879 г. Разам з Еўфрасініяй Гервасіеўнай Гурыновіч быў хросным 02.12.1864 г. у Афанасія[105], з Ірынай Паўлаўнай Балвановіч 24.09.1867 г. – у Фёклы[106], з Таццянай Іосіфаўнай Сеўрук 16.02.1870 г. – у Еўдакіі[107], дзяцей Паўла Фёдаравіча і Таццяны Самуілаўны Ждановічаў-Гурыновічаў, з Агафіяй Іосіфаўнай Бараноўскай 06.11.1877 г. – у Стэфаніды[108], з Іўсцінай Іванаўнай Рудзінскай 16.11.1880 г. – у Мацвея[109], дзяцей Івана Якаўлевіча і Параскевіі Паўлаўны Ждановічаў-Гурыновічаў.

09.02.1871 г. Слуцкі павятовы суд разглядаў справу па скарзе 14.05.1870 г. аднадворца засценка Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета 5-га Клешаўскага ўчастка Слуцкага павета Пятра Марцінавіча Хідруховіча на Івана Тычыну і Платона Корбута за збіццё яго жонкі Матроны: «14 сего мая дворянин Иван Тычина и однодворец Платон Корбут прибыв ко мне в дом в небытности моем, напав на жену мою Матрену и с ругательствами нанесли ей жестокия побои под предлогом, что будто бы она убила два малых гусенка на огороде, между тем доказательств в убитии этих гусенят не имеют никаких, а потому почтительнейше прошу полицейское управление о сделании со стороны своей распоряжение об освидетельствовании жену мою посредством городского врача от нанесенных побоев означенными Тычиною и Корбутом и за разбой таковой поступить с ними по закону»[110].

У судзе 25.06.1870 г. праводзілася дазнанне сведкаў: «...спрошенныя по сему делу жены однодворцев Марья Норуцыня и Федосья Некрашевичева показали, что они были свидетелями, как Иван Тычина бранился с женою однодворца Мартина Хидруховича Матреной. За то, что будто Хидруховичева убила трех его гусят, но бил ли Тычина Хидруховичеву мы не видели...

Дворянин Иван Тычина показал, что Матрену Хидруховичеву он не бил, но когда Матрена Хидруховичева убила трех моих гусенят, я вошел в дом Хидруховича, чтобы поговорить с мужем Хидруховичевой Петром, за что жена убила моих гусенят, и приглашал с собою однодворца Платона Корбута, и когда вошел в избу, то Хидруховичева бросилась на меня, схватила меня за лицо руками и ободрала мне лицо, я ее не бил, и она смело дралась со мной, понял, что она была беременна, и знала, что я ее бить не буду, приходил я к Хидруховичу с Платоном Корбутом, чтобы взять чтонибудь за убитых гусей, но ничего не брал»[111].

Слуцкі павятовы суд 09.02.1871 г. пастанавіў: «...имея ввиду, что предмет дела есть обиженное оскорбление, полагает... прекратить производством, передать для хранения в архив»[112].

Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[113].

Памёр 25.03.1884 г. ад запалення лёгкіх, пахаваны 27.03.1884 г. святаром Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Сімяонам Падольскім[114].

Жонка – **Аляксандра Якаўлеўна Тычына** (гл. «Тычыны» 124/81), дачка **Якава Гервазіева Тычыны** і **Матроны Грыгор'еўны Некрашэвіч,** нарадзілася і ахрышчана 21.04.1829 г. святаром Мацвеем Шпілеўскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве[115]. Памерла 07.04.1884 г. ад сухотаў, пахавана 09.04.1884 г. святаром Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Сімяонам Падольскім[116].

95/50 **Еўфрасінія,** нарадзілася і ахрышчана 25.09.1829 г. святаром Мацвеем Шпілеўскім у Па-



| No. | Число рожденія. | У кого кто родился. | Число крещенія. | Кто воспріемни |
|---|---|---|---|---|
| 24. | — | Въ Ноябрѣ | 18. | |

Метрычная кніга Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета. Запіс аб нараджэнні і хрышчэнні 18.11.1831 г. Платона. Бацькі: дваране засценка Залессе Самуіл Якаўлевіч Корбут і Ірына Аляксандраўна (Рэут). Платон Самуілавіч Карафа-Корбут – дзед бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 94/50). *НГАБ, ф. 136, воп. 4, спр. 607, арк. 457 адв.*



Метрической книги на 1884

| Счет умерших | | Месяц и день | | Звание, имя, отчество и фамилия умершаго. | Лета умершаго | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мужеска | Женска | смерти | погребения | | Мужеска | Женска |
| 31 | 23 | Марта 25 | 27 | | 56 | |

Метрычная кніга Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета. Запіс аб смерці 25.03.1884 г. двараніна засценка Кутнева Платона Самуілавіча Корбута (гл. «Карафа-Корбуты І» 94/50). *НГАБ, ф. 136, воп. 4, спр. 158, арк. 66 адв.*



Метрической книги на 1884

| Счет умерших | | Месяц и день | | Звание, имя, отчество и фамилия умершаго. | Лета умершаго | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Мужеска | Женска | смерти | погребения | | Мужеска | Женска |
| | | 7 | 9 | | 50 | |

Метрычная кніга Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета. Запіс аб смерці 07.04.1884 г. дваранкі Аляксандры Якаўлеўны (Тычыны), жонкі двараніна засценка Кутнева Платона Самуілавіча Корбута (гл. «Карафа-Корбуты І» 94/50). *НГАБ, ф. 136, воп. 4, спр. 158, арк. 67 адв.*

госцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі Ілья Старжынскі і жонка Андрэя Некрашэвіча Агафія Фёдараўна[117].

96/50 **Тэафіля.**

97/50 **Марыя,** нарадзілася 26.01.1824 г., ахрышчана 27.01.1824 г. святаром Мацвеем Шпілеўскім у Пагосцкай Срэценскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Залессе Іван Корбут і жонка Фёдара Рэута Таццяна[118].

98/50 **Пётр,** нарадзіўся і ахрышчаны 21.12.1824 г. святаром Мацвеем Шпілеўскім у Пагосцкай Срэценскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Залессе Іван Сімяонаў Корбут і жонка Фёдара Рэута Таццяна Іванаўна[119].

99/52 **Сцяпан,** *1786 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г. і сямейным спісе 1822 г., жыў у вёсцы Квасынічы на зямлі княгіні Стэфаніі Радзівіл.

Жонка – Пелагея Пятроўна Крукоўская.

100/52 **Гаўрыіл.**

101/52 **Ганна.**

102/54 **Феадор.** У 1869 г. прылічаны да саслоўя аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыў у вёсцы Заўшыцы.

103/54 **Еўфрасінія.** У 1869 г. прылічана да саслоўя аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыла ў вёсцы Заўшыцы.

104/54 **Дарыя.** У 1869 г. прылічана да саслоўя аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыла ў вёсцы Заўшыцы.

105/55 **Іван,** *1829 г. н. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[120].

Жонка – Еўдакія Іосіфаўна Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 113/56).

## XV КАЛЕНА

105а/55а **Ілья,** *1792 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета, жыў у засценку Іздрашава.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 791, арк. 33 адв.*

105б/55а **Саламея,** *1789 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета, жыла ў засценку Іздрашава.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 791, арк. 33 адв.*

106/56 **Павел,** нарадзіўся 06.11.1822 г., ахрышчаны 07.11.1822 г. святаром Пятром Кранікоўскім у Чыжэвіцкай Пакроўскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары сяла Машчыцы Пётр Рудакоўскі і жонка Мірона Барысавіча Матрона[121]. Непісьменны. Разам з Іосіфам Іванавічам Турчыновічам быў сведкам з боку маладога 01.06.1854 г. пры шлюбе Калістрата Іосіфавіча Корбута і Параскевіі Аляксандраўны Корбут[122]. Разам з сястрой Еўдакіяй Іосіфаўнай Корбут быў хросным 17.06.1856 г. у Елісея[123], 18.04.1858 г. – у Іаана, сыноў дваран засценка Сялец Віктара Іосіфавіча і Агафіі Гаўрылаўны Корбутаў[124]. Жыў у вёсцы Чыжэвічы. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[125].

Жонка – Лукерыя. З Віктарам Іосіфавічам Корбутам была хроснай 22.01.1861 г. у Таццяны, дачкі Калістрата Іосіфавіча і Тэрэзы Аляксандраўны Корбутаў.

*НГАБ, ф. 136, воп. 18, спр. 29, арк. 277 адв.*

107/56 **Сямён.** Праваслаўны. Пісьменны. Атрымаў у спадчыну ад бацькі 4 валокі зямлі ва ўрочышчы Сялец Бабруйскага павета. Разам з Грыгорыем Іванавічам Шуневічам быў сведкам з боку маладой 06.02.1859 г. пры шлюбе Міхаіла

Грыгор'евіча Цішкевіча і Ксеніі Паўлаўны Корбут[126], з Лявонам Валадковічам з боку маладога пры шлюбе 22.04.1862 г. Івана Андрэевіча Корбута і Еўдакіі Іосіфаўны Корбут[127], з Якавам Іванавічам Цішкевічам быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 09.02.1864 г. Марціна Іванавіча Сыцько і Матроны Паўлаўны Корбут[128], сведкам з боку маладой пры шлюбе 26.04.1870 г. Віктара Іосіфавіча Корбута і Марыі Пятроўны Ермалінскай[129]. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[130].

Жонка – Акуліна Лукінічна.

108/56 **Калістрат.** Праваслаўны, прыхаджанін Чыжэвіцкай Пакроўскай царквы Слуцкага павета. Пісьменны. Атрымаў у спадчыну ад бацькі 5 валок зямлі ва ўрочышчы Сялец Бабруйскага павета. Разам з Грыгорыем Іванавічам Туневічам быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 22.04.1862 г. Івана Андрэевіча Корбута і Еўдакіі Іосіфаўны Корбут[131]. З Фёдарам Якаўлевічам Сыцько быў сведкам з боку маладога пры шлюбе ў Глускай Уваскрэсенскай царкве 29.10.1867 г. Парфірыя Фёдаравіча Сыцько і Ксеніі Андрэеўны Корбут (*НГАБ, ф. 136, воп. 18, спр. 49, арк. 267 адв. – 268*). Разам з Акілінай Пятроўнай Ермалінскай быў хросным 06.09.1865 г. у Елізаветы[132], дачкі Івана Андрэевіча і Еўдакіі Іосіфаўны Корбутаў. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[133]. У 1890 г. быў буйным землеўладальнікам, разам з братам Віктарам, Даніілам Плышэўскім і Іосіфам Загорскім валодаў хутарам Ізгуры Бабруйскага павета.

Жонка – дваранка вёскі Квасынічы Праскевія (Тэрэза) Аляксандраўна Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 301/183). Шлюб 01.06.1854 г. святаром Васілём Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – дваранін вёскі Квасынічы Іосіф Іванавіч Турчыновіч і дваранін сяла Чыжэвічы Павел Іосіфавіч Корбут, з боку маладой – жыхары вёскі Квасынічы Фёдар Сцяпанавіч Корбут і Іван Сцяпанавіч Корбут[134].

109/56 **Віктар,** нарадзіўся 11.11.1832 г. у сяле Чыжэвічы ў сям'і шляхты Іосіфа Андрэевіча і Марыі Якаўлеўны Корбутаў, ахрышчаны 13.11.1832 г. у Чыжэвіцкай Пакроўскай царкве[135]. Пісьменны. Атрымаў у спадчыну ад бацькі 5 валок зямлі ва ўрочышчы Сялец Бабруйскага павета. Разам з Аленай Іванаўнай Сеўрук быў хросным 19.04.1859 г. у Іаана[136], з Лукіяй Іосіфаўнай Корбут 22.01.1861 г. – у Таццяны[137], з Ксеніяй Паўлаўнай Цішкевіч 20.07.1863 г. – у Іаакінора[138], 26.12.1865 г. – у Анастасіі[139], з Сафіяй Іванаўнай Ермалінскай 05.05.1870 г. – у Марыі[140], дзяцей Калістрата Іосіфавіча і Тэрэзы Аляксандраўны Корбутаў. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[141]. У 1890 г. быў буйным землеўладальнікам, разам з братам Калістратам, Даніілам Плышэўскім і Іосіфам Загорскім валодаў хутарам Ізгуры Бабруйскага павета.

Жонкі: 1. Агафія Гаўрылаўна; 2. Марыя Пятрова Ермалінская, мяшчанка засценка Сяльцы. Шлюб 26.04.1870 г. (ва ўзросце 30 гадоў, першы) святаром Глускай Уваскрэсенскай царквы

Іаанам Смолічам. Сведкамі былі: з боку маладога – мяшчане засценка Сялец Васіль Пятроў Ермалінскі і Дзмітрый Іванаў Сеўрук, з боку маладой – Сямён Іосіфаў Корбут[142].

110/56 **Адрыян.** Атрымаў у спадчыну ад бацькі 5 валок зямлі ва ўрочышчы Сялец Бабруйскага павета. Разам з сястрой Еўдакіяй Іосіфаўнай быў хросным 21.02.1860 г. у Феадора[143], 30.06.1862 г. – у Іаана[144], сыноў дваран засценка Сялец Віктара Іосіфавіча і Агафіі Гаўрылаўны Корбутаў, з Ганнай Іванаўнай Сеўрук 06.08.1863 г. – у Дамеція[145], сына Паўла Іосіфавіча і Глікерыі Самуілаўны Корбутаў. Разам з Міхаілам Грыгор'евічам Цішкевічам быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 24.01.1860 г. Цімафея Іванавіча Корбута і Еўдакіі Іосіфаўны Корбут (*НГАБ, ф. 136, воп. 18, спр. 22, арк. 288 адв. – 289*), з Андрэем Іванавічам Шышгельскім – пры шлюбе 29.10.1867 г. Парфірыя Фёдаравіча Сыцько і Ксеніі Андрэеўны Корбут[146]. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. прылічаны да грамадзян г. Слуцка, пазней зацверджаны ў дваранстве. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[147].

Па прыгаворы Мінскага акруговага суда атрымаў 6 дзён зняволення за збіццё 22.11.1895 г. на сенакосе Івана Некрашэвіча. Разам з дваранамі Дзяменціем Паўлавічам, Іванам Віктаравічам Карафа-Корбутамі, Іванам і Сямёнам Спірыдонавічамі Тычынамі, Стэфанам Гервасіевічам Некрашэвічам, Венядзіктам Вікенцьевічам Бараноўскім і селянінам Стэфанам Прохаравічам Кулакоўскім купіў 22.03.1802 г. у стацкага саветніка Цімафея Сцяпанавіча Цярноўскага 120 дзесяцін зямлі ў маёнтку Вялікая Цесна (Адрыяну належала 1/9 доля)[148].

Жонка – Ганна.

111/56 **Вольга.** Атрымала ў спадчыну ад бацькі ў пасаг пару валоў, пару кароў, 5 авечак, 3 свінні, бялізну, адзенне і інш., а таксама 40 рублёў.

112/56 **Арына.** Атрымала ў спадчыну ад бацькі ў пасаг пару валоў, пару кароў, 5 авечак, 3 свінні, бялізну, адзенне і інш., а таксама 40 рублёў.

113/56 **Еўдакія.** Атрымала ў спадчыну ад бацькі ў пасаг пару валоў, пару кароў, 5 авечак, 3 свінні, бялізну, адзенне і інш., а таксама 40 рублёў. Атрымала 03.01.1866 г. палавіну зямлі ў засценку Сялец пасля смерці першага мужа Цімафея Іванавіча Карафа-Корбута. Падала 07.11.1866 г. прашэнне ў Бабруйскі павятовы суд, у якім прасіла раздзяліць паміж ёй і братамі спадчынную ад бацькі зямлю ва ўрочышчы Сялец (376 дзесяцін 2190 сажняў) і рухомую маёмасць, паколькі была пазбаўлена часткі даходу і магчымасці распараджацца спадчынай[149]. Разам з братам Паўлам Іосіфавічам была хроснай 17.06.1856 г. у Елісея[150], 18.04.1858 г. – у Івана[151], з братам Адрыянам Іосіфавічам 21.02.1860 г. – у Феадора[152], 30.06.1862 г. – у Іаана[153], сыноў дваран засценка Сялец Віктара Іосіфавіча і Агафіі Гаўрылаўны Корбутаў, з Міхаілам Грыгор'евічам Цішкевічам 17.01.1860 г. – у Феадосія[154], сына Сямёна Іосіфавіча і Акіліны Лукінічны Корбутаў.

Ад другога шлюбу былі дзеці: 1. Елізавета, нарадзілася 04.09.1865 г., ахрышчана 06.09.1865 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране Каліст Іосіфаў Корбут і дзяўчына Акіліна Пятрова Ермалінская[155]. Памерла 10.08.1866 г. «от давней слабости», пахавана святаром Глускай Уваскрэсенскай царквы Іаанам Смолічам[156]. 2. Канстанцін, нарадзіўся 21.05.1867 г. у засценку Малінава, ахрышчаны 29.05.1867 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворац засценка Бірачава Мазырскага павета Фёдар Міхайлаў Корбут і грамадзянка засценка




Помнік на магіле Віктара Іосіфавіча Карафа-Корбута. Вёска Клетнае Глускага раёна (гл. «Карафа-Корбуты I» 109/56).

Сялец Бабруйскага павета Ксенія Андрэева Корбутава[157].

Мужы: 1. Дваранін засценка Сялец Цімафей Іванавіч Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 115/61), 25 гадоў. Шлюб 24.01.1860 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Сведкі: з боку маладога – дваранін Бабруйскага павета в. Забалацце Фама Уладзіславаў Тычына і Яўстафій Ляўкіеў Бараноўскі, з боку маладой – жыхары засценка Сялец Міхаіл Грыгор'еў Цішкевіч і Адрыян Іосіфаў Корбут[158]. Памёр 01.03.1862 г.

2. Дваранін Іван Андрэевіч Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 105/55), 24 гады. Шлюб 22.04.1862 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Сведкі: з боку маладога – жыхары засценка Беражкі Аўксенцій Лявонаў Валадковіч і засценка Сялец Сямён Іосіфаў Корбут, з боку маладой – жыхары засценка Сялец дваранін Калістрат Іосіфаў Корбут і Грыгор Іванаў Туневіч[159]. Іван Андрэевіч Корбут быў незадаволены раздзелам спадчыны пасля смерці цесця Іосіфа Андрэевіча Карафа-Корбута, падрабіў прашэнне ад імя жонкі ў Бабруйскі павятовы суд.

114/61 **Тэрэса (Параскевія),** нарадзілася і ахрышчана 26.07.1831 г. святаром Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі Пётр Міхайлавіч Рэут і жонка святара Мацвея Шпілеўскага Дарыя Сцяпанаўна[160]. Жыла ў вёсцы Забалацце Бабруйскага павета. Падала прашэнне 18.12.1869 г. у Бабруйскі павятовы суд аб уводзе яе ў валоданне маёмасцю і зямлёй брата Цімафея, што памёр без нашчадкаў, на якое прэтэндавала і яго жонка: «Родной брат мой Тимофей Иванов Корбут, будучи холостым, совместно с дворянкою Палагеею Михайловою, дочерью Шуневичевою, по купчей крепости 23.11.1856 г. в Минской палате гражданского суда совершенной, приобрели совместно пополам от помещика Бобруйского уезда предводителя дворянства Феофила Малиновского 5 уволок разного качества земли.

После сего, когда родной брат мой Тимофей Корбут, женившись на девице Евдокии Иосифовой Корбутовне, не оставив по себе никакого потомства, умер 01.03.1862 г., то сказанная жена его, не имея законных прав на все наследственное имущество по муже своем, каким-то образом 03.01.1866 г. успела изходатайствовать на половину земли, купленной братом моим с Шуневичевой, как же родной брат мой Тимофей умер беспотомно, не оставив ближайших наследников после себя, кроме меня, родной сестры своей, и после его должна получить наследство по закону жена его, вышедшая впоследствии времени в замужество за Ивана Андреева Корбута, вовсе нуждаго из недвижимого 8-ю, а из движимого 14-ю часть, а последнее все имущество я, просительница, с представлением метрических выписей, первую о смерти и погребении сказанного брата моего Тимофея Иванова Корбута, также и вторую о рождении и крещении моем...»[161]

Муж – Фама Уладзіміраў Тычына, дваранін засценка Залессе, 20 гадоў[162]. Шлюб 18.06.1850 г. святаром Мацвеем Шпілеўскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве.

115/61 **Цімафей,** нарадзіўся 21.02.1835 г., ахрышчаны 22.02.1835 г. святаром Мацвеем Іванавічам Шпілеўскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі засядацель Слуцкага земскага суда Канстанцін Уласавіч Сакалоў і жонка святара Мацвея Шпілеўскага Дарыя Сцяпанаўна[163]. 23.11.1856 г. разам з дваранкай Пелагеяй Мі-

хайлаўнай Шуневіч купіў у памешчыка Феафіла Маліноўскага 5 валок зямлі ў засценку Сялец Бабруйскага павета. Разам з Ганнай Іванаўнай Сеўрук быў хросным 27.12.1859 г. у Яўгеніі, дачкі Паўла Іосіфавіча і Лукіі Самуілаўны Корбутаў[164].

Памёр 01.03.1862 г. ад гарачкі, пахаваны 03.03.1862 г. святаром Глускай Уваскрэсенскай царквы Іаанам Смолічам[165].

Жонка – дваранка засценка Сялец Еўдакія Іосіфаўна Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 113/56), 18 гадоў. Шлюб 24.01.1860 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета, сведкі: з боку маладога – дваранін вёскі Забалацце Бабруйскага павета Фама Уладзіслававіч Тычына і Яўстафій Ляўкіеў Бараноўскі, з боку маладой – дваране засценка Сялец Міхаіл Грыгор'еў Цішкевіч і Адрыян Іосіфавіч Корбут[166]. Пасля смерці мужа выйшла замуж 22.04.1862 г. за двараніна засценка Сялец Івана Андрэева Корбута[167].

116/67 **Цімафей,** нарадзіўся 10.06.1868 г., ахрышчаны 16.06.1868 г. святаром Парыцкай Свята-Духавай царквы Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дзячок Парыцкай царквы Арцемій Шапко і дваранка Ганна Васільева Некрашэвіч[168]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[169].

117/67 **Іўсцін (Юсцініян),** нарадзіўся 01.06.1862 г., ахрышчаны 03.06.1862 г. святаром Феадорам Смолічам у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Дражня Іван Самуілаў Некрашэвіч і Ульянія Іосіфаўна Рудзінская, дзяўчына[170]. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка.

118/67 **Соф'я,** *1846 г. н. Разам з Паўлам Васільевічам Рудзінскім была хроснай 03.02.1864 г. у Сімяона[171], 30.09.1867 г. – у Іўсціны, дзяцей дваран засценка Дражня Івана Самуілавіча і Еўфрасініі Васільеўны Некрашэвічаў[172]. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічана да грамадзян г. Слуцка.

Муж – Пётр Уладзіміраў Плышэўскі, аднадворац сяла Загалле, першым шлюбам, 23 гады. Шлюб 01.06.1870 г. у Парыцкай Свята-Духавай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – аднадворац сяла Загалле Сцяпан Восіпаў Рудзінскі і аднадворац засценка Гарадзятыч Міхаіл Панцеляймонаў Сарыцкі, з боку маладой – мешчанін засценка Дражня Восіп Пятроў Корбут і Станіслаў Львоў Бараноўскі[173].

119/67 **Пелагія,** нарадзілася 03.05.1857 г., ахрышчана 05.05.1857 г. святаром у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Дражня Павел Самуілаў Некрашэвіч і жонка Іосіфа Рудзінскага Ганна Грыгор'ева[174].

120/67 **Мар'яна.** У 1869 г. пазначана ў саслоўі мяшчан г. Бабруйска. Разам з Фёдарам Максімавічам Некрашэвічам была хроснай 06.08.1869 г. у Стэфана, сына дваран Пятра Іванавіча і Ганны Данілаўны Корбутаў.

121/68 **Параскевія,** нарадзілася ў 1859 г. Памерла 13.09.1861 г. ад кашлю, пахавана 15.09.1861 г. святаром Парыцкай Свята-Духавай царквы Бабруйскага павета Феадорам Смолічам[175].

122/68 **Іаан,** нарадзіўся і ахрышчаны 05.06.1861 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Малінава Вікенцій Якаўлеў Статкевіч і Францішка Андрэева Забэла, дзяўчына[176]. Згодна з указам Сената

ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[177].

20.04.1913 г. адбыўся трацейскі суд па спрэчцы паміж Карафа-Корбутамі, Некрашэвічамі, Іванам Тычынам аб праве ўласнасці на 240 дзесяцін зямлі і аб выдзяленні Івану Віктаравічу Карафа-Корбуту маёмасці з агульнага непадзельнага валодання ў маёнтку Сялец Глускай воласці Бабруйскага павета, дзе Іван Максімавіч быў пасрэднікам у вырашэнні ўзніклай спрэчкі. Месца жыхарства – хутар Малінава Бабруйскага павета.

123/68 **Алена.** Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічана да грамадзян г. Слуцка.

124/68 **Антаніна,** нарадзілася 22.03.1858 г., ахрышчана 24.03.1858 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Малінава Вікенцій Якаўлеў Статкевіч і Францішка Андрэева Забэлава, дзяўчына[178]. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічана да грамадзян г. Слуцка.

125/68 **Еўфрасінія.** Жыла ў засценку Малінава.

Муж – дваранін засценка Малінава Мацвей Васільевіч Статкевіч (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 312/181), першым шлюбам, 33 гады. Шлюб 09.02.1864 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Сведкі: з боку маладога – дваране засценка Малінава Міхаіл Якаўлевіч Статкевіч і Максім Паўлавіч Плышэўскі, з боку маладой – Ануфрый Іванавіч Мажэйка і Васіль Фіафілактаў Плышэўскі[179].

126/68 **Сцяпан.** Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[180]. Разам з дваранамі, мяшчанамі і сялянамі купіў у падпалкоўніка Мікалая Сцяпанавіча Лупандзіна 32 дзесяціны зямлі ва ўрочышчы Ванячы Бабруйскага павета, аформіў здзелку 01.12.1906 г. у Бабруйскага натарыуса Аляксандра Ігнацьевіча Пастарнацкага: «Явились... лично мне известные и имеющие законную правоспособность к совершению актов отставной подполковник Николай Степанович Лупандин и дворяне Стефан Максимов Карафа-Корбут и Андрей Семенов Можейко, мещане Стефан Иеронимов Цвирко, Григорий Яковлев Батуревич, Василий Иосифов Соловей и крестьяне Андрей Яковлев Шарамет, Филипп Осипов Безручко, Дмитрий Антонов Соловей, Антон Августинов Скиндер и Игнатий Бенедиктов Щорс, живущие... Карафа-Корбут и Можейко в застенке Малинове... с объявлением, что они... совершают купчую крепость на следующих условиях: отставной подполковник Николай Степанович Лупандин... на правах собственности верителям его Владимиру, Анатолию, Вячеславу Киприяновичам Келчевским, Ольге Киприяновой-фон-Геллер и Евгении Киприяновой Крастилевской, урожденным Келчевским, и Леониду Васильеву Алиферовичу недвижимого имения Ксаверполь, Слободка, тоже состоящего Минской губернии Бобруйского уезда с общим количеством земли около тысячи десятин... продал он, Лупандин, дворянам Стефану Максимову Карафа-Корбуту и Андрею Семенову Можейко, мещанам Стефану Иеронимову Цвирко, Григорию Яковлеву Батуревичу, Василию Иосифову Соловью и крестьянам Андрею Яковлеву Шарамету, Филиппу Осипу Безручко, Дмитрию Антонову Соловью, Антону Августинову Скиндеру и Игнатию Бенедиктову Щорсу отдельный участок земли разного рода, принадле-

жащий к означенному имению и расположенный в урочище по местному названию "Вонячи" мерою тридцать две десятины, означенный участок земли продается в общее владение покупщиков при долевом праве: Антона Скиндера на пять десятин, Василия Соловья и Стефана Цвирко каждого на четыре десятины, Стефана Карафа-Корбута, Андрея Можейко, Андрея Шарамета, Григория Батуревича, Филиппа Безручко и Игнатия Щорса каждого на три десятины, а Дмитрия Соловья на одну десятину. А взял он, Лупандин, для своих доверителей от покупщиков за ту землю денег семь тысяч триста шестьдесят рублей с принятием расходов по совершению сего акта продавцами...»[181]

У 1916 г. жыў у засценку Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета.

Жонка – Соф'я Вікенцьеўна Сацкевіч-Статкевіч (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 323/182).

127/68 **Васіль.** Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Разам з дваранкай Дар'яй Яўстаф'еўнай Бараноўскай быў хросным 12.05.1885 г. у Алены, дачкі дваpaніна засценка Данілаўка Уладзіміра Паўлавіча і Агафіі Яўстаф'еўны Некрашэвічаў[182]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[183]. Разам з дваранамі Пятром Васільевічам, Дамеціем Паўлавічам, Аляксандрам Платонавічам Карафа-Корбутамі далі даверанасць 15.10.1887 г. двараніну Івану Грыгор'евічу Карафа-Корбуту на вядзенне справы аб далучэнні іх дзяцей да дваранскага роду Карафа-Корбутаў[184]. Жыў у засценку Малінава.

Жонка – Настасія Паўлаўна Некрашэвіч (гл. «Некрашэвічы» 99/69). Шлюб 22.01.1882 г. святаром Васілём Байковым у Парыцкай Свята-Духавай царкве. Сведкі: з боку маладога – дваране засценка Малінава Самуіл Андрэевіч Сыцько і Ігнацій Ануфрыевіч Мажэйка, з боку маладой – жыхары мястэчка Парычы дваранін Людвіг Дамброўскі і фальварка Данілаўка бамбардзір Уладзімір Паўлавіч Некрашэвіч.

128/68 **Марыя,** нарадзілася 24.03.1866 г., ахрышчана 25.03.1866 г. святаром Глускай Уваскрэсенскай царквы Іаанам Смолічам. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Малінава Вікенцій Якаўлеў Статкевіч і Еўфрасінія Андрэева Забэла, дзяўчына[185].

129/69 **Грыгорый,** нарадзіўся 24.01.1863 г., ахрышчаны 27.01.1863 г. святаром Парыцкай Свята-Духавай царквы Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Дражня Феадор Максімавіч Некрашэвіч і жонка Сцяпана Корбута Ксенія Лявонцьеўна[186]. Памёр 19.12.1863 г. ад кашлю, пахаваны 21.12.1863 г. святаром Парыцкай Свята-Духавай царквы[187].

130/69 **Еўдакія,** нарадзілася 05.03.1856 г., ахрышчана 07.03.1856 г. святаром Фёдарам Смолічам у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Дражня Феадор Міхайлаў Некрашэвіч і жонка Паўла Рудзінскага Таццяна Якаўлева[188].

131/69 **Параскевія.** Разам з мешчанінам засценка Маісееўка Юсцінам Сцяпанавічам Муравіцкім была хроснай 11.04.1882 г. у Ірыны, дачкі дваран засценка Маісееўка Іосіфа Пятровіча і Марфы Сцяпанаўны Карафа-Корбутаў[189].

132/69 **Іосіф.** Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Разам са Станіславам Львовічам Бараноўскім быў сведкам з боку маладой 01.06.1870 г. пры шлюбе Пятра Уладзіміравіча Пляшэўскага і Сафіі Сцяпанаўны Корбут[190]. Месца жыхарства – засценак

Маісееўка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[191].

Жонка – Марфа Сцяпанава Муравіцкая, мяшчанка засценка Маісееўка, першым шлюбам, 19 гадоў. Шлюб 25.05.1880 г. святаром Васілём Байковым у Парыцкай Свята-Духавай царкве. Сведкі: з боку маладога – дваране засценка Маісееўка Феадор Максімавіч Некрашэвіч і Яўстафій Лявонцьевіч Бараноўскі, з боку маладой – дваране засценка Маісееўка Яўстафій Сцяпанавіч Бржазоўскі і Аляксандр Фёдаравіч Некрашэвіч[192].

133/69 **Андрэй.**

134/69 **Парфірый,** нарадзіўся 23.02.1867 г., ахрышчаны 26.02.1867 г. святаром Іаанам Маскалевічам у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Дражня Фёдар Максімавіч Некрашэвіч і аднадворка Ганна Андрэеўна Рудзінская[193]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[194].

135/69 **Сцяпан,** нарадзіўся 04.08.1869 г., ахрышчаны 06.08.1869 г. святаром Аляксандрам Савічам у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Дражня Феадор Максімавіч Некрашэвіч і мяшчанка г. Бабруйска Марыя Сцяпанава Корбут[195]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[196].

136/69 **Анастасія,** нарадзілася 16.10.1864 г., ахрышчана 17.10.1864 г. святаром Антоніем Савічам у Парыцкай Свята-Духавай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Дражня Феадор Максімавіч Некрашэвіч і Ксенія Лявонцьеўна Корбутава[197]. Памерла 25.06.1867 г. ад гарачкі, пахавана 26.06.1867 г. святаром Парыцкай Свята-Духавай царквы Іаанам Маскалевічам[198].

137/69 **Антон.** Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[199].

138/70 **Соф'я,** нарадзілася 16.01.1866 г., ахрышчана 23.01.1866 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Хроснымі бацькамі былі грамадзянін засценка Малінава Васіль Андрэеў Сыцько і дваранка Марыя Андрэеўна Статкевіч[200].

139/70 **Пётр,** нарадзіўся 05.10.1857 г. У 1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[201]. Разам з дваранамі Васілём Максімавічам, Дамеціем Паўлавічам, Аляксандрам Платонавічам Карафа-Корбутамі даў даверанасць 15.10.1887 г. двараніну Івану Грыгор'евічу Карафа-Корбуту на вядзенне справы аб далучэнні іх дзяцей да дваранскага роду Карафа-Корбутаў[202].

25.09.1893 г. купіў у княгіні Марыі Львоўны Гагенлое-Шылінгфюрст 120 дзесяцін зямлі ў маёнтку Засмужжа. Разам з саўладальнікамі Карафа-Корбутамі, Сацкевічамі-Статкевічамі і іншымі ў 1899–1905 гг. вёў спрэчкі з сялянамі вёскі Абчын за права пасвіць жывёлу на зямлі вёскі Абчын. Быў 03.06.1907 г. у спісах выбаршчыкаў на выбарах у 4-ю Дзяржаўную Думу, нацыянальнасць – рускі, маёмасны цэнз – 120 дзесяцін зямлі ў Забалацкай воласці Бабруйскага павета[203]. У 1916 г.

жыў у засценку Засмужжа Забалацкай воласці Бабруйскага павета. Памёр 13.11.1918 г. Пахаваны ў Забалацці, захаваўся помнік.

Жонка – Еўдакія Грыгор'еўна.

140/70 **Грыгорый,** нарадзіўся (з двойні) і ахрышчаны 23.01.1860 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Малінава Міхаіл Якаўлевіч Статкевіч і Анэля Васільеўна Статкевіч, дзяўчына[204]. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[205]. Быў 03.06.1907 г. у спісах выбаршчыкаў на выбарах у 4-ю Дзяржаўную Думу, нацыянальнасць – рускі, маёмасны цэнз – 60 дзесяцін зямлі ў Глускай воласці Бабруйскага павета[206]. Даў даверанасць 15.01.1912 г. двараніну Іпаліту Фамічу Гадыцкаму-Цвірко на вядзенне справы аб далучэнні да дваранскага роду Карафа-Корбутаў сваіх сыноў Антона, Ільы і Сяргея[207].

20.04.1913 г. адбыўся трацейскі суд па спрэчцы паміж Карафа-Корбутамі, Некрашэвічамі, Іванам Тычынам аб праве ўласнасці на 240 дзесяцін зямлі і аб выдзяленні Івану Віктаравічу Карафа-Корбуту ўласнасці з агульнага непадзельнага валодання ў маёнтку Сялец Глускай воласці Бабруйскага павета, браў удзел Грыгорый Васільевіч Карафа-Корбут. У 1916 г. жыў у засценку Малінава Глускай воласці Бабруйскага павета.

Жонка – Аляксандра Іосіфаўна Забэла. 1868–1916 гг. (гл. «Забэлы І» 60/31). Пахавана ў вёсцы Клетнае Глускай воласці Бабруйскага павета, захаваўся помнік.

141/70 **Іаан,** нарадзіўся (з двойні) і ахрышчаны 23.01.1860 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі Васіль Андрэевіч Сыцько і Аляксандра Вікенцьеўна Статкевіч, дзяўчына[208]. Меў чын унтэр-афіцэра. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[209]. 19.10.1893 г. купіў у княгіні Марыі Львоўны Гагенлое-Шылінгфюрст 72,001 дзесяціны зямлі ў маёнтку Засмужжа.

Жонкі: 1. Елізавета Сямёнаўна Мажэйка; 2. (?).

142/70 **Ігнацій.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[210]. Быў 03.06.1907 г. у спісах выбаршчыкаў на выбарах у 4-ю Дзяржаўную Думу, нацыянальнасць – рускі, маёмасны цэнз – 60 дзесяцін зямлі ў Глускай воласці Бабруйскага павета[211].

Жонка – Марыя Статкевіч.

143/70 **Мікалай,** нарадзіўся і ахрышчаны 07.09.1871 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета[212]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[213]. Разам з жонкай двараніна Івана Вікенцьевіча Статкевіча Наталляй Васільеўнай быў хросным 27.08.1892 г. у Івана, сына Івана Васільевіча і Елізаветы Сямёнаўны Карафа-Корбутаў[214].

Жонка – Аляксандра Чарнецкая. Жыла ў фальварку Бубноўка Рудабельскай воласці Бабруйскага павета. Дзеці: Іосіф, Сяргей, Марыя (выйшла замуж за В. М. Лукашэвіча; дзеці: Тамара, Юрый).



15 Января 1912 г.

2

Милостивый Государь
Ипполитъ Осиповичъ! 128

Настоящимъ довѣренностью уполномачиваю и прошу Васъ принять на себя трудъ веденія дѣла нашего объ утвержденіи в потомственномъ дворянствѣ сыновей моихъ Антона, Илью и Сергѣя Григорьевыхъ Карафа-Корбутовъ, для чего Вы имѣете право ходатайствовать въ Дворянскихъ Депутатскихъ Собраніяхъ, Правительствующаго Сената, по Департаменту Герольдіи и другихъ мѣстахъ и должностныхъ лицъ, подавать куда и кому по ходу дѣла окажется нужнымъ всякого рода прошенія, заявленія и другія бумаги, получать справки, метрическія выписи, дворянскія свидѣтельства и иные документы, какія окажутся нужными къ дѣлу, вносить пошлинныя деньги на оплату дворянскихъ свидѣтельствъ и другихъ документовъ, и внесенныя пошлины получать обратно. Словомъ, предоставляю Вамъ по вышеприписанному предмету безограниченное ходатайство впредь до полученія надлежащихъ законныхъ свидѣтельствъ объ утвержденіи в дворянствѣ вышепоименованныхъ сыновей моихъ, и все, что Вы законно учините, я вѣрю, спорить и прекословить

3



небуду. Довѣренность эта принад-
лежит дворянину Ипполиту Фомичу
Гадыцкому-Цвирко. 1912: Января 15 дня.
Григорій Васильевичъ Карафа
Корбутъ

Собственноручную подпись Григорія
Васильева Карафа-Корбута Глусское
Волостное правленіе подписомъ и
приложеніемъ казенной печати сви-
дѣтельствуетъ Января 15 дня 1912 г.

ГЛУСКІЙ ВОЛОСТНОЙ СТАРШИНА

Волостной Писарь

Даверанасць (на 2 старонках) дваранiна Грыгорыя Васільевіча Карафа-Корбута ад 15.01.1912 г. паверанаму дваранiну Іпаліту Фамічу Гадыцкаму-Цвірко на вядзенне справы аб далучэнні да дваранскага роду яго сыноў Антона, Ілы і Сяргея. Грыгорый Васільевіч Карафа-Корбут – брат прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 140/70). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573, арк. 128–128 адв.*



Стаяць: Ілья Грыгор’евіч (злева) і Сяргей Грыгор’евіч, сядзяць: Антон Грыгор’евіч, Ніна – дачка Алены Грыгор’еўны, Грыгорый Васільевіч, Алена Грыгор’еўна Карафа-Корбуты. 1920 г. Грыгорый Васільевіч – брат Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут), прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Карафа-Корбуты І» 140/70).




Помнік на магіле Пятра Васільевіча Карафа-Корбута. Вёска Забалаць Любанскага раёна (гл. «Карафа-Корбуты I» 139/70). Пётр Васільевіч – брат прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут).

144/70 **Наталля.** Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічана да грамадзян г. Слуцка. Разам з Мікалаем Васільевічам Карафа-Корбутам была хроснай 27.08.1892 г. у Івана, сына Івана Васільевіча і Елізаветы Сямёнаўны Карафа-Корбутаў[215].

Дзеці: **Міхаіл,** Алена, Марыя, Соф'я, Вольга, Ганна, Еўфрасінія, Антаніна, Аляксандра. Пры далучэнні 18.11.1896 г. да дваранскага роду Сацкевічаў-Статкевічаў Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча пададзены выпіс з метрычнага пасведчання, выдадзенага Мінскай духоўнай кансісторыяй 07.02.1893 г. аб нараджэнні і хрышчэнні 23.10.1882 г. Міхаіла, сына Івана Вікенцьева Сацкевіча-Статкевіча і законнай яго жонкі Наталлі Васільеўны[216].

Згадваецца ў анкетах АДПУ БССР пры допытах сына Міхаіла, унука Івана. Пазначана ў спісе пазбаўленых выбарчых правоў 26.02.1930 г. па Рэчанскім сельсавеце Любанскага раёна пад № 39 – Статкевіч (Карафа-Корбут) Наталля Васільеўна, узрост 84 гады.

Муж – дваранін **Іван Вікенцьевіч Сацкевіч-Статкевіч** (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 321/182).

145/70 **Ганна.** Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічана да грамадзян г. Слуцка. Разам з Васілём Андрэевічам Сыцько была хроснай 16.03.1875 г. у Сафронія, сына мешчаніна засценка Малінава Назарыя Сцяпанавіча і Разаліі Васільеўны Сыцько[217]. Жыла ў засценку Андрэеўка Рудабельскай воласці Бабруйскага павета.

Муж – Ігнат Більдзюкевіч.

Дзеці: 1. Леў.

2. Лука, памёр у ссылцы на Далёкім Усходзе, ад першай жонкі сын Вячаслаў, другая жонка – Ганна Булат, сын Міхаіл, жыў у г. Стоўбцы.

3. Грыгорый, 1890–1950 гг. У час Першай сусветнай вайны стаў Георгіеўскім кавалерам. Залаты Георгіеўскі Крыж атрымаў з рук імператрыцы Аляксандры Фёдараўны. Па прыгаворах АДПУ правёў у лагерах 20 гадоў. Жонка – Варвара Васільеўна Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 225/127).

Дзеці: 1. Клаўдзія, нар. 30.01.1924 г. У час Вялікай Айчыннай вайны за сувязь з партызанамі разам з братам Барысам была адпраўлена ў Германію ў Гемейнштатлагер у г. Гётынген, дзе знаходзілася два гады. Дачка Таццяна, 1948 г. н., закончыла Віцебскі педагагічны інстытут, муж Міхаіл Сакоўскі, унучка Юлія, 1972 г. н., закончыла Віцебскі медыцынскі інстытут, праўнук Яўгеній, нар. 01.02.1993 г., жыве ў г. Віцебску; дачка Ганна, нар. 06.01.1952 г., жыве ў Галівудзе, ЗША, муж Ліпатаў, унук Міхаіл, нар. 22.08.1973 г., праўнук Сцівен, нар. 14.02.2003 г., жыве ў Ізраілі; 2. Людміла, 1920 г. н., муж Лабовіч, прапалі без вестак у час Вялікай Айчыннай вайны; 3. Барыс, 1926–2008 гг., дзеці Людміла, Валерый, Уладзімір, Таццяна. Жыў у пасёлку Заборава Курскай вобласці.

4. Еваліна, муж Альфрэд-Геранім Камашынскі. Дзеці: Алена (сын Уладзімір жыве ў г. Нальчыку), Яніна, Соф'я (муж Пагойскі, сын Уладзімір жыве ў г. Вільнюсе).

5. Алена, мужы: Маеўскі, Бялькевіч.

6. Марфа.

7. Аляксандра.

146/70 **Іосіф,** нарадзіўся 11.09.1863 г., ахрышчаны 14.09.1863 г. святаром Іаанам Смолічам у Глускай Уваскрэсенскай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Малінава Васіль Андрэеў Сыцько і Аляксандра Вікенцьева Статкевіч, дзяўчына[218]. Згодна з указам Сената ад 28.11.1867 г. залічаны да грамадзян г. Слуцка.

147/73 **Яфрэм,** нарадзіўся ў 1832 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэ-



Ганна Васільеўна Більдзюкевіч (Карафа-Корбут; 2-я справа) і яе сям'я. 1920-я гг.
Ганна Васільеўна – сястра прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты I» 145/70).

путацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. залічаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1874 г. ён з пляменнікамі залічаны да Забалацкай воласці (акрамя жонкі Мар'і і сына Міхаіла).

Жонка – Мар'я.

148/73 **Сцяпан,** нарадзіўся 26.02.1826 г. Праваслаўны.

Жонка – Пелагія.

149/73 **Кацярына.**

150/73 **Рэгіна.**

151/74 **Тэадора.**

152/74 **Віктар,** нарадзіўся 11.11.1819 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да сялян Старобінскай воласці. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. (*НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573, арк. 416–436*) і 15.11.1878 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената ад 30.06.1879 г., № 2019[219]. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

Жонка – Фядора Феліцыянава (Філіпаўна) Смольская.

153/74 **Іван,** нарадзіўся ў 1835 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да сялян Старобінскай воласці. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. (*НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573, арк. 416–436*) і 15.11.1878 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената ад 30.06.1879 г., № 2019[220]. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады. Памёр да 1878 г.

Жонка – Таццяна (Феафіла) Аляксандраўна Шулякоўская, нарадзілася 12.08.1831 г.

154/74 **Глікерыя.**

155/74 **Ірына.**

156/75 **Віктар,** нарадзіўся 11.11.1829 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. яго сям'я залічана да Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[221]. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.05.1876 г.

Жонка – Аляксандра Пятроўна Чарнышэвіч.

157/75 **Ксенія.**



Еваліна Ігнацьеўна Камашынская (Більдзюкевіч), дачка Ганны Васільеўны, сястры прабабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Наталлі Васільеўны Сацкевіч-Статкевіч. 1930 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 145/70).



Адзін са студэнтаў – дваюрадны брат Еваліны Ігнацьеўны Камашынскай (Більдзюкевіч). 1914 г.

158/76 **Ганна,** *1861 г. н. Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісана ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічана да сялян Старобінскай воласці. Жыла ў засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

159/76 **Антон,** нарадзіўся 03.08.1859 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да сялян Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

160/76 **Сцяпан.** У 1869 г. залічаны да аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

161/77 **Пелагія (Тэрэза).** У 1869 г. залічана да аднадворцаў Старобінскай воласці Слуцкага павета. Жыла ў засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

162/77 **Тэрэза.** У 1869 г. залічана да аднадворцаў Старобінскай воласці Слуцкага павета. Жыла ў засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

163/77 **Іван,** нарадзіўся 14.07.1850 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

164/77 **Ілья,** 1857 г. н. Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да сялян Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

165/77 **Фама,** нарадзіўся 05.08.1852 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да сялян Старобінскай воласці.

166/77 **Сцяпан,** *1860 г. н. Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да сялян Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

167/82 **Соф'я.**

168/82 **Фёдар.**

169/82 **Анастасія.** Жыла ў засценку Балоцічы, была прыхаджанкай Прускай Раство-Багародзіцкай царквы. Разам з Георгіем Дзям'янавічам Кернажыцкім была хроснай 20.09.1860 г. у Міхаіла[222], 05.03.1867 г. – у Паўла[223], сыноў Герасіма Грыгор'евіча і Петрунелі Людвігаўны.

170/82 **Лявон,** нарадзіўся 15.06.1831 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 і 1872 гг. залічаны да Чапліцкай воласці Слуцкага павета.

171/82 **Іван,** нарадзіўся 26.09.1821 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 28.09.1821 г. святаром Іосіфам Міцкевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Балоцічы Іосіф Амбражэвіч (каталік) і жонка Іосіфа Сухоцкага Ірына Паўлаўна (? Васільеўна; праваслаўная)[224]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 і 1872 гг. залічаны да Чапліцкай воласці Слуцкага павета. Разам з Парфірыем Васільевічам Шуляковскім быў сведкам з боку маладога пры шлюбе Міхаіла Геранімавіча Корбута і Еўфрасініі Сцяпанаўны Валатковіч[225]. Памёр 09.11.1895 г. ад старасці, пахаваны 11.11.1895 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[226].

Жонка – Таццяна (Феафіла) Міхайлаўна.

172/82 **Герасім (Геранім, Іеранім),** нарадзіўся 03.03.1826 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 04.03.1826 г. святаром Іосіфам Міцкевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхар засценка Балоцічы Іосіф Амбражэвіч (каталік) і жонка Іосіфа Сухоцкага Ірына Паўлаўна (? Васільеўна; праваслаўная)[227]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 і 1872 гг. залічаны да Чапліцкай воласці Слуцкага павета. Разам з Еўдакіяй Васільеўнай Некрашэвіч быў хросным 29.06.1869 г. у Пятра, сына Цімафея Грыгор'евіча і Агафіі Грыгор'еўны Корбутаў[228].

Жонка – Петрунеля Людвігаўна.

173/82 **Цімафей,** нарадзіўся 21.02.1835 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 21.02.1835 г. святаром Іосіфам Косміным Журакоўскім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Балоцічы Мацвей Дзям'янаў Кернажыцкі і жонка Фёдара Гаўрылава Кернажыцкага Дарыя Мікалаеўна[229]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 і 1872 гг. залічаны да Чапліцкай воласці Слуцкага павета.

Жонка – Агафія Грыгор'еўна. Разам з Іванам Гаўрылавічам Яблонскім была хроснай 26.10.1886 г. у Марыі, дачкі Андрэя Лявонцьевіча і Фёклы Корбутаў[230].

174/87 **Іван,** *1816 г. н. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

175/88 **Іван,** нарадзіўся 27.01.1835 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да аднадворцаў Старобінскай воласці. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г.[231] і 12.05.1877 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.05.1876 г. і меў пасведчанне Сената ад 14.06.1877 г. Жыў у вёсцы Заўшыцы Слуцкага павета. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Церабехаў на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 411 адв. – 412.*

Атрымаў даверанасць 15.10.1887 г. ад дваран Васіля Максімавіча, Пятра Васільевіча, Дамеція Паўлавіча, Аляксандра Платонавіча Карафа-Корбутаў на вядзенне справы аб далучэнні іх дзяцей да дваранскага роду Карафа-Корбутаў[232]. У 1888 г. арандаваў 5 валок зямлі ў засценку Сялец у Пятра Іванавіча Сеўрука[233]. У 1893 г. жыў у засценку Засмужжа Бабруйскага павета, меў 100 дзесяцін уласнай зямлі. Памёр 21.03.1910 г. «по старости», пахаваны 22.03.1910 г. святаром Забалацкай царквы[234]. Пахаваны на могілках вёскі Забалацце Забалацкай воласці Бабруйскага павета (цяпер вёска Забалаць Юшкавіцкага сельсавета Любанскага раёна), захаваўся помнік.

Жонка – Караліна Ксавер'еўна С у ш ч э в і ч. У 1869 г. залічана да аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыла ў вёсцы Заўшыцы.

176/88 **Іосіф,** нарадзіўся 23.09.1826 г., ахрышчаны [25].09.1826 г. святаром Навумам Міньковічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Касынічы Матфей Сеўрук і жонка Феадора Корзуна Алена Іванаўна[235]. У 1835 г. разам з бацькамі жыў у засценку Касынічы на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 218, арк. 181 адв.*

У 1907 г. арандаваў маёнтак Заўшыцы. 27.10.1907 г. па рашэнні Старобінскага валаснога суда спагнаў з селяніна Каленіка Вайтовіча 4 рублі за патраву канюшыны коньмі.

177/88 **Цімафей,** нарадзіўся 21.01.1839 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

У 1869 г. залічаны да аднадворцаў Старобінскай воласці. Месца жыхарства – вёска Заўшыцы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[236]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Церабехаў на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 417 адв. – 418.*

Памёр 08.04.1891 г. ад сухотаў, пахаваны 10.04.1891 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[237].

Жонка – Усціна Якаўлеўна К о р б у т, *1843 г. н. У 1869 г. залічана да аднадворцаў Старобінскай воласці. Месца жыхарства – вёска Заўшыцы. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Церабехаў на арэнднай зямлі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 417 адв. – 418*), 1893 г. – на хутары Пясчанка Вызнянскай воласці на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 333.*

178/94 **Мікалай,** нарадзіўся і ахрышчаны 06.12.1867 г. святаром Сімяонам Падольскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі




Помнік на магіле Івана Грыгор'евіча Карафа-Корбута. Вёска Забалаць Любанскага раёна (гл. «Карафа-Корбуты І» 175/88).

бацькамі былі дваране засценка Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета Захарый Якаўлеў Тычына і Параскевія Старжынская, дзяўчына[238]. Памёр 27.02.1868 г. «с родимца», пахаваны 29.02.1868 г. святаром Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Сімяонам Падольскім[239].

179/94 **Аляксандр,** нарадзіўся ў засценку Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета, ахрышчаны 22.11.1852 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г.[240], 12.05.1877 г. і 05.04.1888 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.07.1888 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. У 1887 г. жыў у засценку Сяльцы, у 1893 г. – у засценку Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета на чыншавай зямлі князя Гагенлоэ. Разам з Іўсцінай Іванаўнай Рудзінскай быў хросным 10.07.1883 г. у Антаніны[241], з Іўсцінай Васільеўнай Ждановіч-Гурыновіч 24.08.1886 г. – у Ціта[242], з Соф'яй Васільеўнай Ждановіч-Гурыновіч 28.01.1890 г. – у Ганны[243], дзяцей Івана Якаўлевіча і Параскевіі Паўлаўны Ждановічаў-Гурыновічаў. Разам з аднадворцам вёскі Трайчаны Антонам Сцяпанавічам Бранавіцкім быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 04.06.1886 г. Амвросія Андрэевіча Корбута і Акуліны Анісімаўны Рэут[244], з аднадворцам засценка Кутнева Барысам Якаўлевічам Наруцкім 29.06.1886 г. – пры шлюбе Гаўрыіла Філіпавіча Некрашэвіча і Глікерыі Паўлаўны Ждановіч-Гурыновіч[245].

Разам з дваранамі Васілём Максімавічам, Дамеціем Паўлавічам, Пятром Васільевічам Карафа-Корбутамі даў даверанасць 15.10.1887 г. дтвараніну Івану Грыгор'евічу Карафа-Корбуту на вядзенне справы аб далучэнні іх дзяцей да дваранскага роду Карафа-Корбутаў[246].

У мінскага натарыуса Галіневіча 25.09.1893 г. за № 1762 афармлена купчая крэпасць, па якой княгіня Марыя Львоўна Гагенлоэ-Шылінгфюрст прадала дваранам «...**Ивану Викентьеву Сацкевичу-Стецкевичу,** Петру Васильеву и **Александру Платонову Карафа-Корбутам,** Григорию и Захарию Яковлевым Тычино, Иосифу Феодорову Кунцевичу, Василию и Гавриилу Ивановым и Григорию Павлову Барановским, Юстину Неофитову Рудзинскому, крестьянам Карпу, Иосифу, Василию, Фадею и Константину Григорьевым Шуневичам, Ивану первому, Василию, Антону, Поликарпу и Ивану второму Степановым Михневичам, Валериану, Андрею и Степану Трофимовым Михневичам, Евгению, Федору и Ивану Ивановым Зубовичам, Моисею Лукьянову Босяку, Авраму Степанову Мартиновичу и Роману Григорьеву Ляпко в общее их владение вышеозначенное имение Засмуже, заключающее в себе разного рода земли 964,75 десят., корчемный участок в деревне Речень, мерою 15,70 десятин, корчемный участок в деревне Обчин, мерою 13,31 десятин и из вышеозначенного имения Домброво 1028,25 десятин земли под лесом, расположенной смежно с имением Засмуже с южной стороны его, а всего вообще разного рода земли две тысячи двадцать две и одна сотая десят., с переводом на вышеозначенных покупщиков долга банку по ссуде в тридцать тысяч рублей, которого к 1 января 1894 г. состоит в остатке двадцать девять тысяч восемьсот два рублей девяносто коп., но с тем, что весь лес, находящийся на проданной земле, не может быть продаваем без разрешения означенного банка как составляющий обеспечение долга тому банку в тридцать тысяч рублей, почему и запрещение должно считаться от имени их вышепоименованных покупщиков»[247].



30. 18. Женихъ, Застенка Кутнева Дворянинъ Александръ Платоновъ Корбутъ, Исповѣданія Православнаго; первымъ бракомъ 22. Невѣста, Застенка Кутнева Однодворная Марія Неофитова Рудзинская Исповѣданія Православнаго; первымъ бракомъ

Священникъ Владимиръ Прорвичъ
Діаконъ Онуфрій Могулевскій.



Священникъ Владимиръ Прорвичъ съ діакономъ Онуфріемъ Могулевскимъ.

по жениху: Застенка Кутнева Дворяне Захарія Іановлевъ Тычина и Іосифъ Феодоровъ Куцевичъ. по невѣстѣ: Застенка Кутнева Дворянинъ Симеонъ Іановлевъ Севрукъ и Однодворецъ Матвѣй Ивановъ Игуновичъ

Метрычная кніга Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета. Запіс аб шлюбе 18.03.1879 г. двараніна засценка Кутнева Аляксандра Платонавіча Корбута, 22 гадоў, і Марыі Неафітаўны Рудзінскай, 22 гадоў. Аляксандр Платонавіч Карафа-Корбут – прадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава, Марыя Неафітаўна Рудзінская – прабабуля (гл. «Карафа-Корбуты І» 179/94).
*НГАБ, ф. 136, воп. 13, спр. 139, арк. 202 адв. – 203.*

Аляксандр Платонавіч купіў 100 дзесяцін зямлі. Разам з іншымі саўладальнікамі быў запрошаны 13.03.1899 г. у Забалацкае валасное праўленне для зацвярджэння адмежавання сялянскага надзелу вёскі Абчын[248]. Мінскае губернскае праўленне 20.09.1903 г. пастанавіла дазволіць сялянам вёскі Абчын пасвіць жывёлу на землях дваран. У ліку 22 саўладальнікаў маёнтка Засмужжа падаў прашэнне ва Урадавы сенат і ў Мінскае губернскае праўленне і «обжаловали в срок постановление»[249]. Грамада сялян вёскі Абчын Рэчанскага сельскага таварыства Забалацкай воласці Бабруйскага павета звярнулася ў Мінскі акруговы суд супраць дваран Івана Грыгор'евіча, Пятра Васільевіча, Аляксандра Платонавіча Карафа-Корбутаў, Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча, Грыгорыя Якаўлевіча Тычыны, Усціна Неафітавіча Рудзінскага і іншых аб парушэнні сервітутнай пасьбы жывёлы, 03.11.1903 г. справа была спынена ў сувязі са смерцю аднаго з адказчыкаў – Грыгорыя Якаўлевіча Тычыны[250].

Памёр 12.09.1904 г. ад запалення лёгкіх, пахаваны 13.09.1904 г. святаром Яроміцкай Успенскай царквы[251] побач з жонкай Марыяй Неафітавай (Рудзінскай) на Забалацкіх могілках Бабруйскага павета, захаваліся помнікі.

Жонка – дваранка засценка Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета **Марыя Неафітава Рудзінская** (гл. «Рудзінскія» 73/40), 22 гады, першым шлюбам. Шлюб 18.05.1879 г. святаром Уладзімірам Прорвічам у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Сведкі: з боку маладога – дваране Захарый Якаўлевіч Тычына і Іосіф Фёдаравіч Кунцэвіч, з боку маладой – дваранін засценка Кутнева Сімяон Якаўлевіч Сеўрук і аднадворац Мацвей Іванавіч Гурыновіч[252]. Разам з Андроніем Фёдаравічам Кунцэвічам была хроснай 24.06.1879 г. у Вольгі[253], з Іванам Іванавічам Сеўрукам 02.12.1884 г. – у Варвары[254], дачок Іўсціна Неафітава і Антаніны Ксаверыеўны Рудзінскіх.

180/99 **Фёдар,** нарадзіўся і ахрышчаны 08.06.1804 г. святаром Іосіфам Ляшэвічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары вёскі Селішчы Сямён Пяцко і вёскі Квасынічы Параскевія, жонка Івана Вароны[255]. Жыў у засценку Касынічы. Разам з Іванам Сцяпанавічам Корбутам быў сведкам з боку маладой 01.06.1854 г. пры шлюбе Калістрата Іосіфавіча Корбута і Параскевіі Аляксандраўны Корбут[256]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Жонка – Фядора Андрэеўна Бранавіцкая. Разам з Сільвестрам Нікадзімавічам Забродскім была хроснай 16.03.1840 г. у Венядзікта, сына Пятра Сцяпанавіча і Марыі Лук'янаўны Корбутаў[257], 22.10.1840 г. – у Андрэя, сына Івана Сцяпанавіча і Алены Іванаўны Корбутаў[258].

181/99 **Пётр,** *1814 г. н. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета.

Жонка – Марыя, дачка шляхціча вёскі Квасынічы Лукі Філімонавіча Забродскага, 17 гадоў. Шлюб 27.05.1835 г. святаром Паўлам Кірылавічам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога і маладой жыхары вёскі Квасынічы Мікалай Якаўлевіч Шулякоўскі і Іосіф Іванавіч Турчыновіч[259].



Карафа-Корбутовъ

1888 года Апреля 5 дня. По указу Его Императорскаго Величества въ Минскомъ Дворянскомъ Депутатскомъ Собраніи слушали: прошеніе дворянина Ивана Григорьева Карафа-Корбута, полученное 14 Марта сего года, при которомъ представлялъ: а, довѣренность, выданную Ивану Григорьеву Карафа-Корбуту дворянами Василіемъ Максимовымъ, Петромъ Васильевымъ, Деметріемъ Павловымъ и Александромъ Платоновымъ Карафа-Корбутами, явленную въ конторѣ Минского Нотаріуса 1887 года 15 Октября подъ № 2966, на ходатайство о сопричисленіи сыновей вѣрителей, б, метрическія свидѣтельства, выданныя изъ Минской Духовной Консисторіи о рожденіи и крещеніи 1885 года Мая 7/11 Николая и 1887 года Іюня 27/28 Петра, сыновей Деметрія Павлова и Маріи Пантелеймоновой; 1884 года Мая 22 Николая, сына Василія Максимова и Настасіи Павловой, 1884 года Октября 7/11 Василія, сына Петра Васильева и Евдокіи Григорьевой; 1885 года Іюля 27/28 Александра, сына Ивана Григорьева и Каролины Ксаверьевой и 1885 года Ноября 26/27 Георгія, сына Александра Платонова и Маріи Неофитовой, Карафа-Корбутовъ, законныхъ супруговъ; в, свидѣтельство Минской Казенной Палаты отъ 4 Ноября 1887 года за № 2441, выданное о томъ, что Александръ Ивановъ, Николай и Петръ Деметріевы, Николай Васильевъ, Василій Петровъ и Григорій Александровъ Карафа-Корбуты по …

Пастанова Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу аб зацвярджэнні ў дваранстве Аляксандра Платонавіча Карафа-Корбута, яго сына Георгія і іншых прадстаўнікоў роду (на 3 старонках). Аляксандр Платонавіч Карафа-Корбут – прадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Карафа-Корбуты I» 179/94, 280/179). *НГАБ, ф. 319, воп. 2, спр. 1573, арк. 161–162.*



ских: Губернскаго Предводителя Дворянства и Губернатора от [illegible] Декабря 1887 года за № [illegible], выданное в том, что Иван Григорьев, Доментий Павлов, Александр Платонов, Василий Максимов и Петр Васильев Карафы-Корбуты не лишены [illegible] прав состояния, силою закона, за уголовныя и политическия преступления и не состоят ныне под судом, д. копии с вышеописанных документов и е. квитанцию Минскаго Губернскаго Казначейства за № 16810 на шестьдесят рублей пошлины, просит Собрание учинить постановление о сопричислении поименованных сыновей просителей его к роду Карафов-Корбутов, утвержденному в дворянстве указом Департамента Герольдии, от 20 Июня 1877 года за № 2048 и дело это представить на утверждение Департамента Герольдии. Справка: род Карафы-Корбутов, а в том числе Доментий, сын Павла Иосифова, Василий, сын Максима Иванова, Петр, сын Василия Иванова, Александр, сын Платона Самуилова и Иван, сын Григория Иванова Карафы-Корбуты, на основании определений сего Собрания 20 Января 1816 года, 21 Января и 7 Февраля 1833 года, 12 Февраля 1835 года, 7 Февраля 1863 года и 15 Ноября 18[illegible] года состоявшихся, утверждены в дворянстве, с внесением в первую часть дворянской родословной книги Высочайшим повелением, изъясненным в указе Правительствующаго Сената, от 20 Июня 1877 года за № 2048. Определили: так как законное происхождение от Доментия Павлова сыновей Николая и Петра, от Василия Максимова — Николая, от Петра Васильева — Василия, от Ивана Григорьева — Александра и от Александра Платонова Георгия Карафы-Корбутов подтверждается метрическими о их рождении и крещении свидетельствами, выданными Минской Духовной Консисторией, с надписью в подлинном сословии сопричисляющихся и о неподсудности отцов



162

...удостовѣряютъ Свидѣтельства Минскихъ Казенной Па-
латы, Губернскаго Предводителя Дворянства и Губернатора,
...Депутатское Собраніе, основываясь на представленныхъ доку-
ментахъ и руководствуясь 57 и 284 ст. и прилож. къ 69 ст. прим. 2
... Св. Зак. и сост. изд. 1876 г., постановляетъ: малолѣтнихъ
Николая и Петра, сыновей Доментія Павлова, Николая,
сына Василія Максимова, Василія, сына Петра Ва-
сильева, Александра, сына Ивана Григорьева и Георгія, сына
Александра Платонова, Карафа-Корбутовъ сопричи-
слить къ дворянскому роду ихъ Карафа-Корбутовъ, ут-
вержденному въ дворянствѣ вышеприведенными указами
Правительствующаго Сената, со внесеніемъ въ туже первую
часть дворянской родословной книги Минской Губерніи. Ко-
пію сего опредѣленія съ подлинными въ составѣ онаго доку-
ментами, копіями онаго, родословною и квитанцію Казна-
чейства за № 16810 на 60 рублей представить въ Прави-
тельствующій Сенатъ по Департаменту Герольдіи на
разсмотрѣніе и утвержденіе.

Минскій Губернскій
Предводитель Дворянства [подпись]
Депутатъ Дворянства [подпись]
Депутатъ Дворянства [подпись]
Депутатъ [подпись]
Депутатъ [подпись]
Депутатъ [подпись]
Депутатъ [подпись]
Депутатъ [подпись]



Выпіс з метрычнай кнігі Яроміцкай Успенскай царквы Бабруйскага павета ад 28.11.1905 г. аб памерлых за 1904 г., дзе пад № 51 значыцца, што 12.09.1904 г. памёр дваранін в. Засмужжа Аляксандр Корбут, 47 гадоў, ад запалення лёгкіх. Аляксандр Платонавіч Карафа-Корбут – прадзед Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Карафа-Корбуты І» 179/94). *НГАБ, ф. 191, воп. 1, спр. 135.*



МУЖЕСКІЙ ПОЛЪ — Имя, отчество и фамилія

1. Карафа-Корбутъ Александръ Платоновъ

Сынъ его Георгій

ЖЕНСКІЙ ПОЛЪ — Имя, отчество и лѣта отъ роду или же по метрикѣ когда родилась

Жена его, Марія Неофитовна, урожденная Рудзинская

Дочери его: Анна – 17 лѣтъ, Татіяна – 9 лѣтъ, Юстина – 5 лѣтъ, Евдокія – 1 года

Пасямейны спіс дваран Слуцкага павета ад 1893 г. Пад № 662 сям’я прадзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Аляксандра Платонавіча Карафа-Корбута. Яго жонка Марыя Неафітаўна [Рудзінская], сын Георгій, дочкі Ганна, Таццяна [Хартановіч], Усцiння [Лазоўская], Еўдакія [Левановіч]. У спісе няма яго дачкі Марыі (бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава), бо яна нарадзілася пазней, у 1898 г. У дакуменце ёсць тлумачэнне: «Аляксандр [Платонаў Карафа-Корбут], Найвышэйшым загадам, які адбыўся 12 мая 1887 г., пацверджаны ў першабытнай продкаў яго дваранскай годнасці, паводле вызначэння Урадавага Сената 11 мая 1876 г. Пасведчанне Дэпартамента Герольдыі ад 14 ліпеня 1877 г. за № 102. Сын яго Георгій далучаны да роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага Дэпутацкага сходу 5 красавіка 1888 г., зацверджанай пастановай Урадавага Сената 23 чэрвеня 1888 г. Пасведчанне Дэпартамента Герольдыі ад 11 ліпеня 1888 г. за № 115». Месца жыхарства – засценак Кутнева.
*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 325–325 адв.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета, у 1869 г. залічаны да аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыў у засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні [356]. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.05.1876 г.

Жонка – Елізавета Стэфанаўна Кулакоўская, нарадзілася 29.08.1857 г.

253/156 **Алена.** У 1869 г. залічана да аднадворцаў Старобінскай воласці, у 1879 г. зацверджана ў дваранстве. Жыла ў засценку Кулакі Чыжэвіцкай сельскай грамады.

254/156 **Васіль,** нарадзіўся 29.01.1868 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні [357]. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.05.1876 г.

255/170 **Андрэй.** Жыў у засценку Балоцічы. Разам з Ігнаціем Іванавічам Корбутам быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 19.09.1893 г. Ануфрыя Афанасьевіча Баркоўскага і Марыі Мацвееўны Корбут[358]. Разам з Вольгай Фёдараўнай Кернажыцкай быў хросным 08.11.1906 г. у Міхаіла, сына Ігнація Іванавіча і Еўдакіі Іванаўны Корбутаў[359]. Памёр 27.07.1908 г. ва ўзросце 43 гадоў ад тыфу, пахаваны 28.07.1908 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Іаанам Кульчыцкім[360].

Жонка – Фёкла Паўлаўна, памерла 30.12.1902 г. ва ўзросце 37 гадоў ад сухотаў, пахавана 31.12.1902 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[361].

256/170 **Грыгорый.**

257/171 **Ігнацій,** нарадзіўся 19.12.1860 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 20.12.1860 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве, хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Георгій Дзям'янаў Кернажыцкі і дачка Антонія Амбражэвіча Таццяна, дзяўчына[362]. Разам з Параскевіяй Грыгор'еўнай Кернажыцкай быў хросным 10.02.1880 г. у Нікіфара[363], 19.11.1880 г. – у Кацярыны[364], 22.10.1881 г. – у Евы[365], з Ганнай Ігнацьеўнай Бялькевіч 08.06.1886 г. – у Агрыпіны[366], дзяцей Мацвея Грыгор'евіча і Агафіі Грыгор'еўны Корбутаў. З Андрэем Корбутам быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 19.09.1893 г. Ануфрыя Афанасьевіча Баркоўскага і Марыі Мацвееўны Корбут[367]. У 1872 г. залічаны да аднадворцаў Чапліцкай воласці Слуцкага павета.

Жонка – Еўдакія Іванаўна.

258/171 **Грыгорый,** *1869 г. н. У 1872 г. залічаны да аднадворцаў Чапліцкай воласці Слуцкага павета.

259/171 **Матрона,** *1866 г. н. У 1872 г. залічана да аднадворцаў Чапліцкай воласці Слуцкага павета.

260/172 **Міхаіл,** нарадзіўся 19.09.1860 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 20.09.1860 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Георгій Дзям'янаў Кернажыцкі і дачка Грыгорыя Аляксандравіча Корбута Анастасія, дзяўчына[368]. У 1872 г. залічаны да аднадворцаў Чапліцкай воласці Слуцкага павета. Разам з Іванам Гаўрылавічам Яблонскім быў сведкам з боку маладога пры шлюбе 26.04.1892 г. Паўла Герасімавіча Корбута і Марыі Фларыянаўны Вечар[369]. Разам з Аляксандрай Грыгор'еўнай Карповіч быў хросным 23.11.1893 г. у Вольгі, дачкі Івана Грыгор'евіча і Сцепаніды Сцяпанаўны Кернажыцкіх[370]. У 1915 г. валодаў зямлёй у засценку Балоцічы: дваровай – 16 961 сажняў, пад грэчку –

9 дзесяцін 68 сажняў, сенакоснай на балоце – 1 дзесяціна 342 сажні; плаціў дзяржаўны падатак – 2 рублі 45 кап.

Жонка – Еўфрасіння Сцяпанава Валаткович, аднадворка засценка Балоцічы. Шлюб 29.06.1881 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Сведкі: з боку маладога – аднадворцы засценка Балоцічы Іван Грыгор'еў Корбут і Парфірый Васільеў Шулякоўскі, з боку маладой – Міхаіл Сцяпанаў Валаткович і Станіслаў Антонаў Татур[371].

Разам з Іванам Гаўрылавічам Яблонскім была хроснай 07.05.1889 г. у Аляксандра[372], 13.01.1891 г. – у Міхаіла[373], дзяцей Андрэя Лявонавіча і Фёклы Паўлаўны Карафа-Корбутаў, з Максімам Іванавічам Бялькевічам 13.08.1887 г. – у Іўсціна[374], з Гаўрылам Іванавічам Бялькевічам 15.05.1889 г. – у Івана[375], з Міхаілам Іванавічам Бялькевічам 28.07.1891 г. – у Алены[376], дзяцей Ігнація Іванавіча і Еўдакіі Іванаўны Корбутаў, з Платонам Антонавічам Бялькевічам, Міхаілам Паўлавічам Кернажыцкім, Фядорай Мікалаеўнай Кернажыцкай, Сямёнам Міхайлавічам Пятровічам і Еўфрасініяй Максімаўнай Ганчар 07.05.1893 г. – у блізнят Івана і Аляксандры[377], з Міхаілам Паўлавічам Кернажыцкім 14.01.1896 г. – у Антонія[378], 24.04.1898 г. – у Георгія[379], дзяцей Паўла Герасімавіча і Марыі Фролаўны Корбутаў, 28.11.1900 г. – у Іосіфа[380], сына Паўла Герасімавіча і Аляксандры Пятроўны Корбутаў, з Іванам Міхаілавічам Кернажыцкім 10.02.1903 г. – у Ганны[381], 15.02.1904 г. – у Марыі[382], дачок Паўла Герасімавіча і Аляксандры Пятроўны Корбутаў.

261/172 **Георгій,** нарадзіўся 23.04.1872 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 23.04.1872 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Іван Грыгор'евіч Кернажыцкі і жонка Іосіфа Бранавіцкага Настасія Георгіеўна[383]. Меў чын унтэр-афіцэра.

Жонка – Анастасія Міхайлава Іскрыцкая, сялянка засценка Вялікая Мліна, 24 гады. Шлюб 30.05.1899 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Сведкі: з боку маладога – сяляне засценка Балоцічы Парфірый Васільеў Шулякоўскі і Пётр Мацвееў Корбут, з боку маладой – дваране засценка Мліны Андрэй Нікіфараў Бараноўскі і Нікіфар Фёдараў Бараноўскі[384]. Разам з Ніканорам Міхайлавічам Берасневічам была хроснай 28.10.1901 г. у Аляксандры[385], 23.01.1905 г. – у Івана[386], дзяцей Пятра Мацвеевіча і Ганны Міхайлаўны Корбутаў.

262/172 **Павел,** нарадзіўся 04.03.1867 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 05.03.1867 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Георгій Дзям'янаў Кернажыцкі і дачка Грыгорыя Аляксандравіча Корбута Анастасія, дзяўчына[387]. У 1872 г. залічаны да аднадворцаў Чапліцкай воласці Слуцкага павета. Разам з Аляксандрай Грыгор'еўнай Карповіч быў хросным 23.10.1894 г. у Сцяпана[388], 31.12.1895 г. – у Міхаіла[389], сыноў Пятра Цімафеевіча і Ганны Міхайлаўны Карафа-Корбутаў, разам з Макарыем Антонавічам Бранавіцкім быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 09.02.1911 г. Антонія Сямёнавіча Бараноўскага і Марыі Міхайлаўны Корбут[390]. У 1915 г. разам з Юліяй Вечар валодаў зямлёй у засценку Балоцічы: дваровай – 844 сажні, пад грэчку – 4 дзесяціны 2087 сажняў, сенакоснай на балоце – 1735 сажняў; плаціў дзяржаўны падатак – 1 рубель 25 кап.

Жонкі: 1. Марыя Фларыянаўна Вечар, сялянка засценка Жураўкі. Шлюб 26.04.1892 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве, другім шлюбам. Сведкі: з боку маладога – аднадворцы засценка Балоцічы

Іван Гаўрылаў Яблонскі і Міхаіл Герасімаў Корбут, з боку маладой – аднадворцы Міхаіл Сцяпанаў Валатковіч і Мікалай Мацвееў Кернажыцкі[391]. Ад яе дзеці: Антоній, Іван, Аляксандра, Георгій. Памерла ад родаў 27.04.1898 г., пахавана 29.04.1898 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[392].

2. Аляксандра Пятроўна. Ад яе дзеці: Іосіф, Ганна, Марыя, Васіль, Вольга.

263/172 **Феафіл,** *1864 г. н. У 1872 г. залічаны да аднадворцаў Чапліцкай воласці Слуцкага павета.

264/173 **Марыя.** Жыла ў засценку Балоцічы.

Муж – Ануфрый Афанасьеў Баркоўскі, радавы з аднадворцаў засценка Вялікая Мліна, 30 гадоў, другім шлюбам. Шлюб 19.09.1893 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Сведкі: з боку маладога – аднадворцы засценка Вялікая Мліна Лявонцій Андрэеў Чарнышэвіч і Георгій Афанасьеў Баркоўскі, з боку маладой – Андрэй Корбут і Ігнацій Іванаў Корбут[393].

265/173 **Ева,** нарадзілася 21.10.1881 г., ахрышчана 22.10.1881 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворац засценка Балоцічы Ігнацій Іванаў Корбут і дачка двараніна Грыгорыя Іванава Кернажыцкага Параскевія[394]. Памерла 13.07.1882 г. ад адру, пахавана 15.07.1882 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Паўлам Маскалевічам[395].

266/173 **Пётр,** нарадзіўся 29.06.1869 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 29.06.1869 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Іеранім Грыгор'евіч Корбут і жонка Мікіты Якаўлевіча Некрашэвіча Еўдакія Васільеўна[396]. Разам з Парфірыем Васільевічам Шулякоўскім быў сведкам з боку маладога пры шлюбе 30.05.1899 г. Георгія Герасімавіча Корбута і Анастасіі Міхайлаўны Іскрыцкай[397]. У 1915 г. валодаў зямлёй у засценку Балоцічы: дваровай – 1693 сажні, пад грэчку – 8 дзесяцін 2240 сажняў, сенакоснай на балоце – 1 дзесяціна 162 сажні; плаціў дзяржаўны падатак – 2 рублі 45 кап.

Жонка – Ганна Міхайлаўна.

267/173 **Агрыпіна,** нарадзілася 07.06.1886 г., ахрышчана 08.06.1886 г. святаром Іаанам Бабарыкіным у Заўшыцкай Успенскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы вёскі Балоцічы Ігнацій Іванаў Корбут і жонка Ігнація Бялькевіча Ганна Ігнацьева[398].

268/173 **Кацярына,** нарадзілася і ахрышчана 19.11.1880 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворац засценка Балоцічы Ігнацій Іванаў Корбут і дачка Грыгорыя Іванава Кернажыцкага Параскевія[399].

269/173 **Нікіфар,** нарадзіўся і ахрышчаны 10.02.1880 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворац засценка Балоцічы Ігнацій Іванаў Корбут і дваранка дачка Грыгорыя Іванава Кернажыцкага Параскевія[400].

270/175 **Алена,** *1873 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Церабехаў на арэнднай зямлі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 411адв. – 412*), 1893 г. – у засценку Засмужжа на зямлі бацькі: 100 дзесяцін.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 351.*

271/175 **Афанасій.** У 1869 г. залічаны да аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыў у вёсцы Заўшыцы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[401]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Церабехаў

на арэнднай зямлі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 411 адв. – 412*), 1893 г. – у засценку Засмужжа на зямлі бацькі: 100 дзесяцін (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 351*). Быў 03.06.1907 г. у спісах выбаршчыкаў на выбарах у 4-ю Дзяржаўную Думу, нацыянальнасць – рускі, маёмасны цэнз – 72 дзесяціны зямлі ў Забалацкай воласці Бабруйскага павета[402]. У 1916 г. жыў у засценку Засмужжа Забалацкай воласці Бабруйскага павета.

Жонка – Вольга Усцінаўна Рудзінская (гл. «Рудзінскія» 106/72). Разам з Васілём Пятровічам Карафа-Корбутам была хроснай у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве 17.07.1914 г. у Алены, дачкі дваран засценка Засмужжа Адама Юсцінавіча і Марыі Пятроўны Рудзінскіх[403], з Лазарам Іосіфавічам Кунцэвічам 15.04.1915 г. – у Сцепаніды, дачкі дваран засценка Засмужжа Андрэя Іванавіча і Марыі Міхайлаўны Карафа-Корбутаў[404].

272/175 **Аляксандр,** нарадзіўся 27.07.1885 г., ахрышчаны 28.07.1885 г. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.04.1888 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.07.1888 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Засмужжа на зямлі бацькі: 100 дзесяцін.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 351.*

273/175 **Феадор (Тодар).** Жыў у засценку Засмужжа. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[405]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Церабехаў на арэнднай зямлі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 411 адв. – 412*), 1893 г. – у засценку Засмужжа на зямлі бацькі: 100 дзесяцін (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 351*). Трое дзяцей і жонка (шлюб не зарэгістраваны) былі высланы на Далёкі Усход. Прадаў млын і паехаў да сям'і. Загінуў у 1930-я гг. у Кітаі (трапіў пад цягнік).

274/175 **Іван,** нарадзіўся 28.03.1889 г., ахрышчаны 29.03.1889 г. Далучаны да роду пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 03.02.1893 г. (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1092, арк. 73–74*) і 03.02.1898 г.[406] Зацверджаны ўказам Сената ад 22.06.1893 г., № 3867. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Засмужжа на зямлі бацькі: 100 дзесяцін.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 351.*

275/175 **Андрэй,** нарадзіўся 07.07.1882 г. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.05.1887 г. Зацверджаны ўказамі Сената ад 06.10.1887 г. і 03.05.1888 г.[407] Жыў у засценку Засмужжа.

Жонка – Марыя Міхайлаўна. Разам з Адамам Усцінавічам Рудзінскім была хроснай 26.04.1914 г. у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве ў Стэфана[408], сына дваран засценка Засмужжа Георгія Аляксандравіча і Евы Пятроўны Карафа-Корбутаў.

275а/175 **Тэрэзія,** *1877 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Церабехаў на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 411 адв. – 412.*

276/177 **Вячаслаў,** нарадзіўся 09.03.1868 г. У 1869 г. залічаны да аднадворцаў Старобінскай воласці. Жыў у вёсцы Заўшыцы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.11.1874 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[409]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Церабехаў на арэнднай зямлі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 417 адв. – 418*), 1893 г. – на хутары Пясчанка Вызнянскай воласці на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 333.*



Афанасій Іванавіч Карафа-Корбут.
1910-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты І»
271/175).

277/177 **Адам,** нарадзіўся 24.07.1882 г. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.05.1887 г. Зацверджаны ўказамі Сената ад 06.10.1887 г. і 03.05.1888 г.[410] Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў на хутары Пясчанка Вызнянскай воласці на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 333.*

277а/177 **Марыя,** *1877 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Церабехаў на арэнднай зямлі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 417 адв. – 418*), 1893 г. – на хутары Пясчанка Вызнянскай воласці на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 333.*

277б/177 **Ева,** *1880 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла на хутары Пясчанка Вызнянскай воласці на арэнднай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 333.*

278/179 **Ганна,** нарадзілася 22.07.1880 г., ахрышчана 27.07.1880 г. святаром Сімяонам Падольскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Кутнева Іван Паўлаў Гурыновіч і Акіліна Анісімава Рэут, дзяўчына[411].

279/179 **Марыя,** нарадзілася ў 1898 г. у маёнтку Засмужжа. Пасля смерці бацькоў з 1904 г. жыла ў сям'і брата Георгія. Вучылася ў царкоўнапрыходскай школе. У 1922 г. выйшла замуж за дваранiна **Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча** (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 483/321). Вянчанне адбылося ў Забалацкай царкве. У Міхаіла Іванавіча гэта быў другі шлюб. Дзеці: Аляксандра, 1924 г. н., Віктар, 1927 г. н., Мікалай, 1929 г. н.

У спісе пазбаўленых выбарчых правоў ад 26.02.1930 г. па Рэчанскім сельсавеце Любанскага раёна пазначаны пад № 36 **Міхась Янаў Статкевіч (Міхаіл Іванавіч Сацкевіч-Статкевіч),** 47 гадоў, пад № 37 – **Статкевіч Маня Алесева (Марыя Аляксандраўна),** 36 гадоў[412].

У 1930 г., пасля раскулачвання і арышту мужа, выслана разам з дзецьмі і іншымі сваякамі на спецпасяленне ў сяло Вялікі Пальнік Качоўскага раёна Комі-Пярмяцкай акругі. Восенню таго ж года разам з дзецьмі самавольна пакінула спецпасяленне і прыехала ў вёску Млынка Слуцкага раёна, дзе жылі яе сёстры – Аўдоля Левановіч і Усціння Лазоўская, а таксама сястра мужа – Алена Іванаўна Понтус. Праз некалькі дзён арыштавана АДПУ і зноў разам з дзецьмі накіравана на спецпасяленне ў Комі-Пярмяцкую акругу. У 1931 г. зноў самавольна пакінула спецпасяленне Вялікі Пальнік і вярнулася дадому ў вёску Засмужжа. У 1937 г. арыштавана як жонка ворага народа (муж Міхаіл Іванавіч расстраляны 06.03.1930 г.) і абвінавачана ў парушэнні пашпартнага рэжыму. Прыгаворана да пяці гадоў лагераў. Адбывала зняволенне ў Горкаўскай (Ніжагародскай) вобласці. Выйшла з лагера ў студзені 1941 г. і вярнулася ў вёску Засмужжа, дзе жылі ў сіроцтве яе непаўналетнія дзеці. У час Вялікай Айчыннай вайны жыла ў вёсцы Засмужжа разам з дачкой **Аляксандрай.** Сыны Віктар і Мікалай знаходзіліся ў партызанах. З 1946 г. да 1955 г. выхоўвала ўнука **Анатоля Васільевіча Статкевіча-Чабаганава.** Памерла 03.11.1981 г. Пахавана на Дубілаўскіх могілках, за два кіламетры ад вёскі Засмужжа.

280/179 **Георгій,** нарадзіўся 26.11.1885 г. у засценку Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета, ахрышчаны 27.11.1885 г. святаром Сімяонам Падольскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі Павел Фёдаравіч Гурыновіч і Акуліна Анісімаўна Рэут, дзяўчына[413]. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.04.1888 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.07.1888 г. Пасля смерці бацькі ўступіў

у правы спадчынніка на ўклад бацькі ў 300 рублёў з працэнтамі ў Слуцкай ашчаднай касе: «12 сентября прошлого 1904 года отец мой дворянин Александр Корбут умер, оставив в Слуцкой сберегательной кассе государственного банка денег, а единственным наследником состою я, проситель.

На предмет получения оставшихся денег требуется от меня представления удостоверения, что я сын, оставшийся после смерти отца моего Александра Карафа-Корбута; для чего, представляя при сем квитанцию местного казначейства в уплате 3 р. на публикацию в Сенатских ведомостях на вызов наследников от 5 сего декабря метрическую выпись о смерти моего отца от 28 ноября сего года за № 141, честь имею просить Ваше Высокородие учинить распоряжение о производстве публикации и о выдаче мне удостоверения для предоставления по принадлежности и о последующем мне объявить. Декабря 5 дня 1905 год.

По болезни Георгия Карафа-Корбута по его просьбе расписался Николай Барановский». Ёсць запіс: «Удостоверение о третей публикации получил 21.04.1906 г. за № 285 г. Корбут»[414].

Разам з дзяўчынай Еўфрасініяй Пятровай Карафа-Корбут быў хросным 18.05.1908 г. у Мікалая, сына дваран засценка Засмужжа Васіля Пятровіча і Вольгі Аляксандраўны Карафа-Корбут[415], з Ганнай Уладзіміраўнай Шошынай 13.11.1915 г. – у Віктара, сына дваран в. Засмужжа Васіля Пятровіча і Вольгі Аляксандраўны Карафа-Корбут[416]. У 1916 г. жыў у засценку Засмужжа Забалацкай воласці Бабруйскага павета.

У Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці захаваўся пратакол № 65 пасяджэння Любанскага райвыканкама ад 29.02.1930 г.: «Слушали: Ходатайство Реченского сельского совета о конфискации имущества у кулаков и выселении их за пределы БССР как вредный элемент, проводящий работу против партии и власти.

Постановили: Учитывая широкое развёртывание коллективизации, а также то, что проживающие кулаки в деревнях Засмужье и Дунцы проводят вредную работу против коллективизации, в прошлом являлись полупомещиками, до последнего времени эксплуатировали бедноту из ближайших околиц, конфисковать имущество у следующих кулаков:

Корбута Рыгора [Карафа-Корбут Георгій Аляксандравіч], Корбута [Карафа-Корбут] Василия Петровича, Статкевича Михася [Сацкевіч-Статкевіч Міхаіл Іванавіч]».

У спісе пазбаўленых выбарчых правоў 26.02.1930 г. па Рэчанскім сельсавеце Любанскага раёна пазначаны: пад № 4 – Корбут Рыгор Алесеў [Георгій Аляксандравіч], узрост 46 гадоў, пад № 5 – Корбут Ева Петрусёва [Ева Пятроўна – жонка Георгія], узрост 45 гадоў, пад № 6 – Корбут Мікола Рыгораў [Мікалай Георгіевіч], узрост 21 год, пад № 7 – Корбут Алеся Рыгорава [Аляксандра Георгіеўна]. Індывідуальна абкладзеныя за выкарыстанне наёмнай працы[417].

Жонка – Ева Пятроўна, 1885–1950 гг.

281/179 **Аўдоля.** Муж – Фёдар Леановіч. Дачка Шура, высылаліся ў Комі-Пярмяцкую акругу. Жыла ў вёсцы Махновічы Старобінскага раёна.

282/179 **Таццяна,** нарадзілася 06.01.1883 г., ахрышчана 09.01.1883 г. святаром Сімяонам Падольскім у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета Іван Паўлаў Гурыновіч і дзяўчына Акіліна Анісімава Рэут[418]. Памерла ў 1931 г. у ссылцы.

Муж – Сцяпан Андрэевіч Хартановіч, 1876–1951 гг. Жыў у вёсцы Куляшы Старобінскага раёна. Раскулачаны. Пахаваны ў станіцы Сівакі Амурскай вобласці.

Дзеці: 1. Марыя, 1904–1987 гг. Першы муж Іван Нікіфаравіч Каржанеўскі, 1896–1923 гг., памёр ад



31674 с

Заполняется четко и разборчиво, лицом ведущим следствие.

**АНКЕТА**

для арестованных, числящихся за ______ Отделом ГПУ БССР.

1. Фамилия, имя и отчество Статкевич Мария Александровна
2. Гр-н какого государства СССР
3. Национальность белоруска.
4. Возраст 32 лет, родился в 1898 году
5. Место рождения Бобруйского округа Любанского р-на Рачевского с/совета Засмужье деревни
6. Место жительства перед арестом д. Засмужье Рачевского с/с Любанского района
7. Место службы и должность на крестьянском х-ве.
8. Основная профессия домохозяйка.
9. Бывшее сословие крестьянка.
10. Образование: общее: неграмотный, малограмотный, низшее, среднее, высшее (подчеркнуть)
    специальное: (указать когда и какое учебное заведение окончил или учился) нет
11. Партийность (указать в какой партии состояли, или состоите, время вступления и выхода) б/п.
12. Состоял ли под судом, или следствием нет
13. Какое положение занимает в семье (глава или член семьи) член семьи.

Анкета допыту АДПУ БССР Марыі Аляксандраўны Статкевіч (Карафа-Корбут). 1930 г. Бабуля Анатоля Статкевіча-Чабаганава (гл. «Карафа-Корбуты I» 279/179). *Архіў КДБ Рэспублікі Беларусь.*



Выпись изъ метрической книги, часть первая о родившихся за 1886 г.

Георгий

Ноября 26 27

Выпіс з метрычнай кнігі Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы Слуцкага павета ад 22.04.1906 г. аб тых, хто нарадзіўся ў 1886 г., дзе значыцца, што 26.11.1886 г. нарадзіўся Георгій Аляксандравіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 280/179). Георгій Аляксандравіч – брат Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут), бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава. *НГАБ, ф. 191, воп. 1, спр. 135.*



Сям'я Георгія Аляксандравіча Карафа-Корбута. Ссылка, пас. Станамыс Качоўскага раёна Комі-Пярмяцкай акругі. 1946 г. Стаяць: Ілья Ягоравіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 418/280), Аляксандра Ягораўна Хацяноўская (Карафа-Корбут; гл. «Карафа-Корбуты І» 417/280); сядзяць: Ігар Мікалаевіч Хацяноўскі, Ева Пятроўна Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты І» 280/179), Валянціна Мікалаеўна Хацяноўская.

ран, якія атрымаў у баях падчас Першай сусветнай вайны, узнагароджаны Георгіеўскімі Крыжамі III і IV ступеней. Жыў у в. Куляшы Старобінскага раёна. Бацька Івана – Нікіфар Пятровіч (1864–1963), сын Мікалай Іванавіч (1922–25.08.2008), ваенны лётчык-франтавік, узнагароджаны ордэнамі СССР: Айчыннай вайны I ступені, Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, медалямі «За Баявыя Заслугі», «За Перамогу над Германіяй», «За Перамогу над Японіяй», Украіны: крыжам Багдана Хмяльніцкага III ступені. Жонка Галіна Аляксандраўна (1924–1995), жылі ў г. Кіеве, унучка Алена, 1951 г. н., настаўніца, праўнукі Аляксей і Таццяна, унучка Святлана, 1953 г. н., настаўніца. Другі муж Павел Лявонцьевіч Бараноўскі, 1900–1971 гг., вёска Шабунькі Старобінскага раёна. Дзеці: 1. Іван, 1935 г. н., закончыў Харкаўскае авіяцыйнае вучылішча, маёр Савецкай Арміі (жонка Аляўціна Сяргееўна, жыве ў г. Мінску, сын Іван, унукі: Аляксандр, 1993 г. н., Вікторыя, 1999 г. н., Сяргей); 2. Зінаіда, 1939 г. н., жыве ў в. Куляшы (муж Дварэцкі, сын Аляксандр, унукі Павел і Алена жывуць у г. Мінску).

2. Іван, 1906–1987 гг., уцёк са ссылкі, жыў у Падмаскоўі, Красногорскі раён, с. Апаліха. Дзеці: 1. Людміла, 1939 г. н. (муж Віктар Косыраў, жыве ў г. Маскве, сын Аляксей, палкоўнік ФСБ Расіі); 2. Ніна, 1937 г. н. (муж Віктар Рыбакоў, сын Сяргей, 1965 г. н., жывуць у г. Маскве).

3. Ганна, муж Канстанцін Тамковіч (пяць яго братоў і сястру выслалі ў Амурскую вобласць з Асіповіцкага раёна, прыязджаў на радзіму ў 1956 г. і знайшоў адзін з чатырох закапаных да ссылкі чыгункоў з залатымі манетамі царскай чаканкі). Памерла ў ссылцы на Далёкім Усходзе, дачка Рада Канстанцінаўна Канстанцінава.

4. Аляксандра, 1909–1976 гг. Муж Нікіфар Сцяпанавіч Некрашэвіч. Жыў у вёсцы Барок Любанскага раёна. Дзеці: 1. Яўгенія, заслужаны настаўнік БССР. 2. Уладзімір, н. 21.11.1942 г. Закончыў Данецкі медыцынскі інстытут. Жонка Ніна Іванаўна Ермаліцкая, працавала завучам школы. Дзеці: 1. Таццяна, 1973 г. н., закончыла Мінскі медінстытут (дачка Дар'я), жыве ў г. Глуску; 2. Юлія, 1980 г. н., закончыла Мінскі медінстытут (муж Аляксандр, сын Роберт), жыве ў Германіі. 3. Іосіф, 1943 г. н., жыве ў г. Мінску (жонка Лідзія, сын Уладзімір, унук Павел, 1990 г. н.). 4. Валерый, н. 03.05.1952 г., закончыў Мінскую сярэднюю школу міліцыі, Кіеўскую вышэйшую школу міліцыі, падпалкоўнік (жонка Валянціна Грыгор'еўна Краўчанка, н. 26.08.1955 г., сын Уладзімір, н. 01.09.1975 г., закончыў Беларускі політэхнічны інстытут, унук Іван, н. 03.10.2003 г., жыве ў г. Мінску).

5. Адам, жыве ў г. Краснадары, сын Леанід.

6. Мікалай, 1919–1995 гг., франтавік, узнагароджаны двума ордэнамі Айчыннай вайны, трыма ордэнамі Чырвонай Зоркі, медалямі. Жонка Марыя Мікалаеўна, 1922 г. н., франтавічка, узнагароджана двума ордэнамі Айчыннай вайны, ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі. Жыве ў г. Ростове-на-Доне. Сын Уладзімір, закончыў політэхнічны інстытут, тры ўнучкі.

283/179 **Іўсціна,** нарадзілася 29.09.1883 г., ахрышчана 01.10.1883 г. святаром Уладзімірам Прорвічам у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Кутнева Пагосцкай воласці Слуцкага павета Андрэй Іванаў Корбут і дзяўчына Іўсціна Васілёва Гурыновіч[419]. Разам з Адамам Усцінавічам Рудзінскім была хроснай 20.05.1908 г. у Мікалая, сына Георгія Аляксандравіча і Евы Пятроўны Карафа-Корбутаў[420].

Муж – Міхаіл Максімаў Л а з о ў с к і , селянін засценка Млынка, першым шлюбам, 24 гады. Шлюб 29.06.1909 г. у Забалацкай царкве Бабруйскага павета. Сведкі: з боку маладога – дваране засценка Млынка Іван Сасноўскі і Іван Корбут, з боку ма-

ладой – жыхары засценка Засмужжа дваране **Міхаіл Статкевіч** і Адам Рудзінскі[421].

Дзеці: 1. Мікалай Міхайлавіч Лазоўскі, 1910–12.11.1981 гг., выкладчык матэматыкі. Кантужаны на фронце ў час Вялікай Айчыннай вайны. Жыў у вёсцы Млынка Слуцкага раёна. У 1930 г. прыязджаў у Комі-Пярмяцкую акругу забраць сям'ю цёткі Марыі Аляксандраўны (гл. «Карафа-Корбуты I» 279/179). Жонка Кацярына Віктараўна Вайцешына, 01.07.1915– 27.05.2006 гг. Дзеці: 1.1. Міхаіл, н. 27.02.1948 г., жыве ў г. Мінску, жонка Ніна Канстанцінаўна Суравец, н. 18.11.1950 г. Дзеці: 1.1.1. Кацярына, н. 07.02.1979 г. (муж Чапляеў Андрэй Вячаслававіч, дачка Ксенія, н. 19.08.2001 г.); 1.1.2. Міхаіл, н. 27.12.1972 г.

1.2. Вольга, н. 03.10.1941 г., жыве ў г. Слуцку. Муж Васіль Сімбура, дачка Таццяна, сын Уладзімір, унук Андрэй, жыве ў г. Мінску.

1.3. Сяргей, 1936 г. н., дачка Таццяна, жыве ў г. Мінску.

2. Сцяпан, прапаў без вестак на фронце ў час Вялікай Айчыннай вайны.

284/180 **Елізавета,** нарадзілася 05.09.1826 г., ахрышчана 07.09.1826 г. святаром Фамой Рыбцэвічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Квасынічы Павел Андрэеў Брыновіч і Агафія Сцяпанаўна Крукаячка[422].

Муж – Грыгорый Лукіч Бялькевіч, дваранін засценка Квасынічы. Шлюб 31.05.1843 г. святаром Паўлам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – жыхары засценка Квасынічы Лявон Паўлаў Кунцэвіч, Пётр Бжазоўскі, з боку маладой – жыхары засценка Квасынічы Іосіф Іванаў Турчыновіч, Алесь Сцяпанаў Корбут[423].

285/180 **Марыя.** Муж – Грыгорый Грыгор'еў Яновіч, аднадворац засценка Малая Сліва. Шлюб 03.11.1846 г. святаром Паўлам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – Васіль Яновіч, Грыгорый Шулякоўскі, з боку маладой – Грыгорый Бялькевіч, Аляксей Корбут[424].

286/180 **Саламонія.** Муж – Грыгорый Фёдараў Гурын, дваранін ваколіцы Жураўкі, прыхаджанін Вызненскай Мікалаеўскай царквы. Шлюб 14.10.1851 г. святаром Васілём Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – жыхары засценка Квасынічы Сімон Бялькевіч і засценка Жураўкі Фларыян Гурын, з боку маладой – жыхары засценка Квасынічы Аляксандр Сцяпанаў Корбут і Грыгорый Лукіч Бялькевіч[425].

287/180 **Аксення.**

288/181 **Міхаіл,** нарадзіўся 22.05.1857 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета. Разам з братамі Сцяпанам і Венядзіктам у 1901 г. выкупіў у спадчыннікаў княгіні Марыі Львоўны Гагенлое-Шылінгфюрст з маёнтка Новы Двор зямлю ў засценку Квасынічы Цараўскай воласці Слуцкага павета ў колькасці: прыдатнай – 11 дзесяцін 1106,41 сажня, непрыдатнай – 3 дзесяціны 597 сажняў, памер выкупной ссуды – 223 рублі 36 капеек, штогадовы выкупны плацеж – 13 рублёў 40 капеек. Разам з братамі Венядзіктам і Сцяпанам звярнуўся 22.02.1910 г. у Мінскае губернскае праўленне аб выдачы ім выкупнога ліста на зямлю, набытую ў засценку Квасынічы[426]. Мінскае губернскае праўленне 31.05.1910 г. прадпісала Ца-

Сядзяць: Сцяпан Андрэевіч Хартановіч (гл. «Карафа-Корбуты I» 282/179), Таццяна Аляксандраўна Хартановіч (Карафа-Корбут), сястра бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут); стаяць: Аляксандра Сцяпанаўна Хартановіч (у замужжы Некрашэвіч; злева) і Таццяна Сцяпанаўна Хартановіч. 1920-я гг.





Сядзяць: Марыя Сцяпанаўна Хартановіч, Мікалай Іванавіч Каржанеўскі (стаіць), Іван Сцяпанавіч Хартановіч, стаіць Аляксандра Сцяпанаўна Хартановіч (у замужжы Некрашэвіч). 1925 г. Марыя, Аляксандра і Іван – дваюрадныя сёстры і брат мамы Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Аляксандры Міхайлаўны Сацкевіч-Статкевіч (гл. «Карафа-Корбуты І» 282/179).



Іван Нікіфаравіч Каржанеўскі (справа), бацька Мікалая Іванавіча Каржанеўскага. Лейб-гвардзейскі 3-і стралковы Яго Імператарскай Вялікасці полк. Першая сусветная вайна. 1915 г. (гл. «Карафа-Корбуты І» 282/179).



Іван Нікіфаравіч Каржанеўскі ўзнагароджаны Георгіеўскімі Крыжамі III і IV ступеняў за подзвігі ў час Першай сусветнай вайны.



Знак лейб-гвардзейскага 3-га стралковага Яго Імператарскай Вялікасці палка. *З калекцыі А. Статкевіча-Чабаганава.*



Мікалай Сцяпанавіч Хартановіч
і Мікалай Іванавіч Каржанеўскі (справа).
1945 г. (гл. «Карафа-Корбуты І» 282/179).

раўскаму валасному праўленню выдаць Сцяпану, Венядзікту і Міхаілу выкупны акт ад 06.07.1901 г. У 1910 г. пазначаны ў саслоўі сялян. Непісьменны. У 1915 г. разам з братамі Венядзіктам і Сцяпанам Корбутамі валодаў зямлёй у засценку Квасынічы маёнтка Новы Двор: дваровай – 914,66 сажня, пад грэчку – 9 дзесяцін 2131,75 сажня, сенакоснай на балоце – 1 дзесяціна 460 сажняў; плаціў дзяржаўны падатак – 1 рубель 57 кап.

289/181 **Ганна.**

290/181 **Фёдар,** нарадзіўся 18.01.1847 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета.

291/181 **Алена.** Жыла ў вёсцы Квасынічы.

Муж – Нікіфар Сямёнаў Бялькевіч, аднадворац засценка Квасынічы. Шлюб 20.10.1871 г. святаром Пятром Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – жыхары засценка Квасынічы Філіп Паўлавіч Некрашэвіч і Грыгорый Фёдаравіч Гурын, з боку маладой – Якаў Вікенцьевіч Бараноўскі і Міхаіл Грыгор’евіч Бялькевіч[427].

292/181 **Сцяпан,** нарадзіўся 13.10.1843 г. Праваслаўны. Ростам 2 аршыны 4 вяршкі. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

У 1866 г. вызвалены ад прызыву на ваенную службу ў сувязі з прызывам брата. Паводле пастановы павятовага па чыншавых справах праўлення 28.05.1897 г. прызнаны сельскім вечным чыншавіком з правам выкупу займанага ім участка зямлі ў засценку Квасынічы памешчыкаў кн. Гагенлоэ ў памеры чыншавай платы 43 рублі на год за паўвалочны ўчастак. Разам з братамі Міхаілам і Венядзіктам у 1901 г. выкупіў у спадчыннікаў княгіні Марыі Львоўны Гагенлоэ-Шылінгфюрст з маёнтка Новы Двор зямлю ў засценку Квасынічы Цараўскай воласці Слуцкага павета ў колькасці: прыдатнай – 11 дзесяцін 1106,41 сажня, непрыдатнай – 3 дзесяціны 597 сажняў, памер выкупной ссуды – 223 рублі 36 кап., штогадовы выкупны плацеж – 13 рублёў 40 кап. Разам з братамі Венядзіктам і Міхаілам звярнуўся 22.02.1910 г. у Мінскае губернскае праўленне аб выдачы ім выкупнога ліста на зямлю, набытую ў засценку Квасынічы[428]. Мінскае губернскае праўленне 31.05.1910 г. прадпісала Цараўскаму валасному праўленню выдаць Сцяпану, Венядзікту і Міхаілу выкупны акт ад 06.07.1901 г. У 1910 г. пазначаны ў саслоўі сялян. Непісьменны. У 1915 г. разам з братамі Венядзіктам і Міхаілам Корбутамі валодаў зямлёй у засценку Квасынічы маёнтка Новы Двор: дваровай – 914,66 сажня, пад грэчку – 9 дзесяцін 2131,75 сажня, сенакоснай на балоце – 1 дзесяціна 460 сажняў; плаціў дзяржаўны падатак – 1 рубель 57 кап.

293/181 **Аляксандр,** нарадзіўся і ахрышчаны 17.03.1838 г. святаром Паўлам Кірылавічам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Квасынічы Іван Сцяпанаў Корбут і жонка Івана Нікадзімава Забродскага Ірына Іванава[429].

294/181 **Венядзікт,** нарадзіўся 15.03.1840 г., ахрышчаны 16.03.1840 г. святаром Паўлам Кірылавічам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Квасынічы Сільвестр Нікадзімаў Забродскі і жонка Фёдара Сцяпанава Корбута



Стаяць: Сцяпан Міхайлавіч Лазоўскі (прапаў без вестак на фронце ў Вялікую Айчынную вайну), Усціння Аляксандраўна Лазоўская (Карафа-Корбут) – сястра бабулі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Марыі Аляксандраўны Сацкевіч-Статкевіч (Карафа-Корбут); сядзяць: Мікалай Міхайлавіч Лазоўскі, сын Усцінні Аляксандраўны, і яго жонка Кацярына Віктараўна. 1933 г. (гл. «Карафа-Корбуты І» 283/179).

Фядора Андрэева[430]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета. Паводле пастановы павятовага па чыншавых справах праўлення 28.05.1897 г. прызнаны сельскім вечным чыншавікам з правам выкупу займанага ім участка зямлі ў засценку Квасынічы памешчыкаў кн. Гагенлое ў памеры чыншавай платы 43 рублі на год за паўвалочны ўчастак. Разам з братамі Міхаілам і Сцяпанам у 1901 г. выкупіў у спадчыннікаў княгіні Марыі Львоўны Гагенлое-Шылінгфюрст з маёнтка Новы Двор зямлю ў засценку Квасынічы Цараўскай воласці Слуцкага павета ў колькасці: прыдатнай – 11 дзесяцін 1106,41 сажня, непрыдатнай – 3 дзесяціны 597 сажняў, памер выкупной ссуды – 223 рублі 36 кап., штогадовы выкупны плацеж – 13 рублёў 40 кап. Разам з братамі Сцяпанам і Міхаілам звярнуўся 22.02.1910 г. у Мінскае губернскае праўленне аб выдачы ім выкупнога ліста на зямлю, набытую ў засценку Квасынічы[431]. Мінскае губернскае праўленне 31.05.1910 г. прадпісала Цараўскаму валаснаму праўленню выдаць Сцяпану, Венядзікту і Міхаілу выкупны акт ад 06.07.1901 г. У 1910 г. пазначаны ў саслоўі сялян. Непісьменны. У 1915 г. разам з братамі Сцяпанам і Міхаілам Корбутамі валодаў зямлёй у засценку Квасынічы маёнтка Новы Двор: дваровай – 914,66 сажня, пад грэчку – 9 дзесяцін 2131,75 сажня, сенакоснай на балоце – 1 дзесяціна 460 сажняў; плаціў дзяржаўны падатак – 1 рубель 57 кап.

295/182 **Андрэй,** нарадзіўся і ахрышчаны 22.10.1840 г. святаром Паўлам Кірылавічам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Квасынічы Сільвестр Нікадзімаў Забродскі і жонка Фёдара Сцяпанава Корбута Фядора Андрэева[432]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета.

296/182 **Сцяпан,** нарадзіўся і ахрышчаны 13.04.1848 г. у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Непісьменны. Рост 2 арш. 61/8 вярш. Прыкметы: валасы, бровы – русыя, вочы – шэрыя, нос – прадаўгаваты, рот – умераны, падбародак – круглы, твар – чысты, асаблівыя прыкметы – няма. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета. У 1870 г. прызваны ў рэкруты. Паводле пастановы павятовага па чыншавых справах праўлення 28.05.1897 г. прызнаны сельскім вечным чыншавікам з правам выкупу займанага ім участка зямлі ў засценку Квасынічы памешчыкаў кн. Гагенлое ў памеры чыншавай платы 38 рублёў на год за паўвалочны ўчастак.

297/182 **Фёдар,** нарадзіўся 13.02.1856 г. Праваслаўны.

298/182 **Якаў,** нарадзіўся 24.10.1845 г. Праваслаўны. Жыў у вёсцы Квасынічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета.

Жонка – Вікторыя Вікенцьева Ануфровіч, дваранка засценка Балоцічы, рымскага веравызнання. Шлюб 17.09.1872 г. святаром Пятром Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – жыхары вёскі Квасынічы Станіслаў Паўлаў Бараноўскі, Нарцыз Ануфровіч, з боку маладой – жыхары фальварка Ліпнікі Зянон Пятровіч Амбражэвіч, маёнтка Балочыцы дваранін Севярын Вікенцьеў Ануфровіч[433].

299/182 **Клімент,** нарадзіўся 26.11.1850 г., ахрышчаны 27.11.1850 г. у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве[434]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета. Памёр 08.11.1883 г. ад запалення лёгкіх, пахаваны 10.11.1883 г. святаром Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царквы[435].

300/182 **Аляксандра.** Жыла ў вёсцы Квасынічы. Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісана ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета.

Муж – Якаў Васільеў Забродскі, аднадворац засценка Раткаў, прыхаджанін Прускай Раство-Багародзіцкай царквы. Шлюб 22.10.1873 г. святаром Пятром Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – аднадворцы вёскі Квасынічы Іван Мікалаеў Шулякоўскі і Міхаіл Грыгор'еў Бялькевіч, з боку маладой – аднадворцы вёскі Квасынічы Антон Фамін Бялькевіч і Іван Якаўлеў Заламай[436].

301/183 **Тэрэза (Параскевія).** Жыла ў засценку Квасынічы. Разам з Дзмітрыем Іванавічам Сеўрукам была хроснай 24.05.1862 г. у Алены[437], 31.05.1866 г. – у Івана[438], 23.06.1868 г. – у Пятра[439]. 02.01.1871 г. – у Сільвестра[440], дзяцей Адрыяна Іосіфавіча і Ганны Уладзіміраўны Корбутаў.

Муж – Калістрат Іосіфавіч Корбут, дваранін засценка Сялец (гл. «Карафа-Корбуты I» 108/156). Шлюб 01.06.1854 г. святаром Васілём Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкамі былі: з боку маладога – дваранін вёскі Квасынічы Іосіф Іванавіч Турчыновіч і дваранін сяла Чыжэвічы Павел Іосіфавіч Корбут, з боку маладой – жыхары вёскі Квасынічы Фёдар Сцяпанавіч Корбут і Іван Сцяпанавіч Корбут[441].

302/183 **Уладзімір,** нарадзіўся 15.07.1839 г., ахрышчаны 16.07.1839 г. святаром Паўлам Кірылавічам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін 2-га разраду засценка Квасынічы Іосіф Іванавіч Турчыновіч і дачка Нікадзіма Уладзіміравіча Забродскага Еўдакія[442].

303/183 **Міхаіл,** нарадзіўся і ахрышчаны 12.01.1837 г. святаром Паўлам Кірылавічам Біруковічам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве Слуцкага павета. Хроснымі бацькамі былі жыхары вёскі Квасынічы Іосіф Іванавіч Турчыновіч і дачка Нікадзіма Уладзіміравіча Забродскага Еўдакія[443]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

Згодна з указам Сената ад 23.09.1864 г. запісаны ў падатковае саслоўе аднадворцаў 4-га Касыніцкага ўчастка Слуцкага павета. Разам з Міхаілам Грыгор'евічам Гурыным быў сведкам з боку маладога пры шлюбе 02.02.1890 г. Паўла Аляксан-

дравіча Корбута і Сінкліціі Іванаўны Некрашэвіч[444]. Паводле пастановы павятовага па чыншавых справах праўлення ад 28.05.1897 г. прызнаны сельскім вечным чыншавіком з правам выкупу займанага ім участка зямлі ў засценку Квасынічы памешчыкаў кн. Гагенлое ў памеры чыншавай платы 43 рублі на год за паўвалочны ўчастак. Разам з братам Паўлам у 1902 г. выкупіў у спадчыннікаў княгіні Марыі Львоўны Гагенлое-Шылінгфюрст з маёнтка Новы Двор зямлю ў засценку Квасынічы Цараўскай воласці Слуцкага павета ў колькасці: прыдатнай – 12 дзесяцін 1020,31 сажня, непрыдатнай – 3 дзесяціны 934,4 сажня, памер выкупной ссуды – 237 рублёў 83 кап., штогадовы выкупны плацеж – 14 рублёў 27 кап. У 1915 г. разам з братам Паўлам валодаў зямлёй у засценку Квасынічы маёнтка Новы Двор: дваровай – 914,66 сажня, пад грэчку – 10 дзесяцін 1277,25 сажня, сенакоснай на балоце – 1 дзесяціна 1229 сажняў; плаціў дзяржаўны падатак – 1 рубель 71 кап.

Жонка – Аксенія.

304/183 **Павел.** Жыў у вёсцы Квасынічы. Паводле пастановы павятовага па чыншавых справах праўлення ад 28.05.1897 г. прызнаны сельскім вечным чыншавіком з правам выкупу займанага ім участка зямлі ў засценку Квасынічы памешчыкаў кн. Гагенлое ў памеры чыншавай платы 43 рублі на год за паўвалочны ўчастак. Разам з братам Міхаілам у 1902 г. выкупіў у спадчыннікаў княгіні Марыі Львоўны Гагенлое-Шылінгфюрст з маёнтка Новы Двор зямлю ў засценку Квасынічы Цараўскай воласці Слуцкага павета ў колькасці: прыдатнай – 12 дзесяцін 1020,31 сажня, непрыдатнай – 3 дзесяціны 934,4 сажня, памер выкупной ссуды – 237 рублёў 83 кап., штогадовы выкупны плацеж – 14 рублёў 27 кап. У 1915 г. разам з братам Міхаілам валодаў зямлёй у засценку Квасынічы маёнтка Новы Двор: дваровай – 914,66 сажня, пад грэчку – 10 дзесяцін 1277,25 сажня, сенакоснай на балоце – 1 дзесяціна 1229 сажняў; плаціў дзяржаўны падатак – 1 рубель 71 кап.

Жонка – Сінкліція Іванава Некрашэвіч, дваранка сяла Прусы. Шлюб 02.02.1890 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Сведкі: з боку маладога – сяляне вёскі Квасынічы Міхаіл Аляксандраў Корбут і Міхаіл Грыгор’еў Гурын, з боку маладой – сяляне сяла Прусы Андрэй Васільеў Кернажыцкі і Сямён Карлаў Бракавіцкі[445].

305/187 **Мікалай,** 10.06.1909–1983 гг. Жонка – Ганна Антонаўна Сацкевіч-Статкевіч (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 621/475).

Дзеці: 1. Марыя, н. 10.10.1935 г., настаўніца. Муж Іван Канстанцінавіч Грамыка, жыве ў вёсцы Клетнае Глускага раёна. Дзеці: 1. Аляксандр, 1957 г. н., закончыў сельгасінстытут, жыве ў г. Жытоміры [жонка Галіна Іванаўна, дзеці: Віктар, 1983 г. н., закончыў Адэскі тэхналагічны інстытут (дачка Аліна, 2006 г. н.), Іван, 1987 г. н., закончыў Адэскі тэхналагічны інстытут]; 2. Канстанцін, 1960 г. н., жыве ў г. Мінску (жонка Алена Мікалаеўна, дзеці: Вольга, 1984 г. н., бухгалтар-эканаміст, муж Сяргей Леанідавіч Катовіч; Ганна, 1988 г. н.).

2. Раіса, медсястра. Муж Леанід Васільевіч Радкевіч, жыве ў г. Вілейцы. Дзеці: 1. Віктар, закончыў інстытут народнай гаспадаркі (дзеці: Алеся, закончыла педінстытут; Вольга, студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта); 2. Юрый, закончыў гандлёва-эканамічны інстытут [жонка Таццяна, жыве ў Германіі, дзеці: Іван (Томас), Станіслаў].

3. Святлана, інжынер. Муж Вячаслаў Міхайлавіч. Дзеці: 1. Эдуард, гісторык (сын Уладзіслаў); 2. Андрэй, інжынер (жонка Алена, дзеці: Іван, Вераніка).

306/187 **Павел.** Жонка – Любоў Карафа-Корбут (?).

307/187 **Ганна.** Муж – Іван Дзяменцьевіч Карафа-Корбут (гл. «Карафа-Корбуты I» 323/192).



Мікалай Канстанцінавіч Карафа-Корбут. 1960-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты I» 305/187).



Ганна Антонаўна Карафа-Корбут (Сацкевіч-Статкевіч) з унукам Эдуардам. 1960-я гг. (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 621/475).

308/187 **Марыя.** Муж – Мітрафан Фёдаравіч Карафа-Корбут. Дзеці: Фёдар, Уладзімір.

309/188 **Міхаіл,** нарадзіўся ў 1904 г. у засценку Сялец Глускай воласці. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны медалямі «За Адвагу», «Партызану Айчыннай вайны» I ступені, «За Перамогу над Германіяй». Пасля вайны працаваў старшынёй калгаса. Памёр у 1971 г.

Дзеці: 1. Ганна, н. 25.11.1947 г. Муж Алейнік, дачка Наталля, 1970 г. н. (дачка Вольга, 1993 г. н.). Жыве ў г. Мінску.

2. Таісія, н. 25.06.1945 г. Муж Сцяпан Кушнер. Дзеці: Юрый, н. 02.09.1969 г., закончыў Тбіліскае вышэйшае артылерыйскае каманднае вучылішча, падпалкоўнік (дачка Алена, н. 14.03.1994 г.); Дзмітрый, н. 14.09.1972 г. Жыве ў г. Брэсце.

310/188 **Іван,** нарадзіўся ў 1907 г. у засценку Сялец Глускай воласці. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Жонка – Ганна Сушчынская.

Дзеці: 1. Глеб, 1934 г. н., дырэктар школы. Жыве ў г. Камянцы. Дзеці: 1. Ірына (сын Арцём), 2. Руслан, 3. Мая, закончыла інстытут народнай гаспадаркі, жыве ў г. Пружаны (сын Віталь).

2. Ігар. Сын Віталь, жыве ў г. Пружаны.

3. Уладзімір. Дзеці: Рыта (сын Вячаслаў), Ігар, афіцэр міліцыі (сын Вячаслаў). Жывуць у г. Гомелі.

311/188 **Аляксандр,** нарадзіўся ў 1911 г. у засценку Сялец Глускай воласці. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны.

Памёр у г. Краснадары.

Дзеці: 1. Дзіна.

2. Барыс. Дзеці: 1. Аляксандр, 1963 г. н. (дзеці: Максім, студэнт Беларускага дзяржаўнага чыгуначнага ўніверсітэта; Кацярына, студэнтка, г. Мінск); 2. Галіна, 1965 г. н. [дзеці: Мікалай, Яўгеній, Настасся, Аксана (дачка Марыя)]. Жывуць у г. Бабруйску.

312/188 **Аляксей,** нарадзіўся ў 1913 г. у засценку Сялец Глускай воласці. Закончыў Гомельскі лесатэхнічны інстытут. Загінуў пад Сталінградам у час Вялікай Айчыннай вайны. Перад вайной працаваў інжынерам у Алтайскім краі. Дачка Ірына.

313/188 **Марыя,** нарадзілася 03.06.1915 г. у засценку Сялец Глускай воласці. Працавала настаўніцай. У час Вялікай Айчыннай вайны – на фронце, у разведцы. Старшы сяржант, мела раненні. Узнагароджана ордэнам Чырвонай Зоркі і іншымі ордэнамі і медалямі СССР і Украіны. Жыла ў г. Адэсе.

Муж – Усевалад Грыгор’евіч Манько, 1914 г. н., афіцэр-франтавік. Памёр 24.01.1988 г. у г. Сімферопалі. Сын Уладзімір.

314/188 **Вера,** нарадзілася ў 1918 г. у засценку Сялец Глускай воласці. Памерла ў 1941 г.

315/188 **Барыс,** нарадзіўся ў 1921 г. у засценку Сялец Глускай воласці. У час Вялікай Айчыннай вайны ваяваў у партызанскім атрадзе імя Будзёнага 100-й брыгады Палескага злучэння, разведчык і падрыўнік. Пры яго ўдзеле былі ўзарваны тры варожыя эшалоны з жывой сілай і тэхнікай, разгромлены шэраг ваенных гарнізонаў. За праяўленую адвагу і баявыя подзвігі ўзнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі і Айчыннай вайны I ступені, медалём «Партызану Айчыннай вайны» I ступені, іншымі медалямі. Быў прызначаны намеснікам камісара брыгады па камсамольскай рабоце. Ваяваў на фронце ў 113-й стралковай дывізіі, 08.03.1945 г. атрымаў скразное асколачнае раненне левага пляча, пасля лячэння 05.07.1945 г. выпісаны з армейскага палявога шпіталя.

Дзеці: 1. Аляксандр, 1946 г. н. (дзеці: Сяргей, Вольга).

2. Уладзімір, 1949 г. н. (дзеці: Аляксандр, Сяргей).

3. Віктар, 1951 г. н. (дзеці: Генадзь, Андрэй, Іван, Аляксандр, Алена, Святлана).

4. Тамара (дзеці: Павел, Яўгеній).

## XVII КАЛЕНА

316/192 **Мікалай,** нарадзіўся 10.05.1885 г., ахрышчаны 11.05.1885 г. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.04.1888 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.07.1888 г.[446] Жыў у засценку Сялец Бабруйскага павета. У 1911 г. атрымаў ад бацькі выдзеленую частку (жэрабя) на 40 дзесяцін (99 дзесяцін 450 сажняў) зямлі ў засценку Сялец з жылым домам, хлявом і гумном, з усімі ўгоддзямі коштам 500 рублёў, каб не прэтэндаваў на спадкаванне астатняй рухомай і нерухомай маёмасці бацькі. У 1914 г. пазначаны ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[447].

Жонка – Марыя Іванаўна.

317/192 **Васіль,** нарадзіўся і ахрышчаны 01.01.1900 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 24.02.1914 г.[448] У 1914 г. пазначаны ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[449]. Жыў у засценку Сялец.

318/192 **Грыгорый,** нарадзіўся і ахрышчаны 22.01.1902 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 24.02.1914 г.[450] У 1914 г. пазначаны ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[451]. Жыў у засценку Сялец.

319/192 **Аляксей,** нарадзіўся і ахрышчаны 13.03.1906 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 24.02.1914 г.[452] У 1914 г. пазначаны ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[453]. Жыў у засценку Сялец.

320/192 **Аляксандр,** нарадзіўся і ахрышчаны 10.07.1891 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 24.02.1914 г.[454] У 1914 г. пазначаны ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[455]. Жыў у засценку Сялец.

321/192 **Пётр,** нарадзіўся 27.06.1887 г., ахрышчаны 28.06.1887 г. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.04.1888 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.07.1888 г.[456]

20.04.1913 г. адбыўся трацейскі суд па спрэчцы паміж Віктарам, Іванам Андрыянавічамі, Пятром Дзяменцьевічам, Фёдарам, Канстанцінам, Сцяпанам, Дзмітрыем, Мікалаем і Іванам Калістратавым Карафа-Корбутамі, Некрашэвічамі, Іванам Тычынам і іншымі аб праве ўласнасці на 240 дзесяцін зямлі і аб выдзяленні Івану Віктаравічу Карафа-Корбуту ўласнасці з агульнага непадзельнага валодання ў маёнтку Сялец Глускай воласці Бабруйскага павета. У 1914 г. знаходзіўся ў Амерыцы.

322/192 **Ганна,** 1904 г. н. Прыхаджанка Глускай Уваскрэсенскай царквы Бабруйскага павета. Жыла ў засценку Сялец. У 1914 г. пазначана ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[457].

323/192 **Іван,** нарадзіўся і ахрышчаны 14.09.1893 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 24.02.1914 г.[458] Жыў у засценку Сялец. У 1914 г. пазначаны ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[459].



БОЕВАЯ ХАРАКТЕРИСТИКА

На начальника штаба партизанского отряда имени Воронова бригады № 99 имени Героя Советского Союза тов. Гуляева [illegible]
Корбута Ивана Степановича, рождения 1907 года, по национальности белорусс, по социальному положению служащий, по социальному происхождению из крестьян. Образование 5 классов, член ВКП/б/ с 1942 года. Прибыл в партизанский отряд [illegible] из деревни Селец [illegible]кольского с/совета Глусского района, Бобруйской области 9 февраля 1942 года.

Первое время тов. Корбут Иван Степанович в партизанском отряде был в должности бойца, в апреле месяце 1942 года с 4 товарищами организовал второй партизанский отряд имени Буденного, где был назначен командиром взвода и заместителем командира отряда, где уделил большое внимание росту и вооружению отряда. На протяжении полутора месяца партизанский отряд из 33 человек вырос в 1?0 человек [illegible] до 105 винтовок, 8 ручных пулеметов, 2 станковых пулемета и ротный миномет и 76-ми пушка, кроме этого для вновь организованных отрядов передано вооружение: пулеметов 8, винтовок 15, станковых пулеметов 2 и один батальонный миномет. Вопросам вооружения отряда непосредственно занимался тов. Корбут. В июле месяце 1942 года командованием бригады тов. Корбут был командирован для организации 2-го партизанского отряда им. Воронова, где был назначен начальником штаба отряда и находился до соединения с частями Красной Армии. За время своего пребывания в партизанском [illegible] тов. Корбут показал себя как патриот Социалистической Родины. Не было ни одного случая, где-бы тов. Корбут не выполнил поставленные ему задачи командованием бригады или отряда. Не было ни одного боя, где бы тов. Корбут не принимал активного участия. Как характерный пример во время соединения с частями Красной Армии



и взятием местечка Телеханы Пинской области тов.Корбут
с группой партизан в состав которой он входил отрезала пути
отхода противнику, выдерживая натиск превосходящих сил
противника разбила наголову захватила пленных и боль/!;
шое количество вооружения.
Тов. Корбут руководил деверсионной группой, которой
подбила из ~~хНхТхРРТх~~ ПТР 12 вражеских паровозов.
ЗА выдающиеся заслуги тов. Корбут награжден правительственной
наградой Медаль партизану отечественной войны I степини
и представлен к награждению орденами Красной Звезды и
Отечественной войны I степени.

КОМАНДИР ПАРТИЗАНСКОГО ОТРЯДА
ИМЕНИ ВОРОНОВА ЛЕЙТЕНАНТ ХФОРОХОРИН

Баявая характарыстыка (на 2 старонках) Корбута Івана Сцяпанавіча, начальніка штаба партызанскага атрада імя Воранава 99-й брыгады імя Героя Савецкага Саюза Гуляева (гл. «Карафа-Корбуты І» 310/188).







(Зверху злева) Міхаіл Сцяпанавіч Карафа-Корбут. 1960-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты I» 309/188).

Марыя Сцяпанаўна Карафа-Корбут. Вялікая Айчынная вайна. Фронт. Румынія. 1945 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 313/188).

Іван Сцяпанавіч Карафа-Корбут. 1970-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты I» 310/188).



Барыс Сцяпанавіч Карафа-Корбут. 1960-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты I» 315/188).



Аляксей Сцяпанавіч Карафа-Корбут. 1939 г. Загінуў пад Сталінградам падчас Вялікай Айчыннай вайны (гл. «Карафа-Корбуты I» 312/188).



Аляксандр Сцяпанавіч Карафа-Корбут (у цэнтры). Вялікая Айчынная вайна. Фронт. 20.05.1944 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 311/188).

324/192 **Вольга,** 1895 г. н. Прыхаджанка Глускай Уваскрэсенскай царквы Бабруйскага павета. Жыла ў засценку Сялец. У 1914 г. пазначана ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[460].

325/200 **Андрэй.**

326/200 **Леў,** нарадзіўся і ахрышчаны 18.02.1885 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 08.05.1900 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 15.02.1901 г.[461]

327/200 **Грыгорый,** нарадзіўся і ахрышчаны 24.11.1887 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 08.05.1900 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 15.02.1901 г.[462]

328/200 **Міхаіл,** нарадзіўся і ахрышчаны 23.05.1892 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 08.05.1900 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 15.02.1901 г.[463]

329/206 **Фядот,** нарадзіўся і ахрышчаны 02.03.1887 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.12.1915 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.03.1916 г.[464] Памёр у 1945 г.

Жонка – Соф'я Іосіфаўна Забэла, 1883–17.10.1964 гг. (гл. «Забэлы І» 61/31).

330/206 **Сямён,** нарадзіўся і ахрышчаны 05.04.1896 г. у Ляскавіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.12.1915 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.03.1916 г.[465]

331/206 **Мітрафан,** нарадзіўся і ахрышчаны 04.06.1899 г. у Ляскавіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.12.1915 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.03.1916 г.[466]

332/206 **Мікалай,** нарадзіўся і ахрышчаны 06.12.1892 г. у Ляскавіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.12.1915 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.03.1916 г.[467]

333/206 **Міхаіл,** нарадзіўся і ахрышчаны 07.11.1889 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.12.1915 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.03.1916 г.[468]

334/207 **Аляксандр,** нарадзіўся і ахрышчаны 06.12.1891 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.07.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 26.11.1913 г.[469] Закончыў Аляксандраўскі ліцэй. У 1930-я гг. арыштаваны АДПУ, лёс невядомы.

Жонка – Варвара Пятроўна Раіна, з сям'і святара, настаўніца, арыштавана ў 1937 г., загінула ў лагеры. Бацька Варвары Пятроўны служыў на расійскіх ваенных караблях і памёр ад ран, атрыманых у бітве пры Порт-Артуры. Мама Варвары Пятроўны – Казубоўская Соф'я Грыгор'еўна – засталася ў Давыд-Гарадку і апынулася за мяжой пасля раздзелу Беларусі паводле Брэсцкага міру 1918 г., у той час жыла ў свайго сына Кузьмы. Протаіерэй Касма (Кузьма) Пятровіч Раіна быў дабрачынным Пінскай заходняй акругі, настаяцелем царквы ў вёсцы Хойна Брэсцкай вобласці.



Сядзіць: Фядот Фёдаравіч Карафа-Корбут, стаяць: Сяргей Грыгор'евіч Ларын (злева), Куцявін. Першая сусветная вайна. Фронт. 1915 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 329/206).

Пад акупацыяй у час Вялікай Айчыннай вайны богаслужэнне ў храме айцец Касма вёў, як і ў мірны час. І кожны раз ён маліўся «О Великом Господине нашем патриаршем местоблюстителе блаженнейшем Сергии, митрополите Московском и Коломенском...», «О стране нашей, властех и воинстве ея...», што было вельмі небяспечна. Калі ў 1943 г. мясцовасць, дзе праходзіла пастырскае служэнне Касмы Раіны, стала зонай партызанскага ўплыву, ён заклікаў насельніцтва дапамагаць народным мсціўцам. У велікодную ноч 1943 г. упершыню пры вялікай колькасці народу ў прысутнасці партызан быў прачытаны зварот мітрапаліта Кіеўскага і Галіцкага Мікалая да насельніцтва часова акупаваных зямель. Перад асвячэннем кулічоў, якое ў Беларусі праходзіць пасля велікоднага богаслужэння вакол храма, айцец Касма абвясціў збор велікодных падарункаў для параненых, дзяцей і партызан. У характарыстыцы, выдадзенай яму 15.11.1944 г. камандзірам партызанскага атрада імя Кірава Нядзеліным, гаварылася, што «священник Раина Кузьма Петрович... оказывал всенародную помощь партизанам, действовавшим в тылу врага, доставляя в партизанские отряды разведданные, призывал население об оказании содействия народным мстителям, проявил себя как подлинный патриот нашей Великой Родины». За сваю патрыятычную дзейнасць ён быў узнагароджаны медалямі «Партызану Айчыннай вайны» І ступені і «За Перамогу над Германіяй». Пахаваны на Серафімаўскіх могілках у г. Санкт-Пецярбургу.

Дачка Шура, 1927 г. н., выхоўвалася ў дзіцячым доме (сын Аляксей Яфімаў, 1957 г. н., закончыў Ленінградскі інстытут сувязі імя М. А. Бонч-Бруевіча, унучка Вольга, 1982 г. н., закончыла сярэднюю школу з залатым медалём, Санкт-Пецярбургскі ўніверсітэт, вучыцца ў аспірантуры, генетык). Жыве ў г. Санкт-Пецярбургу.

Пляменнік Варвары Пятроўны Пётр Кузьміч Раіна (1921–1994), протаіерэй, настаяцель храма ў гонар Знамення Божай Маці, што ў с. Аксіньіна пад Масквой. Пётр Раіна нарадзіўся 11.08.1921 г. у г. Давыд-Гарадку ў сям'і святара. Закончыў Варшаўскі мітрапалітарны інтэрнат і гімназію імя Міцкевіча ў Хойне. З юнацкіх гадоў выхоўваўся ў духу праваслаўя і набожнасці, любіў свой край, з ранняга дзяцінства меў жаданне служыць Богу і людзям у сане святара. У час Вялікай Айчыннай вайны быў у шэрагах партызан разам з бацькамі і малодшым братам, узнагароджаны ордэнамі Славы, Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны, медалямі «За Вызваленне Варшавы», «За Штурм Берліна», «За Перамогу над Германіяй», «Партызану Айчыннай вайны» і граматай Вярхоўнага Галоўнакамандуючага. Пасля вайны паступіў у Мінскую духоўную семінарыю (закончыў у 1951 г.). У 1951 г. пасвечаны ў дыякана і прэсвітара архіепіскапам Мінскім і Беларускім Піцірымам (Свірыдавым). У 1967 г. закончыў Маскоўскую духоўную акадэмію. Пастырскае служэнне айцец Пётр праходзіў у Беларусі, Маскоўскай вобласці і ў г. Маскве, а таксама за межамі Айчыны – у Егіпце (у 1972–1975 гг. на пасадзе настаяцеля рускага Аляксандра-Неўскага храма ў г. Александрыі) і ў Амерыцы (у г. Сан-Францыска). За шматгадовае руплівае пастырскае служэнне Царкве Хрыстовай протаіерэй Пётр Раіна ўганараваны высокімі царкоўнымі ўзнагародамі: у 1976 г. узнагароджаны мітрай, у 1987 г. – правам служэння Божай літургіі з адкрытымі Царскімі варотамі да «Ойча наш», а таксама ордэнам Святога Роўнаапостальнага Князя Уладзіміра II і III ступеняў і ордэнам Прападобнага Сергія Раданежскага II і III ступеняў. 13.04.1994 г. протаіерэй Пётр Раіна



Ніжні рад (справа налева): Фядот Фёдаравіч Карафа-Корбут, Соф'я Іосіфаўна, яго жонка (да замужжа Забэла), Валянціна, дачка Вольгі, верхні рад: Вольга Фядотаўна і Іван Фядотавіч. Соф'я Іосіфаўна – дваюрадная сястра прадзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Івана Вікенцьевіча Сацкевіча-Статкевіча. 1930-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты І» 329/206).

пасля непрацяглай хваробы памёр. Па блаславенні Найсвяцейшага Патрыярха Алексія II чын адпявання протаіерэя Пятра Раіны правёў епіскап Істрынскі Арсеній, вікарый Найсвяцейшага Патрыярха, разам з многімі клірыкамі пры вялікай колькасці прыхаджан. Перад пачаткам адпявання епіскап Арсеній зачытаў тэкст тэлеграмы Найсвяцейшага Патрыярха Алексія II, у якой гаварылася: «Выражаю мое глубокое соболезнование клиру, церковно-приходскому совету и прихожанам храма в честь Знамения Божией Матери в Аксиньино, родным и близким почившего протоиерея Петра Раины в связи с тяжелой утратой – кончиной маститого пастыря, заботливого и ревностного настоятеля, участника Великой Отечественной войны, много потрудившегося по окормлению русского рассеяния за рубежом». Епіскап Арсеній у сваім слове выказаў спачуванне прыхаджанам і родным памерлага і адзначыў яго самаадданае служэнне Радзіме ў гады Вялікай Айчыннай вайны і руплівае пастырскае служэнне Царкве Божай усюды, куды накіроўвала яго кіраўніцтва Царквы. Перад спяваннем «Со святыми упокой...» зямляк айца Пятра протаіерэй Аркадзь Станько сказаў прачулае надмагільнае слова, адзначыў якасці, што характарызавалі нябожчыка як добрага пастыра, які здабыў любоў і павагу прыхаджан усюды, дзе ён служыў. Пасля правядзення чыну адпявання труна з целам памерлага была абнесена вакол храма пры спяванні ірмасаў «Помощник и Покровитель...» Пахаваны протаіерэй Пётр Раіна на могілках у Кунцаве (гл.: Церковная лампада, 1994, № 3).

335/207 **Вольга,** 28.01.1889–05.03.1955 гг. Жыла ў засценку Гарадзішча Глускай воласці Бабруйскага павета. Прыняла ў дар «с благодарностью» ад бацькі Івана Віктаравіча Корбута 8 дзесяцін сенакоснай зямлі ва ўрочышчы Сітавішча-Дубы Бабруйскага павета, аформіла дарчы запіс 02.05.1911 г. у актавай кнізе бабруйскага натарыуса Аляксандра Якаўлевіча Мацкевіча[470].

Муж – Іван Міхайлавіч Сацкевіч-Статкевіч (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 334/184), сын Міхаіла першага Сацкевіча-Статкевіча.

336/207 **Марыя.** Памерла ў 1920 г. Была першай жонкай Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 483/321). Дзеці: Міхаіл, Васіль, Іван, Зоя.

337/208 **Іван,** нарадзіўся і ахрышчаны 15.09.1887 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.03.1909 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 12.10.1909 г.[471]

06.11.1911 г. вечарам на дарозе з г. Бабруйска ў с. Гарбацэвічы селянін вёскі Жэстаўка Ясвоінскай воласці Ковенскага павета Еўпл Мікалаеў Куляшоў, 40 гадоў, украў у двараніна Івана Корбута 105 рублёў 70 кап., стукнуўшы яго паленам па галаве, за што Мінскі акруговы суд прыгаварыў Е. Куляшова да 6 гадоў катаржных работ. Па справе праходзіў сведка Васіль Іаанікіеў Карафа-Корбут. Іван Елісееў Карафа-Корбут жыў у вёсцы Цагельня Глускай воласці Бабруйскага павета.

338/208 **Васіль,** нарадзіўся 02.01.1879 г.

339/209 **Лука,** нарадзіўся і ахрышчаны 15.10.1890 г. у Ляскавіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.06.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 26.11.1913 г.[472]

340/209 **Іван,** нарадзіўся і ахрышчаны 13.01.1892 г. у Ляскавіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу



Аляксандр Іванавіч Карафа-Корбут – выпускнік Аляксандраўскага ліцэя. Аляксандр Іванавіч – брат Марыі Іванаўны, першай жонкі дзеда Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча. 1900-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты І» 334/207).



Знак выпускніка Аляксандраўскага ліцэя. *З калекцыі А. Статкевіча-Чабаганава.*

ад 12.06.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 26.11.1913 г.[473]

341/209 **Фёдар,** нарадзіўся і ахрышчаны 21.02.1900 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.06.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 26.11.1913 г.[474]

342/209 **Васіль,** нарадзіўся і ахрышчаны 12.04.1902 г. у Глускай Уваскрэсенскай царкве. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 12.06.1913 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 26.11.1913 г.[475] Месца жыхарства – г. Бабруйск. Праходзіў сведкам у Мінскім акруговым судзе 30.11.1912 г. па справе аб рабаўніцтве і збіцці Івана Елісеевіча Карафа-Корбута селянінам Еўплам Мікалаевічам Куляшовым.

343/227 **Мікалай,** нарадзіўся 17.05.1908 г., ахрышчаны 18.05.1908 г. святаром Пятром Акаловічам у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Засмужжа Георгій Аляксандраў Карафа-Корбут і дзяўчына Еўфрасінія Пятрова Карафа-Корбут[476].

У спісе пазбаўленых выбарчых правоў 26.02.1930 г. па Рэчанскім сельсавеце Любанскага раёна пазначаны пад № 2 – Корбут Мікалай Васільевіч, узрост – 21 год[477].

У жніўні 1930 г. разам са сваяком Іванам Міхайлавічам Сацкевічам-Статкевічам уцёк са ссылкі з Уральскай вобласці і спрабаваў перайсці мяжу з Польшчай. У час пераходу мяжы быў паранены і арыштаваны. Паўгода знаходзіўся пад арыштам у Слуцкім выпраўдоме. Прыгавор – 5 гадоў лагераў, накіраваны ў Казахстан.

*Пратакол Цімкавіцкага АДПУ ад 04.09.1930 г.*

08.08.1933 г. пад прозвішчам Шабанаў другі раз уцёк у Беларусь з мэтай перайсці савецка-польскую мяжу, але ў Старобінскім раёне быў арыштаваны і адпраўлены на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала, асуджаны на 3 гады. Пасля вызвалення з 1936 г. жыў у г. Алматы, з 1947 г. – 5 гадоў на Каўказе. У 1953 г. вярнуўся у г. Алматы. Памёр у 1971 г.

Дзеці: 1. Анатоль, н. 24.09.1938 г., жыве ў г. Калінінградзе. Жонка – Лілія Віктараўна Шродэр, з сям'і высланых у Казахстан прыволжскіх немцаў. Дзеці: 1. Вольга, н. 29.09.1965 г., закончыла медыцынскі інстытут (сын Андрэй, 1995 г. н.); 2. Ганна, н. 05.09.1968 г., жыве ў г. Санкт-Пецярбургу, закончыла Алма-Ацінскі педагагічны інстытут і Мюнхенскі інстытут моў (муж Аляксандр Аляксандравіч Чарнаўскі, палкоўнік Расійскай арміі, сын Леанід, 1990 г. н.); 3. Станіслаў, н. 05.09.1968 г., жыве ў г. Алматы, інжынер (жонка Вольга Іванаўна Носік, дачка Ганна, 1991 г. н.).

2. Таццяна (Урусава), н. 29.06.1950 г., жыве ў г. Алматы [дзеці: Ірына (дзеці: Арцём, Кірыл); Настасія (дачка Нэлі)].

344/227 **Віктар,** нарадзіўся 09.11.1915 г., ахрышчаны 13.11.1915 г. святаром Пятром Акаловічам у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваранін вёскі Засмужжа Георгій Аляксандраў Карафа-Корбут і Ганна Уладзімірава Шошына[478]. Загінуў на фронце ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Жонка – Марыя Кудач.

Дзеці: 1. Валянціна (Ахрамовіч).

2. Віктар, жонка Клаўдзія Львоўна. Дзеці: 1. Алег (дачка Яна, закончыла інстытут замежных моў, дачка Елізавета), жыве ў г. Гомелі; 2. Аляксандр (сын Арцём), жыве ў г. Нароўлі.

345/227 **Васіль,** нарадзіўся ў 1913 г. у засценку Засмужжа. У 1930 г. разам з братам Мікалаем і

Іванам Статкевічам спрабаваў перайсці савецка-польскую мяжу. Уцёк пры затрыманні іх пагранічнікамі. Перад вайной жыў у г. Гомелі. У час Вялікай Айчыннай вайны прапаў без вестак.

346/227 **Соф'я,** нарадзілася ў 1911 г. у засценку Засмужжа.

У спісе пазбаўленых выбарчых правоў 26.02.1930 г. па Рэчанскім сельсавеце Любанскага раёна значылася пад № 3 – Корбут Соф'я Васільеўна, узрост – 19 гадоў[479].

Муж – Аляксандр Іванавіч Понтус (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 484/321).

Дзеці: 1. Ірына, 1932–22.07.1980 гг. Муж Адам Васільевіч Міхневіч, 1927 г. н., жыве ў в. Старасек Любанскага раёна. Дзеці: 1. Васіль (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 632/483); 2. Віктар, н. 23.09.1961 г., падпалкоўнік Расійскай арміі (жонка Кібчанка Галіна Віталеўна, н. 13.10.1960 г., закончыла Сімферопальскі дзяржаўны ўніверсітэт; дзеці: Сяргей, н. 03.07.1983 г., закончыў Санкт-Пецярбургскі горны інстытут; Аляксандр, н. 16.12.1986 г., студэнт Санкт-Пецярбургскага горнага інстытута. Жывуць у г. Пецяргофе); 3. Іван [дзеці: Людміла, 1979 г. н., закончыла інстытут замежных моў, сын Уладзіслаў; Наталля (дачка Аляксандра), Васілій (дачка Ліяна)].

2. Соф'я, н. 10.03.1949 г. Дзеці: 1. Ганна Карака, н. 04.04.1980 г., закончыла з адзнакай Віцебскі тэхналагічны інстытут і аспірантуру пры інстытуце сельскай гаспадаркі; 2. Алена, н. 28.04.1983 г., закончыла Віцебскі тэхналагічны інстытут і магістратуру пры Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

3. Клаўдзія, 1934 г. н. Муж – Вячаслаў Вікенцьевіч Гідрановіч. Дзеці: 1. Анатоль, закончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут, намеснік дырэктара птушкафабрыкі ў г. Смалявічы (дачка Таццяна, закончыла эканамічны ўніверсітэт, жыве ў г. Мінску; сын Аляксандр, інжынер, жыве ў г. Мінску); 2. Валерый, закончыў БНТУ, жыве ў г. Любані (дачка Юлія, сын Аляксандр, студэнты); 3. Аляксандр (сын Павел). Жыве ў г. Салігорску.

4. Тамара, 1937 г. н.

5. Марыя, 1939 г. н. Муж – Іван Іосіфавіч Гідрановіч. Дзеці: 1. Аляксандр, закончыў Магілёўскі машынабудаўнічы інстытут (дзеці: Аляксей і Ян, студэнты); 2. Віктар.

6. Леанід, 1941 г. н. Дзеці: 1. Таццяна, жыве ў г. Салігорску (дзеці: Вольга, Мікіта); 2. Іна (дачка Ганна), жыве ў г. Уфе.

7. Мікалай. Дзеці: 1. Жанна, закончыла Віцебскі тэхналагічны інстытут (дачка Таццяна), жыве ў г. Брэсце; 2. Наталля (сын Віктар), жыве ў г. Мінску.

346а/232 **Аляксандр,** нарадзіўся 02.03.1934 г. Закончыў Ленінградскі ўніверсітэт, кандыдат фізіка-матэматычных навук. Жыве ў г. Санкт-Пецярбургу.

Жонка – Людміла Барысаўна Сцяфанава.

347/239 **Фёкла.**

348/241 **Марыя,** нарадзілася 22.06.1886 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыла ў засценку Кулакі на чыншавай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 329.*

349/246 **Ксенія,** нарадзілася 06.02.1886 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыла ў засценку Кулакі на чыншавай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 327.*

350/246 **Антон,** нарадзіўся 06.10.1891 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыў у засценку Кулакі на чыншавай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 327.*


МЕТРИЧЕСКОЙ КНИГИ НА

Выпіс з метрычных кніг Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царквы Бабруйскага павета, дзе пад № 60 значыцца, што 17.05.1908 г. нарадзіўся Мікалай. Бацькі: дваранін засценка Засмужжа Васіль Пятровіч Карафа-Корбут і Вольга Аляксандраўна Чарноцкая (гл. «Карафа-Корбуты I» 343/227). *НГАБ, ф. 136, воп. 34, спр. 16, арк. 23 адв. – 24.*


МЕТРИЧЕСКОЙ КНИГИ на

Выпіс з метрычных кніг Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царквы Бабруйскага павета за 1799–1916 гг., дзе пад № 121 значыцца, што 09.11.1915 г. нарадзіўся Віктар. Бацькі: дваране в. Засмужжа Васіль Пятровіч Карафа-Корбут і Вольга Аляксандраўна Чарноцкая. Хросныя бацькі: дваранін в. Засмужжа Георгій Аляксандравіч Карафа-Корбут і Ганна Уладзіміраўна Шошына (гл. «Карафа-Корбуты I» 344/227). *НГАБ, ф. 136, воп. 34, спр. 16, арк. 128 адв. – 129.*

Васіль Васільевіч Карафа-Корбут. 1934 г. Разам са сваім братам Мікалаем і Іванам Міхайлавічам Сацкевічам-Статкевічам у 1930 г. спрабаваў перайсці савецка-польскую мяжу. Прапаў без вестак у Вялікую Айчынную вайну (гл. «Карафа-Корбуты І» 345/227).





Соф'я Васільеўна Понтус (Карафа-Корбут) і яе сям'я (злева направа): Тамара, Соф'я (на руках), Марыя, Клаўдзія. 1950-я гг. (гл. «Карафа-Корбуты I» 346/227).

350а/246 **Сцепаніда,** нарадзілася 28.01.1888 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыла ў засценку Кулакі на чыншавай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 327.*

351/246 **Сцепаніда,** нарадзілася 13.04.1915 г., ахрышчана 15.04.1915 г. святаром Пятром Акаловічам у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Засмужжа Лазар Іосіфаў Кунцэвіч і Вольга Іўсцінава Карафа-Корбут[480].

352/250 **Аляксандр,** нарадзіўся 02.08.1887 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыў у засценку Кулакі на выкупленай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 339.*

352а/250 **Міхаіл,** у сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г. пазначаны як дзіця ва ўзросце 3 гадоў, жыў разам з бацькамі ў засценку Кулакі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 469 адв. – 470*). Магчыма, памёр у 1878 – пачатку 1879 гг.

353/250 **Міхаіл,** нарадзіўся 13.02.1879 г. Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.05.1887 г.[481] Указам Сената ад 06.10.1887 г. не зацверджаны ў дваранстве ў сувязі з няправільным указаннем у радаводзе прадзеда[482].

354/250 **Мікалай,** нарадзіўся 14.10.1875 г. Па сямейных спісах дваран Слуцкага павета 1878 г. (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 564, арк. 469 адв. – 470*) і 1893 г., жыў у засценку Кулакі на выкупленай зямлі (*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 339*). Далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.05.1887 г.[483] Указам Сената ад 06.10.1887 г. не зацверджаны ў дваранстве ў сувязі з няправільным указаннем у радаводзе прадзеда[484].

355/250 **Ануфрый,** нарадзіўся 12.06.1890 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыў у засценку Кулакі на выкупленай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 339.*

356/250 **Мяфодзій,** нарадзіўся 14.06.1894 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыў у засценку Кулакі на выкупленай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 339.*

357/250 **Аляксандра,** *1877 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыла ў засценку Кулакі на выкупленай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 339.*

358/250 **Ганна,** *1881 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыла ў засценку Кулакі на выкупленай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 339.*

359/251 **Ганна,** нарадзілася 29.11.1890 г., ахрышчана 30.11.1890 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Касынічы Дзмітрый Сцяпанаў Камароўскі і жонка Сцяпана Якаўлева Загароўскага Елізавета Андрэеўна[485].

360/251 **Іаан,** нарадзіўся 04.01.1893 г., ахрышчаны 06.01.1893 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Касынічы Дзмітрый Сцяпанаў Камароўскі і жонка Сцяпана Якаўлева Загароўскага Елізавета Андрэеўна[486].

361/251 **Платон,** нарадзіўся 20.11.1897 г., ахрышчаны 23.11.1897 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін засценка Касынічы Дзмітрый Сцяпанаў Камароўскі і дачка

двараніна Васіля Паўлавіча Некрашэвіча Параскевія, дзяўчына[487].

362/251 **Вольга,** нарадзілася 23.10.1908 г., ахрышчана 26.10.1908 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі сяляне засценка Касынічы Уладзімір Дзмітрыевіч Камароўскі і Кацярына Феадораўна Сыцько, дзяўчына[488]. Памерла 11.12.1908 г. ад гарачкі, пахавана 13.12.1908 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Іаанам Кульчыцкім[489].

363/252 **Міканор,** нарадзіўся 24.07.1883 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыў у засценку Кулакі на чыншавай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 330.*

364/252 **Ганна,** нарадзілася 01.10.1887 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыла ў засценку Кулакі на чыншавай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 330.*

365/252 **Марыя,** нарадзілася 29.06.1891 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., разам з бацькамі жыла ў засценку Кулакі на чыншавай зямлі.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 642, арк. 330.*

366/255 **Міхаіл,** нарадзіўся 12.01.1891 г., ахрышчаны 13.01.1891 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Іван Гаўрыілаў Яблонскі і жонка Міхаіла Іеранімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[490].

367/255 **Параскевія,** нарадзілася 25.10.1896 г., ахрышчана 27.10.1896 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін Іван Гаўрыілаў Яблонскі і дваранка Анастасія Мікалаеўна Вішнеўская, дзяўчына[491].

368/255 **Марыя,** нарадзілася 23.10.1886 г., ахрышчана 26.10.1886 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Іван Гаўрыілаў Яблонскі і жонка Мацвея Грыгор'ева Корбута Агафія Грыгор'ева[492].

369/255 **Аляксандр,** нарадзіўся 05.05.1889 г., ахрышчаны 07.05.1889 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Іван Гаўрыілаў Яблонскі і жонка Міхаіла Іеранімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[493].

370/255 **Цімафей,** нарадзіўся 20.01.1894 г., ахрышчаны 23.01.1894 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Балоцічы Іван Гаўрылавіч Яблонскі і жонка двараніна Мікалая Міхайлавіча Вішнеўскага Ганна Іванаўна[494]. Памёр 21.07.1894 г. «от поноса», пахаваны 23.07.1894 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[495].

371/255 **Ганна,** нарадзілася 21.09.1904 г., ахрышчана 23.09.1904 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін засценка Балоцічы Іван Гаўрылавіч Яблонскі і дачка двараніна Мікалая Міхайлавіча Вішнеўскага Марыя, дзяўчына[496].

372/255 **Надзея,** нарадзілася 02.09.1906 г., ахрышчана 08.09.1906 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі жыхары засценка Балоцічы селянін Іван Гаўрылавіч Яблонскі і дачка двараніна Мікалая Міхайлавіча Вішнеўскага Марыя, дзяўчына[497].

373/257 **Таццяна,** нарадзілася 12.01.1894 г., ахрышчана 13.01.1894 г. святаром Феадорам

Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін вёскі Танежычы Данііл Васільеў Перагуд і дзяўчына Еўдакія Мацвеева Корбут[498].

Муж – Іван Якаўлеў Сыцько, селянін засценка Касынічы, 21 год. Шлюб 29.10.1917 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве, першым шлюбам. Сведкі: з боку маладога – жыхар засценка Балоцічы дваранін Фама Карлавіч Рафінінавіч Дзічкоўскі і жыхар засценка Касынічы Фёдар Кузьміч Бялькевіч, з боку маладой – жыхары засценка Балоцічы дваранін Мікіта Фёдаравіч Кернажыцкі і селянін Іван Панфілавіч Шулякоўскі[499].

374/257 **Іўсцін,** нарадзіўся 12.08.1887 г., ахрышчаны 13.08.1887 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Максім Іванаў Бялькевіч і жонка Міхаіла Іеранімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[500].

375/257 **Анастасія,** нарадзілася і ахрышчана 18.12.1896 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін вёскі Танежычы Данііл Васільевіч Перагуд і дачка селяніна засценка Балоцічы Парфірыя Васільевіча Шулякоўскага Марыя, дзяўчына[501].

376/257 **Антон,** нарадзіўся 24.12.1884 г., ахрышчаны 25.12.1884 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Балоцічы Максім Іванаў Бялькевіч і дачка аднадворца Мацвея Грыгорыева Корбута Парасkeвія[502]. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[503] Памёр 17.11.1909 г. («задавлен мотопилкою»), пахаваны 21.11.1909 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Іаанам Кульчыцкім[504].

377/257 **Міхаіл,** нарадзіўся 05.11.1906 г., ахрышчаны 08.11.1906 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Андрэй Лявонціеў Корбут і жонка Міхаіла Паўлава Кернажыцкага Вольга Фёдарава[505].

378/257 **Фёдар,** нарадзіўся 01.02.1903 г., ахрышчаны 02.02.1903 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін засценка Танежыцы Данііл Васільевіч Перагуд і жонка жыхара засценка Балоцічы Міхаіла Паўлавіча Кернажыцкага Вольга Фёдараўна[506].

379/257 **Алена,** нарадзілася 23.07.1891 г., ахрышчана 28.07.1891 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Міхаіл Іванаў Бялькевіч і жонка Міхаіла Іеранімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[507].

Муж – Аляксандр Міхайлаў Бялькевіч, дваранін хутара Грады, 40 гадоў, першым шлюбам. Шлюб 22.05.1917 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Сведкі: з боку маладога – селянін засценка Вялікая Мліна Якаў Ігнацьевіч Пількевіч і дваранін засценка Балоцічы Фама Карлавіч Дзічкоўскі, з боку маладой – сяляне засценка Касынічы Павел Васільевіч Макрыцкі і засценка Танежычы Іван Данілавіч Перагуд[508].

380/257 **Іаан,** нарадзіўся 14.05.1889 г., ахрышчаны 15.05.1889 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Балоцічы Гаўрыіл Іванаў Бялькевіч і жонка аднадворца Міхаіла Геранімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[509].

Памёр «от кровавого поноса», пахаваны святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[510].

381/257 **Грыгорый,** нарадзіўся 05.01.1900 г., ахрышчаны 06.01.1900 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін засценка Танежычы Данііл Васільевіч Перагуд і дачка селяніна засценка Балоцічы Парфірыя Васільевіча Шулякоўскага Марыя, дзяўчына[511]. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[512]

382/260 **Марыя,** нарадзілася 17.02.1889 г., ахрышчана 19.02.1889 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Міхаіл Сцяпанавіч Валатковіч і дачка Гаўрыіла Іванавіча Яблонскага Леанора, дзяўчына[513]. Жыла ў засценку Балоцічы. Разам з Іванам Міхайлавічам Кернажыцкім была хроснай 29.04.1907 г. у Васіля[514], 05.01.1910 г. – у Вольгі[515], дзяцей Паўла Герасімавіча і Аляксандры Пятроўны Карафа-Корбутаў, з Міканорам Міхайлавічам Берасневічам, Іуліяй Ігнацьеўнай Дзічкоўскай і Андрэем Міхайлавічам Берасневічам 01.07.1907 г. – у блізнят Елізаветы і Сцепаніды, дачок Пятра Мацвеевіча і Ганны Міхайлаўны Корбутаў[516].

Муж – Антоній Сямёнаў Б а р а н о ў с к і, дваранін хутара Вейна Хварастоўскага прыхода, 25 гадоў, першым шлюбам. Шлюб 09.02.1911 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Сведкі: з боку маладога – селянін маёнтка Пузічы Міхаіл Паўлаў Кернажыцкі, з боку маладой – дваране засценка Балоцічы Павел Герасімаў Карафа-Корбут і Макарый Антонаў Бранавіцкі[517].

383/260 **Ганна,** нарадзілася 06.08.1892 г., ахрышчана 08.09.1892 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Міхаіл Сцяпанавіч Валатковіч і жонка Гаўрыіла Антонавіча Кернажыцкага Акуліна Андрэеўна[518]. Памерла 21.09.1892 г. «от чирья», пахавана 23.09.1892 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[519].

384/260 **Вольга,** нарадзілася 08.07.1894 г., ахрышчана 10.07.1894 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Міхаіл Сцяпанавіч Валатковіч і жонка Гаўрыіла Антонавіча Кернажыцкага Акуліна Андрэеўна[520].

Муж – Іван Якаўлеў П і л ь к е в і ч, селянін засценка Малая Мліна, 23 гады, першым шлюбам. Шлюб 18.10.1913 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Сведкі: з боку маладога – дваранін засценка Балоцічы Макарый Антонаў Бранавіцкі і селянін засценка Малая Мліна Сямён Кірылаў Васілеўскі, з боку маладой – дваранін засценка Балоцічы Іван Міхайлавіч Кернажыцкі і Іосіф Міхайлаў Карафа-Корбут[521].

385/260 **Іосіф,** нарадзіўся 07.11.1885 г. у засценку Балоцічы, ахрышчаны 10.11.1885 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворац Міхаіл Сцяпанавіч Валатковіч і дачка Гаўрыіла Іванавіча Яблонскага Марыя, дзяўчына[522]. Разам з Іванам Міхайлавічам Кернажыцкім быў сведкам з боку маладой пры шлюбе 18.10.1913 г. Івана Якаўлевіча Пількевіча і Вольгі Міхайлаўны Карафа-Корбутаў[523]. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[524]

386/260 **Іван,** нарадзіўся 28.08.1882 г., ахрышчаны 29.08.1882 г. святаром Паўлам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Міхаіл Сцяпанавіч Валатковіч і дачка Гаўрыіла Іванавіча Яблонскага Марыя, дзяўчына[525]. Разам з Марыяй Парфір'еўнай Шуляколўскай быў хросным 27.08.1900 г. у Івана, сына Георгія Герасімавіча і Анастасіі Міхайлаўны Карафа-Корбутаў[526], з Аленай Якімаўнай Кутылоўскай-Сакалоўскай 16.08.1909 г. – у Марыі[527], 13.07.1914 г. – у Сафіі[528], дачок Адама Цімафеевіча і Елізаветы Іванаўны Корбутаў. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[529]

387/260 **Антон,** нарадзіўся і ахрышчаны 03.08.1897 г. у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[530]

388/261 **Іаан,** нарадзіўся 25.08.1900 г., ахрышчаны 27.08.1900 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі сяляне засценка Балоцічы Іван Міхайлаў Корбут і дачка Парфірыя Васільева Шуляколўскага Марыя, дзяўчына[531]. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[532]

389/262 **Марыя,** нарадзілася 11.02.1904 г., ахрышчана 15.02.1904 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Балоцічы Іван Міхайлаў Кернажыцкі і жонка селяніна Міхаіла Герасімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[533].

390/262 **Ганна,** нарадзілася 09.02.1903 г., ахрышчана 10.02.1903 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Іван Міхайлаў Кернажыцкі і жонка Міхайла Геранімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[534]. Памерла 11.03.1903 г. ад коклюшу, пахавана 13.03.1903 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[535].

391/262 **Антоній,** нарадзіўся 12.01.1896 г., ахрышчаны 14.01.1896 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Балоцічы Міхаіл Паўлаў Кернажыцкі і сялянка, жонка Міхаіла Герасімава Еўфрасіння Сцяпанава[536]. Памёр 28.11.1896 г. «от крупа», пахаваны 30.11.1896 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[537].

392/262 **Іосіф,** нарадзіўся 27.11.1900 г., ахрышчаны 28.11.1900 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Балоцічы Міхаіл Паўлаў Кернажыцкі і жонка селяніна Міхаіла Геранімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[538]. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[539]

393/262 **Іаан,** нарадзіўся 07.05.1893 г. (з двойні), ахрышчаны 08.05.1893 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Платон Антонавіч Бялькевіч і жонка Міхаіла Герасімавіча Корбута Еўфрасінія Сцяпанава; дваране Міхаіл Паўлавіч Кернажыцкі і дачка Мікалая Мацвеевіча Кернажыцкага Феадора, дзяўчына;

сяляне Сямён Міхайлавіч Пятровіч з сяла Прусы і Еўфрасінія Максімаўна, жонка Карнілія Васільевіча Ганчара, з вёскі Астравок[540]. Памёр 10.05.1893 г. «от конвульсий», пахаваны 12.05.1893 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[541].

394/262 **Аляксандра,** нарадзілася 07.05.1893 г. (з двойні), ахрышчана 08.05.1893 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі аднадворцы засценка Балоцічы Платон Антонавіч Бялькевіч і жонка Міхаіла Герасімавіча Корбута Еўфрасінія Сцяпанава; дваране Міхаіл Паўлавіч Кернажыцкі і дачка Мікалая Мацвеевіча Кернажыцкага Феадора, дзяўчына; сяляне Сямён Міхайлавіч Пятровіч з сяла Прусы і Еўфрасінія Максімаўна, жонка Карнілія Васільевіча Ганчара, з вёскі Астравок[542].

Муж – Сцяпан Іосіфаў Есьмак, селянін засценка Выгада, 31 год, першым шлюбам. Шлюб 27.05.1918 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве[543].

395/262 **Георгій,** нарадзіўся 23.04.1898 г., ахрышчаны 24.04.1898 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Балоцічы Міхаіл Паўлаў Кернажыцкі і жонка селяніна Міхаіла Герасімава Корбута Еўфрасінія Сцяпанава[544].

396/262 **Васіль,** нарадзіўся 26.04.1907 г., ахрышчаны 29.04.1907 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Іван Міхайлаў Кернажыцкі і Марыя Міхайлава Карафа-Корбут, дзяўчына[545].

397/262 **Вольга,** нарадзілася 01.01.1910 г., ахрышчана 05.01.1910 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Іван Міхайлаў Кернажыцкі і Марыя Міхайлава Карафа-Корбут, дзяўчына[546].

398/266 **Сцяпан,** нарадзіўся 21.10.1894 г., ахрышчаны 23.10.1894 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі сяляне засценка Балоцічы Павел Іеранімаў Корбут і жонка Бенядзікта Іванава Карповіча Аляксандра Грыгор'ева[547]. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[548]

399/266 **Міхаіл,** нарадзіўся 24.12.1895 г., ахрышчаны 31.12.1895 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі сяляне засценка Балоцічы Павел Іеранімаў Корбут і Аляксандра Грыгор'ева Карповіч[549]. Далучаны да дваранскага роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.05.1904 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 31.03.1905 г.[550]

400/266 **Марыя,** нарадзілася 19.07.1899 г., ахрышчана 25.07.1899 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Квасынічы Міканор Міхееў Берасневіч і сялянка засценка Балоцічы Еўдакія Цімафеева Корбут[551].

401/266 **Вольга,** нарадзілася і ахрышчана 17.08.1897 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваранін засценка Квасынічы Міканор Міхееў Берасневіч і сялянка засценка Балоцічы жонка Венядзікта Іванавіча Карповіча Аляксандра Грыгор'еўна[552]. Памерла 11.02.1903 г. «от крупа», пахавана 13.02.1903 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Феадорам Маскалевічам[553].

402/266 **Аляксандра,** нарадзілася і ахрышчана 28.10.1901 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі селянін засценка Квасынічы Міканор Міхайлаў Берасневіч і жонка Георгія Геранімава Корбута з засценка Балоцічы Анастасія Міхайлава[554].

403/266 **Іаан,** нарадзіўся 17.01.1905 г., ахрышчаны 23.01.1905 г. святаром Феадорам Маскалевічам у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі сяляне вёскі Квасынічы Міканор Міхееў Берасневіч і жонка селяніна засценка Балоцічы Георгія Іеранімава Корбута Анастасія Міхайлава[555].

404/266 **Елізавета,** нарадзілася 29.06.1907 г. (з двойні), ахрышчана 01.07.1907 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі сяляне засценка Балоцічы Міканор Міхайлаў Берасневіч і жонка Фамы Дзічкоўскага Юлія Ігнацьеўна, Андрэй Міхайлаў Берасневіч і дваранка Марыя Міхайлава Карафа-Корбут, дзяўчына[556]. Памерла ад сухотаў, пахавана 08.06.1914 г. святаром Прускай Раство-Багародзіцкай царквы Іаанам Кульчыцкім[557].

405/266 **Сцепаніда,** нарадзілася 29.06.1907 г. (з двойні), ахрышчана 01.07.1907 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі Андрэй Міхайлаў Берасневіч і дваранка Марыя Міхайлава Карафа-Корбут, дзяўчына, сяляне засценка Балоцічы Міканор Міхайлаў Берасневіч і жонка Фамы Дзічкоўскага Юлія Ігнацьеўна[558].

406/266 **Вера,** нарадзілася 23.04.1911 г., ахрышчана 24.04.1911 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі сяляне вёскі Квасынічы Андрэй Міхееў Берасневіч і засценка Балоцічы Марыя Іванаўна Яблонская, дзяўчына[559].

407/271 **Пётр.** Жонка – Зоя Міхайлаўна Сацкевіч-Статкевіч (Статкевіч; гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 632/483).

408/271 **Андрэй,** 1906–1943 гг. У час Вялікай Айчыннай вайны – партызанскі сувязны. У 1943 г. вёз для партызан з г. Любані ў вёску Засмужжа на падводзе соль, падарваўся на міне разам з сястрой Надзеяй і пляменнікам.

Жонка – Анастасія Сямёнаўна Навінская, 1907–1988 гг.

Дзеці: 1. Мікалай. Дзеці: Таццяна, Мікалай, Сяргей.

2. Ніна. Дзеці: Лідзія, Валянціна. Жыве ў г. Мінску.

3. Марыя. Дзеці: Таццяна, закончыла інстытут народнай гаспадаркі (муж Аляксандр, лётчык, дачка Алена); Ала (дзеці: Юлія, Анастасія).

4. Міхаіл. Дзеці: Таццяна, Анатоль, Віктар. Жыве ў г. Салігорску.

5. Соф'я. Муж Верамейчык. Дзеці: Анатоль, жыве ў г. Салігорску; Людміла, жыве ў г. Валожыне; Валянціна, жыве ў г. Глыбокае.

6. Ганна. Муж Бялько. Дзеці: Генадзь, Людміла, 1965 г. н., закончыла БДУ, выкладае матэматыку ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка.

409/271 **Антось.**

410/271 **Надзея.** Загінула ў 1943 г., падарвалася на міне разам з братам Андрэем і сынам.

Муж – Павел Курлянкоў, настаўнік. Загінуў на фронце.

411/275 **Сцепаніда.** Муж – Васіль Гурленя. Жыў у вёсцы Засмужжа. Дзеці: Таісія, Васіль, Ніна, Марыя, Раіса, Пётр.

412/275 **Васіль,** ветурач.

413/275 **Аляксандр,** нарадзіўся ў 1907 г. у засценку Засмужжа Забалацкай воласці Бабруйскага павета. Член ВКП(б), слухач Артылерый-



Пётр Афанасьевіч Карафа-Корбут, муж цёткі Анатоля Статкевіча-Чабаганава – Зоі Міхайлаўны Карафа-Корбут (Сацкевіч-Статкевіч; гл. «Карафа-Корбуты I» 407/271). 1920-я гг.



Андрэй Афанасьевіч Карафа-Корбут, брат Пятра Афанасьевіча Карафа-Корбута. 1920-я гг. У час Вялікай Айчыннай вайны – партызанскі сувязны. Падарваўся на міне ў 1943 г. (гл. «Карафа-Корбуты I» 408/271).

скай акадэміі РККА ў г. Ленінградзе. Арыштаваны 03.09.1937 г. Камісіяй НКУС і Пракуратуры СССР, 09.09.1937 г. прыгавораны па артыкуле 58-6 да вышэйшай меры пакарання. Расстраляны ў г. Ленінградзе 28.09.1937 г.

414/277 **Сафія,** нарадзілася 11.07.1914 г., ахрышчана 13.07.1914 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Іван Міхайлаў Карафа-Корбут і Алена Іаакімава Кутылоўская[560].

415/277 **Марыя,** нарадзілася 14.08.1909 г., ахрышчана 16.08.1909 г. святаром Іаанам Кульчыцкім у Прускай Раство-Багародзіцкай царкве. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Балоцічы Іван Міхайлаў Карафа-Корбут і Алена Якімава Кутылоўская-Сакалоўская, дзяўчына[561].

416/280 **Мікалай,** нарадзіўся 19.05.1908 г., ахрышчаны 20.05.1908 г. святаром Пятром Акаловічам у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Засмужжа Адам Іўсцінаў Рудзінскі і дзяўчына Іўсціння Аляксандрава Карафа-Корбут[562].

Жонка – Анастасія Іванаўна.

Дзеці: 1. Ілья, дзеці: 1. Юрый, настаўнік, жыве ў пасёлку Чырвонагвардзейскі Белгарадскай вобласці (сын Вадзім, юрыст; дачка Ірына, студэнтка); 2. Валерый, 19.02.1957–22.12.1992 гг. Закончыў з адзнакай Варонежскі інжынерна-будаўнічы інстытут. Загінуў у аўтааварыі пры нявысветленых абставінах [жонка Вікторыя Фёдарава, інжынер-будаўнік; загінула ў аўтааварыі ў 1991 г. Дзеці: Максім, 1981 г. н. (жонка Настасія, сын Данііл); Арцём, 1986 г. н., жывуць у г. Гразі Ліпецкай вобласці].

2. Аляксандр, н. 10.07.1948 г. Жонка Ніна Андрэеўна. Дзеці: 1. Аляксандр, н. 17.08.1969 г. (дачка Вольга, н. 26.11.2000 г.); 2. Мікалай, н. 23.06.1976 г., жыве на станцыі Ерафей Паўлавіч Амурскай вобласці (сыны Ілья, н. 26.11.2001 г., Максім, 2008 г. н.).

417/280 **Аляксандра (Алеся),** нарадзілася ў 1911 г. у засценку Засмужжа Забалацкай воласці Бабруйскага павета. У 1930 г. выслана ў Качоўскі раён Комі-Пярмяцкай акругі. Памерла ў 1973 г.

Муж – Мікалай Фёдаравіч Хацяноўскі, 1904–1981 гг. Да ссылкі жыў у вёсцы Дунцы Любанскага раёна.

Сын Ігар, н. 25.12.1939 г. Дзеці: 1. Ніна, 1964 г. н., закончыла філіял Сыктыўкарскага ўніверсітэта ў г. Кудынцы, выхавальнік у дзіцячым садзе (муж Аляксей Чугайнаў, дзеці: Ігар і Ілья); 2. Уладзімір, 1967 г. н., ветэран вайны ў Афганістане, мае раненне, узнагароджаны медалём «За Адвагу» і іншымі медалямі (жонка Алена, урач, дзеці: Юлія, Ягор, Ева). Жыве ў г. Пярмі.

418/280 **Ілья,** нарадзіўся ў 1923 г. у вёсцы Засмужжа Забалацкай воласці Бабруйскага павета. У 1930 г., пасля раскулачвання, разам з маці Евай Пятроўнай і іншымі сваякамі высланы ў Комі-Пярмяцкую акругу, дзе пабудавалі пас. Станамыс. Закончыў Пермскі дзяржаўны ўніверсітэт. У час Вялікай Айчыннай вайны – на фронце ў складзе лыжнага батальёна. У баях пад Масквою цяжка паранены. Працаваў дырэктарам школы ў Юксееве Качоўскага раёна, выдатнік адукацыі Расіі. У яго доме размешчаны Музей палітычных рэпрэсій. Памёр 21.02.1981 г.

Жонка – Паліна Васільеўна Ямшчыкова, 15.10.1923–11.04.1997 гг., з сям'і ссыльных з Самарскай вобласці. Закончыла Кіраўскі педінстытут, выкладчык гісторыі, выдатнік адукацыі Расіі.

Дзеці: 1. Уладзімір, н. 21.10.1950 г. Закончыў Пермскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, намес-



Злева направа: Паліна Васільеўна,
Ілья Георгіевіч (гл. «Карафа-Корбуты І»
418/280), Мікалай Васільевіч (гл. «Карафа-
Корбуты І» 343/227), Сцяпан Георгіевіч
(гл. «Карафа-Корбуты І» 419/280),
Таццяна Мікалаеўна Карафа-Корбуты. Алматы.
1960-я гг.

нік галоўнага ўрача па лячэбнай частцы, заслужаны ўрач Расіі. Жонка Наталля Аляксандраўна Пастаногава, н. 02.04.1953 г. Закончыла Пермскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, урач вышэйшай катэгорыі. Дзеці: Ірына, н. 16.12.1975 г., урач; Вольга, н. 20.08.1980 г., урач (муж Уладзімір Уладзіміравіч Шубнікаў, сын Леў, н. 10.09.2008 г.). Жыве ў г. Пярмі.

2. Васіль, 29.04.1952–24.07.2003 гг. Закончыў Пермскі дзяржаўны педінстытут, фізік. Працаваў дырэктарам сярэдняй школы. Жыў у г. Лысьве. Жонка Людміла Віктараўна Булдакова, н. 12.04.1950 г., настаўніца. Дзеці: 1. Кацярына, інжынер-тэхнолаг; 2. Ніна, закончыла Пермскі класічны ўніверсітэт.

3. Аляксандра, 29.12.1957–29.04.1983 гг. Закончыла Пермскі інстытут культуры. Сын Аляксандр, 1980–2001 гг., трагічна загінуў у аўтаавирыі.

419/280 **Сцяпан,** нарадзіўся і ахрышчаны 26.04.1914 г. святаром Пятром Акаловічам у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране засценка Засмужжа Адам Юсцінаў Рудзінскі і жонка Андрэя Карафа-Корбута Марыя Міхайлава[563]. Пасля раскулачвання сасланы ў Краснаярскі край, у 1957 г. пераехаў у Казахстан. Памёр у 1968 г.

Жонка – Тамара Яфімаўна Цімафеева, 14.06.1926–26.06.1983 гг.

Дачка Вера, н. 08.10.1950 г. Закончыла Алма-Ацінскі тэхнікум. Жыве ў г. Пушкіне Ленінградскай вобласці. Муж Анатолій Нікіцін. Дзеці: 1. Наталля, н. 28.03.1973 г., закончыла Санкт-Пецярбургскую акадэмію фізічнай культуры імя П. Ф. Лесгафта (дзеці: Ізабэль, Філі); 2. Маргарыта, н. 29.08.1975 г., закончыла інстытут фінансаў (дзеці: Віктар, Вікторыя); 3. Максім, н. 06.12.1977 г., студэнт Пушкінскага сельгасінстытута (дзеці: Вячаслаў, Ільля); 4. Тамара, н. 20.06.1985 г., студэнтка 1-га медыцынскага інстытута ў г. Санкт-Пецярбургу; 5. Уладзімір, н. 06.10.1986 г.

420/280 **Іван,** нарадзіўся 24.09.1916 г., ахрышчаны 26.09.1916 г. святаром Пятром Акаловічам у Яроміцкай Раство-Багародзіцкай царкве Бабруйскага павета. Хроснымі бацькамі былі дваране вёскі Засмужжа Міхаіл Іванаў Статкевіч і Марыя Пятрова Рудзінская[564].

421/299 **Гаўрыіл,** нарадзіўся 30.08.1878 г., ахрышчаны 31.08.1878 г. у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Жыў у вёсцы Квасынічы. Разам з удавой Сцяпана Корбута Тэрэзай і яе дочкамі Марыяй і Сцепанідай у 1902 г. выкупіў у спадчыннікаў княгіні Марыі Львоўны Гагенлое-Шылінгфюрст з маёнтка Новы Двор зямлю ў засценку Квасынічы Цараўскай воласці Слуцкага павета ў колькасці: прыдатнай – 9 дзесяцін 1613,16 сажня, непрыдатнай – 4 дзесяціны 429 сажняў, памер выкупной ссуды – 196 рублёў 53 кап., штогадовы выкупны плацеж – 11 рублёў 79 кап. У 1915 г. разам з Тэрэзіяй, Марыяй і Сцефанідай Корбутамі валодаў зямлёй у засценку Квасынічы маёнтка Новы Двор: дваровай – 914,66 сажня, пад грэчку – 8 дзесяцін 894,5 сажня, сенакоснай на балоце – 2204 сажні; плаціў дзяржаўны падатак – 1 рубель 34 кап.

Жонка – Канстанцыя Восіпава Тамашэўская, дваранка маёнтка Цялевічы. Шлюб 02.09.1901 г. святаром Мікалаем Сеўрукам у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Сведкі: з боку маладога – селянін вёскі Квасынічы Гаўрыіл Кліменцьеў Корбут, дваранін засценка Машчыцы Павел Васільеў Бараноўскі, з боку маладой – дваранін г. Слуцка Грыгорый Восіпаў Тамашэўскі, селянін сяла Чаплічы Георгій Яновіч[565].

422/299 **Павел,** нарадзіўся 11.01.1883 г., ахрышчаны 14.01.1883 г. у Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве. Разам з Паўлам Васільевічам Бараноўскім быў сведкам з боку маладога пры шлюбе ў Іваньскай Крыжаўзвіжанскай царкве 02.09.1901 г. брата Гаўрыіла Кліменцьевіча і Канстанцыі Восіпаўны Тамашэўскай.

*НГАБ, ф. 766, воп. 1, спр. 15, арк. 46–46 адв.*

423/303 **Іван,** нарадзіўся 01.01.1859 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.02.1863 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

*НГАБ, ф. 319, воп. 1, спр. 1054, арк. 72–73.*

424/253 **Марыя.**

## XVIII КАЛЕНА

425/316 **Міхаіл,** *1910 г. н. Жыў у засценку Сялец Бабруйскага павета. У 1914 г. разам з бацькамі пазначаны ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[566].

426/316 **Ганна,** *1913 г. н. Жыла ў засценку Сялец Бабруйскага павета. У 1914 г. разам з бацькамі пазначана ў спавядальнай ведамасці Глускай Уваскрэсенскай царквы[567].

427/329 **Вольга,** 12.07.1910–06.09.1993 гг.

Мужы: Грыгорый Васільевіч Міхневіч, 1903 г. н. Працаваў у землеўпарадчым інстытуце ў г. Маскве. Дачка Валянціна [муж Аляксандр Фёдараў, дзеці: Юрый (дачка Ганна) і Ірына (дачка Аляксандра)].

Іван Андрэевіч Рудзінскі. Сын Генадзь ад першай жонкі (дзеці: Алег, Ігар).

428/329 **Іван,** 07.03.1912–13.10.1995 гг. Нарадзіўся ў вёсцы Сялец Глускага раёна. Вучыўся ў сярэдняй школе ў г. Глуску, потым на рабфаку ў г. Бабруйску. У 1937 г. закончыў Ленінградскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «Астраномія». Кандыдат фізіка-матэматычных навук. Працаваў у Пулкаўскай астранамічнай абсерваторыі, стаў вядомым астраномам. Некаторыя яго назіранні былі прызнаны самымі дакладнымі. Ветэран дзвюх войнаў: Савецка-фінляндскай і Вялікай Айчыннай. У баях пад Ленінградам быў двойчы цяжка паранены, узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Айчыннай вайны I ступені, медалямі «За Абарону Ленінграда», «За Перамогу над Германіяй», «За Працоўную Адзнаку», многімі юбілейнымі медалямі.

Жонка – Вера Іванаўна Сацкевіч-Статкевіч (гл. «Сацкевічы-Статкевічы» 500/334). У час блакады Ленінграда была медработнікам у ваенным шпіталі. Узнагароджана медалямі «За Абарону Ленінграда», «За доблесную працу ў час Вялікай Айчыннай вайны», «За Працоўную Доблесць», «Ветэран Працы», многімі юбілейнымі медалямі. Дачка Ірына, н. 18.10.1941 г. у г. Ленінградзе (дачка Алена, н. 19.09.1975 г.).

Іван Фядотавіч, Ірына Іванаўна, Вера Іванаўна (Сацкевіч-Статкевіч) Карафа-Корбуты (гл. «Карафа-Корбуты І» 428/329). Ленінград. 1945 г.



Узнагароды Веры Іванаўны Карафа-Корбут




«За доблесную працу ў час Вялікай Айчыннай вайны»




«За Абарону Ленінграда»




«За Працоўную Доблесць»



Іван Фядотавіч Карафа-Корбут (злева;
гл. «Карафа-Корбуты І» 428/329), астраном
Пулкаўскай абсерваторыі АН СССР,
і Міхаіл Пятровіч Карафа-Корбут, дваюрадны
брат Анатоля Статкевіча-Чабаганава. Вёска
Засмужжа. 1955 г.

# КАРАФА-КОРБУТЫ II

*Род Карафа-Корбутаў герба «Корчак» прызнаны ў дваранстве пастановамі дваранскіх дэпутацкіх сходаў: Віленскага ад 31.12.1798 г., Магілёўскага ад 13.03.1805 г., Мінскага ад 15.08.1823 г., Гродзенскага ад 25.10.1826 г., Віцебскага ад 16.05.1832 г. Зацверджаны ўказамі Сената ад 12.09.1850 г. і 01.11.1854 г.*

«...Род просителя Карафов-Корбутов, состоящий в Геоньском дворе, с тые берет свое начало из Неаполитанского королевства от фамилии Караффов, подтверждает о том издание автора итальянского Aldimori под названием "Storia della familia Carafa" за 1691 год. Один из сей фамилии Павел Карафа в царствование короля польского Владыслава Ягеллы перешел в Польшу и, будучи при королевском дворе, вступил в военную службу и в последствии проживал в Польше, оставил сына Матвея, который тоже, состоя на военной службе, в царствование Владыслава III, отличился в войне с турками, за что был награжден чином ротмистра и особо получил имение, прозываемое Корбутово, состоящее в Волынском воеводстве в Хелмской земле, как удостоверяет первоначальное определение Виленского дворянского депутатского собрания, и с того времени к своему первому прозванию принял другое, свойственное славянскому и литовскому народу, – Корбут...»[1]

### I КАЛЕНА

1 **Павел Карафа,** шляхціч герба «Корчак», з роду князёў венецыянскіх. Перасяліўся ў Польшчу ў час праўлення караля Уладзіслава Ягайлы, быў пры каралеўскім двары, затым служыў у войску меў чын палкоўніка, вызначыўся ў вайне з крыжакамі[2].

Жонка – N Д а н а т.

### II КАЛЕНА

2/1 **Мацей.** Застаўся ў Польшчы, знаходзіўся пры двары каралёў Уладзіслава Ягайлы і Уладзіслава III, быў у каралеўскіх палках ротмістрам, добра зарэкамендаваў сябе ў першай вайне з туркамі, пасля чаго кароль прызначыў яму прыдомак Корбут ад слова «кор» са славянскай мовы. Мацей гэты прыдомак узяў як асабісты і пачаў пісацца Карафа-Корбут. У 1440 г. атрымаў ад Уладзіслава III маёнтак у Хелмінскай зямлі Валынскага ваяводства і назваў маёнтак Корбутава Воля. Быў падпалкоўнікам войска польскага. Забіты ў другой вайне з туркамі пад Варнай у 1444 г.

Жонка – N, дачка Базыля Жаравінскага, палкоўніка.

### III КАЛЕНА

3/2 **Якуб.** Жонка – Пянёжкаўна.

4/2 **Раіна.** Памерла незамужняй.

5/2 **Гелена.** Муж – N Гарайскі, суддзя земскі хелмінскі.

### IV КАЛЕНА

6/3 **Пётр.** Жонка – N Грудзінская (Градзінская).

7/3 **Станіслаў.** Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

8/3 **Ганна.** Муж – N Хадароўскі.

### V КАЛЕНА

9/6 **Пётр.** Залажыў спадчынны маёнтак Корбутава Воля Ржавускім, а сам перасяліўся ў ВКЛ, дзе ўзяў у заклад маёнтак Вішаў Слонімскага павета ў Паклонскіх. За ваенную конную службу атрымаў 03.09.1532 г. ад караля Жыгімонта I Старога Брыкаўскую зямлю з дваром і двума сялянамі ў Слонімскім павеце. Ад князя Юрыя Алелькавіча 03.01.1538 г. атрымаў грамату на зямлю Дубеі ў Грозаўскай воласці з усімі ўрочышчамі над ракой Уса з абавязацельствам адбываць ваенную службу[3].

Пётр згадваўся ў многіх галінах Карафа-Корбутаў, якія даказвалі сваё дваранскае паходжанне ў канцы XVIII–XIX ст. (гл. «Карафа-Корбуты I» 9/6; «Карафа-Корбуты III» 1; «Карафа-Корбуты IV» 1; «Карафа-Корбуты V» 0).

Жонка – N Тржцінская.

10/6 **Марыяна.** Памерла незамужняй.

11/6 **Агата.** Муж – N Хржшчановіч.

12/6 **Канстанцыя.** Муж – N Сухадольскі.

### VI КАЛЕНА

13/9 **Аляксандр.** Прадаў падараваную бацьку Брыкаўскую зямлю.

Жонка – Кандратавічоўна.

14/9 **Дамінік.** Жонка – Сузіноўна.

15/9 **Кацярына,** манашка ордэна бернардзінцаў, памерла ў г. Мінску.

### VII КАЛЕНА

16/13 **Мацей-Юрый.** Жонка – Каржанеўская.

17/13 **Гелена.** Атрымала ў спадчыну сядзібу ў г. Ваўкавыску, якую прадала падкаморыю Алендскаму.

Мужы: 1. Хрыжшчановіч; 2. Яскольд.

18/13 **Дарота.** Муж – Падгайскі, сын Ян, дваранін.

### VIII КАЛЕНА

19/16 **Мікалай.** Быў пры двары караля Яна Казіміра, чашнік літоўскі. Выкупіў з закладу маёнтак Вішаў, які пакінуў сынам. Па завяшчанні яго сыны Тэадор і Мацей павінны былі выплаціць па 3000 злотых «на разные костёлы» і сваёй маці кожны па 200 злотых.

Жонка – Варвара Гарноўская.

20/16 **Ян.**

21/16 **Базыль.** Перасяліўся ў Польскія Прусы, дзе валодаў маёнткамі Міладоўшчына і Жмаргіні.

Жонка – Лінкоўна.

### IX КАЛЕНА

22/19 **Мацей-Міхал,** паручнік пяцігорскі. Прадаў сваю частку маёнтка Вішаў брату Тэадору. 02.11.1672 г. падпісаў з братам Фёдарам дамову, па якой абавязаўся выплачваць маці 400 злотых штогадова[4]. Пакінуў тастамент ад 18.03.1684 г. (актыкацыя 14.12.1684 г. у Галоўным Літоўскім Трыбунале), у якім родавы маёнтак Рутка завяшчаў сыну Андрэю.

Жонка – Пратасавічоўна.

23/19 **Тэадор (Фёдар),** старэйшы сын Мікалая і Варвары Корбутаў, палкоўнік, пазней харунжы валынскі. У час казацкіх войнаў здаў маёнтак Вішаў у заклад езуітам за 40 000 злотых, які пазней не змог выкупіць.

Па завяшчанні бацькі разам з братам Мацвеем павінен быў выплаціць па 3000 злотых «на разные костёлы» і маці кожны па 200 злотых. Але, магчыма, малодшы брат быў не ў стане выплаціць гэта, і Фёдар 02.11.1672 г. падпісаў з ім дамову: Фёдар абавязаўся выплаціць касцёлам 6000 злотых, а Мацвей – маці 400 злотых штогадова, «пока ей Бог продлит жизнь»[5].

Ад Фёдара Карафа-Корбута брала свой пачатак галіна, якая даказвала сваё дваранскае паходжанне 13.03.1805 г. у Магілёўскім дваранскім дэпутацкім сходзе[6].

Жонка – Гулевічоўна, харужанка валынская.

24/20 **Тэафіл.**

25/20 **Францішак.** У маладосці з'ехаў у г. Маскву.

26/21 **Базыль.**

## X КАЛЕНА

27/22 **Андрэй-Даніэль.** Уведзены 27.08.1692 г. у валоданне маёнткам Рутка ў Навагрудскім павеце, які ў завяшчанні ад 11.01.1700 г. пакінуў сынам Казіміру і Сцяпану.

Андрэй-Даніэль узяты за родапачынальніка галіны Карафа-Корбутаў, якія былі прызнаны ў дваранстве 16.05.1832 г. пастановай Віцебскага дваранскага дэпутацкага сходу[7].

Жонка – Рэгіна Грышкевічоўна, пераўступіла 07.09.1728 г. сынам маёнтак Рутка.

28/22 **Дарота.** Муж – Грыгорый Узлоўскі.

29/22 **Канстанцыя.** Муж – Сымон Узлоўскі.

30/22 **Гелена.** Муж – Швыйкоўскі.

31/22 **Ганна.** Мужы: 1. Немчыновіч; 2. Яраш Стахорскі (?).

32/23 **Мікалай,** дзяржаўца Кржачановіцкага староства ў Старадубскім павеце, пры аддзяленні якога ад Польшчы да Масквы перасяліўся ў Літву, дзе, згодна з соймавым рашэннем ад 20.02.1671 г., замест згаданага маёнтка атрымаў вёску Пакольна ў Вількамірскім павеце і іншыя правы экскулянта, што пацвярджае таксама квіт ад Аганоўскага.

33/23 **Ян,** стражнік старадубскі.

Жонка – Быкоўская-Тышанка.

34/23 **Еранім,** харужыч валынскі. Трапіў у маскоўскі палон, там ажаніўся.

## XI КАЛЕНА

35/27 **Стэфан,** паручнік пяцігорскай харугвы і рэгіментарый літоўскі, што засведчыў 16.09.1709 г. Грыгорый Антоній Агінскі, генеральны староста жамойцкі і вялікі гетман ВКЛ. Атрымаў па завяшчанні бацькі ад 11.01.1700 г. маёнтак Рутка Навагрудскага ваяводства. Па прывілеі польскага караля Аўгуста II ад 26.04.1710 г. за заслугі атрымаў маёнтак Скрабле (Скарбле?) з сялянамі ў Самагіцкім княстве.

36/27 **Казімір.** Атрымаў па завяшчанні бацькі ад 11.01.1700 г. маёнтак Рутка Навагрудскага ваяводства. Быў запрошаны каралём 07.07.1720 г. на Сейм. Валодаў маёнткам Жалвінец, які набыў у 1724 г. у князя Мікалая Фаўстына і Барбары з Завішаў Радзівілаў, таксама трымаў з 23.04.1728 г. у закладзе Касарычы ад рэчыцкага гродскага суддзі Яна і яго жонкі з Эйсімонтаў дэ Раэс.

Жонка – Марцыяна Главацкая.

37/32 **Міхаіл,** староста гарадзенскі. Памёр да 1725 г. у г. Навагрудку, не пакінуўшы нашчадкаў.

Жонка – Ганна Пратасавічоўна.

38/33 **Марцін-Фларыян,** стражнік старадубскі (1701), сакратар і чашнік аршанскі згодна з пры-

вілеем караля Аўгуста II ад 04.05.1703 г., канюшы ашмянскі (прывілей ад 25.03.1705 г.), пазней і віленскі (прывілей ад 25.10.1709 г.), суддзя задворна-асэсарскі, па прызначэнні Люблінскага сейма – камісар па зборы падаткаў у казну Кароны (1703), дзяржаўца Краснаўскага староства (1710), пісар дэкрэтавы ВКЛ (1711). 13.01.1707 г. атрымаў з казны ВКЛ 500 бітых талераў на пасольства да цара Пятра I. Староста краснаўскі і ротмістр аршанскі (1718). Таксама быў паслом на Гарадзенскі сейм 1718 г., на якім, як засведчыў сеймавы маршалак Крыштаф Завіша, быў выбраны паслом да маскоўскага цара, за што нашчадкі яго атрымалі ў 1782 г. ад ліквідацыйнай камісіі 4000 тынфаў узнагароджання.

Валодаў шматлікімі маёнткамі, у тым ліку Дурынічамі, якія раздзяліў 20.08.1699 г. з Міхалам, стольнікам рэчыцкім і войтам мярэцкім, і Крыштафам, пробашчам забярэзінскім, Карловічамі (маёнткі пазней прадала жонка), таксама вёскамі Шчацінкі, Скоклева, Малькоўка і Пахадзевічы ў Магілёўскай эканоміі (1708), набыў маёнтак Яловічы з начыннем. Прывілеямі караля Аўгуста II атрымаў: 01.09.1702 г. 28 валок зямлі ва ўрочышчах Васьнікі і Негарэла ў Гарадзенскім павеце[8], 03.10.1718 г. у пажыццёвае валоданне маёнтак Дзяніскі ў Мсціслаўскім ваяводстве[9], 03.03.1731 г. маёнтак Красна ў Мсціслаўскім ваяводстве[10].

Судзіўся са старастам жамойцкім князем Агінскім з-за абрабаванага жылля ў Вільні і страты родавага архіва. 23.03.1716 г. судзіўся з прычыны спаленых Пётухам двара і дакументаў у Магілёве. Ацалелыя дакументы (два куфры і шкатула) здаў 30.04.1730 г. на захаванне менскім баніфратам.

Пакінуў 20.06.1736 г. тастамент у Райноўскім двары (прад’яўлены 07.03.1737 г. у Мсціслаўскі павятовы суд)[11], з якога вядома, што завяшчаў пахаваць сябе пры касцёле езуітаў мсціслаўскіх або дамініканцаў маляціцкіх па рымскім абрадзе. Усе маёнткі, а менавіта: Корбутава Воля ў Слонімскім, Вішаў у Ваўкавыскім, Крачановічы ўІлькамірскім паветах і Пакольна ў Мсціслаўскім ваяводстве, якія атрымаў у спадчыну, вызначыў сваім сынам і дочкам, а маёнткі, што набыў разам з трэцяй жонкай, а менавіта: Яловічы, або Райноўка, на якім Рэгіне з Каменскіх запісана 4000 злотых, Мікульшчына, Труханаўшчына, Шапялешчына і Маміншчына ў Мсціслаўскім ваяводстве і Краснаўскае староства, якім валодаў пажыццёва, у сумеснае валоданне разам з той жа Каменскай аддаў у апеку. Акрамя таго, сынам Міхалу і Аўгусціну адпісаў яшчэ пры жыцці набытыя маёнткі Бобр у Магілёўскай эканоміі, Шчацінкі і Скоклеў Аршанскага павета, што былі ў закладзе ў Стахоўскага, таксама Паходавічы, якія адышлі ў казну, каб спагналі і выкупілі. Вёска Малькоўка цалкам перайшла ў распараджэнне Каменскай з далейшым пераходам у спадчыну сыну Міхалу. А каб не было крыўды паміж дзецьмі, ад розных жонак народжаных, Вільгельму, Марціну і Феліцыяне пакінуў тую частку рухомасці, якую атрымаў згодна з вопісам за Баратынскай, падарыўшы абавязацельства на 200 злотых ад Пржыгоцкага дачцэ Феліцыяне, а на пасаг ёй завяшчаў спагнаць спадчыну па Баратынскім, бо за яе маці нічога не атрымаў. Сыну ад першай жонкі Іосіфу-Амброзію за тое, што ўзяў за маці пасаг 1000 злотых, адпісаў ½ грошай з сумы 10 000 тынфаў, забяспечаных на маёнтку Парфяновічы Рэчыцкага павета, другую палавіну – дзецям ад другога шлюбу, дазволіў таксама спагнаць Парфяновічы, а асабліва маёнткі Дурынічы, Татаркавічы і Копчы з начыннем з закладу стольніка рэчыцкага Міхала Карловіча, на якія даў жонцы асаблівы запіс. Права спагнаць маёнтак, які захапілі Міхал Пржыгоцкі і Дамінік Войзбун, так-

сама як і абавязкі на 1500 талераў бітых з 13 000 тынфаў з працэнтамі, што амаль 20 гадоў пасля дэкрэта набеглі, у падстолія ВКЛ Міхала Агінскага, таксама як і суму пасольскую з Аршанскага павета на маёнтак Юрцава ў Іосіфа Эйсымонта, падчашага аршанскага, і на маёнтак Трасліўка ў спадчыннікаў Міхала Пётуха, падчашага рэчыцкага, дэкрэтамі Трыбунала Скарбовага ВКЛ прысуджаную, аддаў жонцы. Прэтэнзію ад Паўла Панятоўскага, старосты мсціслаўскага, да яго на 80 талераў бітых, як і судовая справа з памерлым Андрэем Маскевічам, скарбнікам мсціслаўскім, і яго сынам Каралем Маскевічам на 400 талераў, з якіх, спагнаўшы, жонка павінна 80 Панятоўскаму аддаць.

Жонкі: 1. N Катлоўна, ад яе сын Іосіф-Амброзій (? Іосіф – сын Рэгіны Каменскай[12]; ? Іосіф – сын Петранэлі Баратынскай[13]); 2. Петранэля, дачка Рафаіла Баратынскага, падчашага аршанскага, ад якой меў сыноў Вільгельма і Марціна і дачку Феліцыяну; 3. Рэгіна Каменская, дачка кашталяна мсціслаўскага, ад якой было чацвёра сыноў: Міхаіл, Францішак (? Франц – сын Петранэлі Баратынскай[14]), Ян (? Іаган – сын Петранэлі Баратынскай[15]), Аўгусцін і чатыры дачкі: Фрузына, Кацярына, Беата, Агнешка[16].

39/34 **N,** па прозвішчы Корбаў або Горлаў, генерал расійскага войска. Удзельнік Паўночнай вайны, забіты ў сутычцы са шведамі пад Дзятлавам.

### XII КАЛЕНА

40/35 **Мікалай (Нікалай),** ахрышчаны 05.01.1735 г. у Данілавіцкім касцёле. Быў запрошаны каралём польскім Станіславам Аўгустам Панятоўскім 12.08.1768 г. на Сейм у Варшаву. У 1795 г. разам з сынамі Іванам і Антонам жылі ў Бабруйскім павеце на закладной зямлі Быкоўскага. «По причине отдаленного жительства от родни и не сообщаясь» разам з дзецьмі не быў унесены ў пастановы Віленскага ад 31.12.1798 г. і Мінскага ад 15.08.1823 г. дваранскіх сходаў.

Жонка – Ганна.

41/35 **(?) Станіслаў.**

42/36 **Андрэй-Ігнацій,** старэйшы з братоў. Валодаў маёнткам Волька Навагрудскага павета. Разам з братамі 12.03.1773 г. прызначыў тэрмін раздзелу маёнткаў, якія засталіся ад бацькі: арэнднага Жолвін, закладнога Касарычы і спадчыннага Рутка[17]. Сваю частку маёнтка Рутка з сялянамі 15.04.1798 г. (? 27.07.1798) прадаў Тарнаўскаму.

Жонка – Камароўская. У 1770 г. прадала маёнтак Волька Станіславу Шацілу.

43/36 **Іосіф.** Разам з братамі 12.03.1773 г. прызначыў тэрмін раздзелу маёнткаў, якія засталіся ад бацькі: арэнднага Жолвін, закладнога Касарычы і спадчыннага Рутка[18]. Перасяліўся ў Аршанскі павет, дзе ажаніўся з Канстанцінавічоўнай.

44/36 **Лявон.** Разам з братамі 12.03.1773 г. прызначыў тэрмін раздзелу маёнткаў, якія засталіся ад бацькі: арэнднага Жолвін, закладнога Касарычы і спадчыннага Рутка[19]. Пакінуў дочкам у спадчыну маёнтак Мільвялёўшчына Віленскага павета.

45/38 **Іосіф-Амброзій,** ксёндз дамініканскага ордэна[20], ? навагрудскі чашнік прывілеямі ад 02.06.1784 г. і 18.03.1799 г. У 1788 г. дэпутат у Галоўны Літоўскі Трыбунал. 14.02.1792 г. выбіраўся ў земскія суддзі, у 1797 г. стваловіцкі земскі суддзя, у 1801 г. бабруйскі павятовы суддзя. Браты: Вільгельм і Марцін[21].

Жонка – Саламея Гінтар.

46/38 **Вільгельм,** ксёндз дамініканскага ордэна.

47/38 **Марцін,** ксёндз дамініканскага ордэна.

48/38 **Феліцыяна.**

49/38 **Міхал,** староста красноўскі. Валодаў маёнткам Красно, ці Ялаўка, і дваром у Мсціслаўлі, які згарэў у 1748 г. (загінулі сапраўдныя прывілеі). 04.01.1775 г. здзяйсняў вывад у земскім судзе Мсціслаўскай правінцыі.

Жонка – Вікторыя Буйвідаўна; мелі чатырох сыноў і трох дачок.

50/38 **Францішак.** Памёр непаўналетнім.

51/38 **Ян (? Іаган).** Памёр непаўналетнім.

52/38 **Аўгусцін.** Служыў у лейб-гвардыі. Памёр у Ржэндзелі (? Данцэлі).

53/38 **Фрузіня (Фаўстына).**

54/38 **Кацярына.**

55/38 **Беата.**

56/38 **Агнешка.**

## XIII КАЛЕНА

57/40 **Ян-Гвальберт-Кіпрыян,** ахрышчаны 25.07.1781 г. у Глускім касцёле. У 1795 г. жыў у Бабруйскім павеце на закладной зямлі Быкоўскага. Далучаны да роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.11.1832 г.[22] Па сямейным спісе дваран 26.01.1833 г., жыў у маёнтку Янава на закладной зямлі.

Жонкі: 1. Багуміла; 2. Канстанцыя.

58/40 **Антоній-Казімір,** ахрышчаны 09.02.1789 г. у Глускім касцёле. У 1795 г. жыў у Бабруйскім павеце на закладной зямлі Быкоўскага. Далучаны да роду пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.11.1832 г.[23] Памёр да 1847 г.

Жонка – Петранэля Канстанцінаўна Амяцінская. Падала прашэнне 28.01.1847 г. у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні да роду сына Алаізія-Пятра. У 1851 г. жыла ў маёнтку Петранеліна Ігуменскага павета.

59/41 (?) **Іван,** *1803 г. н., калежскі сакратар. Валодаў маёнткам Анісімава ў Невельскім павеце з 47 сялянамі мужчынскага полу. У 1832 г. быў не жанаты[24]. Быў засядацелем невельскіх ніжняга і пісарам павятовага земскіх судоў.

60/42 **Іосіф-Антон,** ахрышчаны 02.10.1756 г. у [Гарадзецкім] касцёле, суддзя земскі і чашнік навагрудскі адпаведна прывілею караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага ад 13.11.1784 г.[25], таксама ў 1788 г. дэпутат Галоўнага Літоўскага Трыбунала, пазней – камісар грамадзянска-ваенны і парадкавы, камісар па зборы падаткаў пад назвай «ахвяра апошняга гроша». Па грамаце імператара Аляксандра I ад 14.08.1810 г. маршалак навагрудскі, кавалер ордэна Святога Уладзіміра IV ступені. Валодаў маёнткамі Ужанка і Рудаўка, якія купіў у Плятэраў (1790), і Гарадзея, які купіў у Есьманаў (1794), таксама арандаваў маёнткі Зецяржэў (1786) і Грэск (1797) у князёў Радзівілаў. Па сямейным спісе шляхты 04.12.1797 г., жыў у маёнтку бацькі Рудаўка (203 мужчынскіх і 208 жаночых душ)[26]. Памёр у 1825 г.

Жонка – Саламея Гінтар, дачка стольніка навагрудскага.

61/42 **Вікенцій,** *1767 г. н., ротмістр Навагрудскага ваяводства. У 1797 г. жыў у арандаваным братам у князёў Радзівілаў маёнтку Зацяржэвічы. Валодаў маёнткам Вароцішча Навагрудскага павета, які пакінуў сынам. Памёр паміж 1820 і 1832 гг.

Жонка – Ганна. Валодала ў 1850 г. маёнткам Варатынца Навагрудскага павета з 11 сялянамі мужчынскага полу.

62/43 **Ігнацій.**

63/43 **Фларыян,** харунжы 1-га рэгімента войска літоўскага.

64/43 **Тамаш.** У 1788 г. выхаванец корпуса кадэтаў у г. Вільні, каморнік пінскі па патэнце падкаморыя берасцейскага Зянона Віславуха (1791). Жыў у маёнтку Лунін Пінскага павета, дзе нарадзіліся сыны.

Жонка – Барбара Палонская.

65/43 **Антоній,** *1773 г. н., падпаручнік войска польскага (пажалаваны 16.12.1794 г.). Затым абраны невельскім земскім падсудкам. Валодаў маёнткам Саснопаль у Невельскім павеце з 17 сялянамі мужчынскага полу. Пастановамі Віленскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1798 г. і Віцебскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 16.05.1832 г. прызнаны дваранінам[27].

Жонка – Анастасія Шпакова.

66/43 **Апалонія.**

67/43 **Леанора.**

68/44 **Апалонія.** Муж – Яхімовіч.

69/44 **Кацярына.**

70/49 **Іосіф.** Уладальнік маёнткаў Ялоўка і Бесаўка ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губерні. Раздзяліў 04.02.1794 г. з братамі бацькоўскую спадчыну[28]. Завяшчанне склаў у 1825 г.

Жонка – Ганна Пянкоўская.

71/49 **Марцін,** *1762 г. н. Уладальнік маёнткаў Ялоўка і Бесаўка ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губерні[29].

Жонка – Мар’яна Рымігава.

72/49 **Гаспар (Каспар),** засядацель Серыкаўскага павятовага суда. Уладальнік (?) маёнткаў Ялоўка і Бесаўка ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губерні[30]. Завяшчанне склаў у 1823 г.

Жонка – Эстэр Залеская.

73/49 **Кліменцій (Канстанцін),** памешчык Віцебскага і Суражскага паветаў, чэрыкаўскі павятовы суддзя, кавалер ордэна Святога Уладзіміра IV ступені, суддзя Віцебскага галоўнага суда 1-га дэпартамента. Купіў маёнтак Евіны ў Віцебскім павеце (134 рэвізскія душы) і маёнтак Кляменты ў Суражскім павеце (80 рэвізскіх душ). Прызнаны ў дваранстве 13.03.1805 г. пастановай Магілёўскага дваранскага дэпутацкага сходу. Сабраў дакументы, якія пацвярджаюць дваранскае паходжанне нованароджаных, і падаў 18.09.1824 г. прашэнне ў Магілёўскі дваранскі дэпутацкі сход прызнаць у дваранстве. Пастановай Віцебскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.09.1825 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі[31].

Жонка – Ева Іваноўская.

## XIV КАЛЕНА

74/57 **Іосіф-Барталамей,** ахрышчаны 04.05.1814 г. у Бабруйскім касцёле, калежскі асэсар (1851), сапраўдны стацкі саветнік і кавалер (1866). Прызнаны дваранінам пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.08.1823 г. і дадатковымі ад 25.11.1832 г.[32], 30.03.1850 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[33]; 12.03.1851 г. (не зацверджаны ўказам Сената з вызначэннем: «…взыскать с него за употребленную в Правительствующем Сенате по делу сему вместо гербовой простую бумагу денег за 16 листов всего серебром девяти рублей шестидесяти копеек…»[34]) і 15.07.1852 г.[35] Зацверджаны ўказам Сената ад 01.11.1854 г. Па сямейным спісе дваран 26.01.1833 г., жыў у маёнтку Янава на закладной зямлі. У 1851 г. жыў у г. Санкт-Пецярбургу, служыў у Дэпартаменце чыгункі.

Жонкі: 1. Кацярына Меецер, сын Казімір-Мар’ян; 2. Амелія Гуляніцкая, ад яе дзеці: Гаўрыіл-Мар’ян і Багуміла-Марыя.

75/57 **Варфаламей-Уладзіслаў,** ахрышчаны 06.09.1821 г. у Бабруйскім касцёле, надворны саветнік. У 1833–1851 гг. жыў у маёнтку Янава Бабруйскага павета на зямлі памешчыка Прушаноўскага. Наглядчык Мінскага харчовага магазіна (1874). Прызнаны дваранінам пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.08.1823 г., 02.09.1824 г., 25.09.1832 г., 25.11.1832 г.[36], 01.09.1845 г.[37], 30.03.1850 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[38]; 25.11.1850 г.,

12.03.1851 г. (не зацверджаны ўказам Сената)[39], 30.03.1852 г.[40], 15.07.1852 г.[41] Зацверджаны ўказам Сената ад 01.11.1854 г. Звярнуўся 22.01.1874 г. з прашэннем у Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні да роду сына Уладзіміра-Рудольфа.

Жонка – Фанна-Луіза (Фата) Бітц.

76/58 **Алаізій-Пётр,** ахрышчаны 22.06.1841 г. у Бярэзенскім касцёле. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.03.1850 г.[42] (не зацверджаны ўказам Сената)[43], 15.07.1852 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[44].

77/60 **Міхаіл-Філіп-Сігізмунд-Антон,** ахрышчаны 02.05.1795 г. у Нясвіжскім касцёле, кандыдат філасофіі, падкаморы навагрудскі. Паручнік 17-га палка кавалерыі войска польскага, «не вядома, ці служыў ён у войсках Герцагства Варшаўскага і ці ўвайшоў пасля асабіста ў склад былых войскаў Царства Польскага» [45]. У адстаўцы з 19.07.1817 г. З 1824 г. валодаў маёнткам Дамашэвічы Навагрудскага павета (у 1832 г. 100 рэвізскіх душ). Меў двух сыноў, якія, відаць, памерлі ў раннім дзяцінстве, і дачок, якія валодалі спадчыннымі маёнткамі Рудаўка і Ужанка Навагрудскага павета (у 1786 г. больш за 1000 дзесяцін зямлі). Прызнаны ў дваранстве пастановамі ад 25.09.1826 г. Гродзенскага дваранскага дэпутацкага сходу з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Гродзенскай губерні[46], Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.03.1850 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[47], 12.03.1851 г. з унясеннем у 3-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената[48].

Жонка – Соф'я Слізень, дачка харунжага навагрудскага.

78/60 **Карнеліуш-Феафіл-Яўстафій-Валяр'ян,** ахрышчаны 20.09.1796 г. у Нясвіжскім касцёле, кандыдат філасофіі, харунжы земскі Слуцкага павета (1825). Закладны ўладальнік маёнткаў Цэпра і Краснастаў Слуцкага павета, спадчыннік маёнтка Рудаўка (у 1797 г. 203 мужчынскія і 208 жаночых душ, у 1832 г. – 217 рэвізскіх душ), фальваркаў Ужанка і Гарадзей Навагрудскага і Футараў Ігуменскага паветаў. Прызнаны ў дваранстве пастановамі Гродзенскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1826 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Гродзенскай губерні[49], Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.03.1850 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[50], 12.03.1851 г. з унясеннем у 3-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената[51].

79/60 **Марыя,** *1790 г. н. Па сямейным спісе шляхты 04.12.1797 г., жыла разам з бацькамі ў маёнтку бацькі Рудаўка[52]. Была спадчынніцай маёнткаў Рудаўка і Ужанка.

Муж – Феліцыян Вінцэнтавіч Вольскі.

80/60 **Дамінік-Фердынанд-Людвіг,** *1806 г. н. Паручнік Нарвскага гусарскага палка расійскага войска (1834), штабс-ротмістр (1838), маёр расійскага войска. У адстаўцы з 1851 г. Валодаў у 1832 г. разам з братам Адамам закладным маёнткам Цэпра, у 1888 г. – часткаю спадчынных маёнткаў Рудаўка і Ужанка. Прызнаны ў дваранстве пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.03.1850 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[53], 12.03.1851 г. з унясеннем у 2-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената[54].

81/60 **Адам-Ян-Мечыслаў,** ахрышчаны 07.04.1812 г. у Нясвіжскім касцёле. Прызнаны ў дваранстве пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.03.1850 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай гу-

берні[55], 12.03.1851 г. з унясеннем у 3-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената[56].

82/61 **Іосіф-Ігнацій-Канстанцін,** ахрышчаны 03.01.1820 г. (? 09.01.1820) у Паланецкім касцёле. У 1892 г. жыў у маёнтку Студзянец Слуцкага павета. Прызнаны дваранінам пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.03.1850 г.[57], 15.07.1852 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[58].

83/61 **Вікенцій-Антоній-Адам,** ахрышчаны 15.09.1818 г. (? 11.09.1818) у Крошынскім касцёле. Служыў у 1855 г. у штаце канцылярыі навагрудскага павятовага маршалка. Прызнаны дваранінам пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.03.1850 г.[59], 15.07.1852 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[60].

84/64 **Пётр,** *1810 г. н. У 1844 г. выкладчык французскай мовы ў Гродзенскай губернскай гімназіі.

85/64 **Тамаш-Віталій,** ахрышчаны 09.06.1811 г. у Гарадыскім касцёле.

86/64 **Маўрыцый-Ігнацій-Іосіф,** *1812 г. н., калежскі рэгістратар (1830). У 1844 г. уладальнік маёнтка Угрынічы, у 1851 г. жыў у Віцебскай губерні.

87/64 **Іосіф,** *1815 г. н.

88/64 **Ян,** ахрышчаны 27.12.1816 г. у Гарадыскім касцёле.

89/65 **Міхаліна,** *1828 г. н.

90/65 **Анаіс,** *1818 г. н.

91/65 **Каміла,** *1819 г. н.

92/65 **Іазефіна,** *1820 г. н.

93/70 **Міхаіл,** ахрышчаны 20.08.1784 г. у Мсціслаўскім прыходзе.

94/71 **Іосіф.**

95/71 **Іван-Міхаіл,** *1798 г. н.

96/72 **Ганна,** у замужжы падкаморына Жабіна.

97/72 **Антоній-Пётр,** ахрышчаны 05.04.1814 г. у Маляціцкім прыходзе. Канцылярскі служачы.

98/73 **Станіслаў-Людвіг,** ахрышчаны 25.08.1814 г. у Казловіцкім прыходзе. Калежскі сакратар, віцебскі павятовы прадвадзіцель дваранства (1852).

Жонка – Елеанора Жабо.

### XV КАЛЕНА

99/74 **Казімір-Мар'ян,** нарадзіўся 21.11.1854 г., ахрышчаны 21.12.1854 г. у касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[61].

100/74 **Гаўрыіл-Мар'ян,** нарадзіўся 25.03.1862 г., ахрышчаны 08.05.1862 г. у касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[62].

101/74 **Багуміла-Марыя,** нарадзілася 02.05.1863 г., ахрышчана 30.05.1863 г. у касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучана да роду[63].

102/75 **Станіслаў-Віктар,** нарадзіўся 23.12.1856 г., ахрышчаны 19.05.1857 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[64].

103/75 **Варфаламей-Іосіф,** нарадзіўся 19.03.1858 г., ахрышчаны 27.05.1858 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[65].

104/75 **Іван-Аляксандр,** нарадзіўся 20.10.1859 г., ахрышчаны 18.12.1859 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[66].

105/75 **Аляксандр-Яўгеній,** нарадзіўся 25.03.1861 г., ахрышчаны 30.08.1861 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[67].

106/75 **Роберт-Ігнацій,** нарадзіўся 30.10.1862 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[68].

107/75 **Эдуард-Фелікс,** нарадзіўся 07.06.1864 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 24.08.1866 г. далучаны да роду[69].

108/75 **Уладзімір-Рудольф,** ахрышчаны 14.11.1871 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 28.05.1874 г. далучаны да роду[70].

109/77 **Іосіф,** *1823 г. н. Прызнаны ў дваранстве пастановай Гродзенскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1826 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Гродзенскай губерні[71].

110/77 **Ян,** *1825 г. н. Прызнаны ў дваранстве пастановай Гродзенскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 25.09.1826 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Гродзенскай губерні[72].

111/77 **Мацільда.** Муж – Кукевіч.

112/77 **Саламея,** *1831 г. н. У 1892 г. перасялілася разам з сястрой Соф'яй у г. Варшаву, дзе і памерла ў 1907 г.

113/77 **Сафія.** У 1892 г. перасялілася разам з сястрой Саламеяй у г. Варшаву.

114/77 **Міхаліна.** Муж – Белікові́ч.

115/81 **Казімера.** Пасля раздзелу спадчыны з родзічамі ў 1864 г. атрымала маёнтак Студзянец Слуцкага павета (55 дзесяцін зямлі).

116/82 **Вікенцій-Ігнацій,** *1871 г. н., ахрышчаны ў 1888 г.

117/82 **Тамаш-Зянон,** ахрышчаны ў 1875 г.

118/95 **Стэфанія,** *1833 г. н.

119/95 **Канстанцін,** *1836 г. н.

120/98 **Геранім-Кляменцій-Станіслаў,** нарадзіўся 30.09.1834 г. у маёнтку Лапатка, ахрышчаны 11.10.1834 г. у г. Віцебску.

121/98 **Елеанора,** *1837 г. н.

# КАРАФА-КОРБУТЫ III

*Род Карафа-Корбутаў герба «Корчак» прызнаны ў дваранстве 31.12.1823 г. пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу. Зацверджаны ўказам Сената ад 16.05.1873 г.*

### І КАЛЕНА

1 **Пётр.** Атрымаў два прывілеі: 03.09.1532 г. у г. Кракаве ад польскага караля Жыгімонта І Старога на Брыкаўскія землі ў Слонімскім павеце, 03.01.1538 г. ад слуцкага князя Юрыя Алелькавіча на маёнтак Грозава на рацэ Уса, якія актыкаваны 15.09.1604 г. у Навагрудскім земскім судзе і 09.03.1659 г. у Навагрудскім гродскім судзе.

Узгадваўся ў многіх галінах Карафа-Корбутаў, якія даказвалі сваё дваранскае паходжанне ў канцы XVIII – XIX ст. (гл. «Карафа-Корбуты І» 9/6; «Карафа-Корбуты ІІ» 9/6; «Карафа-Корбуты IV» 1; «Карафа-Корбуты V» 0).

### ІІ КАЛЕНА

2/1 **Фёдар.** Валодаў маёнткам Ужы.

Жонка – Д а р о т а. Судзілася 31.03.1583 г. з сынам Захарыем за неадхіленне ад валодання маёнткам Ужа яе другога непаўналетняга сына Грыгорыя.

3/1 **Юрый.**

4/1 **Іван.**

### ІІІ КАЛЕНА

5/2 **Захарый,** старэйшы сын Фёдара і Дароты Карафа-Корбутаў. Судзіўся з маці 31.03.1583 г.

6/2 **Грыгорый-Юрый.**

7/3 **Сімяон.** Разам з Паўлам і Крыштафам судзіўся 03.08.1678 г. і 20.10.1689 г. з Лабейкамі за знявагу годнасці.

8/4 **Крыштаф.** Разам з Паўлам і Сімяонам судзіўся 03.08.1678 г. і 20.10.1689 г. з Лабейкамі за знявагу годнасці (? гл. «Карафа-Корбуты І» 18/15).

9/4 **Самуэль.**

### IV КАЛЕНА

10/5 **Павел.** Разам з Сімяонам і Крыштафам судзіўся 03.08.1678 г. з панамі Лабейкамі за знявагу годнасці, дзе Лабейкі свае насмешкі не прызналі, суд прывёў абодва бакі да згоды. Корбуты прад'явілі доказ, які служыў іх продкам Федку, Юрыю і Івану Пятровічам Корбутам (актыкацыі 05.07.1688 г. у Навагрудскім гродскім судзе, 26.11.1793 г. у Слуцкім земскім судзе). Корбуты, не задаволеныя рашэннем Слуцкага земскага суда, выклікалі Лабейкаў на Трыбунал. Так сведчыць дэкрэт Галоўнага Літоўскага Трыбунала Навагрудскай кадэнцыі ад 20.10.1689 г. у справе вываду шляхецтва ўзаемнага паміж Карафа-Корбутамі і Гербуртовічамі Лабейкамі, дзе Корбуты даказалі свой вывад ад 1532 г. ад прывілеяў караля Жыгімонта і князя Алелькі Пятру Корбуту падаравання зямель Брыкаўскіх і Грозавіч[1]. Па інвентары маёнтка Грозава ад 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4*), жыў у вёсцы Ужа «конь Грыневічаў», валодаў 5/6 валокі зямлі.

11/6 **Раман.** 28.01.1653 г. у акты Слуцкага гродскага суда ўнёс дэкрэт асэсарскі надворны ад 31.03.1583 г. ад князя Аляксандра Алелькавіча па скарзе Дароты, бабулі, з яе сынам Захарыушам за неадхіленне непаў-

налетняга яе другога сына Грыгорыя родным братам, тым жа Захарыушам, ад валодання маёнткам Ужа.

Жонка – N, па інвентары маёнтка Грозава 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4–4 адв.*), жыла ў вёсцы Ужа «конь Петрушкоўскі», валодала 5/12 валокі зямлі, а таксама «конь Няронскага, па Раманавай Корбутавай 5/6 “пустынных” валокі зямлі».

12/8 **Сімяон,** паручнік. На перапісе войска, у адпаведнасці з прызывам дваран у апалчэнне, ставіў каня з адпаведнай збруяй і сам там знаходзіўся, а калі састарэў, на сваё месца прызначыў сына Васіля Корбута, таварыша выпраўной харугвы Навагрудскага ваяводства, што пацвярджаў атэстат 13.11.1670 г. ротмістра панцырнай харугвы Аляксея Пачабута і ротмістра харугвы Уладзіслава Трусевіча княжне канюшанцы ВКЛ Радзівілаўне.

## V КАЛЕНА

13/10 **Канстанцін.**

14/11 **Ян-Стэфан,** ротмістр і стражнік старадубскі. Паводле дэкрэтаў з камісарскіх эксіланскіх кніг 20.02.1671 г., яго маёнтак ахоўваўся ад ваенных нападаў і збораў. Набыў (?) 03.06.1672 г. у Іаана Бярновіча землі ў фальварку Панічы. Купіў 20.05.1674 г. у Юльяна Кажухоўскага маёнтак Крушнева Ашмянскага павета[2].

Жонкі: 1. N, сын Марцін; 2. Крысціна Міхайлаўна, сын Грыгорый, якому яна пакінула 10.01.1712 г. маёнтак Востраў Барок (атрымала ў пасаг)[3].

15/12 **Васіль,** таварыш выпраўной харугвы Навагрудскага ваяводства. Калі састарэў яго бацька Сімяон Крыштафавіч, адбываў ваенную службу, што пацвярджаў атэстат ад 13.11.1670 г. ротмістра панцырнай харугвы Аляксея Пачабута і ротмістра харугвы Уладзіслава Трусевіча княжне канюшанцы ВКЛ Радзівілаўне. Валодаў маёнткам Сычоў Мінскага ваяводства[4].

## VI КАЛЕНА

16/14 **Міхал,** староста гарадзецкі. Памёр да 1723 г.

Жонка – Ганна, народжаная Пратасевіч. Памерла да 1723 г.

17/14 **Марцін-Фларыян,** чашнік аршанскі (09.02.1769), староста красноўскі. Неаднаразова судзіўся: з ротмістрам харугвы янычарскай Іосіфам з Астраўкоў Пратасевічам, што пацвярджаў выпіс ад 06.02.1704 г. працэсу з кніг сурагатарскіх Віленскага ваяводства; 28.08.1705 г. у Галоўным Літоўскім Трыбунале ў г. Вільні са скарбнікам ВКЛ, старастам трабскім і якуньскім, канюшым ашмянскім Юрыем Ваўрынцам Шымковічам па адтэрміноўцы плацяжоў; 22.02.1723 г. у Слонімскім гродскім судзе, 04.06.1723 г. у Віленскім земскім судзе, 07.06.1725 г., 15.12.1725 г. у Мінскім земскім судзе, 18.03.1730 г. у Галоўным Літоўскім Трыбунале ў г. Мінску ад імя яго непаўналетніх сыноў Іосіфа і Вільгельма з віленскімі чашнікамі Аляксандрам і Сафіяй, народжанай Крукоўскай, Пратасевічамі, падчашым аршанскім Антоніем Крукоўскім, скарбнікам слонімскім Пятром Крукоўскім і іншымі родзічамі за права валодання маёнткамі пасля смерці яго роднага брата старосты гарадзецкага Міхаіла Корбута і яго жонкі Ганны з Пратасевічаў Корбутавай.

18/14 **Лукаш,** паручнік, староста старадубскі. Пакінуў тастамент ад 25.03.1730 г. (актыкаваны 03.06.1730 г. у Навагрудскім земскім судзе), у якім пажыццёва вызначыў маёнтак сваёй жонцы Ганне з Вечараў Лукашовай Корбутавай, непаўналетнім сынам Мацею і Васілю прызначыў апекуном свайго роднага брата Грыгорыя, указаў на сваё валоданне маёмасцю пасля смерці старэйшага брата, старосты гарадзецкага Міхала Корбута, сумы ў Гарадзецкім старостве на закладным маёнтку Панічы і тыя, якія знаходзіліся ў іншых закладах, раздзяліў на дзве

роўныя часткі з братам Грыгорыем і сваімі спадчыннікамі, а таксама ленныя пажалаванні і ў заслугах ваенных набытыя. Пазначаны (?) 18.05.1733 г. у рэестры шляхты Слуцкага княства і ў інвентары маёнтка Пагост Навагрудскага ваяводства за 1733 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 3177, арк. 91*), жыў у засценку Панічы[5], валодаў 1 і 1/9 «аседлай» валокі зямлі.

Жонка – Ганна Вечар. Падарыла 10.03.1732 г. сынам Мацею і Васілю, а таксама пляменніку мужа Іосіфу Марціновічу маёнтак Дубаўляны, якім валодала па спадчыне ад бацькоў Тамаша і Гелены з Мяржынскіх[6].

19/14 **Грыгорый.** Падарыў 02.03.1760 г. сынам Васілю і Якаву спадчынны маёнтак Барок у Мінскім ваяводстве[7].

20/15 **Мікалай.** Па інвентарах маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*) і ад 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4*), жыў у вёсцы Ужа, у 1688 г. «конь Юраўскі», валодаў 5/12 «аседлай» валокі зямлі, у 1717 г. «конь Петрушкоўскі» – 5/8 валокі зямлі.

## VII КАЛЕНА

21/17 **Іван.** Пакінуў у 1747 г. тастамент (актыкацыя ў Мельніцкім гродскім судзе)[8].

22/17 **Іосіф.** Згадваўся непаўналетнім у час судовых працэсаў яго бацькі Марціна-Фларыяна ў Слонімскім гродскім судзе 22.02.1723 г., 04.06.1723 г. у Віленскім земскім судзе, 15.12.1725 г. у Мінскім земскім судзе, 18.03.1730 г. у Галоўным Літоўскім Трыбунале ў г. Мінску з віленскімі чашнікамі Аляксандрам і Сафіяй з Крукоўскіх Пратасевічаў і іншымі родзічамі за права валодання маёнткамі пасля смерці Міхаіла Корбута і яго жонкі Ганны з Пратасевічаў Корбутавай. Атрымаў 10.03.1732 г. разам з дваюраднымі братамі ў дар ад іх маці маёнтак Дубаўляны.

23/17 **Вільгельм.** Узгадваецца непаўналетнім у час судовых працэсаў яго бацькі Марціна-Фларыяна ў Слонімскім гродскім судзе 22.02.1723 г., 04.06.1723 г. у Віленскім земскім судзе, 15.12.1725 г. у Мінскім земскім судзе, 18.03.1730 г. у Галоўным Літоўскім Трыбунале ў г. Мінску з віленскімі чашнікамі Аляксандрам і Сафіяй з Крукоўскіх Пратасевічаў і іншымі родзічамі за права валодання маёнткамі пасля смерці Міхаіла Корбута і яго жонкі Ганны з Пратасевічаў Корбутавай.

24/18 **Мацей.** Разам з братам Васілём атрымаў 03.06.1730 г. па тастаменце бацькі Лукаша Карафа-Корбута палавіну рухомай і нерухомай маёмасці, а таксама сумы з закладнога маёнтка Панічы і іншыя, а паколькі яны былі непаўналетнія, прызначаўся апекуном родны дзядзька Грыгорый. Атрымаў 10.03.1732 г. разам з родным братам Васілём і дваюрадным Іосіфам у дар ад маці маёнтак Дубаўляны. Па інвентарах маёнтка Пагост Навагрудскага ваяводства 1751 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 3178, арк. 123*) і ад 23.04.1787 г. (*НГАБ, ф. 694, воп. 2, спр. 6423, арк. 19 адв. – 20*), жыў у маёнтку Панічы, валодаў у 1751 г. 1 і 1/9 «аседлай» валокай зямлі, 1 валом, у 1787 г. – 1 валокай, 2 валамі, плаціў чынш 32 злотых 8 грошаў.

25/18 **Васіль,** харунжы Слуцкага княства. Разам з братам Мацеем атрымаў 03.06.1730 г. па тастаменце бацькі Лукаша Карафа-Корбута палавіну рухомай і нерухомай маёмасці, а таксама сумы з закладнога маёнтка Панічы і іншыя, а паколькі яны былі непаўналетнія, прызначаўся апекуном родны дзядзька Грыгорый. Атрымаў 10.03.1732 г. разам з родным братам Мацеем і дваюрадным Іосіфам у дар ад маці маёнтак Дубаўляны. Атрымаў 08.10.1759 г. (актыкацыя 10.10.1759 г. у Галоўным Літоўскім Трыбунале Навагрудскай кадэнцыі) ад пляменнікаў Станіслава і Яна Мацеевічаў квітацыйна-дзельчы запіс па выхадзе іх з-пад

апекі і атрымання сум з розных маёнткаў, якія перайшлі ім ад продкаў.

26/19 **Васіль.** Атрымаў 02.03.1760 г. разам з братам Якавам у дар ад бацькі спадчынны маёнтак Барок у Мінскім ваяводстве[9], які прадалі 06.05.1772 г. Тамашу Свентаржэцкаму, паручыўшыся за сыноў Андрэя і Мікалая[10]. І з тым жа братам прадаў 26.10.1780 г. Лявону Зазіўскаму маёнтак Крушнева Ашмянскага павета, якім валодалі па спадчыне ад дзеда Стэфана[11]. У 1801–1816 гг. жыў у засценку Кутнева. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[12].

Жонкі: 1. N; 2. Настасія, дзеці: Гаўрыіл і Настасія.

27/19 **Якаў.** Атрымаў 02.03.1760 г. разам з братам Васілём у дар ад бацькі спадчынны маёнтак Барок у Мінскім ваяводстве[13], які прадалі 06.05.1772 г. Тамашу Свентаржэцкаму, паручыўшыся за сына Дамініка[14]. І з тым жа братам прадаў 26.10.1780 г. Лявону Зазіўскаму маёнтак Крушнева Ашмянскага павета, якім валодалі па спадчыне ад дзеда Стэфана[15].

28/20 **Грыгорый,** *1706 (1723) г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г.[16] і сямейным спісе дваран Бабруйскага павета 1803 г., жыў у засценку Мардвілавічы на чыншавай зямлі князя Дамініка Радзівіла[17].

Жонка – Агата Лазараўна Гарастовіч, *1726 (1743) г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г. і сямейным спісе дваран Бабруйскага павета 1803 г., жыла ў засценку Мардвілавічы[18].

29/20 **Тэадор.** Разам з братам Пятром прадаў 03.03.1796 г. Баршчэўскаму за 10 000 злотых польскіх спадчынны ад дзеда Васіля Сямёнавіча маёнтак Сычоў Мінскага ваяводства[19]. Памёр у 1796 г.

Жонка – Ганна, *1746 г. н. У рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1796 г. пазначана ўдавой, жыла разам з сынамі Лявонам і Аляксандрам у засценку Мардвілавічы.

30/20 **Пётр,** *1710 (1733) г. н. Разам з братам Тэадорам прадаў 03.03.1796 г. Баршчэўскаму за 10 000 злотых польскіх спадчынны ад дзеда Васіля Сямёнавіча маёнтак Сычоў Мінскага ваяводства[20]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г.[21] і сямейным спісе дваран Бабруйскага павета 1803 г., жыў у засценку Мардвілавічы на чыншавай зямлі князя Дамініка Радзівіла[22].

Жонкі: 1. Рэгіна Воўк, *1736 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Мардвілавічы[23]; 2. Луцыя, *1750 г. н. Па сямейным спісе дваран Бабруйскага павета 1803 г., жыла ў засценку Мардвілавічы[24].

## VIII КАЛЕНА

31/21 **Сымон.** Здзейсніў з братам Аляксандрам нейкія продажныя здзелкі, што пацвярджалі выпісы з актавай кнігі Мельніцкага гродскага суда 1774 г.[25] і 1785 г.[26]

32/21 **Аляксандр,** харунжы польскіх войскаў, што пацвярджаў выпіс атэстата ў 1748 г. з кнігі Мельніцкага гродскага суда[27]. Здзейсніў з братам Сымонам нейкія продажныя здзелкі, што пацвярджалі выпісы з актавай кнігі Мельніцкага гродскага суда 1774 г.[28] і 1785 г.[29]

33/22 **Юрый,** зямянін Навагрудскага ваяводства. Разам з братамі 20.06.1759 г. уведзены ў валоданне спадчынным маёнткам Дубаўляны Мінскага ваяводства, які 12.12.1789 г. прадалі мінскаму кашталяну Хмару[30].

34/24 **Станіслаў,** зямянін Навагрудскага ваяводства. Разам з братамі 20.06.1759 г. уведзены ў валоданне спадчынным маёнткам Дубаўляны Мінскага ваяводства, які 12.12.1789 г. прадалі мінскаму кашта-

ляну Хмару[31]. Разам з братам Янам выдаў 08.10.1759 г. (актыкацыя 10.10.1759 г. у Галоўным Літоўскім Трыбунале Навагрудскай кадэнцыі) дзядзьку Васілю Лукашэвічу Карафа-Корбуту квітацыйна-дзельчы запіс па выхадзе іх з-пад апекі і атрыманні сум з розных маёнткаў, якія дасталіся ім ад продкаў.

35/24 **Ян,** зямянін Навагрудскага ваяводства. Разам з братамі 20.06.1759 г. уведзены ў валоданне спадчынным маёнткам Дубаўляны Мінскага ваяводства, які 12.12.1789 г. прадалі мінскаму кашталяну Хмару[32]. Разам з братам Станіславам выдаў 08.10.1759 г. дзядзьку Васілю Лукашэвічу Карафа-Корбуту квітацыйна-дзельчы запіс па выхадзе іх з-пад апекі і атрыманні сум з розных маёнткаў, якія дасталіся ім ад продкаў.

36/25 **Антоній,** зямянін Навагрудскага ваяводства. Разам з братамі 20.06.1759 г. уведзены ў валоданне спадчынным маёнткам Дубаўляны Мінскага ваяводства, які 12.12.1789 г. прадалі мінскаму кашталяну Хмару[33]. Па рэвізскай сказцы 1816 г. і сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Кутнева на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[34].

Жонкі: 1. Ганна; 2. Тэрэза Мікалаеўна Тышкевіч, *1795 г. н.

37/26 **Мікалай.** Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[35].

Жонка – Агата.

38/26 **Габрыэль,** нарадзіўся ў засценку Кутнева, ахрышчаны 27.03.1804 г. у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве[36]. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[37].

39/26 **Андрэй,** *1780 г. н.

40/26 **Еўдаксія,** *1783 г. н. Па сямейным спісе 1796 г.[38] і рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыла ў засценку Кутнева.

41/26 **Настасія,** нарадзілася ў засценку Кутнева, ахрышчана 06.02.1801 г. у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве[39].

42/27 **Дамінік.** Жыў з 24.06.1809 г. у арэндным фальварку Філіпавічы Мазырскага павета, што пацвярджала квітанцыя канюшага Мазырскага павета Яна Богуша аб выплаце арэнднай платы 13.04.1816 г. Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[40].

43/28 **Васіль,** *1766 (1763) г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г.[41] і сямейным спісе дваран Бабруйскага павета 1803 г., жыў у засценку Мардвілавічы[42]. З 24.06.1809 г. жыў у арэндным фальварку Філіпавічы Мазырскага павета, што пацвярджала квітанцыя канюшага Мазырскага павета Яна Богуша аб выплаце арэнднай платы 13.04.1816 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[43].

Жонка – Марыяна, *1768 г. н.

44/28 **Ян.** Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з

унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[44].

45/28 **Лукаш,** *1774 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Меляшкевічы[45]. Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[46].

Жонка – Ганна Сыцько, *1776 г. н.

46/28 **Ганна,** *1781 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Мардвілавічы[47].

47/29 **Лявон,** *1778 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1796 г. і Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[48].

48/29 **Аляксандр,** *1782 г. н. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў разам з маці і братам Лявонам у засценку Мардвілавічы[49]. З 24.06.1809 г. жыў у арэндным фальварку Філіпавічы Мазырскага павета, што пацвярджала квітанцыя канюшага Мазырскага павета Яна Богуша аб выплаце арэнднай платы 13.04.1816 г. Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[50].

49/29 **Андрэй.** Жыў з 24.06.1809 г. у арэндным фальварку Філіпавічы Мазырскага павета, што пацвярджала квітанцыя канюшага Мазырскага павета Яна Богуша аб выплаце арэнднай платы 13.04.1816 г. Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[51].

50/30 **Андрэй.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[52].

## IX КАЛЕНА

51/31 **Антон.**

52/32 **Іван.**

53/33 **Якаў.** У 1795 г. жыў у мястэчку Нясвіж ва ўласным доме. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[53].

Жонка – Марыяна Саковіч.

54/33 **Антоній.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[54].

55/34 **Тамаш (Фама),** нарадзіўся 10.03.1768 г. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[55].

56/34 **Дамінік.** Нарадзіўся 06.01.1776 г. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[56].

57/35 **Сымон,** *1760 г. н. Па рэвізскай сказцы 1816 г. і сямейным спісе 1835 г. дваран Слуцкага павета, жыў у засценку Кутнева. Пастано-

вай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[57]. Не быў жанаты.

58/35 **Раман,** *1765 г. н. Разам з братам Сымонам заключыў 10.12.1813 г. дабраахвотнае пагадненне з родзічамі Дамінікам Станіслававічам і ад імя сына свайго Міхала, як апякун непаўналетніх родных пляменнікаў Яна і Міхала Тамашэвічаў, Антоніем Васільевічам з сынамі Янам і Тамашом, Мікалаем з непаўналетнімі сынамі Каралем, Казімірам і Габрыэлем Васільевічамі Корбутамі аб выплаце доўгу Якаву Юр'евічу і Марыяне з Саковічаў Корбутам, таксама зямельнага ўладання ў фамільных інтарэсах здзейсненага. Па рэвізскай сказцы 1816 г. і сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Кутнева. Атрымаў 01.11.1818 г. і 24.11.1819 г. квіты ад Касыцкаў, Плонскага і Пазоўскага аб унесенай аплаце за зямлю ў засценку Кутнева. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[58]. Не быў жанаты.

59/35 **Марцін,** нарадзіўся 26.12.1773 г. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[59] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[60].

60/36 **Ян (Іван),** нарадзіўся 13.01.1803 г. (? 26.07.1813), ахрышчаны ў Галынскай уніяцкай царкве Бабруйскага павета. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[61], 27.06.1853 г.[62] і 08.02.1871 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[63]. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Кутнева на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна[64]. У адпаведнасці з пасведчаннем ад 26.03.1860 г. слуцкага павятовага прадвадзіцеля дваранства – дваранін 2-га разраду Слуцкага павета[65].

Жонка – Тэрэза Міхайлаўна С е ў р у к, *1810 г. н.

61/36 **Тамаш,** нарадзіўся 21.01.1809 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[66] і 27.06.1853 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[67].

62/37 **Караль,** ахрышчаны 21.12.1811 г. у Свіслацкім касцёле. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[68] і 27.06.1853 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[69]. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета.

63/37 **Казімір,** ахрышчаны 02.02.1813 г. у Свіслацкім касцёле. Жыў у спадчынным маёнтку Слабада Кантаноўская Бярозаўскага Ключа Радамысльскага павета, што пацвярджала пасведчанне 12.04.1816 г. вендзенскага падкаморыя Каятана Чайкоўскага пра адсутнасць запазычанасці за зямлю. У 1816 г. пераехаў да сваіх родзічаў. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Прызнаны ў дваранстве пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. з унясеннем у 6-ю частку[70], 27.06.1853 г.[71], 14.12.1868 г.[72] і 08.02.1871 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[73]. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета.

64/38 **Сымон,** нарадзіўся 03.02.1826 г. (? 02.04.1829), ахрышчаны 06.02.1826 г. у Слабада-Скрыгалаўскай Міхайлаўскай царкве. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.03.1835 г.[74] і 27.06.1853 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[75].

65/38 **Дзмітрый (Дамінік),** нарадзіўся 26.10.1827 г. (? 11.11.1830), ахрышчаны ў Слабада-Скрыгалаўскай Міхайлаўскай царкве. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.03.1835 г.[76] і 27.06.1853 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[77].

66/39 **Ігнацій,** нарадзіўся 29.06.1802 г. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г.[78], 14.12.1868 г.[79] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[80].

67/42 **Ян (Іван),** нарадзіўся 12.03.1805 г. Прызнаны ў дваранстве пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[81], 27.06.1853 г.[82] і 14.12.1868 г.[83] з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета.

68/42 **Павел.**

69/43 **Іаахім (Яхім).** Заключыў 11.04.1816 г. са смаленскімі падстоліямі Фларыянам і Антанінай, народжанай Выганаўскай, Тарчынскімі арэндны кантракт на зямлю ў засценку Мардвілавічы Бабруйскага павета. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[84].

70/44 **Мікалай.** Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[85].

71/44 **Тэадор.** Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[86].

72/45 **Ян.** Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[87].

73/47 **Грыгорый.** Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[88].

74/48 **Дамінік.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[89].

75/49 **Якаў.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[90].

76/50 **Габрыэль.** Па рэвізскай сказцы дваран Бабруйскага павета 1816 г., жыў у засценку Мардвілавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[91].

## X КАЛЕНА

77/52 **Шымон,** дваранін Васількоўскага павета. Па рэвізскай сказцы дваран 1834 г., жыў у Васількоўскім павеце. Пастановай Кіеўскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 23.07.1841 г. (адбыўся па прашэнні Шымона Іванавіча Корбута) прызнаны дваранінам[92]. Зацверджаны ўказам «временного присутствия» Герольдыі № 1872 ад 21.05.1842 г.[93]

78/52 **Міхаіл.**

79/53 **Пётр-Павел,** нарадзіўся ў мястэчку Нясвіж, ахрышчаны 29.06.1790 г. у Нясвіжскім касцёле. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у мястэчку Нясвіж у доме бацькі. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[94] і 27.06.1853 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[95]. У адпаведнасці з пасведчаннем ад 26.03.1860 г. слуцкага павятовага прадвадзіцеля дваранства – дваранін 2-га разраду Слуцкага павета[96]. Памёр да 1854 г.

Жонка – Антаніна Балевіч (па першым мужу Корбут, па другім – Фалькоўская), тытулярная саветніца. Падала 27.07.1854 г. прашэнне ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні сыноў Уладзіслава-Анзельма і Апалонія-Ігнацыя да роду, дзе паведамляла, што ў сувязі з бедным становішчам сям'і не мела магчымасці на атрыманне копій метрычных пасведчанняў аб іх нараджэнні і прасіла сход запатрабаваць іх у Мінскай рымска-каталіцкай кансісторыі. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.08.1854 г. яе сыны былі далучаны да роду[97].

80/53 **Вікенцій-Іосіф,** нарадзіўся ў мястэчку Нясвіж, ахрышчаны 05.03.1794 г. у Нясвіжскім касцёле. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у мястэчку Нясвіж у доме бацькі. Атрымаў 18.12.1817 г. патэнт Галоўнага штаба Яго Імператарскай Вялікасці на чын прапаршчыка, 09.08.1820 г., 30.09.1820 г. – на чын паручніка. Служыў у 1-м егерскім палку 2-га батальёна, назначанага ў Старарускі павет Ноўгарадскай губерні, і звольніўся па сямейных абставінах у чыне штабс-капітана, што пацвярджалі фармулярны спіс аб яго службе ад 15.02.1823 г. і атэстат ад 13.03.1823 г. маёра батальёна Іванова аб добрай службе. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[98] і 27.06.1853 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[99]. У адпаведнасці з пасведчаннем ад 26.03.1860 г. слуцкага павятовага прадвадзіцеля дваранства – дваранін 2-га разраду Слуцкага павета[100]. Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

81/53 **Франц,** *1792 г. н. Памёр паміж 1796 і 1799 гг.

82/53 **Францыск-Мікалай,** нарадзіўся ў мястэчку Нясвіж, ахрышчаны 04.12.1799 г. у Нясвіжскім касцёле. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у мястэчку Нясвіж у доме бацькі. Прызнаны ў дваранстве пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г.[101] з унясеннем у 6-ю частку, 27.06.1853 г.[102], 14.12.1868 г.[103] і 08.02.1871 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[104].

83/55 **Ян (Іван),** нарадзіўся 22.06.1796 г. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[105] і 27.06.1853 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[106].

84/55 **Міхаіл-Фёдар,** нарадзіўся 03.11.1809 г. Па рэвізскай сказцы дваран Слуцкага павета 1816 г., жыў у засценку Кутнева. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[107] і 27.06.1853 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[108]. У адпаведнасці з пасведчаннем ад 26.03.1860 г. слуцкага павятовага прадвадзіцеля дваранства – дваранін 2-га разраду Слуцкага павета[109].

85/56 **Міхаіл,** нарадзіўся 21.04.1802 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1823 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[110] і 27.06.1853 г. з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[111]. Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

86/59 **Фёдар-Канстанцін,** нарадзіўся 05.03.1832 г. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г.[112], 14.12.1868 г.[113] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[114].

Жонка – Ганна Стэфанаўна.

87/59 **Аляксей,** нарадзіўся 12.02.1825 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[115]. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета.

88/59 **Пётр-Дзмітрый,** нарадзіўся 24.08.1828 г. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г.[116], 14.12.1868 г.[117] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[118].

Жонка – Ганна Емяльянаўна.

89/60 **Іван,** нарадзіўся 01.04.1846 г., ахрышчаны 02.04.1846 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[119] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[120].

90/60 **Якаў.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[121].

91/60 **Венядзікт.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[122].

92/60 **Уладзімір,** *1835 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Кутнева на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна[123].

93/60 **Рэгіна,** *1831 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыла ў засценку Кутнева на арэнднай зямлі князя Вітгенштэйна[124].

94/62 **Касьма,** нарадзіўся 14.11.1849 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[125] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[126].

95/63 **Павел,** нарадзіўся 04.01.1859 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[127] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[128].

96/63 **Іван,** нарадзіўся 21.05.1847 г., ахрышчаны 25.05.1847 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[129] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[130].

97/63 **Лаўрэнцій,** нарадзіўся 10.09.1840 г., ахрышчаны 11.09.1840 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[131] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[132].

98/66 **Іван,** нарадзіўся 30.03.1829 г. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г.[133], 14.12.1868 г.[134] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[135].

99/66 **Усцін,** нарадзіўся 01.07.1833 г. У рэвізскай сказцы дваран 1858 г. пазначаны сярод дваран 2-га разраду Бабруйскага павета. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г.[136], 14.12.1868 г.[137] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[138].

100/67 **Аляксей,** нарадзіўся 17.03.1838 г., ахрышчаны 19.03.1838 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[139].

101/67 **Лявонцій,** нарадзіўся 15.06.1843 г., ахрышчаны 16.06.1843 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[140].

102/67 **Іван,** нарадзіўся 01.06.1846 г., ахрышчаны 04.06.1846 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[141].

103/68 **Ігнацій.**

104/68 **Аляксандр.**

## XI КАЛЕНА

105/77 **Клемянціна.**

106/78 **Юрый.**

107/78 **Геранім.** Пастановай Кіеўскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1857 г. далучаны да роду Карафа-Корбутаў з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі[142].

108/79 **Апалон-Ігнацій,** нарадзіўся 15.04.1843 г. Землямер Санкт-Пецярбургскай губернскай чарцёжнай. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.08.1854 г.[143], 14.12.1868 г.[144] і 08.02.1871 г.[145] прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Падаў 27.08.1880 г. прашэнне ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход аб далучэнні да дваранскага роду Карафа-Корбутаў брата Уладзіслава-Анзельма.

109/79 **Людвіга,** нарадзілася 01.09.1841 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[146] і 08.02.1871 г.[147] прызнана ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

110/79 **Эмілія-Каміла,** нарадзілася 15.08.1844 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[148] і 08.02.1871 г. прызнана ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[149].

111/79 **Уладзіслаў-Анзельм,** нарадзіўся 08.04.1839 г., ахрышчаны 09.04.1839 г. у Мінскім Троіцкім і 15.08.1844 г. у Мінскім дамініканскім касцёлах. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.08.1854 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[150]. Па заканчэнні дамашняга выхавання здаў уступны экзамен у 2-ю Санкт-Пецярбургскую гімназію, у верасні 1861 г. быў прыняты на 1-ы курс у лік «сваякоштных» студэнтаў у Санкт-Пецярбургскую меды-

ка-хірургічную акадэмію па медыцынскай частцы. Паводзіны меў добрыя. У 1862 г. пераведзены на 2-і курс, а 23.02.1863 г. звольнены па прашэнні, каб 100 рублёў серабром за праслуханыя лекцыі былі ўтрыманы з яго жалавання пасля паступлення на службу і накіраваны ва ўпраўленне акадэміі. У 1863 г. стаў удзельнікам паўстання, быў асуджаны і сасланы ў Сібір. Па сведчанні Томскай казённай палаты ад 04.12.1878 г., у 1864 г. быў залічаны да мяшчан г. Бійска, а ў 1874 г. выключаны з саслоўя мяшчан і аднаўлены ў правах. Выконваў пасаду «счётного» чыноўніка ў Томскай кантрольнай палаце. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.03.1882 г. прызнаны ў дваранстве[151].

112/82 **Валерыян-Франц.** Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г.[152], 14.12.1868 г.[153] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[154].

113/82 **Сцяпан.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 27.06.1853 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[155]. Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

114/84 **Фёдар (Тэадор),** нарадзіўся 16.02.1829 г., ахрышчаны 17.02.1829 г. у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.03.1835 г.[156], 27.06.1853 г.[157], 14.12.1868 г.[158] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[159]. У адпаведнасці з пасведчаннем ад 26.03.1860 г. слуцкага павятовага прадвадзіцеля дваранства – дваранін 2-га разраду Слуцкага павета[160].

Жонка – Алена Іванаўна.

115/84 **Яўгеній,** нарадзіўся 05.08.1826 г., ахрышчаны 06.08.1826 г. у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 05.03.1835 г. і 27.06.1853 г.[161] прызнаны ў дваранстве[162]. Памёр, не пакінуўшы нашчадкаў.

116/86 **Канстанцін.** Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[163] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[164].

117/86 **Уладзімір,** нарадзіўся 18.07.1878 г., ахрышчаны 20.07.1878 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 10.06.1894 г. далучаны да роду. Зацверджаны ўказам Сената ад 30.11.1894 г., № 5897[165].

118/86 **Георгій,** нарадзіўся 23.04.1884 г., ахрышчаны 29.04.1884 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 10.06.1894 г. далучаны да роду. Зацверджаны ўказам Сената ад 30.11.1894 г., № 5897[166].

119/87 **Дзмітрый.** Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[167] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[168].

120/87 **Андрэй,** нарадзіўся 04.07.1879 г., ахрышчаны 08.07.1879 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 10.06.1894 г. далучаны да роду. Зацверджаны ўказам Сената ад 08.11.1894 г., № 5559[169].

121/98 **Канстанцін,** нарадзіўся 21.07.1854 г., ахрышчаны 22.07.1854 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[170] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[171].

122/98 **Сямён,** нарадзіўся 15.07.1858 г., ахрышчаны 16.07.1858 г. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.12.1868 г.[172] і 08.02.1871 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[173].

## XII КАЛЕНА

123/107 **Іаан.** Пастановай Кіеўскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.02.1887 г. далучаны да роду Карафа-Корбутаў з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі[174]. Зацверджаны ўказам Сената ад 23.10.1887 г., № 3921[175].

124/107 **Пётр.** Пастановай Кіеўскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 20.02.1887 г. далучаны да роду Карафа-Корбутаў з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі[176]. Зацверджаны ўказам Сената ад 23.10.1887 г., № 3921[177].

125/114 **Іван,** нарадзіўся 27.02.1875 г., ахрышчаны 28.02.1875 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 10.06.1894 г. далучаны да роду. Зацверджаны ўказам Сената ад 08.11.1894 г., № 5558.

126/119 **Пётр,** нарадзіўся 26.06.1896 г., ахрышчаны ў Ляскавіцкай царкве Бабруйскага павета. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1912 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[178].

127/119 **Іван,** нарадзіўся 21.06.1903 г., ахрышчаны ў Ляскавіцкай царкве Бабруйскага павета. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 31.12.1912 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў з унясеннем у 1-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[179].

# КАРАФА-КОРБУТЫ IV

*Род Карафа-Корбутаў герба «Корчак» прызнаны ў дваранстве пастановамі Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. і Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.04.1829 г. Не зацверджаны ўказам Сената.*

## I КАЛЕНА

1 **Пётр,** баярын Слонімскага павета. Атрымаў 03.09.1532 г. прывілей ад польскага караля Жыгімонта I Старога на Брыкаўскую зямлю ў Слонімскім павеце з падданым Радзюком. За абавязак адбываць вайсковую службу атрымаў прывілей 03.01.1538 г. ад слуцкага князя Юрыя Алелькавіча на зямлю Грозаўскую з усімі ўрочышчамі (актыкацыі 17.02.1604 г. у Навагрудскім гродскім судзе і 06.01.1794 г. у Слуцкім павятовым судзе).

Узгадваўся ў многіх галінах Карафа-Корбутаў, якія даказвалі сваё дваранскае паходжанне ў канцы XVIII–XIX ст. (гл. «Карафа-Корбуты I» 9/6; «Карафа-Корбуты II» 9/6; «Карафа-Корбуты III» 1; «Карафа-Корбуты V» 0).

## II КАЛЕНА

2/1 **Габрыэль.**

## III КАЛЕНА

3/2 **Сідар (Ісідор).** Разам з братамі Ільёй, Грыгорыем, Паўлам раздзяліў 15.10.1633 г. з Янам Дубкоўскім, Матысам і Тэадорам Тышкевічамі, Раманам Свідам і іншымі землі ў Слуцкім княстве (актыкацыя 31.03.1635 г. у Слуцкім гродскім судзе). Дзеці: Ян, Фёдар, Гаўрыіл, Мікалай[1] (? Гаўрыіл, Мікалай, Фёдар)[2].

4/2 **Ілья.** Разам з братамі Сідарам, Грыгорыем, Паўлам раздзяліў 15.10.1633 г. з Янам Дубкоўскім, Матысам і Тэадорам Тышкевічамі, Раманам Свідам і іншымі землі ў Слуцкім княстве (актыкацыя 31.03.1635 г. у Слуцкім гродскім судзе).

5/2 **Грыгорый.** Разам з братамі Сідарам, Ільёй, Паўлам раздзяліў 15.10.1633 г. з Янам Дубкоўскім, Матысам і Тэадорам Тышкевічамі, Раманам Свідам і іншымі землі ў Слуцкім княстве (актыкацыя 31.03.1635 г. у Слуцкім гродскім судзе).

6/2 **Павел.** Разам з братамі Сідарам, Ільёй, Грыгорыем раздзяліў 15.10.1633 г. з Янам Дубкоўскім, Матысам і Тэадорам Тышкевічамі, Раманам Свідам і іншымі землі ў Слуцкім княстве (актыкацыя 31.03.1635 г. у Слуцкім гродскім судзе).

## IV КАЛЕНА

7/3 **Ян.** Купіў 04.07.1670 г. у Марціна Крукоўскага зямлю без запруды і будынкі ў засценку Федараўшчызна. Валодаў маёнткам Іздрашава, які пакінуў дзецям.

Жонка – Сафія Свідзянка.

8/3 **Фёдар.** Судзіўся 06.08.1697 г. з сынамі па прычыне раздзелу зямель (актыкацыя 16.04.1698 г. у Слуцкім гродскім судзе). Дзеці: Самуіл, Грыгорый, Аляксандр, Мікалай, Павел, Мацей[3] (? Антон з сынамі Іосіфам, Іванам, Стэфанам, Мікалаем; Грыгорый з сынамі Пятром і Фёдарам, Мацвей з сынам Іванам, Аляксандр з сынам Іванам)[4].

9/3 **Гаўрыіл.** (?) Дзеці: Якаў з сынам Сцяпанам, Павел з сынам Іванам, Кандрат, Міхаіл з сы-

намі Іванам, Станіславам, Якавам, Мацвеем, Грыгорыем, Сцяпан з сынамі Мацвеем, Даніілам, Грыгорыем, Васілём[5].

Названыя асобы не змешчаны ў пакаленнай як сыны Гаўрыіла, паколькі ў пастановах Валынскага і Мінскага дваранскіх дэпутацкіх сходаў ёсць неадпаведнасць: пазначаны асобы, якія паўтараюцца, з аднолькавымі імёнамі жонак, дзяцей, унукаў, але ад розных бацькоў і ў розных каленах, дакладна вызначыць роднасныя адносіны паміж імі не ўяўляецца магчымым. За аснову ўзяты радавод Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.04.1829 г. як найбольш прымальны па супастаўленні дат нараджэння і працягласці жыцця[6].

10/3 **Мікалай.**

### V КАЛЕНА

11/7 **Стэфан.** Разам з братамі і сёстрамі атрымаў у спадчыну ад бацькоў маёнтак Іздрашава, што пацвярджаў карабарацыйны дакумент ад 26.04.1770 г., у якім яны свайму малодшаму брату Кандрату Корбуту як пісьменнаму ўсе прывілеі ад караля і князя літоўскага Алелькі на пажалаваныя вёскі з падданымі, квіты паборавыя і попісавыя, якія мелі ад продка іх Габрыэля Корбута, то ўсё ў дэпазіт свайму брату, які жыў на спадчынных землях, аддалі, і іншыя ўсе даўнія дакументы здзейсненага раздзелу ён павінен быў спагнаць у Яновічаў Корбутаў, уладальнікаў Пуніцкіх.

12/7 **Міхал.** Разам з братамі і сёстрамі атрымаў у спадчыну ад бацькоў маёнтак Іздрашава. Купіў 15.05.1732 г. у дваран Афанасія і Рэгіны, народжанай Каржанеўскай, Крукоўскіх зямлю ў засценку Федараўшчызна (Кулакі) (актыкацыя 20.05.1732 г. у Слуцкім гродскім судзе)[7]. Па інвентарах маёнтка Пагост Навагрудскага ваяводства за 1733 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 3177, арк. 104*) і 1751 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 3178, арк. 138*), жыў у засценку Кулакі, валодаў 1/3 «аседлай» валокі зямлі, 1 кабылай і 2 валамі.

13/7 **Андрэй.** Разам з братамі і сёстрамі атрымаў у спадчыну ад бацькоў маёнтак Іздрашава.

14/7 **Кандрат,** малодшы сын. Пісьменны. Разам з братамі і сёстрамі атрымаў у спадчыну ад бацькоў маёнтак Іздрашава, атрымаў ад братоў прывілеі ад караля і князя літоўскага Алелькі на пажалаваныя вёскі з падданымі, квіты паборавыя і попісавыя, якія мелі ад продка іх Габрыэля Корбута, і іншыя ўсе даўнія дакументы здзейсненага раздзелу ён павінен быў спагнаць у Яновічаў Корбутаў, уладальнікаў Пуніцкіх.

15/8 **Самуэль.** Разам з братамі судзіўся 06.08.1697 г. з бацькам па прычыне раздзелу земель. З судовага працэсу вынікае, што Самуэль быў старэйшым братам, разам з Грыгорыем і Аляксандрам пайшоў з дому, узяўшы вялікую колькасць рухомай маёмасці, і шмат гадоў яны ў іншых вёсках жылі і ў іншыя двары чынш плацілі.

16/8 **Грыгорый.** Разам з братамі судзіўся 06.08.1697 г. з бацькам па прычыне раздзелу земель. З судовага працэсу вынікае, што Грыгорый быў адным са старэйшых братоў, разам з Самуэлем і Аляксандрам пайшоў з дому, узяўшы вялікую колькасць рухомай маёмасці, і многа гадоў яны ў іншых вёсках жылі і ў іншыя двары павіннасці плацілі.

17/8 **Аляксандр.** Разам з братамі судзіўся 06.08.1697 г. з бацькам па прычыне раздзелу земель. З судовага працэсу вынікае, што Аляксандр быў адным са старэйшых братоў, разам з Самуэлем і Грыгорыем пайшоў з дому, узяўшы вялікую колькасць рухомай маёмасці, і многа гадоў яны ў іншых вёсках жылі і ў іншыя двары павіннасці плацілі.

18/8 **Мікалай.** Разам з братамі судзіўся 06.08.1697 г. з бацькам па прычыне раздзелу зямель. З судовага працэсу вынікае, што Мікалай разам з братам Паўлам пры раздзеле атрымаў частку зямлі, з якой збіраў прыбытак і плаціў павіннасці.

19/8 **Павел.** Разам з братамі судзіўся 06.08.1697 г. з бацькам па прычыне раздзелу зямель. З судовага працэсу вынікае, што Павел разам з братам Мікалаем пры раздзеле атрымаў частку зямлі, з якой збіраў прыбытак і плаціў павіннасці.

20/8 **Мацей.** Разам з братамі судзіўся 06.08.1697 г. з бацькам па прычыне раздзелу зямель. З судовага працэсу вынікае, што Мацей як самы малодшы сын застаўся на бацькавым утрыманні.

21/10 **Андрэй.**

22/10 **Траян.**

## VI КАЛЕНА

23/11 **Даніэль.** Па рэвізскай сказцы 17.11.1795 г.[8] і сямейным спісе 1796 г.[9] шляхты Слуцкага павета, жыў у засценку Раткаў на арэнднай зямлі.

Жонка – Гелена Самуілаўна Пількевіч, *1771 г. н.

24/12 **Стэфан.**

25/13 **Міхал.**

26/14 **Грыгорый.** Жонка – Марыя.

27/18 **Фёдар.**

28/18 **Антоній,** прыхаджанін Пагосцкай царквы.

Жонка – Еўдакія.

29/18 **Грыгорый.** Быў прыхаджанінам Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царквы. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[10].

Жонка – Марта Янаўна.

30/18 **Міхаіл.** Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[11].

31/20 **Ян.** Быў прыхаджанінам Чыжэвіцкай царквы Слуцкага павета.

Жонка – Марыя Якаўлеўна Прылуцкая.

32/21 **Міхаіл.**

33/21 **Грыгорый.**

34/21 **Міхаіл.**

35/21 **Павел.**

36/22 **Дамінік.**

## VII КАЛЕНА

37/23 **Стэфан,** нарадзіўся 27.12.1791 г. Па рэвізскай сказцы 17.11.1795 г.[12] і сямейным спісе 1796 г.[13] шляхты Слуцкага павета, жыў у засценку Раткаў на арэнднай зямлі. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[14].

38/23 **Грыгорый,** нарадзіўся 25.01.1794 г. Па рэвізскім сказкам шляхты Слуцкага павета, жыў 10.10.1795 г. на вотчыннай зямлі, 17.11.1795 г. – на арэнднай зямлі[15], па сямейным спісе 1796 г.[16] – у засценку Раткаў. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[17].

39/23 **Ядвіга,** *1790 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1796 г.[18], жыла ў засценку Раткаў.

40/23 **Марыяна,** *1792 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1796 г.[19], жыла ў засценку Раткаў.

41/24 **Мацей (Матэвуш).** Жонка – Марыя Васільеўна.

42/25 **Мацей (Матэвуш).** Быў прыхаджанінам Чыжэвіцкай царквы Слуцкага павета.

Жонка – Ганна Аляксандраўна.

43/25 **Станіслаў.** Быў прыхаджанінам Чыжэвіцкай царквы Слуцкага павета.

Жонка – Еўдакія Емяльянаўна.

44/25 **Ян.** Быў прыхаджанінам Чыжэвіцкай царквы Слуцкага павета.

Жонка – Параскевія Васільеўна.

45/25 **Стэфан.**

46/26 **Тэадор (Фёдар).** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 17.11.1795 г., жыў на арэнднай зямлі[20].

Жонка – Еўфрасінія Іосіфаўна.

47/26 **Якуб.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[21]. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[22].

Жонка – Еўдакія Емяльянаўна.

48/27 **Антоній.** Жонка – Еўдакія.

49/28 **Іван.** Па рэвізскай сказцы шляхты 27.08.1816 г., жыў у Радомысльскім павеце Кіеўскай губерні[23].

50/28 **Стэфан.** Жонка – Марыя Канстанцінаўна Тарасевіч.

51/28 **Ян,** ахрышчаны 03.01.1788 г. у Пагосцкай царкве. У 1820–1823 гг. быў прыхаджанінам Разважоўскай царквы. Па рэвізскай сказцы 27.08.1816 г., жыў у вёсцы Чайкоўка Радомысльскага павета[24].

Жонка – Ірына Іванаўна.

52/29 **Васіль,** ахрышчаны 15.02.1807 г. у Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[25].

Жонка – Марыя.

53/30 **Грыгорый.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[26].

54/30 **Матэвуш.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[27].

55/30 **Якуб.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[28].

56/31 **Ян,** нарадзіўся 29.08.1801 г. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[29].

57/31 **Аляксандр,** нарадзіўся 30.08.1804 г. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[30].

58/32 **Сцяпан.** У 1829–1831 гг. быў прыхаджанінам Карыстымаўскага касцёла.

Жонка – Сафія Баярская.

59/33 **Васіль.**

60/34 **Геранім.**

61/34 **Міхаіл.**

62/35 **Ян,** *1769 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Кулакі (Федараўшчызна)[31].

Жонка – Агата Загароўская, *1774 г. н.

63/35 **Якаў,** *1766 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Кулакі (Федараўшчызна)[32].

Жонка – Еўдаксія Бараноўская, *1770 г. н.

64/36 **Іосіф.** У 1827 г. быў прыхаджанінам Іваньскай царквы.

Жонка – Алена.

### VIII КАЛЕНА

65/37 **Стэфан.** Па рэвізскай сказцы дваран 1811 г., жыў у сяле Каралінка Жытомірскага павета[33]. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам[34].

66/37 **Грыгорый.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[35]. Быў прыхаджанінам Чыжэвіцкай царквы Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам[36].

Жонкі: 1. Алена Міхайлаўна, сын Мацей; 2. (?) Еўдакія Аляксандраўна, сын Аляксандр.

67/37 **Васіль.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[37].

68/38 **Тэадор.**

69/38 **Бенядзікт (Венядзікт).** Па рэвізскай сказцы дваран 1811 г., жыў у сяле Каралінка Жытомірскага павета[38].

70/38 **Пётр.** Па рэвізскай сказцы дваран 1811 г., жыў у сяле Каралінка Жытомірскага павета[39].

71/41 **Грыгорый,** нарадзіўся 19.06.1791 г., ахрышчаны ў Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[40].

72/42 **Ян,** ахрышчаны 25.03.1797 г. у Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[41].

73/43 **Тэадор,** ахрышчаны 15.09.1795 г. у Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. У 1820–1822 гг. жыў у вёсцы Чайкоўка, быў прыхаджанінам Чайкоўскай царквы Радамысльскага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[42].

Жонка – Тэрэза Ільінічна.

74/43 **Сымон,** ахрышчаны 08.04.1797 г. у Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[43].

75/44 **Сымон,** ахрышчаны 11.12.1808 г. у Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[44].

76/44 **Тэадор.** У 1822 г. жыў у вёсцы Чайкоўка Радамысльскага павета Кіеўскай губерні.

Жонка – Ганна Тамашоўна.

77/46 **Тэадор,** ахрышчаны 30.02.1798 г. у Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[45].

78/47 **Лявон,** ахрышчаны 01.08.1806 г. у Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[46].

79/47 **Дамінік.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[47]. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[48].

80/48 **Мікалай.** Купіў 31.08.1809 г. у маёра войскаў польскіх Ануфрыя Масальскага зямлю ў ва-

коліцы Любачы Ігуменскага павета. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[49]

Жонка – Ганна.

81/48 **Карп-Іосіф.** Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[50]

Жонка – Варвара.

82/48 **Стэфан.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[51]. Затым жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[52]

Жонка – Марыя Тарасевіч.

83/48 **Ян (першы).** Паручнік расійскіх войскаў, у Мінскім гарнізоне быў казначэем. Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[53]

84/48 **Ян (другі).** Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[54]

85/50 **Якуб,** ахрышчаны 01.01.1795 г. у Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Па рэвізскай сказцы шляхты 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі ў Слуцкім павеце[55]; 27.08.1816 г. – у вёсцы Чайкоўка Радомысльскага павета[56]. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[57].

86/51 **Ігнацій,** ахрышчаны 20.12.1820 г. у Разважоўскай царкве. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[58].

87/51 **Стэфан,** ахрышчаны 28.03.1823 г. у Разважоўскай царкве. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[59].

88/52 **Сымон.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[60]. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[61].

89/52 **Геранім.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[62]. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[63].

Жонка – Марыя Іосіфаўна.

90/52 **Тэадор.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 10.10.1795 г., жыў на вотчыннай зямлі[64].

91/57 **Ян.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1795 г., жыў на зямлі па кантракце[65].

Жонка – Соф'я Кулакоўская.

92/57 **Грыгорый.**

93/57 **Тэадор.**

94/58 **Фама.** Ахрышчаны 28.12.1831 г. у Карыстымаўскім касцёле.

95/58 **Іван.** Ахрышчаны 29.08.1829 г. у Карыстымаўскім касцёле.

96/59 **Мікалай.**

97/60 **Андрэй.**

98/61 **Фёдар.**

99/62 **Ян,** *1792 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Кулакі (Федараўшчызна)[66].

100/63 **Давід.**

101/63 **Андрэй,** *1789 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Кулакі (Федараўшчызна)[67].

102/64 **Сцяпан,** ахрышчаны 01.01.1827 г. у Іваньскай царкве.

### IX КАЛЕНА

103/66 **Мацей,** нарадзіўся 08.11.1795 г., ахрышчаны ў Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Па рэвізскай сказцы шляхты 27.08.1816 г., жыў у вёсцы Чайкоўка Радомысльскага павета[68], быў прыхаджанінам Чайкоўскай царквы. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[69].

Жонка – Фёкла (Тэкля) Грыгор'еўна.

104/66 **Аляксандр,** ахрышчаны 23.11.1804 г. у Яроміцкай царкве. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[70].

105/72 **Ян.** Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам[71].

106/72 **Аляксандр.** Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам[72].

107/73 **Стэфан,** ахрышчаны 24.05.1820 г. у Чайкоўскай царкве Радомысльскага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[73].

108/73 **Лявон,** ахрышчаны 19.06.1822 г. у Чайкоўскай царкве Радомысльскага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[74].

109/73 **Сымон.**

110/73 **Уладзіслаў.**

111/74 **Уладзімір.** Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[75].

112/76 **Якуб,** ахрышчаны 23.10.1820 г. у Чайкоўскай царкве Радомысльскага павета.

113/80 **Міхал.** Жыў у засценку Любачы Ігуменскага павета на ўласнай зямлі. У 1816–1824 гг. быў прыхаджанінам Белічанскай царквы. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[76] Сабраў дакументы, якія пацвярджаюць дваранскае паходжанне роду Карафа-Корбутаў, і звярнуўся ў Мінскі дваранскі дэпутацкі сход, які пастановай ад 02.04.1829 г. прызнаў у дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

Жонка – Апалонія Рэут.

114/80 **Грыгорый.** Разам з братам Міхаілам атрымаў у спадчыну зямлю ад бацькі ў засценку Любачы Ігуменскага павета. У 1813–1820 гг. быў прыхаджанінам Белічанскай царквы. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам[77].

Жонка – Матрона Сеўрук.

115/81 **Андрэй,** нарадзіўся 21.07.1795 г., ахрышчаны ў Пагосцкай Іаана-Прадцечанскай царкве. Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[78]

116/82 **Якуб.** Жыў у Ігуменскім павеце. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г.[79] і рэзалюцыяй ад 14.01.1829 г.[80] прызнаны дваранінам.

117/89 **Сымон,** нарадзіўся 06.12.1806 г., ахрышчаны ў Чыжэвіцкай царкве Слуцкага павета. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Валынскай губерні[81].

118/91 **Грыгорый.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1795 г., жыў на зямлі па кант-

ракце[82]. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам[83].

119/91 **Тэадор.** Па рэвізскай сказцы шляхты Слуцкага павета 1795 г., жыў на зямлі па кантракце[84]. Затым быў прыхаджанінам Чайкоўскай царквы Валынскай губерні. Пастановай Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.04.1827 г. прызнаны дваранінам[85].

Жонка – Ганна Тамашоўна Грыневіч.

### X КАЛЕНА

120/103 **Антоній,** нарадзіўся 20.01.1823 г., ахрышчаны ў царкве вёскі Чайкоўка Радомысльскага павета.

121/113 **Юсцін,** ахрышчаны 16.10.1816 г. у Белічанскай царкве. Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[86]

122/113 **Андрэй,** ахрышчаны 01.12.1818 г. у Белічанскай царкве. Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[87]

123/113 **Ян,** ахрышчаны 30.01.1822 г. у Белічанскай царкве. Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[88]

124/113 **Фелікс,** ахрышчаны 12.05.1824 г. у Белічанскай царкве. Жыў у Ігуменскім павеце. Далучаны да роду рэзалюцыяй Валынскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 14.01.1829 г.[89]

125/114 **Стэфан,** ахрышчаны 14.07.1813 г. у Белічанскай царкве.

126/114 **Юсцін,** ахрышчаны 19.01.1820 г. у Белічанскай царкве.

127/118 **Ян.**

128/118 **Матэвуш.**

129/119 **Якуб.**

# КАРАФА-КОРБУТЫ V

*Род Карафа-Корбутаў герба «Корчак» прызнаны ў дваранстве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. Зацверджаны ўказам Сената ад 20.08.1834 г.*

«...Предок сей фамилии Петр Корбут за свою дворянскую к отечеству приверженность и мужество награжден по привилегии короля польского Сигизмунда I землею Пустовскою, или Бриковскою, с крестьянином, удостоверяет о сем привилегия тоже короля, 1532 сентября 3 пожалованная, и 1604 годов февраля 17 числа в Новогрудском гродском, а напоследок в Слуцком земском судах актыкованная, и хотя сия фамилия сем защищалась, однако же происхождение от сего родоначальника Петра Корбута доказать не могла, а в малой отдаленности по родословной показывая родоначальником благородного Николая Корбута...»

Пётр згадваўся ў многіх галінах Карафа-Корбутаў, якія даказалі сваё дваранскае паходжанне ў канцы XVIII–XIX ст. (гл. «Карафа-Корбуты I» 9/6; «Карафа-Корбуты II» 9/6; «Карафа-Корбуты III» 1; «Карафа-Корбуты IV» 1).

### I КАЛЕНА

1 **Мікалай,** жыў у *1600-я гг. Купіў 20.05.1649 г. у Фёдара Муровіча фальварак Ужа ў канцы Муровіцкім (актыкацыя 27.05.1649 г. у Слуцкім гродскім судзе), а 21.03.1650 г. купіў у Іаахіма Корбута фальварак N. Пакінуў тастамент ад 20.04.1664 г., у якім ён свае маёнткі завяшчаў сынам Васілю, Гаўрыілу, Лаўрэнцію, Івану і Дзмітрыю.

Жонка – N Тышкевіч.

### II КАЛЕНА

2/1 **Васіль.** Разам з братамі атрымаў па тастаменце бацькі ад 20.04.1664 г. маёнткі. Згадваўся (?).07.1688 г. пры продажы братам Іванам брату Лаўрэнцію зямлі ў канцы Казлоўскім Слуцкага павета (актыкацыя 19.07.1688 г. у Слуцкім земскім судзе). Па інвентары маёнтка Грозава за 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*), жыў у вёсцы Ужа «конь Петрушкоўскі», валодаў 5/8 «аседлай» валокі зямлі.

3/1 **Гаўрыіл.** Разам з братамі па тастаменце бацькі ад 20.04.1664 г. атрымаў маёнткі. Прадаў 05.07.1685 г. брату Івану фальварак Ужа. Па інвентарах маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6 адв.*) і 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4*), жыў у вёсцы Ужа, у 1688 г. «конь Няронскі», валодаў 5/8 «асед-

лай» валокі зямлі, у 1717 г. «конь Юраўскі» – 1/4 і 2 валокі.

4/1 **Лаўрэнцій.** Разам з братамі атрымаў па тастаменце бацькі ад 20.04.1664 г. маёнткі. Купіў (?).07.1688 г. у брата Івана зямлю ў канцы Казлоўскім Слуцкага павета (актыкацыя 19.07.1688 г. у Слуцкім земскім судзе). Па інвентары маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*), жыў у вёсцы Ужа «конь Корбутаў», валодаў 5/6 «аседлай» валокі зямлі.

5/1 **Іван.** Разам з братамі атрымаў па тастаменце бацькі ад 20.04.1664 г. маёнткі. Купіў 05.07.1685 г. у брата Гаўрыіла фальварак Ужа. Па інвентары маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*), жыў у вёсцы Ужа «конь Петрушкоўскі», валодаў 5/6 «аседлай» валокі зямлі, «конь Юраўскі» – 5/24 валокі. Прадаў (?).07.1688 г. брату Лаўрэнцію зямлю ў канцы Казлоўскім Слуцкага павета (актыкацыя 19.07.1688 г. у Слуцкім земскім судзе). Размеркаваў 08.02.1699 г. сваім сынам маёнтак. Пакінуў тастамент ад 18.01.1702 г. (актыкацыя 05.03.1703 г. у Грозаўскім замку), у якім завяшчаў свой маёнтак сынам Марціну, Станіславу і Сямёну, а таксама ўнуку Іосіфу Самуілавічу.

6/1 **Дзмітрый.** Разам з братамі атрымаў па тастаменце бацькі ад 20.04.1664 г. маёнткі.

### III КАЛЕНА

7/5 **Марцін-Мацвей.** Па інвентары мёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*), жыў у вёсцы Ужа «конь Юраўскі», валодаў 5/24 «аседлай» валокі зямлі. Разам з братамі Станіславам і Сямёнам, а таксама пляменнікам Іосіфам Самуілавічам атрымаў 05.03.1703 г. па тастаменце бацькі маёнтак. Пакінуў тастамент ад 02.11.1719 г.

Жонкі: 1. (?), сын Іван; 2. Марыяна Міхалоўская, сыны Леў і Іван; пакінула тастамент у 1742 г., у якім падзяліла маёнтак паміж сваімі сынамі.

8/5 **Станіслаў.** Па інвентары маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*), жыў у вёсцы Ужа «конь Юраўскі», валодаў 5/24 «аседлай» валокі зямлі, «конь Корбутаў» – 5/12 валокі. Разам з братамі Марцінам і Сямёнам, а таксама пляменнікам Іосіфам Самуілавічам атрымаў 05.03.1703 г. па тастаменце бацькі маёнтак.

9/5 **Самуіл.** Па інвентары маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*), жыў у вёсцы Ужа «конь Юраўскі», валодаў 5/24 «аседлай» валокі зямлі. Відаць, памёр да 1703 г., паколькі не згадваўся ў тастаменце бацькі, згадваўся толькі яго сын Іосіф Самуілавіч.

10/5 **Сямён,** харунжы. Па інвентарах маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*) і 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4*), жыў у вёсцы Ужа «конь Петрушкоўскі», валодаў у 1688 г. 5/12 «аседлай» валокі зямлі, «конь Корбутаў» – 5/12 валокі, у 1717 г. «конь Петрушкоўскі» – 3/12 валокі. Разам з братамі Станіславам і Марцінам, а таксама пляменнікам Іосіфам Самуілавічам атрымаў 05.03.1703 г. па тастаменце бацькі маёнтак.

### IV КАЛЕНА

11/7 **Іван (Ян).** Па інвентарах маёнтка Грозава 1688 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1314, арк. 6*) і 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4*), жыў у вёсцы Ужа «конь Петрушкоўскі», валодаў у 1688 г. 5/16 «аседлай» валокі зямлі, у 1717 г. «конь Петрушкоўскі» – [5/8] валокі, «конь Юраўскі» – 5/6 валокі.

12/7 **Леў.**

13/7 **Іван.**

14/9 **Іосіф.** Разам з дзядзькамі Станіславам, Сямёнам і Марцінам атрымаў 05.03.1703 г. па тастаменце дзеда частку зямлі. Па інвентары маёнтка Грозава 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4 адв.*), жыў у вёсцы Ужа «конь Казлоўскі», валодаў 5/9 валокі зямлі. Пакінуў тастамент ад 10.05.1741 г., у якім свой маёнтак запісаў сыну Гаўрыілу (актыкацыя 10.05.1741 г. у Грозаўскім замку).

15/10 **Стэфан.**

16/10 **Леў.** Купіў 03.03.1740 г. у Мацвея Сухадольскага маёнтак Пярошыца Аршанскага павета з сялянамі, які ў завяшчанні 03.05.1745 г. пакінуў сыну Лаўрэнцію і ўнукам Васілю, Даніілу, Яўстафію і Сямёну[1].

17/10 **Юрый.**

## V КАЛЕНА

18/11 **Іван.**

19/14 **Казімір.**

20/14 **Мікалай.** Выдаў 18.12.1730 г. квітацыйны дакумент брату Гаўрыілу аб заключэнні нейкай здзелкі.

21/14 **Мікіта.**

22/14 **Гаўрыіл,** *1816 г. н. Атрымаў 18.12.1730 г. квітацыйны дакумент ад брата Мікалая аб заключэнні нейкай здзелкі. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[2].

Жонка – Ганна Каранеўская, *1734 г. н.

23/15 **Міхаіл.** Па інвентары маёнтка Грозава 10.08.1717 г. (*НГАБ, КМФ-5, воп. 1, спр. 1317, арк. 4*), жыў у вёсцы Ужа «конь Няронскага», валодаў [4/8] «платнай» валокі зямлі. Разам з сынам Паўлам 16.07.1730 г. заклаў Іосіфу Корбуту зямлю.

24/16 **Лаўрэнцій.** Атрымаў па завяшчанні бацькі 03.05.1745 г. маёнтак Пярошыца Аршанскага павета.

## VI КАЛЕНА

25/18 **Грыгорый,** *1732 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Ужа[3].

Жонка – N Няронская, *1751 г. н.

26/18 **Іван.**

27/18 **Іван.**

28/18 **Фёдар.**

29/19 **Грыгорый,** *1754 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Жукаўшчызна[4]. 24.10.1813 г. уведзены ў валоданне фальваркам Любачы (3 валокі зямлі), што пацвярджала актыкацыя 07.11.1813 г. у Ігуменскім земскім судзе.

Жонка – Марыяна Дашкевіч, *1766 г. н.

30/19 **Стэфан-Павел,** *1756 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Ужа[5].

Жонка – Марыяна (Агата) Матусевіч, *1767 (? 1785) г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Ужа[6].

31/20 **Грыгорый.**

32/21 **Матэвуш.**

33/21 **Казімір.** Купіў 10.07.1785 г. зямлю ў Васіля Вержбаловіча. Заключыў 30.05.1788 г. грашовую здзелку з пляменнікам Іванам Рафалавічам Корбутам (актыкацыя 31.05.1788 г. у кампрамісарскім судзе).

34/21 **Рафал.**

35/22 **Аляксандр,** *1746 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[7].

Жонка – Ганна Клішэвіч, *1742 г. н.

36/22 **Якуб,** *1766 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[8].

37/22 **Юсціна,** *1776 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Клешава[9].

38/23 **Павел.** Разам з бацькам 16.07.1730 г. залажыў Іосіфу Корбуту зямлю. 16.04.1758 г. паміж

Корбутамі адбыўся судовы працэс у Грозаўскім замку, дзе згадваўся Павел Міхайлавіч Корбут. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Ужа[10].

Жонка – Кунегунда Праходкая, *1738 г. н.

39/23 **Пётр.**

40/23 **Антон,** разам з сынам Іванам судзіўся 04.12.1778 г. у Навагрудскім гродскім судзе з Марозамі.

41/24 **Васіль.** Атрымаў па завяшчанні дзеда Льва Сямёнавіча ад 03.05.1745 г. маёнтак Пярошыца Аршанскага павета.

42/24 **Данііл.** Атрымаў па завяшчанні дзеда Льва Сямёнавіча ад 03.05.1745 г. маёнтак Пярошыца Аршанскага павета.

43/24 **Яўстафій.** Атрымаў па завяшчанні дзеда Льва Сямёнавіча ад 03.05.1745 г. маёнтак Пярошыца Аршанскага павета, які з 5 сялянскімі дварамі 14.03.1773 г. прадаў аршанскаму ротмістру Станіславу Дашкевічу за 18 000 злотых.

44/24 **Сямён.** Атрымаў па завяшчанні дзеда Льва Сямёнавіча ад 03.05.1745 г. маёнтак Пярошыца Аршанскага павета, які з 5 сялянскімі дварамі прадаў 14.03.1773 г. аршанскаму ротмістру Станіславу Дашкевічу за 18 000 злотых.

## VII КАЛЕНА

45/25 **Андрэй,** нарадзіўся 10.11.1798 г.

Жонка – Канстанцыя.

46/25 **Іосіф.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[11].

Жонка – Кацярына Дзям'янаўна.

47/25 **Іван.**

48/25 **Васіль.** Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[12].

49/25 **Іван,** сын ад другога шлюбу.

50/25 **Павел.**

51/25 **Барбара,** *1781 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Ужа[13].

52/25 **Тэкля,** *1791 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Ужа[14].

53/25 **Тэадора,** *1795 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Ужа[15].

54/26 **Іван.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[16].

55/26 **Дзмітрый.** Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[17]. Памёр да 1878 г.

Жонка – Кацярына Іванаўна (Паўлаўна) Клішэвіч, *1819 г. н. Па сямейных спісах дваран Слуцкага павета 1878 г.[18] і 1893 г.[19], жыла ў засценку Ужа Грозаўскай воласці.

56/26 **Міхаіл.** Праваслаўны. У 1849 г. жыў у засценку Ужа, быў прыхаджанінам Грозаўскай царквы Слуцкага павета.

Жонка – Ганна Іванаўна, каталічка.

57/26 **Юрый,** *1751 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Ужа[20].

Жонка – N Матусевіч, *1765 г. н.

58/26 **Аляксандр.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны

ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[21].

59/27 **Васіль,** нарадзіўся 15.06.1808 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[22].

60/27 **Міхаіл,** нарадзіўся 29.09.1806 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[23].

61/27 **Яфрэм,** нарадзіўся 12.01.1817 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[24].

62/28 **Андрэй (? Аляксандр),** нарадзіўся 18.08.1804 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[25]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[26].

63/28 **Антон.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[27]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[28].

64/28 **Стэфан.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[29]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у вёсцы Астрэйкі памешчыка Рубкевіча. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[30].

65/28 **Матэвуш (Мацвей, Ціматэвуш),** нарадзіўся 30.02.1798 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[31]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[32].

Жонка – Антаніна Іванаўна.

66/29 **Іван,** ахрышчаны 26.06.1804 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановамі Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г.[33] і 20.08.1834 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената ад 15.07.1850 г. У 1851 г. лічыўся дваранінам Ігуменскага павета.

67/29 **Ціт.**

68/29 **Антон,** *1793 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Жукаўшчызна[34]. Служыў ва Узнясенскім уланскім палку ў чыне штабс-ротмістра, што пацвярджаў водзыў ад 25.04.1832 г. 1-й арміі Галоўнага штаба. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[35].

69/29 **Эльжбета,** *1788 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Жукаўшчызна[36].

70/29 **Ганна,** *1795 г. н. Па сямейным спісе шляхты Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Жукаўшчызна[37].

71/30 **Клеменс.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[38]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Прарокаўшчызна князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[39].

72/30 **Ганна,** *1795 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Ужа[40].

73/30 **Васіль,** *1777 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Булатнікі «на арендной земле пробоства Цимковицкого»[41].

Жонка – N, памерла да 1835 г.

74/30 **Іван,** ахрышчаны 27.09.1798 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[42]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Вінкаў. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[43].

75/30 **Пётр,** ахрышчаны 25.11.1801 г. у Грозаўскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[44]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Вінкаў. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[45].

Жонка – Сафія Антонаўна Пазняк, *1810 г. н.

76/31 **Рафал,** *1761 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[46].

Жонка – Ганна Пятніцкая, *1766 г. н.

77/31 **Павел.**

78/31 **Міхаіл.**

79/31 **Пётр.**

80/32 **Іван,** ахрышчаны 05.01.1812 г. у Грозаўскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[47]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[48].

81/32 **Сямён,** ахрышчаны 17.04.1819 г. у Грозаўскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[49]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[50].

82/32 **Гаўрыіл.**

83/33 **Іван,** ахрышчаны 14.05.1797 г. у Капыльскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[51]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Калодзежны маёнтка Цімкавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выклю-

чаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[52].

84/34 **Іван.** Заключыў 30.05.1788 г. грашовую здзелку з дзядзькам Казімірам Мікіцічам Корбутам (актыкацыя 31.05.1788 г. у кампрамісарскім судзе). Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[53]. Зацверджаны ўказам Сената ад 20.08.1834 г.

Жонка – Караліна Любецкая.

85/35 **Іван,** *1770 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[54].

86/35 **Ганна,** *1780 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Клешава[55].

87/38 **Данііл,** *1764 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Ужа[56].

88/38 **Ганна,** *1774 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Ужа[57].

89/39 **Іван.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[58]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у маёнтку Лес на зямлі прэлата Шантыра. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[59].

90/39 **Іосіф.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[60]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у маёнтку Лес на зямлі прэлата Шантыра. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[61].

91/39 **Якаў,** ахрышчаны 06.11.1800 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[62]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[63].

92/40 **Іван.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[64].

93/40 **Якаў.**

94/43 **Якаў.** Па рэвізскай сказцы 1795 г., жыў у засценку Гайдукова Слабодка Ігуменскага павета на ўласнай зямлі, у валоданне засценкам, купленым у губернскага прадвадзіцеля дваранства Ваньковіча, уведзены (?) 28.05.1809 г. У 1834 г. разам з сынамі Ануфрыем і Сцяпанам залічаны ў саслоўе аднадворцаў.

Жонка – Алена.

## VIII КАЛЕНА

95/45 **Пётр,** нарадзіўся 25.11.1831 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 18.01.1854 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 07.09.1854 г., № 7337[65].

96/45 **Іван,** нарадзіўся 08.10.1839 г. Праваслаўны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 18.01.1854 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 07.09.1854 г., № 7337[66]. Па сямейных спісах дваран Слуцкага павета 1878 г.,

жыў ва ўрочышчы Жаўрыдаўшчызна[67], 1893 г. – у вёсцы Баршчэвіца Балуцкай гміны на спадчыннай зямлі (57 дзесяцін)[68].

Жонкі: 1. Антаніна Іванаўна Русецкая, па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ва ўрочышчы Жаўрыдаўшчызна[69]; 2. Людвіка-Еўдакія Іосіфаўна, па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыла ў вёсцы Баршчэвіца Балуцкай гміны на спадчыннай зямлі (57 дзесяцін)[70].

97/46 **Васіль,** нарадзіўся 01.01.1849 г., ахрышчаны 08.01.1849 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 11.04.1874 г. далучаны да роду з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[71].

98/48 **Сцяпан,** *1823 г. н. Праваслаўны. Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 20.08.1834 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Ужа на арэнднай зямлі[72].

Жонка – Юлія Канстанцінаўна.

99/48 **Іван.**

100/48 **Фёдар.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[73].

101/48 **Андрэй.**

102/49 (?) **Варфаламей.** Дакладна не ўстаноўлена, сынам якога Івана Грыгор'евіча (ад першага ці другога шлюбу) ён быў, але няма сумненняў, што быў унукам Грыгорыя Іванавіча і праўнукам Івана Іванавіча Карафа-Корбута. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[74].

103/49 (?) **Феліцыян,** быў родным братам Варфаламея. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[75].

104/50 **Аляксандр,** нарадзіўся 03.05.1825 г. Памёр да 1878 г.

Жонка – Францішка Данілаўна, *1823 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Новыя Жывагладавічы на арэнднай зямлі[76].

105/50 **Іосіф,** нарадзіўся 16.10.1822 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[77].

106/50 **Іван,** нарадзіўся 28.12.1820 г.

107/54 **Павел.**

108/55 **Іван,** *1821 г. н. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[78]. Зацверджаны ўказам Сената ад 20.08.1834 г. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836–1893 гг. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[79].

Жонка – Марыя Сцяпанаўна Корбут, *1826 г. н.

109/55 **Герасім,** нарадзіўся 01.03.1848 г., ахрышчаны 04.03.1848 г. Па сямейных спісах дваран Слуцкага павета 1878 г.[80] і 1893 г.[81], жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці.

Жонка – Ганна Платонаўна Корзун, *1855 г. н.

110/56 **Іван,** нарадзіўся 20.07.1802 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[82]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г.

жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[83].

111/56 **Палікарп,** нарадзіўся 24.02.1849 г. у засценку Ужа, ахрышчаны 25.02.1849 г. у Грозаўскай царкве Слуцкага павета. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Ужа на выкупленай зямлі (13 дзесяцін) [84]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 30.12.1902 г. далучаны да роду з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[85].

Жонка – Ганна Ільінічна Васілеўская (Анеўская), *1848 г. н.

112/56 **Франц.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[86]. Зацверджаны ўказам Сената ад 20.08.1834 г.

113/56 **Аўгусцін,** ахрышчаны 23.07.1805 г. у Капыльскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[87]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Сцяпуры маёнтка Цімкавічы. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[88].

114/56 **Сямён,** ахрышчаны 27.04.1806 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[89]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[90].

115/57 **Міхаіл,** *1789 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Ужа[91]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[92]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[93].

116/57 **Лук'ян,** *1792 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Ужа[94]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[95].

117/57 **Гелена,** *1787 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Ужа[96].

118/59 **Іван,** нарадзіўся 23.06.1841 г., ахрышчаны 24.06.1841 г.

119/59 **Іпаліт,** нарадзіўся і ахрышчаны 30.01.1847 г.

120/59 **Фёдар,** нарадзіўся 27.02.1864 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Ужа на чыншавай зямлі[97].

Жонка – Еўфрасіння Грыгор'еўна Гуткоўская, *1860 г. н.

121/59 **Васіль,** нарадзіўся 01.03.1857 г., ахрышчаны 02.03.1857 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Ужа на чыншавай зямлі[98].

122/59 **Грыгорый,** нарадзіўся 05.10.1859 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Ужа на чыншавай зямлі[99].

Жонка – Ганна Сцяпанаўна Кунцэвіч, *1866 г. н.

123/59 **Марк,** нарадзіўся 28.03.1864 г., ахрышчаны 29.03.1864 г.

124/62 **Герасім (Геранім),** нарадзіўся 03.03.1847 г., ахрышчаны 04.03.1847 г. У 1878–1892 гг. жыў у засценку Ужа на чыншавай зямлі, быў прыхаджанінам Баслаўскай царквы Слуцкага павета. Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 06.05.1866 г.

Жонка – Ганна Пятроўна Скрыдлеўская, *1853 г. н.

125/62 **Ігнацій,** нарадзіўся 19.12.1843 г., ахрышчаны 20.12.1843 г. Жыў у 1843–1893 гг. у засценку Ужа, у 1872–1875 гг. быў прыхаджанінам Грозаўскай царквы, у 1878 г. – Баслаўскай царквы. Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 06.05.1866 г.

Жонка – Іулія Сцяпанаўна Жаўрыд, *1853 г. н.

126/62 **Іван,** нарадзіўся 12.11.1840 г., ахрышчаны 13.11.1840 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 04.12.1865 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў. У 1878 г. жыў у засценку Вынішча, у 1890 г. – у засценку Будзішча, быў прыхаджанінам Баслаўскай царквы Слуцкага павета, у 1893 г. жыў у вёсцы Баслаўцы Раманаўскай воласці на зямлі княгіні Гагенлоэ.

Жонка – Ганна Кірылаўна (Карлаўна) Юргевіч.

127/62 **Грыгорый,** нарадзіўся 25.01.1838 г., ахрышчаны 26.01.1838 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Ужа на чыншавай зямлі[100].

Жонка – Аляксандра Канстанцінаўна Смольская, *1847 г. н.

128/63 **Якаў,** нарадзіўся 20.03.1858 г., ахрышчаны 22.03.1858 г.

129/63 **Іван,** нарадзіўся 26.01.1845 г., ахрышчаны 27.01.1845 г. Па сямейных спісах дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Дунцы Забалацкай воласці Бабруйскага павета на зямлі князя Вітгенштэйна[101], 1893 г. – на ўласнай зямлі (44 дзесяціны)[102].

Жонка – Ганна Іванаўна Сеўрук, *1841 г. н.

130/63 **Стэфан,** ахрышчаны 28.10.1829 г. у Грозаўскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[103]. Зацверджаны ўказам Сената ад 20.08.1834 г. Па сямейных спісах дваран Слуцкага павета 1878 г.[104] і 1893 г., жыў у засценку Дунцы Забалацкай воласці Бабруйскага павета на зямлі князя Вітгенштэйна[105].

Жонка – Параскевія Пятроўна Турановіч, *1828 г. н.

131/64 **Міхаіл,** ахрышчаны 21.05.1815 г. у Грозаўскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[106]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у вёсцы Астрэйкі памешчыка Рубкевіча. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[107].

132/64 **Аляксандр,** ахрышчаны 30.08.1817 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[108]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у вёсцы Астрэйкі памешчыка Рубкевіча. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[109].

133/64 **Андрэй,** ахрышчаны 01.12.1819 г. у Старыцкім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[110]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у вёсцы Астрэйкі памешчыка Рубкевіча. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[111].

134/65 **Міхаіл,** нарадзіўся 11.07.1841 г., ахрышчаны 12.07.1841 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1893 г., жыў у засценку Ужа на чыншавай зямлі[112].

Жонка – Анэлія Юр'еўна Лукашэвіч, *1853 г. н.

135/65 **Аляксандр,** ахрышчаны 17.03.1834 г. у Грозаўскай Мікалаеўскай царкве.

Жонка – Параскевія Стэфанаўна.

136/66 **Міхаіл,** нарадзіўся 18.11.1843 г.

Жонка – Стэфаніда Амбросіеўна.

137/66 **Канстанцін,** нарадзіўся 21.01.1846 г., ахрышчаны 25.01.1846 г.

138/66 **Васіль,** нарадзіўся 10.01.1849 г., ахрышчаны 12.01.1849 г.

139/66 **Іван,** нарадзіўся 19.(?).1836 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 11.04.1869 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў[113].

Жонка – Марыя Андрэеўна.

140/66 **Антон-Уладзіслаў.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 15.07.1850 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 14.07.1851 г., № 4925[114]. У 1851 г. вучыўся ў ваеннай навучальнай установе.

141/66 **Мечыслаў.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 15.07.1850 г. далучаны да дваранскага роду Карафа-Корбутаў. Зацверджаны ўказам Сената ад 14.07.1851 г., № 4925[115]. У 1851 г. вучыўся ў ваеннай навучальнай установе.

142/71 **Ануфрый,** ахрышчаны 09.06.1815 г. у Грозаўскім касцёле. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[116]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Прарокаўшчызна князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[117].

143/73 **Аляксандр,** *1807 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Булатнікі «на арендной земле пробоства Цимковицкого»[118]. Памёр да 1878 г.

Жонка – Фрузына, *1808 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Булатнікі на арэнднай зямлі[119].

144/73 **Фёдар,** *1803 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1835 г., жыў у засценку Булатнікі «на арендной земле пробоства Цимковицкого»[120]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Весялуха на зямлі памешчыка Рагозінскага. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[121].

Жонка – N, памерла паміж 1833 і 1835 г.

145/74 **Васіль,** *1818 г. н. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[122]. Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 20.08.1834 г. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Вінкаў. Пастано-

вай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[123].

Жонка – Канстанцыя Адамаўна.

146/74 **Пётр,** ахрышчаны 01.05.1827 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[124]. Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 20.08.1834 г. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Вінкаў. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[125].

Жонка – Тэрэзія Ігнацьеўна.

147/74 **Станіслаў,** ахрышчаны 23.04.1830 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[126]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Вінкаў. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[127].

Жонка – Канстанцыя Ігнацьеўна.

148/75 **Іван,** ахрышчаны 09.11.1827 г. у Грозаўскім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[128]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[129].

149/75 **Феафіл-Фердынанд (Тэафіл-Фердынанд),** ахрышчаны 02.01.1830 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[130]. Зацверджаны ўказам Сената ад 20.08.1834 г., № 7240. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Ужа на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[131]. У 1884 г. жыў ва ўрочышчы Боркі Ігуменскага павета на ўласнай зямлі (35 дзесяцін). Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 22.06.1884 г. перапісаны з ліку дваран Слуцкага павета ў Ігуменскі павет[132].

Жонка – Магдалена Нікадзімаўна Ляневіч, *1821 г. н.

150/76 **Стэфан,** *1791 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[133]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[134]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Клешава. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[135].

Жонкі: 1. N, ад яе сын Стэфан; 2. Петранэля Пратасевіч, ад яе сын Аляксандр.

151/76 **Павел,** *1787 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[136]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[137]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Клешава. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[138].

152/76 **Дамінік,** *1795 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[139]. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[140]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Будзішча (Белькаўцы). Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[141].

153/76 **Мацвей (Матэвуш).** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[142]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Клешава. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[143].

154/76 **Фама (Тамаш),** *1785 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыў у засценку Клешава[144].

155/76 **Анастасія,** *1783 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1796 г., жыла ў засценку Клешава[145].

156/77 **Андрэй.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[146]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Думнічы нясвіжскіх манашак. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[147]. Памёр да 1878 г.

Жонка – Кацярына, *1805 г. н. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыла ў засценку Васіль Барок на арэнднай зямлі[148].

157/77 **Іосіф.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[149]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Думнічы нясвіжскіх манашак. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[150].

158/78 **Гаўрыіл,** ахрышчаны 26.03.1809 г. у Старыцкім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[151]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Аляксандрава на зямлі памешчыка Хацяноўскага. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[152].

159/78 **Іван,** ахрышчаны 06.06.1789 г. у Старыцкім прыходзе. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[153]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у засценку Аляксандрава на зямлі памешчыка Хацяноўскага. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[154].

160/79 **Іван.** Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 02.11.1832 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[155]. Залічаны ў саслоўе аднадворцаў. У 1836 г. жыў у вёсцы Ляневічы Ігуменскага павета на зямлі князя Вітгенштэйна. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 17.09.1836 г. выключаны з саслоўя аднадворцаў, прызнаны ў дваранстве[156].

161/79 **Самуіл.**

162/79 **Матэвуш.**

163/80 **Яфрэм,** нарадзіўся 23.01.1849 г., ахрышчаны 27.01.1849 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1865 г. далучаны да роду. У 1872 г. жыў у сяле Парэчча Бабруйскага павета, быў прыхаджанінам Парэцкай царквы, у 1878 г. часова жыў у фальварку Камаровічы Мазырскага павета, быў прыхаджанінам Камаровіцкай Свята-Троіцкай царквы.

Жонка – Анэля Казіміраўна, каталічка.

164/81 **Фама,** нарадзіўся 06.07.1863 г., ахрышчаны 07.07.1863 г. У 1893–1907 гг. жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці на чыншавай зямлі. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1865 г. далучаны да роду з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

165/81 **Васіль,** нарадзіўся 11.04.1856 г., ахрышчаны 12.04.1856 г. У 1893–1907 гг. жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці на чыншавай зямлі. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1865 г. далучаны да роду з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

Жонка – Стэфанія Францаўна (Сцяпанаўна) Крэпская, *1861 г. н.

166/81 **Георгій,** нарадзіўся 04.04.1850 г., ахрышчаны 07.04.1850 г. У 1893–1907 гг. жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці на чыншавай зямлі. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 07.12.1865 г. далучаны да роду з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні.

Жонка – Марыя Сямёнаўна Беразоўская, *1862 г. н.

167/81 **Іван,** *1866 г. н. У 1893–1907 гг. жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці на чыншавай зямлі.

168/81 **Пётр,** *1874 г. н. У 1893–1907 гг. жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці на чыншавай зямлі.

169/81 **Мікалай,** *1878 г. н. У 1893–1907 гг. жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці на чыншавай зямлі.

170/81 **Віктар,** *1885 г. н. У 1893–1907 гг. жыў у засценку Ужа Грозаўскай воласці на чыншавай зямлі.

171/82 **Сымон,** нарадзіўся 01.10.1863 г., ахрышчаны 04.10.1863 г.

172/82 **Якаў,** нарадзіўся 13.10.1865 г., ахрышчаны 14.10.1865 г. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 11.04.1874 г. далучаны да роду з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні[157]. У 1892–1898 гг. жыў у засценку Авін, быў прыхаджанінам Парэцкай царквы Бабруйскага павета.

Жонка – Параскевія Пятроўна.

173/82 **Гаўрыіл.** Жонка – Леанарда Адамаўна.

174/83 **Клеменс-Карл,** нарадзіўся 23.11.1846 г., ахрышчаны 30.11.1846 г. Зацверджаны ў дваранстве ўказам Сената ад 20.08.1852 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Калодзежны на арэнднай зямлі[158].

Жонка – Кацярына Францаўна Смольская, *1853 г. н.

175/83 **Адам,** *1824 г. н. Каталік. Непісьменны. Пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ад 09.02.1838 г. прызнаны ў дваранстве з унясеннем у 6-ю частку радаводнай кнігі дваран Мінскай губерні. Зацверджаны ўказам Сената ад 11.06.1841 г. Па сямейным спісе дваран Слуцкага павета 1878 г., жыў у засценку Калодзежны на чыншавай зямлі[159].

Жонка – Юзэфа Францаўна, *1829 г. н.

176/83 **Фама.**

177/84 **Вікенцій,** нарадзіўся 28.10.1832 г., ахрышчаны 30.10.1832 г. у касцёле. Па рэвізскай сказцы 23.09.1864 г., лічыўся ў саслоўі сялян Агародніцкага таварыства Цімкавіцкай воласці Слуцкага павета. Далучаны да роду дадатковымі пастановамі дваранскага дэпутацкага сходу ад 22.12.1865 г. і 18.01.1866 г. Не за-

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК*



* Пры перакладзе геаграфічных назваў максімальна захаваны формы, зафіксаваныя ў дакументах.

# СПІС УМОЎНЫХ АБАЗНАЧЭННЯЎ

* – прыблізная дата
N – імя не вядома
?; (?) – недакладныя звесткі

# СЛОЎНІК ГІСТАРЫЧНАЙ ЛЕКСІКІ

**аблігацыя (обликгация)** даўгавое абавязацельства

**абліг (обликгъ, облигъ)** распіска, абавязацельства

**аднадворцы** катэгорыя дзяржаўных сялян; на Беларусі ўзнікла на падставе закона ад 19.10.1831 г.: дробная сельская шляхта была пераведзена ў аднадворцы з палітычных і фіскальных меркаванняў

**ваколіца** тып сельскага паселішча ў XVI – пач. XX ст., узнікла ў выніку валочнай памеры як паселішча дробнай шляхты, што не мела прыгонных і займалася сельскай гаспадаркай

**актыкацыя** занясенне дакумента ў актавую кнігу

**валока** адзінка вымярэння зямельнай плошчы, роўная 21,36 га

**возны** *прым. у зн. наз.* судовы выканаўца

**войскі** *прым. у зн. наз.*ураднік, які ахоўваў маёнткі шляхцічаў-апалчэнцаў у час вайны

**выводны 1.** доказны, **2.** пошлінны

**выпіс 1.** копія, выпіска з дакумента; **2.** запіс, пісьмовы пераказ паказанняў (на судзе)

**выправа 1.** выпраўленне; **2.** адпраўленне, ад'езд, выезд; ссылка; **3.** паход, экспедыцыя; **4.** экіпіроўка, сродкі на дарогу; **5.** пасаг; **6.** апрацоўка

**вячыста (вечисто)** *прысл.* навечна

**герольдыя** гербавае аддзяленне Сената

**дзецкі (детский, децкий)** *прым. у зн. наз.* пасыльны пры велікакняжацкім двары, судовы выканаўца

**дым** гаспадарка, адзінка падатковага абкладання

**застава** заклад, маёмаснае забеспячэнне атрыманай пазыкі, звязанае з перадачай даўжніком маёмасці (найчасцей маёнтка) крэдытору з правам далейшага выкупу

**застаўнік (заставникъ) 1.** залогаатрымальнік; **2.** заложнік

**засценак** тып сельскага паселішча на Беларусі ў XVI–XX стст.; узнік у выніку правядзення валочнай памеры; ворныя землі феадальных маёнткаў падзяляліся на 3 часткі, кожная з якіх мела свае межы («сценкі»); землі, што заставаліся за гэтымі межамі, называліся засценкамі, іх арандавала дробная шляхта і часткова заможныя сяляне

**земства 1.** мясцовая сельская ўлада; **2.** земскі суд

**зыск 1.** выйгрыш судовай справы; **2.** прыбытак

**зямянін** уладальнік зямельнай маёмасці або надзелу

**інвентар** вопіс маёмасці, спіс, рэестр

**ісправа** разбор судовай справы і яе вырашэнне

**ісчы (исчий)** той, хто падае іск

**кансісторыя** падначалены архірэю калегіяльны епархіяльны орган з царкоўна-адміністрацыйнымі і судовымі функцыямі

**канцлер** кіраўнік дзяржаўнай канцыляры, які выконваў таксама функцыі міністра ўнутраных і замежных спраў

**капа 1.** адзінка лічэння, 60 штук; **2.** грашовая адзінка, 60 грошаў; **3.** мера збожжа, 60 снапоў

**кашталян** галоўны ваенны кіраўнік горада і павета; кашталян, які выконваў таксама і паліцэйска-судовыя функцыі

**крайчы 1.** службовая асоба пры двары вялікага князя, што адказвала за закускі да стала; **2.** у XVI ст. ганаровы тытул без пэўных абавязкаў

**квіт** дакумент (даўгавое абавязацельства, пазыковы запіс, распіска і інш.)

**квітаваць** пацвярджаць атрыманне грошай, рэчаў; вызваляць ад даўгоў, абавязкаў

**лава** судовы орган па крымінальных справах у гарадах з магдэбургскім правам

**лаўнік 1.** службовая асоба ў вёсках, якая выконвала функцыі па ахове парадку; **2.** прысяжны засядацель у войтаўска-лаўніцкім судзе магістрата

**лаўны (лавный) суд** следчы суд

**магістрат** выбарны адміністрацыйны і судовы орган у гарадах, якія мелі магдэбургскае права

**малжонка** жонка

**маршалак 1.** маршалак, павятовы кіраўнік дваранства; **2.** вышэйшая службовая асоба ў ВКЛ; **3.** старшыня трыбунала ВКЛ

**морг** адзінка вымярэння плошчы, роўная прыблізна 0,7 га

**падканцлер** намеснік канцлера, хавальнік малой дзяржаўнай пячаткі ВКЛ

**падкаморскі суд** спецыяльны судова-адміністрацыйны орган у ВКЛ, які разглядаў спрэчкі аб межах зямельных надзелаў

**падкаморы** суддзя ў падкаморскім судзе, галоўны межавы суддзя

**падканюшы 1.** службовая асоба ў ВКЛ, намеснік канюшага; **2.** ганаровы тытул (з XVI ст.)

**падскарбій** вышэйшая службовая асоба ў ВКЛ, якая загадвала дзяржаўным скарбам; дзяржаўны казначэй

**падстараста 1.** намеснік старасты; **2.** наглядчык замка, аканом маёнтка

**падстолій 1.** намеснік стольніка; **2.** ганаровы тытул, які надаваўся знатным магнатам і шляхцічам (з XVI ст.)

**падчашы 1.** прыдворная пасада ў ВКЛ, намеснік чашніка, падносіў напоі вялікаму князю, папярэдне пакаштаваўшы; **2.** ганаровы тытул

**падымнае** падатак з кожнага двара (дыму)

**паспалітае рушанне** апалчэнне

**пенязі** *мн.* грошы

**пенязь 1.** грашовая адзінка ў ВКЛ; **2.** дробныя грошы

**прэзыск (презыскъ) 1.** усё тое, што атрымлівае адзін бок ад другога ў судовым парадку (грошы, маёмасць і інш.); **2.** плата за судовыя выдаткі

**рада** орган пры магістраце, які выконваў функцыі гарадской улады і суда па маёмасных і грамадзянскіх справах

**радны** *прым. у зн. наз.* член гарадской управы

**радца**, **райца** член рады

**радца (рядца) 1.** распарадчык, кіраўнік; **2.** саноўнік, саветнік, радца

**разбор шляхты** комплекс мерапрыемстваў, праведзеных уладамі Расійскай імперыі па верыфікацыі і скарачэнні шляхецкага стану (саслоўя) былога ВКЛ

**развой (розвой)** разгляд, вырашэнне (справы)

**расправа 1.** выступленне ў судзе адваката істца; **2.** судовы разгляд справы

**ратуша** будынак магістрата

**ратушная бочка** бочка пэўнай умяшчальнасці, якая выкарыстоўвалася як мера аб'ёму сыпкіх рэчываў

**рэвізіі** перапісы насельніцтва, якое плаціла падаткі і адбывала рэкруцкую павіннасць

**рэвізскія сказкі** імянныя спісы насельніцтва Расійскай імперыі, ахопленага рэвізіямі; змяшчаюць звесткі пра колькасць, геаграфічнае размяшчэнне, саслоўны і нацыянальны склад насельніцтва, узрост і сямейнае становішча

**рэгімент** камандаванне, кіраванне

**рэестр 1.** спіс, попіс; **2.** кніга запісаў судовых спраў

**рушанне 1.** мабілізацыя войска; **2.** апалчэнне, агульны ваенны паход

**сажань** адзінка вымярэння даўжыні, роўная 194,8 см

**серабшчызна** грашовы падатак серабром

**сервітут** абмежаванае права карыстання чужой маёмасцю

**скарб 1.** казна; **2.** маёмасць; **3.** пажытак

**скарбнік** службовая асоба ў ВКЛ, якая адказвала за ўлік і зберажэнне дзяржаўнай казны

**спраўавацца (справоватися)** весці іскавую справу

**староста** службовая асоба, якая кіравала адміністрацыйнай акругай (паветам) у ВКЛ і Польшчы

**староства** дзяржаўны маёнтак у ВКЛ, які даваўся на часовае карыстанне феадалам за службу

**стольнік 1.** прыдворная асоба, якая адказвала за сервіроўку стала вялікага князя; **2.** ганаровы тытул, што надаваўся знатным феадалам і шляхце

**трыбунал** вышэйшы апеляцыйны суд

**устава** заканадаўчы акт у ВКЛ: канстытуцыя, статут, сеймавая ўхвала і інш.

**харугва 1.** баявы сцяг падраздзяленняў войска ВКЛ; **2.** падраздзяленне кавалерыі

**харунжы** службовая асоба ў ВКЛ

**харунжы дворны** хавальнік сцяга пры вялікім князю, камандзір велікакняжацкага атрада шляхты

**харунжы земскі** хавальнік дзяржаўнага сцяга, знаходзіўся ў войску пры гетмане

**харунжы павятовы** хавальнік павятовага сцяга

**цяглы (тяглый)** *прым.* абкладзены павіннасцямі; які нясе падаці

**цяжа (тяжа)** судовая справа; суд

**чашнік 1.** прыдворная пасада ў ВКЛ, загадваў віннымі скляпамі вялікага князя, у час застолля падаваў яму чашу з віном; **2.** ганаровы тытул у XVI–XVIII стст.

**чынш** грашовыя ці натуральныя плацяжы феадальназалежных сялян землеўладальніку за карыстанне зямлёй

**шамбелян** камергер

**шчадкі (счадки)** нашчадкі

**элекцыя** выбары; выбар на якую-н. пасаду

ЗМЕСТ

*Навукова-папулярнае выданне*

**Летапіс беларускай шляхты**

**Статкевіч-Чабаганаў** Анатоль Васільевіч

# Я – сын Ваш

## Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы герба «Касцеша»

## Карафа-Корбуты герба «Корчак»

Адказны за выпуск *З. І. Падлінская*
Рэдактары *Л. У. Сагановіч, Н. М. Шапран, А. В. Кānановіч*
Тэхнічны рэдактар *К. М. Лісецкі*
Камп'ютарная праўка *А. С. Салахітдзінава*
Дызайн вокладкі *Ф. С. Кражаў*
Карэктары *Н. А. Ваніцкая, В. Л. Крукоўская, К. М. Пучынская*

Падпісана ў друк 26.09.2011. Фармат 84×108 1/16. Папера мелаваная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 62,2. Ул.-выд. арк. 45,6. Тыраж 1000 экз. Заказ 1669.

Установа «Рэдакцыя часопіса "Роднае слова"».
ЛВ № 02330/0630706 ад 11.10.2010.
Пр-т Пераможцаў 47/1, 220035, г. Мінск.

